“РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ — УНІТАРНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ САЦЫЯЛЬНАЯ ПРАВАВАЯ ДЗЯРЖАВА”.

*Артыкул 1. Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі). Прынята на рэспубліканскім рэферэндуме 24 лістапада 1996 года*

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ



У ДВУХ ЧАСТКАХ

ЧАСТКА



Люты 1917 – 1997 гг.

*Пад рэдакцыяй прафесараў Я.К.Новіка і Г.С.Марцуля*

Дапушчана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь у якасці вучэбнага дапаможніка для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў




МІНСК
«УНІВЕРСІТЭЦКАЕ»
1998



УДК 947.6(075.8)
ББК 63.3(4 Беи)я73
Г 46

Аўтары:

Я.К.Новік, Г.С.Марцуль, Э.А.Забродскі, М.А.Бобер, Л.Ю.Жданко, Ж.А.Канцавая, У.К.Коршук, А.І.Котаў, Н.І.Куракевіч, В.У.Лютава, У.Я.Парфянкоў, М.К.Сакалоў, М.С.Сташкевіч

Рэцэнзенты:

Кафедра гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу Беларускага дзяржаўнага універсітэта (загадчык кафедры прафесар П.І.Брыгадзін); кафедра айчыннай і сусветнай гісторыі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка (загадчык кафедры дацэнт В.Ф.Касовіч); член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук, прафесар П.Ц.Петрыкаў; дацэнт кафедры гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу Беларускага дзяржаўнага універсітэта Я.Ю.Несцяровіч

Г 46 Гісторыя Беларусі: У 2 ч. Ч. 2. Люты 1917 г.–1997 г.: Вучэб. дапам./ Пад рэд. Я.К.Новіка, Г.С.Марцуля. – Мн.: Універсітэцкае, 1998. – 464 с.
ISBN 985-09-0305-8.

У другой частцы на аснове аналізу канкрэтна-гістарычнага матэрыялу, узятага з архіваў, зборнікаў дакументаў, статыстычных даведнікаў, манаграфій, часопісаў і газет, зроблена спроба навуковага асвятлення праблем гісторыі Беларусі 1917–1997 гг.

Для студэнтаў і выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў, выкладчыкаў гуманітарна-грамадазнаўчых дысцыплін агульнаадукацыйных школ, сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў, каледжаў, ліцэяў, гімназій, усіх, хто цікавіцца гісторыяй Айчыны.

УДК 947.6(075.8)
ББК 63.3(4 Беи)я73

Вучэбнае выданне

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

У ДВУХ ЧАСТКАХ

Частка 2

Люты 1917 г.–1997 г.

Новік Яўгеній Канстанцінавіч, Марцуль Генадзь Сямёнавіч, Забродскі Эдуард Андрэевіч і інш.

Рэдактары *Л. М. Самасейка, З. Г. Дзямешка, Т. Л. Пісарэнка.* Мастацкія рэдактары *Дз. Я. Дзівін, В.Р.Мішчанка.* Тэхнічны рэдактар *В. П. Безбародава.* Карэктары *З. М. Машкевіч, А. М. Кудлачонак, А. З. Ліпень.* Камп'ютэрная вёрстка *Ю. Л. Вярлыга*

Падпісана да друку 21.05.98. Фармат 70х90/16. Папера афсетная № 1. Гарвітура школьная. Афсетны друк. Ум.друк. арк. 33,93. Ул.-выд. арк. 33,78. Тыраж 10 000 экз. Заказ 5563.
Дзяржаўнае прадпрыемства выдавецтва "Універсітэцкае" Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 9 ад 31.12.97. 220048, г.Мінск, пр.Машэрава, 11.
Надрукавана з арыгінала-макета выдавецтва "Універсітэцкае" ў друкарні "Перамога". 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11.

ISBN 985-09-0305-8



# ПРАДМОВА

Другая частка вучэбнага дапаможніка "Гісторыя Беларусі (люты 1917 г. – 1997 г.)" прысвечана савецкаму і постсавецкаму перыядам гісторыі беларускага грамадства. Яе храналагічныя рамкі: люты 1917 г. – 1997 г.

Шматлікія публікацыі апошняга дзесяцігоддзя па праблемах Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, сацыялістычнага будаўніцтва ў 20–30-я гады, другой сусветнай вайны і Вялікай Айчыннай вайны, пасляваеннага развіцця беларускага грамадства, правядзення рэформ у постсавецкі перыяд маюць у сваёй большасці публіцыстычны накірунак, не заключаюць глыбокага навуковага аналізу канкрэтна-гістарычнага матэрыялу. Вывады, якія ўтрымліваюцца ў гэтых публікацыях, нярэдка носяць супярэчлівы характар. Асобныя публікацыі моцна палітызаваны і ўводзяць у зман студэнта і выкладчыка.

Па многіх праблемах айчыннай гісторыі 1985–1997 гг. не хапае фактычнага матэрыялу, першакрыніц, а публікацыям у часопісах і газетах нярэдка ўласцівы элементы апісальнасці і суб'ектывізму ў ацэнцы гістарычных падзей. Па гэтых падзеях у вучэбным дапаможніку зроблены толькі папярэднія вывады, канчатковыя ж навуковыя вывады – справа будучага пакалення гісторыкаў.

Сёння на Беларусі жывуць і працуюць, займаюць адказныя пасады ў дзяржаве людзі, якія з'яўляюцца непасрэднымі творцамі айчыннай гісторыі апошніх дзесяцігоддзяў. Яны ў большасці выпадкаў хочуць, каб іх дзейнасць на старонках гісторыі ацэньвалася станоўча і ніяк не адмоўна. Гэта ўскладняе навуковы аналіз канкрэтна-гістарычнага матэрыялу і праўдзівае напісанне гісторыі. Але ж гістарычная праўда не заўсёды звязана толькі са станоўчай работай палітычных дзеячаў і дзяржаўных структур, палітычных партый, рухаў і арганізацый. Гэтыя абставіны патрабуюць ад гісторыкаў адкрытай смеласці і навуковай мудрасці.

На аснове аналізу канкрэтна-гістарычнага матэрыялу, узятага з архіваў, зборнікаў дакументаў, статыстычных даведнікаў, манаграфій, часопісаў і газет, зроблена спроба навуковага асвятлення праблем айчыннай гісторыі 1917–1997 гг.

Аўтарамі другой часткі вучэбнага дапаможніка з'яўляюцца: **праф. Я.К.Новік** ( раздзел VII, главы 3, 4 (у сааўтарстве); раздзел VIII,

глава 5; раздзел IX, глава 1, § 2 (у сааўтарстве); раздзел X, главы 1, 2; заключэнне); **праф. Г.С.Марцуль** (раздзел VI, глава 1 (у сааўтарстве), глава 2, § 1, § 2, 3 (у сааўтарстве), глава 3, § 1, 4, § 2, 3 ( у сааўтарстве); раздзел VIII, глава 1 (у сааўтарстве); раздзел X, глава 4, § 2 (у сааўтарстве); **праф. Э.А.Забродскі** (раздзел VII, глава 1, § 1, 2); **праф. У.К.Коршук** (раздзел VIII, главы 1–4, 6, 7 (у сааўтарстве); **праф. М.К.Сакалоў** (раздзел VII, глава 2); **праф. М.С.Сташкевіч** (раздзел VI, глава 2, § 2, 3 (у сааўтарстве), глава 3, § 2, 3 (у сааўтарстве); **дац. М.А.Бобер** (раздзел VII, глава 4 (у сааўтарстве); **дац. А.І.Котаў** (раздзел VII, глава 1, § 3; раздзел VIII, главы 1–4, 6, 7 (у сааўтарстве); **дац. В.У.Лютава** (раздзел IX, глава 1, § 1, § 2 (у сааўтарстве), глава 2; **дац. У.Я.Парфянкоў** (раздзел IX, глава 3; раздзел X, глава 4, § 1, § 2 (у сааўтарстве); **выкл. Л.Ю.Жданко** (раздзел X, глава 3); **выкл. Ж.А.Канцавая** (раздзел VI, глава 1 (у сааўтарстве); **выкл. Н.І.Куракевіч** (раздзел VII, глава 3 (у сааўтарстве).

*Я.К.Новік,*
*кіраўнік аўтарскага калектыву,*
*доктар гістарычных навук, прафесар*

# РАЗДЗЕЛ VI

## АД ЛЮТАГА ДА КАСТРЫЧНІКА 1917 г. КАСТРЫЧНІЦКАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ НА БЕЛАРУСІ. НАЦЫЯНАЛЬНА-ДЗЯРЖАЎНАЕ БУДАЎНІЦТВА. ГРАМАДЗЯНСКАЯ ВАЙНА І ІНШАЗЕМНАЯ ІНТЭРВЕНЦЫЯ

(1917–1920)

## ГЛАВА 1

## БЕЛАРУСЬ ПАСЛЯ ЛЮТАЎСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ. УСТАНАЎЛЕННЕ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ НА БЕЛАРУСІ

### § 1. Ад лютага да кастрычніка 1917 г. Альтэрнатывы грамадска-палітычнага развіцця. Уздым беларускага нацыянальнага руху

Пасля Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі адбыліся значныя змены ў палітычным і сацыяльна-эканамічным развіцці краіны: звергнута самадзяржаўе, праведзены дэмакратычныя выбары ў органы мясцовага самакіравання, абвешчаны свабоды слова, саюзаў, вызвалены палітычныя зняволеныя і г.д. Расія стала адной з самых дэмакратычных краін свету. Перад народамі краіны ўзнікла альтэрнатыва: якім шляхам ісці далей – буржуазна-рэфармісцкім да

развітога капіталізму ці пралетарска-рэвалюцыйным да сацыялізму? Не выключаўся і трэці шлях — контррэвалюцыйны пераварот і аднаўленне манархіі.

Выбар шляху залежаў ад асаблівасцей сацыяльна-эканамічнага і палітычнага развіцця краіны. Якія гэта асаблівасці? Галоўная з іх заключалася ў тым, што ў Расіі сфарміравалася такая мадэль капіталізму, якая была пазбаўлена "запасу трываласці", самарэгуляцыі. У грамадскім жыцці не сфарміраваліся дастаткова ўстойлівыя дэмакратычныя традыцыі. Да таго ж пасля рэвалюцыі ў краіне склалася своеасаблівая сітуацыя — двоеўладдзе. Часовы ўрад хацеў умацаваць уладу буржуазіі, спыніць развіццё рэвалюцыі. Але ён не мог вырашыць вострыя супярэчнасці, якія ляжалі ў аснове крызісу грамадства. Працягвалася вайна, не вырашаліся аграрнае і нацыянальнае пытанні. Захаваліся эксплуатацыя рабочых, малазямелле сялян, у прыгнечаным стане знаходзіліся нацыянальныя меншасці. Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў добраахвотна адмовіліся ад улады. Яны зыходзілі з таго, што ўлада павінна быць у руках буржуазіі, таму і падтрымлівалі Часовы ўрад, узяўшы на сябе абавязак ажыццяўляць кантроль за дзейнасцю гэтага ўрада. У такіх умовах забяспечыць палітычную ўстойлівасць грамадства, вывесці яго з крызісу было немагчыма.

Лютаўская рэвалюцыя палітызавала ўсё грамадства. Розныя класы, палітычныя плыні і партыі па-рознаму ўяўлялі далейшае развіццё краіны. Партыі буйной буржуазіі падтрымлівалі Часовы ўрад. Ліберальна-дэмакратычныя партыі адстойвалі ідэю прававой пераемнасці старой і новай улады, патрабавалі ўстанаўлення ў Расіі канстытуцыйнай манархіі ці, у крайнім выпадку, рэспубліканскага ладу. Кадэты, напрыклад, імкнуліся адцягнуць кардынальныя рэформы да склікання Устаноўчага схода, скіраваўшы намаганні на ўмацаванне ўлады і працяг вайны. Дробнабуржуазныя партыі выступалі за больш радыкальную перабудову грамадства. Меншавікі, напрыклад, лічылі, што буржуазны лад, які пачаў складвацца пасля Лютаўскай рэвалюцыі, праіснуе доўга, пакуль не наспеюць аб'ектыўныя і суб'ектыўныя ўмовы для пераходу ад капіталізму да сацыялізму.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі востра стаяла пытанне нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва Расіі. Буржуазныя і дробнабуржуазныя партыі падтрымлівалі ідэю адзінай і непадзельнай Расіі, выступалі супраць самавызначэння нацый. Разам з тым у праграмах гэтых партый значыліся і іншыя ідэі. Напрыклад, у праграме кадэтаў гаварылася аб аднаўленні канстытуцыйных правоў польскага народа, аб аднолькавым разам з іншымі часткамі імперыі ўдзеле Польшчы ў цэнтральных прадстаўнічых органах Расіі. Кадэты лічылі магчымым змяніць межы паміж Польшчай і Расіяй з улікам нацыянальнага складу насельніцтва, выступалі за ўстанаўленне канстытуцыі Фінляндыі. Заслугоўваюць увагі прапановы кадэтаў аб устанаўленні





роўнасці ўсіх грамадзян Расіі незалежна ад нацыянальнасці, аб адмене ўсіх абмежаванняў у правах палякаў, яўрэяў і іншых нацыянальнасцей, аб поўнай свабодзе ўжывання нацыянальных моў, развіцця нацыянальных культур.

Партыя эсэраў лічыла неабходным "устанаўленне дэмакратычнай рэспублікі з шырокай аўтаноміяй абласцей і абшчын, як гарадскіх, так і сельскіх". Пры гэтым эсэры дапускалі федэрацыю толькі ў адносінах паміж некаторымі нацыянальнасцямі, прызнавалі толькі за імі права на самавызначэнне. У эсэраўскай праграме былі і такія патрабаванні, як поўнае і ўсеагульнае грамадзянскае раўнапраўе, устанаўленне абавязковай для ўсіх, незалежна ад нацыянальнасці, адукацыі, раўнапраўе моў. Бясспрэчна, гэта былі пазітыўныя патрабаванні. Аднак у праграмах партый адсутнічала права ўсіх нацый на самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойных дзяржаў. Не ставілася задача барацьбы з праявамі шавінізму і нацыяналізму.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі вызначыла сваю палітычную лінію і партыя бальшавікоў. Гэта была адзіная партыя, якая не скампраментавала сябе супрацоўніцтвам з Часовым урадам. У.Ленін у сваіх Красавіцкіх тэзісах заклікаў не аказваць ніякай падтрымкі Часоваму ўраду, уся ўлада павінна быць у руках Саветаў. Адзіным выйсцем з вайны і ўмовай заключэння дэмакратычнага міру Ленін лічыў перамогу сацыялістычнай рэвалюцыі. У якасці пераходных мер ад капіталізму да сацыялізму У.Ленін прапанаваў аб'яднаць усе банкі ў адзін і ўстанавіць дзяржаўны кантроль за ім, а таксама кантроль з боку Саветаў за грамадскай вытворчасцю і размеркаваннем прадуктаў, канфіскаваць памешчыцкія землі і нацыяналізаваць усе землі. Бальшавікі добра ўсведамлялі, што гэтыя меры, разлічаныя на мірнае развіццё рэвалюцыі, могуць выклікаць вострую класавую барацьбу, што і адбылося на самой справе. Праграма бальшавікоў па нацыянальным пытанні ўключала наступныя патрабаванні: поўнае раўнапраўе ўсіх нацый і народнасцей, права нацый на самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойных дзяржаў, права на абласную (тэрытарыяльную) аўтаномію, барацьба за інтэрнацыянальнае адзінства працоўных супраць любых праяў шавінізму і нацыяналізму.

Такім чынам, пасля Лютаўскай рэвалюцыі выказваліся розныя погляды на далейшы лёс краіны. У гэтых поглядах, як у люстэрку, адбіліся інтарэсы розных класаў, партый і плыней расійскага грамадства.

Якія ж змены адбыліся пасля Лютаўскай рэвалюцыі на Беларусі? На сацыяльна-эканамічнае і палітычнае развіццё Беларусі ўздзейнічала яе геапалітычнае і геаграфічнае становішча: размешчаная паміж Захадам і Усходам, яна заўсёды была палігонам, месцам баёў і канфліктаў у розныя часы. На пачатку 1917 г. Беларусь таксама знаходзілася на ваенным становішчы, была тэатрам ваенных дзеянняў, прыфрантавой зонай. На яе тэрыторыі размяшчалася

3. Зак. 5565

паўтарамільённая армія Заходняга фронту, а таксама Стаўка вярхоўнага галоўнакамандуючага (Магілёў). Усё гэта не спрыяла развіццю эканомікі краю. Аб'ём вытворчасці тут за гады вайны склаў каля 30 % даваеннага ўзроўню.

Лютаўская рэвалюцыя не спыніла разбурэння народнай гаспадаркі. Зачыняліся прадпрыемствы, звальняліся рабочыя. Так, напрыклад, у канцы сакавіка 1917 г. быў закрыты шклозавод "Глуша" ў Бабруйскім павеце і 150 чалавек засталіся без работы, у чэрвені — фабрыка "Папірус" у Нова-Барысаве і некаторыя прадпрыемствы ў Віцебску.

Характэрнай асаблівасцю эканамічнага развіцця Беларусі было тое, што яе прамысловасць развівалася на базе дробных і сярэдніх прадпрыемстваў (буйных было вельмі мала). Акрамя таго, за гады вайны шмат дробнакапіталістычных і саматужна-рамесных прадпрыемстваў разбурылася, колькасць іх значна скарацілася. Пашырылася толькі вытворчасць, звязаная з забеспячэннем арміі вопраткай і абуткам, прадуктамі харчавання, боепрыпасамі, зброяй.

Такая структура прамысловасці вызначала сацыяльна-класавы склад беларускіх губерняў. На тэрыторыі Беларусі ў 1917 г. жыло каля 7,5 млн чалавек: 80 % складалі рабочыя, беднейшыя і сярэднія пласты сялянства, прыблізна 20 % адносілася да эксплуатататарскіх класаў.

Шматлікім эксплуатататарскім класам на Беларусі былі памешчыкі, якія валодалі амаль паловай асабістай зямельнай уласнасці. Сярод памешчыкаў і буржуазіі не было нацыянальнай аднароднасці. Значную частку памешчыкаў складалі прадстаўнікі рускай нацыянальнасці, а сярод буржуазіі — яўрэйскай. Вялікі працэнт быў і польскіх аграрыяў, эканамічную магутнасць якіх царскае самадзяржаўе не абмяжоўвала.

Колькасць рабочага класа ў 1917 г. зменшылася да 270 тыс. За гады вайны прыблізна 100 тыс. рабочых былі мабілізаваны ў армію. Характэрнай рысай беларускага пралетарыяту быў яго шматнацыянальны склад. Беларусы складалі 17,1 %, рускія — 10,1, палякі — 10,2, яўрэі — 59,9, літоўцы — 0,8, латышы — 1,3, украінцы — 0,6 %.

Працоўнае сялянства і некааперыраваныя саматужнікі, якія жылі ў сельскай мясцовасці, былі самай шматлікай сацыяльнай групай. Такая сацыяльна-класавая структура насельніцтва адыграла сваю ролю і ў расстаноўцы палітычных сіл на Беларусі. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі значна ўзмацніўся беларускі нацыянальны рух. Ажывілася дзейнасць агульнарасійскіх партый, і ў першую чаргу кадэтаў. Былі створаны камітэты кадэтаў у Гомелі, Віцебску, Магілёве і іншых гарадах. У маі 1917 г. узнавіла сваю дзейнасць кадэцкая арганізацыя ў Мінску. Пачалося фарміраванне кадэцкай арганізацыі і на Заходнім фронце. Але кадэты не змаглі схіліць на свой бок салдат і абапіраліся ў асноўным на "Саюз афіцэраў".

Кадэтаў падтрымлівалі эсэры і меншавікі. Эсэры пасля звяржэння царызму схілілі на свой бок вялікую колькасць сялян і салдат, а таксама частку рабочага класа. Гэтаму спрыяла аграрная праграма эсэраў — праграма "сацыялізацыі" зямлі. У канцы сакавіка 1917 г. у Мінску ствараецца арганізацыйны камітэт, які ў далейшым быў пераўтвораны ў губернскі камітэт партыі эсэраў. Найбольш моцны ўплыў эсэраў адчуваўся ў Магілёўскай губерні. Моцныя пазіцыі мелі эсэры і ў войску. Эсэраўскія арганізацыі аб'ядноўвалі звыш 30 тыс. салдат — у асноўным выхадцаў з сялянства.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі працягвалі дзейнасць манархічна-памешчыцкія аб'яднанні — Беларускі саюз зямельных уласнікаў, Беларускі праваслаўны саюз і інш.

У маі 1917 г. афармілася Беларуская народная партыя сацыялістаў (БНПС). Яе арганізатарамі былі Я.Сушынскі (старшыня), А.Лявіцкі, А.Кульчыцкі, П.Аляксюк і інш. Да БНПС далучылася і група буйных памешчыкаў на чале з Р.Скірмунтам. Галоўным праграмным патрабаваннем гэтай партыі была аўтаномія Беларусі ў межах Расійскай дзяржавы. Зямельнае пытанне БНПС разглядала як другараднае, прадугледжвала канфіскацыю толькі той зямлі, якая належала царскай сям'і і буйным польскім памешчыкам. Гэтыя пытанні павінен быў вырашыць Устаноўчы сход.

Праграмныя мэты БНПС падзяляла і Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД), арганізаваная ў маі 1917 г. У кіруючыя органы БХД уваходзілі В.Ластоўскі, А.Станкевіч, У.Гадлеўскі, А.Грынкевіч і інш. БХД абараняла асновы буржуазнага ладу, выступала за захаванне прыватнай уласнасці, а ў нацыянальнай палітыцы прытрымлівалася, як і БНПС, курсу на аўтаномію Беларусі ў складзе Расіі.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі актывізавалі сваю дзейнасць і яўрэйскія арганізацыі — Бунд, Яўрэйская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя (Паалей-Цыён) і інш. Яны рабілі ўсё, каб не дапусціць далейшага паглыблення рэвалюцыі. Бундаўцы, як і меншавікі, лічылі, што Расія яшчэ не дарасла да сацыялістычнай рэвалюцыі, бо пралетарыят не складаў большасці нацыі. Выступаючы адзіным фронтам з меншавікамі і эсэрамі, яны ўсімі сіламі дапамагалі Часоваму ўраду ў выкананні яго мерапрыемстваў.

Вясной 1917 г. узнавіла сваю дзейнасць Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ). Акрамя Беларусі, арганізацыі БСГ дзейнічалі ў Петраградзе, Маскве, Кіеве, Адэсе, Калузе і іншых гарадах. Да сярэдзіны 1917 г. яна налічвала каля 5 тыс. членаў і спачуваючых. Кіравалі БСГ У.Адамовіч, П.Бадунова, Я.Варонка, З.Жылуновіч, С.Рак-Міхайлоўскі, Я.Дыла. 7 красавіка 1917 г. на канферэнцыі БСГ была прынята рэзалюцыя аб падтрымцы Часовага ўрада. У аграрным пытанні БСГ заклікала сялян не захопліваць памешчыцкія землі, а чакаць, пакуль зямельнае пытанне вырашыць "краявы сейм аўтаномнай Беларусі". БСГ прапанавала актыўна рыхтавацца да Устаноўчага схода, вяла агітацыю за федэратыўную рэспубліку і аўтаномію Беларусі.

Па сваіх праграмных патрабаваннях блізка да БСГ стаяла Беларуская народная грамада (БНГ), якая ўзнікла ў маі 1917 г. у Маскве. Яе лідэрамі былі А.Цвікевіч, Я.Васілевіч, А.Прушынскі і інш.

Такім чынам, пасля перамогі Лютаўскай рэвалюцыі на Беларусі ўтварылася разгалінаваная сетка розных партый і арганізацый, якія вялі барацьбу за палітычнае кіраўніцтва нацыянальным рухам. Каб узмацніць свой уплыў на развіццё грамадства, некаторыя з іх імкнуліся да аб'яднання. 25 сакавіка 1917 г. па ініцыятыве БНПС быў скліканы з'езд "беларускіх дзеячаў". Асноўная мэта з'езда — аб'яднанне ўсіх нацыянальных сіл і накіраванне іх у рэчышча барацьбы за "нацыянальны ідэал". На з'ездзе быў абраны Беларускі нацыянальны камітэт (БНК), у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі памешчыкаў, сярэдняй і дробнай буржуазіі. Старшынёй камітэта стаў Р.Скірмунт. Была прынята дэкларацыя ў падтрымку Часовага ўрада.

8–12 ліпеня 1917 г. у Мінску адбыўся другі з'езд беларускіх партый і арганізацый. На з'ездзе замест скасаванага Беларускага нацыянальнага камітэта была створана Цэнтральная рада беларускіх арганізацый (з кастрычніка 1917 г. яна стала называцца Вялікай беларускай радай). Рада была абвешчана адзіным кіруючым органам усяго беларускага нацыянальнага руху. Асноўнымі праграмнымі патрабаваннямі Рады з'яўляліся прызнанне аўтаноміі Беларусі ў складзе Расіі, развіццё нацыянальнай культуры і мовы, арганізацыя беларускага войска. На з'ездзе разгарнулася вострая барацьба паміж БСГ і БНПС. Апошняя аб'ядноўвала ў сваіх шэрагах усе правыя элементы скасаванага з'ездам БНК і іншых правых арганізацый. Актыўная дзейнасць фракцыі БСГ на з'ездзе забяспечыла выбранне ў выканком Цэнтральнай рады толькі членаў гэтай партыі, у сувязі з чым кіраўніцтва БНПС адклікала сваіх прадстаўнікоў са з'езда. Лідэр БНПС П.Аляксюк, старшыня скасаванага БНК Р.Скірмунт і іх паплечнікі часова адышлі ад удзелу ў беларускім нацыянальным руху.

Прыход БСГ да кіраўніцтва Цэнтральнай радай яшчэ больш абвастрыў супярэчнасці ў гэтай партыі. Ужо ў верасні 1917 г. з БСГ выйшла некалькі раённых арганізацый беларускіх рабочых і матросаў Балтыйскага флоту ў Петраградзе і Гельсінгфорсе. Па ініцыятыве А.Чарвякова ў Петраградзе была створана Беларуская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя (БСДРП) на базе рэвалюцыйных сіл левай плыні БСГ, якая прыняла бальшавіцкі кірунак.

На сесіі Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый і партый (15 кастрычніка 1917 г.) прадстаўнікі левага крыла БСГ у знак пратэсту супраць палітыкі правых адмовіліся ад удзелу ў сесіі. БСГ раскалолася на дзве часткі. Левая плынь, якая аб'ядноўвала Петраградскую, Маскоўскую і Бабруйскую арганізацыі, хоць і не выйшла з партыі, але і не падпарадкоўвалася ЦК. Яе кіруючым цэнтрам стаў Петраградскі камітэт БСГ.

Такім чынам, напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі адбыўся раскол у беларускім нацыянальным руху на правую і левую плыні. Калі правыя былі задаволены вынікамі Лютаўскай рэвалюцыі, прасілі ў Часовага ўрада аўтаноміі для Беларусі, то левыя патрабавалі ажыццяўлення ў краіне радыкальных пераўтварэнняў.





У вельмі складаным і супярэчлівым становішчы пачалі сваю дзейнасць бальшавікі. Пасля выхаду з падполля яны павінны былі прыстасавацца да новых умоў палітычнай работы сярод насельніцтва. Вялікую ўвагу яны ўдзялялі згуртаванню пралетарыяту. Шмат сіл бальшавікі аддавалі рабоце ў Саветах рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

Пасля звяржэння царызму перад бальшавікамі стаяла важная задача аб'яднання партыйных сіл. Аднак, апынуўшыся ў новых абставінах, не ўсе бальшавікі, у тым ліку і на Беларусі, усведамлялі складанасць палітычнай сітуацыі ў краіне, многія з іх недастаткова дакладна ўяўлялі сабе перспектывы рэвалюцыі. Некаторыя дапускалі магчымасць прымірэння і аб'яднання з меншавікамі ў агульныя арганізацыі, лічачы, што ў сумесных арганізацыях ім будзе лягчэй весці барацьбу за масы. Аб'яднаныя партыйныя арганізацыі ўзнікалі ў Мінску, Віцебску, Гомелі, Магілёве і іншых гарадах.

Аднак рознагалоссе паміж бальшавікамі і меншавікамі па тактычных пытаннях не заўсёды прыводзіла іх да кампрамісаў. Кіруючыся рашэннямі VII (красавіцкай) Усерасійскай канферэнцыі РСДРП(б), бальшавікі Беларусі сталі выходзіць з "аб'яднанак". У пачатку красавіка 1917 г. стварылі сваю самастойную арганізацыю бальшавікі Гомеля, яна прыняла назву "Палеская арганізацыя РСДРП(б)". У чэрвені–ліпені размежаваліся з меншавікамі і бундаўцамі бальшавікі Мінска. Быў створаны камітэт, у склад якога ўвайшлі А.Мяснікоў (старшыня), М.Фрунзе, А.Галкін, І.Алібегаў, В.Кнорын, К.Ландар і інш. Пад уплывам Мінскага камітэта РСДРП(б) пачаўся працэс афармлення самастойных арганізацый у Слуцку, Бабруйску, Полацку, Віцебску, а таксама ў воінскіх часцях Заходняга фронту.

На чале барацьбы за развіццё рэвалюцыі стаяў рабочы клас. Ён прымаў удзел у арганізацыі Саветаў, народнай міліцыі, узброеных дружын. Рабочыя працягвалі ствараць свае прафесійныя саюзы. Паспяхова працавалі прафсаюзы чыгуначнікаў, друкароў, пекараў, краўцоў. У маі 1917 г. у Мінску было арганізавана 20 прафсаюзаў, якія аб'ядналі каля 10 тыс. рабочых. Прафесійныя саюзы былі створаны ў Гомелі, Віцебску, Оршы, Полацку, Рагачове і іншых гарадах Беларусі.

Магутнымі аб'яднаннямі з'яўляліся прафсаюз "Тэхнабуд" Заходняга фронту (каля 60 тыс. членаў) і камітэт аб'яднаных рабочых Усерасійскага земскага саюза (каля 45 тыс. чалавек). Паводле звестак Усерасійскага з'езда прафсаюзаў, у ліпені 1917 г. на Беларусі было створана 126 прафсаюзаў, якія налічвалі 36 тыс. членаў (без чыгуначнікаў і прафсаюза Заходняга фронту).

На прамысловых прадпрыемствах Беларусі пачалі арганізоўвацца фабрычна-заводскія камітэты, якія з'яўляліся важнай формай аб'яднання рабочых. Яны ствараліся легальным шляхам і абаранялі інтарэсы рабочага класа. У сакавіку–красавіку 1917 г. з'явіліся фабзаўкомы на прадпрыемствах Мінска, Гомеля, Віцебска, Бабруйска, Магілёва, праведзены маніфестацыі рабочых.

4. Зак. 5565



*Маніфестацыя рабочых і салдат у Маладзечне. Сакавік 1917 г.*

Вельмі складаным было палітычнае становішча на Заходнім фронце, дзе салдаты выказвалі незадавальненне вайной. Сярод салдат расла рэвалюцыйная актыўнасць і свядомасць. Яны сталі ствараць свае салдацкія камітэты. Да верасня 1917 г. у арміях Заходняга фронту дзейнічалі 7284 такія камітэты ўсіх ступеняў — ротных, батальённых, палкавых, армейскіх, якія аб'ядноўвалі больш за 55 тыс. салдат. Першапачаткова камітэты складваліся ў асноўным з меншавікоў і эсэраў. Гэта абумоўлена тым, што рэвалюцыя выклікала да актыўнай палітычнай дзейнасці вялікую колькасць салдат, пераважна з сялян.

Для атрымання кантрыбуцыі з пераможаных краін і накіравання сродкаў у эканоміку Расіі, атрымання праліваў Басфор і Дарданелы, а таксама для задушэння рэвалюцыйнага руху, Часовы ўрад вырашыў працягваць імперыялістычную вайну "да пераможнага канца". Аб гэтым паведаміў міністр замежных спраў Расіі П.Мілюкоў урадам ваюючых краін. 18 чэрвеня 1917 г. па ўсёй краіне прайшлі шматтысячныя дэманстрацыі пад бальшавіцкімі лозунгамі: "Уся ўлада Саветам!", "Далоў дзесяць міністраў-капіталістаў!", "Хлеба!", "Міру!", "Свабоды!".

Наступленне рускіх войск на Паўднёва-Заходнім фронце правалілася. На працягу 10 дзён было забіта і паранена каля 60 тыс. салдат і афіцэраў. Цяжкія страты панеслі і арміі Заходняга фронту. Толькі адна 10-я армія страціла дзесяткі тысяч чалавек.

Часовы ўрад вырашыў ускласці ўсю віну за правал наступлення на бальшавікоў. 4 ліпеня ў Петраградзе была расстраляна мірная





дэманстрацыя, якая праходзіла пад лозунгамі перадачы ўсёй улады Саветам, заканчэння імперыялістычнай вайны і заключэння дэмакратычнага міру.

Двоеўладдзе скончылася поўнай перамогай буржуазіі. Перыяд мірнага развіцця рэвалюцыі (27 лютага — 4 ліпеня 1917 г.) быў завершаны.

Важную ролю ў згуртаванні і арганізацыі рэвалюцыйных сіл, выпрацоўцы новай тактыкі адыграў VI з'езд РСДРП(б), які праходзіў паўлегальна з 26 ліпеня па 3 жніўня ў Петраградзе. Ён вылучыў лозунг поўнай ліквідацыі дыктатуры контррэвалюцыйнай буржуазіі і прыняў курс партыі на падрыхтоўку ўзброенага паўстання.

Кіруючыся рашэннямі VI з'езда партыі, бальшавікі Беларусі актывізавалі сваю палітычную і арганізацыйную работу ў масах. Асабліва актыўна дзейнічалі яны ў Мінску, які стаў усебеларускім палітычным цэнтрам. Бальшавікі мелі свае фракцыі ў Саветах рабочых і салдацкіх дэпутатаў, гарадской думе, галіновых праўленнях, цэнтральным гарадскім бюро прафсаюзаў. Вераснёўскія перавыбары Саветаў таксама сведчылі аб узрастанні ролі бальшавікоў. У мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў было абрана 184 бальшавікі, што склала 54,6 %. Гэта дало ім магчымасць атрымаць 23 месцы (63,9 %) у выканкоме.

У выніку перавыбараў бальшавікі пачалі праводзіць праз мінскі Савет свае рэзалюцыі і рашэнні. Такі ж працэс праходзіў і ў іншых Саветах Беларусі.

Не атрымаўшы поспеху пасля ліпеньскіх падзей, буржуазія рыхтавалася развязаць грамадзянскую вайну, каб узброеным шляхам задушыць рэвалюцыю. Вялікія надзеі яна ўскладала на ўстанаўленне ваеннай дыктатуры, здольнай спыніць рэвалюцыю. У гэтай сувязі асаблівае значэнне контррэвалюцыя надавала дзяржаўнай нарадзе, якая адбылася ў жніўні 1917 г. у Маскве. Выступіўшы на нарадзе, вярхоўны галоўнакамандуючы Л.Карнілаў прапанаваў праграму дзеянняў контррэвалюцыі: падпарадкаванне яму войск, якія знаходзіліся ў тыле, распаўсюджанне смяротнага пакарання, увядзенне ваеннага становішча на ваенных заводах, чыгунцы. Большасць удзельнікаў нарады пагадзілася з гэтай праграмай. Лідэры меншавікоў і эсэраў не толькі падтрымалі Л.Карнілава, але і прынялі дэкларацыю, у якой надзялілі буржуазны ўрад надзвычайнымі паўнамоцтвамі, заклікалі яго да расправы з бальшавікамі і іх паплечнікамі.

Рыхтуючыся да мяцяжу, Л.Карнілаў асаблівае месца адводзіў Беларусі. Ён імкнуўся ператварыць яе тэрыторыю ў плацдарм для наступлення контррэвалюцыйных сіл на Петраград і Маскву. 21 жніўня 1917 г. Л.Карнілаў здаў немцам Рыгу, адкрыўшы шлях на Петраград, а 26 жніўня ультыматыўна патрабаваў адстаўкі ўрада. А.Керанскі, які спачатку падтрымліваў карнілаўскую авантуру, зараз паспрабаваў адмежавацца. Ён аб'явіў выступленне Л.Карнілава мяцяжом, а яго ўдзельнікаў — здраднікамі радзімы і аддаў загад аб

іх арышце. А.Керанскі разумеў, што выступленне Л.Карнілава — гэта спроба не толькі задушыць рэвалюцыйны рух, але і захапіць уладу ў свае рукі і стаць на чале ўрада. Часовы ўрад і ЦВК, куды пераважна ўваходзілі меншавікі і эсэры, разгубіліся і не змаглі аказаць эфектыўны адпор карнілаўшчыне.

Пэўны ўклад у разгром карнілаўскага мяцяжу ўнеслі бальшавікі. 28 жніўня 1917 г. на аб'яднальным пасяджэнні мінскага Савета і выканкома франтавога камітэта Заходняга фронту быў створаны Часовы рэвалюцыйны камітэт, які ўзначаліў барацьбу з карнілаўшчынай на тэрыторыі Беларусі. Для аператыўнага кіраўніцтва барацьбой з мяцежнікамі ў Мінску і яго наваколлі быў створаны штаб рэвалюцыйных сіл на чале з М.Фрунзе. Фарміраваліся ўзброеныя атрады, дружыны з рабочых, салдат і матросаў. Падманутыя Карнілавым і яго генераламі салдацкія масы адмаўляліся выконваць загады сваіх камандзіраў.

Разгром карнілаўскага мяцяжу з'явіўся моцным штуршком у далейшым развіцці рэвалюцыі. У краіне вызначыліся новыя суадносіны класавых і палітычных сіл. З кожным днём узрастаў уплыў бальшавікоў на насельніцтва. Нежаданне меншавікоў і эсэраў выйсці з блока з кадэтамі паставіла перад бальшавікамі пытанне аб неабходнасці замацаваць пагадненне з левымі плынямі дробнабуржуазнай дэмакратыі. Гэта тактыка паспяхова ажыццяўлялася бальшавікамі Беларусі. Яны рашуча падтрымлівалі левых эсэраў.

У кастрычніку 1917 г. у Паўночна-Заходняй абласной арганізацыі эсэраў склалася даволі буйная фракцыя левых эсэраў, ці, як яны сябе называлі, эсэраў-інтэрнацыяналістаў. Да іх перайшла значная і даволі актыўная частка эсэраўскай арганізацыі.

Напярэдадні Кастрычніка бальшавікі Беларусі прадбачліва будавалі сваю тактыку і ў адносінах да меншавікоў. Гэта лінія атрымала замацаванне ў рашэннях I Паўночна-Заходняй абласной партыйнай канферэнцыі РСДРП(б), якая адбылася 15–18 верасня 1917 г. у Мінску. Канферэнцыя не выключала сумесных выступленняў бальшавікоў з меншавікамі-інтэрнацыяналістамі і аб'яднанымі эсэрамі-інтэрнацыяналістамі ў Саветах, фабрычна-заводскіх камітэтах, прафсаюзах і іншых грамадскіх арганізацыях. Такія сумесныя дзеянні бальшавікоў з левымі фракцыямі меншавікоў, як і з левымі плынямі эсэраўскай партыі, стрымлівалі адкрытыя выступленні контррэвалюцыі, што садзейнічала ўмацаванню рэвалюцыйных сіл на Беларусі і на Заходнім фронце.

Ва ўмовах рэвалюцыйнага ўздыму ў Мінску 5–7 кастрычніка адбылася II Надзвычайная Паўночна-Заходняя абласная партыйная канферэнцыя РСДРП(б). Прыбыўшыя дэлегаты прадстаўлялі 28 591 члена партыі. За кароткі тэрмін пасля I Паўночна-Заходняй абласной партыйнай канферэнцыі (прайшло толькі 20 дзён) колькасць бальшавікоў павялічылася больш чым у тры разы. Гэта з'явілася яскравым сведчаннем няўхільнага росту ўплыву бальшавікоў, іх аўтарытэту сярод працоўных мас і салдат Заходняга фронту. Уся работа канферэнцыі праходзіла пад лозунгам непасрэднай падрыхтоўкі да сацыялістычнай рэвалюцыі.





Ва ўмовах далейшага паглыблення агульнанацыянальнага крызісу барацьба народных мас супраць буржуазіі дасягнула небывалага размаху. У цэнтры яе стаяў пралетарыят – авангард рэвалюцыі. Пераважна палітычны характар яго выступленняў суправаджаўся прымяненнем магутных і эфектыўных сродкаў пралетарскай барацьбы — устанаўленнем рабочага кантролю над вытворчасцю, правядзеннем забастовак. Рабочыя арыштоўвалі і адхілялі ад кіравання заводскую адміністрацыю. У верасні былі арыштаваны ўладальнікі лесапільных заводаў у Мазырскім павеце і Заслаўі, якія адмовіліся ўвесці рабочы кантроль. Беларускія рабочыя актыўна падтрымалі вераснёўскую ўсерасійскую забастоўку чыгуначнікаў. Першымі выступілі рабочыя мінскага вузла, затым да іх далучыліся чыгуначнікі Віцебска, Оршы, Магілёва, Жлобіна, Гомеля. Часовы ўрад вымушаны быў пайсці на ўступкі рабочым. У гэты ж час баставалі рабочыя гарбарных, вінакурных заводаў, механічных майстэрань у Мінску, тытунёвай фабрыкі ў Віцебску.

Агульнанацыянальнае палітычнае значэнне восенню 1917 г. набыла барацьба сялянства за зямлю, якая прымала ўсё больш масавы і востры характар. Сяляне захоплівалі памешчыцкія землі, палілі маёнткі. Калі ў жніўні было разгромлена 38 памешчыцкіх двароў, то ў верасні ўжо 67. У кастрычніку сялянскі рух ахапіў 40 паветаў Беларусі.

Да агульнай плыні рэвалюцыйнага руху Беларусі далучаліся выступленні салдат Заходняга фронту. Салдацкія масы рашуча выступалі супраць працягвання вайны, павялічылася колькасць дэзерціраў з фронту, узмацнілася братанне сярод рускіх і нямецкіх салдат. Хуткімі тэмпамі ішла бальшавізацыя армій Заходняга фронту. У верасні 1917 г. былі створаны бальшавіцкія арганізацыі ў 2-й і 10-й арміях. У кастрычніку на Заходнім фронце ўжо дзейнічала 170 партыйных арганізацый. Настойлівая работа бальшавікоў на Заходнім фронце ўзмацніла іх пазіцыі, дапамагла схіліць салдацкія масы на бок пралетарыяту. Да кастрычніка 1917 г. выступленні пралетарыяту, сялянства Беларусі і салдат Заходняга фронту згуртаваліся ў адзіную плынь, была створана палітычная армія сацыялістычнай рэвалюцыі.

Такім чынам, пасля Лютаўскай рэвалюцыі на Беларусі, як і па ўсёй краіне, значна ўзмацнілася палярызацыя сіл. Левыя радыкальныя сілы імкнуліся да "давядзення рэвалюцыі да канца", правыя — да ўсталявання дыктатуры. Цэнтрысцкія сілы аказаліся вельмі слабымі і разрозненымі, каб забяспечыць рэфармісцкі шлях развіцця краіны і прадухіліць сацыяльны выбух. На працягу 8 месяцаў буржуазія знаходзілася пры ўладзе. Выкарыстоўваючы розныя

сродкі палітычнага манеўравання, праводзячы нязначныя змяненні, яна не ажыццяўляла карэнных перамен. Працягвалася ненавісная вайна, не былі вырашаны аграрнае і нацыянальнае пытанні, сабатаваліся сацыяльныя рэформы. Усё гэта восенню 1917 г. паставіла народ перад выбарам — улада Саветам ці дыктатура контррэвалюцыйнай буржуазіі. Расія даверыла свой лёс Саветам. Ці была іншая альтэрнатыва? Чаму так адбылося? Баючыся "палявення" мас, абмежавання сваёй улады, Часовы ўрад усякі раз адкладваў скліканне Устаноўчага схода. Працягваючы кровапралітную вайну, не жадаючы ахвяраваць памешчыцкім землекарыстаннем, ён пазбавіўся падтрымкі не толькі салдат, але і сялянства. Такая палітыка вяла буржуазію, яе партыі да немінучага краху. Рэфармісцкі шлях развіцця для Расіі станавіўся немагчымым. Ні адна з буржуазных партый і іх лідэры не здольны былі стабілізаваць становішча, ліквідаваць хаос, арганізаваць кіраванне дзяржавай. Кадэцка-правасацыялістычная кааліцыя таксама вычарпала сябе і страціла аўтарытэт. Самымі ўплывовымі і аўтарытэтнымі сталі партыі бальшавікоў і меншавікоў, а таксама сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Мелася рэальная магчымасць стварэння дэмакратычнай, аднародна сацыялістычнай улады. Аднак правыя меншавікі і эсэры зноў вярнуліся да кааліцыі з кадэтамі, што паскорыла працэс іх ізаляцыі. У гэтых умовах бальшавікі сталі на шлях барацьбы за ўладу, пачалі актыўную падрыхтоўку да ўзброенага паўстання.

## § 2. Кастрычніцкая рэвалюцыя на Беларусі. Першыя рэвалюцыйныя пераўтварэнні

Восенню 1917 г. накал класавай барацьбы дасягнуў найвышэйшага напружання. Па ўсёй Расіі, у тым ліку і Беларусі, праходзілі масавыя антыўрадавыя выступленні – дэманстрацыі, мітынгі рабочых, сялянскія паўстанні. У такіх умовах была толькі адна альтэрнатыва: ці новая карнілаўшчына, ці новая рэвалюцыя працоўных мас. Тым больш, што пасля разгрому карнілаўскага мяцяжу меншавікі адмовіліся ад прапановы бальшавікоў аб стварэнні кааліцыі. Бальшавікі параілі меншавікам і эсэрам стварыць свой урад, дзе яны (бальшавікі) выступяць у ролі канструктыўнай апазіцыі. Але, цесна звязаўшы сябе з буржуазіяй, меншавікі і эсэры не пайшлі на гэта і падтрымалі стварэнне Дырэкторыі на чале з А.Керанскім.

З 24 на 25 кастрычніка 1917 г. у Петраградзе пачалося ўзброенае паўстанне, якое ўзначаліў Ваенна-рэвалюцыйны камітэт (ВРК), створаны пры Петраградскім Савеце. Кіравала паўстаннем партыя бальшавікоў.

25 кастрычніка Часовы ўрад быў скінуты. Вечарам гэтага ж дня быў адкрыты II Усерасійскі з'езд Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У яго рабоце прынялі ўдзел і дэлегаты Беларусі і Заходняга фронту (24 бальшавікі, 6 левых эсэраў, 3 сацыял-дэмакраты-інтэрнацыяналісты, 5 меншавікоў, 10 эсэраў і 3 беспартыйныя). З'езд прыняў дэкрэты аб міры і зямлі, стварыў новы ўрад — Савет Народных Камісараў на чале з У.Леніным.

25 кастрычніка аб перамозе ўзброенага паўстання ў Петраградзе стала вядома ў Мінску. Улада ў горадзе перайшла ў рукі Савета. Прэзідыум выканкома Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў выдаў загад № 1, у якім абвяшчалася аб перамозе рэвалюцыі ў Петраградзе і ўказвалася, што "в Минске власть перешла в руки Совета рабочих и солдатских депутатов, который обратился ко всем революционным организациям и политическим партиям с предложением начать создание временной власти на местах" (Буревестник. 1917 г. 25 окт.). Мінскі Савет прыняў меры па ахове рэвалюцыйнага парадку, арганізаваў кантроль над важнейшымі аб'ектамі: поштай, тэлеграфам, чыгункай, штабам Заходняга фронту і інш. З гарадской турмы было вызвалена больш за 1000 палітычных вязняў, з якіх быў сфарміраваны I рэвалюцыйны полк імя Мінскага Савета. 27 кастрычніка Паўночна-Заходнім абласным камітэтам РСДРП(б) быў створаны рэвалюцыйны камітэт. Пазней ён быў пераўтвораны ў Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняй вобласці і фронту. Старшынёй камітэта стаў К.Ландар, членамі — А.Мяснікоў, В.Кнорын, М.Калмановіч і інш.

Выканком Мінскага Савета, які лічыў магчымым стварэнне шматпартыйнай улады, звярнуўся да ўсіх рэвалюцыйных арганізацый і палітычных партый з прапановай неадкладна прыступіць да фарміравання часовай рэвалюцыйнай улады на месцах. Але меншавікі і эсэры, франтавы камітэт выступілі супраць устанаўлення савецкай улады.

27 кастрычніка 1917 г. у Мінску быў створаны "Камітэт выратавання рэвалюцыі" на чале з эсэрам Т.Калатухіным. У яго склад увайшлі прадстаўнікі франтавога камітэта, пераважна меншавікі і эсэры, а таксама прадстаўнікі, якія не прызналі ўлады Саветаў. Актыўна падтрымлівалі камітэт і некаторыя беларускія нацыянальныя групоўкі. У спецыяльным закліку — "Грамаце да беларускага народа" — Вялікая беларуская рада выказала варожасць да дыктатуры пралетарыяту, а ўстанаўленне савецкай улады разглядала як анархію, якая пагражае існаванню беларускага народа, яго правам і свабодзе.

Меншавікі, эсэры, бундаўцы і іншыя, што выступілі адным блокам супраць савецкай улады, у сваёй дзейнасці не абмяжоўваліся толькі заявамі. 27 кастрычніка "Камітэт выратавання рэвалюцыі" прад'явіў Мінскаму Савету ультыматум, у якім патрабаваў перадачы ўлады на Беларусі і на Заходнім фронце ў яго рукі.

Улічваючы суадносіны сіл і часовую перавагу контррэвалюцыі, Савет у тактычных мэтах пайшоў на кампраміс. Ён згадзіўся на перадачу "Камітэту" ўлады на Беларусі пры ўмове, што ў Петраград і

Маскву не будуць адпраўлены контррэвалюцыйныя войскі. Няўпэўненае ў сваёй ваеннай перавазе эсэра-меншавіцкае кіраўніцтва вымушана было прыняць умовы бальшавікоў. У "Камітэт" былі дэлегаваны бальшавікі І.Алібегаў, Я.Пярно — прадстаўнікі Мінскага Савета, якія павінны былі наглядаць за выкананнем "абавязкаў", узятых на сябе "Камітэтам".

Аднак становішча ў Мінску ўсё больш абвастралася. 29 кастрычніка "Камітэт" выставіў Мінскаму Савету і ВРК новыя патрабаванні: надрукаваць у "Известиях Минского Совета" заяву аб тым, што пастановы СНК і Петраградскага ВРК не падлягаюць выкананню на тэрыторыі Беларусі і Заходняга фронту. Гэта патрабаванне было адхілена Саветам, а яго прадстаўнікі адкліканы са складу "Камітэта". У адказ на дзеянні Савета контррэвалюцыя разгарнула адкрытую антысавецкую прапаганду, патрабавала расправы з бальшавікамі, разгрому Савета. Але ўзрастаючае працідзеянне рэвалюцыйных сіл контррэвалюцыя не змагла спыніць.

30 кастрычніка 1917 г. гарадскі сход прадстаўнікоў прафсаюзаў пасля ўпартай барацьбы з меншавікамі і бундаўцамі прыняў рашэнне аб падтрымцы савецкай улады і асудзіў контррэвалюцыйную дзейнасць "Камітэта выратавання рэвалюцыі". Рэзалюцыі ў падтрымку савецкай улады прымалі сходы рабочых на шматлікіх прадпрыемствах горада. Паўночна-Заходні камітэт РСДРП(б) прымаў энергічныя меры па мабілізацыі рэвалюцыйных сіл фронту на дапамогу Мінскаму Савету.

1 лістапада 1917 г. у Мінск прыбылі атрады рэвалюцыйных салдат 2-й арміі, а таксама браняпоезд на чале з бальшавіком У.Пралыгіным, членам ВРК 2-й арміі. У Мінск былі накіраваны зводны атрад салдат 2-й Сібірскай дывізіі і 1-ы рэвалюцыйны полк імя Мінскага Савета. Хутка да Мінска падышлі і іншыя вайсковыя часці з фронту. Іх прыбыццё змяніла суадносіны сіл на карысць бальшавікоў.

2 лістапада прайшоў пашыраны сход Мінскага Савета з удзелам вайсковых і фабрычна-заводскіх камітэтаў. Сход прыняў рэзалюцыю аб устанаўленні савецкай улады ў Мінску. ВРК Заходняга фронту, дапоўнены прадстаўнікамі ад рэвалюцыйных арганізацый, узяў усю ўладу ў свае рукі і стаў найвышэйшым паўнамоцным органам улады на ўсёй свабоднай ад немцаў тэрыторыі Заходняга краю. "Камітэт выратавання рэвалюцыі" быў распушчаны, а яго старшыня Т.Калатухін і камісар Заходняга фронту У.Жданаў арыштаваны.

Такім чынам, барацьба з контррэвалюцыяй у Мінску завяршылася перамогай рэвалюцыйных сіл. Тут, у цэнтры палітычнага жыцця Беларусі і Заходняга фронту, устанавілася савецкая ўлада. Усё гэта садзейнічала далейшаму паскарэнню пераходу ўлады да Саветаў у іншых гарадах і паветах краю.

У вострай барацьбе з контррэвалюцыяй праходзіла ўстанаўленне ўлады Саветаў у Віцебску. Ваеннае бюро, створанае пры Віцебскім Савеце рабочых і салдацкіх дэпутатаў, адкрыта выступіла супраць





устанаўлення савецкай улады. Тады Віцебскі губернскі камітэт РСДРП(б) 27 кастрычніка 1917 г. прыняў пастанову аб стварэнні Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, да якога і перайшла ўся ўлада ў горадзе. Быў устаноўлены кантроль над тэлеграфам, поштай, чыгункай.

Рэвалюцыйныя дзеянні выклікалі супраціўленне Ваеннага бюро. У барацьбе супраць савецкай улады яно паспрабавала абаперціся на рабочых-чыгуначнікаў. Але яны не падтрымалі дзеянні Ваеннага бюро і на сваім мітынгу прынялі рашэнне аб далучэнні да ВРК. 29 кастрычніка 1917 г. ВРК ліквідаваў Ваеннае бюро. Ён звярнуўся да жыхароў з прапановай правесці выбары ў новы Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. 11 лістапада 1917 г. на агульным сходзе зноў выбранага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў было заслухана пытанне "Аб бягучым моманце і Савеце Народных Камісараў", па якому была прынята пастанова: "Приветствовать II Всероссийский съезд Советов рабочих, крестьянских и солдатских депутатов, всеми силами поддерживать новую власть как истинную выразительницу воли передового народа..." (Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч.1. С.374).

Напружана праходзіла барацьба за ўстанаўленне савецкай улады ў Гомелі. Кадэты, контррэвалюцыйнае афіцэрства і дробнабуржуазныя партыі імкнуліся не дапусціць устанаўлення савецкай улады. 28 кастрычніка 1917 г. на экстранным пасяджэнні Савета іх прадстаўнік зачытаў дасланую з Магілёва фальшывую тэлеграму аб захопе П.Красновым Петраграда і арышце савецкага ўрада на чале з У.Леніным. Аднак большасць дэпутатаў не паверыла гэтай фальшыўцы. Праз два дні Гомельскі гарадскі камітэт прыняў бальшавіцкую рэзалюцыю аб падтрымцы рабоча-сялянскага ўрада, ухваліў дэкрэты Усерасійскага з'езда, абвясціў савецкую ўладу ў горадзе і павеце. Быў створаны Ваенна-рэвалюцыйны камітэт, у склад якога ўвайшлі 4 члены фракцыі бальшавікоў, 2 левыя эсэры і па аднаму прадстаўніку ад іншых фракцый. На чале ВРК стаў бальшавік Р.Ляплеўскі.

У пачатку лістапада 1917 г. адбылася партыйная канферэнцыя бальшавікоў Палескага раёна, якая прыняла пастанову аб перавыбарах Саветаў. Перавыбары паказалі пераканаўчую перамогу бальшавікоў. Са 195 дэпутатаў Гомельскага Савета было выбрана 109 бальшавікоў, 60 "аб'яднаўцаў", 26 левых эсэраў. Савет выбраў прэзідыум выканаўчага камітэта, які стаяў на платформе II Усерасійскага з'езда і рашуча праводзіў у жыццё дэкрэты СНК.

Значна пазней, як і ў іншых гарадах Беларусі, перамагла савецкая ўлада ў Магілёве. Гэта тлумачыцца тым, што вакол Стаўкі вярхоўнага галоўнакамандуючага былі сканцэнтраваны контррэвалюцыйныя арганізацыі, кіруючыя органы буржуазных і дробнабуржуазных партый, іх лідэры. Контррэвалюцыйныя намеры Стаўкі падтрымлівала эсэра-меншавіцкая большасць Магілёўскага Савета. 28 кастрычніка 1917 г. адбылася нарада палітычных і грамадскіх арганізацый горада. Меншавікі і эсэры асудзілі ўзброенае паўстанне ў Петраградзе і



*Атрад пад кіраўніцтвам Р.Берзіна, які прымаў удзел у ліквідацыі Стаўкі вярхоўнага галоўнакамандуючага ўзброеными сіламі Расіі. Магілёў 1917 г.*

патрабавалі стварэння "дэмакратычнага міністэрства". Бальшавікі, якія таксама прынялі ўдзел у рабоце нарады, заявілі, што яна контррэвалюцыйная, і пакінулі яе. Кадэты пры актыўнай падтрымцы дробнабуржуазных партый на гэтай нарадзе арганізавалі "Грамадскі камітэт выратавання рэвалюцыі" і сталі цэнтрам усіх контррэвалюцыйных сіл Магілёва.

Для ліквідацыі контррэвалюцыйнай Стаўкі савецкі ўрад прыняў шэраг рашучых мер: назначыў новага галоўнакамандуючага бальшавіка М.Крыленку, накіраваў з Петраграда салдат Літоўскага палка, матросаў Балтыйскага флоту. ВРК Заходняга фронту сфарміраваў атрад з салдат 1-га палка імя Мінскага Савета. Для барацьбы са Стаўкай былі сфарміраваны рэвалюцыйныя атрады ў Віцебску, Гомелі, Оршы, Полацку і іншых гарадах Беларусі.

Усе спробы Стаўкі аказаць супраціўленне заканчваліся правалам. Салдаты Магілёўскага гарнізона адмовіліся змагацца з бальшавікамі. Гэта змяніла суадносіны сіл у горадзе. 18 лістапада выканком Магілёўскага Савета прыняў рашэнне аб прызнанні савецкай улады, тут жа быў створаны і ВРК, які ўстанавіў кантроль над Стаўкай. 19 лістапада рэвалюцыйныя атрады рабочых, салдат і матросаў уступілі ў горад. З імі ўвайшоў і новы галоўнакамандуючы М.Крыленка, 20 лістапада ў Магілёве пачала дзейнічаць савецкая ўлада.





На працягу кастрычніка–лістапада 1917 г. савецкая ўлада была ўстаноўлена на ўсёй свабоднай ад ворагаў тэрыторыі Беларусі. З'езды Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, якія адбыліся ў лістападзе 1917 г., сваімі рашэннямі замацавалі перамогу савецкай улады на Беларусі.

18 лістапада 1917 г. у Мінску адбыўся з'езд Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў Заходняй вобласці. На ім былі адобраны дэкрэты II Усерасійскага з'езда Саветаў і абвешчана аб падтрымцы СНК РСФСР у барацьбе з контррэвалюцыяй. З'езд абраў выканаўчы камітэт абласнога Савета ў складзе 35 чалавек.

У той жа дзень (18 лістапада) у Мінску адкрыўся III з'езд сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў. З'езд прызнаў савецкую ўладу і абавязаўся праводзіць у жыццё яе дэкрэты. Былі абраны 35 чалавек у склад выканкома сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў і прынята рашэнне аб аб'яднанні выканаўчага камітэта Савета сялянскіх дэпутатаў з выканаўчым камітэтам Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

20 лістапада адкрыўся II з'езд армій Заходняга фронту, які ў сваёй рэзалюцыі выказаў поўны давер СНК і паабяцаў яму ўсю магчымую падтрымку. З'езд абраў франтавы камітэт у складзе 100 чалавек. Галоўнакамандуючым войскамі Заходняга фронту з'езд прызначыў А.Мяснікова.

27 лістапада выканаўчыя камітэты, абраныя з'ездамі Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў Заходняй вобласці, Саветаў сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў, Заходняга фронту, аб'ядналіся і ўтварылі выканаўчы камітэт Заходняй вобласці і фронту (Аблвыканкомзах). Яго старшынёй быў абраны бальшавік М.Рагазінскі. Для кіравання вобласцю і фронтам быў створаны абласны Савет Народных Камісараў (СНК) на чале з бальшавіком К.Ландарам. Трэба адзначыць, што ў склад гэтых органаў увайшлі ў асноўным людзі не мясцовыя, далёкія ад разумення нацыянальных патрэб краю. Таму з боку гэтых органаў адразу ж выявіліся абыякавыя адносіны да пытанняў нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння беларускага народа, яго нацыянальна-культурнага адраджэння.

Разам з утварэннем на Беларусі новых савецкіх органаў улады былі ліквідаваны органы, створаныя Часовым урадам, такія як "Камітэт Заходняга фронту земскага саюза", "Саюз гарадоў Заходняга фронту", закрыты і расфарміраваны канцылярыі губернскіх камісараў былога Часовага ўрада.

Аднак фарміраванне новых органаў улады ў Заходняй вобласці не было завершана. Справа ў тым, што ў стварэнні Аблвыканкомзаха і СНК вобласці і фронту Саветы рабочых і сялянскіх дэпутатаў Віцебскай і Магілёўскай губерняў не ўдзельнічалі. З'езды Саветаў указаных губерняў адбыліся ў снежні 1917 г. — студзені 1918 г. і не прымалі рашэнняў аб злучэнні выбраных імі выканаўчых органаў з Аблвыканкомзахам, не выбіралі сваіх прадстаўнікоў у выканаўчы камітэт

Заходняй вобласці і ў склад абласнога СНК. Завяршальным этапам гэтай працы павінен быў стаць Усебеларускі з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. Аднак з'езд не быў скліканы.

Такім чынам, рэвалюцыя, якая ўвайшла ў гісторыю пад назвай Кастрычніцкая, адбылася. У сучаснай гістарычнай літаратуры, асабліва ў публіцыстыцы, выказваюцца розныя адносіны да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Адны лічаць яе Вялікай сацыялістычнай рэвалюцыяй, якая паклала пачатак новай эры ў гісторыі ўсяго чалавецтва. Другія — наадварот, што гэта быў пераварот, бальшавіцкі загавор, выпадковая з'ява і г.д. Выказваецца і такая думка, што Кастрычніцкая рэвалюцыя – "вынік дзеянняў адзінага сусветнага жыдоўска-масонскага бальшавіцкага загавору". Сучасная гістарычная навука не можа адказаць на пытанні аб ролі масонаў у Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцыях. Як вядома, гэта тэма доўгі час была "закрытай" для даследчыкаў і "белай плямай" у гісторыі.

Для глыбокага навуковага разумення такой вялікай падзеі, як Кастрычніцкая рэвалюцыя, трэба мець на ўвазе наступнае: гэта была бясспрэчна рэвалюцыя, таму што адбыліся карэнныя змены грамадска-палітычнага і сацыяльна-эканамічнага ладу краіны знізу, рэвалюцыйным шляхам. Кастрычніцкую рэвалюцыю ні ў якім разе нельга лічыць выпадковай з'явай, таму што яна з'явілася заканамерным вынікам грамадскага развіцця Расіі. Адказ Часовага ўрада ад вырашэння кардынальных задач буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі, непаслядоўная палітыка буржуазных і дробнабуржуазных партый прывялі іх да банкруцтва. Краіна апынулася ў вострым палітычным і эканамічным крызісе. Адзіным выйсцем з гэтага становішча была рэвалюцыя.

Як і ў кожнай рэвалюцыі, у Кастрычніцкай дзейнічалі як стваральныя, так і разбуральныя сілы. У ёй пераплялося гераічнае і трагічнае, мелі месца ўзлёты і падзенні не толькі нейкіх асоб, сацыяльных груп, але і партый, нават цэлых класаў.

Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што У.Ленін, партыя бальшавікоў вызначылі сацыялістычны шлях развіцця Расіі без уліку яе сацыяльна-эканамічных умоў. Таму Кастрычнік, на іх думку, быў "авантурай", "катастрофай" для краіны. Аднак звернемся да прац самога Леніна. Яшчэ ў сакавіку 1905 г. у артыкуле "Сацыял-дэмакратыя і Часовы рэвалюцыйны ўрад", спрачаючыся з А.Мартынавым, Ленін папярэджваў не змешваць сацыялістычны і дэмакратычны змест рэвалюцыі. У красавіку 1905 г. у артыкуле "Рэвалюцыйная дэмакратычная дыктатура пралетарыяту і сялянства" Ленін пісаў: "Спрабуючы неадкладна паставіць сваёй мэтай сацыялістычны пераварот, сацыял-дэмакратыя сапраўды толькі зняславіла бы сябе" (*Ленін У.І.* Творы. Т. 8. С. 267).

Да 1917 г. у сацыяльна-эканамічных адносінах Расія змянілася не вельмі значна. Да таго ж Часовы ўрад не спяшаўся вырашаць эканамічныя задачы. Таму Ленін заклікаў шукаць для Расіі іншае





выйсце: калі буржуазія не можа вывесці краіну з эканамічнага крызісу, вырашыць аграрнае пытанне, не жадае радыкальнага здзяйснення задач сваёй жа, буржуазна-дэмакратычнай, рэвалюцыі, трэба вырашаць гэтыя задачы іншымі сіламі — рэвалюцыйна-дэмакратычнымі, весці барацьбу за пераход рэвалюцыі на наступную, новую ступень — дабівацца ўстанаўлення дыктатуры пралетарыяту і беднейшага сялянства, каб ужо гэта ўлада перш-наперш вывела краіну з вайны, завяршыла буржуазна-дэмакратычныя пераўтварэнні, павяла Расію па шляху сацыяльнага прагрэсу.

Сучасныя крытыкі ленінізму сцвярджаюць, нібыта Ленін у гэты час разлічваў на неадкладнае перарастанне буржуазнай рэвалюцыі ў сацыялістычную, не ўлічваў умоў Расіі і "кінуўся ў авантуру сацыялістычнай рэвалюцыі". Але гэта не адпавядае сапраўднасці. Такі пункт гледжання прыпісваў Леніну Ю.Каменеў, крытыкуючы Красавіцкія тэзісы. Што датычыцца самога Леніна, то ён у сваім артыкуле "Пісьмы аб тактыцы" (красавік 1917 г.) пісаў наступнае: «Я не толькі не "разлічваю" на "неадкладнае перараджэнне" нашай рэвалюцыі ў *сацыялістычную*, а прама перасцерагаю супраць гэтага, прама заяўляю ў тэзісе № 8: ... *Не* "ўвядзенне" сацыялізму, як наша непасрэдная задача...» (*Ленін У.І.* Творы. Т. 24. С. 32). Ленін заклікаў у гэты час "толькі да *кантролю* з боку С.Р.Д. за грамадскай вытворчасцю і размеркаваннем прадуктаў" (Там жа. С. 5).

Не адпавядаюць рэчаіснасці і сцвярджэнні крытыкаў Леніна, бальшавікоў аб тым, што яны гвалтоўна навязвалі краіне сваю ўладу і свой сацыялістычны выбар. На самой справе ўстанаўленне савецкай улады ў кастрычніку 1917 г. было легітымным, г. зн. узаконеным шматпартыйнымі Саветамі, якія абапіраліся на народ, што абраў іх. Менавіта гэта дало права Расіі называць сябе савецкай. Сацыялістычны выбар развіцця вызначыў II з'езд Саветаў, які прадстаўляў больш за 400 Саветаў краіны. Дэлегатамі з'езда былі акрамя бальшавікоў меншавікі, левыя і правыя эсэры і інш. Аб гэтым Ленін тады пісаў так: "Сацыяльную рэвалюцыю выдумалі не мы, – яе абвясцілі члены з'езда Саветаў, — ніхто не пратэставаў, усе прынялі дэкрэт, у якім яна была абвешчана" (*Ленін У.І.* Творы. Т. 26. С. 253). Ленін адзначыў, што менавіта гэты з'езд абавязаў урад "праводзіць праграму, *ухваленую ўсім* Усерасійскім Другім з'ездам Саветаў і якая заключаецца ў паступовых, але цвёрдых і няўхільных кроках да сацыялізму" (Там жа. С. 272).

Такім чынам, сацыялістычная праграма дзейнасці ўрада — Савета Народных Камісараў, які ўзначальваў Ленін, была вызначана калегіяльна, пры ўдзеле не толькі бальшавікоў, але і ўсяго шматпартыйнага з'езда Саветаў.

Некаторыя даследчыкі лічаць гэты аргумент недастаткова пераканаўчым, заяўляючы аб тым, што рашэнне з'езда Саветаў — яшчэ не выбар народа. Звернемся тады да другога палітычнага органа — Устаноўчага сходу, які сучасныя крытыкі бальшавікоў называюць "са-

праўдным люстэркам волі расійскага народа”. Як вядома, у дэкларацыі ад 2 (15) сакавіка 1917 г. Часовы ўрад заявіў аб скліканні Устаноўчага схода і прыняў палажэнне аб выбарах, якое прадугледжвала прапарцыянальную сістэму, заснаваную на ўсеагульным выбарчым праве. Пасля апублікавання ў кастрычніку 1917 г. кандыдацкіх спісаў палітычных партый (выбары праводзіліся на шматпартыйнай аснове) адбылося галасаванне. У ім, паводле даных 65 акругоў, удзельнічала каля 45 млн выбаршчыкаў (усяго было 79 акругоў, у якіх налічвалася 90 млн выбаршчыкаў). Гэта была рэкордная колькасць выбаршчыкаў на той час. Што ж паказалі гэтыя выбары? Яны сведчылі аб поўным банкруцтве расійскай буржуазіі: за яе галоўную партыю – кадэтаў – прагаласавала (паводле даных “Русских ведомостей” ад 21 студзеня 1918 г.) толькі 5 % выбаршчыкаў. За партыі сацыялістычнага накірунку – 85,1 % (за правых і левых эсэраў – 58,5 %, бальшавікоў – 25, меншавікоў – 2,6 % выбаршчыкаў).

Гэтыя факты паказваюць надуманасць і яшчэ адной версіі аб тым, што “бальшавіцкі Кастрычнік” прыпыніў капіталістычны шлях развіцця Расіі. Узнікаюць пытанні: хто, якія партыі маглі тады весці Расію па капіталістычнаму шляху? Чаму буржуазныя партыі не павялі па гэтаму шляху Расію раней, калі яны былі на чале ўлады? Расійская рэчаіснасць таго часу сведчыць аб тым, што ў краіне тады не было рэальнай магчымасці пайсці па капіталістычнаму шляху. Народы Расіі падтрымалі сацыялістычны выбар. Аб гэтым гаварыў абраны старшынёй Устаноўчага схода эсэр В.Чарноў. У сваёй прамове падчас адкрыцця схода 5(18) студзеня 1918 г. ён сказаў: “Краіна выказалася, склад Устаноўчага схода — жывое сведчанне магутнай цягі народаў Расіі да сацыялізму” (Правда. 1990. 25 окт.). Адмаўляць гэтыя бясспрэчныя гістарычныя факты могуць толькі людзі, якія не ведаюць гісторыі ці свядома скажаюць яе. Можна спрачацца аб тым, якім шляхам мог рэалізавацца сацыялістычны выбар, якія былі зроблены памылкі, але абвінавачваць бальшавікоў, Леніна ў тым, што яны навязалі гэты выбар насуперак волі народа — г. зн. абражаць не толькі Леніна, бальшавікоў, але і самую гісторыю.

З улікам гістарычнага вопыту паслякастрычніцкага развіцця Расіі ўяўляецца, што найбольш правільным быў ленінскі план паступовага вырашэння задач буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі і адначасовага стварэння перадумоў цывілізаванасці для наступнага пераходу да будучага сацыялізму. Аднак гэты план цалкам не быў ажыццёўлены.

Пры ўсіх неадназначных адносінах да Кастрычніцкай рэвалюцыі трэба прызнаць, што яна, як ні адна іншая падзея, аказала глыбокае ўздзеянне на ход сусветнай гісторыі. Гэта была спроба працоўных выйсці з вайны і сканцэнтраваць намаганні на вырашэнне вострых сацыяльна-эканамічных праблем. За кароткі час, адведзены гісторыяй, у выніку вялікіх намаганняў, краіна пераўтварылася ў магутную індустрыяльную дзяржаву, з якой лічыўся ўвесь свет. Была створана сістэма гарантаванай працоўнай занятасці, бясплатнай адукацыі і





аховы здароўя, забяспечаны шырокі доступ моладзі да ведаў. Дзякуючы Кастрычніку беларускі народ здабыў дзяржаўнасць, у цесным саюзе з іншымі рэспублікамі стварыў магутны эканамічны і інтэлектуальны патэнцыял, здзейсніў культурную рэвалюцыю.

Першым крокам на шляху зацвярджэння савецкай улады было ўвядзенне рабочага кантролю над вытворчасцю і размеркаваннем. Галоўная задача гэтага органа заключалася ў тым, каб забяспечыць бесперабойную работу прамысловасці як асноўнай эканамічнай базы дыктатуры пралетарыяту. Рабочы кантроль абавязаны быў дапамагчы працоўным авалодаць метадамі гаспадарчага кіравання, садзейнічаць падаўленню эканамічнага супраціўлення капіталістаў і такім чынам стварыць неабходныя ўмовы для нацыяналізацыі і сацыялістычнай перабудовы прамысловасці.

Напрыканцы 1917 г. на Беларусі былі сфарміраваны мясцовыя органы рабочага кантролю. Яны прымалі актыўны ўдзел у вырашэнні пытанняў найму і звальнення рабочых, уводзілі новыя расцэнкі, змагаліся з сабатажам, патрабавалі ўстанаўлення 8-гадзіннага рабочага дня і інш. Органы рабочага кантролю вырашалі складаную і цяжкую задачу па арганізацыі фінансавай дзейнасці. На тэрыторыі Заходняй вобласці кантроль праводзіў банкаўска-крэдытны аддзел Аблвыканкомзаха. Ён кантраляваў сродкі бягучых рахункаў прадпрыемстваў, банкаўскія пазыкі, выдачу грошай з казначэйства.

На Беларусі нацыяналізацыя буйных прамысловых прадпрыемстваў ажыццяўлялася, як і па ўсёй краіне, у адпаведнасці з дэкрэтам УЦВК, прынятым у снежні 1917 г. Усе нацыяналізаваныя Саветамі заводы і фабрыкі пераходзілі ва ўласнасць дзяржавы і паступалі ў падпарадкаванне савецкіх дзяржаўных органаў.

Ужо ў снежні 1917 г. былі нацыяналізаваны фабрыка “Везувій” у Навабеліцы Магілёўскай губерні, суконная фабрыка ў маёнтку Якаўлевічы, друкарня Кагана ў Магілёве, лесапільныя заводы ў Полацкім, Аршанскім, Быхаўскім паветах і інш. Былі нацыяналізаваны і буйныя майстэрні Лібава-Роменскай, Маскоўска-Брэсцкай і Паўночна-Заходняй чыгунак.

Пачалі праводзіцца рэвалюцыйныя пераўтварэнні і ў вёсцы. На Беларусі, дзе сялянства складала пераважную большасць насельніцтва, гэта было адным з найвастрэйшых пытанняў. Першым крокам у гэтым напрамку былі канфіскацыя памешчыцкіх гаспадарак і нацыяналізацыя ўсёй зямлі. Была разгорнута вялікая агітацыйная і арганізацыйная работа сярод сялянства. ВРК Заходняй вобласці распрацаваў спецыяльную інструкцыю для ўпаўнаважаных, у якой рэкамендаваў ім надаваць асабістую ўвагу рабоце па ўліку памешчыцкіх маёнткаў, інвентару, збожжа, арганізацыі аховы маёмасці.

У сярэдзіне лютага 1918 г. на Беларусі былі ў асноўным завершаны канфіскацыя прыватных гаспадарак і ўлік маёмасці ў

памешчыцкіх маёнтках. Паводле няпоўных звестак, было канфіскавана 13 тыс. прыватных гаспадарак. Сяляне Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай губерняў атрымалі 1645,8 тыс. дзесяцін зямлі і амаль на 33 % павялічылі сваё землеўладанне. Была анулявана штогадовая арэндная плата памешчыкам у памеры 50 млн рублёў золатам. У снежні 1917 г. — лютым 1918 г. на тэрыторыі Беларусі з'явіліся першыя калектыўныя гаспадаркі сялян. У асноўным яны ствараліся на базе канфіскаваных памешчыцкіх маёнткаў. Адной з першых на Беларусі была камуна "Бярэзна" Вышацкай воласці Гарадоцкага павета. У гэты час з'явіліся камуны і ў маёнтках Мінскага, Віцебскага, Аршанскага, Лепельскага і іншых паветаў.

У канцы кастрычніка 1917 г. былі ажыццёўлены меры, накіраваныя на паляпшэнне становішча працоўных Беларусі. Была прынята пастанова аб устанаўленні 8-гадзіннага рабочага дня. Уводзілася страхаванне, паляпшаліся бытавыя і жыллёвыя ўмовы рабочых, забаранялася дзіцячая праца. Вялікая ўвага надавалася барацьбе з беспрацоўем. Ствараліся спецыяльныя фонды беспрацоўных, праводзілася арганізацыя грамадскіх работ, бірж працы. Немалую дапамогу аказвалі касы беспрацоўных і арганізацыя грамадскага харчавання. Усе гэтыя мерапрыемствы ратавалі тысячы працоўных ад галоднай смерці.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі была ўстаноўлена бясплатная медыцынская дапамога. У складзе СНК Заходняй вобласці і фронту быў створаны камісарыят аховы здароўя, у распараджэнне якога перайшлі ўсе лячэбныя і прафілактычныя ўстановы.

Савецкая дзяржава, вырашаючы сацыяльна-эканамічныя задачы, вялікую ўвагу надавала пытанням культурнага будаўніцтва, арганізацыі школьнай справы. Аддзел народнай асветы, створаны пры Аблвыканкомзаху, быў пераўтвораны ў камісарыят з аддзеламі пачатковай і сярэдняй школы, пазашкольнай асветы і пралетарскага мастацтва. Ужо ў студзені 1918 г. амаль ва ўсіх губернскіх і павятовых Саветах былі створаны аддзелы адукацыі ці асветы.

Востра стаяла пытанне аб педагагічных кадрах. Некаторая частка настаўнікаў не прызнала савецкую ўладу, шмат хто з іх былі цесна звязаны з духавенствам, якое аказвала моцны ўплыў на школу. Каб забяспечыць школы кадрамі, Аблвыканкомзах арганізаваў кароткатэрміновыя курсы па падрыхтоўцы настаўнікаў пачатковых школ. Яны былі адкрыты ў Мінску, Віцебску і Гомелі. Аблвыканкомзах ажыццяўляў і іншыя меры па далучэнні настаўніцтва да савецкай улады. Змянялася сістэма кіравання школамі. Былі створаны педагагічныя саветы, у іх уваходзілі настаўнікі, прадстаўнікі бацькоўскіх камітэтаў, навучэнцы. Для паляпшэння матэрыяльнага становішча настаўнікаў быў павышаны заробак. Пашыралася сетка школьных устаноў. На пачатак 1918 г. у Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай губернях налічвалася 2300 пачатковых, 80 сярэдніх і няпоўных сярэдніх школ.





Перабудоўваючы работу школы, савецкая ўлада звярнула асаблівую ўвагу на ліквідацыю непісьменнасці сярод дарослых. На заводах і фабрыках ствараліся гурткі па ліквідацыі непісьменнасці, школы пісьменнасці, рабочыя клубы, пры сельскіх саветах — хаты-чытальні. Для палітычнай асветы і агульнага развіцця працоўных адчыняліся народныя універсітэты.

Аблвыканкомзах нацыяналізаваў тэатры, а пры аддзелах асветы губвыканкомаў стварыў тэатральныя камісіі. Асаблівай папулярнасцю карысталася Першае беларускае таварыства драмы і камедыі.

Такім чынам, перамога Кастрычніцкай рэвалюцыі і ўстанаўленне савецкай улады паклалі пачатак рэвалюцыйным пераўтварэнням ва ўсіх сферах грамадскага жыцця беларускага народа. Аднак ужо першыя крокі савецкай улады на Беларусі паказалі, што нават для правядзення ў жыццё задач агульнадэмакратычнага характару не хапала кваліфікаваных кадраў. Рабочыя, сяляне, салдаты былі не падрыхтаваны да кіравання дзяржавай. Сярод іх пераважная большасць з'яўлялася непісьменнай. Для ажыццяўлення самых простых сацыялістычных мерапрыемстваў яшчэ не былі створаны ў дастатковай ступені ні матэрыяльныя, ні культурныя перадумовы. Таму не ўсе гэтыя мерапрыемствы былі зразумелыя для рабочых і сялян, не ўсе працоўныя станоўча іх успрымалі.

На развіццё рэвалюцыйных пераўтварэнняў на Беларусі адмоўна ўплывалі спецыфічныя фактары: акупацыя значнай часткі яе тэрыторыі нямецкімі захопнікамі; створаныя на Беларусі органы савецкай улады паводле свайго складу былі ў асноўным салдацкімі; Беларусь лічылася калідорам для праходу галоўных рэвалюцыйных сіл на Захад для ажыццяўлення сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі. Адзначаныя фактары стрымлівалі развіццё рэвалюцыйных пераўтварэнняў, ускладнялі і без таго цяжкае эканамічнае становішча на Беларусі, садзейнічалі размежаванню палітычных сіл.

## § 3. Размежаванне палітычных сіл на Беларусі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. I Усебеларускі з'езд (снежань 1917 г.). Мяцеж польскага корпуса пад камандаваннем генерала Ю.Доўбар-Мусніцкага

Пад уплывам Кастрычніцкай рэвалюцыі беларускі нацыянальны рух падзяліўся на дзве асноўныя часткі. Адна падтрымлівала рэвалюцыю, другая выступала супраць Кастрычніка. Розныя пазіцыі беларускага нацыянальнага руху ў адносінах да Кастрычніцкай рэвалюцыі былі абумоўлены яго сацыяльнай неаднароднасцю, вострымі

супярэчнасцямі паміж рознымі сацыяльнымі пластамі гэтага руху. Вядучай палітычнай сілай у грамадстве стала партыя бальшавікоў. На Беларусі і на Заходнім фронце гэта выявілася ў тым, што больш за палову (51,4 %) усіх выбаршчыкаў ва Устаноўчы сход (лістапад 1917 г.) аддалі галасы кандыдатам партыі бальшавікоў, 43 % дэпутацкіх месц было аддадзена эсэрам. У іх ліку значную ўдзельную вагу складалі левыя эсэры, якія ўступілі потым у блок з бальшавікамі. За кадэтаў і іншыя буржуазныя партыі галасавала каля 5 % выбаршчыкаў. І гэта пры тых умовах, што выбары рыхтаваліся пры Часовым буржуазным урадзе.

Найбольш уплывовай нацыянальнай партыяй заставалася Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ). Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі раскол гэтай партыі на памяркоўных, прыхільнікаў рэфармісцкага шляху, і левых радыкалаў, прыхільнікаў бальшавіцкага кірунку, паглыбіўся. Акрамя таго, многія дзеячы БСГ схіляліся да ідэі дзяржаўнага адасаблення Беларусі ад Расіі, што, на іх думку, магло засцерагчы бацькаўшчыну ад знішчэння. Гэтыя настроі выразна выявіліся на III з'ездзе БСГ (кастрычнік 1917 г.). З'езд прыняў новую праграму і абраў ЦК на чале з Я.Дылам. У склад ЦК увайшлі вядомыя беларускія дзеячы А.Прушынскі (А.Гарун), А.Смоліч, У.Адамовіч, П.Бадунова, Я.Варонка, З.Жылуновіч, Я.Мамонька, С.Рак-Міхайлоўскі, Б.Тарашкевіч і інш. З-за адсутнасці адзінства БСГ не выпрацавала агульнапартыйнай лініі ў адносінах да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Памяркоўныя лідэры Грамады ўспрынялі рэвалюцыю як "праяву анархіі, у віхуры якой можа загінуць справа вольнасці і нацыянальных правоў беларускага народа". Петраградская арганізацыя БСГ, ухіліўшыся ад прамой ацэнкі рэвалюцыі, выказалася за фарміраванне "аднароднага сацыялістычнага ўрада".

У пачатку лістапада 1917 г. у Мінску адбыўся з'езд беларусаў-вайскоўцаў Заходняга фронту з удзелам прадстаўнікоў Балтыйскага флоту, Паўднёва-Заходняга, Румынскага і Паўночнага франтоў. На з'ездзе была створана Цэнтральная беларуская вайсковая рада Заходняга фронту на чале з С.Рак-Міхайлоўскім (ЦБВР). Галоўнай задачай ЦБВР лічыла стварэнне беларускага войска і ажыццяўленне кіраўніцтва вайсковымі радамі Паўночнага, Паўднёва-Заходняга і Румынскага франтоў, выбранымі на франтавых з'ездах воінаў-беларусаў. ЦБВР спачатку выступала за аўтаномію Беларускага краю ў складзе Расійскай дэмакратычнай рэспублікі. Кастрычніцкую рэвалюцыю ЦБВР не прыняла.

Адмоўныя адносіны да Кастрычніка выказала і Беларуская народная партыя сацыялістаў, якая лічыла рэвалюцыю анархіяй, стратай свабод, заваяваных Лютаўскай рэвалюцыяй.

Не прызналі рэвалюцыю і іншыя беларускія нацыянальныя партыі і арганізацыі. Кіраўнікі беларускага нацыянальнага руху лічылі, што Кастрычніцкая рэвалюцыя няздольная вызначыць для народа, змучанага працяглай вайной і асуджанага на голад, холад, галечу, шлях





да пераадолення разрухі, да паляпшэння яго матэрыяльнага жыцця ў будучым.

Асноўныя нацыянальныя партыі ў гэты час гуртаваліся вакол Цэнтральнай беларускай рады, якая з кастрычніка 1917 г. стала называцца Вялікай беларускай радай (ВБР).

27 кастрычніка 1917 г. Вялікая беларуская рада звярнулася да беларускага народа з "Граматай". Гэты дакумент падпісалі акрамя Вялікай рады Беларускі выканаўчы камітэт Заходняга фронту, Беларуская сацыялістычная грамада, Беларуская народная партыя сацыялістаў і інш. Яны заклікалі абараняць свабоды, заваёваныя кроўю мільёнаў беларусаў, не дапусціць, каб "віхор беспарадку (так яны называлі Кастрычніцкую рэвалюцыю. — *Г.М.*) знішчыў нашу нацыянальную справу абароны свабод і правоў беларускага народа" (*Турук Ф.* Белорусское движение. Приложение 12. М., 1921. С. 93).

Палітычная праграма ВБР прадугледжвала: абвяшчэнне Беларускай дэмакратычнай рэспублікі, "спаянай з Велікаросіяй і іншымі суседнімі рэспублікамі Расіі на аснове федэрацыі"; наданне ўсёй улады на Беларусі краявой радзе, выбранай усеагульным, роўным, тайным галасаваннем; уключэнне ў кампетэнцыю вышэйшага заканадаўчага органа Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі пытанняў уседзяржаўнага будаўніцтва, міжнародных зносін і гандлёвых дагавораў з іншаземнымі дзяржавамі; выданне мясцовых законаў; развіццё, распрацоўка і прымяненне да мясцовых умоў законаў, выдадзеных вышэйшым заканадаўчым органам Расійскай дэмакратычнай рэспублікі; вышэйшае распараджэнне зямельным, водным і лясным багаццем Беларусі; аднясенне пытанняў народнай адукацыі і культурнага будаўніцтва і іншых да кампетэнцыі краявой рады.

Рада вызначыла і задачы, якія трэба было неадкладна вырашыць: бясплатную перадачу памешчыцкай, царкоўнай, манастырскай, удзельнай і іншай зямлі працоўнаму народу, захаванне ўсіх астатніх багаццяў краю; забарону рэквізіцый харчавання, фуражу і жывёлы ў разбуранай прыфрантавой паласе Беларусі; стварэнне свайго прадстаўніцтва на мірнай канферэнцыі ў мэтах папярэджання падзелу паміж дзяржавамі-суседзямі тэрыторыі Беларусі; фарміраванне нацыянальнага беларускага войска. У дакуменце падкрэслівалася, што выканаць гэтыя задачы "можа толькі ўлада, выбраная самім народам беларускім" (*Турук Ф.* Белорусское движение. С. 98).

Са змяненнем палітычных умоў паступова праходзіла пераарыентацыя ў беларускім нацыянальным руху. Калі пасля Лютаўскай рэвалюцыі ўсе беларускія нацыянальныя партыі, і ў першую чаргу Цэнтральная беларуская рада, патрабавалі краявой аўтаноміі Беларусі ў складзе Расійскай федэратыўнай рэспублікі, то ўжо пасля Кастрычніка іх барацьба разгортвалася пад лозунгам "поўнага нацыянальнага самавызначэння".

Кіраўнікі беларускага нацыянальнага руху, выкарыстаўшы абвешчанае бальшавікамі права нацый на самавызначэнне, лічылі нацыя-

нальнае пытанне галоўным у сваёй палітыцы. У Вялікай беларускай і Цэнтральнай беларускай вайсковай радах у Мінску ўтварылася "чыста беларуская плынь", якая паставіла сваёй мэтай абвясціць незалежнасць Беларускай рэспублікі. Тады ж значная частка палітычнага кіраўніцтва ўсведамляла, што асабістых сіл для разгортвання барацьбы за незалежнасць не хапае. Яно спрабавала абаперціся на сялян, інтэлігенцыю з сялян, салдат, імкнучыся аб'яднаць іх на глебе самавызначэння і стварэння незалежнай Беларускай дзяржавы. Аднак ажыццявіць гэту задачу было вельмі складана. Справа ў тым, што ў той час ні адна з беларускіх нацыянальных партый не магла стаць значнай сілай грамадска-палітычнага жыцця і аказаць уплыў на развіццё нацыянальнага руху. Аб іх удзельнай вазе ў палітычным жыцці Беларусі пераканаўча сведчыць той факт, што на выбарах ва Устаноўчы сход галоўная нацыянальная партыя — Беларуская сацыялістычная грамада — сабрала толькі 0,3 % галасоў выбаршчыкаў (выбары адбыліся ў лістападзе 1917 г.).

Для рэалізацыі ідэі нацыянальнага самавызначэння Вялікая беларуская рада ўступіла ў кантакт з выканаўчым камітэтам Беларускага абласнога камітэта (БАК), які быў створаны з дэлегатаў ад беларускіх губерняў на I Усерасійскім з'ездзе сялянскіх дэпутатаў у лістападзе 1917 г. у Петраградзе. І хаця пазіцыя БАК, які арыентаваўся на Расію, была процілеглай пазіцыі ВБР, іх аб'яднала агульная мэта — захапіць палітычнае кіраўніцтва на Беларусі.

Беларускі абласны камітэт дакладна і выразна акрэсліў свае пазіцыі ў дэкларацыі, абвешчанай у канцы лістапада 1917 г. У ёй сцвярджалася, што ў краіне пануе "атмасфера агульнага развалу", якая выклікана "ўзмоцненай барацьбой класаў, партый і нацыянальнасцей" (*Сташкевич Н.С.* Приговор революции. С. 142). Вось чаму неабходна ў нацыянальных раёнах стварыць уладу "народнай дэмакратыі". У адрозненне ад беларускіх нацыянальных партый і арганізацый, якія стаялі на пазіцыі аддзялення Беларусі ад Расіі, БАК арыентаваўся на Расію і лічыў сваёй задачай дасягненне абласной аўтаноміі ў складзе Расіі. Лідэр БАК Я.Канчар заявіў, што ўвесь беларускі народ павінен "аб'яднацца вакол ідэі ўтварэння аўтаномна-свабоднай Беларусі як часткі Расійскай федэратыўнай рэспублікі" (*Канчер Е.С.* Из истории общественных, национальных и революционных движений белорусов // Нёман. 1993. № 1. С. 144).

З гэтай мэтай БАК увайшоў у Народны камісарыят па справах нацыянальнасцей РСФСР з хадайніцтвам аб адкрыцці пры ім аддзела БАК, які б прадстаўляў у СНК інтарэсы Беларусі. Хадайніцтва было прынята, і 31 студзеня 1918 г. пры наркамаце РСФСР быў заснаваны Беларускі нацыянальны камісарыят (Белнацком).

Вялікая беларуская рада лічыла БАК надзейным саюзнікам у ажыццяўленні "нацыянальных ідэалаў". Яна прызнавала за ім перавагу як арганізацыі больш уплывовай і таму для ўстанаўлення з ім кантакта і выпрацоўкі агульнай платформы накіравала ў Петраград





сваіх прадстаўнікоў Я.Варонку, Я.Мамоньку, якія 22–23 лістапада 1917 г. правялі нараду з членамі камітэта. БАК вымушаны быў прызнаць за Радай ініцыятыву склікання Усебеларускага з'езда.

Ідэя аб скліканні такога з'езда ў кіраўніцтва ВБР узнікла адразу ж пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Прызнаўшы савецкую ўладу ў Расіі, яна не прызнала яе на Беларусі. ВБР не прымала таксама і праведзеныя савецкай уладай рэвалюцыйныя пераўтварэнні і створаныя ёю органы улады. Аблвыканкомзах разглядаўся Радай выключна франтавым органам. Для такой высновы мелася падстава. Сапраўды, у складзе Аблвыканкомзаха членаў з ваенных было ў 1,5 раза больш, чым членаў, якія ўваходзілі ў Савет. Прэзідыум Аблвыканкомзаха складаўся толькі з прадстаўнікоў фронту. Акрамя таго, у кіраўніцтве Аблвыканкомзаха не было ніводнага беларуса.

Для ўстанаўлення ўлады, "выбранай самім народам беларускім", ВБР абвясціла аб скліканні ў Мінску 5 снежня 1917 г. з'езда прадстаўнікоў усяго беларускага народа.

Калі А.Мяснікоў даведаўся пра рашэнне ВБР правесці 5 снежня 1917 г. I Усебеларускі з'езд у Мінску, ён адразу ж выехаў у Петраград, дзе намерваўся дабіцца ад Народнага камісарыята па справах нацыянальнасцей забароны на скліканне з'езда. Але Наркомнац не пагадзіўся, бо гэта разыходзілася з абвешчаным савецкай уладай правам нацый на самавызначэнне.

У той жа час у Наркомнац РСФСР звярнуўся БАК з прапановай аб сумеснай рабоце і скліканні краявога з'езда сялянскіх дэпутатаў. Наркомнац пагадзіўся з прапановай Беларускага абласнога камітэта і даў згоду на правядзенне Усебеларускага з'езда для вырашэння пытання аб самавызначэнні Беларусі на аснове савецкай формы дзяржаўнасці. Для гэтай мэты СНК РСФСР выдзяліў сродкі і даў магчымасць карыстацца тэлеграфам і радыё.

Узнікае пытанне: чаму Наркомнац вырашыў уступіць у перагаворы з БАК? Справа ў тым, што БАК быў беларускай дэмакратычнай арганізацыяй, прадстаўніком сялянства — шматлікага класа насельніцтва Беларусі. Наркомнац, уступіўшы ў перагаворы з БАК, ставіў сваёй галоўнай мэтай паралізаваць намеры Вялікай беларускай рады, іншых нацыянальных партый і арганізацый дабіцца аддзялення Беларусі ад Расіі і абвяшчэння яе буржуазнай дэмакратычнай рэспублікай. Тым больш, што ў той час нязначная колькасць беларусаў прызнавала неабходнасць аддзялення Беларусі ад Расіі. Аб гэтым сведчылі і вынікі выбараў ва Устаноўчы сход, у адпаведнасці з якімі прыхільнікі неадкладнага самавызначэння атрымалі менш за 0,5 % галасоў ад агульнай колькасці выбаршчыкаў, што прынялі ўдзел у выбарах.

Паводле сведчанняў лідэра БАК Я.Канчара, на перагаворах з народным камісарам па справах нацыянальнасцей РСФСР І.Сталіным былі абмеркаваны задачы маючага адбыцца Усебеларускага з'езда: апратэставанне спроб Беларускай рады падпісаць дагавор з Германіяй

5. Зак. 5565

аб адрыве Беларусі ад Расіі; раззбраенне польскага корпуса генерала Ю.Доўбар-Мусніцкага; выгнанне з Беларусі нямецкіх акупантаў; умацаванне на Беларусі савецкай улады ў адпаведнасці з дырэктывамі УЦВК і СНК РСФСР; абмеркаванне пытання аб далейшым дзяржаўным ладзе Беларусі ў складзе РСФСР (Нёман. 1992. № 10. С. 131).

Наркомнац РСФСР у асноўным пагадзіўся з прапановамі БАК. Пасля падпісання пагаднення з Наркомнацам 23 лістапада 1917 г. БАК апублікаваў "Зварот да беларускага народа", у якім аб'явіў аб скліканні 15 снежня 1917 г. надзвычайнага з'езда. БАК выступіў з ініцыятывай утварыць аўтаномна-свабодную Беларусь як частку Расійскай рэспублікі. У той жа час БАК спрабаваў не дапусціць склікання з'езда Вялікай беларускай радай. Аднак падабенства іх палітычных праграм у рэшце рэшт дазволіла ім прыйсці да адзінай думкі аб скліканні агульнага Усебеларускага з'езда, застаючыся на сваіх пазіцыях па прынцыповым пытанні – аб нацыянальна-дзяржаўным ладзе Беларусі, яе адносінах да Савецкай Расіі. Пасля доўгіх спрэчак і дыскусій было вырашана правесці І Усебеларускі з'езд 15 снежня 1917 г.

З'езд адкрыўся 15 снежня 1917 г. Для яго работы быў выбраны кіруючы орган – Рада старэйшын з'езда. На з'ездзе прысутнічалі 1872 дэлегаты (з іх 1167 мелі рашаючы голас, 705 — дарадчы). Большасць з іх прадстаўлялі валасныя, павятовыя і губернскія земствы, зямельныя камітэты, настаўніцкія арганізацыі і інш. У палітычных адносінах гэта былі галоўным чынам эсэры і члены БСГ. У сацыяльным плане сярод дэлегатаў пераважалі прадстаўнікі заможнага і сярэдняга сялянства, сярэдніх і ніжэйшых пластоў інтэлігенцыі, чыноўнікі.

Па сваёй палітычнай накіраванасці дэлегаты падзяляліся на тры групоўкі: правых, левых і цэнтрыстаў. Цэнтрысцкі накірунак прадстаўлялі дэлегаты БСГ. У ходзе работы з'езда да іх далучылася значная частка правых эсэраў і т. зв. група "беспартыйных". Левы накірунак аб'яднаў у асноўным левых эсэраў і быў нешматлікім. Правае крыло ўключала прадстаўнікоў розных буржуазных нацыяналістычных, а таксама клерыкальных і памешчыцкіх арганізацый.

У першы дзень работы з'езда (15 снежня) быў абвешчаны парадак дня: 1) мэта і задачы з'езда; 2) палітычнае становішча краіны і лёс Беларусі; 3) пытанне аб бежанцах; 4) дэмабілізацыя арміі. Па першаму і другому пунктах выступілі ад БАК Я.Канчар і С.Малышчыцкі, ад ВБР — Я.Варонка. 16–17 снежня работа з'езда ішла па фракцыях, зямляцтвах і групах. Увечары 17 снежня 1917 г. адбылося агульнае пасяджэнне з'езда, на якім былі абвешчаны рэзалюцыі фракцый, зямляцтваў і груп. Пасля двухгадзіннай дыскусіі ў 1 гадзіну 15 хвілін ночы з 17 на 18 снежня быў аб'яўлены праект агульнай рэзалюцыі "Аб самавызначэнні Беларусі і аб часовай краявой уладзе". Рэзалюцыя складалася з 15 пунктаў, у якіх была вызначана праграма нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва. (Тэкст рэзалюцыі надрукаваны ў часопісе "Нёман". 1993. № 1. С. 54.)





Галоўнае ў гэтай рэзалюцыі – прапанова аб стварэнні новага краявога органа ўлады – Усебеларускага Савета сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў. У ёй таксама адзначалася, што Усебеларускі Савет, заснаваны на з'ездзе, з'яўляецца часовым органам улады. Пытанне аб дзяржаўнай уладзе для канчатковага вырашэння перадаецца Усебеларускаму ўстаноўчаму сходу. У рэзалюцыі падкрэслівалася неабходнасць стварэння тэрытарыяльных беларускіх войск, заснавання прадстаўніцтва пры цэнтральнай уладзе. У ёй таксама былі выстаўлены патрабаванні аб самастойным удзеле дэлегацыі Беларусі на мірных перагаворах у Брэсце.

Дэлегаты з'езда паспелі прыняць толькі першы пункт рэзалюцыі, які быў вырашальным у лёсе з'езда і яго дэлегатаў. Вось поўны тэкст гэтага пункта: "Замацоўваючы сваё права на самавызначэнне, абвешчанае расійскай рэвалюцыяй, і зацвярджаючы рэспубліканскі дэмакратычны лад у межах беларускай зямлі, для выратавання роднага краю і прадухілення яго ад падзелу і аддзялення ад Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі, І Усебеларускі з'езд пастанаўляе: тэрмінова ўтварыць са свайго складу орган краявой улады – Усебеларускі Савет сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў, які часова становіцца на чале кіравання краем, уступаючы ў афіцыйныя адносіны з цэнтральнай уладай, адказнай перад Саветам рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў" (Нёман. 1993. № 1. С. 154).

Гэты пункт рэзалюцыі быў прыняты аднагалосна і азначаў, што ў межах Беларусі абвяшчаўся "рэспубліканскі дэмакратычны лад" на чале з Усебеларускім Саветам сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў. Улада Аблвыканкомзаха, СНК Заходняй вобласці і фронту была прызнана незаконнай.

Гэта рашэнне з'езда СНК Заходняй вобласці і фронту расцаніў як контррэвалюцыйную спробу звяржэння ўстаноўленага ў выніку перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі грамадскага і дзяржаўнага ладу. Таму ноччу 18 снежня 1917 г. з'езд быў разагнаны, прэзідыум і шэраг дэлегатаў арыштаваны (усяго 27 чалавек). Пасля разгону з'езда Рада старэйшын аб'явіла сябе Саветам з'езда. На сваім першым закрытым пасяджэнні 18 снежня 1917 г. Савет з'езда пастанавіў: 1) лічыць І Усебеларускі з'езд гвалтоўна разагнаным; 2) Савет з'езда прызнаць выканаўчым органам з'езда, абавязаць яго праводзіць у жыццё ўсе яго рашэнні і пастановы; 3) папоўніць Савет з'езда дэлегатамі ад зямляцтваў і іншых груп, якія дэлегавалі сваіх прадстаўнікоў са з'езда ў Савет, і даць ім права адводу, адклікання і кааптацыі. Савет з'езда прыняў пастанову спыніць дзейнасць усіх нацыянальных фарміраванняў і перадаць іх справы і маёмасць Савету, а таксама склікаць ІІ Усебеларускі з'езд. Быў створаны выканком Савета.

Якія ж прычыны разгону з'езда? СНК Заходняй вобласці і фронту ў паведамленні "Аб роспуску нацыяналістычнага беларускага з'езда"

20 снежня 1917 г. адзначаў, што з'езд выказаўся за савецкую ўладу і прызнаў яе ў Расіі, але не прызнаў гэтай улады ў Заходняй вобласці і на фронце.

У справаздачы старшыні СНК РСФСР У.Леніну Аблвыканкомзах паведамляў: "Беларускія нацыяналісты, якія фармальна прызналі савецкую ўладу, фактычна рабілі ўсё, што было ў іх сілах, каб распаліць у беларускіх рабочых і сялян шавіністычны чад, расказлоць масы, аб'яднаныя вакол Саветаў".

У тэлеграме ў цэнтральныя органы ўлады РСФСР і рэдакцыю газеты "Правда" К.Ландар 21 снежня 1917 г. паведамляў, што беларускі з'езд пад уплывам нацыяналістычных элементаў абвясціў у краі новую ўладу, не прызнаў выбранага законным шляхам Аблвыканкомзаха і створанага ім СНК Заходняй вобласці і фронту. У адказ на гэта СНК аб'явіў з'езд распушчаным.

У звароце да беларускага народа 30 студзеня 1918 г. СНК Заходняй вобласці і фронту заявіў, што беларускі з'езд быў скліканы беларускімі кадэтамі, прадстаўнікамі буржуазіі і тых палітычных партый, якія жадалі выкарыстаць цемру і невуцтва народных мас для звяржэння народнай савецкай улады.

З падобнымі тлумачэннямі поўнасцю пагадзіцца нельга. Трэба мець на ўвазе наступнае. Ішла вострая палітычная барацьба за ўладу. У гэтай барацьбе важным было нацыянальнае пытанне. Кіруючыя партыйныя работнікі Беларусі спазніліся з вырашэннем нацыянальных праблем, часта не разумелі іх.

Абласное кіраўніцтва ўспрымала патрабаванне аб самавызначэнні Беларусі як антысавецкае, контррэвалюцыйнае.

У гісторыі беларускага народа Усебеларускі з'езд стаў важнай гістарычнай падзеяй. Я.Дыла, нарком працы першага савецкага ўрада, адзначаў прадстаўнічы характар з'езда, назваў яго "вяршыняй беларускага вызваленчага руху (пераважна буржуазна-дэмакратычнага)". Тое ж прызнаваў і В.Кнорын. Ён адзначаў, што гэта быў з'езд дэмакратычных арганізацый, на які былі запрошаны прадстаўнікі ад кожнай нацыянальна-беларускай арганізацыі з усёй Расіі, якой бы малалікай яна ні была.

У той жа час, як мы бачым, з'езд выявіў і рознагалоссе, якое існавала ў беларускім нацыянальным руху пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Лёс з'езда мог бы вырашыцца па-іншаму. В.Кнорын адзначаў тое, што хаця "з'езд быў скліканы правасацыялістычнымі элементамі, але ж там была даволі моцная левая фракцыя, і пры добрым партыйным кіраўніцтве была магчымасць раскалоць з'езд і яго рэвалюцыйную частку аб'яднаць пад савецкім сцягам". Аднак гэта не было зроблена.

У снежні 1917 г. — студзені 1918 г. на тэрыторыі Беларусі адбылася яшчэ адна падзея — мяцеж польскага корпуса пад камандаваннем генерала Ю.Доўбар-Мусніцкага.





Корпус польскіх легіянераў быў сфарміраваны яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Улічваючы класавы склад польскай дывізіі, асабісты настрой камандавання, моцную дысцыпліну, Часовы ўрад вырашыў выкарыстаць яго для барацьбы з рэвалюцыйнымі выступленнямі працоўных. Польскія часці былі размешчаны ў раёне Віцебска–Мінска–Жлобіна і разгорнуты ў корпус. Вярхоўны галоўнакамандуючы Л.Карнілаў назначыў генерал-лейтэнанта Ю.Доўбар-Мусніцкага камандуючым польскім корпусам.

У дні Кастрычніцкага паўстання А.Керанскі спрабаваў выкарыстаць польскія часці для барацьбы з рэвалюцыйным Петраградам. Але салдаты Заходняга фронту перагарадзілі шлях Ю.Доўбар-Мусніцкаму. Пасля гэтага Доўбар-Мусніцкі заявіў аб сваім нейтралітэце ў адносінах да савецкай улады. Сваю пазіцыю ён абгрунтаваў "правам на самавызначэнне і фарміраванне нацыянальных аб'яднанняў". Савецкі ўрад не перашкаджаў стварэнню нацыянальных ваенных атрадаў, бо лічыў, што гэта права кожнай нацыі, якая пражывала на тэрыторыі Расіі. Аднак вылучэнне нацыянальных часцей з рускай арміі ў самастойныя фарміраванні павінна было праходзіць толькі пасля рэферэндуму ў гэтых часцях і з улікам стратэгічных абставін на фронце.

За адмаўленне падпарадкавацца савецкім уладам і каб прадухіліць узброены канфлікт з польскімі легіянерамі, ВРК Заходняй вобласці і фронту арыштаваў афіцэраў штаба на чале з генералам Ю.Доўбар-Мусніцкім, які быў вымушаны заявіць аб сваіх лаяльных адносінах да савецкай улады. Аднак далейшыя падзеі паказалі, што ён збіраў паплечнікаў і рыхтаваўся да барацьбы з савецкай уладай. Легіянеры корпуса рабавалі, забівалі сялян, арганізоўвалі пагромы ў Барысаўскім і Магілёўскім паветах.

14 снежня 1917 г. А.Мяснікоў выдаў загад, у якім зноў гаварылася пра падпарадкаванне Ю.Доўбар-Мусніцкага камандаванню Заходнім фронтам і неабходнасць правесці дэмакратызацыю польскага корпуса. Але і гэты загад не быў выкананы.

12 студзеня 1918 г. польскія легіянеры пачалі ваенныя дзеянні супраць савецкай улады. Былі захоплены Рагачоў, Бабруйск і шэраг іншых населеных пунктаў. Часці Ю.Доўбар-Мусніцкага вялі наступленне ў двух напрамках: на Мінск і Магілёў. Перад польскай дывізіяй была пастаўлена задача захапіць Магілёў і ліквідаваць рэвалюцыйную Стаўку, 2-я кавалерыйская дывізія павінна была захапіць Мінск, а 3-я — Жлобін. Тым самым контррэвалюцыя разлічвала нанесці ўдар па стратэгічных цэнтрах на Беларусі і адрэзаць іх ад Расіі.

Контррэвалюцыйнае выступленне польскага корпуса стварыла сур'ёзную небяспеку для савецкай улады. Мяцеж пачаўся ў той момант, калі асноўныя сілы Савецкай дзяржавы вялі баі на Доне з войскамі А.Каледзіна і Цэнтральнай радай на Украіне. СНК РСФСР даў указанне камандаванню Заходнім фронтам падавіць мяцеж. Генерал Ю.Доўбар-Мусніцкі быў аб'яўлены ворагам рэвалюцыі. У ноч на 31 студзеня 1918 г. была разбіта 1-я польская дывізія і вызвалены

6. Зак. 5565

Рагачоў. У пачатку лютага савецкія войскі перайшлі ў наступленне ў раёне Жлобіна. Не вытрымаўшы націску, польская дывізія пачала адступаць на Бабруйск да цэнтра контррэвалюцыйнага мяцяжу, дзе была акружана і разбіта.

Такім чынам, першы пасля Кастрычніка 1917 г. пажар вайны на Беларусі быў патушаны. На ўсёй тэрыторыі, часова акупіраванай корпусам, была адноўлена савецкая ўлада. За ўдзел у мяцяжу былі арыштаваны прадстаўнікі польскай буржуазіі, памешчыкаў і тыя лідэры кадэтаў і Саюза зямельных уласнікаў, якія дапамагалі корпусу Ю. Доўбар-Мусніцкага весці вайну супраць савецкай улады. Дэкрэтам СНК Заходняй вобласці і фронту ад 30 студзеня 1918 г. была распушчана Цэнтральная беларуская вайсковая рада, якая адкрыта падтрымала выступленне корпуса. Поруч з карнымі мерамі вялася прапагандысцкая работа па схіленні былых салдат корпуса на бок савецкай улады.

# ГЛАВА 2

# САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ І ПАЛІТЫЧНАЕ СТАНОВІШЧА БЕЛАРУСІ Ў ПЕРЫЯД ГЕРМАНСКАЙ АКУПАЦЫІ. НАЦЫЯНАЛЬНА-ДЗЯРЖАЎНАЕ БУДАЎНІЦТВА

(1918 г. – пачатак 1919 г.)

## § 1. Беларусь пасля падпісання Брэсцкага мірнага дагавора. Сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні і культурнае будаўніцтва на свабоднай ад нямецкіх акупантаў тэрыторыі Беларусі

Перамога Кастрычніцкай рэвалюцыі, першыя рэвалюцыйныя пераўтварэнні выклікалі жорсткае супраціўленне звергнутых класаў. На дапамогу ім у барацьбе супраць улады Саветаў прыйшлі кіруючыя колы капіталістычных краін. Яны распрацавалі планы адкрытай ваеннай інтэрвенцыі.

Становішча Савецкай Расіі ўскладнялася тым, што яна знаходзілася ў стане вайны з Германіяй. У сувязі з тым, што краіны Антанты



*Беларусь у перыяд грамадзянскай вайны і іншаземнай інтэрвенцыі (люты 1918 г. – люты 1919 г.)*




УМОЎНЫЯ ЗНАКІ

Лінія руска-германскага фронту на пачатак мірных перагавораў у Брэст-Літоўску 3.12.1917 г.

Лінія савецка-германскага фронту ў сакавіку 1918 г.

Уварванне германскіх войск у лютым 1918 г.

Дзеянні войск Чырвонай Арміі ў канцы 1918- пачатку 1919 г.

25.3.18 Абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі

1.1.19 Абвяшчэнне БССР і яе межы

27.2.19 Утварэнне Літоўска-Бела рускай ССР і яе межы

Сучасная граніца Беларус



*Мірныя перагаворы ў Брэсце. Сакавік 1918 г.*

адмовіліся ад мірных перагавораў, савецкі ўрад рашыў пачаць сепаратныя перагаворы з Германіяй і Аўстра-Венгрыяй. 2 снежня 1917 г. было падпісана пагадненне аб перамір'і, а 9 – у Брэст-Літоўску пачаліся мірныя перагаворы. Германская дэлегацыя адмовілася заключыць дэмакратычны мір і 10 лютага 1918 г. паставіла ультыматыўныя патрабаванні, згодна з якімі анексіравалася значная частка тэрыторыі Савецкай краіны, у тым ліку большая частка Беларусі. Выкарыстаўшы адмову кіраўніка савецкай дэлегацыі Л.Троцкага падпісаць мірны дагавор, германскае камандаванне 16 лютага 1918 г. афіцыйна заявіла аб спыненні перамір'я і аднаўленні ваенных дзеянняў. 18 лютага 1918 г. больш за 50 германскіх і аўстра-венгерскіх дывізій пачалі наступленне на руска-германскім фронце. У першыя ж дні праціўнік захапіў Дзвінск, Мінск, Полацк, Оршу і іншыя гарады. Свабоднымі ад ворагаў засталіся толькі шэсць паветаў Магілёўскай і Віцебскай губерняў.

Працоўныя Беларусі рашуча выступілі супраць захопнікаў. Тысячы рабочых і сялян запісваліся ў Чырвоную Армію. Да 22 лютага 1918 г. у Магілёве добраахвотнікамі запісалася 2 тыс. рабочых. Тут быў сфарміраваны полк Чырвонай Арміі. У Віцебскай губерні колькасць добраахвотнікаў дасягнула амаль 5 тыс. чалавек. Былі створаны чатыры батальёны імя Віцебскага Савета, 1-ы і 2-і гомельскія чырвонагвардзейскія батальёны, Аршанскі конны





дывізіён і г.д. Адначасова ўзводзіліся абарончыя збудаванні. У выніку прынятых мер на асобных участках фронту рух ворага быў спынены. Савецкі ўрад працягваў намаганні па хутчэйшым заключэнні міру. 3 сакавіка 1918 г. быў падпісаны мірны Дагавор на вельмі цяжкіх умовах, навязаных Германіяй. Паводле гэтага дагавора, пад нямецкай акупацыяй апынулася большая частка тэрыторыі Беларусі.

Брэсцкі мірны дагавор быў несправядлівы і грабежніцкі. Асабліва цяжкімі былі яго вынікі для працоўных Беларусі. Германіі Беларусь уяўлялася толькі як частка тэрыторыі Расіі, як залог пад ваенную кантрыбуцыю, выплаціць якую павінна была Савецкая Расія.

Згодна з артыкулам 3 заключанага 3 сакавіка 1918 г. у Брэсце дагавора, будучы лёс абласцей, якія ляжалі на захад ад устаноўленай дагаворам лініі, павінны вырашаць Германія і Аўстра-Венгрыя. (Тэкст дагавора надрукаваны ў часопісе "Спадчына". 1993. № 2.) У гэтым дагаворы Беларусь выступала не як суб'ект міжнародна-прававых адносін, а толькі ў якасці аб'екта. Беларусь не прызнавалася самастойным нацыянальным рэгіёнам і не называлася сваім імем. Тэкст дагавора ва ультыматыўнай форме быў прадыктаваны прадстаўнікамі Германіі і без абмеркавання падпісаны. Германія не была зацікаўлена ў прызнанні беларусаў як самастойнай нацыі, бо планавала ўключыць у склад сваёй тэрыторыі паўночна-заходнія землі Беларусі.

Такім чынам, у выніку нямецкай акупацыі Беларусь была падзелена на дзве часткі. Разгледзім перш-наперш становішча, якое склалася ў 1918 г. на свабоднай ад нямецкіх акупантаў частцы тэрыторыі Беларусі.

На неакупіраванай тэрыторыі Беларусі важнейшай задачай партыйных і савецкіх органаў стала дапамога Чырвонай Арміі, павышэнне баяздольнасці чырвонаармейскіх і іншых рэвалюцыйных атрадаў. З гэтай мэтай у пачатку красавіка 1918 г. было створана аператыўнае аб'яднанне асобных атрадаў, куды ўвайшлі Віцебскі, Невельскі, Аршанскі, Рослаўскі, Смаленскі, Бранскі і Курскі атрады. На чале аб'яднання стаяў Ваенны савет, які ажыццяўляў палітычнае і гаспадарчае кіраўніцтва ўсімі войскамі, што размяшчаліся ўздоўж заходняга ўчастка дэмаркацыйнай лініі. Ваенны савет правёў вялікую работу па аб'яднанні часцей і падраздзяленняў, якія дзейнічалі на Заходнім фронце. Была ажыццёўлена перагрупоўка сіл на найбольш важных напрамках, узмоцнены слабыя атрады і часці, удасканалена сістэма кіравання.

У адпаведнасці з дэкрэтам СНК ад 8 красавіка 1918 г. былі створаны новы ваенна-адміністрацыйны апарат: акруговыя, губернскія, павятовыя і валасныя камісарыяты па ваенных справах. На неакупіраванай тэрыторыі Беларусі былі ўтвораны 2 губернскія, 15 павятовых і 139 валасных ваенных камісарыятаў. Дзякуючы іх на-

7. Зак. 5565

маганням напрыканцы 1918 г. у Віцебскай і Магілёўскай губернях добраахвотнікамі ў Чырвоную Армію запісалася больш як 30 тыс. рабочых і сялян, што склала 5 чырвонаармейскіх палкоў імя Віцебскага Савета, Сенненскі народны полк, 1-ы Мсціслаўскі народны батальён, 1-ы рэвалюцыйны полк Аршанскага Савета. Атрады Чырвонай Арміі былі створаны ў Чавускім, Чэрыкаўскім, Быхаўскім і іншых паветах.

Выканкомы Саветаў Віцебскай і Магілёўскай губерняў узмацнілі ваенна-мабілізацыйную работу сярод працоўных, каб дапамагчы Усходняму фронту, дзе ў гэтыя дні вырашаўся лёс Савецкай дзяржавы. На барацьбу з белачэхамі з Беларусі былі накіраваны 1, 2, 3 і 5-ы чырвонаармейскія палкі імя Віцебскага Савета, полк імя Аблвыканкомзаха, Мінскі рэвалюцыйны полк, 1-ы і 2-і гомельскія батальёны, Мінская, Смаленская і Аршанская артылерыйскія батарэі і інш.

Пашырэнне інтэрвенцыі краін Антанты, актывізацыя ўнутранай контррэвалюцыі летам і восенню 1918 г. запатрабавалі стварэння рэгулярнай Чырвонай Арміі. У сувязі з гэтым савецкі ўрад перайшоў ад добраахвотнага прынцыпу яе камплектавання да прызыўной сістэмы. 29 мая 1918 г. УЦВК РСФСР прыняў пастанову аб абавязковай ваеннай службе працоўных у арміі, а 11 чэрвеня Саўнарком выдаў дэкрэт аб прызыве грамадзян у Чырвоную Армію. На Беларусі першыя мабілізацыі праводзіліся ў ліпені – жніўні 1918 г., калі ў армію было прызвана каля 100 тыс. рабочых і сялян. Аднак сярод часткі сялян назіраліся хістанні, нярэдкімі былі выпадкі ўхілення ад мабілізацыі. Некаторыя з іх лічылі, што рэвалюцыя скончылася, а калі гэта так, то няма неабходнасці і абараняць яе са зброяй у руках. Акрамя таго, першыя рэвалюцыйныя пераўтварэнні ў вёсцы выклікалі ў часткі сялян варожыя адносіны да савецкай улады і нежаданне служыць у Чырвонай Арміі.

У сувязі з акупацыяй нямецкімі войскамі большасці тэрыторыі Беларусі паўстала пытанне аб адміністрацыйна-тэрытарыяльнай будове не занятай ворагам тэрыторыі. II з'езд Саветаў Заходняй вобласці, які адбыўся 10–14 красавіка 1918 г. у Смаленску, прыняў рашэнне: у склад вобласці ўваходзяць Смаленская, Магілёўская, Віцебская і Мінская губерні. Абласным цэнтрам вобласці стаў Смаленск. Абраны на з'ездзе Абласны выканаўчы камітэт, старшынёй якога стаў А.Ф.Мяснікоў, узначаліў усю практычную работу ў галіне гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

У адпаведнасці з рашэннем II з'езда Саветаў Заходняй вобласці ў красавіку 1918 г. быў створаны Савет народнай гаспадаркі Заходняй вобласці, а ў маі–снежні – губернскія і павятовыя саўнаргасы. Яны працягвалі распачатую ў канцы 1917 г. работу па ўстанаўленні рабочага кантролю над вытворчасцю і размеркаваннем, за дзейнасцю чыгунак, фінансавых, харчовых і іншых устаноў, ажыццяўлялі нацыяналізацыю фабрык і заводаў. Толькі з сакавіка да верасня 1918 г. у 12 паветах было нацыяналізавана 31 прамысловае прадпрыемства.





На іншых заводах і фабрыках устанаўліваўся рабочы кантроль. Саўнаргасы арганізоўвалі рамонт старых прадпрыемстваў, адкрывалі новыя. У Віцебску да лета 1918 г. была наладжана работа гарбарнай, сталярнай, швейнай, шапачнай, шавецкай, шорнай і іншых майстэрань, на якіх працавала больш за 1 тыс. чалавек. Дзесяткі прамысловых прадпрыемстваў, якія выпускалі прадукцыю для Чырвонай Арміі і прадметы шырокага ўжытку, былі адкрыты ў Мсціславе, Сянно і іншых гарадах.

Аднак, нягледзячы на прынятыя меры па барацьбе з разрухай, становішча гаспадаркі Беларусі было цяжкае. У канцы 1918 г. на тэрыторыі Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губерняў дзейнічалі толькі 92 прадпрыемствы, або 23,6 % ад іх колькасці ў 1913 г. На іх было занята 18 тыс. рабочых — 52,6 % да 1913 г.

Не хапала хлеба, адчувалася нястача іншых прадуктаў харчавання. Голад пагражаў гібеллю савецкай уладзе. У сувязі з гэтым у краіне, у тым ліку і на Беларусі, была ўведзена харчовая дыктатура. У адпаведнасці з дырэктывай УЦВК і СНК РСФСР ад 9 мая 1918 г. была ўстаноўлена манаполія дзяржавы на хлеб, прадугледжвалася самая бязлітасная барацьба супраць вясковай буржуазіі, якая хавала хлеб ад савецкай улады. У.Ленін у пісьме да рабочых Петраграда ад 22 мая 1918 г. заклікаў іх арганізаваць «вялікі "*крыжовы паход*" супраць парушальнікаў найстражэйшага дзяржаўнага парадку ў справе збору, падвозу і размеркавання хлеба...» (*Ленін У.І.* Творы. Т. 27. С. 359).

У Магілёўскай і Віцебскай губернях у адпаведнасці з дэкрэтам УЦВК ад 11 чэрвеня 1918 г. была створана густая сетка камітэтаў вясковай беднаты. Паводле рашэння Народнага камісарыята ўнутраных спраў РСФСР, гэтыя губерні былі аднесены да ліку 12 губерняў краіны, дзе павінна быць найбольшая колькасць такіх камітэтаў. Іх галоўная мэта — барацьба за хлеб, якая афіцыйна накіроўвалася супраць кулакоў. Для ўліку збожжа пры камбедах ствараліся спецыяльныя камісіі, якім у рабоце дапамагалі петраградскія рабочыя і харчовыя атрады з гарадоў Магілёўскай і Віцебскай губерняў. Рабочыя харчатрады і камбеды Заходняй вобласці восенню 1918 г. нарыхтавалі 39,8 млн пудоў збожжа. (Патрэбы ў збожжы гэтых губерняў складалі 51,9 млн пудоў.) Адбіраючы ў кулака зямлю, хлеб, жывёлу, інвентар, органы савецкай улады Магілёўскай і Віцебскай губерняў ажыццяўлялі ў адносінах да яго палітыку частковай экспрапрыяцыі, абмежавання і выцяснення. Калі ўлічыць, што колькасць кулакоў на Беларусі была нязначнай, то атрымліваецца, што гэта палітыка была накіравана не толькі супраць кулакоў, але і працоўнага сялянства.

Да пачатку 1918 г. у Магілёўскай і Віцебскай губернях аграрныя пераўтварэнні яшчэ не набылі шырокага размаху. Справа ў тым, што інтарэсы сялян абаранялі эсэры, якія перашкаджалі далейшаму развіццю рэвалюцыйных пераўтварэнняў на вёсцы. Большасць сялян тады падтрымлівала эсэраўскае патрабаванне ўраўнавальнага размер-

кавання зямлі. І хоць гэта не адпавядала марксісцкай аграрнай праграме, бальшавікі пайшлі на такую ўступку сялянам. Зямля дзялілася на падставе прынятага III Усерасійскім з'ездам Саветаў ураўняльнага прынцыпу па спажывецка-працоўнай норме. Аднак гэта ўступка была нядоўгай. Ужо з лета 1918 г. стала праводзіцца інтэнсіўная работа па арганізацыі калектыўных гаспадарак. Да снежня 1918 г. у 19 паветах Магілёўскай і Віцебскай губерняў было створана 175 калектыўных гаспадарак. Яны аб'ядноўвалі невялікую частку працоўнага сялянства. Асноўная яго маса вяла індывідуальную гаспадарку. Першыя калектыўныя гаспадаркі-камуны аб'ядноўвалі галоўным чынам беднату і батракоў і эканамічна сябе не апраўдвалі. Сяляне не хацелі прымірыцца з усеагульным абагуленнем. Больш эфектыўнай была гаспадарчая дзейнасць арцелей і таварыстваў з частковым абагуленнем вытворчасці, з размеркаваннем прадуктаў па працы. Але, нягледзячы на гэта, працэс абагулення працягваўся.

На свабоднай ад ворага тэрыторыі органы савецкай улады правялі значную работу па культурнаму будаўніцтву. Асаблівая ўвага надавалася арганізацыі народнай адукацыі. У адпаведнасці з дэкрэтам СНК РСФСР ад 30 мая 1918 г. "Аб перадачы ў веданне Народнага камісарыята асветы навучальных і агульнаадукацыйных устаноў і ўстаноў усіх ведамстваў" у Магілёўскай і Віцебскай губернях школы і вучылішчы перайшлі ў падпарадкаванне аддзелаў народнай асветы губернскіх і павятовых Саветаў. У многіх населеных пунктах адкрываліся новыя школы, у першую чаргу пачатковыя. Значна павялічылася колькасць навучэнцаў. Толькі ў Віцебску і Полацкім павеце, напрыклад, у лістападзе 1918 г. было адкрыта 60 пачатковых школ. Задачы новай, савецкай школы, шляхі іх вырашэння былі абмеркаваны на I з'ездзе настаўнікаў-інтэрнацыяналістаў (2–6 чэрвеня 1918 г.) і на I Усерасійскім з'ездзе па асвеце (канец жніўня 1918 г.). Перад школай ставілася галоўная мэта — спалучыць арганічную сувязь навучання з задачамі сацыялістычнай арганізацыі грамадства. Народная адукацыя павінна была стаць састаўной часткай барацьбы за сацыялізм.

Трэба адзначыць, што не ўсе настаўнікі станоўча ўспрынялі гэты заклік. Значная іх колькасць працавала па-старому, не выконвала пастановы савецкай улады ў галіне школьнага будаўніцтва, працягвала вучыць дзяцей па старых праграмах.

16 кастрычніка 1918 г. УЦВК прыняў Палажэнне аб адзінай працоўнай школе РСФСР. Школа дзялілася на дзве ступені: першая — для дзяцей 8–13 гадоў, другая – для падлеткаў 13–17 гадоў.

Устанаўліваліся адзіная сістэма народнай адукацыі, бясплатнае і абавязковае навучанне дзяцей школьнага ўзросту, забаранялася выкладанне якіх бы там ні было веравучэнняў, укараняліся прынцыпы політэхнічнага навучання, для школьнікаў было арганізавана бясплатнае (у школе) харчаванне, асігноўваліся сродкі на набыццё вучэбных дапаможнікаў.





Вялікая работа праводзілася па падрыхтоўцы настаўніцкіх кадраў. Летам 1918 г. у Магілёве і Віцебску вяліся заняткі на курсах настаўнікаў для школ па ліквідацыі непісьменнасці, бібліятэкараў, інструктараў пазашкольнай адукацыі. У жніўні–снежні 1918 г. у Рагачове, Віцебску, Магілёве былі арганізаваны педагагічныя курсы. У ліпені–верасні 1918 г. у Маскве працавалі ўсерасійскія настаўніцкія курсы, на якіх займалася 880 чалавек. У іх ліку былі 53 слухачы з Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай губерняў. Настаўнікам была павышана заработная плата. 25–31 ліпеня 1918 г. адбыўся I з'езд па народнай адукацыі Заходняй вобласці, на якім былі вызначаны задачы школы ў новых умовах. У звароце з'езда да ўсіх настаўнікаў вобласці гаварылася: "Смерць народнай цемры і невуцтву! Няхай жыве святло сапраўдных ведаў народа! Смела і дружна, таварышы, уперад за святую справу!" (Гісторыя Беларускай ССР. Т. 3. С. 114–115).

2 жніўня 1918 г. быў апублікаваны дэкрэт УЦВК "Аб правілах прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы РСФСР", у якім гаварылася аб ліквідацыі ўсіх фармальных перашкод для паступлення працоўных у вышэйшую школу. У Віцебскай і Магілёўскай губернях былі створаны культурныя ўстановы новага тыпу — народныя універсітэты, рабочыя і чырвонаармейскія клубы, хаты-чытальні, народныя бібліятэкі. Разгортвалася работа па ліквідацыі непісьменнасці дарослага насельніцтва. Помнікі мастацтва і гісторыі, бібліятэкі і кнігасховішчы былі аб'яўлены дзяржаўным здабыткам.

Такім чынам, гаспадарчая і культурна-асветная дзейнасць, якая праводзілася на свабоднай ад нямецкіх акупантаў тэрыторыі Беларусі ў 1918 г., была накіравана на аказанне дапамогі Чырвонай Арміі, умацаванне новай, савецкай улады, павышэнне агульнаадукацыйнага і культурнага ўзроўню працоўных.

## § 2. Барацьба беларускага народа супраць нямецкіх акупантаў. Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР)

На тэрыторыі Беларусі, захопленай нямецкімі акупантамі, быў устаноўлены каланіяльны рэжым. Уся ўлада перайшла ў рукі ваеннага камандавання. Разам з акупантамі сюды вярнуліся капіталісты і памешчыкі. Па распараджэнні нямецкага камандавання ім вярталася раней нацыяналізаваная ў іх маёмасць. Капіталісты і памешчыкі жорстка помсцілі працоўным. Яны арганізоўвалі лакауты, закрывалі прадпрыемствы. Падчас акупацыі ў Мінску не працавалі лесапільныя, гарбарны і дражджавы заводы, тытунёвая фабрыка, майстэрні. Аналагічнае становішча стварылася і ў іншых гарадах. На прадпрыемствах рабочы дзень працягваўся 12–14 гадзін. Рабочыя мітынгі, сходы былі забаронены.

8. Зак. 5565

Памешчыкі з дапамогай нямецкіх карных атрадаў забіралі ў сялян зямлю, жывёлу, сельскагаспадарчы інвентар, спаганялі розныя падаткі. Акупанты вывозілі ў Германію матэрыяльныя каштоўнасці, прымусова адпраўлялі на цяжкія работы найбольш фізічна здаровых людзей. Толькі вясной 1918 г. з Мінска было вывезена ў Германію 15 тыс. чалавек. Кошт нарабаваных на Беларусі немцамі матэрыяльных каштоўнасцей у 1918 г. перавышаў 5 млрд марак. У выніку прамысловасць і сельская гаспадарка Беларусі, якія і без таго былі разбураны вайной, усё больш прыходзілі ў заняпад. Архіўныя дакументы сведчаць аб тым, што на захопленай тэрыторыі немцы ўстанавілі жорсткі грабежніцкі каланіяльны рэжым, і аб ніякай свабодзе, пра што пішуць некаторыя гісторыкі, гаварыць не даводзіцца.

На барацьбу з акупантамі ўзняліся працоўныя Беларусі. Пад кіраўніцтвам Паўночна-Заходняга абласнога камітэта партыі бальшавікоў на захопленай ворагам тэрыторыі была створана сетка падпольных партыйных арганізацый. Работу іх узначальвалі тры падпольныя раённыя камітэты РКП(б) — Мінскі, Палескі і Бабруйскі. Асноўную ўвагу яны сканцэнтравалі на тым, каб узняць на барацьбу супраць акупантаў шырокія масы працоўных. Пад іх кіраўніцтвам рабочыя праводзілі забастоўкі. У сакавіку – красавіку 1918 г. успыхнулі забастоўкі на гарбарным і дрожджа-вінакурным заводах у Мінску. Каля трох месяцаў працягвалася стачка друкароў Гомеля. Летам і восенню 1918 г. баставалі рабочыя Гомеля, Гродна і іншых гарадоў. У ліпені забастоўка чыгуначнікаў Гомеля перарасла ва ўзброенае паўстанне супраць нямецкіх захопнікаў.

У цяжкіх умовах барацьбы з акупантамі рабочы клас асобных гарадоў Беларусі змог захаваць свае органы ўлады — Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Актыўна працавалі ў падполлі Мінскі і Гомельскі Саветы. Яны прымалі дзейсны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні рабочых забастовак, дэманстрацый.

Разам з рабочымі супраць акупантаў актыўна змагалася беларускае сялянства. У чэрвені 1918 г. у Слуцкім павеце сялянамі быў знішчаны атрад нямецкіх салдат. У Сенненскім павеце сяляне паўсталі, у Лепельскім — забілі нямецкага каменданта і знішчылі гарнізон.

На захопленай ворагам тэрыторыі разгарнуўся партызанскі рух. Паводле няпоўных звестак, толькі на тэрыторыі Мінскага, Магілёўскага, Бабруйскага, Гомельскага, Рэчыцкага, Слуцкага і Быхаўскага паветаў да восені 1918 г. налічвалася каля 100 партызанскіх атрадаў. Партызанскія атрады дзейнічалі ў Полацкім, Мазырскім, Пінскім, Навагрудскім і іншых паветах. Многія з іх з'яўляліся буйнымі баявымі адзінкамі. Напрыклад, атрад у в. Палессе налічваў 500 чалавек і быў узброены кулямётамі і гарматамі. Больш за 700 чалавек было ў Перастоўскім атрадзе, які дзейнічаў у Гомельскім павеце. У Бабруйскім павеце партызанскім рухам былі ахоплены ўсе воласці. Асабліва актыўна дзейнічалі партызаны Рудабельскай воласці. Тут быў створаны рэўком на чале са славутым партызанскім важаком





А.Салаўём. Рэўком каардынаваў дзеянні партызанскіх атрадаў. На працягу ўсяго перыяду нямецкай акупацыі ў Рудабельскай воласці існавала савецкая ўлада. Пад кантролем партызан знаходзіліся Пінскі, Лунінецкі і Столінскі паветы.

Партызанскі рух на захопленай ворагам тэрыторыі стаў грознай сілай. У Барысаўскім павеце партызаны разграмілі буйны карны атрад немцаў, у Гомелі ўзарвалі гасцініцу і гарадскі тэатр, дзе знаходзілася нямецкае камандаванне, а ў Маладзечне ўзарвалі два склады з артылерыйскімі снарадамі. У Мазыры партызаны, зняўшы ахову, вызвалілі з турмы зняволеных. Нямецкае камандаванне было вымушана стварыць спецыяльныя падраздзяленні для барацьбы з партызанамі ў рэгіёне Ліды, Дзятлава, Шчучына.

Вялікая роля ў барацьбе беларускага народа супраць нямецкіх захопнікаў належала ЦК РКП(б), які ажыццяўляў пастаяннае кіраўніцтва бальшавіцкімі падпольнымі партыйнымі арганізацыямі як праз Паўночна-Заходні абласны камітэт, так і праз сваіх прадстаўнікоў. Для аб'яднання ўсіх сіл на захопленай ворагам тэрыторыі 15 верасня 1918 г. ЦК РКП(б) склікаў у Маскве нараду прадстаўнікоў камуністычных арганізацый, якія працавалі ў нямецкім тыле. Нарада вырашыла стварыць Цэнтральнае бюро камуністычных арганізацый захопленых мясцовасцей. У яго склад увайшлі прадстаўнікі Украіны, Беларусі, Літвы, Латвіі, Эстоніі.

На захопленай нямецкімі акупантамі тэрыторыі Беларусі значна актывізаваўся беларускі нацыянальны рух. Яшчэ да эвакуацыі з Мінска ў Смаленск выканкома і Савета Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронту (выехалі ў ноч з 19 на 20 лютага) кіраўніцтва вядучых беларускіх нацыянальных партый, такіх як Беларуская сацыялістычная грамада і іншых, імкнулася ўзяць у свае рукі ўладу, прычым хацела зрабіць гэта яшчэ да захопу Мінска германскімі войскамі, каб пацвердзіць законнасць сваіх правоў на гэту ўладу інтэрніраваннем кіраўнікоў Аблвыканкомзаха. (Мінск быў захоплены германскімі войскамі 21 лютага 1918 г.) Акрамя гэтага, нацыянальныя беларускія партыі мелі свой кіруючы і выканаўчы орган — выканком Савета, які быў утвораны пасля разгону Усебеларускага з'езда 18 снежня 1917 г. і які чакаў зручнага моманту, каб узяць уладу ў свае рукі. І гэты зручны момант наступіў.

19 лютага 1918 г., яшчэ да захопу нямецкімі войскамі Мінска, выканком Савета Усебеларускага з'езда выдаў загад № 1, дзе гаварылася: "Выканаўчы камітэт Савета Усебеларускага з'езда ўзяў уладу ў свае рукі". На другі дзень, 20 лютага, новы камендант г.Мінска К.Езавітаў, прызначаны выканкомам, выдаў загад № 1 па гарнізону аб тым, што нямецкая армія павінна ўбачыць спакойнае мірнае жыццё насельніцтва, якое не жадае бязглуздай вайны. У другім параграфе загада гаварылася аб увядзенні ваеннага становішча. 21 лютага выканком звярнуўся з Устаўной граматай да народаў Беларусі. "Радзімая старонка наша апынулася ў новым цяжкім становішчы... Мы стаім



*Народны сакратарыят Беларускай Народнай Рэспублікі (няпоўны склад) Злева направа: сядзяць – А.Бурбіс, Я.Серада, Я.Варонка, В.Захарка; стаяць – А.Смоліч, П.Крачэўскі, К.Езавітаў, А.Аўсянік, Л.Заяц. Мінск, 1918 г.*

перад тым, што край наш можа быць заняты нямецкімі войскамі" – такімі словамі пачынаецца гэта першая грамата. Далей гаварылася: "Вы павінны ўзяць сваю долю ў свае ўласныя рукі. Беларускі народ павінен здзейсніць свае права на поўнае самавызначэнне, а нацыянальныя меншасці – на нацыянальна-персанальную аўтаномію. Правы нацый павінна знайсці сваё здзяйсненне шляхам склікання на дэмакратычных пачатках Устаноўчага сойма". Выканком утварыў урад – Народны сакратарыят. Старшынёй урада стаў адзін з кіраўнікоў Беларускай сацыялістычнай грамады Я.Варонка. У склад урада ўвайшло 15 народных сакратароў. Былі ўтвораны сакратарыяты: унутраных спраў, асветы, юстыцыі, народнай гаспадаркі, шляхоў зносін, фінансаў, велікарускіх спраў, пошты і тэлеграфа, кантролю, сельскай гаспадаркі і інш.

Выканком і ўрад (Народны сакратарыят) галоўнай задачай лічылі аб'яднанне на нацыянальнай глебе ўсіх палітычных сіл, якія дзейнічалі на захопленай ворагам тэрыторыі, апрача бальшавікоў. Для гэтага яны імкнуліся заручыцца падтрымкай з боку нямецкіх акупацыйных улад. У мемарандуме Народнага сакратарыята, які быў накіраваны прадстаўніку вышэйшай германскай акупацыйнай улады 28 лютага 1918 г., гаварылася, што германская вайсковая ўлада





павінна аднесціся з павагай да права Беларусі на самавызначэнне і не перашкаджаць дзейнасці вышэйшага правамоцнага органа беларускага народа – Народнага сакратарыята. Пасля перагавораў дэлегацыі Народнага сакратарыята на чале з Я.Варонкам з прадстаўнікамі германскай вайсковай адміністрацыі эсэраўская газета "Дело труда" паведамляла, што ў беларусаў пасля гэтых перагавораў склалася ўражанне, што ў самым хуткім часе народнаму сакратарыяту Беларусі ўдасца знайсці агульную мову з германскай акупацыйнай уладай.

9 сакавіка 1918 г. адбылося пашыранае пасяджэнне выканкома Савета Усебеларускага з'езда (тады ў яго складзе быў 71 чалавек). На пасяджэнні была прынята 2-я Устаўная грамата да народа Беларусі. У гэтым дакуменце Беларусь абвяшчалася Народнай Рэспублікай. Прэзідыум выканкома ўзначаліў І.Серада, які, як і Я.Варонка, прадстаўляў правае крыло БСГ. Апрача агульнапалітычнага ўступу, грамата змяшчала 8 пунктаў, у якіх вызначаліся асноўныя задачы абвешчанай рэспублікі. Прывядзём іх поўнасцю:

"1. Беларусь у рубяжох расселення і лічбеннай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнаю Рэспублікай.

2. Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Устаноўчы сойм Беларусі, скліканы на асновах агульнаго, роўнаго, простаго, патаемнаго і прапарцыянальнаго выбарчага права, не зважаючы на пол, народнасць і рэлігію.

3. Да часу, пакуль зьбярэцца Устаноўчы сойм Беларусі, законадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Усебеларускога Зьезду, дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меньшасцяў Беларусі.

4. Спаўняўчая і адміністратыўная ўлада ў Беларускай Народнай Рэспублікі належыць Народнаму Сэкрэтарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю Зьезду і перад ёю трымае атвет.

5. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчаецца вольнасць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў: безумоўная вольнасць сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня.

6. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію: абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.

7. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі.

8. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўстанаўляецца найбольшы 8-гадзіновы рабочы дзень".

Абвяшчаючы пералічаныя правы і свабоды, выканаўчы камітэт абавязаўся падтрымліваць законны парадак у рэспубліцы, абараняць інтарэсы ўсіх яе грамадзян. Давалася таксама абяцанне ў хуткім часе склікаць Устаноўчы сойм Беларусі. Выканком звярнуўся да "ўсіх

верных сыноў беларускай зямлі" аказаць дапамогу ў цяжкай і адказнай працы па пабудове нацыянальнай дзяржаўнасці.

Як бачым, 1-я і 2-я Устаўныя граматы да народа Беларусі вызначалі асноўныя прынцыпы дзяржаўнага ладу рэспублікі, яе тэрыторыю, правы і свабоды грамадзян, а таксама формы ўласнасці. Аднак трэба адзначыць, што ў граматах не былі дастаткова выразна акрэслены сацыяльна-палітычныя задачы.

Устаўныя граматы падтрымалі эсэры і меншавікі, якія да гэтага часу адмаўлялі саму ідэю беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці. Таму выпрацоўваецца агульная тактыка ў нацыянальным пытанні. На яе аснове стаў умацоўвацца саюз беларускіх палітычных партый з расійскімі сацыялістычнымі партыямі. Агульным для іх было тое, што яны выступалі за ідэю склікання Устаноўчага схода, парламенцкую рэспубліку, супраць курсу бальшавікоў на сусветную рэвалюцыю, класавую барацьбу. Па ініцыятыве ЦК БСГ 19 сакавіка 1918 г. выканком быў перайменаваны ў Раду БНР. Было распрацавана і прынята палажэнне "Аб вярхоўнай уладзе Беларускай Народнай Рэспублікі". У ім гаварылася, што ніводны закон не будзе мець моцы без зацвярджэння яго Радай рэспублікі.

Які быў сацыяльна-палітычны склад Рады? Акрамя асноўнага ядра, якое складалі 56 членаў Савета Усебеларускага з'езда, у Раду ўваходзілі па прынцыпу дэлегавання прадстаўнікі іншых арганізацый: мясцовых беларускіх рад, земскага і гарадскога самакіравання, мінскага праваслаўнага брацтва, польскай "Рады зямлі мінскай", яўрэйскай абшчыны, гандлёва-прамысловых арганізацый, прафсаюзаў рабочых, саюза кааператараў Беларусі...

Працоўным масам, якія складалі больш за тры чвэрці насельніцтва краю, адводзілася вельмі мала месц. Саветы рабочых і сялянскіх дэпутатаў увогуле не ўлічваліся, хоць яны працягвалі існаваць. Планавалася, што Рада будзе мець у сваім складзе каля 200 чалавек. Аднак гэтага зрабіць не ўдалося. Агульная колькасць яе складалася з 71 чалавека. Некаторыя арганізацыі адмовіліся дэлегаваць у яе склад сваіх прадстаўнікоў.

Паводле палітычнай прыналежнасці члены Рады адносіліся ў асноўным да БСГ. Паставіўшы перад сабой мэту ўтварэння незалежнай Беларускай дзяржавы, гэта партыя адмовілася ад свайго праграмнага патрабавання аб тым, што Беларусь павінна заставацца аўтаномнай адзінкай у межах дэмакратычнай Расійскай рэспублікі. Што датычыцца прадстаўнікоў яўрэйскіх і польскіх партый правасацыялістычнай арыентацыі, якія ўваходзілі ў Раду, то яны ідэю самастойнай Беларускай дзяржавы прызнавалі часткова або зусім не прызнавалі.

Такі склад Рады захаваўся да 24 сакавіка 1918 г., г. зн. да таго моманту, калі паўстала пытанне аб поўнай незалежнасці Беларусі. Пасля заключэння 3 сакавіка 1918 г. Савецкай Расіяй і кайзераўскай Германіяй Брэсцкага мірнага дагавора Рада выказала заклапочанасць





наконт этнічнай і тэрытарыяльнай цэласнасці беларускай нацыі. Не маючы магчымасці змяніць умовы Брэсцкага дагавора, фракцыя БСГ у Радзе прапанавала ідэю абвяшчэння незалежнасці БНР у існуючых межах пражывання беларусаў, кіруючыся 2-й Устаўной граматай.

У выніку доўгіх спрэчак сесія Рады большасцю галасоў прыняла рэзалюцыю, падрыхтаваную "незалежнікамі". У ёй гаварылася: "Рада Беларускай Народнай Рэспублікі аб'яўляе Рэспубліку незалежнай, аб чым выдае адпаведную Устаўную грамату".

25 сакавіка 1918 г. на сесіі Рады была абмеркавана і прынята 3-я Устаўная грамата. Вось яе поўны тэкст: "Год назад народы Беларусі разам з народамі Расіі скінулі ярмо расійскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь, не пытаючыся народа, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у асобе свайго Устаноўчага сойма, пастановяць аб будучых дзяржаўных сувязях Беларусі. На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя сувязі, якія далі магчымасць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берэсьці, што забівае насмерць беларускі народ, дзелючы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсці ў адносіны з зацікаўленымі краінамі, прапануючы ім перагледзець тую частку Берэсцейскага трактата, якая датычыць Беларусі, і падпісаць мірную ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічэбную перавагу беларускі народ: Магілёўшчыну, беларускія часці Міншчыны, Гродзеншчыны (з Гродна, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часці суседніх губерняў, заселеныя беларусамі.

Беларуская Народная Рэспубліка пацверджвае ўсе тыя правы і вольнасці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаны Устаўной граматай ад 9 сакавіка 1918 г.

Абвешчваючы аб незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры здзейсніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы" (Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 1. С. 71–72).

Прыведзены тэкст 3-й Устаўной граматы БНР быў падрыхтаваны фракцыяй БСГ. Грамата павінна была завяршыць працэс самавызначэння і канчаткова канстытуіраваць утварэнне беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці. Галоўным у грамаце было абвяшчэнне незалежнасці Беларусі. Ад каго? У першую чаргу ад Расіі. "Незалежнікі" выступалі за разрыў усякіх адносін з Расіяй. Чаму? На гэта пытанне пераканаўча адказаў адзін з актыўных дзеячаў БНР

Я.Лёсік. Ён пісаў: “На каго арыентавацца: на Расію ці на Польшчу? Большасць “нашаніўцаў”, у тым ліку і я, схіляліся ў бок Польшчы, тлумачачы гэта перш за ўсё тым, што Польшча сама перажыла нацыянальную няволю і з ёй лягчэй будзе дамовіцца... Паланізацыя не так страшная, таму што большасць беларускага насельніцтва супраць польскай мовы... Для Беларусі больш небяспечна русіфікацыя, таму што сялянства і гарадское насельніцтва ахвотна прымае рускую мову і русіфікуецца” (Нёман. 1992. № 10. С. 142.). Я.Лёсік не адмаўляў і небяспекі паланізацыі.

Каб забяспечыць поўную незалежнасць, дзеячы БНР узялі накірунак на палітычную ізаляцыю Беларусі ад рускіх і польскіх нацыянальных уздзеянняў. Было вырашана па магчымасці выкарыстаць нямецкую акупацыю. Лідэры БНР лічылі, што пры дапамозе ўрада кайзера можна дасягнуць сваёй мэты. Падобная тактыка прывяла да расколу фракцыі БСГ — фактычнага ініцыятара абвяшчэння незалежнасці БНР. Не прынялі яе і эсэры, меншавікі і яўрэйскія сацыялісты. Так, эсэры прапанавалі абмеркаваць на пасяджэнні Рады пытанне аб “федэрацыі БНР з Велікаросіяй, Украінай і Літвой”. Але і на гэты раз прыхільнікі поўнай незалежнасці не прынялі дадзенай прапановы. Яны лічылі, што на разрыў з Расіяй прымусілі іх бальшавікі, якія кінулі Беларусь на волю лёсу, што цяпер барацьба за захаванне тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі, парушанай Брэсцкім мірам, непазбежна. Таму Рада не прызнала “чужога ўрада”, які падпісаў за Беларусь “трактат у Берэсьці, што забівае насмерць беларускі народ, дзелючы зямлю яго на часткі”. Рада дала даручэнне ўраду – Народнаму сакратарыяту – паставіць пытанне перад зацікаўленымі бакамі аб пераглядзе той часткі Брэсцкага мірнага дагавора, якая датычыла Беларусі. Рада прапанавала, каб БНР самастойна падпісала мірнае пагадненне з савецкім урадам і ўрадамі Аўстра-Германскага блока. Рада лічыла, што толькі так можна аб'яднаць у адзінае дзяржаўнае цэлае ўсе беларускія тэрыторыі, разарваныя Германіяй і Савецкай Расіяй. Думаецца, што ў канкрэтных абставінах 1918 г. здзейсніць гэта было немагчыма.

Як аднесліся і якую ацэнку далі акту абвяшчэння БНР і яе дзейнасці афіцыйныя савецкія органы? Трэба адзначыць, што пасля 25 сакавіка 1918 г. па ўсёй Беларусі, як на захопленай ворагам тэрыторыі, так і свабоднай, праводзіліся шматлікія канферэнцыі, мітынгі, дзе былі прыняты рэзалюцыі, адозвы, у якіх асуджалася згодніцтва Рады БНР з акупантамі, разрыў з Расіяй. Паказальным у гэтым плане з'явіўся II з'езд Саветаў Заходняй вобласці, які адбыўся 10–14 красавіка 1918 г. У прынятай на з'ездзе дэкларацыі “Да беларускіх рабочых і сялян” Рада вызначалася як контррэвалюцыйная, а яе кіраўнікі — як ворагі савецкай сацыялістычнай улады. Далей у дэкларацыі гаварылася, што “беларускія пралетарыі не аддзяляюць сябе ад Вялікай Федэратыўнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і ад рабочых і сялян усёй астатняй Расіі”. З'езд асудзіў “ганебныя” дзеянні





“буржуазных наймітаў, членаў Беларускай рады” і заявіў, што Беларуская рада — група самазванцаў і што народы Беларусі не надаюць ніякага значэння тым дзеянням і абавязацельствам, якія будуць зроблены ад іх імя Беларускай радай.

Якія адносіны да БНР і яе кіруючых органаў былі з боку кайзераўскай Германіі? Перш-наперш трэба адзначыць, што германская акупацыйная адміністрацыя спакойна рэагавала на акт абвяшчэння БНР. Яна добра разумела, што ідэя нацыянальнай дзяржаўнасці ва ўмовах грамадзянскай вайны і супрацьстаяння розных палітычных і сацыяльных сіл ніякіх поспехаў мець не будзе. Таму галоўнай лініяй у нямецкай акупацыйнай палітыцы ў адносінах да БНР было непрызнанне яе афіцыйным Берлінам. Гэта палітыка грунтавалася на ўзятым Германіяй абавязацельстве не падтрымліваць ніякіх сепаратысцкіх тэндэнцый у расійскіх межах, зафіксаваным Брэсцкім мірным дагаворам. У артыкуле 4 дадатковага руска-германскага дагавора, прынятага 27 жніўня 1918 г., гаварылася, што “Германія ні ў якім разе не будзе ўмешвацца ў адносіны паміж Рускай дзяржавай і яе асобнымі абласцямі... не будзе ні выклікаць, ні падтрымліваць утварэнне самастойных дзяржаўных арганізмаў у гэтых абласцях” (Спадчына. 1993. № 3. С. 77).

Беларусь для Германіі ўяўлялася не інакш як толькі часткай тэрыторыі Расійскай дзяржавы. Тым не менш у выніку актыўных дзеянняў з боку кіраўніцтва БНР германскія ўлады праз камандаванне 10-й нямецкай арміі, якое знаходзілася ў Мінску, пайшлі на частковую ўступку, сталі шукаць у гэтым выгаду для сябе. Як адзначае польскі даследчык Ю.Туронак, паступова адбылася эвалюцыя поглядаў на беларускую праблему. Перш за ўсё Берлін хацеў праз свабодную, незалежную беларускую тэрыторыю паміж Літвой і Украінай стварыць для сябе калідор у Расію, каб абмінуць транзітныя дарогі праз новастворaныя дзяржавы і мець беспасрэдніцкія зносіны з вялікім расійскім рынкам. Аб гэтым пісаў таксама адзін з дзеячаў БНР ксёндз В.Гадлеўскі ў сваім рэфераце, прачытаным ім 25 сакавіка 1934 г. у Вільні.

Другой палітычнай мэтай была падрыхтоўка Рады БНР і яе сакратарыята да магчымага прыняцця імі на сябе ўсёй улады на тэрыторыі Беларусі пасля таго, як акупацыйныя войскі пакінуць Беларусь. Германія, такім чынам, лічыла, што БНР можа стаць дружалюбнай дзяржавай, прызнанне якой стане магчымым толькі ў выпадку станоўчых для яе вынікаў вайны, чаго, як вядома, не адбылося.

Менавіта гэтымі абставінамі тлумачыцца той факт, што германскае ваеннае камандаванне ішло насустрач, шукала згоды з кіраўніцтвам БНР. Ужо 27 сакавіка 1918 г. была аб'яўлена дэкларацыя, у якой прызнаваліся ўсе краявыя структуры ўлады. Ім перадаваліся некаторыя адміністрацыйныя функцыі з рук акупацыйнай улады. Рада атрымала поўную самастойнасць у галіне мясцовага гандлю, прамысловасці, аховы грамадскага парадку. Для рэгулявання

адносін насельніцтва і акупацыйных улад германскае камандаванне дало згоду на ўтварэнне груп беларускіх дарадчыкаў пры павятовых камендатурах.

Аднак найбольшую самастойнасць Рада БНР атрымала ў галіне культуры і адукацыі. На працягу ўсяго 1918 г. у Мінску і Вільні на старонках перыядычнага друку ішла распрацоўка беларускай літаратурнай мовы. Пэўны ўклад у гэта ўнеслі Я.Станкевіч, А.Луцкевіч, Я.Лёсік і інш. Вынікам дадзенай працы з'явілася абвяшчэнне ў пачатку красавіка 1918 г. на адным з пасяджэнняў Рады БНР беларускай мовы дзяржаўнай. З пачатку красавіка 1918 г. пры Народным сакратарыяце асветы БНР сталі працаваць курсы беларусазнаўства, дзе чыталіся лекцыі па беларускай гісторыі, геаграфіі, мове, літаратуры. За месяц на іх паступіла каля 200 чалавек. Важнай галіной дзейнасці Сакратарыята асветы было адраджэнне нацыянальнай школы. Калі на пачатку 1918 г. у Мінску налічвалася толькі 4 нацыянальныя школы, то ўжо ў чэрвені іх колькасць вырасла да 20. Шырока ажыццяўлялася выдавецкая справа. У 1918 г. працавала 11 выдавецтваў. У Мінску адкрыліся Беларускі педагагічны інстытут, рэктарам якога стаў прафесар В.Іваноўскі, выкладчыкамі – Я.Карскі, Б.Тарашкевіч, У.Ігнатоўскі і інш. Працавалі беларускі тэатр і іншыя ўстановы культуры. Выдаваліся беларускамоўныя газеты і часопісы.

Народны сакратарыят БНР атрымаў ад нямецкага камандавання некаторыя правы і ў галіне міжнароднай палітыкі. БНР мела сваіх прадстаўнікоў на Украіне, у Літве, працавалі дыпламатычныя місіі ў Варшаве і Берліне. Увогуле ж міжнародныя справы БНР складваліся вельмі дрэнна. Ва ўмовах вайны з Германіяй і грамадзянскай вайны ў Расіі ўрады краін Антанты і ЗША не праявілі зацікаўленасці да БНР, каб не пазбавіць сябе адчыненых дзвярэй для інтэрвенцыі ў Савецкую Расію. Безвыніковым быў зварот урада БНР да ўрада Германіі з просьбай аб прызнанні самастойнасці Беларусі і ўстанаўленні з мясцовымі нямецкімі ўладамі такіх адносін, якія дазволілі б БНР мець войска для ўмацавання сваёй улады. На пасланыя ў Берлін тры граматы рэйхсканцлер паведаміў Народнаму сакратарыяту, што Берлін лічыць Беларусь часткай Савецкай Расіі і што без урада Леніна вырашыць гэта пытанне не можа.

Апрача таго, германскае ваеннае камандаванне на тэрыторыі Беларусі стала з цягам часу ўсё больш адкрыта падтрымліваць "Мінскае беларускае народнае прадстаўніцтва" на чале з памешчыкам Р.Скірмунтам, прадстаўніком чыноўніцтва П.Алексюком, генералам Г.Кандратовічам, ксяндзом В.Гадлеўскім і інш. Да іх далучылася і група правых дзеячаў БСГ. Гэта "прадстаўніцтва" ставіла перад сабой мэту ліквідаваць савецкую ўладу на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Прадстаўнікі групы сталі ўмацоўваць свае пазіцыі ў Радзе БНР.

Вось у такіх складаных умовах Рада БНР пайшла на рашучы крок, пакінуўшы ў гісторыі вельмі сумнае ўражанне. 25 красавіка 1918 г.





на закрытым пасяджэнні Рады быў прыняты тэкст тэлеграмы германскаму імператару Вільгельму, у якой выказвалася падзяка за вызваленне Беларусі ад бальшавіцкага прыгнёту і анархіі. У тэлеграме гаварылася: "Рада Беларускай Народнай Рэспублікі дэкларавала незалежнасць цэласнай, непадзельнай Беларусі і просіць Вашу імператарскую вялікасць замацаваць яе намаганні па дасягненні дзяржаўнай незалежнасці ў саюзе з Германскай імперыяй". Тэкст заканчваўся наступнымі словамі: "Толькі пад апекай Германскай дзяржавы бачыць Рада добрую волю сваёй краіны ў будучым". Тэлеграму падпісалі старшыня Рады І.Серада, старшыня Народнага сакратарыята Я.Варонка, члены Рады Р.Скірмунт, П.Аляксюк, П.Крачэўскі, Я.Лёсік, А.Аўсянік. Пазней удзельнікі гэтага пасяджэння нагадвалі, што ініцыятарам пасылкі тэлеграмы быў Р.Скірмунт. Спачатку не ўсе былі згодны з ім. Затым, аднак, не знаходзячы іншага выйсця з узнікшых абставін усеагульнага непрызнання, члены Рады пайшлі на такі крок. Немалаважную ролю тут адыгралі прыклады Літвы, Украіны і Польшчы. Гэтыя краіны былі прызнаны Германіяй.

Памылковасць пасылкі такой тэлеграмы прызнавалі многія відныя дзеячы БНР. Так, Я.Лёсік пісаў, што "пасылка тэлеграмы была памылкай" і што гэта была "адной з многіх спроб шукання выйсця з цяжкага становішча, у якім апынуўся тады беларускі народ".

Пасылка Радай тэлеграмы выклікала востры палітычны крызіс у самой Радзе, яе пакінулі эсэры, меншавікі, яўрэйскія сацыялісты. Стаў распадацца Народны сакратарыят. Адзін з лідэраў БСГ, народны сакратар па справах земляробства Т.Грыб, заявіў: "Я пратэстую супраць такой тэлеграмы германскаму манарху ад імя ўсяго беларускага народа і лічу здрадай рэвалюцыйнаму сацыялізму ўваходзіць у саюз з манархам і аддаваць пад апеку імперыялістычнай буржуазіі Германіі наш шматмільённы працоўны сялянскі народ... Я, як сацыяліст і рэвалюцыянер, выходжу са складу Народнага сакратарыята" (Нёман. 1992. № 10. С. 144).

Крызіс прывёў да расколу БСГ. З яе прыхільнікаў утварыліся новыя партыі: сацыялістаў-рэвалюцыянераў, сацыял-дэмакратаў, сацыялістаў-федэралістаў. Тэлеграма выклікала новую хвалю пратэсту амаль усяго грамадства. На шматлікіх мітынгах і сходах у сёлах і гарадах Віцебскай і Магілёўскай губерняў прымаліся пастановы і рэзалюцыі, у якіх пасылка тэлеграмы імператару Вільгельму называлася здрадніцтвам з боку Рады. Пратэставалі маракі-беларусы Балтыйскага флоту і беларусы, якія жылі ў Кранштаце.

У выніку складаных абставін у Радзе сталі замацоўвацца кансерватыўныя сілы. Вымушаны быў скласці свае паўнамоцтвы Народны сакратарыят. Па прапанове акупацыйнай адміністрацыі фарміраванне новага складу сакратарыята ўзяў на сябе Р.Скірмунт. Паглыбленню крызісу кіруючых органаў БНР садзейнічала мацнеючая барацьба народных мас супраць акупантаў. Яны патрабавалі больш актыўнага супраціўлення акупацыйнаму рэжыму. Рада ж працягвала сваю

ізаляцыйную палітыку. 12 ліпеня 1918 г. новы сакратарыят на чале з Р.Скірмунтам выдаў загад № 1, які прызнаў для Беларусі "ўсе дэкрэты ўрада Леніна, а таксама былых народных камісараў Заходняй вобласці і фронту несапраўднымі". Да ўстанаўлення законаў БНР прапанавалася ўсім установам карыстацца законамі "Часовага былога Расійскай рэспублікі ўрада Керанскага".

Між тым летам 1918 г. рэзка змянілася міжнароднае становішча. Поспехі Чырвонай Арміі на франтах грамадзянскай вайны, барацьба працоўных у тыле акупантаў, узмацненне рэвалюцыйных настрояў сярод нямецкіх салдат вымусілі ўрад Германіі пайсці на тое, каб вывесці войскі з часткі захопленай тэрыторыі. 27 жніўня 1918 г. савецкі ўрад падпісаў з Германіяй дадатковы дагавор, паводле якога яна пагадзілася вывесці свае войскі з тэрыторыі Беларусі на ўсход ад р.Бярэзіны. Адвод германскіх войск пачаўся ў канцы верасня 1918 г. А 26–27 верасня 1918 г. часці Чырвонай Арміі ўступілі на тэрыторыю Лепельскага і Сенненскага паветаў. У кастрычніку 1918 г. былі вызвалены Аршанскі і Магілёўскі паветы.

Да пачатку лістапада 1918 г. рэзка змянілася ўнутрыпалітычнае і міжнароднае становішча Германіі. 11 лістапада 1918 г. германскае камандаванне падпісала з краінамі Антанты акт аб капітуляцыі. Паражэнне ў вайне, цяжкі эканамічны стан яшчэ больш узмацнілі незадаволенасць нямецкіх працоўных. У краіне шырыўся рэвалюцыйны рух, які перарос у Лістападаўскую буржуазную рэвалюцыю. Урад Вільгельма II быў звергнуты.

Паражэнне германскіх войск на Заходнім фронце і Лістападаўская рэвалюцыя далі магчымасць савецкаму ўраду 13 лістапада 1918 г. скасаваць Брэсцкі мірны дагавор. Паводле дэкрэта УЦВК, усе абавязацельствы савецкай улады наконт тэрытарыяльных уступак і выплаты кантрыбуцыі аб'яўляліся несапраўднымі. Германскае камандаванне, баючыся канчатковага развалу акупацыйнай арміі, 16 лістапада 1918 г. аддало загад вывесці яе з Расіі. З гэтага моманту пачаўся новы этап у вызваленні беларускай зямлі ад акупантаў. Прасоўваючыся за нямецкімі войскамі, Заходняя армія хутка ачышчала ад праціўніка тэрыторыю Беларусі. 21 лістапада 1918 г. былі вызвалены Полацк, Жлобін, 28 лістапада – Бабруйск, 2 снежня – Барысаў, 5 снежня – Асіповічы і Калінкавічы, 8 снежня – Слуцк, 10 снежня Чырвоная Армія ўвайшла ў Мінск. Да сярэдзіны лютага 1919 г. ад нямецкіх акупантаў была ачышчана амаль уся тэрыторыя Беларусі. Чырвоная Армія вызваліла большую частку Украіны, Эстоніі і Літвы. На вызваленай тэрыторыі Беларусі была адноўлена савецкая ўлада. Ствараліся яе органы: ваенныя саветы, рэвалюцыйныя камітэты, выканкомы Саветаў. Праводзіліся рэвалюцыйныя пераўтварэнні ў народнай гаспадарцы.

Вызваленне тэрыторыі Беларусі ад нямецкіх войск падштурхнула Раду БНР, якая не мела ўзброеных сіл, каб замацаваць сваю ўладу,





звярнуцца за дапамогай да іншых дзяржаў. 20 кастрычніка 1918 г. яна накіравала пісьмо канцлеру Германіі яшчэ з адным прашэннем "афіцыйна прызнаць незалежнасць Беларусі" і даць магчымасць беларускаму ўраду здзейсніць свае функцыі дзяржаўнага будаўніцтва і кіравання, "арганізаваць узброеную сілу з мэтай самаабароны". У той жа дзень было накіравана пісьмо прэзідэнту ЗША Вільсану, а таксама іншым нейтральным і ваюючым краінам з просьбай выратаваць безабаронную Беларусь, забяспечыць ёй знешнюю недатыкальнасць, прызнаць яе самастойнасць і незалежнасць, дапамагчы ўзяць у рукі Рады ўсю грамадзянскую ўладу. Дэлегацыя Рады БНР і літоўскай Тарыбы была накіравана ў Лондан, каб заручыцца падтрымкай урада Лойд-Джорджа. 28 лістапада 1918 г. была прынята чарговая, чацвёртая па ліку, грамата з заклікам да беларускага народа "злучаць свае сілы, ствараючы на месцах Беларускія рады і звязваючы іх з Радаю рэспублікі", "бараніць сваю волю і незалежнасць".

Усе гэтыя захады Рады БНР станоўчых вынікаў не далі. Нічога не заставалася, як пайсці на перагаворы з СНК РСФСР. Справа ў тым, што, хоць Рада і абвясціла 25 сакавіка 1918 г. незалежнасць БНР, беларускія губерні па-ранейшаму заставаліся часткай РСФСР. Уладу апошняй на гэтыя губерні прызнаваў урад Германіі, а таксама ўрады краін Антанты. Гэта разумелі лідэры БНР. Першая спроба дамовіцца аб прызнанні БНР з боку РСФСР была зроблена яшчэ ў кастрычніку 1918 г. У Кіеве адбыліся перагаворы паміж старшынёй урада БНР А.Луцкевічам і прадстаўніком РСФСР Х.Ракоўскім. Старшыня ўрада БНР не быў супраць федэрацыі з Савецкай Расіяй і ўвядзення савецкай канстытуцыі на Беларусі. Ён прасіў выканаць толькі адну ўмову: прызнаць незалежнасць Беларусі. Калі б гэта ўмова была прынята, піша ў сваім дзённіку А.Луцкевіч, то Рада БНР магла б перадаць уладу Саветам (якой у яе не было).

У лістападзе 1918 г. А.Луцкевіч накіраваўся ў Маскву. Аднак і гэта паездка была безвыніковая. Яго спроба вывесці Раду з палітычнай ізаляцыі не ўдалася. Крызіс Рады стаў яшчэ больш паглыбляцца. Каб выратаваць яе ад канчатковага распаду, А.Луцкевіч ідзе яшчэ на адзін крок. Ён як старшыня Віленскай беларускай рады пачаў перагаворы з літоўскай Тарыбай — органам улады, створаным у Літве яшчэ ў 1916 г. Перагаворы закончыліся 27 лістапада 1918 г. Па дамоўленасці з Тарыбай у яе склад былі ўведзены шэсць членаў Віленскай беларускай рады, у тым ліку І.Луцкевіч, В.Ластоўскі і інш. Адначасова ва ўрадзе Літвы ўтвараецца Міністэрства беларускіх спраў, яго ўзначаліў Я.Варонка.

Пераехаўшы ў Гродна, члены Рады БНР на нарадзе 21 снежня 1918 г. утварылі Савет дзяржаўнай абароны на чале з В.Ластоўскім.

Яму былі перададзены 1-ы беларускі пяхотны полк, асобны пяхотны батальён, гродзенская камендатура і беларускі гусарскі эскадрон. Яны павінны былі абараняць БНР, але зрабіць гэтага не маглі.

Кіраўнік Міністэрства беларускіх спраў ва ўрадзе Літвы Я.Варонка звярнуўся да ўпаўнаважанага германскага ўрада ў Літве А.Цымерле з просьбай аб дапамозе. А.Цымерле адказаў, што ён нічога не можа зрабіць, таму што германскі ўрад па патрабаванні камандуючага аб'яднанымі войскамі краін Антанты маршала Фоша абавязаны з 25 студзеня 1919 г. прапускаць польскія войскі на ўсход. Тым часам польскія легіянеры набліжаліся да Гродна. У сувязі з гэтым у лютым 1919 г. урад БНР выехаў з Гродна ў Вільню. Далейшая яго дзейнасць адбывалася ва ўмовах польскай акупацыі Беларусі.

Якія высновы трэба зрабіць па факту абвяшчэння БНР і дзейнасці яе кіруючых органаў у часы нямецкай акупацыі тэрыторыі Беларусі? У сучаснай літаратуры існуюць тры пункты погляду па гэтым пытанні:

1. Абвяшчэнне БНР з'яўлялася спробай некаторых палітычных партый здзейсніць самавызначэнне беларускага народа на аснове буржуазнай дзяржаўнасці. Аўтары гэтага пункту погляду лічаць, што "беларускія нацыянал-экстрэмісты прынялі захады да стварэння дзяржавы з капіталістычным ладам, з панаваннем памешчыкаў і буржуазіі, з эксплуатацыяй і прыгнечаннем працоўнага люду" (Звязда. 1993. 11 сак.).

2. БНР – незалежная самастойная дзяржава. "Гэта быў вынік самаахвярнага змагання лепшых сыноў нашай зямлі за шчасце і волю" (Звязда. 1993. 4 лют.).

3. Абвяшчэнне БНР і ўтварэнне БССР – працэсы аднаго накірунку, якія ў якасных адносінах істотна адрозніваліся. Але гэта была спроба вырашэння праблемы беларускай дзяржаўнасці, якая шмат вякоў стаяла перад нашым народам. Нягледзячы на тое, што дзеячы БНР спрабавалі вырашыць гэту праблему на прынцыпова іншай аснове, як бальшавікі, "абвяшчэнне БНР паскорыла ў самым канцы 1918 г. падрыхтоўку датэрмінoвага ўтварэння Беларускай ССР" (Звязда. 1993. 25 сак.).

На нашу думку, станаўленне беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці нельга ўпісваць у аднабаковыя схемы, маляваць адным колерам. Гэта вельмі складаны гістарычны працэс, які праходзіў ва ўмовах вострай палітычнай барацьбы. Трэба ўлічваць многія аб'ектыўныя і суб'ектыўныя абставіны, сярод якіх вырашальнае значэнне мелі знешні фактар, асаблівасці нацыянальна-вызваленчага руху ў рэгіёне, дзейнасць класаў і сацыяльных груп і інш. Аналіз гэтых абставін дазваляе зрабіць наступныя высновы:

1. Абвяшчэнне БНР з'явілася першай спробай рэалізацыі на практыцы беларускай ідэі, што ўзнікла яшчэ на пачатку XIX ст., сукупнасці ўсіх трох яе асноватворных элементаў – нацыянальнай свядомасці, нацыянальна-культурнага адраджэння і нацыянальнай





дзяржаўнасці. Гэта сведчанне таго, што беларускі нацыянальны рух у той час набыў такую моц і размах, што аказаўся здольным паспрабаваць здзейсніць жаданую ідэю. Аднак некаторыя элементы беларускай ідэі не мелі ў рамках БНР поўнага ўвасаблення. Чаму? Таму што БНР абвяшчалася ва ўмовах акупацыі беларускіх земель войскамі кайзераўскай Германіі. Ніводная з дзяржаў нідзе і ніколі не была зацікаўлена ў прызнанні рэальнай незалежнасці захопленых народаў, стварэнні імі сваёй, сапраўды незалежнай дзяржавы. Нацыянальна-культурная аўтаномія — вось мяжа свабоды выбару, якую яна ім дае, зыходзячы перш за ўсё з уласных геапалітычных інтарэсаў. І таму ў БНР яскрава выявілася тэндэнцыя да абмежавання працэсу нацыянальнага самавызначэння беларускага народа выключна сферай адукацыі, асветы, культуры.

Такая палітыка германскіх акупацыйных улад мела сваё тлумачэнне: не зацікаўленыя ў стварэнні сапраўды незалежнай беларускай дзяржавы і не здольныя германізаваць захопленую тэрыторыю, яны вымушаны былі даць выхад выбуховай нацыянальна-вызваленчай энергіі народа і такім чынам аслабіць яго натуральнае супраціўленне акупацыйнаму рэжыму.

Трэба мець на ўвазе, што на захопленай немцамі беларускай тэрыторыі быў устаноўлены жорсткі акупацыйны рэжым. У такіх умовах Рада БНР не магла аказаць сваім грамадзянам дзейснай дапамогі, выратаваць іх ад знішчэння, вывазу ў Германію, прадухіліць разбурэнне нацыянальнага багацця.

2. БНР не магла здзяйсняць свае функцыі і таму, што яе Рада аб'явіла аб разрыве сувязей з Расіяй, не ўлічваючы настрою беларускага народа. Гэта рашэнне было прынята палітычнай нацыянальнай элітай без актыўнага ўдзелу народа. Больш таго, былі праігнараваны рашэнні Усебеларускага з'езда (снежань 1917 г.). З'езд, як ужо адзначалася, вызначыў наступныя мэты: здзяйсненне на Беларусі поўнага нацыянальна-рэвалюцыйнага народаўладдзя; утварэнне самастойнай Беларускай рэспублікі, не парываючы сувязей з Расіяй; вызначэнне стану і правоў Беларускай рэспублікі павінны вызначацца сваім юрыдычным статусам; аднаўленне гаспадарчага і культурнага жыцця на новай аснове. Канчаткова пытанне аб канстытуіраванні беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці павінен быў вырашыць устаноўчы з'езд.

Ад гэтых рашэнняў Рада адступілася. Яна ўзяла курс на разрыў сувязей з Расіяй. Гэты курс, як вядома, не падтрымалі эсэры, меншавікі, яўрэйскія сацыялісты, якія адстойвалі інтарэсы і думку па гэтым пытанні значнай часткі насельніцтва Беларусі. Спроба наладзіць сувязі з Расіяй у канцы 1918 г. станоўчых вынікаў не дала. Ужо было позна.

3. Ініцыятарамі абвяшчэння БНР, а затым аб'яўлення яе незалежнасці былі партыі сацыялістычнай накіраванасці, і ў першую чаргу Беларуская сацыялістычная грамада. Калі б яна працяг-

вала ажыццяўляць свой першапачатковы курс падтрымкі барацьбы працоўных мас з акупантамі, не парываючы даўніх сувязей з Расіяй, то магла б разлічваць на разуменне сваіх дзеянняў з боку беларускага народа. Аднак гэтага не здарылася. Курс быў узяты на супрацоўніцтва з германскім кайзерам, што прывяло Грамаду спачатку да расколу, а затым да яе знікнення з гістарычнай арэны. Як пісаў адзін з левых дзеячаў Рады С.Рак-Міхайлоўскі членам ЦК БСГ наконт тэлеграмы імператару Вільгельму, пад якой паставілі свае прозвішчы і члены ЦК, "Грамада гэтай тэлеграмай сябе загубіла".

Сёння некаторыя гісторыкі лічаць, што тэлеграма кайзеру Вільгельму, з-за якой тады раскалолася Рада БНР, патрабуе больш глыбокага канкрэтна-гістарычнага асэнсавання. Яны мяркуюць, што галоўная мэта тэлеграмы была ў тым, каб звярнуць увагу кіраўніцтва Германіі, сусветнай грамадскасці на неабходнасць самастойнага развіцця Беларусі, стварэння нацыянальнай дзяржаўнасці беларускага народа. Але нельга пагадзіцца з тым, што Рада прасіла абароны ў акупантаў, якія ў гэты ж час рабавалі беларускі народ, кідалі яго ў турмы, расстрэльвалі, разбуралі яго нацыянальныя багацці. А "свая" ўлада клікала не на барацьбу з насільнікамі, а на саюз з імі.

4. Нельга адмаўляць, што Рада БНР і яе Народны сакратарыят утварылі пэўную палітычную структуру з зародкамі дзяржаўнай арганізацыі. Аднак у прамым сэнсе БНР дзяржавай не была. Дзяржаўнасць патрабуе не толькі абвяшчэння дэкларацый, якімі б добрымі яны ні былі, але галоўнае — функцыяніравання сапраўднай сістэмы органаў заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады на канкрэтнай тэрыторыі, распрацоўкі і прыняцця законаў і іх выканання, г. зн. праватворчай дзейнасці, забеспячэння правоў і свабод сваіх грамадзян. Нічога такога фактычна не было. Хоць рэспубліка і абвяшчалася ў этнаграфічных межах пражывання беларусаў, юрысдыкцыю на гэтай тэрыторыі яна не здзяйсняла. Не было войска, адсутнічала фінансавая сістэма, не склаліся мясцовыя органы ўлады. Функцыі ўрада БНР абмяжоўваліся паўнамоцтвамі нацыянальнага прадстаўніцтва пры германскай акупацыйнай адміністрацыі і рашэннем некаторых задач у культурна-асветнай галіне.

Аднак гэта быў першы крок барацьбы за беларускую дзяржаўнасць. Незалежнасць і свабода, аб'яўленыя 25 сакавіка 1918 г., так і засталіся жаданнем і надзеяй.

Тым не менш барацьбу лідэраў беларускага нацыянальнага руху за ўтварэнне сваёй нацыянальнай дзяржавы нельга недаацэньваць, тым больш лічыць яе антынароднай. Гэта была важная старонка нашай гісторыі, значны крок у станаўленні дзяржаўнасці беларускага народа. Наступным крокам у гэтым накірунку было ўтварэнне БССР.





## § 3. Утварэнне Беларускай ССР. Аб'яднанне Беларускай ССР з Літоўскай ССР

Пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх акупантаў і аднаўлення савецкай улады зноў паўстала пытанне аб утварэнні беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці. Але па гэтым пытанні не было адзінай думкі. Існавала некалькі пазіцый:

1. Пазіцыя кіраўніцтва Паўночна-Заходняга абкома РКП(б), Аблвыканкомзаха і Абласнога Савета Народных Камісараў. Узначальвалі гэтыя органы не беларусы (А.Мяснікоў, К.Ландар, В.Кнорын, М.Калмановіч, У.Алібегаў, С.Берсан і інш.). Ім цяжка было зразумець нацыянальныя інтарэсы беларускага народа. Яны лічылі, што Беларусь павінна быць тэрытарыяльнай адміністрацыйна-гаспадарчай адзінкай РСФСР. Іх погляды складваліся пад уздзеяннем многіх фактараў, у тым ліку і ідэі сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі, а самавызначэнне народаў, утварэнне нацыянальных дзяржаў, іх межы — перашкода на гэтым шляху.

На Беларусі праціўнікі нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва спасылаліся і на такі аргумент: беларусы, на іх думку, не з'яўляюцца самастойнай нацыяй, а таму прынцып самавызначэння ў адносінах да іх не падыходзіць. Вось што пісаў сакратар Паўночна-Заходняга абкома РКП(б) В.Кнорын: "Мы лічым, што беларусы не з'яўляюцца нацыяй і што тыя этнаграфічныя асаблівасці, якія іх адрозніваюць ад рускіх, павінны быць ліквідаваны. Нашай задачай з'яўляецца не ўтварэнне новых нацый, а ліквідацыя старых нацыянальных перашкод". Гэтай жа думкі прытрымліваліся і некаторыя кіраўнікі цэнтральных органаў РСФСР. Вось чаму ў дэкрэце УЦВК ад 13 лістапада 1918 г. аб скасаванні Брэсцкага мірнага дагавора і аб прызнанні права на самавызначэнне вызваленых ад нямецкай акупацыі раёнаў Беларусь не называлася. Хоць дакладна вядома, што У.Ленін яшчэ ў верасні 1917 г. гаварыў аб неабходнасці самастойнасці беларусаў як нацыі. У сваім артыкуле "Ці ўтрымаюць бальшавікі дзяржаўную ўладу?" ён пісаў аб аднаўленні "поўнай свабоды для Фінляндыі, Украіны, Беларусі, для мусульман...". Такім чынам, Ленін адносіў Беларусь да тых нацыянальных рэгіёнаў Расіі, якія маюць безумоўнае права на нацыянальнае самакіраванне і самастойнае дзяржаўнае існаванне.

2. Іншую пазіцыю па пытанні аб нацыянальным лёсе Беларусі адстойваў Беларускі нацыянальны камісарыят (Белнацком), утвораны 31 студзеня 1918 г. пры камісарыяце па справах нацыянальнасцей РСФСР. Кіраўнікі Белнацкома А.Чарвякоў, З.Жылуновіч і іншыя лічылі неабходным стварэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і ўстанаўленне цесных сувязей з РСФСР (на прынцыпах аўтаноміі). Гэту пазіцыю падтрымлівала Цэнтральнае бюро беларускіх секцый РКП(б), арганізаваных з бежанцаў-беларусаў у розных гарадах

Расіі—Маскве, Петраградзе, Саратаве, Тамбове, Казані і інш. Усяго ў Расіі знаходзілася 1,5 млн беларусаў-бежанцаў.

Белнацком і кіраўнікі беларускіх секцый зрабілі шмат намаганняў, каб здзейсніць свае планы. Так, у верасні 1918 г. дэлегацыя Белнацкома на чале з В.Лагуном прыехала ў Смаленск і прапанавала Паўночна-Заходняму абкому партыі абмеркаваць праект “Аб перайменаванні Заходняй вобласці ў Беларуска-Літоўскую”. Тым самым Белнацком хацеў хоць часткова, хоць па назве, зрабіць першы крок у напрамку стварэння нацыянальнай дзяржаўнасці народаў гэтага краю. Аднак абком не прыняў дадзенай прапановы.

Пасля таго, як былі абвешчаны дэкрэты СНК РСФСР аб прызнанні незалежнасці Эстоніі, Латвіі і Літвы, у газеце Белнацкома “Дзянніца” 19 лістапада 1918 г. з’явіўся артыкул пад назвай “Як жа з Беларуссю?”. Яго аўтар, рэдактар газеты З.Жылуновіч, абвінаваціў камісара па нацыянальных справах і кіраўнікоў Заходняй вобласці ў абыякавых адносінах да Беларусі.

27 лістапада 1918 г., улічваючы настрой беларусаў-бежанцаў, Маскоўскі камітэт беларускіх секцый на сваім пасяджэнні выказаўся за абвяшчэнне беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці. Дэлегацыя ў складзе З.Чарнушэвіча, Я.Дылы праінфармавала аб сваім рашэнні наркома па справах нацыянальнасцей І.Сталіна. Але І.Сталін не адрэагаваў на гэта.

Пытанне аб неабходнасці стварэння беларускага савецкага ўрада разглядалася і на канферэнцыі беларускіх камуністычных секцый, якая адбылася ў Маскве 21–23 снежня 1918 г. У рабоце канферэнцыі ўдзельнічалі прадстаўнікі ад маскоўскай, петраградскай, саратаўскай, тамбоўскай і мінскай секцый. У прывітальных тэлеграмах ЦК партыі, УЦВК, Саўнаркому, Наркомнацу канферэнцыя выказала надзею, што ідэя беларускай савецкай дзяржаўнасці сустрэне падтрымку вышэйшага кіраўніцтва. Сярод прынятых канферэнцыяй рашэнняў важнейшай была рэзалюцыя аб утварэнні беларускага савецкага ўрада. Дэлегацыя канферэнцыі на чале з З.Жылуновічам звярнулася з дадзенай прапановай да І.Сталіна. Але І.Сталін, які падтрымліваў пазіцыю Паўночна-Заходняга камітэта РКП(б) і Аблвыканкомзаха, зноў не адрэагаваў на гэту ініцыятыву.

Некаторыя партыйныя, савецкія, ваенныя органы без дазволу абкома партыі сталі звяртацца да цэнтральных органаў Расіі з прапановай і прашэннем аб абвяшчэнні самастойнай Беларускай рэспублікі і ўтварэнні Беларускай дзяржавы. Так, напрыклад, Мінгубрэўком 20 снежня 1918 г. накіраваў на імя старшыні УЦВК Я.Свярдлова тэлеграму з прапановай аб утварэнні Беларуска-Літоўскай працоўнай камуны, якая будзе ў “цеснай федэратыўнай сувязі з Саветрасіяй”. Даведаўшыся пра тое, А.Мяснікоў у тэлеграме на адрас УЦВК назваў прапанову ўласнай думкай некаторых мясцовых работнікаў. На самой жа справе гэта было адлюстраваннем новых адносін да нацыянальнага пытання з боку прагрэсіўнай беларускай грамадскасці.





Узнікае пытанне: чаму некаторыя органы РСФСР не прыслухоўваліся да голасу Белнацкома, бюро беларускіх секцый, іншых органаў аб утварэнні беларускай нацыянальнай дзяржавы? Мабыць, таму што ў той складанай сітуацыі цэнтральныя органы Расіі не маглі не лічыцца з думкай Паўночна-Заходняга абкома партыі, Аблвыканкомзаха, якія выступалі ад імя ўсіх працоўных Беларусі. Да таго ж аўтарытэт кіраўніцтва Заходняй вобласці, абкома партыі і асабліва А.Мяснікова быў вельмі вялікі. З іх дзейнасцю звязаны ўсталяванне ўлады Саветаў на Беларусі, арганізацыя барацьбы супраць нямецкіх акупантаў, сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні, барацьба з голадам. Вось чаму цэнтральныя органы Расіі падтрымлівалі кіраўнікоў Заходняй вобласці і лічылі, што Беларусь павінна ўваходзіць у склад Расіі як адміністрацыйна-тэрытарыяльная яе частка. Нават Наркамат унутраных спраў РСФСР прыняў пастанову аб тым, што Заходняя вобласць павінна знаходзіцца ў складзе Расіі, таму што “ў іх аднолькавае гістарычнае мінулае, аднародная гаспадарчая структура, аднолькавыя геаграфічныя ўмовы”.

Для канчатковага вырашэння пытання аб адміністрацыйным будаўніцтве на вызваленай тэрыторыі пры УЦВК была створана камісія, у якую ўвайшлі прадстаўнікі абласных аб’яднанняў, вядучых наркаматаў (унутраных спраў, фінансаў, дзяржаўнага кантролю, земляробства, юстыцыі і інш.). Як бачым, думка па гэтым пытанні фарміравалася на даволі шырокай прадстаўнічай аснове. Аднак здзіўляе тое, што ў камісію не ўвайшлі прадстаўнікі Народнага камісарыята па справах нацыянальнасцей. Камісія прыняла рэкамендацыю аб захаванні Заходняй вобласці ў складзе Мінскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Віцебскай і Смаленскай губерняў. 23 снежня 1918 г. на аснове гэтай рэкамендацыі УЦВК прыняў рашэнне аб захаванні Заходняй вобласці і канчаткова вызначыў яе тэрыторыю. Такім чынам, была ўзаконена пазіцыя Паўночна-Заходняга абкома РКП(б), Аблвыканкомзаха. Беларусь па-ранейшаму заставалася ў складзе Расіі.

У гэты ж дзень УЦВК разгледзеў пытанне аб дзяржаўным будаўніцтве ў Прыбалтыцы. Былі зацверджаны прынятыя раней дэкрэты СНК аб прызнанні незалежнасці Эстоніі, Латвіі і Літвы. Ні ў дакладзе І.Сталіна на пасяджэнні УЦВК, ні ў пастанове УЦВК “Аб прызнанні незалежнасці рэспублік Эстляндыі, Літвы і Латвіі” Беларусь не называлася. У артыкуле І.Сталіна “Справы ідуць”, надрукаваным напярэдадні пасяджэння УЦВК 22 снежня 1918 г. у газеце “Жизнь национальностей” і прысвечаным дзяржаўнаму будаўніцтву ў заходніх абласцях, таксама нічога не гаварылася аб Беларусі, і тым больш аб перспектывах яе нацыянальнага самавызначэння.

Пытанне аб лёсе Беларусі стала прадметам тэрміновага разгляду ў ЦК РКП(б). Ёсць падставы сцвярджаць, што гэта адбылося па ініцыятыве У.Леніна. 24 снежня 1918 г. Пленум ЦК РКП(б) прыняў пастанову аб утварэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай

Рэспублікі (БССР). Пленум абавязаў Паўночна-Заходні абком РКП(б) правесці партыйна-арганізацыйную работу па нацыянальна-дзяржаўнаму будаўніцтву на Беларусі. 25 снежня 1918 г. у Наркомнацы адбылася нарада І.Сталіна з адказнымі работнікамі Белнацкома, членамі Цэнтральнага бюро беларускіх камуністычных секцый і камітэта Маскоўскай беларускай секцыі РКП(б). Абмяркоўвалася пытанне аб практычным здзяйсненні рашэння ЦК РКП(б) аб утварэнні БССР. Нарада канстатавала, што “з мэтай умацавання і пашырэння заваёў сацыялістычнай рэвалюцыі ў сусветным маштабе ў дадзены момант поўнасцю наспела неабходнасць аб'яўлення Беларусі як самастойнай ва ўсіх адносінах нацыі, незалежнай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі”. Нарада абмеркавала таксама пытанне пра будучы часовы рабоча-сялянскі ўрад БССР. У гэты ж дзень І.Сталін у размове па тэлефоне са старшынёй Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РКП(б) А.Мясніковым паведаміў, што ЦК партыі згадзіўся на ўтварэнне беларускага савецкага ўрада.

Такім чынам, пад уздзеяннем ЦК РКП(б) Наркомнац, а затым і Паўночна-Заходні абком РКП(б), Аблвыканкомзах, СНК Заходняй вобласці памянялі свае адносіны да лёсу Беларусі. Яны нават пайшлі далей у вызначэнні юрыдычнага статусу Беларусі, як Белнацком і беларускія камуністычныя секцыі, якія прытрымліваліся прынцыпу аўтаноміі Беларусі ў складзе РСФСР.

29 снежня 1918 г. прадстаўнікі беларускіх секцый пры ЦК РКП(б) З.Жылуновіч, А.Чарвякоў і іншыя, хто ўдзельнічаў у падрыхтоўцы дакументаў, звязаных з абвяшчэннем БССР, выехалі з Масквы ў Смаленск. І.Сталін па даручэнні ЦК РКП(б) паведаміў Паўночна-Заходняму абкому РКП(б), што “сёння выязджаюць у Смаленск беларусы. Вязуць з сабой Маніфест. Просьба ЦК партыі і Леніна прыняць іх, як малодшых братоў, можа яшчэ нявопытных, але гатовых аддаць усё сваё жыццё партыйнай, савецкай рабоце” (Гісторыя Беларускай ССР. Т.3. С. 132).

30 снежня 1918 г. адкрылася VI Паўночна-Заходняя абласная партыйная канферэнцыя. Дэлегаты канферэнцыі аднагалосна выказаліся за абвяшчэнне БССР. Канферэнцыя вызначыла межы рэспублікі і па дакладу камісіі, утворанай для вывучэння гэтага пытання, прыйшла да высновы, што ў склад рэспублікі павінны ўвайсці Мінская, Магілёўская, Гродзенская губерні поўнасцю, Віцебская губерня без Дзвінскага, Рэжыцкага і Люцынскага паветаў, а таксама частка тэрыторыі прымежных губерняў, населеных пераважна беларусамі. Гэта частка Гжацкага, Сычэўскага, Вяземскага і Юхноўскага паветаў Смаленскай губерні, частка Нова-Аляксандраўскага павета Ковенскай губерні, увесь Вілейскі павет, частка Свянцянскага і Ашмянскага паветаў Віленскай губерні, а таксама Аўгустоўскі павет Сувалкаўскай губерні. У склад БССР камісія ўключыла чатыры паўночныя паветы Чарнігаўскай губерні: Суражскі, Мглінскі, Старадубскі і Навазыбкаўскі.





Такім чынам, былі ў асноўным вызначаны этнаграфічныя межы беларускай нацыі, эканамічныя, гістарычныя і нацыянальныя асаблівасці асобных губерняў, паветаў і валасцей. Пазней пры больш дасканалым уліку нацыянальнага складу насельніцтва гэтыя межы ўдакладняліся. У адміністрацыйна-гаспадарчых адносінах было вырашана падзяліць тэрыторыю рэспублікі на 7 раёнаў — Мінскі, Смаленскі, Віцебскі, Магілёўскі, Гомельскі, Гродзенскі, Баранавіцкі і 54 падраёны. Намечаны адміністрацыйны падзел БССР не быў ажыццёўлены ў сувязі з польска-савецкай вайной, якая пачалася вясной 1919 г. Канферэнцыя абвясціла сябе І з'ездам Кампартыі бальшавікоў Беларусі. Быў створаны кіруючы орган КП(б)Б — Цэнтральнае бюро КП(б)Б. На першым яго пасяджэнні быў выбраны прэзідыум ЦБ КП(б)Б у складзе А.Мяснікова, М.Калмановіча і В.Кнорына. Старшынёй прэзідыума стаў А.Мяснікоў.

31 снежня 1918 г. ЦБ КП(б)Б абмеркавала пытанне аб складзе Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада БССР. Было вырашана, што ва ўрад увойдуць прадстаўнікі ад Белнацкома і Цэнтральнага бюро беларускіх секцый РКП(б), ад Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РКП(б) і Аблвыканкомзаха. Старшынёй урада быў зацверджаны З.Жылуновіч, членамі — А.Мяснікоў, А.Чарвякоў і іншыя, усяго 17 чалавек. У складзе ўрада было створана 16 аддзелаў (наркаматаў) і 2 калегіі — надзвычайная і па справах палонных і бежанцаў.

Пры абмеркаванні пытання аб складзе ўрада рэспублікі ўзніклі спрэчкі. З.Жылуновіч прапанаваў не ўводзіць у склад урада А.Мяснікова, М.Калмановіча і Г.Пікеля, якія павінны былі заняць пасады народных камісараў. Сваю прапанову З.Жылуновіч матываваў тым, што яны больш за іншых выступалі супраць утварэння самастойнай Беларускай рэспублікі. Акрамя таго, яны ўжо займалі высокія партыйныя пасады: А.Мяснікоў быў старшынёй прэзідыума ЦБ КП(б)Б, М.Калмановіч — членам прэзідыума ЦБ КП(б)Б, Р.Пікель — членам ЦБ КП(б)Б. Аб гэтым А.Мяснікоў паведаміў тэлеграмай І.Сталіну. З Масквы прыйшоў грозны адказ І.Сталіна: “Прапанову Жылуновіча аб неўвядзенні трох членаў знаходжу дэзарганізацыйнай і якая супярэчыць рашэнням партыі. Ніякіх уласных рашэнняў групы Жылуновіча не можа быць. Спіс членаў, усяго 17, з'яўляецца канчатковым. Я патрабую ад Жылуновіча, яго групы катэгарычнага адказу на пытанне, ці падпарадкуецца ён рашэнню ЦК? Чакаю тэрміновага адказу. Па даручэнні ЦК партыі Сталін”.

З.Жылуновіч папрасіў дазволу яму самому весці перагаворы з ЦК РКП(б) і І.Сталіным. Аднак гэтага яму не дазволілі. На пасяджэнні ЦБ КП(б)Б было прынята рашэнне: “Ад імя Цэнтральнага бюро даручыць весці перагаворы з ЦК Мяснікову”. Так закончылася гэта спрэчка. З.Жылуновічу не ўдалося ажыццявіць сваю прапанову.

1 студзеня 1919 г. Часовы ўрад Беларусі абнародаваў маніфест у сувязі з утварэннем БССР. “З сённяшняга дня Беларусь, — гаварылася

9. Зак. 5565







*Часовы рабоча-сялянскі ўрад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі на чале з З.Жылуновічам (няпоўны склад). 1 студзеня 1919 г. Злева направа: 1-ы рад – З.Жылуновіч, А.Мяснікоў, А.Чарвякоў, С.Берсан; 2-і рад – Я.Дыла*

ў ім, – Савецкая рэспубліка, становіцца рэспублікай працоўнага народа, рабочых, сялянскай беднаты і чырвонаармейцаў". З гэтага дня ўся ўлада на Беларусі, адзначалася ў маніфесце, належыць Саветам рабочых, сялянскіх, батрацкіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў. Зямля з жывым і мёртвым інвентаром, лясы, воды і нетры зямлі, чыгункі, фабрыкі і заводы, банкі становяцца ўласнасцю народа. Маніфест абвясціў раўнапраўе працоўных усіх нацыянальнасцей на тэрыторыі Беларусі, адмяніў усе загады і распараджэнні акупацыйных улад, аб'явіў па-за законам Беларускую раду.

У сувязі з абвяшчэннем БССР вышэйшая ўлада на тэрыторыі рэспублікі перайшла да Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада. Абласны выканаўчы камітэт Заходняй вобласці склаў свае паўнамоцтвы. Толькі губвыканком Віцебскай і Магілёўскай губерняў, якія ў перыяд утварэння БССР знаходзіліся ў складзе РСФСР, па-ранейшаму кіравалі народнай гаспадаркай гэтых губерняў. Заходняя вобласць была скасавана.

5 студзеня 1919 г. Часовы рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад БССР, ЦБ КП(б)Б пераехалі ў Мінск, які з гэтага часу стаў сталіцай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Трэба адзначыць, што Часовы рэвалюцыйны ўрад БССР пачынаў сваю дзейнасць у надзвычай цяжкіх палітычных і эканамічных







*Дэлегаты I Усебеларускага з'езда Саветаў. Мінск, 2–3 лютага 1919 г.*

умовах. На вызваленай ад нямецкіх акупантаў беларускай зямлі панавалі разруха і голад. Агрэсіўныя ўрадавыя колы Польшчы, дзе ўладу пасля абвяшчэння савецкім урадам незалежнасці польскай дзяржавы захапілі буржуазія і памешчыкі, пагражалі Рэспубліцы Саветаў вайной. У сувязі з гэтым 21 студзеня 1919 г. быў створаны Ваенна-рэвалюцыйны савет рэспублікі на чале са старшынёй ЦБ КП(б)Б А.Мясніковым. У гэты ж дзень урад Беларусі прыняў дэкрэт аб усеагульным ваенным навучанні працоўных.

У снежні 1918 г. – студзені 1919 г. на Беларусі адбыліся валасныя, павятовыя і губернскія з'езды Саветаў. Галоўны сэнс усёй перадвыбарнай агітацыі – барацьба за класавую чысціню Саветаў. ЦБ КП(б)Б дало ўстаноўку строга прытрымлівацца класавага адбору дэпутатаў пры выбарах у Саветы. У выніку ў Саветы былі выбраны ў асноўным камуністы. Так, з'езд Саветаў Віцебскай губерні (20–21 студзеня 1919 г.) выбраў у склад губвыканкома 128 дэпутатаў, сярод якіх было 98 камуністаў, а астатнія спачувалі ім. 25 студзеня 1919 г. адбыліся выбары ў Мінскі гарадскі Савет рабочых і чырвонаармейскіх дэпутатаў. З 385 яго дэпутатаў 286 былі камуністы.

2–3 лютага 1919 г. у Мінску адбыўся І Усебеларускі з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў. З'езд абмеркаваў наступныя пытанні: аб бягучым моманце. справаздачу Часовага ўрада Беларусі, аб адносінах да савецкіх рэспублік, аб Канстытуцыі БССР,

выбары ЦВК БССР. Старшыня УЦВК Я.Свярдлоў, які прысутнічаў на з'ездзе, абвясціў пастанову прэзідыума УЦВК "Аб прызнанні незалежнасці Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі". У адказ з'езд прыняў "Дэкларацыю аб устанаўленні федэратыўнай сувязі паміж Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай і РСФСР".

I Усебеларускі з'езд Саветаў прыняў Канстытуцыю БССР – Асноўны закон рэспублікі на пачатковым этапе яе развіцця. У адпаведнасці з канстытуцыяй найвышэйшая ўлада ў рэспубліцы належала з'езду Саветаў. У перыяд паміж з'ездамі яе здзяйсняў Цэнтральны выканаўчы камітэт. У склад выбранага на з'ездзе ЦВК БССР увайшло 50 чалавек – 45 камуністаў, 2 бундаўцы, 2 члены партыі Паалей-Цыён, адзін меншавік.

Першая сесія ЦВК БССР (5 лютага 1919 г.) выбрала Малы і Вялікі прэзідыумы ЦВК для агульнага кіраўніцтва і для кіраўніцтва асобнымі галінамі народнай гаспадаркі БССР. Малы прэзідыум ЦВК складаўся са старшыні (А.Мяснікоў), двух членаў (камісары па замежных і ўнутраных справах) і сакратара ЦВК. У Вялікі прэзідыум увайшлі 15 народных камісараў рэспублікі. Ён быў выканаўчым органам улады рэспублікі, г. зн. здзяйсняў, па сутнасці, функцыі Савета Народных Камісараў.

I з'езд Саветаў вызначыў тэрыторыю Савецкай Беларусі ў складзе Мінскай і Гродзенскай губерняў. Тэрыторыя Віцебскай і Магілёўскай губерняў у склад БССР не ўвайшла. Як гэта здарылася? Савецкі ўрад, ЦК РКП(б) добра ведалі палітыку кіруючых колаў Польшчы, якія мелі на мэце аднаўленне Польшчы ў межах 1772 г. А гэта азначала далучэнне да Польшчы ўсёй тэрыторыі Беларусі. Тактыка ЦК РКП(б) у беларускім пытанні будавалася з улікам дадзенага фактару. Планавалася, што ўключаныя ў склад РСФСР Магілёўская і Віцебская губерні, калі іншыя тэрыторыі Беларусі захопіць Польшча, у будучым могуць стаць асновай для аднаўлення беларускай дзяржаўнасці.

Гэта ідэя ўзнікла, мабыць, яшчэ да абвяшчэння БССР. 25 снежня 1918 г. І.Сталін тэлеграфаваў А.Мяснікову аб тым, што Ковенская і Віленская губерні адойдуць да Літвы, Мінская, Смаленская і Гродзенская — да Беларусі. А.Мяснікоў тут жа задаў пытанне: "Куды дзенуцца Магілёўская і Віцебская губерні, аб якіх Вы нічога не сказалі, гэта таксама беларускія губерні?" І.Сталін адказаў: "Аб гэтых губернях і аб многім іншым пагаворым, калі прыедзеце". Запіс гутаркі А.Мяснікова з І.Сталіным у час іх сустрэчы, якая адбылася 27 снежня 1918 г., пакуль не знойдзены. Аднак іншыя дакументы тых дзён сведчаць, што ў гутарцы абмяркоўвалася пытанне аб тэрыторыі Беларусі. У рашэнні ЦК РКП(б) ад 16 студзеня 1919 г. запісана: "Правесці праз мясцовыя Саветы, а затым праз з'езд Саветаў Беларусі рашэнне аб выдзяленні з Беларускай Рэспублікі Віцебскай, Смаленскай, а ў далейшым і Магілёўскай губерняў; пакінуць у складзе Беларусі дзве губерні: Мінскую і Гродзенскую" (Нёман. 1992. № 10. С. 152).

Як бачна, тэрытарыяльнае пытанне БССР было вырашана ў Маскве ЦК РКП(б). Аднак з гэтым рашэннем не былі згодны ні ЦБ КП(б)Б, ні ўрад рэспублікі. Кіраўніцтва Беларусі выступала за цэласнасць рэспублікі, супраць яе тэрытарыяльнага падзелу. Пазіцыя ўрада Беларусі па гэтым пытанні адлюстравана ў пісьме на імя прадстаўніка ЦК РКП(б) А.Іофе (копіі: Леніну, Свярдлову, Сталіну), якое было напісана адразу ж пасля таго, як стала вядома аб рашэнні ЦК РКП(б) ад 16 студзеня 1919 г. У ім гаварылася, што пастанова ЦК РКП(б) аб аддзяленні ад Беларусі Віцебскай, Смаленскай і Магілёўскай губерняў карэнным чынам змяняе ўсю палітычную сітуацыю. Гэта пастанова парушае абвешчаныя сацыялістычнай рэвалюцыяй прынцыпы самавызначэння народаў і вельмі цяжка адаб'ецца на жыццёвых інтарэсах беларускага пралетарыяту і сялянства. Аўтары пісьма З.Жылуновіч, А.Квачанюк, З.Чарнушэвіч, Я.Дыла, Ф.Шантыр, А.Чарвякоў, І.Пузыроў прасілі ЦК перагледзець прынятае ім рашэнне. Але гэта просьба засталася без увагі.

I Усебеларускі з'езд Саветаў прыняў рашэнне аб аб'яднанні Беларускай ССР і Літоўскай ССР у адну дзяржаву — Літоўска-Беларускую ССР (Літбел). Гэта рашэнне зноў жа было праведзена паводле ўказання ЦК РКП(б). 16 студзеня 1919 г. ЦК РКП(б) патрабаваў прыняць на з'ездзе Саветаў Беларусі пастанову аб аб'яднанні Беларусі з Літвой. Літоўцам таксама прапанавалася як мага хутчэй склікаць свой з'езд і прыняць такое ж рашэнне. Тлумачыцца гэта вельмі складанымі адносінамі з Польшчай. Яны яшчэ больш пагоршыліся пасля таго, як у студзені 1919 г. камандуючы аб'яднанымі войскамі краін Антанты маршал Фош аддаў загад, у якім ад германскага камандавання патрабавалася забяспечыць свабодны пропуск польскіх войск у Гродна і далей на ўсход. Гэта не магло не хваляваць урад Беларусі. ЦВК БССР прапанаваў ураду Ю.Пілсудскага правесці мірныя перагаворы. Але польскі ўрад прапанову не прыняў. Такую ж пазіцыю польскі ўрад заняў і ў адносінах да Літвы. Урад Пілсудскага прэтэндаваў на добрую палову тэрыторыі Літвы і Беларусі, уключаючы Вільню і Мінск. У складаных умовах ЦК РКП(б) лічыў неабходным захаваць мір, а калі не ўдасца, то трэба весці барацьбу з ворагам. Таму і патрабаваліся аб'яднаныя сілы дзвюх дзяржаў.

Рашэнне ЦК РКП(б) аб утварэнні Літбела з першых дзён стала жорстка праводзіцца ў жыццё. У Мінск накіроўваецца прадстаўнік ЦК РКП(б) А.Іофе, якому было даручана ажыццявіць гэта рашэнне. Але адносіны паміж ім і кіраўніцтвам рэспублікі адразу ж ускладніліся. Справа ў тым, што ідэя аб'яднання дзвюх рэспублік не была прынята ні групай А.Мяснікова, г. зн. ЦБ КП(б)Б, ні групай З.Жылуновіча — урадам Беларусі. Абедзве групы лічылі, што дадзеная ідэя "несумяшчальная з ідэалогіяй і палітыкай партыі", што яна "супярэчыць разумнаму сэнсу". Кіраўніцтва Беларусі выступіла супраць падзелу тэрыторыі рэспублікі. Аб гэтым і ўвогуле аб становішчы ў Мінску паведаміў А.Іофе ў сваім пісьме ад 28 студзеня 1919 г. старшыні УЦВК Я.Свярдлову. Ён пісаў, што абедзве групы





10. Зак. 5565

нікуды не вартыя. Беларусы (мелася на ўвазе група З.Жылуновіча) – нацыяналісты, а таму насаджаюць сепаратызм, а нашы (г. зн. група А.Мяснікова), хоць і не нацыяналісты, але сепаратысты яшчэ горшай маркі. Рашэнне ЦК, піша далей Іофе, натыкаецца на неверагоднае супраціўленне і не толькі адкрытае, але і скрыты сабатаж. Неабходна, лічыў ён, адхіліць усе спробы справакаваць ЦК на перагляд гэтага рашэння. Іофе прапанаваў разагнаць абедзве групы, і першнаперш ЦБ КП(б)Б, накіраваць некаторых членаў ЦБ і ўрада ў іншыя гарады (Магілёў, Віцебск, Смаленск і інш.), а А.Мяснікова зволіць з пасады і пасляць у іншае месца, і як мага далей. "Беларусь павінна зліцца з Літвой, — катэгарычна сцвярджаў Іофе, – і ў падрыхтоўцы да гэтага трэба яшчэ больш старацца для таго, каб не пакідаць тут тых, хто здольны толькі шкодзіць". Іофе быў вельмі заклапочаны тым, хто будзе выбраны ў склад новага кіраўніцтва рэспублікі на з'ездзе Саветаў. Ён прасіў Я.Свярдлова паведаміць яму, "каго плануецца прысласць сюды і на якія пасады і каго з мясцовых куды накіраваць". Прычым, заўважыў ён, гэта трэба зрабіць як мага хутчэй, да адкрыцця з'езда.

Як бачым, А.Іофе вельмі спрошчана разумеў становішча на Беларусі. Дыктатарскія дзеянні не далі магчымасці прадстаўніку ЦК РКП(б) аб'ектыўна зразумець палітыку кіраўнікоў ЦБ КП(б)Б і ўрада рэспублікі.

Трэба, аднак, зазначыць, што ў кіраўніцтве РСФСР былі і дзяржаўныя дзеячы, якія выступілі супраць утварэння Літбела. Так, наркам замежных спраў РСФСР Г.Чычэрын у сваёй запісцы на імя старшыні УЦВК аб становішчы ў Беларусі выказаўся супраць аддзялення ад Беларусі Віцебскай і Магілёўскай губерняў і аб'яднання БССР з Літоўскай рэспублікай. Будучы прыхільнікам прынцыпу свабоды выбару як абавязковага права кожнага народа, Г.Чычэрын абараняў самастойнасць Беларускай Рэспублікі.

Для перагавораў па тэрытарыяльным пытанні ў Маскву выехалі члены ЦБ КП(б)Б Р.Пікель і І.Рэйнгольд. Вярнуўшыся з Масквы, 31 студзеня 1919 г. на пасяджэнні ЦБ яны паведамілі аб выніках перагавораў: "Свярдлоў сказаў нам, што ЦК прыняў рашэнне аднагалосна, і іншае рашэнне немагчыма" (маецца на ўвазе рашэнне аб аб'яднанні Беларускай ССР з Літоўскай ССР).

Такім чынам, усе спробы захаваць тэрыторыю Беларусі не ўдаліся. Заставалася правесці рашэнне ЦК РКП(б) у жыццё, што і было зроблена. 2 лютага 1919 г. ЦБ КП(б)Б з удзелам старшыні УЦВК Я.Свярдлова, старшыні літоўскага ўрада В.Міцкявічуса-Капсукаса, прадстаўнікоў партыйных і савецкіх органаў Беларусі і Літвы вырашыла ажыццявіць аб'яднанне Літвы і Беларусі ў адзіную Літоўска-Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку (Літбел). Гэта пытанне было вынесена на абмеркаванне І Усебеларускага з'езда Саветаў. З'езд прызнаў неабходным аб'яднаць Беларускую Савецкую Рэспубліку з Літоўскай ССР. Такое ж рашэнне прыняў і І з'езд Саве-





таў Літвы, які праходзіў 17–21 лютага 1919 г. Галоўнымі матывамі аб'яднання былі названы наступныя: пагроза новай вайны з боку буржуазна-памешчыцкай Польшчы, а таксама неабходнасць, як аб гэтым сказаў Я.Свярдлоў на пасяджэнні ЦБ КП(б)Б 2 лютага 1919 г., "засцерагчы гэтыя рэспублікі ад магчымага праяўлення ў іх нацыянальна-шавіністычных імкненняў" (Борьба за Советскую власть в Белоруссии. Т. 1. С. 503).

27 лютага 1919 г. ствараюцца ЦВК Літоўска-Беларускай ССР і яго прэзідыум на чале з К.Цыхоўскім, урад аб'яднанай рэспублікі — Савет Народных Камісараў на чале з В.Міцкявічусам-Капсукасам. Для кіраўніцтва народнай гаспадаркай быў створаны Вышэйшы Савет народнай гаспадаркі. У склад Літбела ўвайшла тэрыторыя Мінскай, Гродзенскай, Віленскай, Ковенскай і частка Сувалкаўскай губерняў з больш як 4-мільённым насельніцтвам. У сувязі з утварэннем Літоўска-Беларускай ССР узнікла неабходнасць зліць і камуністычныя партыі Літвы і Беларусі. На аб'яднальным з'ездзе (4–6 сакавіка 1919 г.) быў абраны ЦК Кампартыі Літвы і Беларусі (ЦК КП(б) ЛіБ). 6 сакавіка 1919 г. Пленум ЦК КП(б) ЛіБ стварыў прэзідыум ЦК КП(б) ЛіБ. Старшынёй прэзідыума быў выбраны В.Міцкявічус-Капсукас, сакратаром В.Кнорын. Сталіцай аб'яднанай дзяржавы стаў г.Вільня.

Так Беларуская Савецкая Рэспубліка праз месяц пасля абвяшчэння незалежнасці і ўтварэння сваёй дзяржаўнасці стала часткай аб'яднанай дзяржавы — Літбела.

# ГЛАВА 3

# БЕЛАРУСЬ У ПЕРЫЯД ПОЛЬСКАЙ ІНТЭРВЕНЦЫІ

(1919–1920)

## § 1. Захоп тэрыторыі Беларусі войскамі Польшчы. Савецка-польская вайна

У планах Антанты немалаважнае значэнне адводзілася Польшчы. Да жніўня 1919 г. армія Польшчы налічвала дзесьці 545 тыс. чалавек. У першай палове 1919 г. Польшча атрымала ад ЗША на 60 млн долараў зброі і на 51,6 млн долараў харчавання. Значнымі былі ваенныя пастаўкі з Францыі. На яе тэрыторыі было сфарміравана 5 польскіх дывізій. У лютым 1919 г. польскае камандаванне стала канцэнтраваць свае войскі ля савецкай граніцы. На савецкія міралюбівыя прапановы польскі ўрад не адказваў і вёў справу да абвастрэння адносін. Ён пратэставаў супраць устанаўлення савецкай улады на Беларусі і ў Літве. З яго ведама яшчэ ў студзені 1919 г. была затры-

мана, а пасля расстраляна савецкая дэлегацыя Чырвонага Крыжа. У першай палове лютага 1919 г. Польшча пачала ваенныя дзеянні супраць Савецкай Расіі. Першай ахвярай на шляху польскіх войск была Беларусь. Паўночная група польскіх войск уварвалася ў Гродзенскую губерню і наступала ў напрамку Вільні і Ліда–Маладзечна, паўднёвая – на Баранавічы–Мінск і Кобрын–Пінск.

Якія мэты ставіла Польшча ў адносінах да Беларусі? Да гэтага часу ў польскім друку і грамадскай думцы вызначаліся дзве тэндэнцыі. Адна выяўляла інтарэсы кіруючых буржуазна-памешчыцкіх класаў: далучыць землі былога Вялікага княства Літоўскага, г. зн. і Беларусь, да Польшчы. Другая адлюстроўвала думку дэмакратычных сіл, якія разглядалі Беларусь, Літву і Украіну як самастойныя дзяржавы, звязаныя з Польшчай уніяй. З гэтай думкай напачатку вымушаны быў лічыцца і Ю.Пілсудскі. Ён гаварыў аб тым, што беларускі народ будзе будаваць адносіны з польскім народам як роўны з роўным. Нават беларускую мову ён абяцаў аб'явіць дзяржаўнай, якая павінна мець такое ж права, як і польская. 29 красавіка 1919 г. Ю.Пілсудскі звярнуўся з адозвай "Да насельніцтва былога Вялікага княства Літоўскага", у якой паабяцаў ліквідаваць няволю і ўстанавіць свабоду ў гэтым краі. "Я хачу даць вам магчымасць, – заявіў ён, – вырашаць унутраныя, нацыянальныя і рэлігійныя справы так, як вы самі жадаеце, без усякага прыгнечання з боку Польшчы". Аднак у гэтай адозве нічога не гаварылася аб ужо вядомай яго т. зв. "федэралісцкай канцэпцыі", згодна з якой будуць утвораны пад узначаленнем Польшчы Беларуская, Літоўская і Украінская самастойныя дзяржавы. Нічога не гаварылася аб гэтай канцэпцыі і ў віленскай дэкларацыі, якая была прынята польскім сеймам 2 мая 1919 г. Наадварот, там сцвярджалася: "Бацькаўшчына Касцюшкі, Міцкевіча і Траўгута належыць да Польшчы, як частка непадзельная". Па сутнасці, Ю.Пілсудскі адмовіўся ад ранейшай канцэпцыі і ўзяў на ўзбраенне іншую – захапіць Літву з Вільняй, Беларусь з Мінскам, Украіну з Кіевам.

Сутнасць палітыкі Польшчы ў адносінах да Беларусі была выкладзена ў памятнай запісцы кіраўніцтва "Стражы крэсовай" – арганізацыі, якая ў 1919–1920 гг. абараняла інтарэсы польскіх памешчыкаў, вяла барацьбу за далучэнне да Польшчы т. зв. крэсаў, г. зн. беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх зямель. У запісцы гаварылася: "Канчатковым вынікам польскай палітыкі ў Беларусі павінна з'явіцца далучэнне апошняй да Польшчы на аснове аўтаноміі". Згодна з гэтай палітыкай і дзейнічаў польскі ўрад. Ужо да сярэдзіны сакавіка 1919 г. былі захоплены Брэст, Ваўкавыск, Слонім, Скідаль, Шчучын, Пінск, Баранавічы. Урад РСФСР заявіў пратэст ураду Польшчы і прапанаваў мірным шляхам урэгуляваць усе спрэчныя пытанні. Адначасова былі праведзены мерапрыемствы па адпору ворага. Яшчэ 19 лютага 1919 г. быў створаны Заходні фронт. 8 красавіка 1919 г. Літоўска-Беларуская Савецкая Рэспубліка аб'яўляецца на ваенным становішчы.







*М.І.Калінін праводзіць войскі на Заходні фронт. Мінск. Траецкая плошча. 20 чэрвеня 1919 г.*

19 красавіка ЦВК і СНК Літбела стварылі на чале з В.Міцкявічусам-Капсукасам Савет абароны, які ажыццяўляў ваенную і цывільную ўладу на тэрыторыі рэспублікі. Аднак спыніць агрэсію не ўдалося. Сілы праціўніка былі значна большыя. 22 красавіка 1919 г. быў захоплены г.Вільня — сталіца Літоўска-Беларускай ССР.

Вялікае значэнне для арганізацыі адпору інтэрвентам мелі пастановы ЦВК Украіны, Літвы і Беларусі, прынятыя ў маі 1919 г. аб неабходнасці ваенна-палітычнага саюза. На аснове гэтых пастаноў ЦВК Расіі прыняў 1 чэрвеня 1919 г. пастанову аб аб'яднанні ваенных сіл савецкіх рэспублік. Выклікана гэта было тым, што летам 1919 г. становішча на Заходнім фронце значна ўскладнілася. У выніку беспералынных 4-месячных баёў арміі Заходняга фронту панеслі вялікія страты. На 15 чэрвеня 1919 г. іх асабовы склад не перавышаў 36 тыс. чалавек. Войскі ж праціўніка, якія дзейнічалі на гэтым фронце, налічвалі больш за 96 тыс. чалавек.

У чэрвені 1919 г. у Беларусь з Расіі прыбыў агітпоезд "Кастрычніцкая рэвалюцыя". Яго ўзначальваў старшыня УЦВК М.І.Калінін. Ён выступіў на 87 мітынгах перад рабочымі, сялянамі, салдатамі па пытаннях абароны Айчыны, прыняў непасрэдны ўдзел у стварэнні ў рэспубліцы ваенна-рэвалюцыйных камітэтаў. Ваенрэўкомы дапамагалі Чырвонай Арміі, эвакуіравалі ўстановы, прадпры-

11. Зак. 5565

емствы, матэрыяльныя каштоўнасці, забяспечвалі фронт харчаваннем. Была праведзена тэрміновая мабілізацыя ў Чырвоную Армію ў Гомельскай, Віцебскай і Смаленскай губернях. Прызваныя ў армію ў гэтых губернях накіроўваліся выключна на Заходні фронт. Толькі Гомельшчына і Віцебшчына далі фронту каля 40 тыс. байцоў.

Аднак праціўнік меў яшчэ значную перавагу. Сілы польскіх інтэрвентаў амаль падвоіліся, калі з Францыі была перакінута добра ўзброеная армія. 1 ліпеня 1919 г. польскія войскі захапілі Вілейку, а 3 ліпеня — Маладзечна. Таму было вырашана цэнтралізаваць апаратыўнае кіраўніцтва войскамі. 19 ліпеня 1919 г. ЦВК Літбела скасаваў Савет абароны рэспублікі і перадаў яго функцыі Рэўваенсавету Заходняга фронту. У сувязі з тым, што большая частка тэрыторыі Літбела была захоплена войскамі Польшчы, СНК рэспублікі перадаў усю паўнату ўлады на свабоднай тэрыторыі Мінскаму губернскаму рэўкому. Аднак становішча на фронце не палепшылася. У канцы ліпеня польскім войскам удалося прарваць лінію абароны і захапіць Заслаўе, Сёмкаў Гарадок. 8 жніўня 1919 г. праціўнік уварваўся ў Мінск. Працягваючы наступленне, інтэрвенты ў жніўні–верасні 1919 г. захапілі Ігумен, Нова-Барысаў, Бабруйск, Жлобін, Рагачоў.

Тым часам Польшча ўзмацняла свае ўзброеныя сілы. Значна павялічылася дапамога Польшчы з боку іншых краін. Толькі ЗША далі ёй пазыку на 50 млн долараў, перадалі польскаму ўраду некалькі тысяч кулямётаў, больш за 200 браневікоў, 300 самалётаў, 3 млн камплектаў абмундзіравання. Англія даслала 58 тыс. вінтовак, каля 60 млн патронаў. З 1 студзеня да 1 ліпеня 1920 г. з Францыі ў Польшчу было адпраўлена 27 цягнікоў з узбраеннем, боепрыпасамі і рыштункам. Ваенныя інструктары заходніх краін кіравалі баявой падрыхтоўкай польскіх войск. Французскі маршал Фош быў прызначаны галоўнакамандуючым польскай арміі. У выніку ў пачатку 1920 г. Польшча мела добра ўзброенае 740-тысячнае войска.

Трэба адзначыць, што вайну Польшчы супраць Савецкай Расіі падтрымлівалі правыя лідэры Польскай сацыялістычнай партыі, а таксама іншыя дробнабуржуазныя партыі. Дэмагагічна абяцаючы палепшыць матэрыяльнае становішча польскіх працоўных, правіцелям Польшчы ўдалося павесці за сабой дробнабуржуазныя пласты насельніцтва краіны.

Не прыняўшы неаднаразовых савецкіх прапаноў аб мірных перагаворах, кіруючыя колы Польшчы пайшлі на разгортванне ваенных дзеянняў. 5 сакавіка 1920 г. яны распачалі наступальную аперацыю ў раёне Рэчыцы, Мазыра і Калінкавіч. У выніку гэтыя гарады былі захоплены праціўнікам.

6 сакавіка 1920 г. Народны камісарыят замежных спраў РСФСР накіраваў міністру замежных спраў Польшчы ноту, у якой яшчэ раз пацвярджаў, што "Расійская Савецкая рэспубліка не мае, як і раней, ніякіх агрэсіўных намераў у адносінах да Польшчы", што "народныя масы Расіі горача жадаюць, каб настаў момант, калі ім можна будзе



*Беларусь у перыяд грамадзянскай вайны і іншаземнай інтэрвенцыі (сакавік 1919 г. – 1920 г.)*








*М.М.Тухачэўскі праводзіць агляд часцей Чырвонай Арміі на Заходнім фронце. 1920 г.*

жыць у мірных добрасуседскіх адносінах з народнымі масамі Польшчы" (Из истории гражданской войны в СССР: Сб. док. и материалов. М., 1961. Т. 3. С. 97–98).

Урад Літбела разам з РСФСР і Украінскай ССР неаднаразова звяртаўся да ўрадаў Польшчы і краін Антанты з мірнымі прапановамі. Але яны не знайшлі разумення ў кіраўнікоў гэтых краін. Міралюбівая палітыка Савецкай краіны знаходзіла спачуванне і падтрымку ў значнай частцы рабочых і сялян Польшчы. За спыненне агрэсіі выступіла і Камуністычная рабочая партыя Польшчы. У лістоўцы ЦК партыі, звернутай да польскіх рабочых, сялян і салдат, гаварылася: "Няхай у майстэрнях, на фабрыках і рудніках праходзяць сходы, няхай не змаўкае ні на хвіліну голас пратэсту супраць разбойніцкай вайны". Па ўсёй Польшчы прайшлі антываенныя мітынгі пратэсту. У Варшаве, Любліне, Кракаве, Лодзі і іншых гарадах адбыліся забастоўкі. У знак пратэсту супраць вайны забаставалі гарнякі Хшаноўскага і Дамброўскага басейнаў. Але ўрад Польшчы не захацеў прыслухацца да голасу свайго народа.

Вярхоўнае камандаванне польскай арміі распрацавала стратэгічны план вядзення вайны супраць Расіі. Галоўны ўдар па савецкім войскам планавалася нанесці на Украіне, а затым на Беларусі. Былі ўтвораны два франты: Паўднёва-Усходні (Украінскі) і Паўночна-Усходні







*Артылерыя на перадавых пазіцыях каля Барысава. На пярэднім плане А.Ф.Мяснікоў. 1920 г.*

(Беларуска-Літоўскі). На гэтых франтах польскае камандаванне сканцэнтравала 148,5 тыс. штыкоў і шабляў, 894 гарматы, 302 мінамёты, 4157 кулямётаў і 51 самалёт.

Савецкія войскі на Заходнім і Паўднёва-Заходнім франтах мелі каля 65 тыс. штыкоў і шабляў, 666 гармат і 3208 кулямётаў (История гражданской войны в СССР. М., 1960. Т. 5. С. 63). Некаторыя арміі гэтых франтоў былі ў 5–6 разоў слабейшыя ў параўнанні з арміямі праціўніка. Былі прыняты тэрміновыя меры па ўмацаванні Заходняга фронту. 17 красавіка 1920 г. ЦК РКП(б) прыняў спецыяльную пастанову аб ўмацаванні Заходняга фронту камандзірамі і палітработнікамі. Сюды прыбылі дадаткова тры стралковыя і адна кавалерыйская дывізіі. З вясны 1920 г. Заходні фронт стаў галоўным фронтам краіны.

25 красавіка 1920 г. войскі Польшчы перайшлі ў наступленне на Украіне. Войскі Паўднёва-Заходняга фронту гераічна абараняліся, але, несучы вялікія страты, былі вымушаны адступіць. Адчувалася моцная перавага сіл праціўніка. 70-тысячнай арміі ворага супрацьстаялі 15 тыс. чырвонаармейцаў. 6 мая 1920 г. польскія войскі захапілі Кіеў. У выніку вясенняга наступлення войскі Польшчы пацяснілі часці Чырвонай Арміі на 200 км і захапілі значную частку Украіны. Наступленне працягвалася да 14 мая 1920 г. і было спынена на лініі Кіеў–Ямпаль.

У перыяд польскага наступлення ЦК РКП(б), савецкі ўрад шмат увагі ўдзялялі пытанням тактыкі барацьбы з польскімі інтэрвентамі. 28 красавіка 1920 г. Палітбюро ЦК РКП(б) зацвердзіла распрацаваны галоўным камандаваннем план баявых дзеянняў. Асноўны ўдар павінны былі нанесці войскі Заходняга фронту на Беларусі. Дапаможны ўдар планаваўся на Паўднёва-Заходнім фронце ў напрамку на Брэст. 29 красавіка 1920 г. галоўнакамандуючым Заходнім фронтам быў прызначаны М.Тухачэўскі. Палітаддзел фронту ўзначальваў А.Мяснікоў. Новы камандуючы перагледзеў распрацаваны раней план дзеянняў фронту. Паводле новага плана, галоўны ўдар меркавалася нанесці ў напрамку Полацк–Вільня, дапаможны – на поўдзень ад Барысава ў напрамку Ігумен–Мінск. 10 мая 1920 г. план М.Тухачэўскага быў абмеркаваны і ўхвалены на пасяджэнні Палітбюро ЦК РКП(б). Пачатак наступлення быў прызначаны на 14 мая 1920 г. Да гэтага часу фронт меў на ўзбраенні 81,5 тыс. штыкоў і шабляў, 1467 кулямётаў і 378 гармат. Войскі праціўніка, што супрацьстаялі Заходняму фронту, налічвалі каля 63 тыс. штыкоў і шабляў, 1347 кулямётаў, 347 гармат і 22 самалёты. 14 мая 1920 г. войскі Заходняга фронту пачалі наступленне. У выніку жорсткіх баёў польскія войскі захапілі ініцыятыву.

Майскае наступленне Заходняга фронту не змагло забяспечыць выкананне пастаўленых перад ім задач. Пачалася інтэнсіўная работа па далейшым умацаванні абароны краіны. У маі 1920 г. УЦВК прыняў дэкрэт “Аб мерах барацьбы з польскім наступленнем”, які патрабаваў ад губернскіх выканаўчых камітэтаў усю сваю работу падпарадкаваць задачам вайны. Баявой праграмай дзеянняў з’явіліся тэзісы ЦК РКП(б) “Польскі фронт і нашы задачы”, апублікаваныя 23 мая 1920 г., дзе давалася ацэнка захопніцкай палітыцы польскага ўрада і былі вызначаны першачарговыя задачы барацьбы з ворагам. У краіне было праведзена 6 партыйных мабілізацый, у выніку чаго ў Чырвоную Армію мабілізавалі 24 244 камуністы. Праводзіліся таксама чарговыя агульныя мабілізацыі працоўных. У Гомельскай губерні было прызвана ў армію 17 500 рабочых і сялян, у Віцебскай — 12 500. Усяго ў 1920 г. у краіне было мабілізавана ў Чырвоную Армію больш як 1 млн чалавек.

Асаблівая ўвага надавалася ўмацаванню Заходняга фронту. Ён папоўніўся 8 стралковымі дывізіямі, 4 стралковымі і 1 кавалерыйскай брыгадамі. У чэрвені – ліпені 1920 г. асабовы склад фронту павялічыўся больш як на 170 тыс. чалавек, што дало магчымасць папоўніць палкі і дывізіі, якія ўдзельнічалі ў майскім наступленні, стварыць новыя аб’яднанні і злучэнні.

Войскі Заходняга фронту былі папоўнены ўзбраеннем, боепрыпасамі, абмундзіраваннем і рыштункам. У 1920 г. фронт атрымаў 126,7 тыс. вінтовак, больш за 2 тыс. кулямётаў, 125 млн патронаў, 243 гарматы, 13 тыс. шабляў, 91 самалёт. Былі палепшаны камунікацыйныя лініі, папоўнены транспартныя сродкі. Пад канец чэрвеня 1920 г. ствараюцца ўмовы для наступальных аперацый, чаму спрыяў і поспех войск Паўднёва-Заходняга фронту ў вызваленні Украіны. 4 ліпеня 1920 г. пачалося агульнае наступленне войск Заходняга фронту, якое ў цэлым развівалася паспяхова. Войскі імкліва рухаліся наперад, праходзячы па 30–40 км за суткі.





Польскія войскі адступалі на захад. 11 ліпеня 1920 г. быў вызвалены Мінск. У выніку наступлення войск Заходняга фронту ў ліпені 1920 г. уся тэрыторыя Беларусі была ачышчана ад акупантаў.

На вызваленай тэрыторыі Беларусі пачалося аднаўленне савецкай улады. Часова ўзяўшы ўсю ўладу, Мінскі губернскі ваенна-рэвалюцыйны камітэт на чале з А.Чарвяковым адмяніў пастановы і загады акупантаў і абвясціў пра ўступленне ў сілу законаў савецкай улады. Па меры прасоўвання Чырвонай Арміі на захад Мінскі губернскі ваенрэўком стварыў павятовыя рэвалюцыйныя камітэты, якія бралі ў свае рукі кіраўніцтва жыццём паветаў. У валасцях арганізоўваліся валасныя рэўкомы. Да ўтварэння мясцовых Саветаў рэўкомы выступалі як сапраўдныя органы дзяржаўнай улады. Пасля вызвалення Мінска сюды са Смаленска пераехалі ЦК КП(б) ЛіБ і ўрадавыя ўстановы.

Тым часам Чырвоная Армія працягвала свой паход на захад. У канцы ліпеня 1920 г. яна ўступіла на тэрыторыю Польшчы. Пад яе ўздзеяннем значна ўзмацніўся рэвалюцыйны рух польскага пралетарыяту. У населеных пунктах, занятых Чырвонай Арміяй, ствараліся рэвалюцыйныя камітэты. 30 ліпеня 1920 г. у Беластоку польскімі рэвалюцыянерамі быў створаны Часовы рэвалюцыйны камітэт Польшчы (Польрэўком). У яго склад увайшлі вядомыя дзеячы польскага рэвалюцыйнага руху Ю.Мархлеўскі (старшыня), Ф.Дзяржынскі, Ф.Кон і інш. Польрэўком у маніфесце заявіў, што польскі рабочы клас бярэ свой лёс ва ўласныя рукі і што ў гэтым яму дапамагае Чырвоная Армія. Маніфест заклікаў працоўных Польшчы змагацца з памешчыкамі і капіталістамі, будаваць рабоча-сялянскую дзяржаву. Польрэўком пачаў фарміраваць 1-ы і 2-і беластоцкія палкі Чырвонай Арміі. У сярэдзіне жніўня 1920 г. пачала стварацца Польская чырвоная армія.

У занятых Чырвонай Арміяй раёнах Польшчы праводзіліся рэвалюцыйныя пераўтварэнні: нацыяналізаваліся фабрыкі і заводы, канфіскоўваліся памешчыцкія, казённыя і манастырскія землі. Усё гэта ўстрывожыла ўрады заходніх краін. Каб выратаваць Польшчу ад разгрому і бальшавіцкага ўздзеяння, яны павялічылі ёй ваенную і эканамічную дапамогу. Міністр замежных спраў Англіі Керзан ад імя краін Антанты прад’явіў савецкаму ўраду ультыматум, у якім запатрабаваў неадкладна спыніць наступленне Чырвонай Арміі, пагражаючы ў адваротным выпадку вайной. Савецкі ўрад быў за тое, каб заключыць мір з Польшчай. Аднак урад Пілсудскага вёў двайную палітыку і зацягваў мірныя перагаворы. Польскай арміі патрэбен быў час для перадышкі. Аб гэтым сведчыць той факт, што польская дэлегацыя, якая прыехала 1 жніўня 1920 г. у Баранавічы для перага-

вораў, не мела афіцыйных урадавых паўнамоцтваў, і перагаворы не адбыліся.

У гэтых умовах ЦК РКП(б), савецкі ўрад далі ўказанне прадоўжыць наступленне Чырвонай Арміі. Аднак, плануючы далейшыя баявыя дзеянні, савецкае камандаванне ў сваіх разліках недаацаніла здольнасць польскай арміі абараняцца і перабольшыла наступальныя магчымасці Чырвонай Арміі. Сілы Заходняга фронту значна аслаблі. 13 жніўня 1920 г. Чырвоная Армія аднавіла наступленне, але няўдала. 16 жніўня польскія войскі перайшлі ў контрнаступленне і авалодалі ініцыятывай. 17 жніўня Чырвоная Армія пачала адступаць. Пры адыходзе войскі фронту неслі значныя страты. Асабліва ў цяжкім становішчы знаходзіліся 4-я армія і 3-і конны корпус, якія былі адрэзаны ад галоўных сіл і акружаны, пасля інтэрніраваны германскімі ўладамі. Савецкая дэлегацыя на перагаворах у Мінску 17 жніўня прапанавала заключыць мір і паабяцала не ўмешвацца ва ўнутраныя справы Польшчы, адказацца ад кантрыбуцыі, прызнаць мяжу па лініі Керзана, скараціць колькасць войска. Польская дэлегацыя адхіліла гэтыя ўмовы і ў сваю чаргу запатрабавала дэмабілізаваць Чырвоную Армію, прызнаць за Польшчай права на захопленыя яе войскамі землі і інш.

19 верасня 1920 г. польскія войскі зноў перайшлі ў наступленне. 20 верасня Пленум ЦК РКП(б) абмеркаваў ход мірных перагавораў і прапанаваў У.Леніну накіраваць старшыні савецкай дэлегацыі А.Іофе тэлеграму ў Рыгу наконт задач па вядзенні перагавораў. 23 верасня Пленум ЦК разгледзеў праект заявы УЦВК па пытанні мірных прапаноў Польшчы, які быў прыняты з папраўкамі і дапаўненнямі У.Леніна. Тым часам польскія войскі інтэнсіўна захоплівалі беларускія гарады і вёскі. У гэтых умовах Палітбюро ЦК РКП(б) на сваім пасяджэнні 9 кастрычніка 1920 г. прыняло падрыхтаваныя У.Леніным дырэктыву і рашэнне, дзе прапаноўвалася прыняць выстаўленыя польскай дэлегацыяй умовы аб граніцах з Польшчай і падпісаць прэлімінарны (папярэдні) дагавор.

Якія ж прычыны паражэння Чырвонай Арміі ў Вісленскай (Варшаўскай) аперацыі?

1. Была пераацэнена рэвалюцыйная гатоўнасць рабочых і сялян Польшчы падтрымаць наступленне Чырвонай Арміі. Гэта прызнаў і У.Ленін. Ён пісаў: “Мы не здолелі дабрацца да прамысловага пралетарыяту Польшчы (і ў гэтым адна з галоўных прычын нашага паражэння)” (*Ленін У.І.* Творы. Т. 31. С. 249). Планавалася, што паход Чырвонай Арміі ў Польшчу будзе садзейнічаць разгортванню сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі. Але гэтага на адбылося.

2. Савецкая краіна знаходзілася ў вельмі цяжкім эканамічным становішчы. Абмежаваныя матэрыяльныя рэсурсы не далі магчымасці забяспечваць усім неабходным войскі фронту. Папаўненне часцей і злучэнняў у раёне ваенных дзеянняў у патрэбныя тэрміны з-за дрэннай работы транспарту затрымлівалася. Адсюль перавага ў колькасці





войск, узбраення, у матэрыяльным забеспячэнні была на баку праціўніка. Акрамя гэтага, савецкія войскі былі празмерна стомленыя і знясіленыя нечуваным маршам на адлегласці ад Полацка да Варшавы.

3. Галоўнае камандаванне дапусціла памылкі стратэгічнага і тактычнага характару. Недастатковая ўвага надавалася аператыўнаму забеспячэнню баявых дзеянняў. Пралік у ацэнцы групоўкі праціўніка пры аддачы загаду на Вісленскую аперацыю прывёў да таго, што пры наступленні войскі фронту атрымалі флангавыя ўдары. Акрамя таго, войскі Паўднёва-Заходняга фронту змянілі напрамак галоўнага ўдару з Брэсцкага на Львоўскі, у выніку парушылася ўзаемадзеянне франтоў, што адмоўна адбілася на баявых дзеяннях. Цяжкасці наступлення Чырвонай Арміі на Заходнім фронце абумоўліваліся і тым, што яна была вымушана весці баявыя дзеянні і на іншых франтах.

12 кастрычніка 1920 г. былі заключаны перамір’е і прэлімінарны дагавор паміж Савецкай Расіяй і Украінай, з аднаго боку, і Польшчай – з другога. Паводле ўмоў перамір’я, ваенныя дзеянні павінны былі спыніцца 18 кастрычніка ў 24 гадзіны. Гэты час выкарыстаў польскі ўрад, каб захапіць тэрыторыю Беларусі аж да Мінска. 15 кастрычніка 1920 г. польскія войскі занялі Мінск. Аднак 17 кастрычніка яны вымушаны былі пакінуць горад, бо па ўмовах перамір’я сталіца Беларусі заставалася за савецкім бокам. Тым не менш урад Пілсудскага канчаткова не адмовіўся ад спробы далучыць большую тэрыторыю Беларусі да Польшчы, чым прадугледжвалася ўмовамі перамір’я. Таму было падрыхтавана і ажыццёўлена ўварванне арміі Булак-Балаховіча на тэрыторыю БССР на Мазырскім напрамку. Аднак гэта авантура праваліласся.

Адначасова ў Слуцкім павеце не без удзелу Польшчы рыхтавалася яшчэ адна акцыя, якая атрымала назву “Слуцкае паўстанне”. Ёсць розныя погляды на гэту падзею. Сцвярджаецца, напрыклад, што Слуцкае паўстанне было накіравана супраць савецкай улады “як чужацкай”. Але тады Слуцкі павет быў акупіраваны польскімі войскамі. Ні савецкай улады, ні Чырвонай Арміі там не было. На аснове дагавора аб перамір’і польскія войскі павінны былі адысці за дэмаркацыйную лінію, а Чырвоная Армія ўвайсці ў Слуцкі павет. 15–16 лістапада 1920 г. у занятым польскімі войскамі Слуцку па ініцыятыве суддзі Пракулевіча быў сабраны з’езд прадстаўнікоў валасцей і мястэчак Слуцкага павета, на якім прысутнічала 127 чалавек. З’езд абраў Слуцкую беларускую раду ў складзе 17 чалавек і даручыў ёй арганізаваць нацыянальнае войска. З’езд выказаў пратэст супраць уступлення ў межы Слуцкага павета Чырвонай Арміі і заклікаў усіх да барацьбы за “незалежную Беларусь у яе этнаграфічных межах”. На працягу трох дзён з ліку ваеннаабавязаных была сфарміравана вайсковая брыгада ў складзе двух палкоў, у якіх налічвалася каля 4 тыс. чалавек. Камандзірам брыгады быў прызначаны капітан П.Чайка. Калі Чырвоная Армія 22 лістапада 1920 г., згодна з умовамі дагавора аб

перамір'і, пачала набліжацца да Слуцка, брыгада ўслед за польскім войскам пачала адыходзіць на захад. У гэты момант пакінуў брыгаду яе камандзір П.Чайка. Камандаваць брыгадай было даручана штабс-капітану А.Сокал-Кутылоўскаму, які адвёў брыгаду за р. Морач, каб не сутыкацца з Чырвонай Арміяй. На правым беразе Морачы знаходзілася польскае войска. Тут брыгада склала зброю і была інтэрніравана.

18 сакавіка 1921 г. у Рызе быў падпісаны мірны дагавор паміж Савецкай Расіяй, Украінай і Польшчай. Згодна з дагаворам, заходнія землі Беларусі, тэрыторыі сучасных Брэсцкай і Гродзенскай абласцей, частка Мінскай вобласці (без Мінска) і Віцебскай адышлі да Польшчы. Тэрыторыя склала больш за 100 тыс. кв. км, на ёй жыло звыш 4 млн чалавек. Акупацыя гэтых тэрыторый Польшчай працягвалася аж да 17 верасня 1939 г.

## § 2. Барацьба беларускага народа супраць польскіх інтэрвентаў. Беларускі нацыянальны рух

На захопленай тэрыторыі польскія інтэрвенты ліквідавалі савецкую ўладу і аднавілі ўладу памешчыкаў і капіталістаў. Была адноўлена і прыватная ўласнасць на сродкі вытворчасці, былым гаспадарам вернуты нацыяналізаваныя савецкай уладай прамысловыя прадпрыемствы і зямля. Для кіраўніцтва захопленымі раёнамі ўрад Польшчы яшчэ ў лютым 1919 г. стварыў генеральны камісарыят, які загадам ад 25 жніўня 1919 г. адмяніў у гэтых раёнах дэкрэты савецкай улады, забараніў дзейнасць савецкіх устаноў. Узначальваў гэты камісарыят спачатку прафесар Л.Каланкоўскі, а затым буйны польскі памешчык з Беларускага Палесся Ю.Асмалоўскі.

Акупанты ўстанавілі на захопленай тэрыторыі дэспатычны рэжым. Толькі ў Мінску імі было арыштавана больш за 1000 жыхароў, з якіх 100 чалавек расстралялі па прыгаворах ваенна-палявых судоў. Тысячы сумленных грамадзян, якія не жадалі падпарадкавацца акупантам, былі кінуты ў канцэнтрацыйныя лагеры. Рабочыя цярпелі нечалавечую эксплуатацыю. Іх рабочы дзень працягваўся 12–15 гадзін. Акупанты рабавалі насельніцтва, вывозілі ў Польшчу матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці.

Беларускі народ не схіліў галавы перад інтэрвентамі. Амаль ва ўсіх гарадах рэспублікі былі створаны падпольныя партыйныя арганізацыі, якія ўзначалілі барацьбу працоўных за сваё вызваленне. У тыле ворага ўзнікла разгалінаваная сетка партызанскіх атрадаў. Партызаны разбуралі камунікацыі, узрывалі вайсковыя эшалоны, грамілі гарнізоны, праводзілі вялікую разведвальную работу ў тыле ворага. Партызанскія атрады ўзаемадзейнічалі з чырвонаармейскімі часцямі Заходняга фронту. Штаб фронту каардынаваў іх дзеянні,







*Атрад беларускіх партызан у тыле польскіх акупантаў. 1920 г.*

дапамагаў ім набываць узбраенне, распрацоўваць планы баявых аперацый.

28 студзеня 1920 г. у в. Гатава Мінскага павета адбыўся першы з'езд партызан. З'езд звярнуў увагу на неабходнасць паляпшаць баявое ўзаемадзеянне партызан, іх аб'яднанне для правядзення буйных аперацый. 5 красавіка 1920 г. у в. Міханавічы (каля Мінска) адбыўся другі з'езд партызан. На з'ездзе адзначалася, што барацьба ў тыле акупантаў набыла шырокі размах, што блізкі час прыходу Чырвонай Арміі.

Супраць партызан акупацыйныя ўлады праводзілі карныя экспедыцыі, засылалі ў іх атрады правакатараў, нават стварылі спецыяльны корпус пагранічнай аховы для барацьбы з імі. У гарадах, мястэчках і вёсках расклейваліся грозныя распараджэнні аб расстрэле кожнага злоўленага партызана, суровай кары мясцовых жыхароў, якія дапамагаюць партызанам. Аднак, нягледзячы ні на што, народная барацьба ў тыле ворага разгаралася і шырылася. Рэпрэсіямі захопнікі не змаглі задушыць партызанскі рух.

У гады польскай акупацыі тэрыторыі Беларусі вызначалася сутнасць кожнай партыі, арганізацыі і іх кіраўнікоў. Суровая рэчаіснасць прымушала іх выявіць свае адносіны да акупацыйных улад, распрацаваць сваю стратэгію і тактыку ў гэтых складаных умовах.

Партыя бальшавікоў, якая з 5 сакавіка 1919 г. да 5 верасня1920 г. дзейнічала як аб'яднаная з літоўскай партыяй бальшавікоў, ужо ў пачатку акупацыі тэрыторыі Беларусі польскімі войскамі ўзначаліла барацьбу працоўных супраць акупантаў. 19 мая 1919 г. аб'яднаны ЦК КП(б) ЛіБ абмеркаваў пытанні аб становішчы за дэмаркацыйнай лініяй, звярнуўся да салдат польскай арміі з адозвай аб спыненні братазабойчай вайны. Гэта была амаль што адзіная партыя, якая распрацавала тактыку барацьбы з акупантамі, асноўныя напрамкі работы сваіх арганізацый у тыле польскіх інтэрвентаў. У сувязі з тым, што ўмовы не ўсюду былі аднолькавымі, ЦК КП(б) ЛіБ падзяліў тэрыторыю рэспублікі на тры раёны: Тарыбскі (Ковенская і Сувалкаўская губерні), Заходні (Віленская і Гродзенская), Усходні (Мінская, Магілёўская і Віцебская). У кожным з гэтых раёнаў у адпаведнасці з мясцовымі ўмовамі вызначаўся характар і змест партыйнай работы. Для аператыўнага кіраўніцтва падполлем было ўтворана бюро нелегальнай работы, у склад якога ўвайшлі члены ЦК КП(б) ЛіБ В.Міцкявічус-Капсукас, В.Кнорын і інш. Была зменена тактыка ў адносінах да іншых партый, якія знаходзіліся ў апазіцыі да акупацыйнай адміністрацыі. Курс браўся на супрацоўніцтва з гэтымі партыямі на аснове агульнай зацікаўленасці ў хутчэйшым выгнанні акупантаў з беларускай зямлі.

Лідэры нацыянальна-дэмакратычных партый, нават вядомыя беларускія дзеячы ў пачатку вайны паверылі абяцанням Ю.Пілсудскага, разлічвалі, што ён дапаможа здзейсніць ідэю незалежнасці Беларусі. Пагадзіліся спачатку супрацоўнічаць з ім беларускія сацыял-дэмакраты, сацыялісты-федэралісты, эсэры. Першай праявіла ініцыятыву газета "Беларусь", якую рэдагаваў Я.Лёсік. У ёй былі надрукаваны матэрыялы, якія заклікалі Ю.Пілсудскага "аб'яднаць на аснове федэрацыі лёс беларускага і польскага народаў". Газета пісала, што "Беларусь, Літва і Польшча заўсёды складалі адно палітычнае аб'яднанне". Аўтары артыкулаў адзначалі важнасць перадачы на гэтай аснове "грамадзянскай улады на Беларусі Радзе БНР".

Перагаворы з Пілсудскім аб перадачы грамадзянскай улады Радзе БНР вялі і кіраўнікі беларускіх сацыялістаў-федэралістаў. Я.Варонка, які ўваходзіў у склад кіраўніцтва гэтай партыі, пісаў, што была спроба дамовіцца з Пілсудскім праз Антанту "ў тым сэнсе, каб прыняць ад акупантаў хоць бы грамадзянскую ўладу". Таго ж дабівалася праз Польскую сацыялістычную партыю і дэлегацыя беларускіх эсэраў у Варшаве.

Усе гэтыя намаганні былі дарэмныя. Як адзначыў вядомы дзеяч беларускага нацыянальнага руху Б.Тарашкевіч, які добра ведаў палітыку кіруючых колаў Польшчы, жаданні лідэраў беларускіх нацыянальных арганізацый атрымаць грамадзянскую ўладу былі адкінуты як польскім урадам, так і генеральным камісарыятам усходніх зямель. Вельмі хутка суровая рэчаіснасць развеяла надзеі аб магчымасці дамовіцца з Пілсудскім. Увачавідкі выявілася, што яго словы — адно, а дзеянні — зусім іншае. На словах абвяшчаліся заклікі "за нашу і вашу свабоду", "за вызваленне брацкіх народаў", а на справе ставілася адна мэта: замацаваць польскую ўладу на беларускіх землях. Гэта асабліва яскрава пацвердзілася ў час паездкі Пілсудскага ў Мінск 19 верасня 1919 г., дзе ён урачыста аб'явіў, што "хацеў бы бачыць гэты край вольным паміж вольнымі народамі". Адначасова зачыняліся на захопленай тэрыторыі беларускія школы, культурна-асветныя ўстановы, газеты. Па ўказу Пілсудскага ў Гродне былі раззброены 1-ы і 2-і беларускія пяхотныя палкі, а таксама кавалерыйскі эскадрон, падпарадкаваныя Радзе БНР.





Акупацыйная адміністрацыя і генеральны камісарыят "усходніх крэсаў" (так афіцыйна называлася захопленая тэрыторыя Гродзенскай і Мінскай губерняў) утварылі шырокую сетку арганізацый "Стражы крэсовай" і "Камітэта абароны крэсаў", якія пачалі праводзіць па ўсёй Беларусі т. зв. "плебісцыты" — "народныя галасаванні" з патрабаваннем "уз'яднання" беларускіх зямель з Польшчай. Інсцэніраваныя "Стражай крэсовай" гмінныя, павятовыя і губернскія "народныя" з'езды накіроўвалі ў Варшаву рэзалюцыі "аб далучэнні Беларусі да Польшчы". Былі таксама накіраваны ў Варшаву беларускія дэлегацыі ад інспіраванага Навагрудскага з'езда, ад Цэнтральнай беларускай рады Гродзенскай губерні. Быў утвораны нават на чале з інжынерам А.Бахановічам часовы беларускі ўрад, які заявіў ад імя "беларускага народа" аб "вольным і не насільным далучэнні Беларусі да Польшчы".

Жорсткі акупацыйны рэжым, устаноўлены польскімі ўладамі, узброеная барацьба працоўных Беларусі супраць польскіх акупантаў аказалі значны ўплыў на тактыку беларускіх нацыянальна-дэмакратычных партый. Яны арыентаваліся на Раду БНР, а яе дзейнасць была поўнасцю паралізавана. Вось чаму накірунак гэтых партый рэзка змяніўся. Першымі аб сваёй незадаволенасці палітыкай Польшчы на Беларусі заявілі беларускія эсэры і сацыялісты-федэралісты, пра што яны адкрыта выказаліся на "беларускім з'ездзе Віленшчыны і Гродзеншчыны" ў чэрвені 1919 г. Ю.Пілсудскі разлічваў, што з'езд падтрымае ідэю далучэння Беларусі да Польшчы. Аднак пад уздзеяннем дэлегатаў-эсэраў з'езд выказаўся за ўтварэнне літоўска-беларускай дзяржавы ў межах былога Вялікага княства Літоўскага. Эсэры заявілі, што яны рашуча адмяжоўваюцца ад польскай арыентацыі і будуць абараняць нацыянальныя інтарэсы беларускага народа. Яны нагадалі дэлегатам аб рашэнні Усебеларускага з'езда, які яшчэ ў снежні 1917 г. выказаўся за ўстанаўленне рэспубліканскага ладу на Беларусі. Ідэю рэспублікі, лічылі эсэры, можа здзейсніць толькі Працоўны кангрэс, які павінен быць выбраны на аснове ўсеагульнага выбарчага права ўсімі працоўнымі Беларусі. У яго склад не павінны дапускацца прадстаўнікі эксплуататарскіх класаў – буржуазія і памешчыкі. Партыя беларускіх эсэраў, такім чынам, рабіла крок насустрач

бальшавікам, якія лічылі Устаноўчы сход і ўвогуле ўсе формы буржуазнага парламентарызму несумяшчальнымі з задачамі сацыялістычнай рэвалюцыі.

Адмаўляючы савецкую ўладу, як непрыдатную форму для дзяржавы працоўных, беларускія эсэры меркавалі, што найбольш адпаведнай інтарэсам усяго беларускага народа формай улады будзе беларуская працоўная рэспубліка. Пад ёй яны разумелі ўстанаўленне дыктатуры ўсіх працоўных, а не толькі пралетарыяту. Гэта ў многім утапічная эсэраўская палітычная дактрына адлюстроўвала мары і надзеі сялянства, якое тады вяло актыўную барацьбу з польскімі інтэрвентамі і пачало паступова асэнсоўваць свае сацыяльныя мэты. 11 ліпеня 1919 г. ЦК Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р) у газеце "Беларуская думка" апублікаваў дэкларацыю, дзе заклікаў усе палітычныя групы і партыі да аб'яднання і ўтварэння агульнага фронту барацьбы за вызваленне Беларусі. У дэкларацыі гаварылася, што самым вялікім злом для Беларусі была раз'яднанасць нацыянальнага руху. Многія дзеячы вялі палітыку, якая не адлюстроўвала інтарэсы беларускага народа. ЦК БПС-Р абвясціў, што ён не можа пагадзіцца з дзеяннямі старшыні ўрада БНР А.Луцкевіча, які падтрымлівае Польшчу ў тэрытарыяльным пытанні. Беларускія эсэры заклікалі змагацца за прызнанне сусветнай грамадскасцю БНР у этнаграфічных межах пражывання беларусаў.

Якую палітыку праводзілі Рада БНР і яе ўрад ва ўмовах польскай акупацыі? Галоўнымі напрамкамі гэтай палітыкі былі: 1) па-ранейшаму дамагацца ад сусветнай грамадскасці (і ў першую чаргу ад Польшчы) афіцыйнага прызнання незалежнасці БНР; 2) устанаўленне федэратыўных адносін з Польшчай; 3) перадача ўсёй грамадзянскай улады на Беларусі Радзе БНР.

Старшыня Рады Я.Лёсік і кіраўнік урада А.Луцкевіч верылі абяцанням Ю.Пілсудскага, які не дазваляў ніякай самастойнасці ў дзеяннях Рады БНР. Гэта асабліва яскрава пацвердзілася на Парыжскай канферэнцыі, якая павінна была разгледзець пытанне аб усходніх межах Польшчы. Польская дэлегацыя не давярала А.Луцкевічу, які ўзначальваў дэлегацыю БНР, імкнулася ізаляваць яго, не дапусціць вынясення на абмеркаванне канферэнцыі праблем Беларусі. Пад націскам палякаў прэзідыум канферэнцыі прапанаваў А.Луцкевічу спачатку дамовіцца аб усім з урадам Польшчы і толькі пасля гэтага пагадзіўся паставіць на абмеркаванне канферэнцыі беларускае пытанне.

Перагаворы А.Луцкевіча з Ю.Пілсудскім у Парыжы ніякіх вынікаў не далі. Справа ў тым, што супраць прызнання незалежнасці БНР і ўстанаўлення федэратыўных адносін Беларусі з Польшчай, да чаго імкнуўся А.Луцкевіч, выступілі краіны Антанты. Яны па-ранейшаму лічылі Беларусь часткай Расіі. Таму змяніўся і змест афіцыйнай польскай прапаганды. Цяпер усё часцей вялася размова не аб федэрацыі, а аб аўтаноміі Беларусі ў складзе Польшчы. Як планавалася гэта зрабіць?





У сувязі з тым, што ў Радзе БНР была вельмі моцная эсэраўская апазіцыя, якая вяла барацьбу за дзяржаўную незалежнасць Беларусі, меркавалася замяніць Раду Беларускім нацыянальным камітэтам (БНК), які быў утвораны ў Мінску ў жніўні 1919 г. Вакол камітэта групаваліся розныя беларускія палітычныя плыні – ад буржуазна-нацыяналістычных да нацыянальна-дэмакратычных. Узначальваў камітэт сацыял-дэмакрат А.Прушынскі (А.Гарун). Гэты камітэт пад кіраўніцтвам генеральнага камісарыята "ўсходніх крэсаў" павінен быў правесці выбары ў польскі сейм у Мінскай і Гродзенскай губернях. Выбраныя дэпутаты абавязаны былі заявіць аб уключэнні беларускіх зямель у склад Польшчы. За гэта польская адміністрацыя абяцала пашырыць палітычныя паўнамоцтвы камітэта. Тым самым краіны Антанты вымушаны будуць прызнаць "законным" перанясенне польскіх межаў на ўсход. Менавіта з такіх пазіцый вяліся перагаворы ў Варшаве, куды ў верасні 1919 г. прыехаў А.Луцкевіч з Парыжа. У кнізе "Польская акупацыя ў Беларусі", выдадзенай у 1920 г., А.Луцкевіч пісаў, што мэта яго перагавораў з Ю.Пілсудскім – дасягнуць прызнання Польшчай незалежнасці Беларусі і яе ўрада. У адказ на гэта Пілсудскі заявіў, што ён "жадаў бы дапамагчы вызваліцца Беларусі з-пад улады Расіі, аднак з той прычыны, што Антанта беларускай дзяржаўнасці не прызнае, ён бачыць толькі адно выйсце: прызнанне Антантай той мяжы, якая існавала на ўсходзе да 1772 г., інакш кажучы, далучэнне Беларусі да Польскай Рэчы Паспалітай" (Нёман. 1992. № 11. С. 139). Луцкевіч далей піша, што ён глыбока перакнаўся, што "Ю.Пілсудскі і ўся панская Польшча –гэта такія ж ворагі Беларусі, як і ворагі Расіі". Мусіць, гэты настрой перадаўся Пілсудскаму. Луцкевіч быў у Варшаве інтэрніраваны, а Рада БНР распушчана. Іншага выніку перагавораў нельга было і чакаць: Пілсудскі бачыў у беларускіх землях толькі частку вялікай Польшчы.

Пасля роспуску Рады значна актывізавалі свае дзеянні беларускія эсэры. Іх дэлегацыя ў Варшаве звярнулася да ЦК Польскай партыі сацыялістаў з просьбай аб садзеянні ў вызваленні А.Луцкевіча, спадзеючыся, што ён ужо цяпер стане на іх бок. Але гэтага не адбылося. Пасля свайго вызвалення і атрымання пры садзеянні ЦК ППС дазволу на скліканне Рады БНР, ён пры выездзе з Варшавы паабяцаў Пілсудскаму правесці ўсе рашэнні на гэтай Радзе на карысць Польшчы. У чым тут справа? Чаму Луцкевіч не толькі не змяніў сваёй палітыкі, а пайшоў яшчэ далей насустрач Польшчы? Справа ў тым, што Пілсудскі паабяцаў Луцкевічу стварыць беларускае войска. Аб гэтым даўно марыў Луцкевіч яшчэ ў часы нямецкай акупацыі. Адразу ж пасля прыезду ў Вільню ён заявіў: "Ёсць надзея, што беларусам удасца знайсці спосаб прымірыць інтарэсы свайго дзяржаўнага будаўніцтва з інтарэсамі Польшчы і ўтварыць беларускае войска". Пілсудскі выканаў сваё абяцанне. 22 кастрычніка 1919 г. ён выдаў дэкрэт, які дазваляў Радзе БНР мець сваё войска. У гэты ж дзень была створана і

зацверджана Пілсудскім Беларуская вайсковая камісія ў складзе П.Алексюка (старшыня), А.Прушынскага, С.Рак-Міхайлоўскага, М.Якубоўскага, Ф.Кушаля і В.Мурашкі. Галоўнакамандуючым быў прызначаны польскі афіцэр А.Канапацкі. Усё войска складалася з двух пяхотных батальёнаў.

Ю.Пілсудскі спадзяваўся, што сесія Рады БНР, адкрыццё якой было прызначана на 12 снежня 1919 г., прыме рашэнне аб "уніі Беларусі з Польшчай". Ён нават паслаў у Мінск свайго прадстаўніка, якому было даручана зрабіць усё магчымае, каб Рада прыняла рашэнні на карысць Польшчы.

Грунтоўна рыхтаваліся да сесіі Рады і беларускія эсэры. Напярэдадні сесіі яны правялі ў Мінску канферэнцыю, дзе заявілі, што партыя эсэраў будзе праводзіць у жыццё 3-ю Устаўную грамату, якая абвясціла незалежнасць Беларусі. Эсэраўскія лідэры таксама пацвердзілі, што мэта іх партыі – устанаўленне "сярэдняй улады", якая будзе стаяць паміж дыктатурай пралетарыяту і дыктатурай буржуазіі (дыктатура працоўнага народа), што яе палітычны курс поўнасцю падпарадкаваны барацьбе за "чыстую дэмакратыю" і "народаўладдзе". Вось гэтыя ідэі эсэры і прапанавалі на абмеркаванне сесіі Рады БНР.

Пазіцыя эсэраў значна ўзмацнілася пасля таго, як да іх далучыўся вядомы дзеяч беларускага нацыянальнага руху В.Ластоўскі. Ён спецыяльна прыехаў з Літвы ў Мінск з групай "кандыдатаў" у члены Рады БНР, каб прыняць удзел у рабоце сесіі Рады. Паводле арганізацыйнага ўстава Рады, у яе склад маглі пасылаць сваіх дэлегатаў усе беларускія грамадскія арганізацыі. Па ініцыятыве В.Ластоўскага віленскія арганізацыі накіравалі сваіх дэлегатаў у Раду. В.Ластоўскі, далучыўшыся да партыі эсэраў, стаў фактычна адным з яе лідэраў. Ён стаяў зусім на іншых, чым А.Луцкевіч, пазіцыях, падтрымліваў эсэраўскую ідэю незалежнасці БНР у этнаграфічных межах пражывання беларусаў, заставаўся прыхільнікам прынцыпаў 3-й Устаўной граматы БНР. Луцкевіч жа, хоць і быў ініцыятарам прыняцця граматы, у гэтых складаных абставінах адмовіўся ад яе асноўных ідэй, пайшоў на згодніцтва з Польшчай, падтрымаў ідэю "уніі Беларусі з Польшчай".

Такім чынам, не асабістыя амбіцыі, а процілегласць палітычных поглядаў прывяла да разыходжання двух вядомых дзеячаў беларускага нацыянальнага руху. Гэта адбілася і на выніках сесіі Рады БНР. Ужо на першым яе пасяджэнні выявілася, што яна рэзка падзялілася на дзве процілеглыя часткі. Большасць – эсэры і сацыялісты-федэралісты – выступіла супраць усякага пагаднення з польскім урадам, які праводзіў палітыку паланізацыі насельніцтва Беларусі і прыгнечання беларускага народа. Гэта частка дэпутатаў выказала недавер лідэрам сацыял-дэмакратычнай партыі, старшыні Рады БНР Я.Лёсіку і кіраўніку ўрада А.Луцкевічу за іх згодніцкія дзеянні. Другая частка – сацыял-дэмакратычная фракцыя (37 членаў Рады з 87) на чале з А.Смолічам – заявіла аб сваёй польскай арыентацыі і заклікала сесію выказаць давер ураду Луцкевіча. Сацыял-дэмакраты нават прапанавалі паслаць ад імя сесіі прывітальную тэлеграму польскаму сейму і кіраўніку польскай дзяржавы Ю.Пілсудскаму (нагадвае сумна вядомую тэлеграму германскаму кайзеру). А.П.Аляксюк ад імя сацыял-дэмакратычнай фракцыі прапанаваў распусціць Раду і замест яе выбраць Дырэкторыю з 5 чалавек (па прыкладу ўкраінскай Дырэкторыі) і перадаць ёй усю грамадзянскую ўладу на тэрыторыі Беларусі. Эсэраўская большасць не пагадзілася з гэтымі прапановамі. Тады правыя і цэнтр вельмі проста вырашылі задачу барацьбы з эсэрамі. Памяшканне залы пасяджэння было зачынена. Прыйшлося зламаць дзверы і прадоўжыць пасяджэнне, але ўжо без фракцыі сацыял-дэмакратаў. Было прынята рашэнне пазбавіць прэзідыум Рады на чале з Я.Лёсікам і ўрад А.Луцкевіча далейшага даверу Рады і перавыбраць іх.

13 снежня 1919 г. рэвалюцыйным шляхам была ўтворана новая, Народная рада. У новы прэзідыум Рады былі выбраны члены Савета І Усебеларускага з'езда П.Крачэўскі (сацыяліст-федэраліст), П.Бадунова (сацыяліст-рэвалюцыянер), В.Захарка (сацыяліст-федэраліст), сакратарамі Я.Мамонька і М.Козіч (абодва сацыялісты-рэвалюцыянеры). Кабінет міністраў было даручана сфарміраваць В.Ластоўскаму.

Новыя кіруючыя органы БНР пацвердзілі акт 25 сакавіка 1918 г. "Аб незалежнасці Беларусі", вынеслі пратэст супраць незаконна аб'яўленага палякамі плебісцыту на Беларусі і польскага гаспадарання. У адказ польскія ўлады арыштавалі найбольш актыўных дзеячаў партыі эсэраў, у тым ліку новага кіраўніка ўрада БНР В.Ластоўскага, членаў урада П.Бадунову, Т.Грыба, Я.Мамоньку і інш. У выніку партыя эсэраў вымушана была працаваць нелегальна. Польскія ўлады адразу ж утварылі Найвышэйшую Раду, куды ўвайшлі вядомыя дзеячы сацыял-дэмакратычнай партыі Я.Лёсік, А.Смоліч, В.Іваноўскі, С.Рак-Міхайлоўскі і інш. Аднак цяпер, калі вырашальная роля перайшла да беларускіх эсэраў, гэта "найвышэйшая рада" фактычна магла быць толькі марыянеткай польскай акупацыйнай адміністрацыі. Урад А.Луцкевіча даволі хутка распаўся, а сам кіраўнік урада выехаў у Варшаву, дзе зноў імкнуўся высветліць адносіны кіруючых колаў Польшчы да Беларусі. Аднак ён для Ю.Пілсудскага ўжо быў ніхто. Гэта сустрэча з Пілсудскім канчаткова развеяла ўсе яго надзеі і разлікі, і ён вырашыў адысці ад актыўнай палітычнай дзейнасці, стаў выкладчыкам гісторыі беларускай літаратуры ў Віленскай беларускай гімназіі.

Так закончылася палітычная кар'ера вядомага дзеяча беларускага нацыянальнага руху. Драматызм лёсу А.Луцкевіча, як і ўсёй яго палітычнай дзейнасці, выявіўся ў тым, што ён, выступаючы за беларускую нацыянальную ідэю, за свабоду для беларускага народа, практычна аказаўся адарваным ад свайго народа, яго інтарэсаў, не ацаніў

ні ўнутранага, ні знешняга становішча, якое склалася пасля рэвалюцыі.

Якія ж адносіны польскага ўрада былі да тых змен, што адбыліся ў беларускім нацыянальным руху? Пра іх Пілсудскі так казаў у сваім выступленні 1 лютага 1920 г. у Вільні на нарадзе прадстаўнікоў акупацыйнай адміністрацыі: "Ніякіх палітычных паслабленняў не будзе". 8 сакавіка 1920 г. польскі ўрад афіцыйна заявіў, што прызнаваць незалежнасць БНР не збіраецца. Паслабленні абяцаліся толькі ў галіне мясцовага самакіравання і культуры на тэрыторыі Мінскай акругі. Гродзеншчына і беларускія паветы Віленшчыны ўключаліся ў склад Польшчы.

У пачатку сакавіка 1920 г. у Варшаве адбыліся перагаворы паміж польскім урадам і Найвышэйшай Радай БНР. Кіраўнік дэлегацыі Рады В.Іваноўскі выклаў мемарандум, у якім прапанавалася польскаму сейму прызнаць незалежнасць БНР, даць Радзе БНР права прадстаўляць інтарэсы Беларусі на будучых савецка-польскіх перагаворах, дазволіць утварэнне ў Вільні літоўска-беларускага ўрада, не праводзіць паланізацыю беларускага насельніцтва. Польскі бок не прыняў гэтыя прапановы. Таму перагаворы былі спынены.

21 сакавіка 1920 г. перагаворы працягваліся ў Мінску. Польская дэлегацыя адразу ж ультыматыўна заявіла, што ў выпадку непрыняцця Найвышэйшай Радай прапаноў Польшчы, выкладзеных 8 сакавіка 1920 г., "польскае войска не спыніцца нават перад актам насілля". Вось пад такім ціскам В.Іваноўскі зняў усе прапановы, якія былі зроблены ў Варшаве, і заявіў, што Найвышэйшая Рада не будзе больш патрабаваць прызнання дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. 24 сакавіка 1920 г. перагаворы завяршыліся. Быў падпісаны дагавор, згодна з якім беларускія землі павінны ўвайсці ў склад "адноўленай Польшчы ў межах 1772 г.". Адзначалася таксама, што беларусам будзе дадзена культурна-нацыянальная аўтаномія на тэрыторыі Мінскай губерні. Гэта быў крок назад нават у параўнанні з прыведзенымі вышэй патрабаваннямі ўрада 8 сакавіка 1920 г. Толькі Мінская губерня прызнавалася тым месцам, дзе беларусам дазвалялася развіваць сваю нацыянальную культуру. Але і гэтыя абяцанні польскага ўрада адносна Мінскай губерні не выконваліся. Дагавор з Найвышэйшай Радай быў патрэбны Польшчы, каб зрабіць ціск на савецкую дэлегацыю на перагаворах аб міры ў Рызе, пазбавіць яе права і магчымасці абмяркоўваць пытанне аб тэрыторыі Беларусі і лёсе беларускага народа. Гэта пытанне ўжо было "вырашана" польскім урадам і Найвышэйшай Радай.

Якую ж палітыку праводзілі ў новых умовах партыі левага блока – бальшавікі, беларускія эсэры і сацыялісты-федэралісты? Суровая рэчаіснасць сцерла супярэчнасці паміж гэтымі партыямі. Хоць яны і стаялі на розных ідэйных платформах, гэтым партыям тым не менш удалося аб'яднаць свае намаганні, накіраваць іх на вызваленне Беларусі. Першай пайшла на збліжэнне з бальшавікамі партыя эсэраў. У снежні 1919 г. у Смаленску паміж эсэрамі і бальшавікамі быў падпісаны дагавор аб агульных дзеяннях. У дагаворы гаварылася, што абедзве партыі бяруць на сябе абавязкі актыўна абараняць сацыяльныя і нацыянальныя інтарэсы беларускага працоўнага народа. Аб гэтым жа гаварылася і ў тэзісах ЦК КП(б) ЛіБ, прынятых па дакладу В.Кнорына 19 снежня 1920 г. Тэзісы адлюстроўвалі агульную тактычную лінію барацьбы з польскімі інтэрвентамі, накіраванай на ўтварэнне шырокага фронту ўсіх працоўных супраць акупантаў. Па ініцыятыве эсэраў былі аб'яднаны паўстанцкія і партызанскія атрады ў адзіную цэнтралізаваную арганізацыю — Народную ваенную самаабарону (НВС), якая стала асновай беларускага нацыянальнага войска.

Вялікі ўклад у арганізацыю барацьбы супраць акупантаў зрабіла Беларуская камуністычная арганізацыя (БКА), утвораная ў студзені 1920 г. на аснове эсэраўскай аўтаномнай арганізацыі "Маладая Беларусь", якая ўзнікла яшчэ ў маі 1917 г. пры Мінскім настаўніцкім інстытуце. У яе ўваходзілі У.Ігнатоўскі, В.Сташэўскі, В.Гарбацэвіч, С.Булат, М.Кудзелька (М.Чарот), М.Мароз і інш. БКА ў асноўным аб'ядноўвала вучнёўскую моладзь і інтэлігенцыю. Яна заявіла аб сваім прызнанні праграмы і тактыкі РКП(б). Утвораныя БКА партызанскія атрады склалі ядро Народнай ваеннай самаабароны. Напрыклад, усе партызанскія атрады вакол Мінска дзейнічалі пад кіраўніцтвам БКА. Гэта была нацыянальная рэвалюцыйная арганізацыя, якая зрабіла вялікі ўклад у вызваленне Беларусі і аднаўленне яе дзяржаўнасці. Вакол яе групаваліся многія прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі. БКА выступала супраць сепаратызму, за цесныя сувязі з Расіяй.

Пад уздзеяннем узрастаючай барацьбы працоўных мас супраць польскіх акупантаў працягвалася эвалюцыя ідэйных пазіцый беларускіх эсэраў, якія ўзялі курс на супрацоўніцтва з бальшавікамі. Гэта партыя карысталася аўтарытэтам у значнай частцы насельніцтва Беларусі, асабліва сярод сялянства. Як ужо адзначалася, яна ў кааліцыі з сацыялістамі-федэралістамі ўтварыла ў снежні 1919 г. сваю Народную раду, сфарміравала ўрад на чале з В.Ластоўскім.

Якую палітыку праводзілі партыя беларускіх эсэраў і ўтвораныя ёю кіруючыя органы БНР — Рада і ўрад у новых умовах? Асноўныя напрамкі гэтай палітыкі вызначыў з'езд партыі эсэраў, які праходзіў нелегальна ў Мінску 4 сакавіка 1920 г. На з'ездзе ЦК БПС-Р афіцыйна заявіў, што партыя беларускіх эсэраў разам з іншымі рэвалюцыйнымі сіламі стаіць за аднаўленне на Беларусі ўлады працоўнага народа, якая і павінна вырашыць пытанне аб нацыянальнай дзяржаўнасці.

З'езд прыняў праграму партыі, у якой ставілася задача рэвалюцыйнага пераўтварэння грамадства на сацыялістычнай аснове. Праграма пацвердзіла ранейшае патрабаванне эсэраў устанаўлення "дыктатуры працоўнага народа". Ставілася таксама задача барацьбы за незалежную Беларускую працоўную сацыялістычную рэспубліку як частку федэрацыі свабодных народаў, якая ўзнікне ў выніку перамогі сусветнай рэвалюцыі. Аграрная рэвалюцыя на Беларусі павінна ўліцца

ў агульны працэс барацьбы з капіталізмам у сусветным маштабе, дзе вядучую ролю зойме сялянства, а не пралетарыят. Як бачым, ідэі сусветнай рэвалюцыі захапілі не толькі бальшавікоў, але і беларускіх эсэраў.

На з'ездзе эсэры афіцыйна адмовіліся ад лозунга Усебеларускага ўстаноўчага схода і прапанавалі склікаць Усебеларускі працоўны кангрэс, у якім будуць удзельнічаць прадстаўнікі рабочых і сялян. Кангрэс павінен вырашыць пытанне аб дзяржаўнай уладзе на Беларусі пасля выгнання польскіх акупантаў. І хоць з'езд адмоўна аднёсся да бальшавіцкай ідэі дыктатуры пралетарыяту, тым не менш ён адкрыта заявіў аб прызнанні прынцыпаў савецкай улады і паставіў задачу ўстанаўлення "дыктатуры працоўнага народа" ў форме Саветаў. Беларускія эсэры, такім чынам, прызналі савецкую ўладу як форму дзяржавы рабочых і сялян.

У сацыяльна-эканамічнай галіне беларускія эсэры выступалі за сацыялізацыю зямлі, за развіццё розных форм рабочай і сялянскай кааперацыі. Нацыяналізацыя дапускалася толькі ў галіне буйной прамысловасці. У эканамічных пытаннях іх праграма адлюстроўвала агульную для ўсіх эсэраўскіх партый тэндэнцыю да анархасіндыкалізму.

Гэтымі праграмнымі ўстаноўкамі кіравалася эсэраўская Народная рада БНР. Што датычыць урада, які ўзначальваў В.Ластоўскі і які таксама быў у асноўным эсэраўскім, то ён праводзіў асобную палітыку, не залежную ад курсу ўсёй партыі. Ластоўскі і яго ўрад лічылі, што ўтварыць незалежную рэспубліку Беларусь "у межах пражывання беларускага народа" можна толькі пры падтрымцы і дапамозе краін Антанты. З гэтай мэтай урад Ластоўскага неаднаразова звяртаўся да ўрадаў краін Антанты з просьбай аб матэрыяльнай і ваеннай падтрымцы ў яго барацьбе за "ўмацаванне суверэнітэту БНР". Ластоўскі прасіў дапамагчы яго ўраду "сабраць беларускіх воінаў, якія знаходзіліся ў розных арміях, да сябе на Радзіму". Ён звяртаўся таксама да ўрадаў ЗША, Германіі, краін Прыбалтыкі, разлічваючы на іх разуменне і дапамогу. Аднак гэтыя просьбы засталіся без адказу.

Зусім іншая пазіцыя была ў ЦК БПС-Р. Ён лічыў, што нацыянальную незалежнасць можна здзейсніць унутранымі сіламі. Пры гэтым дапускалася дапамога з боку Савецкай Расіі. Гэтыя розныя падыходы да вырашэння галоўнага пытання нацыянальнай палітыкі выклікалі многія цяжкасці ва ўзаемаадносінах паміж эсэраўскім урадам БНР і кіраўніцтвам партыі беларускіх эсэраў. Тым не менш іх аб'ядноўвала агульная мэта — захоп палітычнай улады на Беларусі. Гэта не магло не выклікаць заклапочанасці кіраўніцтва КП(б) ЛіБ. Яно распрацавала новую тактыку ў адносінах да эсэраў. Партыйныя арганізацыі атрымалі ўстаноўку на нейтралізацыю эсэраў, нягледзячы на заключаныя раней дамоўленасці аб супрацоўніцтве, што падштурхнула ЦК БПС-Р пайсці на непасрэдныя кантакты з ЦК РКП(б). Для гэтага ў кіраўніцтва эсэраў былі важкія падставы. Справа ў тым, што





КП(б) ЛіБ, занятая кіраўніцтвам барацьбой з акупантамі, не мела адзінай пазіцыі па пытанні беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці, адкладвала вырашэнне яго на будучае.

6 красавіка 1920 г. у Маскву выехала дэлегацыя ЦК БПС-Р на чале з членам ЦК П.Бадуновай. У размове з І.Сталіным П.Бадунова заявіла, што беларускія эсэры адмежаваліся ад згодніцкіх і нацыяналістычных партый, якія згубілі сацыялістычнае аблічча, што па сваім рэвалюцыйным характары яны з'яўляюцца самай блізкай партыяй да РКП(б). Галоўным на перагаворах было пытанне аб аднаўленні пасля вызвалення ад акупацыі нацыянальнай дзяржаўнасці беларускага народа. П.Бадунова расказала І.Сталіну аб заклапочанасці беларускіх эсэраў тым, што ў выніку будучага мірнага дагавору Расіі з Польшчай будзе вырашацца лёс Беларусі, што заходняя частка Беларусі з яе чыста працоўным сялянскім насельніцтвам застанецца пад прыгнётам польскай буржуазіі, "польскага бізуна і ксёндзаўскага клерыкалізму". "Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў, — падкрэсліла Бадунова, — лічыць сваім абавязкам звярнуць больш глыбокую ўвагу ЦК партыі на гэты важны гістарычны акт палітычнага падзелу жывога арганізма беларускіх працоўных мас". Бадунова назвала памылкі, зробленыя бальшавікамі на Беларусі, і перш-наперш па сялянскім пытанні. "Савецкая ўлада на Беларусі магла абаперціся на сялянства, калі б зямельнае пытанне было вырашана ў святле сацыялізацыі зямлі і тэрміновай яе перадачы ў рукі працоўных", — заўважыла Бадунова.

Ад імя ЦК БПС-Р Бадунова выказала наступныя патрабаванні: 1) прызнання з боку Савецкай Расіі законным урадам Беларусі ўрад В.Ластоўскага, выбраны 13 снежня 1919 г. Радай рэспублікі, і садзейнічання яму ў прыняцці ўдзелу ў мірных перагаворах; 2) абвяшчэння і фактычнага здзяйснення незалежнасці той часткі этнаграфічнай Беларусі, якая занята савецкімі войскамі; 3) тэрміновай арганізацыі беларускага чырвонага войска; 4) поўнай і тэрміновай матэрыяльнай дапамогі беларускай культурна-асветніцкай працы ў Савецкай Беларусі, вялікага педагагічнага і культурнага значэння надання выкладанню на беларускай мове; 5) вызвалення ўсіх арыштаваных членаў партыі эсэраў; 6) шырокай і тэрміновай падтрымкі ўсіх рэвалюцыйных рабоча-сялянскіх арганізацый партый на захопленай палякамі частцы Беларусі.

Агульны сэнс патрабаванняў беларускіх эсэраў быў добра зразумелы: перадача ім палітычнай улады на Беларусі. Аднак РКП(б) не збіралася дзяліць уладу ў нацыянальных рэгіёнах з нацыянальна-дэмакратычнымі партыямі, у тым ліку і з эсэрамі. Але ўсё ж такі, каб не зрабіць паспешлівага кроку ў адносінах да беларускіх эсэраў, ЦК РКП(б) запрасіў ЦК КП(б) ЛіБ даць тлумачэнне наконт гэтай партыі. Такое тлумачэнне было дадзена і 28 красавіка 1920 г. за подпісам сакратара ЦК В.Кнорына накіравана ў Маскву. У дакуменце давалася наступная характарыстыка беларускіх эсэраў: 1) партыя

беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў складаецца з невялікай групы (8–10 чалавек) беларускіх інтэлігентаў; гэта група сярод працоўных мас ніякага даверу не мае, а таму лічыцца з ёй як з палітычнай партыяй нельга; па сваёй палітычнай накіраванасці група з'яўляецца нацыяналістычнай і не мае выразнай палітычнай платформы; 2) урад В.Ластоўскага, за прызнанне якога савецкім урадам выступае П.Бадунова, не з'яўляецца сацыялістычным; ён ніякай падтрымкі нідзе на Беларусі не знаходзіць; 3) што датычыць пытання аб беларускім нацыянальным руху, то ён у сучасных умовах амаль нічым сябе не выяўляе і лічыцца з ім як з палітычным фактарам не даводзіцца; наконт становішча на Беларусі трэба раіцца не з якімі-небудзь нацыяналістычнымі групоўкамі, а з ЦК КП(б) ЛіБ.

Вось кароткі змест характарыстыкі беларускіх эсэраў, дадзенай ЦК КП(б) ЛіБ, аўтарам якой быў В.Кнорын. Як бачым, у гэтай характарыстыцы свядома зменшана роля беларускіх эсэраў у рэвалюцыйна-вызваленчай барацьбе супраць польскіх інтэрвентаў і завострана ўвага на іх нацыяналізме. Чаму? Таму што В.Кнорын падтрымліваў пазіцыю А.Мяснікова, які так і не прызнаў права беларускага народа на нацыянальную дзяржаўнасць, вельмі падазрона адносіўся да тых, хто вёў барацьбу за гэта права, уключаючы і эсэраў, хоць Кнорын не мог не ведаць, што беларускія эсэры ўнеслі значны ўклад у барацьбу супраць польскіх інтэрвентаў. Гэта была самая шматлікая партыя на Беларусі. Яна аб'ядноўвала больш за 20 тыс. членаў (падпольныя бальшавіцкія арганізацыі разам з Беларускай камуністычнай арганізацыяй не перавышалі 4 тыс. членаў). Пад кіраўніцтвам эсэраў дзейнічаў Саюз моладзі, які налічваў 10 тыс. членаў. Партыю эсэраў падтрымлівалі Беларускі настаўніцкі саюз, прафесійныя саюзы чыгуначнікаў, паштова-тэлеграфных служачых і інш. Утвораныя эсэрамі партызанскія атрады, аб'яднаныя ў "Сувязь беларускага працоўнага сялянства", з'явіліся часткай Народнай ваеннай самаабароны – паўстанцкага беларускага войска ў тыле польскіх інтэрвентаў. У яго ўтварэнне немалы ўклад унеслі і эсэры. Нічога аб гэтым не напісаў у сваёй запісцы В.Кнорын. Ён па-свойму ўяўляў палітычнае развіццё на Беларусі. Ідэя сусветнай рэвалюцыі, якой былі захоплены бальшавіцкія лідэры, не давала ім магчымасці па-сапраўднаму зразумець сэнс абставін, пайсці на кампраміс з нацыянальна-дэмакратычнымі партыямі.

Змест запіскі В.Кнорына выклікаў падазронасць у ЦК РКП(б). Аб гэтым сведчыць той факт, што нягледзячы на адхіленне многіх прапаноў дэлегацыі ЦК БПС-Р на перагаворах, ЦК РКП(б) усё ж станоўча аднёсся да аб'яднання сіл бальшавікоў і эсэраў у агульнай барацьбе супраць польскіх інтэрвентаў. 29 красавіка 1920 г. ЦК РКП(б) прапанаваў ЦК КП(б) ЛіБ увесці сваіх прадстаўнікоў у Беларускі паўстанцкі камітэт, утвораны ў сакавіку 1920 г. беларускімі эсэрамі як аператыўны цэнтр па кіраўніцтву паўстанцкай барацьбой у тыле польскіх інтэрвентаў. У гэты камітэт, апрача бальшавікоў, увайшлі





прадстаўнікі Яўрэйскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, рэвалюцыйных народнікаў-сацыялістаў [1] і БКА. Рабілася гэта з мэтай аб'яднаць усе сілы ў барацьбе супраць агульнага ворага. ЦК РКП(б) на перагаворах з прадстаўнікамі ЦК БПС-Р слушна аднёсся і да прапановы абмеркаваць пытанне аб аднаўленні беларускай дзяржаўнасці, аб якім у запісцы В.Кнорына нічога не гаварылася. Абодва бакі дамовіліся вярнуцца да гэтага пытання пасля паляпшэння становішча на Заходнім фронце.

Такім чынам, беларускі нацыянальны рух у перыяд польскай акупацыі быў накіраваны на аб'яднанне ўсіх працоўных у іх барацьбе супраць інтэрвентаў і вызваленне тэрыторыі Беларусі ад іншаземных захопнікаў.

## § 3. Аднаўленне Беларускай ССР

Пасля паспяховага ліпеньскага (1920) наступлення Чырвонай Арміі, калі ўся тэрыторыя Беларусі была вызвалена ад польскіх захопнікаў, практычна паўстала пытанне пра аднаўленне беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці. Але сярод кіраўніцтва Літбела, асабліва партыйнага, па-ранейшаму не было адзінай думкі па гэтым пытанні. Члены ЦК КП(б) ЛіБ В.Кнорын, М.Калмановіч, Р.Пікель, І.Рэйнгольд і іншыя, якія ў 1918 г. падзялялі пазіцыю А.Мяснікова, і цяпер не лічылі неабходным ствараць суверэнную Беларускую Савецкую Рэспубліку. Яны абмяжоўваліся наданнем беларусам культурна-нацыянальнай аўтаноміі ў межах Мінскай губерні, якая павінна была ўвайсці ў склад РСФСР як адміністрацыйная адзінка. Яны не ўлічвалі настрою беларускага народа, які хацеў аднавіць сваю дзяржаўнасць. Па-ранейшаму рашэнне "беларускага пытання" яны ставілі ў залежнасць ад вынікаў сусветнай рэвалюцыі. Гэтай ідэяй кіраваліся тады многія партыйныя дзеячы.

Другая частка членаў ЦК КП(б) ЛіБ на чале з А.Чарвяковым настойліва патрабавала ад ЦК РКП(б) тэрмінова разгледзець беларускае пытанне. У маі 1920 г. па ініцыятыве А.Чарвякова, які ўзначальваў савецкі аддзел Рэўваенсавета Заходняга фронту, праходзілі нарады камуністаў-беларусаў з абмеркаваннем аднаго і таго ж пытання: "Аб аднаўленні савецкай улады і самавызначэнні Беларусі".

Нарэшце, улічваючы настрой працоўных мас, ЦК КП(б) ЛіБ 6 ліпеня 1920 г., калі Чырвоная Армія перайшла ў наступленне, выказаўся за аднаўленне беларускай савецкай дзяржаўнасці. Большасцю галасоў было прынята наступнае рашэнне: "Пасля выгнання польскіх інтэрвентаў з Мінска выдаць дэкларацыю, у як ой аб'явіць аб нязмен-

[1] Партыя рэвалюцыйных народнікаў-сацыялістаў была створана вясной 1919 г. з леваэсэраўскіх арганізацый. Лідэр – А.Пятроў. Праграма і тактыка – эсэраўскія. Распалася восенню 1920 г.

ным прызнанні самавызначэння народаў, у тым ліку і беларускага". У сувязі з нестабільным палітычным становішчам было прызнана пакуль не вырашаць пытання аб тэрыторыі рэспублікі.

7 ліпеня 1920 г. быў створаны Мінскі губрэўком на чале з А.Чарвяковым, які 11 ліпеня, калі з Мінска былі выгнаны інтэрвенты, аб'явіў аб пераходзе да яго ўсёй грамадзянскай улады на свабоднай тэрыторыі. З гэтага часу ЦК КП(б) ЛіБ стаў арыентавацца на аднаўленне БССР у межах Мінскай губерні.

Супраць рашэння ЦК КП(б) ЛіБ аб аднаўленні БССР выступілі яго члены Р.Пікель і І.Рэйнгольд. Яны накіравалі ў ЦК тэзісы "Да пытання аб утварэнні Беларускай Савецкай Рэспублікі", у якіх фактычна адмаўлялі неабходнасць утварэння беларускай дзяржаўнасці. І хоць тэзісы выяўлялі думку нязначнай колькасці камуністаў Беларусі, яны сведчылі аб тым, што ідэі, якія прапанаваў А.Мяснікоў і яго паплечнікі ў 1918 г., аказаліся вельмі ўстойлівымі. З наступленнем Чырвонай Арміі зноў з'явіліся надзеі на сусветную рэвалюцыю. Усё часцей сталі гучаць рэвалюцыйныя заклікі: "Даеш Варшаву!", "Даеш Берлін!". "Утварэнне Савецкай Рэспублікі на тэрыторыі Польшчы – чарговая задача сусветнай рэвалюцыі" — так лічылі Р.Пікель і І.Рэйнгольд. На іх думку, у гэтых умовах стварэнне нацыянальных дзяржаў – вялікая перашкода для сусветнай рэвалюцыі. Таму яны і прыйшлі да такой высновы: "Ні этнаграфічныя, ні эканамічныя, ні культурныя ўмовы, не гаворачы ўжо аб палітычных, не патрабуюць стварэння Беларускай Савецкай Рэспублікі".

Тэзісы Р.Пікеля і І.Рэйнгольда выклікалі вострую дыскусію сярод камуністаў Беларусі. Іх рашуча адхілілі А.Чарвякоў, У.Ігнатоўскі і іншыя кіраўнікі Мінскага губрэўкома. Не былі ўхвалены тэзісы і ў ЦК РКП(б). Па ініцыятыве У.Леніна 16 ліпеня 1920 г. Пленум ЦК РКП(б) прыняў рашэнне аб стварэнні Белрэўкома як часовага органа дзяржаўнай улады на вызваленай тэрыторыі Беларусі.

Тым часам Чырвоная Армія працягвала наступленне.

12 ліпеня 1920 г. у Маскве быў падпісаны мірны дагавор паміж Літвой (сталіца — г.Коўна) і РСФСР. Разлічваючы на перамогу савецкай улады ў Літве і яе магчымыя сутыкненні з Польшчай, урад РСФСР пайшоў на тое, каб уключыць частку тэрыторый з гарадамі Гродна, Шчучын, Ашмяны, Смаргонь, Браслаў у межы Літвы. Віленскі край з Вільняй таксама быў прызнаны часткай Літвы. У сувязі з падпісаннем гэтага дагавора юрыдычна перастала існаваць Літоўска-Беларуская ССР. Пачалася практычная работа па аднаўленні беларускай дзяржаўнасці. 30 ліпеня 1920 г. замест Мінскага губрэўкома быў створаны Ваенрэўком Беларускай Рэспублікі. У яго ўвайшлі А.Чарвякоў – старшыня, В.Кнорын – намеснік старшыні, І.Адамовіч – намеснік старшыні па ваенных справах. Членамі рэўкома таксама з'яўляліся У.Ігнатоўскі, А.Вайнштэйн і інш.

Белваенрэўком з'яўляўся часовым органам улады на вызваленай ад інтэрвентаў тэрыторыі Беларусі. 31 ліпеня 1920 г. у Мінску адбылося





сумеснае пасяджэнне прадстаўнікоў Белваенрэўкома, ЦК КП(б) Літвы і Беларусі, грамадскіх арганізацый па пытанні аднаўлення БССР. На пасяджэнні была прынята "Дэкларацыя аб абвяшчэнні незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь". Прыняцце гэтай дэкларацыі з'явілася важным палітычным актам у гісторыі нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі. Гэты дакумент аб'яўляў пра аднаўленне БССР, абвешчанай яшчэ 1 студзеня 1919 г. У дэкларацыі адзначалася неабходнасць мацаваць саюз беларускага народа з Савецкай Расіяй. У адпаведнасці з дэкларацыяй уся ўлада на тэрыторыі БССР да склікання Усебеларускага з'езда Саветаў пераходзіла да Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь (ССРБ) – так тады называлася рэспубліка.

Вельмі складаным было тэрытарыяльнае пытанне аднаўленай рэспублікі. У дэкларацыі аб гэтым гаварылася так: "Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь вызначае сваю заходнюю мяжу па этнаграфічнай мяжы паміж Беларуссю і прымыкаючымі да яе буржуазнымі дзяржавамі. Мяжа Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь з Савецкай Расіяй і Украінай вызначаецца свабодным выяўленнем волі беларускага народа на павятовых і губернскіх з'ездах Саветаў у поўнай згодзе з урадамі РСФСР і ССРУ".

Як бачым, канкрэтна межы Рэспублікі Беларусь не былі вызначаны. І зрабіць гэта было вельмі цяжка. Справа ў тым, што выявіліся цяжкасці з вызначэннем этнаграфічнай тэрыторыі рассялення беларускай нацыі. Згодна з "Этнаграфічнай картай беларускага племені", якую саставіў член Расійскай акадэміі навук Я.Карскі яшчэ ў пачатку XX ст., беларусы складалі колькасную большасць у 5 губернях – Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай, Гродзенскай і Віленскай. У 9 прылягаючых да Паўночна-Заходняга краю губернях (так называлася Беларусь) — Чарнігаўскай, Смаленскай, Ковенскай, Сувалкаўскай, Курляндскай, Арлоўскай, Пскоўскай, Цвярской, Калужскай – беларусы з'яўляліся нацыянальнай меншасцю. Іх агульная колькасць у кожнай з гэтых губерняў не перавышала 150 тыс. чалавек, а ў Цвярской губерні яны складалі ўсяго 400 чалавек. Як ужо адзначалася раней, на I з'ездзе КП(б)Б 30–31 снежня 1918 г. была створана спецыяльная камісія па вызначэнні тэрыторыі Беларусі. Яна прыйшла да высновы, што ў склад рэспублікі павінны ўвайсці Мінская, Магілёўская, Гродзенская губерні поўнасцю. Віцебская без трох паветаў, а таксама некаторыя паветы Смаленскай, Ковенскай, Віленскай, Сувалкаўскай і Чарнігаўскай губерняў, населеныя пераважна беларусамі. Здзейсніць тады гэта не ўдалося. Як вядома, у выніку шэрага прычын, аб якіх ужо гаварылася, у складзе Беларусі засталіся толькі дзве губерні — Мінская і Гродзенская.

У ліпені 1920 г., калі Чырвоная Армія паступова прасоўвалася на захад, з'явілася рэальная магчымасць аднавіць рэспубліку ў тых межах, якія былі вызначаны камісіяй I з'езда КП(б)Б. Але і ў дадзе-

13. Зак. 5565

ным выпадку зрабіць гэта было немагчыма. У выніку вельмі цяжкіх унутраных і знешнепалітычных абставін, паражэння Чырвонай Арміі на Заходнім фронце Беларуская Рэспубліка аднаўлялася ў межах адной Мінскай губерні, а дакладней, толькі 6 яе паветаў. На іх тэрыторыі налічвалася 1 млн 635 тыс. жыхароў. Беларускія эсэры адмовіліся падпісаць “Дэкларацыю аб абвяшчэнні незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь”, хоць спачатку выказаліся ў яе падтрымку. Яны прапанавалі пашырыць тэрыторыю рэспублікі да яе этнаграфічных межаў. Акрамя таго, яны патрабавалі склікаць Усебеларускі працоўны кангрэс для вырашэння пытання аб дзяржаўным будаўніцтве Беларусі, сфарміраваць кааліцыйны ўрад з прадстаўнікоў усіх партый нацыянальнай дэмакратыі, утварыць беларускае войска, забяспечыць поўную незалежнасць Беларусі ад Расіі, абвясціць беларускую мову дзяржаўнай. ЦК КП(б) ЛіБ адхіліў гэтыя патрабаванні. Тады ЦК БПС-Р вывеў сваіх прадстаўнікоў з Белваенрэўкома і заявіў, што партыя эсэраў абараняе інтарэсы сялянства і працоўнай беларускай інтэлігенцыі і не падзяляе бальшавіцкую пазіцыю па праблеме дзяржаўнай улады на Беларусі. Супрацьстаянне нарастала. Эсэры сталі выкарыстоўваць для прапаганды сваіх поглядаў валасныя і павятовыя з’езды Саветаў. На некаторых з іх былі прыняты эсэраўскія рэзалюцыі.

ЦК партыі бальшавікоў у сваю чаргу ўзмацніў ідэалагічную барацьбу супраць эсэраў. У гэтай барацьбе ўжываліся і рэпрэсіўныя меры. 4 жніўня 1920 г. ЦК БПС-Р звярнуўся ў Мінскі губком бальшавікоў з прапановай правесці перагаворы і распрацаваць платформу для згоды. Аднак губком адмовіўся ад перагавораў і пагадзіўся з прапановай А.Чарвякова аб узмацненні ідэалагічнай барацьбы супраць БПС-Р.

У сувязі з ліквідацыяй Літбела і аднаўленнем Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь паўстала пытанне пра падзел Камуністычнай партыі Літвы і Беларусі. 5 верасня 1920 г. адбылося ліквідацыйнае пасяджэнне ЦК Кампартыі Літвы і Беларусі, якое прыняло рашэнне аб падзеле Кампартыі Літвы і Беларусі на дзве самастойныя кампартыі – Кампартыю Літвы і Кампартыю Беларусі. Аб’яднаны ЦК быў распушчаны. На III з’ездзе Кампартыі Беларусі, які адбыўся 22–25 лістапада 1920 г., быў выбраны цэнтральны орган Кампартыі Беларусі – Цэнтральнае бюро. З’езд заявіў, што “КП(б)Б ёсць абласная арганізацыя РКП(б), якая праводзіць у жыццё прынцыпы і тактыку РКП, прыстасоўваючы яе да мясцовых умоў, і поўнасцю падпарадкоўваецца ЦК РКП (бальшавікоў)” (КП(б)Б у рэзалюцыях. Ч.1. С.162, 167).

У лістападзе—снежні 1920 г. на Беларусі прайшлі выбары ў сельскія, валасныя, павятовыя і гарадскія Саветы. Рэўкомы былі скасаваны. У склад Саветаў увайшлі ў асноўным бальшавікі. Пры Саветах утварыліся камісіі, якія пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый праводзілі чыстку савецкіх устаноў ад “класава-варожых





элементаў”. 13–17 снежня 1920 г. адбыўся II Усебеларускі з’езд Саветаў. З’езд абраў ЦВК БССР і звярнуўся да працоўных Беларусі з заклікам накіраваць усе сілы на аднаўленне народнай гаспадаркі рэспублікі.

## § 4. Гаспадарчае і культурнае будаўніцтва ў 1919–1920 гг.

У гады іншаземнай інтэрвенцыі на Беларусі панавалі разруха і голад. Не працавалі многія прамысловыя прадпрыемствы. Быў разбураны транспарт. Надзвычай цяжка было з харчаваннем, асабліва ў гарадах. 5 мая 1919 г. Гомельскі губком партыі і губвыканком тэлеграмай на адрас ЦК РКП(б) і УЦВК паведамлялі, што “Гомель напярэдадні галоднага бунту... Месяц насельніцтву нічога не выдавалася”. Усё гэта патрабавала ўзмацнення работы па мабілізацыі працоўных на барацьбу з гаспадарчай разрухай. 12 лютага 1919 г. Савет народнай гаспадаркі Беларусі (СНГБ) прыняў пастанову аб нацыяналізацыі ўсіх фабрык і заводаў і іншых прамысловых прадпрыемстваў. Да ліпеня 1919 г. на Беларусі было нацыяналізавана 182 прадпрыемствы — гэта больш палавіны ўсіх дзейнічаючых фабрык і заводаў.

Ва ўмовах вайны і гаспадарчай разрухі галоўным было харчовае пытанне. Каб выратаваць рабочых ад голаду, забяспечыць харчовымі прадуктамі Чырвоную Армію, савецкая ўлада была вымушана пайсці на надзвычайную меру — увядзенне харчовай развёрсткі. Яна з’явілася галоўным элементам эканамічнай палітыкі, якая атрымала назву “ваенны камунізм”.

У выніку разгрому Чырвонай Арміяй аб’яднаных сіл знешняй контррэвалюцыі становішча Савецкай краіны, у тым ліку і Беларусі, значна палепшылася. Ужо ў лютым—сакавіку 1920 г. работа многіх прамысловых прадпрыемстваў і чыгуначных станцый Гомельскай і Віцебскай губерняў ажывілася. Пачалі даваць прадукцыю некаторыя дрэваапрацоўчыя і вінакурныя прадпрыемствы, праводзіўся рамонт суднаў Дняпроўскай флатыліі, арганізоўваліся новыя майстэрні па вытворчасці сельскагаспадарчых прылад. Многія прадпрыемствы і майстэрні — кравецкія, шавецкія, дрэваапрацоўчыя і іншыя ў Віцебску, Гомелі, Жлобіне, Оршы, якія працавалі ў 1919 г. галоўным чынам для патрэб фронту, былі пераключаны на выраб прадметаў масавага ўжытку.

Аднак становішча на Беларусі ў гэты час заставалася вельмі цяжкім. Польскія інтэрвенты нанеслі гаспадарцы Беларусі велізарныя страты. Паводле звестак камісіі па вызначэнні страт, нанесеных войскамі Польшчы беларускаму народу, агульныя страты дасягнулі 52 029 281 рубля ў даваеннай залатой валюце (9 034 208 319 савецкіх рублёў паводле курсу 1940 г.). Ад тэрору, грабяжоў і гвалтаў акупантаў Беларусь страціла звыш 158 тыс. мірных жыхароў.

Аднаўленне народнай гаспадаркі пачалося з нацыяналізацыі прамысловасці. Да канца 1920 г. на Беларусі (у межах да 1939 г.) удзельная вага дзяржаўнага сектара ў буйной прамысловасці складала 94,2 % (345 прадпрыемстваў), у дробнай прамысловасці – 47,4 % (828 прадпрыемстваў), у дробных і рамесніцкіх майстэрнях – 2,5 % (10 837 майстэрань). Такім чынам, камандныя пазіцыі ў прамысловасці Беларусі былі поўнасцю сканцэнтраваны ў руках дзяржавы. Да канца 1920 г. у Мінскай губерні пачалі даваць прадукцыю некалькі рамонтных майстэрань, дрожджа-вінакурных і смалакурных заводаў, тры канатныя фабрыкі і г.д. Пачалі будавацца новыя прадпрыемствы – панчошна-трыкатажная фабрыка ў Віцебску, лесапільны завод у Гомелі і інш. Але гэта былі толькі першыя і пакуль невялікія дасягненні.

У аднаўленні гаспадаркі Беларусь атрымлівала дапамогу ад РСФСР. У лістападзе 1920 г. прэзідыум УСНГ РСФСР выдзеліў Саўнаргасу Беларусі 1 млрд рублёў. З цэнтральных і ўсходніх раёнаў РСФСР толькі ў канцы кастрычніка 1920 г. у Мінск прыбыло некалькі вагонаў жыта і пшаніцы, вагон солі, 28 бочак масла. У жніўні 1920 г. з Уфы ў Віцебск прыбыло 17 вагонаў хлеба.

Аднак, нягледзячы на ўсе намаганні, стан прамысловасці і транспарту Беларусі быў надзвычай цяжкі. Прадукцыя буйной прамысловасці складала толькі 21 % да ўзроўню 1913 г. Работа чыгуначнага і воднага транспарту была паралізавана. З 715 прамысловых прадпрыемстваў, якія працавалі ў Магілёўскай і Віцебскай губернях да 1914 г., 480 былі вывезены альбо знішчаны акупантамі. А тыя прадпрыемствы, што засталіся, працавалі з няпоўнай нагрузкай з-за недахопу сыравіны, паліва і зношанасці абсталявання. Вельмі слабай была энергетычная база рэспублікі.

У цяжкім становішчы апынулася сельская гаспадарка. Значна скараціліся зямельныя плошчы, пагалоўе жывёлы. Меліся значныя адрозненні паміж Віцебскай і Магілёўскай губернямі, якія знаходзіліся ў складзе РСФСР, і Мінскай, якая была вызвалена ад нямецкіх акупантаў толькі ў канцы 1918 г. Тут аграрныя пераўтварэнні толькі пачыналіся. У не занятых жа кайзераўскімі войскамі паветах Віцебскай і Магілёўскай губерняў да пачатку 1919 г. былі ліквідаваны памешчыцкія маёнткі, утварыліся калектыўныя гаспадаркі. Сельская гаспадарка Мінскай губерні і акупіраваных паветаў Віцебскай і Магілёўскай губерняў знаходзілася ў іншым становішчы. Тут у 1918 г. плошчы пасеваў значна скараціліся, панізілася ўраджайнасць, галоўнымі ўласнікамі зямлі былі памешчыкі. А таму, як толькі Мінская губерня і заходнія паветы Віцебскай і Магілёўскай губерняў былі вызвалены ад нямецкіх акупантаў, пачаліся аграрныя пераўтварэнні: канфіскавалася памешчыцкая зямля, арганізоўваліся саўгасы, камуны, працоўныя арцелі і г.д.

Аднак у правядзенні аграрных пераўтварэнняў былі зроблены сур'ёзныя памылкі. Урад Літбела не пайшоў насустрач патрабаванням сялян і не ажыццявіў надзяленне іх часткай канфіскаванай памешчыцкай зямлі. Ён узяў курс на арганізацыю ў памешчыцкіх маёнтках галоўным чынам саўгасаў, колькасць якіх павялічвалася неапраўдана хутка. Да чэрвеня 1919 г. толькі ў Мінскай губерні арганізавана 604 саўгасы. У большасці сваёй яны былі невялікія. У іх было ўсяго 134 423 дзесяціны ворыва, 10 300 коней, 1600 галоў буйной рагатай жывёлы.





Саўгасы дрэнна забяспечваліся сельскагаспадарчым інвентаром, мелі невялікую колькасць рабочай сілы. Многія з іх вясной і восенню 1919 г. не засеялі землі, якія былі ў іх карыстанні. Некаторыя партыйныя кіраўнікі лічылі, што ўжо ў той час, г. зн. у 1919 г., саўгасы павінны былі стаць асновай камуністычнага будаўніцтва ў вёсцы. Толькі 24 мая 1920 г. ЦК КП(б) ЛіБ прыняў "Тэзісы па аграрным пытанні", у адпаведнасці з якімі пад саўгасы магло адводзіцца не больш як 25 % былых памешчыцкіх маёнткаў. Астатні свабодны фонд зямель павінен быў размяркоўвацца бясплатна сярод беззямельных і малазямельных сялян і батракоў.

Найбольш перспектыўнай формай калектыўнага земляробства лічылася сельскагаспадарчая арцель. 19 мая 1919 г. Наркамзем РСФСР зацвердзіў "Прыкладны статут працоўнай земляробчай арцелі", у якім вызначыў прынцыпы яе арганізацыі. Статут прадугледжваў абавязковую здачу зямлі ў агульнае карыстанне і разам з тым дапускаў вядзенне членамі арцелі сваёй індывідуальнай гаспадаркі. Меркавалася, што такое спалучэнне грамадскіх і асабістых інтарэсаў будзе з'яўляцца важнай умовай росту прадукцыйнасці працы і развіцця грамадскай гаспадаркі. Аднак першыя сельскагаспадарчыя арцелі, утвораныя на Беларусі, паказалі, што спалучыць асабістыя і грамадскія інтарэсы сялян у тых умовах было вельмі цяжка. За працу ў калектыўных гаспадарках сяляне амаль нічога не атрымлівалі, а тое, што здабывалі з асабістых участкаў, забіралі па харчразвёрстцы харчатрады. Як ужо адзначалася, паводле рашэння Народнага камісарыята ўнутраных спраў РСФСР, беларускія губерні былі аднесены да ліку тых губерняў краіны, дзе павінна быць найбольшая колькасць такіх харчатрадаў. Іх галоўная мэта — барацьба за хлеб, якая афіцыйна накіроўвалася супраць кулакоў. Камуністычная партыя патрабавала ад мясцовых партыйных і савецкіх органаў строгага выканання сфармуляванага У.Леніным класавага прынцыпу пры правядзенні харчовай развёрсткі: з бяднейшых сялян не браць нічога, з серадняка – умерана, з багатых — многа. Аднак гэты прынцып паўсюдна парушаўся. Бралі многа, г. зн. усё з усіх сялян. На тэрыторыі Беларусі дзейнічалі шматлікія харчовыя атрады. У Віцебскай губерні, напрыклад, у харчатрадах налічвалася каля 600 чалавек, галоўным чынам рабочых-камуністаў.

У 1919–1920 гг. нарыхтоўку збожжа і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў на тэрыторыі Беларусі праводзілі ваенныя харчовыя органы Заходняга фронту (у прыфрантавой паласе 25–50 вёрст) і харчовыя органы Саветаў.

14. Зак. 5565

Вельмі цяжкім было матэрыяльнае становішча працоўных Беларусі. У складаных умовах грамадзянскай вайны савецкім урадам былі праведзены тэрміновыя мерапрыемствы, каб выратаваць рабочых ад голаду. З мэтай павелічэння харчовых пайкаў рабочым і служачым з ліку мясцовых рэсурсаў ствараліся новыя і пашыраліся падсобныя гаспадаркі прадпрыемстваў. У гарадах і мястэчках былі адкрыты рабочыя сталовыя. Абеды выдаваліся бясплатна. Размеркаванне пайкоў, работу сталовых кантралявалі рабочыя камісіі. Толькі ў Мінску ў кастрычніку 1920 г. была адкрыта 21 такая сталовая на 6 тыс. абедаў, большую частку якіх атрымлівалі беспрацоўныя. Акрамя таго, працавалі 22 дзіцячыя і 18 школьных сталовых. У Гомельскай губерні грамадскім харчаваннем карысталася каля 100 тыс. чалавек, у тым ліку каля 30 тыс. дзяцей, у Віцебскай губерні— 93,3 тыс. чалавек. Такія сталовыя былі адкрыты таксама ў Магілёве, Барысаве, Оршы, Слуцку і іншых гарадах і мястэчках Беларусі.

Дэкрэт савецкай улады ад 31 кастрычніка 1918 г. юрыдычна замацаваў правы працоўных на пенсіі за кошт дзяржавы. Праца рабочых у непрацоўныя дні аплачвалася ў двайным памеры, быў скарочаны працоўны дзень для непаўналетніх. У кастрычніку 1920 г. для заводскіх і фабрычных рабочых і служачых была адменена плата за жыллё і ацяпленне кватэр, плата за прадукты, якія яны атрымлівалі праз органы рабочага забеспячэння. Была аказана дапамога сем'ям чырвонаармейцаў у апрацоўцы іх зямельных участкаў, зборы ўраджаю, забеспячэнні пасяўным матэрыялам, грашыма. Напрыклад, у першай палове 1919 г. дзяржаўную грашовую дапамогу ў Віцебскай губерні атрымала 9601 чырвонаармейская сям'я, у Гомельскай – 34 353. Аднак, нягледзячы на ўсе захады, вырашыць вострую харчовую праблему не ўдалося. Харчовы паёк па-ранейшаму быў вельмі малы. Так, у лістападзе 1920 г. у рабочых ён складаўся з 15 фунтаў мукі, 1/8 фунта дражджэй, 1/2 фунта цукру. Не вырашана была праблема беспрацоўя. Толькі ў Віцебску летам 1920 г. налічвалася каля 5 тыс. беспрацоўных, а ў канцы таго ж года на біржах працы ў Віцебскай губерні было зарэгістравана 12 079 беспрацоўных, а накіравана на працу толькі 6933 чалавекі. У Гомельскай губерні з 10 434 зарэгістраваных беспрацоўных атрымалі працу толькі 7134 чалавекі.

Ва ўмовах іншаземнай інтэрвенцыі, гаспадарчай разрухі вельмі складанае становішча было ў галіне культуры, народнай адукацыі. На захопленай Польшчай тэрыторыі Беларусі праводзіўся курс на апалячванне беларускага народа. Акупацыйныя ўлады прымушалі насельніцтва размаўляць толькі на польскай мове. Ужыванне рускай і беларускай моў было забаронена. Рабочыя і служачыя, якія не валодалі польскай мовай, пазбаўляліся працы. Толькі ў Мінску з гэтай прычыны было звольнена 8 тыс. рабочых і служачых.

На свабоднай ад акупантаў тэрыторыі большасць насельніцтва была непісьменнай. У пачатку 1919 г. у Віцебскай і Магілёўскай губернях быў праведзены перапіс дзяцей школьнага ўзросту, які паказаў, што многія дзеці, асабліва ў вёсцы, не наведвалі школы. У Віцебскай губерні, напрыклад, у ліпені 1919 г. было зарэгістравана 13 668 дзяцей 8–13 гадоў, наведвалі школу толькі 8423 вучні. У Клімавіцкім павеце Гомельскай губерні восенню 1919 г. змаглі пайсці ў школу толькі 20 505 з 42 400 узятых на ўлік дзяцей школьнага ўзросту.

У 1919–1920 гг. былі зроблены адпаведныя захады, каб палепшыць школьную справу. У студзені 1919 г. быў створаны Народны камісарыят асветы БССР. На свабоднай ад акупантаў тэрыторыі Беларусі ў 1919 г. было 2811 школ. У іх навучалася 190 тыс. дзяцей, працавала 3500 настаўнікаў. Гэта вельмі малыя паказчыкі. Таму губернскія і павятовыя органы звярталі асаблівую ўвагу на будаўніцтва новых і рамонт старых школ. У 1920/21 навучальным годзе толькі ў Віцебскай губерні было адкрыта каля 300 новых, пераважна пачатковых школ. Былі створаны губернскія камісіі дапамогі школе, якія правялі значную работу па збору добраахвотных адлічэнняў ад зарплаты рабочых і служачых у фонд школы, збору кніг, наглядных дапаможнікаў і г.д.

Вясной 1919 г. прайшлі перавыбары настаўнікаў. У выніку многія з іх, якія не падтрымлівалі савецкай улады, былі звольнены з работы. У гэтым ліку апынуліся таленавітыя, творчыя педагогі, працаўнікі народнай асветы. Каб папоўніць школы адданымі савецкай уладзе настаўніцкімі кадрамі, у 1919–1920 гг. у Мінскай, Віцебскай і Гомельскай губернях былі адкрыты кароткатэрміновыя курсы па падрыхтоўцы настаўнікаў. На іх вучыліся галоўным чынам выхадцы з рабочых і сялян. У 1920 г. у Барысаве і Бабруйску на базе былых настаўніцкіх семінарый былі арганізаваны трохгадовыя педагагічныя тэхнікумы, а ў Гомелі, Оршы, Магілёве, Рагачове, Чавусах адкрыты аднагадовыя, трох- і шасцімесячныя педагагічныя курсы. У Віцебску быў створаны Інстытут народнай асветы для падрыхтоўкі настаўнікаў школ І і ІІ ступеняў, у Сянно — вышэйшыя педагагічныя курсы.

У 1919–1920 гг. пры губернскіх і павятовых выканаўчых камітэтах Саветаў былі створаны спецыяльныя камісіі па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослага насельніцтва. У гэтых мэтах былі адкрыты дзесяткі школ і гурткоў. 26 снежня 1919 г. быў прыняты СНК РСФСР дэкрэт “Аб ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослага насельніцтва РСФСР”.

Восенню 1920 г. быў праведзены ўлік непісьменнага насельніцтва. Выявілася, што больш паловы насельніцтва працаздольнага ўзросту было непісьменным. Так, у Гомельскай губерні ва ўзросце 15–49 гадоў налічвалася 1 018 763 чалавекі, з іх 573 008 былі непісьменнымі. У школах ліквідацыі непісьменнасці ў лістападзе 1920 г. вучылася толькі 25 тыс. чалавек. Вось чаму 11 снежня 1920 г. Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Беларусі выдаў спецыяльны загад: усе непісьменныя ва ўзросце ад 8 да 50 гадоў абавязаны вучыцца грамаце на роднай альбо рускай мове, пачынаючы з 15 студзеня 1921 г. Наркамат асветы БССР утварыў надзвычайную камісію па ліквідацыі непісьменнасці.

Важнейшай справай культурнага будаўніцтва на Беларусі ў 1919–1920 гг. з'явілася стварэнне вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы. Першай вышэйшай навучальнай установай на Беларусі быў Горы-Горацкі земляробчы інстытут, адноўлены 7 красавіка 1919 г. У жніўні 1920 г. Наркамасветы РСФСР прызнаў неабходным адкрыць на Беларусі універсітэт. У снежні 1920 г. пачаў працаваць Беларускі дзяржаўны палітэхнікум.

Часткай культурнага будаўніцтва было мастацкае выхаванне працоўных. У 1919–1920 гг. у многіх гарадах, мястэчках, вёсках Беларусі былі адкрыты клубы, бібліятэкі, музеі, музычныя школы, мастацкія майстэрні. У снежні 1920 г. у рэспубліцы выдавалася 12 перыядычных выданняў, сярод якіх газеты "Звязда", "Савецкая Беларусь","Работніцка-сялянская Беларусь" і інш. Былі адноўлены друкарні ў Мінску, Бабруйску, Барысаве, Слуцку. Пачало працаваць Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Для падрыхтоўкі агітатараў і прапагандыстаў у 1919 г. у Гомелі быў адкрыты Пралетарскі універсітэт, у Віцебску – школа агітатараў.

Плённа працавалі ў гэты час такія таленавітыя дзеячы беларускай літаратуры, як Я.Купала, Я.Колас, Ц.Гартны, М.Чарот, А.Гурло і інш. Я.Купала, напрыклад, працаваў над перакладам на беларускую мову "Слова аб палку Ігаравым". З-пад яго пяра выйшлі вядомыя вершы "Час", "На сход", "Спадчына", "Мая навука" і інш. Я.Колас працягваў працу над паэмамі "Новая зямля" і "Сымон-музыка", трылогіяй "На ростанях". У творчасці Я.Купалы і Я.Коласа тых гадоў адлюстраваны шляхі развіцця беларускай культуры, лёс беларускага народа, яго барацьба супраць іншаземных захопнікаў.

Адной з самых масавых і папулярных форм мастацтва ў 1919–1920 гг. быў тэатр. На Беларусі паспяхова развівалася народная мастацкая самадзейнасць. У Ігумене, Дукоры, Слуцку, Барысаве, Оршы былі арганізаваны народныя тэатры. Найбольш папулярнымі пастаноўкамі самадзейных артыстаў былі спектаклі па п'есах "Паўлінка" Я.Купалы, "Жаніцьба" М.Гогаля і інш.

У верасні 1920 г. у Мінску адкрыўся Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр (БДТ), які адыграў вялікую ролю ў развіцці беларускага нацыянальнага тэатра. У яго склад уваходзіла значная частка артыстаў Першага Беларускага аб'яднання драмы і камедыі, якая была арганізавана яшчэ ў красавіку 1917 г. у Мінску, а таксама таленавітая моладзь з самадзейнасці і некаторыя артысты рускай сцэны. Сярод іх былі Я.Міронава, Г.Грыгоніс, А.Крыніца, Л.Ржэцкая, І.Ждановіч, С.Станюта, А.Ільінскі, К.Саннікаў і інш. У 1920 г. быў створаны яшчэ адзін беларускі тэатр – "Вандроўны" на чале з драматургам, акцёрам і рэжысёрам У.Галубком. У студзені 1919 г. пачаліся заняткі ў Мінскай кансерваторыі, а неўзабаве – у Гомельскай і Віцебскай народных кансерваторыях.





# ВЫВАДЫ

1. Пасля перамогі Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі значна актывізаваўся беларускі нацыянальны рух, утварылася разгалінаваная сетка розных партый і арганізацый, якія вялі барацьбу за палітычнае кіраўніцтва грамадствам. Адны з іх былі задаволены вынікамі рэвалюцыі, прасілі ў Часовага ўрада аўтаноміі для Беларусі, другія — патрабавалі ажыццяўлення радыкальных пераўтварэнняў. На працягу 8 месяцаў уладарыла буржуазія. Выкарыстоўваючы розныя сродкі палітычнага манеўравання, нязначныя змены, яна не праводзіла карэнных пераўтварэнняў. Працягвалася вайна, не было вырашана аграрнае пытанне, сабатаваліся сацыяльныя рэформы. Такая палітыка вяла буржуазію, яе партыі да немінучага краху. Рэфармісцкі шлях развіцця для Расіі станавіўся немагчымым. Ні адна з буржуазных і дробнабуржуазных партый і іх лідэры не былі здольныя стабілізаваць становішча, ліквідаваць хаос, арганізаваць кіраванне дзяржавай. У Расіі заставаўся адзін выбар — рэвалюцыя знізу.

2. Кастрычніцкая рэвалюцыя з'явілася заканамернай з'явай грамадскага развіцця Расіі. Яна несла як стваральныя, так і разбуральныя вынікі, гераічнае і трагічнае, узлёты і падзенні. У сілу спецыфічнасці гістарычнага развіцця грамадства рэвалюцыя выклікала вострае размежаванне палітычных сіл. Розныя пазіцыі беларускага нацыянальнага руху ў адносінах да рэвалюцыі былі абумоўлены яго сацыяльнай неаднастайнасцю, вострымі супярэчнасцямі паміж рознымі сацыяльнымі пластамі гэтага руху. Галоўнай прычынай супярэчнасцей з'яўлялася нявырашанасць нацыянальнага пытання на Беларусі. Кіруючыя партыйныя дзеячы Беларусі спазняліся з вырашэннем дадзенага пытання. Спроба вырашыць гэта пытанне на І Усебеларускім з'ездзе (снежань 1917 г.) закончылася разгонам з'езда.

3. У выніку нямецкай акупацыі значная частка тэрыторыі Беларусі апынулася пад уладай Германіі. На гэтай тэрыторыі быў устаноўлены жорсткі акупацыйны рэжым. Пачалася нацыянальна-вызваленчая барацьба беларускага народа. У гэтых умовах нацыянальна-дэмакратычнымі партыямі і іх кіраўнікамі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Утвораны яе кіруючыя органы — Рада і Народны сакратарыят. Гэта была першая спроба ажыццяўлення на практыцы распрацаванай яшчэ на пачатку XIX ст. беларускай ідэі ў сукупнасці ўсіх трох яе асноватворных элементаў — нацыянальнай свядомасці, нацыянальна-культурнага адраджэння і нацыянальнай дзяржаўнасці. Але здзейсніць гэту ідэю поўнасцю не ўдалося. Была ўтворана пэўная палітычная структура з зародкамі дзяржаўнай арганізацыі. Аднак у прамым сэнсе БНР дзяржавай не была. Утварыць такую дзяржаву было немагчыма ў выніку неспрыяльных як знешнепалітычных, так і ўнутраных абставін. Тым не менш

15. Зак. 5565

абвяшчэнне БНР, а затым утварэнне БССР — гэта працэсы аднаго накірунку, якія ў якасных адносінах істотна адрозніваліся. Гэта была спроба вырашэння праблемы беларускай дзяржаўнасці, якая шмат вякоў лунала ў думках нашага народа.

4. Складана і супярэчліва вырашалася ў гэты перыяд пытанне аб нацыянальнай дзяржаўнасці беларускага народа. Панавала думка, што Беларусь павінна быць тэрытарыяльна-адміністрацыйнай і гаспадарчай адзінкай РСФСР. Гэта думка грунтавалася пад уздзеяннем розных фактараў, у тым ліку і ідэі сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі, якую маладая савецкая дзяржава лічыла галоўнай. Самавызначэнне Беларусі, утварэнне беларускай нацыянальнай дзяржавы былі як бы перашкодай на гэтым шляху. Памылковымі былі і погляды кіраўнікоў Паўночна-Заходняга абкома РКП(б) аб тым, што беларусы не з'яўляліся нацыяй, а таму для іх утварэнне самастойнай Беларускай дзяржавы немэтазгодна. У склад утворанай у пачатку студзеня 1919 г. Беларускай ССР увайшлі толькі дзве губерні (Мінская і Гродзенская). У лютым 1919 г. БССР аб'ядналася з Літоўскай ССР. У склад адноўленай у ліпені 1920 г. Беларускай ССР увайшлі толькі шэсць паветаў Мінскай губерні. Супраць такога рашэння выступілі беларускія эсэры. Яны лічылі, што Беларусь павінна існаваць у яе этнаграфічных межах. Гэта адпавядала інтарэсам усяго насельніцтва Беларусі. На жаль, яны не ўлічваліся, пра што яскрава сведчаць заключаныя мірныя дагаворы паміж Расіяй, Германіяй і Аўстра-Венгрыяй (3 сакавіка 1918 г.) і Расіяй, Украінай і Польшчай (18 сакавіка 1921 г.), якія вырашылі лёс беларускага народа без уліку яго інтарэсаў.

5. Station: Становучымі вынікамі гаспадарчага і культурнага будаўніцтва на свабоднай, а затым і вызваленай ад акупантаў тэрыторыі Беларусі ў 1918–1920 гг. з'явіліся рост прадукцыі прамысловай і сельскагаспадарчай прамысловасці, павелічэнне колькасці прадпрыемстваў, пашырэнне пасяўных плошчаў, развіццё адукацыі і культуры. Аднак спроба партыі бальшавікоў перайсці да сацыялістычных метадаў гаспадарання пры дапамозе ўсеагульнага адзяржаўлення сродкаў вытворчасці і адказу ад таварна-грашовых адносін прывяла да глыбокіх крызісных з'яў. Эканамічны крызіс дапоўніўся палітычным. Палітыка "ваеннага камунізму", заснаваная на прымусе і насіллі, выклікала шырокую незадаволенасць працоўных. На некаторых прадпрыемствах адбыліся забастоўкі рабочых, не задаволеных цяжкім эканамічным становішчам. Прымусовая канфіскацыя хлеба ў сялян па харчразвёрстцы выклікала шматлікія хваляванні. Стала відавочна, што без новай эканамічнай палітыкі аднаўленне народнай гаспадаркі і яе далейшае развіццё немагчымы. Трэба было ў першую чаргу перайсці ад харчразвёрсткі да харчпадатку, ад прадуктаабмену да таварна-грашовых рыначных адносін, перавесці прамысловасць на гаспадарчы разлік, рэарганізаваць кіраванне народнай гаспадаркай, змяніць адносіны да прыватнага капіталу, выкарыстаць яго ў інтарэсах сацыялістычнага будаўніцтва. Менавіта гэтыя задачы і складалі сутнасць новай эканамічнай палітыкі.





## Літаратура


Борьба за Советскую власть в Белоруссии: Документы и материалы. Мн., 1968.

Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Документы и материалы: В 2 т. Мн., 1957.

В борьбе за Октябрь в Белоруссии и на Западном фронте. Мн., 1957.

Гісторыя Беларускай ССР: У 5 т. Мн., 1972. Т. 3.

Документы и материалы по истории Белоруссии. Мн., 1954. Т. 4.

Иностранная военная интервенция в Белоруссии. 1917–1920. Мн., 1990.

Кастрычнік на Беларусі: Зб. артыкулаў і дакументаў. Мн., 1927.

Крах немецкой оккупации в Белоруссии в 1918 г. Мн., 1947.

Мірны дагавор... 3 сакавіка 1918 г. // Спадчына. 1993. № 2.

Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. Ч.2. Мн., 1995.

Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. 2-е изд. Мн., 1968.

Первый Всебелорусский съезд в Минске. 15–20 декабря 1917 г. // Нёман. 1993. № 1.

По воле народа. Из истории образования БССР и создания КПБ: Документы и материалы. М., 1928.

Советско-германские отношения: Сб. документов. 1917–1918 гг. М., 1969.

Усебеларускі з'езд 1917. Сведчанне сучасніка // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 1.

Устаўная грамата Рады Беларускай Народнай Рэспублікі // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 1.

Устаўныя граматы да народаў Беларусі // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 1.

*Варонка Я.* Беларускі рух ад 1917 да 1920 года: Кароткі агляд. Коўна, 1920; Мн., 1991.

*Гартны Ц. (З.Жылуновіч).* Напярэдадні абвяшчэння рэспублікі //Маладосць. 1988. № 10.

*Гневко В.Г.* Рабочий класс Белоруссии в борьбе за победу Октября. Мн., 1973.

*Игнатенко И.М.* Октябрьская революция и самоопределение Белоруссии. Мн., 1992.

*Игнатенко И.М.* Февральская буржуазно-демократическая революция в Белоруссии. Мн., 1986.

*Ігнатоўскі У.* Кастрычнік на Беларусі. Мн., 1924.

*Казлоў Л., Цітоў А.* Беларусь на сямі рубяжах. Мн., 1993.

*Каменская Н.В.* Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя і ўтварэнне БССР. Мн., 1954.

*Кароль А.* Нараджэнне Беларускай Народнай Рэспублікі // Голас Радзімы. 1991. 3 студз.

*Кісялёў Р.Я.* Школа савецкай Беларусі. Мн., 1968.

*Кнорин В.П.* 1917 год в Белоруссии и на Западном фронте. Мн., 1925.

*Круталевич В.А.* Рождение Белорусской Советской республики. 2-е изд. Мн., 1979.

*Круталевіч В.А.* Станаўленне дзяржаўнасці. Мн., 1989.

*Кузнецов Ю.К.* Вовлечение интеллигенции в социалистическое строительство. 1917–1925 гг. Мн., 1982.

*Луцкевіч А.* Дзённік // Полымя. 1990. № 4-5.

*Луцкевіч А.* Польская акупацыя ў Беларусі // Беларусь. 1990. № 9.

*Наленч Дарья и Томаш.* Юзеф Пилсудский: Легенды и факты. М., 1990.

*Петриков П.Т.* Ревкомы Белоруссии. Мн., 1971.

Пилсудский против Тухачевского // Два взгляда на советско-польскую войну 1920 года. М., 1992.

*Платонов Р., Стaшкевич Н.* Тернистый путь к свободе: К вопросу о становлении белорусской национальной государственности // Нёман. 1992. № 10, 11.

*Сташкевич Н.С.* На пути к истине. Мн., 1983.

*Сташкевич Н.С.* Приговор революции: Крушение антисоветского движения в Белоруссии. 1917–1925 гг. Мн., 1985.

*Сидорович А.* Антон Луцкевич // Нёман. 1990. № 7.

*Турук Ф.Ф.* Белорусское движение. М., 1921.

*Хацкевич А.Ф.* Солдат великих боев: Жизнь и деятельность Ф.Э.Дзержинского. 3-е изд. Мн., 1970.

*Цвікевіч А.* "Западно-руссизм": Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX ст. Мн., 1993.

# РАЗДЗЕЛ VII

## САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ ВА ЎМОВАХ НОВАЙ ЭКАНАМІЧНАЙ ПАЛІТЫКІ І ПАБУДОВЫ САЦЫЯЛІЗМУ. ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ ПАД УЛАДАЙ ПОЛЬШЧЫ

(1921–1939)

## ГЛАВА 1

## АДНАЎЛЕННЕ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ. ПРАВЯДЗЕННЕ ПАЛІТЫКІ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫІ. КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЯ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ НА БЕЛАРУСІ

### § 1. Пачатак мірнага будаўніцтва. Новая эканамічная палітыка, яе сутнасць і вынікі

Пераход ад вайны да мірнага будаўніцтва паставіў перад беларускім народам шмат цяжкіх і складаных для вырашэння задач. Неабходна было як мага хутчэй аднавіць разбураную гаспадарку, вызначыць шляхі будаўніцтва сацыялістычнага грамадства.





З'яўляючыся на працягу 7 гадоў арэнай ваенных дзеянняў, Беларусь панесла велізарныя страты. Больш за палову фабрык і заводаў былі знішчаны, прамысловая вытворчасць скарацілася ў 5 разоў, колькасць рабочых зменшылася ўдвая.

Асабліва заняпалі галіны вытворчасці, не звязаныя з выкананнем ваенных заказаў. З 17 шклозаводаў працаваў толькі адзін, з 220 вінакурных прадпрыемстваў маглі даваць прадукцыю ўсяго 27. З 715 прадпрыемстваў цэнзавай прамысловасці ўсходніх раёнаў рэспублікі не працавала 480. Агульны аб'ём валавой вытворчасці ўсёй прамысловасці складаў каля 15–20% ад ўзроўню 1913 г.

У цяжкім стане знаходзіўся транспарт. Большасць рухомага чыгуначнага саставу патрабавала тэрміновага рамонту, даўжыня чыгуначнай сеткі скарацілася на 2/3. Амаль поўнасцю былі знішчаны сродкі воднага транспарту. Агульны аб'ём рачных перавозак (1920) упаў да 10% ад узроўню 1913 г.

Разбуранай аказалася і сельская гаспадарка: яе валавая прадукцыя складала менш палавіны даваеннай.

Сістэма харчразвёрсткі не стымулявала развіцця сялянскай гаспадаркі. Сяляне мелі вялікую патрэбу ў прамысловых таварах і прыладах працы, а прамысловасць не магла задаволіць нават мінімальныя іх запатрабаванні. Тавараабмен паміж горадам і вёскай амаль спыніўся. З заканчэннем грамадзянскай вайны, аслабленнем міжнароднай напружанасці, знікненнем пагрозы "белай" рэстаўрацыі сяляне сталі патрабаваць права распараджацца зямлёй і атрыманай прадукцыяй, адмены палітыкі "ваеннага камунізму".

Разбурэнні, беспрацоўе, неабдуманае ўсеагульнае адзяржаўленне сродкаў вытворчасці, харчразвёрстка выклікалі незадаволенасць народа, асабліва сялянства.

Цяжкае эканамічнае становішча прывяло да забастовак рабочых, прымусовая канфіскацыя збожжа – да супраціўлення ўладам сялян. Кульмінацыяй гэтай незадаволенасці стала ўзброенае выступленне ў лютым – сакавіку 1921 г. маракоў Кранштата. Паўстанцы паміж іншым патрабавалі адмены харчразвёрсткі і дазволу свабодна гандляваць хлебам. Іх патрабаванні адлюстроўвалі настроі сялянства, паказвалі бесперспектыўнасць палітыкі "ваеннага камунізму".

Прычынай цяжкага эканамічнага і палітычнага крызісу на рубяжы 1920–1921 гг. было разбалансаванне палітычных і эканамічных інтарэсаў, захаванне ранейшых "ваенна-камуністычных" метадаў дзяржаўнага кіравання пры новых палітычных і эканамічных абставінах. Тэрміновы перагляд метадаў кіраўніцтва грамадствам стаў неабходным. Даводзілася вырашаць, якой павінна быць экономіка не ў надзвычайных, а ў звычайных умовах.

Адказам на гэтыя пытанні з'явілася новая эканамічная палітыка (нэп), распрацаваная У. Леніным і прынятая X з'ездам РКП(б) у сакавіку 1921 г. У. Ленін лічыў, што нэп — гэта першы крок да перамены "ўсяго пункту гледжання нашага на сацыялізм". Пераход

16. Зак. 5565

да нэпа быў спробай сумясціць сацыялістычныя прынцыпы кіравання адзяржаўленай эканомікай, у першую чаргу прамысловасцю і транспартам, з эканамічнымі законамі, выкарыстаць прыватны капітал у інтарэсах сацыялістычнага будаўніцтва. Сутнасць нэпа зводзілася да максімальнага пад'ёму вытворчых сіл і паляпшэння становішча рабочых і сялян дзеля захавання савецкай улады. Новая эканамічная палітыка адкрывала перспектыву паступовага рэфарміравання грамадства на сацыялістычнай аснове.

Галоўнай мерай нэпа стала замена харчразвёрсткі харчовым падаткам. Падатак быў меншы за харчразвёрстку і ўстанаўліваўся да пачатку палявых работ. Спярша ён складаў прыкладна 20% ад атрыманага селянінам чыстага прадукту: патрэбна было здаваць хлеба амаль у два разы менш, чым па харчразвёрстцы. Затым падатак быў зніжаны да 10%, а з 1 студзеня 1924 г. браўся толькі чырвонцамі ў памеры каля 5% прыбытку з гаспадаркі. Падатак дыферэнцыраваўся з улікам наяўнасці жывёлы, урадлівасці зямлі. Для гаспадарак, якія павялічвалі пасевы найбольш важных культур, прадугледжваліся некаторыя льготы. Ільготы мелі таксама сем'і чырвонаармейцаў, інвалідаў грамадзянскай вайны і інш.

Селянін атрымаў свабоду выбару формы арганізацыі апрацоўкі зямлі і гарантыю землеўладання. Аднолькава законнымі прызнаваліся сялянскія арцель, абшчына, аднаасобныя ўладанні ў выглядзе адрубоў або хутароў і інш.

Дазвалялася здаваць зямлю ў арэнду і выкарыстоўваць наёмную працу пры ўмове, што члены сям'і наймальніка таксама працуюць. Тэрмін арэнды абмяжоўваўся, заахвочвалася развіццё кааперацыі. Усё гэта стварала матэрыяльную зацікаўленасць у развіцці дробнатаварнай сялянскай гаспадаркі, расшырэнні і пад'ёме вытворчасці. Усе лішкі, якія заставаліся ў селяніна пасля выплаты падаткаў, ён мог свабодна абменьваць і прадаваць на рынку. Гэтым самым вяртаўся прыватны гандаль.

Спачатку лішкі дазвалялася толькі абменьваць на прадукты фабрычна-заводскай і саматужнай прамысловасці цераз кааператыўныя арганізацыі, на рынках або кірмашах. Аднак спроба абмежаваць прыватны абмен мясцовымі рынкамі, натуральным абменам не дала патрэбных вынікаў, а таму з мая 1921 г. грамадзяне і кааператывы атрымалі права абменьваць, купляць і прадаваць сельгаспрадукты, якія засталіся ў іх пасля выплаты падаткаў.

У гады нэпа ажыццяўляліся тры віды гандлю: прыватны, кааператыўны і дзяржаўны. Паміж імі існавала адкрытая канкурэнцыя. У рознічным гандлі найбольш актыўным быў прыватны прадавец, дзяржаўны гандаль лідзіраваў у аптовай сферы, кааператывы ж займаліся і аптовым і рознічным гандлем.

У галіне фінансаў вялікае значэнне надавалася стабілізацыі рубля, які амаль абясцэніўся. З гэтай мэтай была праведзена грашовая рэформа. Першым практычным крокам з'явілася ажыццяўленне дзвюх





дэнамінацый (змяненне намінальнай вартасці грашовых знакаў з абменам у вызначаных суадносінах старых знакаў на новыя) грашовых знакаў. У 1922 г. выпушчаны новыя дзяржаўныя знакі, т. зв. саўзнакі. Адзін новы рубель адпавядаў 10 тысячам дарэформенных. Другая дэнамінацыя адбылася ў наступным годзе. Адзін рубель узору 1923 г. раўняўся 1 млн дарэформенных рублёў, або 100 рублям узору 1922 г. Аднак і такія меры не змаглі стрымаць падзення агульнага курсу грошай.

Улічваючы гэта, Дзяржбанк ужо ў канцы 1922 г. выпусціў новыя грашовыя знакі – чырвонцы, якія абменьваліся на золата (1 чырвонец раўняўся 10 дарэвалюцыйным залатым рублям, або 7,74 г чыстага золата). Такім чынам, у краіне ўтварыліся дзве грашовыя сістэмы: абясцэненыя саўзнакі выпуску 1922 –1923 гг. і "цвёрды" чырвонец, які абменьваўся на золата.

У лютым 1924 г. грашовая рэформа завяршылася. Былі выпушчаны новыя казначэйскія білеты вартасцю 1, 3, 5 рублёў, забяспечаныя золатам, разменныя сярэбраная і медная манеты. Быў праведзены абавязковы абмен старых грошай – саўзнакаў на новыя па курсу: 1 рубель 1924 г. – 50 тыс. рублёў саўзнакаў выпуску 1923 г., або 50 млрд рублёў, якія хадзілі да дэнамінацыі 1923 г.

На валютным рынку краіны і за мяжой чырвонцы абменьваліся на золата і асноўныя іншаземныя валюты па даваеннаму курсу царскага рубля (1 амерыканскі долар раўняўся 1,94 рубля).

Быў збалансаваны бюджэт і забаронена грашовая эмісія для пакрыцця расходаў дзяржавы. У 1921 г. адноўлены Дзяржбанк, а таксама створаны спецыялізаваныя банкі (акцыянерныя, камерцыйныя і інш.), якія канкурыравалі паміж сабой. Адны і тыя ж прадпрыемствы, трэсты маглі атрымліваць крэдыты ў некалькіх банках адначасова і заўсёды мелі магчымасць звяртацца за пазыкай у любы банк па сваім выбары.

На Беларусі ў 1926 г. сетка крэдытных устаноў складалася з Усебеларускай канторы Дзяржбанка ў Мінску і 9 філіялаў у акруговых цэнтрах, Беларускай канторы Прамбанка ў Мінску з аддзяленнем у Віцебску, Беларускай канторы Усекамерцыйнага банка ў Мінску, Беларускага камунальнага банка ў Мінску, сямі таварыстваў узаемнага крэдыту, Белсельбанка з трыма аддзяленнямі – у Бабруйску, Мінску, Слуцку, трох таварыстваў сельгаскрэдыту.

Былі адменены ўсе абмежаванні на сумы ўкладаў, якія маглі захоўваць грамадзяне і арганізацыі ў ашчадных банках. Уклады ў ашчадных касах не маглі быць канфіскаваны і павінны былі выплачвацца трымальнікам па іх патрабаванні. Гарантавалася тайна ўкладаў.

У Беларусі сетка ашчадных кас вырасла з 273 на 1 кастрычніка 1925 г. да 445 на 1 кастрычніка 1926 г. Колькасць укладчыкаў павялічылася больш чым удвая, сярэдняя велічыня ўкладу – з 16,31 рубля ў 1924 г. да 60,44 рубля ў 1926 г.

У прамысловасці таксама адбыліся карэнныя змены. Дзяржава стала падтрымліваць дробныя і сярэднія прыватныя і кааператыўныя прадпрыемствы, адмяніла дэкрэты, што абмяжоўвалі іх свабоду дзеянняў і паўнамоцтвы. Прамысловыя кааператывы атрымалі правы юрыдычных асоб, маглі выкарыстоўваць наёмную працу, атрымліваць крэдыты. Здаваліся ў арэнду нацыяналізаваныя прамысловыя прадпрыемствы, якія ў дзяржаўным сектары аказаліся нерэнтабельнымі. Перавага пры перадачы ў арэнду аддавалася кааператывам, хоць не выключалася здача і прыватным асобам. Тэрмін арэнды звычайна складаў ад 2 да 5 гадоў, а арэндная плата бралася натурай у выглядзе працэнта (долі) вырабляемай прадукцыі. У гады нэпа прыватны сектар даваў ад 1/5 да 1/4 прамысловай прадукцыі.

Дазвалялася арэнда прамысловых прадпрыемстваў іншаземнымі фірмамі ў форме канцэсій.

Радыкальныя змены адбыліся ў кіраванні дзяржаўнай прамысловасцю. Главкі былі ліквідаваны, замест іх створаны трэсты – аб'яднанні аднародных або ўзаемазвязаных паміж сабой прадпрыемстваў. Прадпрыемствы атрымлівалі поўны гаспадарчы разлік і фінансавую незалежнасць, нават права выпуску каштоўных папер па доўгатэрміновых аблігацыйных пазыках. Ні Усесаюзны савет народнай гаспадаркі (УСНГ) , ні СНГ Беларусі не мелі права ўмешвацца ў бягучую дзейнасць трэстаў. СНГ Беларусі ператварыўся ў каардынацыйны цэнтр. Ён ажыццяўляў агульнае кіраўніцтва 16 гаспадарчаразліковымі групавымі ўпраўленнямі і 15 заводаўпраўленнямі.

Гаспадарчы разлік азначаў, што прадпрыемства пасля абавязковых фінансавых узносаў у дзяржбюджэт само адказвала за вынікі сваёй гаспадарчай дзейнасці, самастойна выкарыстоўвала прыбытак і ліквідавала страты. Гаспадарчы разлік дазваляў прыпыніць практыку дзяржавы браць на сваё ўтрыманне стратныя прадпрыемствы і вызначаць, якія прадпрыемствы могуць заставацца дзяржаўнай уласнасцю.

Сталі ствараццa сіндыкаты – аб'яднанні трэстаў на пачатках кааперацыі. Сіндыкаты займаліся збытам, забеспячэннем, крэдытаваннем, знешнегандлёвымі аперацыямі. Такім чынам яны манапалізавалі ўвесь гандлёвы апарат кожнай асобна ўзятай галіны прамысловасці, сканцэнтравалі ў сваіх руках асноўную частку аптовага гандлю.

Матэрыяльнае стымуляванне рабочых і служачых гаспадарчаразліковых прадпрыемстваў ставілася ў поўную залежнасць ад прыбытковасці. Узнаўлялася грашовая аплата працы. У той жа час ажыццяўляўся пераход да новай тарыфнай палітыкі, якая грунтавалася на прынцыпе здзельнай аплаты працы, здымаліся абмежаванні на павышэнне заробкаў пры росце выпрацоўкі. Былі ліквідаваны абавязковая працоўная павіннасць і некаторыя абмежаванні на перамену месца работы. Такім чынам, арганізацыя працы будавалася на прынцыпах матэрыяльнага стымулявання.





Пераход да нэпа азначаў пераход ад "адміністрацыйнага" да "гасразліковага" сацыялізму, выкарыстанне таварна-грашовых, рыначных адносін для будаўніцтва сацыялістычнага грамадства.

Заняпаўшая ў гады вайны і рэвалюцыйных пераўтварэнняў эканоміка Беларусі з пераходам да нэпа пачала адраджацца. Ужо ў 1926 г. адноўлены дарэвалюцыйны аб'ём вытворчасці.

Тэмпы развіцця прамысловасці рэспублікі былі намнога вышэйшымі, чым у РСФСР. Хутчэй за іншыя галіны дасягнулі даваеннага ўзроўню дрэваапрацоўчая, металаапрацоўчая і гарбарная прамысловасці. Аднак адставанне некаторых галін (будматэрыялаў, тэкстыльнай, хімічнай) прывяло да таго, што ў цэлым даваенны ўзровень у прамысловасці быў дасягнуты толькі ў 1927 г. Да таго ж даваенны ўзровень, на які выйшла наша эканоміка, з'яўляўся паказчыкам адсталасці краіны. Вядучыя галіны прамысловасці (харчовая, дрэваапрацоўчая, папяровая, гарбарна-абутковая і інш.) спецыялізаваліся ў асноўным на перапрацоўцы лясной сыравіны і прадукцыі сельскай гаспадаркі.

У 1921/22 гаспадарчым годзе ўведзены ў строй мінскія заводы "Метал", "Вулкан", запалкавая фабрыка "Бярэзіна" ў Барысаве, Мінскі і Старэўскі (Слуцкі павет) шклозаводы, мазырскі кафляны завод "Прыма", Капацэвіцкая фанерная фабрыка, многія гарбарныя і вінакурныя заводы. У 1922 г. у Беларусі ўжо дзейнічала 277 прамысловых прадпрыемстваў, у тым ліку 17 аб'ектаў металаапрацоўчай, 55 – дрэваапрацоўчай, 87 – харчовай прамысловасці. Дробныя прадпрыемствы былі здадзены ў арэнду. Аднак агульная колькасць арэндных прадпрыемстваў у рэспубліцы заставалася нязначнай: у 6 паветах, напрыклад, намячалася здаць у арэнду 81 прадпрыемства, а заключаны былі толькі 42 арэндныя дагаворы.

Пры параўнальна вялікай колькасці ўсіх прамысловых прадпрыемстваў найбольш буйных, якія знаходзіліся ў падпарадкаванні УСНГ, налічвалася ў 1925 г. толькі 76, з іх дзейнічалі 67.

Перанаселенасць вёскі, нізкая зямлезабяспечанасць сялянскай гаспадаркі, беспрацоўе ў мястэчках і гарадах спрыялі развіццю саматужнага рамесніцтва, дробнай прамысловасці і гандлю. Дзяржава ў адпаведнасці з дэкрэтам СНК РСФСР ад 17 мая 1921 г. падтрымлівала прыватніка. У выніку ў рэспубліцы паявілася мноства швейных, слясарных, дрэваапрацоўчых майстэрняў, пякарняў, лавак і інш.

Аднаўленне прамысловасці Беларусі адбывалася пры дапамозе іншых савецкіх рэспублік. Асаблівае значэнне мелі эканамічныя сувязі з РСФСР. Прадпрыемствы Саўнаргаса Беларусі атрымлівалі з Масквы, Ленінграда і іншых прамысловых цэнтраў абсталяванне, станкі, друкарскія машыны, электраматоры, металічныя вырабы, з Украіны – сыравіну, метал, паліва, кокс.

Аднак поспехі першых гадоў нэпа прынеслі і вялікія эканамічныя праблемы. Яны былі выкліканы крызісам збыту, які ўзнік у выніку няправільнай цэнавай палітыкі дзяржавы, вялікай розніцы паміж

коштам прамысловых і сельскагаспадарчых тавараў. Калі ў 1921/22 гаспадарчым годзе цэны на сельскагаспадарчыя прадукты ў параўнанні з даваенным узроўнем былі значна больш высокія, чым цэны на прамысловыя тавары, то ў 1922 г. кан'юнктура рынку рэзка змянілася, цэны на сельгаспрадукты былі значна зніжаны, а на прамысловыя вырабы павышаны. У 1923 г. цэны на прамысловыя тавары ў Беларусі выраслі ў параўнанні з сельскагаспадарчымі больш чым у 5 разоў. Такімі мерамі дзяржава разлічвала атрымаць за кошт сялянства неабходныя сродкі для аднаўлення буйной прамысловасці.

Разыходжанне ў цэнах прывяло да таго, што селянін за прададзеную прадукцыю мог набыць прамтавараў у параўнанні з даваенным часам у 7 разоў менш. З прычыны такой дарагавізны сяляне амаль перасталі купляць вырабы фабрычна-заводскай вытворчасці.

Крызіс збыту абвастрыў фінансавую праблему. Перажываючы востры недахоп грошай, прадпрыемствы не маглі нарыхтоўваць сыравіну і паліва, своечасова выплачваць заработную плату, што нярэдка прыводзіла да канфліктаў і забастовак. Многія прадпрыемствы вымушаны былі скарачаць вытворчасць і нават зачыняцца. У выніку расла армія беспрацоўных. У БССР у 1923 г. іх колькасць вагалася ад 5 да 9 тыс.

Асабліва цяжкі крызіс перажывала прамысловасць Віцебскай губерні. З прычыны затаварвання і з-за вострага недахопу абаротных сродкаў на некаторых прадпрыемствах губерні зарплата выдавалася не грашыма, а вырабамі сваёй вытворчасці. Калектыўныя дагаворы аб памерах заработнай платы заключаліся не на аснове ўліку матэрыяльна-грашовых рэсурсаў таго ці іншага прадпрыемства, а прыстасоўваліся да патрабаванняў рабочых. Ужо ў пачатку 1923 г. сродкі ад збыту тавараў не маглі кампенсаваць зарплату і кошт набытых сыравіны і паліва. Усё гэта прыводзіла да таго, што тавары часта збываліся па цэнах, ніжэйшых за сабекошт. Так, сабекошт аднаго пуда прадзіва Віцебскага тэкстыльнага трэста дасягаў 425 рублёў, а прадажная цана – 37 рублёў.

У ходзе пераадолення крызісу прымаліся меры па зніжэнні сабекошту прамысловай прадукцыі, цэн на тавары, скарачэнні накладных расходаў, удасканальвалася дзейнасць кіруючага апарату. Каб адмовіцца ад прыватнага пасрэдніка ў гандлі, сіндыкатам было рэкамендавана збываць сваю прадукцыю непасрэдна кааператывам. Прадпрыемствы атрымалі большую гаспадарчую самастойнасць, наводзіўся парадак ва ўліку і справаздачнасці, уведзена адзіная сістэма калькуляцыі.

У выніку павысілася рэнтабельнасць прадпрыемстваў, узніклі ўмовы для зніжэння цэн на прамысловыя тавары. 29 лютага 1924 г. Савет Працы і Абароны СССР зацвердзіў пастанову "Аб зніжэнні цэн". З мэтай авалодання рынкам і яго дзяржаўнага рэгулявання быў створаны Народны камісарыят унутранага гандлю, пашыраліся правы дзяржаўных органаў па нарміраванні цэн, узмацняўся кантроль за





прыватным гандлем, на некаторыя тавары ўстанаўліваліся цвёрдыя цэны. Каб павялічыць таварнасць сялянскай гаспадаркі, у 1923/24 гаспадарчым годзе дзяржава перайшла ад натуральнага да грашовага падатку, пашыраліся арэнда зямлі і наём рабочай сілы, аднавіўся вываз збожжа за мяжу.

1923/24 гаспадарчы год стаў пераломным у рабоце прамысловасці Беларусі. У паляпшэнні яе дзейнасці важнейшае значэнне мелі захады, накіраваныя на паскарэнне тэмпаў росту прадукцыйнасці працы і рэгуляванне заработнай платы. На многіх прадпрыемствах ажыццяўляўся капітальны рамонт, зношанае абсталяванне замянялася новым. Аб'ём капітальных работ па рамонту прадпрыемстваў СНГ Беларусі склаў 573,5 тыс. рублёў. У 1924/25 гаспадарчым годзе 70 % асігнаванняў пайшло на набыццё новага абсталявання. Паскорыліся тэмпы адбудоўчых работ. Былі адноўлены і пабудаваны дзесяткі фабрык, заводаў, электрастанцый, у іх ліку мінскія кафельны завод і гарбарны завод "Бальшавік", Капыскі кафельны завод, кардонная фабрыка "Друць", Мінская шпалерная фабрыка і інш. У 1924/25 гаспадарчым годзе пачалі дзейнічаць аршанскі цвіковы завод "Чырвоны Кастрычнік", маслабойныя заводы ў Бабруйску, Віцебску, Магілёве, Віцебская кардонная фабрыка, Новабарысаўскі вінакурны завод і інш. Калі ў 1913 г. электрастанцыі меліся толькі ў Мінску, Віцебску, Магілёве, Полацку, Клімавічах, то ў 1925 г. яны былі ўжо ва ўсіх акруговых цэнтрах. Усяго ў гэты час у рэспубліцы працавала 40 электрастанцый. Шырокае будаўніцтва садзейнічала таму, што ўжо ў 1922 г. узровень вытворчасці электраэнергіі ў рэспубліцы перавысіў дарэвалюцыйны.

Усяго за гады аднаўлення было пабудавана 106 новых прадпрыемстваў. У выніку колькасць прадпрыемстваў цэнзавай прамысловасці павялічылася да 347, а іх валавая прадукцыя вырасла амаль у 5 разоў.

Аднак пераважную большасць, як і раней, складалі дробныя прадпрыемствы. Па даных перапісу 1926 г., у рэспубліцы налічвалася 60 178 дробных прадпрыемстваў (занята больш за 100 тыс. чалавек), з іх прыватных – 58 034 (10 295 наёмных работнікаў).

Вялікая ўвага на вытворчасці ўдзялялася прадукцыйнасці працы. Прадпрыемствы ўзмацнялі матэрыяльную зацікаўленасць у высокапрадукцыйнай працы, шырока ўкаранялі здзельную аплату працы. Да канца аднаўленчага перыяду здзельшчынай была ахоплена амаль палавіна цэнзавай прамысловасці рэспублікі, а ў швейнай і папяровай галінах – амаль 90% рабочых.

У выніку значныя поспехі былі дасягнуты як у павышэнні прадукцыйнасці працы, так і ў нарошчванні аб'ёму прамысловай прадукцыі. Да канца 1925 г. валавы прадукт цэнзавай прамысловасці перавысіў узровень 1913 г. на 28,5%. Вытворчасць металаапрацоўчай прамысловасці вырасла больш чым у 5 разоў, паліўнай (выпрацоўка торфу) перавысіла даваенны ўзровень у 2,3 раза. Тэмпы развіцця буйной прамысловасці Беларусі былі значна вышэйшыя, чым у цэлым

па краіне. Разрыў паміж узроўнем зарплаты і прадукцыйнасці працы, які ўтварыўся ў першыя гады нэпа, аказаўся скарочаным. З 1923 да 1926 г. прадукцыйнасць працы павялічылася на 50% пры росце зарплаты на 40%, у той час як у папярэднія гады прадукцыйнасць працы павялічылася толькі на 28%, а заработная плата – аж на 71%. На прадпрыемствах гарбарнай, паліграфічнай, шчацінна-шчотачнай прамысловасці Віцебскага губсаўнаргаса даваенны ўзровень прадукцыйнасці працы быў дасягнуты ўжо да канца 1923 г.

Хуткаму аднаўленню прамысловай вытворчасці садзейнічала не толькі новая эканамічная палітыка, але і творчая ініцыятыва рабочых, укараненне прагрэсіўных метадаў працы. Узнік рух рацыяналізатараў і вынаходнікаў. Толькі ў харчовай прамысловасці з кастрычніка 1924 г. да чэрвеня 1925 г. паступіла 341 рацыяналізатарская прапанова, з іх 207 былі ўкаранёны ў вытворчасць. Працоўная актыўнасць насельніцтва знайшла сваё адлюстраванне ў правядзенні суботнікаў, стварэнні і дзейнасці вытворчых нарад і камісій.

Для развіцця працоўнага энтузіязму адначасова з матэрыяльнай зацікаўленасцю пашыралася маральнае заахвочванне. Адпаведна дэкрэту ЦВК РСФСР (сакавік 1921 г.) перадавікам вытворчасці прысвойвалася ганаровае званне "Герой працы", іх імёны заносіліся на дошкі пашаны, аб'яўляліся падзякі і інш.

Па меры аднаўлення прамысловасці і сельскай гаспадаркі павышаўся матэрыяльны дабрабыт працоўных Беларусі. Важную ролю ў паляпшэнні забеспячэння рабочых і служачых таварамі і паслугамі выконвалі рабочыя кааператывы. У маі 1922 г. у рэспубліцы быў створаны Саюз рабочай кааперацыі, які ўжо ў чэрвені ахопліваў 50 тыс. чалавек. Саюз меў свае гандлёвыя і вытворчыя прадпрыемствы: магазіны, сталовыя, майстэрні і г. д. Сталовыя выдавалі да 1600 абедаў у дзень па цэнах, ніжэйшых на 30–40%, чым у прыватніка.

Харчаванне рабочых прыкметна палепшылася. З верасня 1921 г. да верасня 1922 г. сярэдняе дзённае спажыванне рабочымі Мінска малочных прадуктаў і яек павялічылася ў 1,5 раза, мяса і рыбы – у 3, хлеба пшанічнага – у 2 разы. У канцы 1921 г. у рэспубліцы была адменена картачная сістэма забеспячэння.

Паляпшаліся жыллёвыя ўмовы працоўных. У Мінску ў маі – жніўні 1921 г. забяспечаны жыллём 4650 чалавек.

Рабочыя і служачыя пачалі атрымліваць чарговыя адпачынкі. Былі забаронены звышурочныя і начныя работы без папярэдняга дазволу на тое аддзела аховы працы.

Да канца аднаўленчага перыяду павялічылася колькасць устаноў аховы здароўя, палепшылася медыцынскае абслугоўванне насельніцтва. У студзені 1926 г. у рэспубліцы налічвалася 216 урачэбных участкаў, 163 фельчарскіх і акушэрскіх пункты, 148 бальніц на 5188 ложкаў.





Пашыралася сетка дзіцячых устаноў. Дзякуючы павышэнню матэрыяльнага дабрабыту, паляпшэнню медыцынскага абслугоўвання, умоў працы вырасла нараджальнасць і зменшылася смяротнасць.

Правядзенне ў жыццё новай эканамічнай палітыкі дазволіла ў кароткі тэрмін аднавіць прамысловасць, стабілізаваць эканоміку, узняць матэрыяльнае становішча насельніцтва. Гэта стварыла добрыя ўмовы для здзяйснення новых, больш важных крокаў у развіцці прамысловасці, ажыццяўленні індустрыялізацыі рэспублікі.

Пераломным для дзейнасці прыватнага сектара стаў 1926/27 гаспадарчы год. 8 верасня 1926 г. СНК СССР пастанавіў "максімальна ўзмацніць абкладанне прыватнага капіталу", перайсці да адзяржаўлення дробнай вытворчасці і гандлю, што фактычна азначала адмаўленне ад нэпа. У сувязі з гэтым рашэннем рэзка скарачалася крэдытаванне прыватніка, скасоўваліся арэндныя дагаворы, павялічваліся падаткі і г. д. Ужо ў 1926–1927 гг. падаткі прыватных прадпрыемстваў складалі 45% ад сумы даходаў, а з улікам падатку на звышпрыбытак і іншымі плацяжамі – 65–70 % (у 1925 г. мінімальнае падаткаабкладанне складала 25 %).

Такая палітыка прывяла да згортвання дзейнасці прыватных прамысловых і гандлёвых прадпрыемстваў. Доля прыватніка ў валавой прамысловай прадукцыі з 1925 да 1927 г. у БССР зменшылася з 49,2 да 28,6%. Удзельная вага прыватніцкай вытворчасці ў агульным аб'ёме тавараабароту скарацілася за гэты час з 40,2 да 29,6%.

У тых умовах, умовах тарнага голаду, адсутнасці адладжанага тавараразмеркавання, вострай нястачы фінансавых сродкаў, выцясненне прыватніка было адной з памылак у справе кіраўніцтва эканомікай краіны.

## § 2. Курс на сацыялістычную індустрыялізацыю. Асаблівасці яе правядзення ў рэспубліцы

Лічыцца, што аднаўленне народнай гаспадаркі да пачатку 1926 г. у асноўным завяршылася. Аднак дасягнуты даваенны ўзровень вытворчасці не мог задаволіць патрэбы дзяржавы. СССР па аб'ёму прамысловай прадукцыі на душу насельніцтва ў 5–6 разоў адставаў ад развітых капіталістычных краін. Яшчэ горшым было становішча ў Беларусі. Яна па-ранейшаму заставалася слабаразвітай у прамысловых адносінах рэспублікай. Займаючы 0,6 % тэрыторыі (3,4 % насельніцтва) СССР, Беларусь давала ўсяго 1,6 % прамысловай прадукцыі краіны. Доля прамысловай прадукцыі ва ўсёй народнай гаспадарцы рэспублікі складала толькі 23,5% (у СССР – 39,1 %). Не адбылося значных змен і ў структуры прамысловасці. Аснову яе складалі харчовая, дрэваапрацоўчая, папяровая, гарбарная галіны, на долю якіх прыпадала асноўная частка агульнага аб'ёму валавой

прадукцыі. Прамысловасць Беларусі па-ранейшаму заставалася дробнай і кустарнай. Толькі на 30 прадпрыемствах налічвалася больш чым па 300 рабочых, і ўсяго на 6 прадпрыемствах працавала больш чым па 1000 чалавек.

Вельмі востра стаяла ў рэспубліцы праблема інжынерна-тэхнічных кадраў, кваліфікаваных рабочых. У 1927 г. удзельная вага інжынераў і тэхнікаў складала 2 % ад агульнай колькасці работнікаў, занятых у прамысловасці. Асабліва не задавальняў патрабаванням якасны склад спецыялістаў: вышэйшую адукацыю мелі 82 чалавекі, або 17,3 %, сярэднюю – 111, або 23,4 % ад агульнай колькасці інжынерна-тэхнічных работнікаў. Большасць спецыялістаў складалі практыкі. У той жа час і культурны ўзровень асноўнай масы насельніцтва заставаўся яшчэ нізкім. Пісьменнымі ва ўзросце 9 гадоў і старэй, паводле перапісу 1926 г., з'яўляліся 53,1 % жыхароў.

Усё гэта, разам узятае, перашкаджала развіццю народнай гаспадаркі рэспублікі. У той жа час магчымасці далейшага значнага павелічэння вытворчасці на старой базе аказаліся вычарпанымі. Пераадолець тэхніка-эканамічную адсталасць магчыма было толькі на базе шырокага разгортвання рэканструкцыі старых прадпрыемстваў і новага капітальнага будаўніцтва. Краіне трэба было перш за ўсё вырашыць задачу індустрыялізацыі. XIV з'езд ВКП(б) (снежань 1925 г.) узяў курс на індустрыялізацыю.

**Сацыялістычная індустрыялізацыя** – гэта палітыка Камуністычнай партыі і савецкага ўрада, якая мела галоўнай мэтай стварэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы сацыялізму, пераўтварэнне СССР у эканамічна незалежную дзяржаву з магутным эканоміка-вытворчым, навукова-тэхнічным і абаронным патэнцыялам, забеспячэнне росту прадукцыйнасці працы і на гэтай аснове няўхільнае павышэнне матэрыяльнага дабрабыту і культурнага ўзроўню працоўных.

Сутнасць індустрыялізацыі, як адзначалася ў рашэннях XIV з'езда ВКП(б), заключалася ў наступным: "весці эканамічнае будаўніцтва пад такім вуглом гледжання, каб СССР з краіны, якая ўвозіць машыны і абсталяванне, ператварыць у краіну, якая выпускае машыны і абсталяванне". Дзеля таго, каб забяспечыць пераўзбраенне народнай гаспадаркі, падняцце яе на новы тэхнічны ўзровень, аб'яўлялася пераважным развіццё цяжкай індустрыі, асабліва тых яе галін, што выраблялі сродкі вытворчасці. З'езд заклікаў развіваць "сацыялістычную прамысловасць на аснове павышанага тэхнічнага ўзроўню, аднак у строгай адпаведнасці як з ёмістасцю рынку, так і фінансавымі магчымасцямі дзяржавы". Пры гэтым падкрэслівалася, што поспех індустрыялізацыі будзе залежаць ад умацавання "змычкі" рабочага класа і сялянства, г. зн. удзелу вёскі ў фінансаванні прамысловасці цераз збалансаваную палітыку ў вобласці падаткаў і цэн як на сельскагаспадарчую, так і на прамысловую прадукцыю.

Гэтыя палажэнні з'езда не адпавядалі поглядам Р. Зіноўева, Л. Каменева, Л. Троцкага. Яны настойвалі на звышіндустрыялізацыі





за кошт сродкаў сялянскіх гаспадарак. "Новая апазіцыя" на чале з Р. Зіноўевым і Л. Каменевым дамагалася пашырэння вывазу збожжа за мяжу за кошт наступлення на "заможныя элементы" на сяле. Сцвярджаючы, што накапленне сродкаў у вёсцы ўяўляе пагрозу для сацыялізму, яны фактычна патрабавалі адабраць прыбавачны прадукт у селяніна. Такіх жа поглядаў прытрымліваўся і Л. Троцкі, які настойваў на ўзмацненні падатковага абкладання сялянства і павышэнні цэн на прамысловыя тавары.

Погляды "новай апазіцыі" і трацкістаў на метады правядзення індустрыялізацыі атрымалі неабходны адпор з боку з'ездаў і ўсёй партыі. Катэгарычна па гэтым пытанні выказаўся XV з'езд партыі (снежань 1927 г.). У рэзалюцыі "Аб дырэктывах па складанні пяцігадовага плана народнай гаспадаркі" гаварылася: "Няправільна зыходзіць з патрабавання максімальнай перапампоўкі сродкаў са сферы сялянскай гаспадаркі ў сферу індустрыі, бо гэта патрабаванне азначае не толькі палітычны разрыў з сялянствам, але і падрыў сыравіннай базы самой індустрыі, падрыў унутранага рынку, падрыў экспарту і парушэнне раўнавагі ўсёй народнагаспадарчай сістэмы".

Па сваёй прыродзе індустрыялізацыя ў СССР не магла абмежавацца ні маштабамі асобных галін, ні тэрыторыяй асобных рэспублік ці раёнаў. Эканоміка Савецкай Беларусі была неад'емнай, арганічнай часткай эканомікі Савецкага Саюза, і індустрыялізацыя рэспублікі праходзіла як састаўная частка адзінага працэсу індустрыялізацыі ўсёй краіны.

Разам з тым на Беларусі меліся і свае асаблівасці, і свае цяжкасці. Адрозненні ў тэрмінах і тэмпах індустрыялізацыі, галіновых і структурных прапорцыях былі абумоўлены:

– геапалітычным становішчам Беларусі ў міжваенны перыяд (прымежнае знаходжанне, адсюль немэтазгоднасць развіцця цяжкай прамысловасці, прадпрыемстваў ваенна-прамысловага комплексу);

– адсутнасцю разведаных радовішчаў нафты, газа, каменнага вугалю, руд чорных і каляровых металаў, сыравіннай базы будаўнічых матэрыялаў;

– арыентацыяй прамысловасці на мясцовую сыравіну, першачарговым развіццём лёгкай і харчовай прамысловасці;

– недахопам кваліфікаваных кадраў і інш.

Шляхі і метады ажыццяўлення індустрыялізацыі, з улікам асаблівасцей Беларусі, наметаў Пленум ЦК КП(б)Б, які адбыўся 27–29 красавіка 1926 г. Плануючы стварэнне прамысловасці па вырабу сродкаў вытворчасці, пленум прызнаў неабходным і хуткае развіццё галін, якія базіраваліся на перапрацоўцы мясцовай сыравіны: керамічнай, шкляной, запалкавай, дрэваапрацоўчай, ільнопрадзільнай, папяровай, гарбарнай, харчовай і інш. Курс на развіццё гэтых галін адпавядаў структуры прамысловасці рэспублікі, што склалася гістарычна, яе эканамічным і фінансавым магчымасцям, сыравінным і працоўным рэсурсам. Як і ў даваенны час, перапрацоўка прадукцыі

сельскай гаспадаркі займала вядучае месца ў прамысловасці БССР. У 1927/28 гаспадарчым годзе на яе долю прыпадала 56,6 % агульнай прамысловай вытворчасці.

Правядзенне індустрыялізацыі патрабавала вялікіх сродкаў. На дапамогу ці крэдыты іншых дзяржаў разлічваць не даводзілася, усе надзеі ўскладаліся толькі на ўнутраныя крыніцы. Каб забяспечыць намечаныя тэмпы развіцця індустрыі, неабходна было выкарыстоўваць амаль палову нацыянальнага прыбытку.

Асноўнай крыніцай накаплення з'яўлялася сама прамысловасць. Мэта была дасягнута шляхам пастаяннага скарачэння накладных расходаў, зніжэння сабекошту прадукцыі, паскарэння абарачальнасці сродкаў, шырокай рацыяналізацыі прамысловасці, укаранення найноўшых дасягненняў навукі і тэхнікі, павышэння прадукцыйнасці працы, умацавання працоўнай дысцыпліны.

Дадатковыя сродкі на індустрыялізацыю атрымліваліся за кошт эканоміі і павышэння рэнтабельнасці вытворчасці. Ужо ў 1926 г. дрэваапрацоўчыя заводы Нова-Барысава сэканомілі 100 тыс., 4 буйныя прадпрыемствы Віцебскай акругі – 560 тыс. рублёў. У выніку прыбытак ад прамысловасці рэспублікі вырас з 5,4 млн рублёў у 1926 г. да 93,2 млн рублёў у 1932 г. У прамысловасць накіроўвалася частка сродкаў, атрыманых ад сельскай гаспадаркі. Значную колькасць станкоў і абсталявання куплялі ў замежных краінах за валюту, атрыманую ад экспарту сельгаспрадуктаў, які толькі ў 1926/27 гаспадарчым годзе склаў каля 5,5 млн рублёў.

Важнай крыніцай атрымання сродкаў для індустрыялізацыі з'явіліся зберажэнні працоўных. Масавы характар атрымала падпіска на дзяржаўныя пазыкі. Аблігацый першай дзяржаўнай пазыкі працоўныя рэспублікі набылі на 5,7 млн рублёў, перавысіўшы тым самым суму, якая намячалася да рэалізацыі, у 3 разы. Усяго ў Беларусі ў гады першай пяцігодкі ў выніку распаўсюджання трох пазык "Індустрыялізацыі", пазык "Пяцігодку – за чатыры гады", "Трэці, рашаючы год пяцігодкі", "Чацвёрты, заключны год пяцігодкі" працоўныя пазычылі дзяржаве для патрэб індустрыялізацыі 139 млн рублёў. Прыкладна ўтрая больш сродкаў паступіла за гады другой пяцігодкі. Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што ў правядзенні гэтых добраахвотных пазык былі выпадкі прымусовай падпіскі.

Сродкі, неабходныя для індустрыялізацыі, дзяржава атрымлівала і за кошт удасканальвання структуры дзяржапарату, ліквідацыі ў ім лішніх і дублюючых звенняў. Толькі ў 1926/27 гаспадарчым годзе ад скарачэння дзяржапарату ў Беларусі сэканомлена амаль 5,5 млн рублёў.

Значныя асігнаванні выдзяляліся народнай гаспадарцы Беларусі з агульнасаюзнага бюджэту. За тры гады, пачынаючы з 1926/27 гаспадарчага года, яны склалі больш за 19 млн рублёў. Усяго за 1925–1927 гг. у прамысловасць Беларусі было ўкладзена 40 млн рублёў. Асноўныя капіталаўкладанні накіроўваліся ў паліўную, дрэваапрацоўчую, папяровую, гарбарную, харчовую галіны прамысловасці.





Важныя змены адбываліся ў структуры капітальнага будаўніцтва. Калі ў гады аднаўлення большая частка капіталаўкладанняў накіроўвалася на рамонтныя работы, то ў сувязі з індустрыялізацыяй павялічыўся аб'ём сродкаў на новае будаўніцтва і рэканструкцыю прадпрыемстваў. У 1925/26 гаспадарчым годзе на ўзвядзенне новых фабрык і заводаў было выдаткавана 12,1 % усёй сумы капіталаўкладанняў у прамысловасць, у 1927/28 гаспадарчым годзе – 50 %.

За тры гады індустрыялізацыі ў рэспубліцы пабудаваны фанерны завод у Віцебску, скурзавод "Бальшавік" у Мінску, запалкавая фабрыка і льночасальны камбінат у Рэчыцы, галантарэйная фабрыка "Беларуска" ў Мінску, швейная фабрыка імя Дзяржынскага ў Гомелі, некалькі цагельных заводаў, прадпрыемстваў па перапрацоўцы драўніны і сельскагаспадарчых прадуктаў і г.д. Усяго за гэты час было пабудавана 150 прамысловых прадпрыемстваў.

Адначасова з новым будаўніцтвам вялася рэканструкцыя дзеючых прадпрыемстваў. Удасканальвалася тэхналогія, механізаваліся вытворчыя працэсы, фабрыкі і заводы аснашчаліся новым абсталяваннем. На Віцебскай панчошна-трыкатажнай фабрыцы, напрыклад, за 1924–1928 гг. было ўстаноўлена 128 вязальных машын.

Правядзенне індустрыялізацыі значна пашырала і аднаўляла матэрыяльна-тэхнічную базу прамысловасці, дазваляла павялічваць выпуск прадукцыі. Больш хуткімі тэмпамі рос аб'ём вытворчасці ў тэкстыльнай прамысловасці – у 3,1 раза, у дрэваапрацоўчай – у 2,6, швейнай – у 2,4 раза.

Вынікі, дасягнутыя прамысловасцю БССР у першыя гады індустрыялізацыі, стварылі неабходныя перадумовы для далейшага развіцця прамысловых галін. Першы пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі і культуры БССР (1928–1932) быў зацверджаны IX з'ездам Саветаў рэспублікі ў маі 1929 г. Асноўная задача плана фарміравалася як "фарсіраваны тэмп індустрыялізацыі Беларускай ССР, павышэнне ўдзельнай вагі прамысловасці ў народнай гаспадарцы". Асаблівая ўвага звярталася на развіццё такіх галін прамысловасці, як дрэваапрацоўчая, харчовая, гарбарная, ільняная, швейная. Адначасова планавалася развіццё машынабудавання для патрэб сельскай гаспадаркі і прамысловасці будматэрыялаў.

Аднак Беларуская ССР уласнымі сродкамі не магла забяспечыць неабходнае фінансаванне капітальнага будаўніцтва. Таму ў стварэнні буйной прамысловасці рэспубліка абапіралася на дапамогу СССР. Толькі на ўзвядзенне фабрыкі штучнага валакна ў Магілёве, Крычаўскага цэментнага завода, Бабруйскага і Гомельскага дрэваапрацоўчых камбінатаў, Гомельскага шклозавода і іншых аб'ектаў з агульнасаюзнага бюджэту было адпушчана больш за 100 млн рублёў. Каля 115 млн рублёў выдаткоўвалася на развіццё чыгуначнага транспарту.

У выніку ў рэспубліцы штогод уводзіліся ў строй новыя фабрыкі і заводы. За гады першай пяцігодкі пабудавана 78 буйных і 460 дробных



*Беларуская дзяржаўная раённая электрастанцыя (БелДРЭС) каля Оршы*

і сярэдніх прадпрыемстваў. Сярод іх швейныя фабрыкі “Сцяг індустрыялізацыі” ў Віцебску, імя Камінтэрна – у Гомелі, імя Валадарскага – у Магілёве, імя Дзяржынскага – у Бабруйску, панчошна-трыкатажная фабрыка імя КІМ у Віцебску, Магілёўская фабрыка штучнага валакна, Гомсельмаш, Бабруйскі і Гомельскі дрэваапрацоўчыя камбінаты, буйнейшая ў рэспубліцы БелДРЭС паблізу Оршы і інш.

Увядзенне ў строй новых прадпрыемстваў значна знізіла ўдзельную вагу дробнай прамысловасці, якая ў канцы пяцігодкі дала ўсяго 17,3 % прамысловай прадукцыі БССР, у той час як у 1927/28 гаспадарчым годзе яе доля складала 40,7 %.

Аб’ём прадукцыі металаапрацоўчай прамысловасці вырас у 3,8 раза, харчовай – у 4,7, гарбарна-абутковай – у 6, швейнай – амаль у 13 разоў. Станоўчыя змены адбыліся ў тарфяной, энергетычнай, хімічнай і іншых галінах прамысловасці.

Вялікія дасягненні ў правядзенні індустрыялізацыі краіны нараджалі ілюзію небывалых магчымасцей. З гэтым было звязана абвяшчэнне Сталіным лозунга “Пяцігодку – за чатыры гады”, спроба ажыццявіць звышіндустрыялізацыю, “вялікі скачок” у развіцці СССР. Ужо ў другой палове 1929 г. план першай пяцігодкі быў перагледжаны і навязаны новыя, павышаныя заданні. Гэта прывяло да цяжкасцей у фінансавым і матэрыяльным забеспячэнні вытворчасці, зніжэння тэмпаў росту прадукцыі. Адмоўныя вынікі выявіліся хутка. У 1931 г. планавыя паказчыкі прамысловасцю БССР не былі дасягнуты. План па валу выкананы толькі на 79 %. Сабекошт знізіўся





ўсяго на 1,2 % супраць запланаваных 8,1 %. Прадукцыйнасць працы ў прамысловасці рэспублікі вырасла толькі на 15 % замест 33%, прадугледжаных планам.

Нягледзячы на гэта, улады, афіцыйная прапаганда сцвярджалі магчымасць паспяховага ажыццяўлення пяцігодкі за 4 гады. Больш таго, на завяршальны, 1932 г. пяцігодкі планаваўся прырост прамысловай прадукцыі на 22,3 % вышэй за папярэдне прадугледжаны планам. Было заяўлена, што па шэрагу галін прамысловасці пяцігодку можна выканаць за 3 гады.

Правядзенне індустрыялізацыі без уліку рэальных умоў не магло не адбіцца на канчатковых выніках пяцігодкі. Па плану, напрыклад, намячалася давесці вытворчасць электраэнергіі да 260 млн кВт·гадз., выпрацавалі ж усяго 177 млн кВт·гадз., г. зн. 69 % ад запланаванага. Не атрымалася паскарэнне і ў многіх іншых галінах прамысловасці: у тарфяной план быў выкананы толькі на 85, у цагельнай – на 90 %. Такое становішча назіралася ў харчовай, хімічнай і тэкстыльнай галінах. У выніку аб’ём прамысловай вытворчасці за пяцігоддзе павялічыўся ў 2,7 раза, тады як планам вызначаўся рост у 3,7 раза. План капітальнага будаўніцтва выкананы толькі на 68,1 %.

Фактараў, якія стрымлівалі выкананне заданняў, было шмат. Адзін з іх – зрыў паставак многіх відаў сыравіны і матэрыялаў з іншых рэспублік. Эканамічныя рэсурсы Беларусі не маглі забяспечыць паралюнтарысцку завышаныя праграмы індустрыялізацыі.

Калі ў працэсе фарміравання плана ўпор рабіўся на эканамічныя стымулы і гаспадарчаразліковыя метады, то ў ходзе яго рэалізацыі вядучымі сталі метады каманднай эканомікі. У 1932 г. XVII партканферэнцыя ВКП(б) канчаткова адмовілася ад новай эканамічнай палітыкі, адзначыўшы яе “поўную несумяшчальнасць з палітыкай партыі і інтарэсамі рабочага класа, з буржуазна-нэпманскімі скажэннямі прынцыпу гаспадарчага разліку, якія праявіліся ў разбазарванні агульнанародных дзяржаўных рэсурсаў і, значыць, у зрыве ўстаноўленых гаспадарчых планаў”. Такім чынам, на змену гаспадарчаму разліку ў эканоміцы прыйшла камандна-адміністрацыйная сістэма.

На падставе рашэння ЦВК СССР ад 5 студзеня 1932 г. аб рэарганізацыі саўнаргасаў Беларускі саўнаргас быў пераўтвораны ў Наркамат лёгкай прамысловасці БССР, а прадпрыемствы цяжкай і лясной прамысловасці БССР, якія яму падпарадкоўваліся, перададзены адпаведным саюзным наркаматам. Фактычна ўсталёўвалася жорсткая цэнтралізаваная сістэма кіравання прамысловасцю часоў “ваеннага камунізму”. Гандаль сіндыкатаў замяняўся размеркаваннем рэсурсаў зверху па фондах і разнарадцы. Забеспячэнне індустрыялізацыі грашовымі сродкамі было ўскладзена на Наркамат фінансаў, а матэрыяльнае і тэхнічнае забеспячэнне прадпрыемстваў – на Дзяржплан і галіновыя наркаматы. Такім чынам, непасрэднай крыніцай фінансавання буйнамаштабнага будаўніцтва стала не толькі

вытворчасць, але ў значнай ступені і сфера размеркавання і абарачэння – падаткі з абароту і пазыкі насельніцтва.

Тым не менш у выніку прымянення каманднa-адміністрацыйных метадаў кіравання індустрыялізацыя ішла хутка, прамысловасць рэспублікі як у першай, так у другой і трэцяй пяцігодках развівалася дастаткова высокімі тэмпамі. Другая пяцігодка (1933 – 1937) дала павелічэнне валавой прадукцыі ў 1,9 раза. Былі пабудаваны буйныя прадпрыемствы: Аршанскі льнокамбінат, Крычаўскі цэментны завод, Гомельскі шклозавод, Магілёўскі аўтарамонтны і Бабруйскі гідролізны заводы, другая чарга БелДРЭС, Гомельскі тлушчакамбінат і інш. Усяго ў 1929–1940 гг. уведзена ў строй і рэканструявана 1863 прадпрыемствы. Да канца другой пяцігодкі рэспубліка давала ўжо 2,2 % усёй валавой прадукцыі прамысловасці СССР. Прамысловасць Беларусі выпускала 1,2 % металарэзных станкоў, 10,3 – торфу, 28,7 – фанеры, 6,9 – паперы, 2,0 – цэменту, 16,0 – ільновалакна і трыкатажных вырабаў, 3,8 % – абутку ад агульнасаюзнай вытворчасці.

Паспяховае ажыццяўленне індустрыялізацыі, эфектыўнае функцыяніраванне прадпрыемстваў патрабавалі кваліфікаваных інжынерна-тэхнічных і рабочых кадраў, якія добра ведалі б вытворчасць, маглі кіраваць навейшай тэхнікай, рацыянальна яе выкарыстоўваць. Да канца першай пяцігодкі ў прамысловасці Беларусі працавала 4430 спецыялістаў з вышэйшай тэхнічнай адукацыяй, або ў 44 разы больш, чым у сярэдзіне 1929 г. Калі ў 1927/28 навучальным годзе ў рэспубліцы мелася 5 індустрыяльных тэхнікумаў, то ў канцы 1932 г. іх колькасць павялічылася да 30. Штогод яны давалі народнай гаспадарцы каля 1000 спецыялістаў сярэдняга звяна. У канцы першай пяцігодкі на 100 прамысловых рабочых прыпадала каля 5 інжынераў і тэхнікаў.

Падрыхтоўка кваліфікаваных рабочых кадраў ажыццяўлялася перш за ўсё праз сетку прафесійных навучальных устаноў: вучэбна-практычныя майстэрні, школы фабрычна-заводскага навучання і прафесійна-тэхнічныя. У 1930 г. у сістэме прафтэхадукацыі рэспублікі было 96 навучальных устаноў.

Рабочыя кадры для прамысловасці рыхтаваліся таксама шляхам брыгаднага і індывідуальнага вучнёўства. Партыйныя, камсамольскія,

УМОЎНЫЯ ЗНАКІ

 Машынабудаванне і металаапрацоўка

 Хімічная (прадпрыемствы смалакурныя, каніфольна-шкіпінарныя, лакафарбавыя і інш.)

 Вытворчасць будаўнічых матэрыялаў

 Тэкстыльная, швейная і абутковая

Структура прамысловасці буйных гарадоў


Віцебск


Мінск


Гомель



*Асноўныя галіны прамысловасці БССР (на пачатак другой пяцігодкі)*

прафсаюзныя арганізацыі, адміністрацыі прадпрыемстваў развівалі рух за авалоданне тэхнікай, тэхнічнымі ведамі. Былі арганізаваны школы, курсы, гурткі вытворчага навучання рабочых, павышэння кваліфікацыі брыгадзіраў, майстроў, начальнікаў цэхаў на ўсіх прадпрыемствах.

Рабочы клас Беларусі разгарнуў спаборніцтва за авалоданне новай тэхнікай, уздым тэхнічнай пісьменнасці. У жніўні 1933 г. на чыгунцы, у машынабудаўнічай, шкларобнай, дрэваапрацоўчай, швейнай і іншых галінах прамысловасці яно дапоўнілася ізотаўскім рухам, які ўзнік па пачыну камсамольцаў Уралмашзавода. Яго ўдзельнікі спалучалі ўдарную работу з авалоданнем тэхнікай і навучаннем маладых рабочых перадавым метадам працы.

Рух за авалоданне тэхнічнымі ведамі рос і шырыўся. Па закліку I Усебеларускай канферэнцыі выдатнікаў тэхнічнай вучобы цяжкай прамысловасці БССР (1934) пачалося спаборніцтва за прадпрыемствы суцэльнай тэхнічнай пісьменнасці. У выніку да канца ліпеня 1935 г. на 150 буйнейшых прадпрыемствах рэспублікі здалі дзяржтэхэкзамены 48 тыс. чалавек, або 80 % усіх вытворчых рабочых. Больш як 40 заводаў і фабрык сталі прадпрыемствамі суцэльнай тэхнічнай пісьменнасці, першымі з іх – мінскія заводы "Энергія" і "Бальшавік", Гомсельмаш, Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат.

Уздым тэхнічнай пісьменнасці абуджаў у працоўных мас творчую думку, спрыяў развіццю вынаходніцтва і рацыяналізацыі. У канцы другой пяцігодкі ў Беларусі налічвалася больш за 5 тыс. вынаходнікаў і рацыяналізатараў, 25 з іх удастоіліся ў 1936 г. усесаюзнага звання "Лепшы вынаходнік". За гады пяцігодкі наватары рэспублікі ўнеслі каля 50 тыс. рацыяналізатарскіх прапаноў і вынаходстваў. Сканструяваная інжынерам Б. Анацэвічам сушылка дала заводу "Чырвоны хімік" (Гомель) 300 тыс. рублёў эканоміі. Стаханавец Магілёўскага гарбарнага завода Д. Калеснікаў стварыў машыну для апрацоўкі скур, што замяніла 30 рабочых.

У выніку росту тэхнічнага і культурнага ўзроўню працоўных на больш высокую ступень узнялося сацыялістычнае спаборніцтва. Гэта знайшло адлюстраванне ў пашырэнні такіх яго форм, як ударніцтва, сустрэчнае планаванне, рух гаспадарчаразліковых брыгад, "грамадскі буксір" і г.д. У 1935 г. ударніцтвам і іншымі формамі спаборніцтва было ахоплена 72 % рабочых. Але ў арганізацыі руху вынаходнікаў, як і ў развіцці спаборніцтва, меліся відавочныя недахопы. Наватарства, працоўнае спаборніцтва набывала характар кампаній, нормай станавіліся фармалізм, прыпіскі, заарганізаванасць.

Нягледзячы на працоўны ўздым і высокія тэмпы індустрыялізацыі, заданні другой і першых гадоў трэцяй пяцігодак таксама не былі выкананы. Па тэмпах развіцця БССР адставала ад СССР у цэлым. Прамысловае развіццё Беларусі ў даваенныя пяцігодкі не было дакладнай копіяй агульнага ходу індустрыялізацыі краіны. Хаця ў групу "А" было ўкладзена 67,6 % усіх сродкаў, накіраваных на развіццё





прамысловасці, канчатковая аддача была па-ранейшаму вышэйшая ў групе "Б" – на яе долю ў 1932 г. прыходзілася 64,9 % усёй атрыманай у прамысловасці рэспублікі прадукцыі. Для індустрыялізацыі Беларусі, як адзначалася ў дакументах XII з'езда КП(б)Б, было характэрна пашырэнне "прамысловай вытворчасці, заснаванай галоўным чынам на мясцовай сельскагаспадарчай, лясной і мінеральнай сыравіне, а таксама шляхам размяшчэння ў Беларусі прамысловых прадпрыемстваў, заснаваных на транспартабельнай прывазной сыравіне, паўфабрыкатах". Паколькі прамысловасць Беларусі развівалася ў асноўным на базе мясцовых рэсурсаў, яна ўсё больш выходзіла за рамкі старых гарадоў, набліжаючыся да крыніц сыравіны. У індустрыяльную працу ўцягвалася сельскае насельніцтва. Больш рацыянальна сталі выкарыстоўвацца працоўныя рэсурсы.

Паслядоўнае ажыццяўленне лініі на развіццё вытворчасці сродкаў вытворчасці змяніла галіновую структуру прамысловасці. За гады даваенных пяцігодак у рэспубліцы створаны новыя галіны буйной прамысловасці: торфаздабыўная, машынабудаванне, станкабудаванне, вытворчасць штучнага валакна, цэментная, трыкатажная, ільноапрацоўчая, тлушчавая і інш. Была створана новая энергетычная і паліўная база. Магутнасць электрастанцый да канца другой пяцігодкі павялічылася ў 1,5 раза, а выпрацоўка электраэнергіі – у 2,4 раза і склала ў 1937 г. 430,4 млн кВт·гадз. У выніку энергаўзброенасць працы ў прамысловасці БССР павялічылася амаль у паўтара раза.

У агульным комплексе эканамічнага развіцця Беларусі важная роля належала развіццю і рэканструкцыі транспарту. Было пракладзена 70 км новых чыгунак, у тым ліку на ўчастку Слуцк–Цімкавічы. Завяршылася асваенне чыгуначнай магістралі Асіповічы – Магілёў – Крычаў – Рослаў. Укладваліся другія пуці на ўчастках Мінск – Негарэлае, Полацк – Бігосава, Полацк – Загацце і інш. У сувязі з укараненнем новых магутных паравозаў і вялікагрузных вагонаў вялася рэканструкцыя чыгуначных пуцей, мастоў, станцый, дэпо.

Важнае значэнне ў гаспадарчым жыцці набываў новы від транспарту – аўтамабільны. Аўтамабільная гаспадарка рэспублікі да канца другой пяцігодкі мела прыкладна 8 тыс. аўтамашын. Пачаў уводзіцца аўтобусны рух для перавозкі пасажыраў. Працягласць аўтамабільных дарог з цвёрдым пакрыццём павялічылася больш чым удвая і дасягнула ў 1937 г. прыкладна 6 тыс. км. Завяршылася асфальтаванне шашэйнай магістралі на ўчастку Мінск – Орша.

У 1935 г. адкрыта першая ў рэспубліцы авіялінія Мінск – Масква. У Мінску быў пабудаваны аэрапорт. Пачата перавозка пошты і пасажыраў у аддаленыя раёны БССР.

У рэспубліцы ўсё больш укаранялася тэлефонная і тэлеграфная сувязь. За другую пяцігодку колькасць абанентаў мясцовых тэлефонных станцый гарадоў і раённых цэнтраў павялічылася больш чым удвая і дасягнула 22 тыс.

Адным са станоўчых вынікаў індустрыялізацыі з'явілася істотнае змяненне сацыяльнай структуры грамадства. Гэта ў першую чаргу было звязана з колькасным ростам рабочага класа. Як сведчаць даныя Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1939 г., яго доля ў складзе насельніцтва БССР дасягнула 21,9 %.

Індустрыялізацыя абумовіла развіццё адукацыі, сістэмы вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, навукі і культуры народа. Доля інтэлігенцыі, паводле вынікаў гэтага ж перапісу, узрасла да 14,5 %.

Адбыліся некаторыя станоўчыя змены і ў матэрыяльным становішчы насельніцтва. Амаль удвая павысіўся сярэдні заработак рабочых і служачых. У студзені 1935 г. і лістападзе 1937 г. была павышана зарплата многім катэгорыям нізкааплатных работнікаў прамысловасці і транспарту. Неаднаразова зніжаліся цэны на харчовыя і прамысловыя тавары. У верасні 1935 г. таннейшым стаў хлеб, а ў чэрвені 1937 г. – бавоўняныя і шарсцяныя тканіны, гатовае адзенне, абутак і іншыя прамысловыя тавары. З 1 кастрычніка 1935 г. адмянялася нарміраванае забеспячэнне мясам і некаторымі іншымі прадуктамі, а з 1 студзеня 1936 г. – карткі на непрадуктовыя тавары.

Працоўныя атрымалі ад дзяржавы дадатковыя даходы ў выглядзе выплат па сацыяльным страхаванні, пенсій, затрат на народную адукацыю і медыцынскае абслугоўванне, аплатных адпачынкаў, прадастаўлення бясплатных і льготных пуцёвак у санаторыі і дамы адпачынку.

Аднак Беларусь усё яшчэ адчувала вялікія цяжкасці ў забеспячэнні насельніцтва харчовымі і прамысловымі таварамі. Лёгкая і харчовая прамысловасць не забяспечвалі попыт на многія віды вырабаў.

Узровень жыцця людзей хаця і павышаўся, але ўсё яшчэ заставаўся нізкім, як у іншых рэспубліках СССР. Нягледзячы на гэта, XVIII з'езд партыі (сакавік 1939 г.) заявіў, што "пастаўленая другім пяцігадовым планам задача павышэння ўзроўню народнага спажывання ў два разы і болей... выканана". Скажэнне рэчаіснасці, замоўчванне цаны і сродкаў дасягненняў садзейнічалі ўмацаванню дырэктыўнага механізма кіравання і гаспадарання, развіццю культу асобы Сталіна.

## § 3. Калектывізацыя сельскай гаспадаркі

**На шляхах перабудовы: каапераванне сельскай гаспадаркі.** Велізарнае значэнне ў жыцці нашага грамадства, 4/5 насельніцтва якога ў 20 – 30-я гады складала сялянства, мела радыкальнае пераўтварэнне сельскай гаспадаркі. Цяжкія ўмовы працы і быту сялян, раздробленасць зямельных участкаў, прымітыўныя прылады працы і, як вынік, нізкая эфектыўнасць вытворчасці харчовых прадуктаў, што стрымлівала агульнае эканамічнае развіццё краіны, – усё гэта пераканаўча сведчыла аб існаванні аб'ектыўнай неабходнасці ка-





рэннага пераўладкавання сельскай гаспадаркі, уздыму агульнай культуры вёскі.

Дадзеная гістарычная неабходнасць пачала рэалізоўвацца ў 20-я гады шляхам развіцця розных форм кааперацыі, паступовага пераходу дробных сялянскіх гаспадарак да калектыўнай апрацоўкі зямлі ва ўмовах нэпа. Асаблівасцю Беларусі было тое, што ўвядзенне нэпа супадала з перадачай зямлі сялянам. Прыняты II з'ездам Саветаў Дэкрэт аб зямлі, паводле якога ўся зямля перадавалася бязвыплатна сялянам у карыстанне, тут быў здзейснены толькі ў 1921 г. У выніку сялянства ўсходніх абласцей Беларусі павялічыла аб'ём землекарыстання да 5,4 млн дзесяцін. Гэта перавысіла даваенны ўзровень на 1,3 млн дзесяцін, але забеспячэнне сялян зямлёй тут было амаль напалову (на 41 %) менш, чым у сярэднім па краіне. Патрэбна ўлічваць, што ў Беларусі пад балотамі знаходзілася 16 % усёй зямлі, пад лясамі – 25 %.

Перанаселенасць беларускай вёскі і хранічнае малазямелле сялян патрабавалі пошукаў больш інтэнсіўнага выкарыстання зямельных угоддзяў. Беларускі ўрад ставіў задачу пашырэння апрацоўваемай зямельнай плошчы шляхам ліквідацыі няўдобіц, меліярацыі, пераразмеркавання ўчасткаў. Дзякуючы ўздзеянню нэпа ўжо ў пачатку 1925/26 гаспадарчага года памеры пасяўной плошчы пераўзышлі даваенны ўзровень і ў цэлым аб'ём сельскагаспадарчай вытворчасці дасягнуў гэтага ўзроўню. Колькасць бядняцкіх гаспадарак у рэспубліцы знізілася, а серадняцкіх – павялічылася. У 1925 г. на долю сераднякоў прыпадала да 70 % ворнай зямлі. Аднак важна адзначыць, што тэмпы развіцця сельскай гаспадаркі ўсё больш замаруджваліся, а агульная таварнасць яе была нізкая. Дробная гаспадарка мела тэндэнцыю да падзення таварнасці (14,2 % у 1925/26 годзе, 13,2 % у 1927/28 годзе).

У пачатку нэпа савецкая ўлада падтрымлівала гаспадарчыя памкненні сялян, заахвочвала пошук форм калектыўнага гаспадарання на зямлі, прадастаўляла правы на зямлю як калектыўным, так і аднаасобным гаспадаркам. Абвешчаная ў Зямельным кодэксе БССР свабода выбару форм землекарыстання захоўвалася ў Беларусі аж да 1927 г. І трэба адзначыць, што да таго часу ў Беларусі свабодна развіваліся гаспадаркі як калектыўнага землекарыстання (у формах вытворчай кааперацыі – сельгасарцелей, камун, таварыстваў па сумеснай апрацоўцы зямлі; у разнастайных прасцейшых формах кааперацыі – крэдытных, забеспячэнскіх, збытавых; у спецыялізаваных відах кааператыўных аб'яднанняў – машынных і конна-машынных, масларобных і сыраварных, жывёлагадоўчых і насенняводчых і г. д.), так і аднаасобнага землекарыстання (двары, хутары і адрубы).

Народным камісарыятам земляробства, які ўзначальваў з 1921 да 1929 г. Дз. Ф. Прышчэпаў, быў складзены "Пяцігадовы перспектыўны план развіцця лясной і сельскай гаспадарак БССР на 1925–1929 гады". План прадугледжваў стварэнне хутароў і дробных пасёлкаў тыпу

17. Зак. 5565

адрубоў. У адпаведнасці з гэтым планам было перасялена на хутары і ў дробныя пасёлкі 130 тыс. сялянскіх гаспадарак. На патрэбы хутарызацыі было асігнавана 4,8 млн рублёў, а таксама выдадзена каля 6 млн рублёў крэдыту. У выніку да канца 20-х гадоў хутарская сістэма на Беларусі складала больш за 25 % сялянскага землекарыстання.

З першых гадоў савецкай улады ствараліся і вытворчыя кааператывы, калектыўныя гаспадаркі. Да пачатку 1927 г. у Беларусі налічвалася каля 400 сельскагаспадарчых арцелей, камун і таварыстваў па сумеснай апрацоўцы зямлі, а таксама 213 саўгасаў. Аднак ва ўмовах Беларусі, пры адсутнасці вялікіх масіваў ворнай зямлі, прыдатнай да апрацоўкі складанай тэхнікай, нізкім узроўні механізацыі, недахопе агранамічных кадраў, стварэнне буйных калгасаў было нерэнтабельным і нязначным.

Калгасы разглядаліся ў асноўным як форма арганізацыі бяднейшых пластоў насельніцтва. Ствараліся яны, як правіла, на землях дзяржаўнага фонду. Да кастрычніка 1928 г. у БССР было арганізавана 994 калгасы, у тым ліку 243 нацыянальныя (227 яўрэйскіх, 12 польскіх, 2 латышскія, цыганскі і нават кітайскі – 2 апошніх у Віцебскай вобласці). На 1 калгас у сярэднім прыходзілася 40–75 дзесяцін зямлі, па 3–5 коней, 3–4 плугі, 4 бараны; на 100 га мелася па 20 галоў буйной рагатай жывёлы; сярэдняя ўраджайнасць зерневых з 1 га складала 8 ц.

Нягледзячы на актыўную падтрымку дзяржавай калгаснай формы гаспадарання ( вызваленне ад арэнднай платы за зямельныя ўгоддзі, прадастаўленне розных падатковых ільгот, забеспячэнне інвентаром, рабочай і прадукцыйнай жывёлай), асноўная маса сялянства – сераднікі – аддавалі перавагу прасцейшым формам кааперацыі, а не калгасам.

Развіццё сельскагаспадарчай кааперацыі ішло галоўным чынам у дзвюх формах: крэдытнай і забеспячэнска-збытавой. Разнастайнымі формамі сельскагаспадарчай кааперацыі ў Беларусі ўжо да пачатку 1926 г. было аб'яднана 20,9 % сялянскіх гаспадарак. Дзякуючы кааперацыі валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі Беларусі да пачатку 1927 г. перавысіла даваенны ўзровень больш чым на 12 %, паменшыўся працэнт гаспадарак, якія не мелі коней і кароў, нашмат павялічылася закупка сялянамі сельгасмашын і мінеральных угнаенняў, а таксама набыццё імі мануфактуры, газы, мыла, цукру і іншых тавараў шырокага спажывання.

У 20-я гады, як бачна, быў сапраўды значны ўздым сялянскай гаспадаркі, які сведчыць аб дабратворных выніках нэпа, эфектыўнасці развіцця розных форм кааперацыі. Менавіта кааператыўны рух дапамог пераадолець голад і разбурэнне пасля грамадзянскай вайны, садзейнічаў аздараўленню фінансавай і эканамічнай сістэмы.

Абапіраючыся на калектывісцкую традыцыю ўсходнеславянскай вёскі (сельская абшчына, талака і г. д.), зыходзячы з навуковых





абгрунтаванняў неабходнасці кааперавання сельскагаспадарчай вытворчасці і практычнага вопыту першых гадоў калектыўнага гаспадарання, Камуністычная партыя і Савецкая дзяржава распрацавалі палітыку калектывізацыі сельскай гаспадаркі. XV з'езд ВКП(б) у снежні 1927 г. прыняў курс на правядзенне ў жыццё гэтай палітыкі.

**Калектывізацыя сельскай гаспадаркі** – палітыка Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы, якая была накіравана на аб'яднанне дробных сялянскіх гаспадарак у буйныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, выкарыстанне на вёсцы дасягненняў навукі і тэхнікі, павышэнне прадукцыйнасці працы і эфектыўнасці аграрнага сектара эканомікі, забеспячэнне насельніцтва прадуктамі харчавання, а прамысловасці – сельскагаспадарчай сыравінай.

Першым пяцігадовым планам развіцця народнай гаспадаркі СССР прадугледжвалася да 1933 г. ахапіць усімі формамі кааперацыі каля 85 % сялянскіх гаспадарак, і толькі 18–20 % з іх меркавалася арганізаваць у калгасы. Гэта быў напружаны, але разам з тым рэальны, збалансаваны план, у аснове якога ляжалі распрацаваныя ў апошнія гады жыцця У. Леніна прынцыпы нэпа і кааператыўнага развіцця.

Аднак да таго часу пачаў фарміравацца, а затым атрымаў імклівае развіццё другі варыянт стратэгіі сацыялістычнага будаўніцтва. І. Сталін і яго акружэнне ленінскі прынцып гарманічнага развіцця прамысловасці і сельскай гаспадаркі замянілі патрабаваннем хуткіх тэмпаў індустрыялізацыі на аснове перакачкі сродкаў для яе развіцця з сельскай гаспадаркі. Быў узяты курс на паскораную калектывізацыю ў яе вышэйшых формах. Гэтым імкнуліся вырашыць адразу дзве задачы: у кароткія тэрміны правесці калектывізацыю вёскі і ўзяць у яе сродкі для патрэб індустрыялізацыі і абароны краіны.

Пачатак рэалізацыі такога курсу паклаў хлебанарыхтоўчы крызіс, які ўзнік у краіне зімой 1927–1928 гг. У сувязі з недаборам збожжавых, скарачэннем дзяржаўных нарыхтовак хлеба стварылася пагроза невыканання планаў індустрыяльнага будаўніцтва, бо пастаўкі прамысловага абсталявання ў краіну залежалі ад экспарту хлеба. Акрамя таго, у гарадах пачаліся перабоі ў забеспячэнні прадуктамі, давялося ўвесці картачную сістэму. Узмацнілася сацыяльная напружанасць у грамадстве.

У такіх умовах сталінская група, якая ў гэты час дабілася большасці ў палітычным кіраўніцтве, пачала адыход ад новай эканамічнай палітыкі, яе дэмантаж і шырокае прымяненне надзвычайных мер. Закрываліся рынкі, уводзілася абкладанне сялянскіх гаспадарак дадатковымі падаткамі, скарачалася крэдытаванне і забеспячэнне заможных гаспадарак, праводзіліся арышты ў адміністрацыйным парадку і прыцягненне да суда за захаванне лішкаў збожжа. У выніку ў краіне пачалося скарачэнне пасяўных плошчаў, памяншэнне памераў гаспадарак.

Партыйна-дзяржаўнае кіраўніцтва краіны мела разыходжанні ў пытаннях выхаду з крызісу і перспектывы сацыялістычнага будаўніцтва.

І. Сталін разлічваў на злом супраціўлення сялянства шляхам самага бязлітаснага знішчэння яго заможнай часткі – кулацтва. М. Бухарын, А. Рыкаў, М. Томскі бачылі выхад з крызісу ў адмове ад надзвычайных мер, павышэнні закупачных цэн на хлеб, развіцці гандлёва-крэдытных форм кааперацыі. Бухарынская альтэрнатыва была накіравана на захаванне і ўдасканаленне эканамічнага механізма, які склаўся ў гады нэпа. У лістападзе 1929 г. М. Бухарын і яго аднадумцы былі адхілены ад палітычнага кіраўніцтва, іх погляды кваліфікаваліся як праява "правага ўхілу" ў партыі, як уступка кулацтву.

У Беларусі ў падтрыманні палітыкі "правага ўхілу" быў абвінавачаны нарком земляробства Дз. Прышчэпаў, які па сваіх поглядах прымыкаў да групы М. Бухарына, а ў практычнай рабоце карыстаўся навуковымі рэкамендацыямі сёння сусветна вядомага тэарэтыка кааператыўнага руху прафесара А. Чаянава. Дз. Прышчэпава, а таксама 29 іншых "правых апартуністаў" з ліку кіруючых работнікаў заклеймавалі як памагатых контррэвалюцыі ў справе рэстаўрацыі капіталізму ў Беларусі, выключылі з партыі і рэпрэсіравалі. Ярлык "правага ўхілу" і "нацыянал-дэмакратызму" быў прычэплены і на старшыню ЦВК БССР А.Чарвякова, які ў свой час вылучыў лозунг: "Багацей, селянін! Дабывай больш багацця, і чым больш ты будзеш багаты, тым больш багатай будзе наша Савецкая рабоча-сялянская дзяржава!"

Барацьба з "правым ухілам" суправаджалася фарсіраваннем калектывізацыі. Тэарэтычным абгрунтаваннем фарсіраванага правядзення суцэльнай калектывізацыі з'явіўся артыкул Сталіна "Год вялікага пералому", апублікаваны 7 лістапада 1929 г. у газеце "Правда". У артыкуле сцвярджалася, што ў калгасы быццам ужо пайшлі асноўныя, серадняцкія масы насельніцтва, што ў сацыялістычнай перабудове гаспадаркі ўжо атрымана "рашаючая перамога", хаця на самой справе ў калгасах тады налічвалася 6–7 % сялянскіх гаспадарак.

Перамагла палітычная лінія на суцэльную калектывізацыю. У 1929 г. выбар шляху завяршыўся. Былі адкінуты ідэі М. Бухарына, устаноўкі першага пяцігадовага плана, заданні якога сталі адвольна пераглядацца ў бок павелічэння.

**Ажыццяўленне палітыкі калектывізацыі: здабыткі і пралікі.** У канцы 20 – пачатку 30-х гадоў перабудова вёскі згубіла сувязь з паступовым кааперываннем на аснове добраахвотнага аб'яднання гаспадарак і ператварылася ў прымусовую калектывізацыю. Пачалася гонка за "тэмпамі". Масавая калектывізацыя выклікала супраціўленне кулацтва, якое па сваёй класавай прыродзе імкнулася процідзейнічаць перабудове вёскі на сацыялістычных пачатках, не спыняючыся часам перад тэрорам супраць калгасных актывістаў. У гэтых умовах партыя перайшла ад палітыкі абмежавання і выцяснення кулацтва да палітыкі ліквідацыі кулацтва як класа на аснове суцэльнай калектывізацыі.





5 студзеня 1930 г. ЦК ВКП(б) прыняў пастанову "Аб тэмпе калектывізацыі і мерах дапамогі дзяржавы калгаснаму будаўніцтву", у якой тэрміны завяршэння калектывізацыі былі рэзка скарочаны, умацавана новая палітыка ў адносінах да кулака, пры вызначэнні форм калгаснага будаўніцтва арцель характарызавалася як ступень, "пераходная да камуны". На месцах стараліся не адстаць ад цэнтра. На Беларусі, паводле названай пастановы ЦК ВКП(б), меркавалася завяршыць калектывізацыю да 1933 г. Аднак першы сакратар ЦК КП(б)Б К. Гей патрабаваў завяршыць суцэльную калектывізацыю сельскай гаспадаркі рэспублікі да 1931 г. У хуткім часе і гэтыя тэрміны былі перагледжаны: у лютым 1930 г. прынята рашэнне абагуліць 70–80 % сялянскіх гаспадарак, г. зн. завяршыць поўную калектывізацыю за паўгода.

Разгарнулася кампанія па суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як класа, якая праходзіла ў абставінах нястрымнага фарсіравання тэмпаў і грубага адміністрацыйнага націску, адшукання і выкрыцця "ворагаў", прымусу і раскулачвання серадняка, закрыцця цэркваў, рынкаў. Для паскарэння тэмпаў арганізацыі калгасаў у вёску былі накіраваны ўпаўнаважаныя камуністы і рабочыя-дваццаціпяцітысячнікі, у тым ліку прысланыя з прамысловых цэнтраў РСФСР. Частка з іх, не ведаючы вёскі і патрэб сялян, чыніла самавольствы.

Растлумачальная і арганізацыйная работа ў масах падмянялася націскам, пагрозамі, дэмагагічнымі абяцаннямі. Нярэдка сялян прымусова запісвалі ў калгасы. Грубейшыя парушэнні дапускаліся пры абагуленні сродкаў вытворчасці. У арцелях дабіваліся максімальнага абагулення маёмасці, уключаючы адзіную карову, дробную жывёлу, птушку. Таварыствы па сумеснай апрацоўцы зямлі ў адміністрацыйным парадку пераводзіліся на статуты арцелей і камун.

Раскулачваць пачалі не толькі кулакоў, але і сераднякоў, якія не хацелі ўступаць у калгасы. Усё нажытае селянінам, уключаючы жыллёвыя пабудовы, пры раскулачванні пераходзіла ва ўласнасць калгасаў. У выніку да лета 1930 г. у краіне канфіскавана і перададзена маёмасці калгасам на 400 млн рублёў, што склала 23 % ад кошту непадзельных фондаў калгасаў. Ужо да мая 1930 г. на Беларусі было раскулачана 15,6 тыс. гаспадарак. Як адзначыў на XIII з'ездзе КП(б)Б (май 1930 г.) К. Гей, 2393 гаспадаркі, ці іх сёмая частка, раскулачаны беспадстаўна.

Прымусовыя меры давалі свае вынікі. Калі ў студзені 1930 г. у калгасы ўступіла 20,9 % сялянскіх двароў, то да сакавіка таго ж года – 58 %. Галоўным вынікам насілля пры стварэнні калгасаў стала масавая незадаволенасць палітыкай партыі, адкрыты пратэст сялян, аж да ўзброеных выступленняў. Толькі ў Беларусі, паводле няпоўных даных, у 1930 г. адбылося больш за 500 сялянскіх выступленняў. У краіне склалася надзвычай вострая палітычная сітуацыя.

18. Зак. 5565

Рэзкае абвастрэнне барацьбы ў вёсцы прымусіла кіраўніцтва краіны і рэспублікі прыняць меры па выпраўленні становішча, адступіць ад грубых метадаў абагулення сялянскіх гаспадарак. У сакавіку 1930 г. ЦК ВКП(б) прыняў спецыяльную пастанову “Аб барацьбе са скрыўленнямі партыйнай лініі ў калгасным руху”. Перагібы і скажэнні былі асуджаны. У пастанове падкрэслівалася, што гэтыя памылкі “з’яўляюцца цяпер асноўным тормазам далейшага росту калгаснага руху і прамой дапамогай нашым класавым ворагам”. Незаконна асуджаных і раскулачаных сераднякоў пачалі рэабілітаваць. Створаныя пад прымусам калгасы распадаліся. Калі ў сакавіку 1930 г. калгасы аб’ядноўвалі 58 % сялянскіх гаспадарак, дык у чэрвені – 11,1 %.

Адступленне ў сакавіку 1930 г. было вымушаным ходам, які аслабіў напружанасць у вёсцы і даў магчымасць весці калгаснае будаўніцтва толькі на добраахвотнай аснове, засяродзіць увагу на арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў. Аднак увосень пачалася новая хваля калектывізацыі.

Нягледзячы на відавочнасць дапушчаных пралікаў і памылак, XIII з’езд Кампартыі Беларусі (30 мая – 12 чэрвеня 1930 г.) прызнаў палітычную і арганізацыйна-практычную работу ЦК КП(б)Б правільнай і даў устаноўку на аднаўленне і фарсіраванае развіццё калгасаў. Намячалася да 1931 г. ахапіць нізавой сельскагаспадарчай кааперацыяй не менш за 85 % бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. У верасні 1931 г. Бюро ЦК КП(б)Б прыняло рашэнне аб завяршэнні да вясны 1932 г. суцэльнай калектывізацыі ў рэспубліцы.

Ізноў аднавіліся “штурм”, пагоня за “тэмпамі”, прымусовае абагуленне, ганебная практыка раскулачвання. Гэты план суправаджаўся яшчэ большымі маштабамі раскулачвання сялянства, чым зімой 1929–1930 гг. Пакуль цяжка вызначыць дакладную колькасць усіх раскулачаных гаспадарак і пацярпеўшых пры гэтым людзей. На жаль, некаторыя аўтары публікацый імкнуцца назваць як мага большыя лічбы, не клапоцячыся аб іх сапраўднасці.

Кіраўніцтва раскулачваннем вёскі ў маштабах усёй Савецкай краіны ажыццяўляла створаная ў 1931 г. спецыяльная камісія на чале з намеснікам старшыні СНК СССР А. Андрэевым. Галоўным зместам яе работы было размеркаванне т. зв. спецперасяленцаў па краіне на падставе заявак розных гаспадарчых арганізацый. Неўзабаве ўсе пытанні “ўладкавання” раскулачаных перайшлі да органаў АДПУ.

*Размяшчэнне сельскагаспадарчай вытворчасці БССР (на пачатак другой пяцігодкі)*

УМОЎНЫЯ ЗНАКІ

Раёны з пераважным распаўсюджаннем


ільну, малочна-мясной жывёлагадоўлі


канапель, мяса-малочнай жывёлагадоўлі


бульбы, ільну, буйной рагатай жывёлы, свінагадоўлі


Прыгарадныя раёны (малочна-мясная жывёлагадоўля, бульбаводства, агародніцтва, садоўніцтва)

Ад вёскі на розныя дзяржаўныя патрэбы ўсё больш адрываліся чалавечыя і матэрыяльныя рэсурсы.

Метады, якімі ажыццяўлялася калектывізацыя вёскі, абагуленне сялянскіх гаспадарак прывялі да таго, што вясной 1932 г. замест суцэльнай калектывізацыі адбыўся чарговы масавы выхад сялян з калгасаў. Толькі за 2–3 месяцы распаліся 1002 калгасы, з якіх выйшла больш за 55 тыс. сялянскіх гаспадарак.

У канцы першай пяцігодкі ў рэспубліцы налічвалася прыкладна 9 тыс. калгасаў, якія аб'ядноўвалі 43 % сялянскіх гаспадарак. Па краіне была ў асноўным завершана калектывізацыя: 200 тыс. калгасаў ахапілі 60 % сялянскіх гаспадарак.

Фарсіраваная, прымусовая калектывізацыя, раскулачванне часткі сялянства адмоўна адбіліся на вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі. У 1932 г. агульны аб'ём вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі ў рэспубліцы знізіўся ў параўнанні з 1928 г. на 26 %, а вытворчасць прадукцыі жывёлагадоўлі ў цэлым па краіне ўпала да 65 % ад узроўню 1913 г. Разам з тым у краіне рэзка ўзраслі дзяржаўныя нарыхтоўкі прадукцыі. Па збожжавых яны павялічыліся ў 1932 г. у параўнанні з 1930 г. на 32,8 %, хаця вытворчасць прадукцыі скарацілася за гэты час на 140 млн ц. І ў гэтыя ж гады ў інтарэсах індустрыялізацыі працягваўся экспарт хлеба. Прычым ва ўмовах эканамічнага крызісу ў краінах Еўропы хлеб прадаваўся фактычна за бясцэнак.

У выніку дапушчаных памылак у эканамічнай палітыцы ў 1932–1933 гг. краіну ахапіў масавы голад, які забраў жыцці многіх людзей. Голад гэтага перыяду быў больш страшным, чым у 1921 г., калі яго не замоўчвалі і галадаючым аказвалася дапамога. У 1932–1933 гг. ніякай работы па арганізацыі патрэбнай дапамогі ні ў краіне, ні за мяжой не праводзілася. Больш таго, сам факт масавага голаду адмаўляўся.

Знаходзячыся ў безвыходным становішчы, людзі, асабліва жанчыны, спрабавалі зразаць на калгасных палетках каласкі, вынесці зерне ў кішэнях, за пазухай. Аднак 7 жніўня 1932 г. быў выдадзены Закон аб ахове сацыялістычнай уласнасці ("закон аб пяці каласках", як называлі яго ў народзе), паводле якога за такія крадзяжы ўводзілася вышэйшая мера пакарання – расстрэл. Пры змякчаючых абставінах ён замяняўся пазбаўленнем волі на тэрмін не ніжэй за дзесяць гадоў з канфіскацыяй усёй маёмасці. Тое, што мэтай увядзення закона быў клопат аб зберажэнні дзяржаўнага дабра і што хлеб ішоў на патрэбы індустрыялізацыі, не можа служыць апраўданнем палітыкі, якая прывяла да масавага голаду і гібелі людзей. Такую палітыку можна ацаніць як цяжкае злачынства супраць савецкага народа.

Да канца 30-х гадоў калектывізацыя ў Беларусі была завершана, кулацтва як клас ліквідавана. У 1937 г. калгасы аб'ядноўвалі 680 тыс. сялянскіх двароў, ці 87,5 % іх агульнай колькасці. Абагуленыя палеткі склалі 96% усёй пасяўной плошчы рэспублікі. Пасля завяршэння







*Сяўба ў калгасе, вёска Грын Мінскай акругі*

калектывізацыі і прыняцця Канстытуцыі СССР 1936 г. былым кулакам ствараліся магчымасці стаць раўнапраўнымі працаўнікамі грамадства, давалася права ўдзельнічаць у грамадскім і палітычным жыцці краіны.

У другой палове 30-х гадоў кіраўніцтва краіны прымала захады для ўмацавання калгасаў у арганізацыйна-гаспадарчых адносінах.

Наладжвалася кіраванне калгасна-саўгаснай вытворчасцю, умацоўвалася дысцыпліна працы, фарміраваліся брыгады і звенні. Амаль у кожным калгасе былі створаны жывёлагадоўчыя фермы.

Буйная калгасна-саўгасная вытворчасць давала магчымасці выкарыстання трактароў, камбайнаў, іншай сельскагаспадарчай тэхнікі. Былое падворнае сялянскае землекарыстанне, цераспалосіца, межы з іх крушнямі і хмызняком, забалочанасць многіх зямельных участкаў, наяўнасць на палях валуноў выключалі такую магчымасць. Калі ў 1930 г. на Беларусі дзейнічала адна (Койданаўская) МТС, то ў 1937 г. – 200. Агульная колькасць трактароў дасягнула 8,2 тыс. штук. У 1932 г. на калгасных палях Беларусі з'явіліся 4 першыя камбайны, у 1936 г. іх налічвалася 158. За 1937 г. іх колькасць вырасла яшчэ ў 4 разы. Да канца 30-х гадоў у калгасах рэспублікі працавалі дзесяткі тысяч малатарняў, жняярак, ільноцерабілак і іншых машын.

Рыхтаваліся кваліфікаваныя кадры для калгаснай вытворчасці. Толькі за другую пяцігодку вышэйшыя навучальныя ўстановы і тэхнікумы Беларусі падрыхтавалі для вёскі 4219 аграномаў, ветэрынараў і заатэхнікаў. Варта адзначыць, што выхадцы з калгаснай вёскі

19. Зак. 5565

станавіліся спецыялістамі і ў іншых галінах гаспадаркі і культуры. Вёска Крывічы Старобінскага раёна, напрыклад, да 1935 г. дала 13 аграномаў, 15 інжынераў, 5 урачоў, 114 настаўнікаў, 18 афіцэраў Чырвонай Арміі.

Дзякуючы выкарыстанню дасягненняў навукі і тэхнікі паступова ператвараліся ў нівы колішнія пустэчы, не ўключаныя ў гаспадарчы абарот зямлі. За гады перадваенных пяцігодак было меліяравана 270 тыс. га забалочаных зямель.

Да канца 30-х гадоў адбылося некаторае ажыўленне сельскагаспадарчай вытворчасці. Аб'ём валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі, які рэзка паменшыўся ў 1929–1933 гг., да 1940 г. узрос у параўнанні з 1913 г. на 1,7 %. Павялічыліся ўраджаі. У 1937 г. калгасы рэспублікі сабралі ў сярэднім з 1 га 6,4 ц зерневых супраць 6,3 ц у 1933 г., бульбы адпаведна – 87,3 і 63,5 ц, ільноволакна –1,6 і 1,1 ц. Аднавілася пагалоўе жывёлы, якое за гады першай пяцігодкі скарацілася больш чым удвая.

Аднак далейшае ўмацаванне калгасаў суправаджалася адступленнямі ад законнасці, парушэннямі калгаснай дэмакратыі. З 1933 г. палітаддзелы пры МТС "выкрылі" і выключылі з калгасаў 2700 "кулакоў-шкоднікаў", знялі з работы за "варожую дзейнасць" 1544 работнікі. У жніўні – верасні 1934 г. пачалося наступленне на аднаасобнікаў. Для іх у параўнанні з калгасамі былі значна павялічаны нормы абавязковых паставак прадукцыі і ўведзены аднаразовы падатак. У 1938–1939 гг. праведзена ліквідацыя хутароў. На 1 ліпеня 1939 г. аказаліся сселенымі 103,6 тыс. хутароў і адрубоў. Ліквідацыя хутароў працягвалася і пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР, да самага пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

У ходзе суцэльнай калектывізацыі былі распушчаны зямельныя таварыствы, сялянскія кааператыўныя аб'яднанні. Не скліканіся сялянскія сходы, зніклі іншыя нефармальныя арганізацыі ў вёсцы. Усе яны былі заменены сходам калгаснікаў, але і правы агульных калгасных сходаў парушаліся, перавагу атрымлівала асабістае кіраванне старшыні, які падмінаў калгасную дэмакратыю.

Складвалася сістэма дырэктыўнага планавання і адміністрацыйна-бюракратычнага кіравання калгасамі з боку партыйна-дзяржаўнага апарату. Нормай стала частая змена кіраўнікоў гаспадарак. Толькі ў 1936 г. у рэспубліцы было заменена 1500 старшынь калгасаў. Аб'яднаныя ў калгасы сяляне былі пазбаўлены права самастойнага рашэння гаспадарчых пытанняў: арганізоўваць кіраванне справамі калгаса, размяркоўваць і рэалізоўваць прадукцыю, вызначаць структуру і нават тэхналогію вытворчасці. "Зверху" гаспадаркам спускаліся заданні, што, дзе, калі сеяць, гадаваць, здаваць. Нават такія паняцці рыначнай эканомікі, як "продаж", "пакупка", зніклі і былі заменены тэрмінамі "здача", "пастаўка".

Пачынаючы з 1933 г. калгасы выконвалі абавязковыя пастаўкі дзяржаве прадукцыі па цэнах, якія былі ў шмат разоў ніжэйшыя за рыначныя. Тэхніка канцэнтравалася ў МТС, і плацілі калгасы за яе работу прадукцыяй вытворчасці. Аплата ж працы калгаснікаў праводзілася па рэштkавым прынцыпе – пасля выканання абавязковых дзяржпаставак, якія часта паглыналі ўсе даходы. Акрамя таго, увядзенне ў 1933 г. пашпартнай сістэмы для ўсяго насельніцтва, за выключэннем калгаснікаў (не мелі пашпартоў да 1960 г.), пазбаўляла іх магчымасці свабоднага перамяшчэння па краіне, а галоўнае – выбару працы. Юрыдычна замацаваная за калгасам праца калгасніка прыняла прымусовы характар.

Бюракратычна-камандная сістэма кіравання калгасамі, якая склалася ў 20–30-я гады, нягледзячы на істотныя змены 50–80-х гадоў, у многім захавалася да нашых дзён. Метады, якімі ажыццяўлялася абагуленне сельскай гаспадаркі, перагібы пры правядзенні суцэльнай калектывізацыі не могуць быць апраўданы. Разам з тым наўрад ці правільна на аснове пралікаў і памылак, дапушчаных пры калектывізацыі ў 20–30-я гады, адмаўляць неабходнасць сацыялістычнага пераўтварэння сельскай гаспадаркі, рабіць выснову аб неэфектыўнасці калгаснага ладу ўвогуле.

У прыродзе калектыўнага гаспадарання закладзены вялікія патэнцыяльныя магчымасці, якія могуць поўнасцю раскрыцца і даць станоўчыя вынікі пры правільных эканамічных адносінах. Размова павінна ісці не аб роспуску калгасаў, а аб неабходнасці дыктуемых жыццём змен вытворчых адносін, аб раўнапраўі форм уласнасці і разнастайнасці метадаў гаспадарання на зямлі. І наш, і замежны вопыт сведчыць, што буйная калектыўная гаспадарка стварае спрыяльныя магчымасці тады, калі працоўны калектыў на справе з'яўляецца паўнапраўным гаспадаром свайго прадпрыемства, дзейнічае гаспадарчы разлік, выкарыстоўваюцца розныя метады гаспадарання.

Стварэнне эфектыўнага аграрнага сектара эканомікі немагчыма без дапамогі і падтрымкі дзяржавы. Гістарычны вопыт паказвае, што нізкая эканамічная эфектыўнасць калгасна-саўгаснай вытворчасці ў СССР і БССР у 20–30-я гады паміж іншым была звязана з недастатковымі фінансавымі і матэрыяльнымі рэсурсамі краіны, немагчымасцю аказаць дзейсную дзяржаўную дапамогу аграрнаму сектару эканомікі. Большая частка фінансавых сродкаў і матэрыяльных рэсурсаў, лепшыя кадры спецыялістаў дзяржава накіроўвала ў той час для правядзення індустрыялізацыі краіны і ўмацавання абараназдольнасці ў сувязі з ваеннай пагрозай фашызму. Сельская гаспадарка фінансавалася па рэштkавым прынцыпе. Іншая справа – 70–80-я гады, калі вырасла вытворча-эканамічная і матэрыяльна-фінансавая магутнасць краіны, калі дзяржава атрымала магчымасць фінансаваць аграрны сектар эканомікі на ўзроўні сучасных патрабаванняў. Сельская гаспадарка Беларусі ў гэтыя гады па вытворчасці прадукцыі на душу насельніцтва стала ў шэраг з сельскай гаспадаркай развітых дзяржаў свету. Гэта яшчэ адзін аргумент на карысць калектыўных форм гаспадарання, буйных сельскагаспадарчых прадпрыемстваў – калгасаў і саўгасаў.

# ГЛАВА 2

# ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ

## § 1. Асноўныя рысы беларускага савецкага грамадства

У міжваенны перыяд (20—30-я гады) грамадска-палітычнае жыццё на Беларусі, як і ў Савецкай краіне ў цэлым, было поўным супярэчнасцей, цесна звязаным з сацыяльна-эканамічнымі працэсамі, што адбываліся ў гэтыя гады. У сваю чаргу грамадска-палітычнае жыццё ў значнай ступені вызначала стан усяго грамадства, бо ва ўмовах пабудовы сацыялізму перавага аддавалася ідэалагічным, палітычным падыходам да кіраўніцтва як эканамічным, так і сацыяльным бокам жыцця.

Існаванне розных форм уласнасці ў народнай гаспадарцы патрабавала і адпаведнай дэмакратызацыі грамадска-палітычнага жыцця. Гэта праявілася, у прыватнасці, у пашырэнні кампетэнцыі Саветаў як органаў улады. Пачынаючы з 1924 г. адбывалася ажыўленне дзейнасці Саветаў, пэўная іх дэмакратызацыя. Яны ўсё часцей прыцягвалі да ўдзелу ў сваіх пасяджэннях радавых працаўнікоў. Узніклі местачковыя Саветы. Было вырашана пытанне аб раянаванні рэспублікі, што дазволіла наблізіць дзяржаўны апарат да насельніцтва і забяспечыць далучэнне рабочых і сялян да яго дзейнасці. Былі прыняты новыя палажэнні аб з'ездах мясцовых Саветаў і выканкомаў гэтых Саветаў. Палажэнні пашыралі правы мясцовых органаў улады ў пытаннях фарміравання і размеркавання мясцовага бюджэту, развіцця гаспадаркі і культуры, умацавання правапарадку і законнасці. Рабочымі органамі Саветаў станавіліся секцыі, якія ствараліся па галінах народнай гаспадаркі, уключалі як дэпутатаў з правам рашаючага голасу, так і не членаў Саветаў. У 1926 г. у рабоце секцый удзельнічала 19,2 тыс. чалавек, а ўвесь актыў Саветаў Беларусі налічваў, паводле афіцыйных звестак, 152 тыс. чалавек.

На падставе Канстытуцыі БССР, якая была прынята 11 красавіка 1927 г., у снежні гэтага ж года Прэзідыум ЦВК і СНК БССР пастановай "Аб рэарганізацыі і скарачэнні савецкага апарату і аб пашырэнні правоў мясцовай улады" перадалі некаторыя паўнамоцтвы цэнтральнага апарату аддзелам і інспекцыям акруговых выканаўчых камітэтаў. У сваю чаргу, ад акруговых выканкомаў асобныя функцыі кіравання перайшлі ў кампетэнцыю сельскіх, местачковых, раённых і гарадскіх Саветаў, г. зн. да тых органаў, якія мелі непасрэдныя сувязі з насельніцтвам.

У 1927 г. у Беларусі было 8 акруговых Саветаў (Аршанскі, Бабруйскі, Віцебскі, Гомельскі, Магілёўскі, Мазырскі, Мінскі,





Полацкі), 101 раённы, 1470 сельскіх, 52 местачковыя і 29 гарадскіх Саветаў, у тым ліку 48 нацыянальных Саветаў. Дэпутатамі мясцовых Саветаў БССР былі больш за 30 тыс. чалавек. Аналіз складу Саветаў сведчыць аб тым, што ў сярэдзіне 20-х гадоў Кампартыя бальшавікоў Беларусі (КП(б)Б) хоць і аказвала значны ўплыў на дзейнасць Саветаў, але не мела яшчэ пераважнай большасці ў іх складзе, асабліва ў вёсцы. У 1925 г. у сельскіх Саветах камуністы разам з камсамольцамі складалі толькі 12,7 %, у 1926 г.– 18,4, у 1927 г.– 21,4 %. У складзе ж гарадскіх Саветаў у 1926 г. іх было 47,2 %, а ў 1927 г. ужо 58,7 %.

У беларускім грамадстве ў першай палове 20-х гадоў магчыма вызначыць існаванне і барацьбу дзвюх тэндэнцый. Адна з іх была накіравана на пэўную дэмакратызацыю ў палітычных адносінах, што адпавядала мэтам і ўмовам нэпа, другая – на працяг палітыкі ваеннага камунізму, падтрыманне тэндэнцыі да манапалізацыі ўсяго палітычнага жыцця КП(б)Б, непрымірымых адносін партыі камуністаў да іншых палітычных партый, сілавых метадаў вырашэння супярэчнасцей.

Пасля вызвалення Мінска ад польскіх акупантаў кампартыя яшчэ прызнавала магчымым дапушчэнне левых партый нацыянальнай дэмакратыі, якія знаходзіліся на платформе савецкай улады, да адраджэння беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці, да ўдзелу ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве.

Уплывовай палітычнай партыяй, якая выступала ў абарону інтарэсаў сялянства, з'яўлялася Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў або скарочана БПС-Р). Улетку 1920 г. яна налічвала больш за 20 тыс. членаў, у тым ліку 5 тыс. партыйных функцыянераў. Пад яе кантролем дзейнічаў саюз моладзі, у якім было 10 тыс. чалавек. Аднак супрацоўніцтва БПС-Р з КП(б)Б, у складзе якой на момант III з'езда партыі ў лістападзе 1920 г. было толькі 1,7 тыс. членаў, не атрымлівалася. Адмовіўшыся падпісаць "Дэкларацыю аб абвяшчэнні незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь", якая не адпавядала яе палітычным поглядам, БПС-Р аб'явіла сябе палітычнай апазіцыяй. Адрозненне пазіцыі беларускіх эсэраў ад пазіцыі КП(б)Б заключалася ў пытаннях, звязаных з характарам улады, суверэнітэтам БССР і пашырэннем тэрыторыі рэспублікі да этнаграфічных межаў. БПС-Р лічыла недапушчальнай дыктатуру рабочага класа на Беларусі і патрабавала ўсталяваць "дыктатуру працоўнага народа".

З гэтага моманту пачалося адкрытае процістаянне дзвюх палітычных партый. Афіцыйныя ўлады Беларусі выкарыстоўвалі сілавыя прыёмы барацьбы супраць партыі эсэраў. У лютым 1921 г. карныя органы арыштавалі 860 актыўных членаў БПС-Р, у тым ліку членаў ЦК і Мінскага губкома партыі эсэраў. Усе арыштаваныя былі інтэрніраваны – перапраўлены ў Заходнюю Беларусь, якая знаходзілася пад уладай Польшчы.

Тыя ж самыя меры былі прыняты да маладзёжных суполак. На пачатку 20-х гадоў на Беларусі дзейнічалі арганізацыі моладзі: "Труд

20. Зак. 5565

и свет" (папярэднік камсамола), Яўкамол (яўрэйскі камсамол), "Юнацкі сіндыкалізм", "Саюз сялянскай моладзі". У Брагіне арганізацыя моладзі "Альтруісты" мела на мэце вывучэнне самабытнай беларускай культуры, абагульненне і распаўсюджванне вопыту хутарскога вядзення гаспадаркі. Але з першых дзён існавання камсамол Беларусі (першы Усебеларускі з'езд адбыўся ў верасні 1920 г., прысутнічала 40 дэлегатаў ад 3 тыс. чалавек) супрацьпастаўляў сябе іншым маладзёжным арганізацыям, абвінавачваў іх у нацыяналізме, контррэвалюцыйнай дзейнасці, імкнуўся да манапольнага ўплыву на моладзь.

У канцы 1922 г. паскорыўся працэс аб'яднання савецкіх рэспублік, у якім актыўны ўдзел брала БССР. IV Усебеларускі з'езд Саветаў у снежні 1922 г. адобрыў ідэю стварэння Саюза ССР, абраў паўнамоцную дэлегацыю для паездкі ў Маскву.

На I Усесаюзным з'ездзе Саветаў 30 снежня 1922 г. 25 прадстаўнікоў БССР разам з дэлегацыямі РСФСР, УССР і ЗСФСР падпісалі дэкларацыю і дагавор аб стварэнні СССР. За кожнай рэспублікай захоўваліся права свабоднага выхаду, роўныя правы і ўмовы развіцця, самастойнасць у ажыццяўленні дзяржаўнай палітыкі. У склад ЦВК СССР былі абраны і прадстаўнікі Беларусі. А.Р. Чарвякоў стаў адным з чатырох старшынь ЦВК СССР.

Стварэнне СССР дало магчымасць аб'яднаць намаганні гістарычна звязаных паміж сабой народаў, спрыяць іх хуткаму эканамічнаму, сацыяльнаму і культурнаму развіццю. Аднак з канца 20-х гадоў у СССР перавага стала ўсё больш надавацца цэнтралізму, скараціліся правы і магчымасці рэспублік.

Значнай палітычнай падзеяй, якую можна разглядаць як пэўны крок у накірунку да дэмакратызацыі, з'явілася амністыя ў сувязі з трэцяй гадавінай вызвалення Мінска ад польскіх інтэрвентаў. 11 ліпеня 1923 г. яна была абвешчана ўсім членам беларускіх нацыянальных арганізацый, палітычным і культурным дзеячам, удзельнікам антысавецкіх беларускіх фарміраванняў, членам партыі беларускіх эсэраў, беларускім сялянам і выхадцам з працоўнага асяроддзя, якія ў свой час далучыліся да контррэвалюцыйных арганізацый, а затым абвясцілі аб лаяльных адносінах да савецкай улады.

Амністыя мела значны ўплыў на палітычнае жыццё, спрыяла росту аўтарытэту Кампартыі Беларусі і даверу да яе. У чэрвені 1924 г. у Мінску правяла свой надзвычайны з'езд партыя беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў, на якім яна заявіла аб самароспуску і заклікала ўсіх сваіх членаў да спынення ўсякай варожай дзейнасці супраць савецкай улады на Беларусі. Самароспуск БПС-Р, як і іншых нацыянальна-дэмакратычных партый, прывёў фактычна да ліквідацыі на Беларусі арганізаванай палітычнай апазіцыі.

Абвясціўшы амністыю, тагачасныя кіраўнікі БССР прадэманстравалі пэўнае імкненне да кампрамісу з іншымі палітычнымі плынямі і дэмакратычнай часткай грамадства. Але гэта пазіцыя, на жаль, выклікала





незадаволенасць кіраўніцтва ВКП(б) і з'явілася ў далейшым падставай да палітычных абвінавачванняў у адрас кіраўніцтва Савецкай Беларусі ў супрацоўніцтве з ворагамі народа, нацдэмамі і г. д.

У сярэдзіне 20-х гадоў грамадска-палітычнае жыццё было зведзена да дзейнасці даволі вузкага кола арганізацый. Кампартыя (бальшавікоў) Беларусі імкнулася ўсталяваць і ўмацаваць свой поўны і бясспрэчны кантроль як над складам іх кіруючых органаў (напрыклад, у 1928 г. больш за 77 % сакратароў фабрычна-заводскіх ячэек ЛКСМБ былі членамі партыі), так і над усёй практычнай дзейнасцю гэтых арганізацый. КП(б)Б старалася ўцягнуць як мага больш насельніцтва ў дзеючыя пад яе кантролем арганізацыі. У камсамоле ў 1925 г. было ўжо 37,7 тыс. чалавек, у складзе прафсаюзаў у 1926 г. – 149 тыс., у 1928 г. – 388 тыс., на пачатку 1937 г. – больш за 510 тыс. чалавек.

З другой паловы 20-х гадоў узмацнілася дырэктыўная сістэма кіравання не толькі эканомікай, але і іншымі сферамі грамадства, узрасла роля партыйна-дзяржаўнага апарату. Гэта адмоўна адбілася перш за ўсё на вытворчай дэмакратыі. Пытанні арганізацыі вытворчасці, якія раней ставіліся на сходах рабочых або вытворчых нарадах, цяпер станавіліся справай вузкага кола асоб. Сходы склікаліся галоўным чынам для перадачы ўказанняў і інфармацыі, падтрымкі заклікаў, з нагоды тых ці іншых дасягненняў у будаўніцтве сацыялізму, а таксама для крытыкі "ворагаў народа". У калгасах любыя пытанні за ўсіх вырашала праўленне, а часцей за ўсё кіраваў старшыня, які з'яўляўся, як правіла, безадмоўным выканаўцам рашэнняў райкомаў, выканкомаў і іншых устаноў.

Разам з пераходам да дырэктыўнай эканомікі, згортваннем, а затым і адмовай ад нэпа, наступам сацыялізму па ўсяму фронту разгарнуўся працэс пераўтварэння палітычнага рэжыму дэмакратычнага цэнтралізму, які пераважаў у пачатку 20-х гадоў ( але, заўважым, ужо і тады з ухілам да цэнтралізму), у рэжым аўтарытарнага цэнтралізму. У пачатку 30-х гадоў у беларускім савецкім грамадстве былі ўсе рысы таталітарнага палітычнага рэжыму.

Пераход да таталітарызму праяўляўся ў далейшым паніжэнні ролі і ўдзелу ў справах грамадства дэмакратычных, прадстаўнічых органаў, поўным іх падпарадкаванні партыйнаму апарату. Саветы ў 30-я гады ўжо толькі стваралі бачнасць улады працоўных. Іх фарміраванне і дзейнасць адбываліся на падставе дырэктыўных указанняў, якія выключалі крытыку партыйна-дзяржаўных органаў, спаборнасць кандыдатур, плюралізм. Гэта датычылася дзейнасці не толькі Саветаў, але і прафсаюзаў, камсамола, якія канчаткова страцілі нават рэшткі самастойнасці. Дзяржава дыктатуры пралетарыяту пераўтваралася ў дзяржаву дыктатуры адной партыі, а дакладней – дыктатуры партыйнага кіраўніцтва і партапарату ВКП(б).

Усталяванне таталітарнага рэжыму, асабістай улады Сталіна праходзіла ва ўмовах жорсткай унутрыпартыйнай барацьбы ў ВКП(б),

праявы якой мелі месца і ў КП(б) Беларусі. У працэсе гэтай барацьбы сама КП(б)Б пацярпела ад усялякіх "чыстак", "выкрыванняў", страціла значную частку сумленных камуністаў, якія спрабавалі супрацьстаяць усталяванню сталінізму. Так, у ходзе "чысткі" 1929 г. з радоў КП(б)Б было выключана 3,7 тыс. чалавек, у 1933 г. у ходзе адпаведнай кампаніі – 9,8 тыс. чалавек. У выніку "чысткі" партыі і абмену партыйных білетаў (1933–1936) колькасць членаў КП(б)Б скарацілася з 42 да 20 тыс. чалавек. У ходзе "чыстак" выключаліся перш-наперш іншадумцы і тыя, хто дапускаў ваганні. Іх замянялі людзьмі, якія былі здольны ўспрымаць, выконваць, праводзіць у жыццё ўказанні цэнтра.

Так у 30-я гады канчаткова сфарміраваліся палітычныя інстытуты беларускага грамадства, яго таталітарны палітычны рэжым.

## § 2. Нацыянальная палітыка. Беларусізацыя

Значнай з'явай у нацыянальных адносінах у 20–30-я гады была палітыка беларусізацыі, якая ў сённяшніх умовах выклікае асаблівую цікавасць не толькі з навуковага погляду на яе як гістарычную з'яву, але і з практычнага боку, таму што многія здабыткі гэтай палітыкі, яе станоўчы вопыт і трагічны лёс маюць і сёння вялікае значэнне для нацыянальна-культурнага развіцця Беларусі. Патрэбна адзначыць, што амаль да сярэдзіны 80-х гадоў афіцыйная гістарычная літаратура амаль нічога не гаварыла аб гэтай з'яве ў нацыянальным развіцці беларускага народа альбо трактавала адмоўна тэндэнцыі нацыянальнага адраджэння на Беларусі ў 20-я гады. Прыклад таму – трэці том "Гісторыі Беларускай ССР" (Мн., 1973), у якім нават няма ўпамінання тэрміна "беларусізацыя", але неаднаразова гаворыцца аб барацьбе супраць буржуазна-нацыяналістычных з'яў у культурным і грамадскім жыцці.

Разглядаючы перадумовы палітыкі беларусізацыі, неабходна мець на ўвазе асаблівасці нацыянальных адносін на Беларусі на пачатку 20-х гадоў і праблемы, якія існавалі ў гэтым пытанні.

*Па-першае,* ішоў працэс тэрытарыяльнага самавызначэння беларускага народа, беларускай нацыі. У 1920–1923 гг. тэрыторыя БССР уключала толькі 6 паветаў былой Мінскай губерні: Бабруйскі, Барысаўскі, Ігуменскі (з 1924 г. – Чэрвеньскі), Мазырскі, Мінскі, Слуцкі (усяго 52 402 кв.км, каля 1,5 млн чалавек насельніцтва). Ужо ў верасні – лістападзе 1921 г. кіруючыя органы Беларусі ўздымалі пытанне аб вяртанні БССР паветаў, у якіх большасць насельніцтва складалі беларусы.

3 сакавіка 1924 г. было заключана пагадненне паміж ЦВК РСФСР і ЦВК БССР аб перадачы (а лепш гаварыць – аб вяртанні) БССР 16 паветаў Віцебскай, Смаленскай і Гомельскай губерняў: Аршанскага, Быхаўскага, Віцебскага, Гарадоцкага, Горацкага, Дрысенскага,





Клімавіцкага, Лепельскага, Магілёўскага, Мсціслаўскага, Полацкага, Рагачоўскага, Сенненскага, Суражскага, Чавускага, Чэрыкаўскага. У снежні 1926 г. Беларускай ССР былі вернуты яшчэ 2 паветы: Гомельскі і Рэчыцкі. У выніку тэрыторыя БССР склала 152 854 кв.км, а колькасць насельніцтва – 5 млн чалавек.

*Па-другое,* важна ўявіць асаблівасці нацыянальнага складу тагачаснага насельніцтва Беларусі. Паводле перапісу 1926 г., беларусы складалі 80,6 %, яўрэі – 8,2, рускія – 7,7, палякі – 2, украінцы – 0,7, латышы – 0,3, літоўцы, немцы і татары – па 0,1 %. Такім чынам, можна гаварыць аб нацыянальна-беларускім характары асноўнай масы насельніцтва Беларусі з улікам наяўнасці шматнацыянальнай меншасці, якая складала амаль пятую частку насельніцтва.

Трэба ўлічваць і тую акалічнасць, што беларусы ў асноўнай масе жылі ў вёсцы. Гарады былі населены значнай часткай рускіх, яўрэяў, якія складалі ў некаторых гарадах і мястэчках да 40–60 % жыхароў. Іншыя нацыянальныя меншасці жылі як у гарадах, так і ў вёсках даволі кампактнымі этнічнымі групамі. Такое рассяленне стварала пэўнае размежаванне паміж рускамоўным горадам і беларускамоўнай вёскай, што ўносіла спецыфіку ў моўную сітуацыю і патрабавала ўлічваць гэта ў нацыянальнай палітыцы.

*Па-трэцяе,* палітыка беларускага адраджэння ва ўмовах савецкай улады пачала ажыццяўляцца раней афіцыйна абвешчанай беларусізацыі перш за ўсё намаганнямі дзеячаў нацыянальна-дэмакратычнага руху. У снежні 1920 г. загадчык беларускага аддзела Наркамата асветы П. Ільючонак звярнуўся да кіраўніцтва Кампартыі Беларусі з запіскай, у якой абгрунтаваў неабходнасць пераводу навучання ў школах на беларускую мову, а таксама арганізацыі школ для нацыянальных меншасцей. Гэта ініцыятыва была падтрымана, і ў снежні 1920 г. у Мінску пачалі дзейнічаць курсы беларусазнаўства па падрыхтоўцы настаўнікаў. Да выкладання на іх сярод іншых быў прыцягнуты Я. Лёсік, не зважаючы на тое, што ён знаходзіўся ў палітычнай апазіцыі да бальшавікоў, а таксама П. Бадунова, вядомая як лідэр беларускіх эсэраў.

У пачатку 1921 г. у Камісарыяце земляробства, які ўзначальваў У. Ігнатоўскі, для супрацоўнікаў былі арганізаваны курсы па вывучэнні беларускай мовы і ўсё справаводства пераведзена на беларускую мову. Па ініцыятыве А. Бурбіса ажыццяўлялася беларусізацыя ў Наркамаце замежных спраў.

Такім чынам, намаганнямі вядомых дзеячаў беларускага нацыянальнага адраджэння закладваліся асновы нацыянальнай палітыкі, якая пазней была аформлена як дзяржаўная палітыка беларусізацыі.

Варта зазначыць, што на пачатку 20-х гадоў савецкія органы і Кампартыя рэспублікі як кіруючая сіла палітычнай сістэмы даволі рэалістычна вызначалі праблемы нацыянальнага адраджэння беларускай нацыі. У распрацоўцы палітычнай лініі па гэтым пытанні прыкметнае месца належыць VII з'езду КП(б) Беларусі (красавік

1923 г.), на якім з дакладам “Нацыянальныя моманты ў дзяржаўным і партыйным будаўніцтве” выступіў старшыня ЦВК і СНК БССР А.Чарвякоў. У чэрвені 1923 г. прынята пастанова Пленума ЦБ КП(б) Беларусі, у якой даволі дакладна быў намечаны комплекс практычных мерапрыемстваў па ажыццяўленні нацыянальнай палітыкі: гаспадарчае адраджэнне краю, тэрытарыяльнае самавызначэнне беларускага народа, развіццё беларускай мовы і пашырэнне сферы яе ўжывання, развіццё нацыянальнай культуры і павышэнне культурнага ўзроўню насельніцтва, вылучэнне і выхаванне кадраў партыйнага, дзяржаўнага і іншага апарату з карэннага насельніцтва, прыцягненне да актыўнага ўдзелу ў нацыянальным адраджэнні дэмакратычных элементаў.

Аб’ектыўны падыход да гісторыі патрабуе прызнаць, што КП(б) Беларусі на працягу 1923–1925 гг. надавала значную ўвагу нацыянальнай палітыцы. На Пленуме ЦБ КП(б)Б у чэрвені 1924 г. разглядалася пытанне аб праграме правядзення нацыянальнай палітыкі ў Беларусі; у 1925 г. пытанні нацыянальнай палітыкі разглядаліся на пленумах ЦК КП(б)Б у студзені, маі, кастрычніку; у рэзалюцыі апошняга быў вызначаны раздзел “Беларусізацыя”. У кастрычніку 1926 г. абмеркавана пытанне “Аб ходзе ажыццяўлення ў рэспубліцы нацыянальнай палітыкі”. Аднак сярод кіраўніцтва рэспублікі былі і праціўнікі беларусізацыі, што стварала цяжкасці.

Пачатак палітыкі беларусізацыі варта аднесці да чэрвеня 1924 г., калі сесія ЦВК БССР прыняла пастанову аб утварэнні спецыяльнай камісіі на чале з А.Хацкевічам па ажыццяўленні нацыянальнай палітыкі. Такія ж камісіі ўтвараліся і пры акруговых выканаўчых камітэтах.

З сярэдзіны 1923 г. і да сярэдзіны 1924 г. працэс беларусізацыі прайшоў першую фазу, на працягу якой вялася ў асноўным яе палітычная і ідэалагічная падрыхтоўка. Была разгорнута тлумачальная работа сярод насельніцтва аб неабходнасці і сэнсе беларусізацыі, распрацаваны погляды на змест гэтай палітыкі, прымаліся дырэктыўныя дакументы, пастановы. Лета 1924 г. і прыкладна да 1928 г. – час актыўнай практычнай рэалізацыі вызначаных напрамкаў дзейнасці ў палітыцы беларусізацыі.

*Адміністрацыйна-тэрытарыяльная рэформа* праведзена ў 1926–1929 гг. пасля таго, як адбылося вяртанне БССР значнай часткі этнічна беларускіх зямель. У складзе БССР губерні, паветы, валасці былі ліквідаваны і замест іх утвораны акругі, раёны і сельсаветы, прычым значна змяняліся межы адміністрацыйных адзінак. У аснову нова-ўтварэнняў пакладзены нацыянальны прынцып. З улікам інтарэсаў і патрабаванняў нацыянальных меншасцей (карыстанне роднай мовай, захаванне здабыткаў нацыянальнай культуры, звычаяў і г. д.) у месцах іх кампактнага пражывання ўтвараліся нацыянальныя Саветы. У 1928 г. налічвалася 23 яўрэйскія, 19 польскіх, 16 рускіх, 5 латышскіх, 2 украінскія і 2 нямецкія Саветы. У 1932 г. быў утвораны нацыянальны (польскі) раён з цэнтрам у Дзяржынску. Гэта сведчыць аб тым, што ў ходзе





палітыкі беларусізацыі ўлічваліся інтарэсы прадстаўнікоў іншых нацый на тэрыторыі Беларусі. Палітыка беларусізацыі не азначала прыніжэння ці ўшчамлення правоў і інтарэсаў нацыянальных меншасцей.

Адным з напрамкаў нацыянальнай палітыкі з’яўлялася *беларусізацыя дзяржаўных устаноў, грамадскіх арганізацый*, якая мела на мэце вывучэнне супрацоўнікамі беларускай мовы і перавод на яе справаводства. Усім дзяржаўным і грамадскім установам, а таксама прадпрыемствам і кааператыўным аб’яднанням былі ўстаноўлены канкрэтныя тэрміны пераводу іх працы на беларускую мову.

Першымі ў вельмі кароткі тэрмін, за 1924/25 гаспадарчы год, гэта зрабілі ЦВК і Саўнарком БССР, Наркаматы асветы і земляробства. З канца 1925 г. пасяджэнні і пратаколы ЦК і акруговых камітэтаў КП(б)Б вяліся на беларускай мове. Народныя камісарыяты ўнутраных спраў, юстыцыі, сацыяльнага забеспячэння атрымалі двухгадовы, камісарыяты аховы здароўя, фінансаў і вайсковых спраў – трохгадовы тэрмін пераводу на беларускую мову.

Канчатковы тэрмін пераводу справаводства на беларускую мову ўсімі ўстановамі быў вытрыманы. У 1927 г. беларускай мовай валодалі ў цэнтральных дзяржаўных установах 80 % служачых, у акруговых і раённых установах – каля 70 %. Асноўныя рэспубліканскія дакументы выдаваліся на беларускай мове, а таксама на адной з трох іншых моў: рускай, польскай і яўрэйскай.

У ходзе беларусізацыі *вырашалася задача больш актыўнага вылучэння на кіруючыя пасады прадстаўнікоў карэннага (не толькі беларускага) насельніцтва.* У выніку за 1926–1927 гг. сярод кіраўнікоў акруговага і раённага ўзроўню ўдзельная вага беларусаў павялічылася з 30,3 да 46 %, гарсаветаў – з 43,8 да 45 %. У той жа час колькасць рускіх зменшылася з 20,8 да 13,8%, яўрэяў – з 32,5 да 27 %. У складзе сельскіх Саветаў колькасць беларусаў была 90 %.

Палітыка беларусізацыі закранула і войска. У 1923–1925 гг. праводзілася ваенная рэформа. Камплектаванне войск Чырвонай Арміі пачало базіравацца на тэрытарыяльным прынцыпе ў спалучэнні з кадравым. Ваенная рэформа прадугледжвала аднаўленне нацыянальных тэрытарыяльных часцей і злучэнняў. У Заходняй ваеннай акрузе (з кастрычніка 1926 г. – Беларуская ваенная акруга) першай нацыянальнай стала 2-я Беларуская стралковая дывізія. Потым арганізаваны тэрытарыяльны 16-ы Беларускі корпус (да трох дывізій). Да поўнага штату тэрытарыяльныя часці камплектаваліся з насельніцтва раёнаў дыслакацыі. На працягу пяці гадоў яно прызывалася на зборы: першы раз на 3 месяцы, потым – па месяцу ў год. Пераменны асабовы склад тэрытарыяльных часцей размяркоўваўся наступным чынам: беларусаў – 93 %, яўрэяў – 4, палякаў –1,5, іншых –1,5 %.

Для падрыхтоўкі сярэдняга каманднага саставу была ўтворана Аб’яднаная беларуская вайсковая школа імя ЦВК БССР. Яе скончыў, у прыватнасці, славуты военачальнік маршал І. Якубоўскі.

Палітыка беларусізацыі закранула і ўнутранае жыццё войска. Як адзначалася ў матэрыялах да справаздачы ўрада на IX Усебеларускім з'ездзе Саветаў (Ад з'езду да з'езду. Менск, 1929), "Н-ская стралковая дывізія, якая з'яўляецца беларускай нацыянальнай дывізіяй, усю сваю работу па навучанні і выхаванні байцоў перавяла на беларускую мову. Усе асноўныя навучальныя дапаможнікі (статуты, падручнікі) выданы на беларускай мове. Беларуская літаратура складае асноўную масу бібліятэчных фондаў частак дывізіі...".

Тэрытарыяльныя фарміраванні БВА існавалі да 1935–1938 гг., пасля былі скасаваны.

Важным напрамкам беларусізацыі з'яўлялася *нацыянальна-культурнае будаўніцтва*. Значныя змены адбыліся ў агульнаадукацыйнай школе: калі ў 1921 г. беларускія школы складалі 21,5 % ад агульнага ліку школ на Беларусі, то ў 1931 г. – 83,5 %. За гэты ж час колькасць яўрэйскіх школ павялічылася з 2,5 да 5,5 %, польскіх – з 0,3 да 4,5 %, колькасць рускіх школ скарацілася з 75 да 6,5 %, што прыкладна адпавядала колькасці рускага насельніцтва (7,7 %) у складзе жыхароў Беларусі. У 1930 г. 76,6 % студэнтаў вышэйшай школы рэспублікі былі беларусамі, выкладанне больш за 80 % вучэбных дысцыплін вялося на беларускай мове.

У Беларускай акадэміі навук працавалі нацыянальныя сектары – яўрэйскі, польскі, латышскі, а таксама Камісія па вывучэнні Заходняй Беларусі, сектар масавай работы і краязнаўства. Сярод навуковых супрацоўнікаў акадэміі ў пачатку 30-х гадоў колькасць беларусаў складала 45 %.

Шмат што было зроблена ў напрамку беларусізацыі ў выдавецкай справе. У 1924 г. заснавана Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі. Апрача таго, працавалі выдавецтвы тэхнічнай літаратуры, вайсковай літаратуры і інш. У 1931 г. было выдадзена на беларускай мове 1069 назваў кніг агульным тыражом 10 201 158 экзэмпляраў, на яўрэйскай мове – адпаведна 119 і 39 400, польскай мове – 117 назваў кніг у колькасці 48 000 экзэмпляраў. У перыядычным друку выходзіла 13 рэспубліканскіх газет, з іх 6 – на мовах нацыянальных меншасцей, 64 раённыя і гарадскія газеты, 30 часопісаў.

Значных поспехаў у гады правядзення палітыкі беларусізацыі дасягнулі беларуская літаратура, нацыянальны беларускі тэатр, музыка, жывапіс. Аб гэтым будзе сказана ў раздзеле, прысвечаным нацыянальна-культурнаму будаўніцтву ў Савецкай Беларусі.

Разглядаючы палітыку беларусізацыі ў 20-я гады, важна адзначыць, што яе ход меў пэўныя супярэчнасці і цяжкасці, быў зусім няпросты. Мелі месца некаторыя тэндэнцыі, якія так ці інакш адмоўна ўплывалі на стан беларусізацыі. З аднаго боку, гэта недаацэнка нацыянальных асаблівасцей Беларусі ў першую чаргу рускімі чыноўнікамі, якіх нямала было ў гаспадарчым і дзяржаўным апараце. Яны разглядалі беларусізацыю як гвалтоўнае насаджэнне беларушчыны, усялякім чынам перашкаджалі яе ажыццяўленню. Такую ж пазіцыю займалі і





некаторыя прадстаўнікі іншых нацыянальных меншасцей, асабліва яўрэйства, у асяроддзі якога назіраліся праявы сіянізму.

З другога боку, мелі месца спробы фарсіраваць тэмпы беларусізацыі без уліку аб'ектыўных умоў. Нярэдка ва ўстановах складаліся спісы супрацоўнікаў, якія былі абавязаны ў кароткі тэрмін вывучыць беларускую мову, да таго ж заахвочваліся "сустрэчныя планы", калі гэтыя тэрміны яшчэ больш скарачаліся. Не заўсёды існавалі ўмовы для вывучэння беларускай мовы – не хапала выкладчыкаў, падручнікаў. Фармальна праводзіліся арганізаваныя курсы і г. д. Здараліся выпадкі звальнення з пасады за неваладанне беларускай мовай. Усё гэта выклікала незадаволенасць пэўнай часткі насельніцтва, садзейнічала ажыўленню антыбеларускіх настрояў, кампраметавала сутнасць палітыкі беларусізацыі.

Але, нягледзячы на супярэчнасці, цяжкасці і недахопы, палітыка беларусізацыі з'явілася практычнай спробай ва ўмовах савецкай улады ажыццявіць беларускае нацыянальнае адраджэнне. Да яе істотных станоўчых вынікаў у 20-я гады можна аднесці пэўную дэмакратызацыю грамадскага жыцця, калі нацыянальны момант, нацыянальныя пытанні прывялі да аб'яднання даволі разнастайных палітычных сіл. Кампартыя (бальшавікоў) Беларусі рабіла пэўныя крокі да супрацоўніцтва з больш шырокімі нацыянальнымі коламі. Аб прычынах згортвання палітыкі беларусізацыі ў канцы 20 – пачатку 30-х гадоў будзе сказана ў параграфе, прысвечаным палітычным рэпрэсіям.

## § 3. Беларускае замежжа

Да апошняга часу праблемы беларускай эміграцыі і дзейнасці нацыянальна-дэмакратычных партый унутры і за межамі Беларусі вызначаліся як адмоўныя. У адносінах да іх выкарыстоўваліся эпітэты "контррэвалюцыйныя", "буржуазныя", "пацярпеўшыя банкруцтва" і г.д. Але пры ўсіх абставінах неабходна разглядаць беларусаў, што апынуліся ў выніку палітычнай, ідэалагічнай і ваеннай барацьбы за межамі Беларусі, як неад'емную састаўную частку беларускага народа.

У ходзе і пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. з Беларусі эмігрыравала каля 122 тыс. чалавек (усяго з былой Расійскай імперыі – каля 2 млн чалавек). Частка гэтай хвалі эмігрантаў рушыла на Усход – у Маньчжурыю (Харбін, Хайлар, Мулін) і ў Кітай (Шанхай, Пекін), але асноўная маса накіравалася на Захад – у Фінляндыю, Прыбалтыку, Германію, Чэхаславакію, Францыю, ЗША.

Да заканчэння вайны з Польшчай і грамадзянскай вайны на Беларусі ў Еўропе дзейнічалі дыпламатычныя прадстаўніцтвы, місіі і консульствы БНР, у прыватнасці ў Латвіі, Эстоніі, Літве, Фінляндыі, Турцыі, Балгарыі, Германіі і іншых месцах. У Прыбалтыцы знаходзіліся і некаторыя вайсковыя фарміраванні БНР: Беларускі

пяхотны полк, Беларускі эскадрон, Гродзенскі батальён, 1-я і 2-я беларускія роты, асобны батальён і іншыя вайсковыя адзінкі пад агульным камандаваннем Ц. Кандратовіча. Пасля падпісання Рыжскага мірнага дагавора яны апынуліся ў эміграцыі.

У эміграцыю былі вымушаны падацца і кіраўнікі дзяржаўных устаноў БНР – члены прэзідыума Рады на чале з П. Крачэўскім, урада БНР (кабінет В. Ластоўскага), а таксама шэраг саветнікаў і дзеячы некаторых партыйных цэнтраў. Галоўнай палітычнай сілай эміграцыі з'яўлялася партыя беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Дзейнасць гэтай хвалі эміграцыі была найбольш актыўнай да 1923–1924 гг.

У першыя гады эміграцыі ўстановы БНР і большасць нацыянальных беларускіх партый адмоўна ставіліся да савецкай улады, што ўсталявалася ў Беларусі. Не выключалі яны і падрыхтоўку ўзброенага паўстання, якое павінна было, на іх думку, адбыцца як на тэрыторыі БССР, так і ў Заходняй Беларусі з мэтай аб'яднання пад эгідай БНР абедзвюх частак Беларусі. Гэта ідэя вылілася ў палітычны лозунг: "У барацьбе за нацыянальную дзяржаўнасць і свабоду – ні з Масквою, ні з Варшаваю!", што адлюстроўвала эсэраўскую ідэю аб "трэцім шляху" Беларусі.

Спачатку ўрад БНР выехаў у Латвію, дзе імкнуўся кансалідаваць нацыянальныя беларускія сілы за мяжой з мэтай працягу барацьбы за незалежнасць БНР. 20 кастрычніка 1920 г. на палітычнай канферэнцыі ў Рызе, у якой прымалі ўдзел прадстаўнікі беларускіх эсэраў (В. Ластоўскі, Я. Мамонька, К. Душэўскі, А. Галавінскі, А. Валькові́ч), сацыялістаў-федэралістаў (П. Крачэўскі, В. Захарка, Я. Варонка, К. Езавітаў, Ю. Гадыцкі-Цвірко) і сацыял-дэмакратаў (А. Аўсянік), было вырашана ўтварыць вакол урада В.Ластоўскага аб'яднаны нацыянальны блок. Адначасова ўрад БНР паспрабаваў правесці акцыю, накіраваную на зрыў мірных перагавораў у Рызе паміж Савецкай Расіяй і Польшчай. Аднак гэта не ўдалося. Больш таго, у мірным пагадненні ад 11 жніўня 1920 г., заключаным урадамі Латвіі і Расіі, асобным параграфам было зафіксавана, што Латвія брала абавязак спыніць на сваёй тэрыторыі дзейнасць урада БНР і ўсіх іншых беларускіх арганізацый. Таму дыпламатычныя місіі БНР у Латвіі прыпынілі сваё існаванне, а ўрад БНР быў вымушаны пераехаць у Літву, туды ж у лютым 1921 г. пераехала і замежнае бюро ЦК партыі беларускіх эсэраў.

З Літвы ўрадам БНР рыхтавалася спроба ўзняць паўстанне ў Заходняй Беларусі і ў БССР. Улетку 1921 г. з гэтай мэтай быў утвораны Цэнтральны беларускі паўстанцкі камітэт (ЦБПК), які ўзначаліў член ЦК партыі беларускіх эсэраў У.Пракулевіч. І хаця да паўстання справа не дайшла, арганізаваны ЦБПК партызанскі рух у шэрагу раёнаў БССР – дзейнасць атрадаў "Зялёнага дуба" – непакоіў органы савецкай улады. Паводле яе афіцыйных зводак, толькі ў 6 паветах БССР у маі 1921 г. было некалькі дзесяткаў такіх атрадаў, яны аб'ядноўвалі





2 тыс. чалавек, а ў чэрвені колькасць партызан дайшла да 3 тыс. чалавек. Барацьбу супраць іх вялі сфарміраваныя часці асобага прызначэння (ЧАП).

З мэтай далейшай кансалідацыі беларускіх нацыянальных сіл замежжа ўрад БНР склікаў у канцы верасня 1921 г. у Празе Беларускую нацыянальна-палітычную канферэнцыю, на якую з'ехаліся 37 прадстаўнікоў нацыянальных арганізацый і партый. Канферэнцыя прыняла заяву аб салідарнасці са Слуцкім паўстаннем, супраць падзелу Беларусі паводле Рыжскага дагавора, пацвердзіла паўнамоцтвы органаў БНР, заклікала аб'яднаць вакол іх усе цэнтры беларускай эміграцыі.

Няўдала завяршыліся спробы паставіць беларускае пытанне на парадак дня Генуэзскай канферэнцыі ў красавіку – маі 1922 г. У канцы 1923 г. пасля рэарганізацыі ўрада БНР прэзідыум Рады і ўрад БНР пераехалі з Коўна ў Прагу.

Беларуская эміграцыя часткова па ініцыятыве і з дапамогай урада БНР пачала ствараць свае эмігранцкія цэнтры і культурныя арганізацыі. У Латвіі беларуская эміграцыя з 1919 г. гуртавалася вакол Рады беларускай калоніі ў Рызе і ў Дзвінску (Даўгаўпілс), дзе былі арганізаваны беларускае культурна-асветніцкае таварыства "Бацькаўшчына", беларускі клуб, курсы беларусазнаўства і пачаў выдавацца часопіс "На чужыне". Пасля 1924 г. з'явіліся беларускія асветніцкія таварыствы "Руно" і "Беларуская хата". Таварыства беларускіх настаўнікаў адкрыла і ўтрымлівала 4 беларускія прыватныя школы і беларускую прыватную гімназію, выдавала часопіс "Школа і жыццё". Было заснавана таксама Беларускае навукова-краязнаўчае таварыства, пад рэдакцыяй К. Езавітава ў 1925–1930 гг. выходзіла газета "Голас беларуса". У 1934 г., калі да ўлады ў Латвіі прыйшоў К. Ульманіс, амаль усе арганізацыі беларускіх эмігрантаў былі забаронены.

У Літве да 1927 г. галоўным цэнтрам беларускіх эмігрантаў быў г. Коўна. Яны аб'ядноўваліся вакол Беларускага нацыянальнага камітэта (старшыня А.Галавінскі), Беларускага культурна-асветніцкага цэнтра (кіраўнік В.Ластоўскі). Тут выдаваліся беларускія кнігі, часопісы "Беларускі сцяг", "Крывіч".

Эмігранцкі рух у Чэхаславакіі канцэнтраваўся ў Празе вакол беларускай Рады і іншых арганізацый – Беларускага культурнага таварыства імя Францыска Скарыны, Беларускага таварыства "Сокал", а таксама аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый у Празе, Берліне, Рыме, Мюнхене, Бруселі, Лілі, Варшаве і інш. Аб'яднанне выдавала свой "Бюллетень", а Таварыства імя Ф.Скарыны – часопіс "Іскры Скарыны".

У ЗША ўзніклі два цэнтры беларускай эміграцыі – у Нью-Йорку і Чыкага. У Нью-Йорку з 1921 г. дзейнічалі Беларускі нацыянальны камітэт і Камітэт дапамогі рабочым і сялянам Заходняй Беларусі, у Чыкага – Беларуска-амерыканскі нацыянальны саюз і Беларуска-

амерыканскі клуб. Дзейнасць гэтых арганізацый значна ажывілася, калі ў ЗША прыехаў былы прэм'ер урада БНР Я. Варонка. 3 кастрычніка 1926 г. ён пачаў выдаваць у Чыкага газету "Беларуская трыбуна".

Арганізаванае жыццё беларускай эміграцыі ў Францыі пачалося з 1926 г., а найбольш актывізавалася з 1930 г., калі з Прагі сюды прыехалі М. Абрамчык і Л. Рыдлеўскі, намаганнямі якіх тут быў заснаваны "Хаўрус беларускай працоўнай эміграцыі" з цэнтрам у Парыжы і пяццю філіяламі ў правінцыі. "Хаўрус" выдаваў свой часопіс "Рэха".

Патрэбна адзначыць, што беларускі эміграцкі рух быў неаднародны, уплыў на яго аказвалі з'явы грамадска-палітычнага жыцця, якія адбываліся ў БССР. Вядомыя грамадскія дзеячы БССР А.Чарвякоў, У. Ігнатоўскі, З. Жылуновіч і іншыя ў пачатку 20-х гадоў падтрымлівалі сувязі з левымі плынямі беларускай эміграцыі, мелі кантакты з вядучымі яе дзеячамі. Урад БССР зыходзіў з таго, што магчыма аб'яднаць усе дэмакратычныя элементы беларускай палітычнай эміграцыі на падставе адраджэння беларускай нацыі ва ўмовах савецкай улады.

Значнай з'явай у жыцці беларускага замежжа з'явілася II Беларуская нацыянальная нарада, скліканая ўрадам БНР у Берліне ў кастрычніку 1925 г. Гэта нарада, у якой удзельнічаў З. Жылуновіч у якасці спецыяльнага прадстаўніка беларускага савецкага ўрада, прыняла рашэнне спыніць барацьбу супраць савецкай улады, прызнаць, што БССР як палітычная рэчаіснасць стала цэнтрам кансалідацыі беларускага народа і адраджэння яго самабытнай культуры. Пасля заканчэння нарады амаль увесь эміграцкі ўрад БНР на чале са сваім старшынёй А.Цвікевічам вярнуўся ў БССР. Яшчэ раней падпалі пад амністыю Я. Лёсік, А. Смоліч, С. Некрашэвіч, якія не пакідалі межаў Беларусі. Многія з іх, былых праціўнікаў савецкай улады, атрымалі адпаведную іх адукацыі працу, галоўным чынам у галіне культуры, адукацыі, навукі, сталі акадэмікамі БАН. З іх імёнамі былі звязаны значныя поспехі палітыкі беларусізацыі.

Пасля 1925 г. палітычная дзейнасць беларускага замежжа прыкметна згортвалася, заставалася ў асноўным культурна-асветная работа. Адзін з ідэолагаў БНР А. Станкевіч у кнізе "Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення", выдадзенай у Вільні ў 1935 г., тлумачыў гэта так: "Сябры Рады БНР і яе Урада апынуліся ў цяжкім маральным і матэрыяльным палажэнні. Міжнароднае становішча больш-менш стабілізавалася, і БНР усімі была забыта і пакінута" (Полымя. 1992. №1. С. 179).

Тыя, хто застаўся ў Празе, утварылі эміграцкі цэнтр – Раду БНР, якую ўзначальваў П. Крачэўскі, пасля яго смерці, у 1928–1943 гг., – В. Захарка. Да 1970 г. Раду БНР узначальваў М. Абрамчык, да 1982 г. – В.Жук-Грышкевіч. Цяпер на чале Рады – доктар Я. Сажыч, у яе складзе каля 120 чалавек. Урад БНР пасля 1925 г. узначальвае прэзідэнт Рады.





## § 4. Палітычныя рэпрэсіі: прычыны, памеры, вынікі

Пачатак палітычных рэпрэсій у Беларусі, на наш погляд, непасрэдна звязаны з поспехамі і дасягненнямі палітыкі беларусізацыі як найбольш значнай з'явы ў працэсе развіцця нацыянальнай свядомасці ва ўмовах савецкай улады. Ужо ў другой палове 20-х гадоў спрэчкі паміж прадстаўнікамі розных падыходаў да нацыянальнай палітыкі суправаджаліся абвінавачваннямі ў нацыяналізме нярэдка нават тады, калі гэта былі нармальныя патрыятычныя клопаты аб развіцці роднай мовы, захаванні нацыянальных традыцый і культуры. Беларускіх дзеячаў навукі і культуры, актыўных правадыроў палітыкі беларусізацыі ўсё часцей сталі абвінавачваць у т. зв. нацыянал-дэмакратызме. Спачатку ён вызначаўся як "тэндэнцыя ставіць нацыянальныя інтарэсы вышэй за класавыя" (гл.: *Майзель Ю., Шапавалаў М.* Кароткі нарыс гісторыі КП(б)Б. Мн., 1929. С. 4). Асноўнымі метадамі барацьбы з нацыянал-дэмакратызмам у гэты час лічыліся крытыка і марксісцка-ленінскае выхаванне.

Аднак ужо з 1930 г. ацэнкі нацыянал-дэмакратызму зрабіліся больш жорсткімі. Пад гэта паняцце ў партыйных дакументах і ў друку падводзілася варожая савецкай уладзе ідэалогія і практыка контррэвалюцыйнай плыні, якая нібыта мела на сваёй мэце "аднаўленне капіталізму на Беларусі". Калі раней нацыянал-дэмакратызм разглядаўся як з'ява, якая можа ўзнікнуць у любой нацыі, то цяпер ён атрымліваў адназначную ацэнку як беларускі нацыяналізм. Больш таго, у рэзалюцыі XIII з'езда КП(б)Б у маі 1930 г. адзначалася, што галоўнай небяспекай для нацыянальнай палітыкі на Беларусі з'яўляецца менавіта нацыянал-дэмакратызм. Пры гэтым рэзка змяніліся ўсе ацэнкі мінулага: увесь беларускі нацыянальна-вызваленчы рух аднолькава пачаў абвяшчацца рэакцыйным. Толькі як нацыяналістычныя ацэньваліся дзейнасць Белнацкома, беларускіх камуністычных секцый у РКП(б), спробы ўтварыць самастойную камуністычную партыю на Беларусі. Так званая "нацдэмаўшчына" тлумачылася як праява "правага ўхілу", а кулацтва, сялянства аб'яўляліся яго сацыяльнай базай. Кіраўніцтва СССР з яго прынцыпамі прызначэння зверху, жорсткай кадравай палітыкай не жадала мірыцца з вылучэннем мясцовых кадраў. Пагрозу гэта сістэма бачыла і ў нацыянальна-дэмакратычнай інтэлігенцыі, якая была цесна звязана з сялянствам, мела дэмакратычныя традыцыі, пэўны аўтарытэт у нацыянальным руху.

Падрыхтоўка наступу на нацыянал-дэмакратычныя плыні звязана з работай камісіі ЦК ВКП(б), якую ўзначальваў В. Затонскі і якая працавала ў Беларусі 50 дзён у маі – чэрвені 1929 г. Камісія абследавала практыку нацыянальнай работы ў БССР, вынікі чаго былі заслуханы на Бюро ЦК КП(б)Б і ў ЦК ВКП(б).

У дакладзе дадзена даволі падрабязная характарыстыка стану беларускай культуры, пазіцый вядомых беларускіх нацыянальных

лідэраў. Камісія Затонскага абвінавачвала ў нацыянал-дэмакратызме асобных дзеячаў. У прыватнасці, безапеляцыйна гаворыцца, што "той жа Ігнатоўскі ў сваёй гісторыі, у яшчэ большай ступені Жылуновіч менавіта так і ставяць пытанне, ідэалізуючы нацыянал-дэмакратызм у мінулым і ставячы яго прамым папярэднікам пралетарскай рэвалюцыі. Асноўныя памылкі партыйнага кіраўніцтва КПБ маюць месца ў вобласці тактыкі і вынікаюць з няправільнай ацэнкі суадносін класавых сіл". Менавіта на класавую барацьбу рабілі ўпор члены камісіі Затонскага, яе праявы шукалі і знаходзілі ўсюды – у дзейнасці навукоўцаў, у галіне мовазнаўства, у выдавецтвах, у палітыцы Наркамасветы па беларусізацыі, Наркамзема – па хутарызацыі і г.д.

З восені 1929 г. на Беларусі ў партыйнай палітыцы, у сродках масавай інфармацыі, у грамадскай свядомасці ўжо замацаваўся негатыўны вобраз нацдэмаўшчыны. Рэзка памянялася ў бок бязлітаснасці і класавай непрымірымасці ў ацэнках пазіцыя кіраўніцтва КП(б)Б, якому камісія Затонскага прад'явіла абвінавачванні ва ўступках нацыяналістам. Пачала браць верх тая частка кіруючага апарату ЦК КП(б)Б, для якой дырэктывы цэнтра былі вышэй за ўсякія нацыянальныя інтарэсы. Газета "Звязда" ў лістападзе 1929 г. безапеляцыйна адзначала, што нацыянал-дэмакратызм "пераўтварыўся ў ідэалогію капіталістычных элементаў, якія аказваюць супраціўленне і... вядуць барацьбу супраць сацыялістычнага будаўніцтва". Такім чынам, на першае месца вылучаліся палітычныя матывы барацьбы, што давала падставу для палітычных рэпрэсій, знішчэння нацдэмаў як палітычных ворагаў.

У 1930 г. барацьба з нацдэмамі стала практычнай дзейнасцю органаў АДПУ Беларусі на чале з Р. Рапапортам. Імі была "выкрыта" (на самой справе сфабрыкавана) "нацдэмаўская, контррэвалюцыйная і антысавецкая арганізацыя", якая атрымала назву "Саюз вызвалення Беларусі" (СВБ).

Арышты па справе "Саюза вызвалення Беларусі" пачаліся ў лютым 1930 г., калі быў заняволены "контррэвалюцыйны" паэт Нічыпар Чарнушэвіч, і дасягнулі найбольшага ўздыму ў ліпені, а працягваліся да канца года. Хваля арыштаў прайшла па галоўных цэнтрах і асяродках беларускай навукі, асветы і мастацтва ў Мінску (БАН, БДУ, пісьменніцкія арганізацыі "Полымя","Узвышша", Наркамасветы, Беларускі дзяржаўны музей, Архіў, Першы Беларускі дзяржаўны тэатр і інш.), у Горках (Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія), у Віцебску (ветэрынарны інстытут), у Магілёве (гістарычны архіў) і г.д.

Па справе СВБ было арыштавана 108 чалавек, сярод іх акадэмікі БАН В. Ластоўскі, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, прафесар А. Смоліч, народны камісар земляробства Дз. Прышчэпаў, народны камісар асветы А. Баліцкі, пісьменнікі М. Гарэцкі, У. Дубоўка, Я. Пушча і інш. Арыштаваны таксама былыя кіраўнікі беларускіх дзяржаўных утварэнняў, якія вярнуліся з эміграцыі ці жылі ў Беларусі,– І. Серада, У. Пракулевіч, А. Цвікевіч, Я. Дыла і інш. Гэта сведчыць аб тым, што справа СВБ, арышты па ёй мелі палітычны характар, з'яўляліся фактычнай формай расправы з былымі палітычнымі праціўнікамі бальшавікоў.





Усе арыштаваныя абвінавачваліся ў тым, што, «з'яўляючыся членамі контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі "Саюз адраджэння Беларусі" (САБ) (у далейшым перайменаваны ў "Саюз вызвалення Беларусі" (СВБ), ажыццяўлялі арганізаваныя шкодніцтвы на культурным, ідэалагічным і іншых участках сацыялістычнага будаўніцтва: праводзілі антысавецкую нацыяналістычную агітацыю, накіраваную на запавольванне тэмпаў развіцця Беларусі на сацыялістычным шляху, ставячы канчатковай мэтай адрыванне Беларусі ў этнічных межах ад Савецкага Саюза і стварэнне т. зв. Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР)». Усе арыштаваныя па справе СВБ былі аб'яўлены нацыяналістамі. Але ў следчых матэрыялах (як лічаць сучасныя даследчыкі) цяжка знайсці хоць адно выказванне ці якое-небудзь іншае прамое ці ўскоснае сведчанне, што магчыма было б кваліфікаваць як нацыяналістычнае.

Гэта відавочна былі вымушаны прызнаць і самі арганізатары "справы СВБ", якія не рызыкнулі наладзіць адкрыты судовы працэс, тым больш што на папярэднім следстве па "справе СВБ" поўнасцю вінаватымі прызналі сябе толькі 25 чалавек. Больш за 40 чалавек цвёрда заявілі, што яны сваёй ні ў чым не прызнаюць. Каля 20 чалавек "прызналіся часткова", маючы на ўвазе пэўныя памылкі і недахопы ў навуковай, культурнай і грамадска-палітычнай рабоце.

Таму на падставе сакрэтнай пастановы ЦВК СССР ад 9 чэрвеня 1927 г. матэрыялы аб СВБ былі накіраваны ў калегію АДПУ для вынясення пазасудовага прыгавору. Яе рашэннем у красавіку 1931 г. Дз. Прышчэпаў, А. Баліцкі, А. Адамовіч, П. Ільючонак былі прыгавораны да 10 гадоў лагераў, 9 чалавек атрымалі па 3–5 гадоў лагераў, астатнія – па 5 гадоў высылкі ў аддаленыя раёны Савецкага Саюза.

Большасць асуджаных былі пазней, у 1937 – 1940 гг., зноў рэпрэсіраваны, па сутнасці, "за ранейшыя злачынствы" прыгавораны да вышэйшай меры пакарання ці атрымалі новыя тэрміны зняволення і загінулі ў лагерах. У 1937–1938 гг. былі расстраляны А. Баліцкі, М. Гарэцкі, А. Дудар, М. Красінскі, В. Ластоўскі, А. Ляжневіч, С. Некрашэвіч, Дз. Прышчэпаў, А. Смоліч, Б. Тарашкевіч, А. Цвікевіч і інш.

Актыўная кампанія выкрыцця "ворагаў народа" мела, акрамя фізічнага знішчэння, яшчэ адзін, не менш жудасны вынік. Атмасфера падазронасці, ідэалагічнага ўціску, маральнага прымусу ламала людзей як асоб, прымушала адракацца ад сваіх поглядаў і прынцыпаў, гаварыць няпраўду, хлусіць, каб захаваць жыццё сваё і сваіх родных. У другой палове 1930 г. на старонках газет пачалі з'яўляцца лісты, аўтарамі якіх былі вядомыя і аўтарытэтныя на Беларусі людзі, у тым ліку Я. Колас, Я. Купала. Яны прызнаваліся ў грахах і па-

мылках, якіх фактычна не мелі, публічна каяліся ў тым, у чым не былі вінаваты, выказвалі сваю падтрымку палітыкі бальшавіцкай партыі, яе барацьбы супраць нацдэмаў. Гэтыя лісты – не ганьба, а трагедыя сумленных і шчырых прадстаўнікоў беларускай творчай інтэлігенцыі.

"Справа СВБ " была пачаткам сістэматычных рэпрэсій у Беларусі. Адначасова з СВБ у 1930 г. былі "раскрыты" і іншыя "контррэвалюцыйныя, шкодніцкія і дыверсійна-шпіёнскія арганізацыі", у прыватнасці беларускі філіял "Працоўнай сялянскай партыі" (па гэтай "справе" было асуджана 59 чалавек); беларускі філіял "Прампартыі" – асуджана 30 чалавек; беларускі філіял "Саюзнага бюро РСДРП (меншавікоў)" – асуджана 30 чалавек.

Гэтыя вынікі дзейнасці АДПУ адразу адчуліся – неставала работнікаў навучальных установ, органаў кіравання, установ культуры і г.д. Аднак пошук "ворагаў народа" працягваўся. У снежні 1933 г. былі арыштаваны 84 працаўнікі сістэмы Наркамзема БССР і Белтрактарацэнтра. Ім ставілася ў віну імкненне сарваць развіццё цяжкай прамысловасці, падарваць эканамічную магутнасць Савецкай дзяржавы, аслабіць яе ў барацьбе з капіталістычным асяроддзем, а потым звергнуць савецкую ўладу, захапіць кіраўніцтва ў свае рукі.

У красавіку 1933 г. "выкрыта шкодніцтва" ў сістэме жывёлагадоўлі. У зводцы АДПУ "Па справе уніфікаванай контррэвалюцыйнай і дыверсійна-шпіёнскай арганізацыі ў сістэме жывёлагадоўлі" гаворыцца аб тым, што па гэтай справе было арыштавана 82 чалавекі, у тым ліку 9 прафесараў, 7 навукоўцаў, 33 ветурачы, 14 служачых Наркамзема, 13 заатэхнікаў і г.д. Вынікі арыштаў найбольш кваліфікаваных кадраў у гэтай галіне сельскай гаспадаркі адваочна адмоўна адбіліся на яе развіцці.

Акрамя гэтага, "контррэвалюцыйныя арганізацыі" шкоднікаў і нацдэмаў у гэты час былі "выкрыты" ў Белдзяржснабе, Дзяржплане, у Беларускім нацыянальным цэнтры і г.д. У першым квартале 1933 г. у БССР да вышэйшай меры пакарання і да 10 гадоў пазбаўлення волі было асуджана больш за 5,5 тыс. чалавек. Толькі "тройкай" НКУС БССР у 1935 г. было асуджана 8074 чалавекі, а ў 1936 г.– 12 371 чалавек. Агентаў "варожых разведак" знаходзілі і выкрывалі сярод самых розных сацыяльных груп насельніцтва – ад высокапастаўленых дзяржаўных, партыйных і ваенных дзеячаў да простых рабочых і сялян.

У чэрвені 1937 г. адбыўся XVI з'езд КП(б) Беларусі, якому належыць асобае месца ў нагнятанні атмасферы страху і беззаконня. Тэма выкрыцця ворагаў народа была галоўнай у справаздачным дакладзе першага сакратара В. Шаранговіча і ў прамовах фактычна ўсіх выступаўшых. На з'ездзе вяліся бязлітасныя нападкі на члена Бюро ЦК КП(б)Б, старшыню ЦВК БССР з 1920 г. А. Чарвякова, які пасля дзвюх спроб апраўдацца застрэліўся ў сваім кабінеце.

Гэта было не адзінае такое здарэнне сярод вядомых грамадскіх дзеячаў Беларусі. Яшчэ ў лютым 1931 г. скончыў жыццё самагубствам прэзідэнт БАН, таксама член Бюро ЦК КП(б)Б, выдатны вучоны У. Ігнатоўскі. У тым жа годзе ўчыніў спробу самагубства Я. Купала. У чэрвені 1937 г. выкінуўся з 5-га паверха будынка НКУС БССР арыштаваны М.Галадзед, які ў 1927–1937 гг. працаваў старшынёй СНК БССР. Тое, што яны зрабілі, было, відаць, на думку гэтых людзей, адзіным магчымым выйсцем з той жудаснай сітуацыі, у якой яны апынуліся.







*М.М.Галадзед*

29 ліпеня 1937 г. адбыўся III Пленум ЦК КП(б)Б, рашэнні якога адыгралі ролю своеасаблівага дэтанатара, выклікалі абвальны працэс агульнага выкрыцця, масавага псіхозу ў пошуках "ворагаў народа". Выступаючыя на пленуме прадстаўнікі партыйных органаў прызналі наяўнасць у іх арганізацыях і раёнах "актыўна дзеючых контррэвалюцыянераў, польскіх шпіёнаў і дыверсантаў".

Выкананне рашэнняў III Пленума ЦК КП(б)Б прывяло да таго, што з сярэдзіны 1937 г. да ліпеня 1938 г. было арыштавана 2570 удзельнікаў т. зв. "аб'яднанага антысавецкага падполля". Месцамі іх канцэнтрацыі, як адзначаецца ў даведцы УДБ НКУС, былі ЦВК, СНК БССР, ЦК КП(б)Б, Дзяржплан, наркаматы і іншыя ўстановы. Было арыштавана: 40 наркомаў і іх намеснікаў, 179 кіруючых работнікаў савецкага і гаспадарчага апарату, 1 акадэмік, 25 навукоўцаў, 41 выкладчык ВНУ, 23 супрацоўнікі ЦК КП(б)Б, 16 супрацоўнікаў Саўнаркома.

Следчымі органамі арыштаваныя былі падзелены на наступныя групы: нацыянал-фашысцкае падполле (яго кіраўнікамі вызначаны Чарвякоў, Шаранговіч, Жылуновіч і інш.); антысавецкае эсэраўскае падполле (Чарнушэвіч, Бадунова, Панкевіч); антысавецкае бундаўска-сіяністскае падполле (Волт, Гурэвіч); царкоўна-сектанцкае падполле (кіраўнік, "японска-польскі шпіён", мітрапаліт Бліноў). Кіраўнікамі "трацкісцкай арганізацыі" на Беларусі былі названы М. Гікала, М. Галадзед, Д. Валковіч і іншыя кіраўнікі рэспублікі. Сярод абвінавачванняў, якія прад'яўляліся арыштаваным, былі і наступныя: "Антысавецкая арганізацыя на Беларусі па заданні цэнтра правых у Маскве сумесна з трацкістамі рыхтавала здзяйсненне тэрарыстычных актаў над тт. Сталіным, Варашылавым і Калініным. Па заданні Галадзеда Хацкевічам у Маскве была створана група, якая рыхтавала тэрарыстычны акт супраць т. Сталіна".

Новы ўздым хвалі рэпрэсій назіраўся з восені 1939 г., пасля ўваходжання Заходняй Беларусі ў склад БССР. У гэтых абласцях былі рэпрэсіраваны (у асноўным высланы ва ўсходнія раёны СССР) цэлыя групы насельніцтва – служачыя былога дзяржапарату, судовых органаў, пракуратуры, паліцыі, арміі, гандляры, леснікі, рамеснікі з сем'ямі, усяго каля 125 тыс. чалавек.

Пытанне аб тым, колькі жыхароў Беларусі пацярпела ад палітычных рэпрэсій, не высветлена і да сённяшняга дня. У літаратуры ёсць розныя, але, на жаль, не зусім абгрунтаваныя лічбы. У артыкуле Ул. Адамушкі "Лічбы на сэрцы. Колькі чалавечых лёсаў пакалечыў таталітарны рэжым", змешчаным у часопісе "Беларуская думка" (1992. №7), і яго манаграфіі "Палітычныя рэпрэсіі 20–50-х гадоў на Беларусі" (Мн., 1995) ёсць разважанні наконт гэтага. Як вынікае з яго падлікаў, судовымі і несудовымі органамі ў рэспубліцы па палітычных матывах было прыцягнута да адказнасці больш за 250 тыс. грамадзян. Акрамя таго, у адміністрацыйным парадку (раскулачванне, высяленне, барацьба з сабатажам, выкананне закона "Аб ахове сацыялістычнай маёмасці" і г.д.) прыцягнуты да адказнасці яшчэ амаль 350 тыс. чалавек, жыццё і лёс якіх былі парушаны сталінскім рэжымам. Агульная лічба ахвяр сталінізму, на думку некаторых даследчыкаў, складае на Беларусі 600–700 тыс. чалавек. З пачатку 50-х гадоў да 1994 г. у Рэспубліцы Беларусь рэабілітавана больш за 160 тыс. грамадзян.

# ГЛАВА 3

# КУЛЬТУРНАЕ БУДАЎНІЦТВА

## § 1. Ліквідацыя непісьменнасці і малапісьменнасці дарослага насельніцтва. Развіццё асветы і навукі

У комплексе праблем культурнага будаўніцтва важнае месца займала ліквідацыя непісьменнасці і малапісьменнасці дарослага насельніцтва. Гэта была аднначасова і палітычная задача, бо непісьменны чалавек стаіць па-за палітыкай.

Пачатак паходу супраць непісьменнасці пакладзены дэкрэтам Саўнаркома РСФСР ад 26 снежня 1919 г. "Аб ліквідацыі непісьменнасці сярод насельніцтва РСФСР", які падпісаў У. Ленін. У Беларусі гэта работа ў поўную сілу пачалася з канца 1920 г., калі тэрыторыя рэспублікі была вызвалена ад польскіх акупантаў. У гэты час 52,6 % насельніцтва ва ўзросце ад 9 да 49 гадоў з'яўлялася непісьменным. Для кіраўніцтва работай пры Палітасвеце Наркамасветы БССР была





створана Рэспубліканская надзвычайная камісія па ліквідацыі непісьменнасці. Дапамогу Беларусі аказаў урад РСФСР. На пачатку 1921 г. Усерасійскай надзвычайнай камісіяй па ліквідацыі непісьменнасці ў Беларусі было выдадзена 60 тыс. буквароў "Долой неграмотность!". На кожны павет у сярэднім прыпадала больш за 7 тыс. буквароў і 240 разразных азбук. На патрэбы масавай асветы дарослых выдзялялася 495 пудоў паперы. У гарадах і вёсках Беларусі ствараліся і працавалі школы і пункты па ліквідацыі непісьменнасці, школы рабочай моладзі, групы індывідуальнага навучання. Калі ў 1921/22 навучальным годзе ў БССР у сістэме навучальных устаноў па ліквідацыі непісьменнасці налічвалася 12,2 тыс. чалавек, дык у 1924/25 годзе іх колькасць павялічылася да 37,4 тыс. чалавек.

Узрастала роля грамадскіх арганізацый у справе ліквідацыі непісьменнасці. У 1926 г. у БССР афармілася таварыства "Прэч непісьменнасць", якое ўзначаліў старшыня ЦВК БССР А. Чарвякоў. Калі ў 1929 г. у рэспубліцы дзейнічала 951 ячэйка гэтага таварыства з 59 тыс. чалавек, дык у 1932 г. ужо налічвалася 10 тыс. ячэек і ў іх працавала 156 тыс. чалавек.

VIII з'езд ВЛКСМ (май 1928 г.) абавязаў кожнага пісьменнага камсамольца навучыць аднаго непісьменнага, ліквідаваць непісьменнасць сярод камсамольцаў. У камсамольскі білет кожнага члена ВЛКСМ укладваўся спецыяльны лісток, дзе рабілася адзнака аб колькасці навучаных ім чалавек. Адкрыццю новых пунктаў па ліквідацыі непісьменнасці (лікпунктаў) і павелічэнню ў іх навучэнцаў садзейнічалі традыцыйныя месячнікі "За пісьменнасць", якія праводзіліся перад пачаткам навучальнага года з удзелам камсамольскіх арганізацый, а таксама культпаход камсамола Беларусі ў 1928 г., калі камсамольцы не толькі навучалі непісьменных, але і вялі барацьбу з бескультур'ем і п'янствам. Па ініцыятыве камсамольскіх арганізацый у 1930 –1931 гг. у Беларусі праходзіла культэстафета, адзін з маршрутаў якой – "За ліквідацыю непісьменнасці" – прадугледжваў правесці перапіс непісьменнага насельніцтва, забяспечыць лікпункты палівам, павялічыць у іх колькасць навучэнцаў. Да студзеня 1931 г. камсамол Беларусі накіраваў для працы на лікпунктах 8 тыс. культармейцаў.

Пры гарадскіх і сельскіх Саветах ствараліся групы садзеяння ліквідацыі непісьменнасці, праходзілі грамадскія агляды лікпунктаў і школ, канферэнцыі непісьменных і малапісьменных. Ва ўсіх лікпунктах была ўведзена палітгадзіна, у лікпунктах пры прадпрыемствах – тэхгадзіна, а ў сельскіх – агракалгасгадзіна. У рабоце па ліквідацыі непісьменнасці прымалі ўдзел калектывы фабрык і заводаў, калгасаў і саўгасаў, арганізацый і ўстаноў, члены таварыства "Прэч непісьменнасць", настаўнікі, студэнты, школьнікі. Калі ў 1927/28 навучальным годзе навучаннем быў ахоплены 42 251 непісьменны, то ў 1930/31 годзе займалася ўжо каля 297,6 тыс. чалавек, з іх 277,8 тыс. чалавек – у сельскай мясцовасці. Усяго з 1926 да 1932 г. лікпункты і школы пісьменнасці закончыла больш за 800 тыс. чалавек.

Разам з тым у рабоце па ліквідацыі непісьменнасці былі і недахопы. У час месячнікаў "За пісьменнасць", культпаходаў, культэстафет і іншых масавых мерапрыемстваў у некаторых месцах назіралася шмат параднасці, шуміхі. Штодзённая праца па ліквідацыі непісьменнасці, паляпшэнні якасці навучання іншы раз падмянялася кампанейшчынай, пагоняй за колькасным ростам школ, лікпунктаў і слухачоў. Пісьменнасцю авалодалі сотні тысяч людзей, але пісьменнасць давалася ў вельмі элементарнай форме. З-за паспешлівасці, нізкай якасці навучання, адсеву са школы атрыманыя веды не заўсёды замацоўваліся, адсюль рэцыдыўная непісьменнасць. Частка дарослага насельніцтва заставалася па-за навучаннем у лікпунктах і школах пісьменнасці.

Аднак, нягледзячы на гэта, многія рэспубліканскія і мясцовыя кіраўнікі лічылі поспехі ў справе ліквідацыі непісьменнасці настолькі вялікімі, што гэта праблема здавалася ім вырашанай. Памылковым думкам спрыяла адсутнасць дакладнай статыстыкі па пытанні ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослага насельніцтва. У выніку ў пачатку другой пяцігодкі сталі менш увагі ўдзяляць гэтаму пытанню, што прывяло да некаторых з'яў адмоўнага характару. У 1932/33 навучальным годзе колькасць навучэнцаў у школах непісьменных зменшылася да 46 109 чалавек, а ў 1934/35 годзе ў БССР зусім адсутнічалі школы для непісьменнага насельніцтва.

Інтарэсы індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі патрабавалі значнага паляпшэння агульнаадукацыйнай і культурна-тэхнічнай падрыхтоўкі насельніцтва. Адной пісьменнасці на ніжэйшым узроўні, г. зн. умення чытаць, пісаць і лічыць, цяпер было недастаткова. Патрабаваўся значны ўздым культуры народа. У сувязі з гэтым на першы план выходзіла праблема ліквідацыі малапісьменнасці працоўных. 4 жніўня 1932 г. Саўнаркам БССР прыняў пастанову "Аб увядзенні ўсеагульнага абавязковага навучання для малапісьменных".

Пастановай урада рэспублікі ад 25 ліпеня 1932 г. была зацверджана новая сістэма навучання дарослых. Яе пачатковым звяном сталі ўводныя курсы ў вытворчасць (60–80 акадэмічных гадзін), якія знаёмілі рабочага з тэхніка-эканамічнай і грамадска-палітычнай дзейнасцю прадпрыемства. Наступная ступень – пачатковая політэхнічная вытворчая школа (тэрмін навучання – 1,5 года), якая будавалася на базе лікпункта, забяспечвала не толькі ліквідацыю малапісьменнасці рабочых і членаў іх сем'яў, але і падрыхтоўку кадраў масавых прафесій (3–4-ы разрад) і іх перакваліфікацыю. З 1934/35 навучальнага года ўстанаўлівалася адзіная пачатковая вячэрняя школа з трохгадовым тэрмінам навучання. Яе асаблівасцю было тое, што агульнаадукацыйная падрыхтоўка навучэнцаў сумяшчалася з тэхнічнай падрыхтоўкай або агразаалагічнай вучобай. У 1932/33 навучальным годзе ў школах для малапісьменных вучылася 223 214 чалавек, амаль столькі, колькі ўсяго за папярэднія тры гады. У 1933/34 навучальным годзе колькасць слухачоў у школах для малапісьменных павялічылася да 271 257 чалавек, а ў 1934/35 годзе – да 297 366 чалавек.





Партыйныя, дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі Беларусі сталі больш увагі ўдзяляць навучанню дарослых пасля апублікавання 27 лютага 1936 г. пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б) "Аб рабоце па навучанні непісьменных і малапісьменных". Актывізацыя работы дала станоўчыя вынікі. Колькасць непісьменных, якія вучыліся ў БССР, павялічылася з 6,3 тыс. чалавек у 1935/36 навучальным годзе да 62,1 тыс. у 1936/37 годзе. Колькасць малапісьменных навучэнцаў за гэтыя гады вырасла са 135,3 тыс. да 165,2 тыс. чалавек. Усяго за гады другой пяцігодкі ў Беларусі амаль 249 тыс. чалавек ліквідавалі непісьменнасць і больш за мільён – малапісьменнасць.

Паводле звестак Усесаюзнага перапісу 1939 г., пісьменнасць насельніцтва БССР ва ўзросце 9 гадоў і старэй (без заходніх абласцей) павялічылася з 53,1 % у 1926 г. да 78,9 % у 1939 г., прычым пісьменнасць сярод жанчын гэтага ўзросту павысілася адпаведна з 35,8 да 68,1 %. Масавая непісьменнасць у БССР была ліквідавана. Гэта вялікае дасягненне беларускага народа. Яно і сёння не згубіла сваёй значнасці, асабліва калі мець на ўвазе тое, што каля мільярда чалавек на планеце (яе кожны пяты жыхар) не ўмеюць чытаць і пісаць.

Але ў канцы 30-х гадоў частка дарослага насельніцтва, пераважна жанчын, яшчэ заставалася неахопленай навучаннем, асабліва на вёсцы. Улічваючы гэта, 13 красавіка 1939 г. Саўнаркам БССР прыняў пастанову "Аб ходзе ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці ў БССР". Ставілася задача канчатковай ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці ў рэспубліцы. Гэта работа працягвалася да самага пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

Разам з ліквідацыяй непісьменнасці і малапісьменнасці дарослага насельніцтва ў БССР праводзілася вялікая работа па стварэнні сістэмы народнай адукацыі, якая забяспечыла б кожнаму рэальную магчымасць закончыць агульнаадукацыйную школу і атрымаць патрэбную прафесію. У выніку пошукаў і роздумаў да сярэдзіны 20-х гадоў у БССР была сфарміравана сістэма народнай адукацыі, якая складалася з наступных частак: дашкольных устаноў, масавых чатырохгадовых працоўных школ, сямігадовых працоўных політэхнічных школ у складзе двух канцэнтраў ( першы канцэнтр уключаў у сябе I–IV групы, другі – V–VII групы, вучэбныя класы ў той час называліся групамі), школ сялянскай моладзі (ШСМ), школ фабрычна-заводскага навучання (ФЗН), прафшкол, прафесійных і агульнаадукацыйных курсаў, рабфакаў, тэхнікумаў і вышэйшых навучальных устаноў.

Аднак у сістэме народнай адукацыі Беларусі таго часу былі недахопы. Адсутнасць сярэдняй школы стварала разрыў паміж агульнаадукацыйнай і вышэйшай школай. Агульная падрыхтоўка вучняў заканчвалася ў сямігадовай школе. Дарога ў вышэйшыя навучальныя ўстановы праходзіла праз рабфакі, тэхнікумы і агульнаадукацыйныя

курсы. Сярэдняя агульнаадукацыйная школа аднолена ў БССР толькі ў 1932 г.

Паміж агульнаадукацыйнай школай і прафесійна-тэхнічнымі навучальнымі ўстановамі адсутнічалі сувязь і пераемнасць. Пачатковую школу вучні заканчвалі ў 11–12 гадоў, а ў школы ФЗН і на вытворчасць прымалі толькі па дасягненні 15-гадовага ўзросту. Частка выпускнікоў чатырохгадовай школы на працягу 2–3 гадоў знаходзілася па-за школай і вытворчасцю, губляючы раней атрыманыя веды.

Не была створана адзіная школа для горада і вёскі. Для дзяцей, якія жылі ў гарадах і буйных прамысловых цэнтрах, існавалі фабрычна-заводскія сямігодкі з вытворчым ухілам і спецыфічнымі вучэбнымі планамі і праграмамі, а для дзяцей, якія жылі ў сельскай мясцовасці, – школы калгаснай моладзі з сельскагаспадарчым ухілам і спецыяльнымі вучэбнымі планамі і праграмамі. Захавалася дзяленне школы на канцэнтры. Вучэбныя класы па-ранейшаму называліся групамі. Існавала таксама розніца паміж сістэмамі народнай адукацыі саюзных рэспублік. У сувязі з гэтым пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 15 мая 1934 г. "Аб структуры пачатковай і сярэдняй школы ў СССР" былі ўстаноўлены адзіныя для ўсёй краіны тыпы агульнаадукацыйнай школы – пачатковая, няпоўная сярэдняя і сярэдняя. Вучэбныя групы сталі называцца класамі. Гэта структура агульнаадукацыйнай школы з невялікімі ўдакладненнямі, карэкціроўкамі існуе і сёння.

Адной з цэнтральных праблем нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў Беларусі ў 20–30-я гады з'яўлялася ўвядзенне ўсеагульнага абавязковага навучання. Цяжкім і складаным быў шлях рэспублікі да гэтай мэты. Першая сусветная вайна нанесла вялікія страты сістэме народнай адукацыі Беларусі, бо значная частка тэрыторыі БССР знаходзілася ў зоне баявых дзеянняў. Настаўнікі былі мабілізаваны ў царскую армію, скарачалася колькасць пачатковых школ і вучняў. У 1915 г. у сельскіх пачатковых школах Беларусі (Бабруйскі, Барысаўскі, Ігуменскі, Мазырскі, Мінскі, Слуцкі паветы) вучылася ўсяго 38 % дзяцей 8–12-гадовага ўзросту, у 1917 г. іх колькасць у школах паменшылася да 28 %.

У гады нямецкай і польскай акупацыі (1918 – 1920) беларускія школы, вучэбнае абсталяванне, наглядныя дапаможнікі знішчаліся. Летам 1920 г. польскія акупанты адзначылі шлях свайго адступлення пажарышчамі і руінамі школьных будынкаў. Толькі ў Барысаўскім павеце было разрабавана і спалена 18 школьных будынкаў.

Пасля аднаўлення ў асноўным сеткі школ БССР атрымала магчымасць пачаць паступовы пераход да ўвядзення ўсеагульнага абавязковага навучання. Гэта работа пачалася ў кастрычніку 1923 г. Працавалі цэнтральная і мясцовыя сеткавыя камісіі, якія складалі арыенціровачныя планы развіцця школьнай сеткі на 10 і 15 гадоў, павелічэння кантынгенту вучняў, вызначалі кошт утрымання і выдаткі





на абсталяванне аднаго школьнага камплекта, а таксама фінансавыя выдаткі рэспублікі, акругоў, раёнаў і гарадоў на ажыццяўленне ўсеагульнага пачатковага навучання. Вынікам вялікай падрыхтоўчай работы з'явілася пастанова ЦВК і СНК БССР ад 7 красавіка 1926 г. "Аб увядзенні ўсеагульнага абавязковага навучання". Яна паставіла задачу закончыць ажыццяўленне ў рэспубліцы ўсеагульнага навучання дзяцей 8–11-гадовага ўзросту не пазней, чым у 1934/35 навучальным годзе.

Выконваючы гэта рашэнне, дзяржаўныя органы, органы народнай адукацыі, педагагічныя калектывы, грамадскія арганізацыі праводзілі растлумачальную работу сярод насельніцтва, перапіс дзяцей школьнага ўзросту, удзельнічалі ў будаўніцтве і рамонце школьных будынкаў і абсталявання, нарыхтоўцы паліва, добраўпарадкаванні школьных пляцаў, забеспячэнні дзяцей адзеннем і абуткам, падручнікамі і школьна-пісьмовымі прыладамі, арганізацыі гарачага харчавання і падвозу дзяцей у школу. Праводзіліся таксама камсамольскія суботнікі на карысць школы. У выніку гэтай работы ў 1929/30 навучальным годзе са 129 тыс. 8-гадовых дзяцей у школах БССР навучалася 117 758 чалавек, ці 91 % іх агульнай колькасці. Беларуская ССР першай з саюзных рэспублік ажыццявіла ў асноўным усеагульнае абавязковае навучанне дзяцей 8-гадовага ўзросту.

У 1930–1932 гг. прадугледжвалася закончыць увядзенне ўсеагульнага абавязковага навучання за курс пачатковай школы для ўсіх дзяцей ва ўзросце 8–11 гадоў і прыступіць да ўвядзення ўсеагульнага сямігадовага навучання ў прамысловых гарадах, фабрычна-заводскіх раёнах і рабочых пасёлках. Для каардынацыі дзейнасці дзяржаўных і грамадскіх арганізацый пры раённых і сельскіх Саветах дэпутатаў працоўных ствараліся камітэты садзейнічання ўсенавучу. 30 ліпеня 1930 г. ЦК ВЛКСМ прыняў рашэнне аб устанаўленні шэфства камсамола над усенавучам. У час культэстафеты, адзін з маршрутаў якой называўся "За ўсеагульнае абавязковае навучанне", камсамольскія арганізацыі Беларусі збіралі сродкі на патрэбы ўсенавуча, дапамагалі дзецям беднаты адзеннем і абуткам, прывозілі ў школы падручнікі, сшыткі, пісьмовыя прылады, дапамагалі ў стварэнні школьных інтэрнатаў, падвозілі дзяцей у школу з далёкіх вёсак. Па ініцыятыве камсамольскіх арганізацый 8 лістапада 1930 г. адбыўся Усебеларускі суботнік дапамогі ўсеагульнаму абавязковаму навучанню. Толькі ў 1931 г. у БССР ад правядзення суботнікаў у фонд дапамогі школе было ўнесена 60 тыс. рублёў, якія выкарыстоўваліся галоўным чынам для аказання дапамогі дзецям беднаты. Усяго ў 1931 г. сіламі грамадскасці Беларусі ў фонд усенавуча было ўнесена 1430 тыс. рублёў.

У 1930/31 навучальным годзе у першым канцэнтры адзінай працоўнай школы Беларусі было ахоплена 97 % усіх дзяцей ва ўзросце 8–10 гадоў. Паводле звестак 82 раёнаў і 3 гарадоў, са 131 тыс. дзяцей ва ўзросце ад 11 да 15 гадоў вучылася 121 тыс., што складала 92,4 % усіх падросткаў. У 10 гарадах і 21 фабрычна-заводскім раёне у

V групе займалася 95 % дзяцей, якія закончылі чатырохгадовую школу ў 1929/30 навучальным годзе. Такім чынам, у 1930/31 навучальным годзе ў БССР было ў асноўным уведзена ўсеагульнае абавязковае навучанне дзяцей 8–10-гадовага ўзросту, а таксама пераросткаў ва ўзросце 11–15 гадоў і пачалася работа па ажыццяўленні ўсенавуча ў аб'ёме сямігадовай школы.

У "Нарысах гісторыі Беларусі" (Мн., 1995. Ч.2. С.179) утрымліваецца памылка: "Кіраўніцтва рэспублікі паспешліва абвясціла, што ўжо ў 1932 г. у БССР быццам бы ажыццявілася ўсеагульнае пачатковае навучанне, хоць на самой справе было не так". У 1931/32 навучальным годзе ў БССР 97,9 % усіх дзяцей ва ўзросце 8–11 гадоў вучыліся ў першым канцэнтры адзінай працоўнай школы. У гарадах, прамысловых цэнтрах і 17 раёнах рэспублікі ў V групе вучылася 96 % дзяцей. Як сведчаць лічбы, у 1931/32 навучальным годзе ў БССР было завершана ажыццяўленне ўсеагульнага абавязковага пачатковага навучання і працягвалася паступовае ўвядзенне ўсенавуча на базе сямігадовай школы. Гэта выдатная перамога беларускага народа на фронце культурнага будаўніцтва, атрыманая ў параўнальна кароткі тэрмін.

З другой паловы 1932 г. Беларуская ССР пачала вырашаць задачу поўнага ажыццяўлення ўсеагульнага абавязковага навучання за курс сямігадовай школы. Як і ў папярэднія гады, у гэтай рабоце актыўна ўдзельнічалі калектывы прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў, педагагічныя калектывы, камсамольскія і прафсаюзныя арганізацыі. Праводзіліся штогод у першы дзень заняткаў "дні вучобы", агляды і спаборніцтвы на лепшую падрыхтоўку школ да новага вучэбнага года, камсамольскія рэйды "лёгкай кавалерыі" па праверцы гатоўнасці школ да новага навучальнага года і работы магазінаў, якія забяспечвалі школьнікаў падручнікамі, сшыткамі і пісьмовымі прыладамі. Аказвалася таксама шэфская дапамога школам прамысловымі і сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі па вырабу мэблі, абсталявання для вучэбных майстэрняў, кабінетаў і лабараторый, набыццю спартыўнага інвентару, радыёфікацыі школ, стварэнні спартыўных пляцовак, школьных бібліятэк, забеспячэнні школ настаўніцкімі кадрамі. З 1931 да 1939 г. камсамольскія арганізацыі Беларусі накіравалі на вучобу ў педагагічныя навучальныя ўстановы больш за 5,5 тыс. членаў ВЛКСМ.

У другую пяцігодку значна вырас кантынгент вучняў у старэйшых класах няпоўнай сярэдняй і сярэдняй школы. Калі ў 1932/33 навучальным годзе ў V – VIII групах налічвалася 152 526 вучняў, дык у 1937/38 годзе іх колькасць павялічылася да 278 454. Колькасць сямігадовых школ БССР за гэтыя гады паменшылася з 1589 да 1545, што было звязана з пераўтварэннем некаторых сямігадовых школ у сярэднія. Быў зроблены буйны крок у ажыццяўленні ўсеагульнага сямігадовага навучання і ў развіцці сярэдняй адукацыі ў Беларускай ССР.





XVIII з'езд ВКП(б) (1939) паставіў задачу забеспячэння ўсеагульнага сярэдняга навучання ў горадзе і завяршэння арганізацыі ў вёсцы і ва ўсіх нацыянальных рэспубліках усеагульнага сямігадовага навучання. Гэта была задача, разлічаная на перспектыву, на многія дзесяцігоддзі.

Падрыхтоўкай спецыялістаў для гаспадаркі і культуры, а таксама органаў партыйнага і дзяржаўнага кіравання займаліся вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы. Вядома, што да Кастрычніцкай рэвалюцыі ВНУ на Беларусі не было. У Віцебску, Магілёве і Мінску дзейнічалі настаўніцкія інстытуты, у якіх на 1 студзеня 1915 г. вучыліся толькі 187 чалавек і працавалі 30 выкладчыкаў і супрацоўнікаў. Настаўніцкія інстытуты не толькі не давалі вышэйшай адукацыі, але і не карысталіся правамі сярэдняй школы: іх выпускнікі былі пазбаўлены права паступаць у ВНУ.

У 1918 г. Віцебскі і Магілёўскі настаўніцкія інстытуты былі пераўтвораны ў вышэйшыя навучальныя ўстановы – педагагічныя інстытуты, а Мінскі настаўніцкі інстытут да восені 1918 г. знаходзіўся ў Яраслаўлі. У пачатку 1919 г. ён таксама пераўтвораны ў чатырохгадовы педагагічны інстытут. У 1919 г. пачалася новая рэарганізацыя: педагагічныя інстытуты пераўтвараліся ў інстытуты народнай адукацыі з чатырохгадовым тэрмінам навучання, якія рыхтавалі работнікаў для школьных, дашкольных і пазашкольных устаноў. У 1919/20 навучальным годзе інстытутамі народнай адукацыі сталі Віцебскі і Магілёўскі педагагічныя інстытуты, а ў 1920/21 годзе – Мінскі педагагічны інстытут.

У 1918–1922 гг. у Віцебску існаваў археалагічны інстытут, створаны на базе аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута. Некаторы час у Віцебску працавалі таксама мастацка-практычны інстытут (у 1923 г. рэарганізаваны ў мастацкі тэхнікум), механіка-будаўнічы і сельскагаспадарчы інстытуты. Аднак матэрыяльныя цяжкасці прывялі да закрыцця гэтых інстытутаў у пачатку 20-х гадоў. Па гэтых жа прычынах закрыты ў канцы 1921 г. Мінскі інстытут народнай адукацыі, у 1923–1924 гг. – Віцебскі і Магілёўскі практычныя інстытуты народнай адукацыі. Іх студэнты былі пераведзены на педагагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

У красавіку 1919 г. калегія Наркамасветы РСФСР прыняла рашэнне аб аднаўленні Горы-Горацкага земляробчага інстытута на базе двух раней існаваўшых сельскагаспадарчых вучылішч. Інстытут у складзе 4 факультэтаў – сельскагаспадарчага, ляснога, інжынерна-меліярацыйнага і культурна-тэхнічнага – пачаў заняткі са студэнтамі восенню 1919 г. На ўсіх яго факультэтах у 1922 г. навучалася каля 700 студэнтаў.

У Мінску ў снежні 1920 г. на базе політэхнічнага вучылішча быў створаны Беларускі політэхнічны інстытут у складзе механічнага, культурна-тэхнічнага, агранамічнага і ляснога факультэтаў. Да заняткаў прыступіла каля 500 студэнтаў. У сувязі са слабым развіццём прамысловасці, яе разбурэннем у гады вайны, нязначным попытам



*Галоўны корпус Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках Магілёўскай вобласці*

на інжынерна-тэхнічныя кадры політэхнічны інстытут у канцы 1921 г. быў закрыты і на яго базе ў 1922 г. створаны інстытут сельскай і лясной гаспадаркі.

У 1925 г. адбылося зліццё Мінскага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі і Горацкага сельскагаспадарчага інстытута і на іх базе створана Беларуская дзяржаўная акадэмія сельскай гаспадаркі імя Кастрычніцкай рэвалюцыі ў складзе агранамічнага, ляснога, землеўпарадкавальнага і меліярацыйнага факультэтаў. Толькі за 1925–1930 гг. акадэмія падрыхтавала 1247 спецыялістаў для сельскай гаспадаркі.

Пасля вялікай падрыхтоўчай работы 30 кастрычніка 1921 г. адбылося афіцыйнае адкрыццё Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Яго першым рэктарам быў прызначаны вядомы рускі вучоны, гісторык-славіст, прафесар У.І.Пічэта.

У першы год ва універсітэце вучылася 1250 студэнтаў, заняткі вялі 14 прафесараў, 49 выкладчыкаў і асістэнтаў. У складзе універсітэта ў 1922/23 навучальным годзе дзейнічалі факультэты: рабочы, грамадскіх навук, педагагічны і медыцынскі, факультэт права і гаспадаркі.

Для падрыхтоўкі заатэхнікаў і ветэрынарных работнікаў у 1924 г. створаны Віцебскі ветэрынарны інстытут, у якім прыступілі да заняткаў каля 100 студэнтаў і 11 выкладчыкаў.

Падрыхтоўкай кадраў партыйных і савецкіх работнікаў займаліся губернскія савецкія і партыйныя школы, якія працавалі ў Мінску, Віцебску, Гомелі і Магілёве. У 1925 г. Мінская вышэйшая партыйная







*Панарама Універсітэцкага гарадка ў Мінску. Пабудаваны ў 1928–1931 гг.*

школа была рэарганізавана ў Камуністычны універсітэт імя У.І. Леніна, а ў 1932 г. апошні пераўтвораны ў Вышэйшую камуністычную сельскагаспадарчую школу Беларусі. Гэта школа, як і яе папярэднік – камвуз, рыхтавала кадры для партыйнага і дзяржаўнага будаўніцтва.

Працавалі навучальныя ўстановы мастацкага накірунку. У канцы 1920 г. у Віцебску і Мінску створаны кансерваторыі, якія ў 1923 г. былі рэарганізаваны ў музычныя тэхнікумы. У 1932 г. па рашэнні СНК БССР у Мінску пачала дзейнічаць Беларуская дзяржаўная кансерваторыя. З 1923 г. у Маскве працаваў Беларускі дзяржаўны інстытут тэатральнага мастацтва. Адсутнасць сродкаў, памяшканняў і выкладчыцкіх кадраў вымусіла ў 1926 г. яго закрыць.

Ажыццяўленне палітыкі індустрыялізацыі і калектывізацыі сельскай гаспадаркі патрабавала новых інжынерна-тэхнічных і сельскагаспадарчых кадраў. Іх было недастаткова. У 1929 г. у прамысловасці Беларусі працавалі толькі 101 інжынер, 164 тэхнікі і 420 практыкаў. Да канца ж першай пяцігодкі патрабавалася каля 3 тыс. інжынераў і тэхнікаў.

У 1930–1931 гг. у Беларусі створана новая сістэма і сетка навучальных устаноў па падрыхтоўцы інжынерна-тэхнічных, сельскагаспадарчых кадраў і эканамістаў. Пачалася рэарганізацыя Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў мэтах стварэння новых вышэйшых навучальных устаноў.



*Першы выпуск Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Злева направа: П.П.Падкавыраў, А.В.Багатыроў, М.Я.Крошнер, В.А.Залатароў, В.В.Зорын, А.М.Папоў, В.А.Яфімаў. 1937 г.*

У 1930–1931 гг. на базе факультэтаў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі створаны 11 навучальных устаноў. Сярод іх інстытуты – лясны (Гомель), заатэхнічны, водна-меліярацыйны, кармавых культур, прадзільных культур (Горкі), свінаводчы (Сляпянка пад Мінскам), садова-агародны (Лошыца) і інш. У складзе Беларускага дзяржаўнага універсітэта засталіся толькі 3 факультэты: фізіка-матэматычны, хімічны і біялагічны, а на базе іншых факультэтаў было створана 6 самастойных інстытутаў: Мінскі медыцынскі (на базе медыцынскага факультэта), Вышэйшы педагагічны (на базе педагагічнага факультэта, цяпер Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт), Магілёўскі палітыка-асветніцкі ( на базе палітыка-асветніцкага аддзялення педагагічнага факультэта), планава-эканамічны і кааператыўны (на базе факультэта народнай гаспадаркі), савецкага будаўніцтва і права (на базе аднайменнага факультэта).

Аднак стварэнне "карлікавых" ВНУ прывяло да аслаблення вучэбна-матэрыяльнай базы, нерацыянальнага выкарыстання сродкаў, пагаршэння якаснага ўзроўню прафесарска-выкладчыцкага саставу, парушэнняў дысцыпліны, частай змены вучэбных планаў і праграм, паніжэння якасці падрыхтоўкі спецыялістаў і прэстыжу вышэйшай школы. Многія навучальныя ўстановы ўжо праз год не маглі







*Фасад галоўнага корпуса Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.М.Горкага. 1936 г.*

працягваць работу. Трэба было тэрмінова выпраўляць памылкі, рабіць новую рэарганізацыю навучальных устаноў, іх узбуйненне. У 1933 г. у Мінску створаны Інстытут народнай гаспадаркі, у склад якога ўвайшлі фінансава-эканамічны, планава-эканамічны і кааператыўны інстытуты. У гэтым жа годзе маленькія інстытуты з вузкай спецыялізацыяй былі аб'яднаны ў адзіны Беларускі сельскагаспадарчы інстытут у Горках. Магілёўскі заатэхнічны інстытут, створаны ў 1930 г., увайшоў у склад Віцебскага ветэрынарна-заатэхнічнага інстытута. У 1933 г. створаны Беларускі політэхнічны інстытут, у склад якога ўвайшлі мінскія будаўнічы, электратэхнічны і тарфяны інстытуты, іншыя навучальныя ўстановы. Яны сталі факультэтамі новай ВНУ.

У 1930 г. у Віцебску, Гомелі, Магілёве і Оршы былі створаны двухгадовыя педагагічныя інстытуты для падрыхтоўкі настаўніцкіх кадраў. У 1933–1934 гг. яны пераўтвораны ў чатырохгадовыя педагагічныя інстытуты (за выключэннем Аршанскага, які зліўся з Магілёўскім пєдінстытутам). У чатырохгадовы інстытут пераўтвораны таксама і Вышэйшы (Мінскі) педагагічны інстытут.

У выніку рэарганізацыі ў Беларусі склалася новая сістэма вышэйшай адукацыі. Калі ў 1925 г. працавала 4 ВНУ з 4342 студэнтамі і 436 выкладчыкамі, дык у 1932 г.– 31 ВНУ з 10 574 студэнтамі і 1388 выкладчыкамі.

У сувязі з ажыццяўленнем усенавуча на базе сямігадовай школы і недахопам настаўнікаў для 5–7 класаў сямігадовых і сярэдніх школ рашэннем СНК БССР у 1935–1937 гг. былі створаны двухгадовыя



*Фасад галоўнага корпуса Беларускага політэхнічнага інстытута. 1940 г.*

настаўніцкія інстытуты ў Мінску, Віцебску, Гомелі, Магілёве, Оршы і Рагачове. У 1937 г. у Мінску пачаў працаваць Інстытут фізічнай культуры.

Цяпер колькасць ВНУ ў Беларусі амаль такая ж, як у 30-я гады, і дзейнічаюць большасць створаных тады навучальных устаноў. Гэта сведчыць пра тое, што пры адкрыцці навучальных устаноў улічваліся магчымасці рэспублікі і яе рэальныя патрэбы ў кадрах спецыялістаў.

Значнае развіццё атрымала сярэдняя спецыяльная адукацыя. Былі адкрыты новыя сельскагаспадарчыя, індустрыяльныя, педагагічныя і іншыя навучальныя ўстановы, павялічыўся кантынгент навучэнцаў. Калі ў 1925/26 навучальным годзе ў БССР працавала 29 тэхнікумаў з 4,9 тыс. навучэнцаў, дык у 1932/33 годзе – 104 навучальныя ўстановы на 20 тыс. навучэнцаў, а ў 1939/40 годзе (ва ўсходніх абласцях) было 102 тэхнікумы, у якіх налічвалася 33,6 тыс. навучэнцаў. Толькі ў другой пяцігодцы ў БССР тэхнікумы выпусцілі 19 678 спецыялістаў, у 1938–1939 гг.– 17 488.

Кадры кваліфікаваных рабочых рыхтаваліся ў прафесійных школах (прафшколах). У 1928/29 навучальным годзе іх было ў БССР 36 (4437 вучняў). У 1930 г. прафшколы ліквідаваны, а на іх базе створаны школы фабрычна-заводскага навучання (ФЗН). Апошнія існавалі ў Беларусі з пачатку 20-х гадоў. Цяпер яны выраслі колькасна, павялічыўся кантынгент вучняў. Школы ФЗН перайшлі з падпарад-







*Будынак Беларускага дзяржаўнага інстытута фізічнай культуры на Камароўскай плошчы ў Мінску. 1941 г.*

кавання Наркамасветы ў веданне гаспадарчых аб'яднанняў, Вышэйшага Савета народнай гаспадаркі і Наркамзема БССР. У канцы 1931 г. у БССР было 103 школы ФЗН, у якіх налічвалася 20,8 тыс. вучняў. Акрамя прафшкол і школ ФЗН дзейнічалі прафесійныя курсы, брыгаднае і індывідуальнае навучанне на фабрыках і заводах.

У гады другой пяцігодкі асноўнымі формамі падрыхтоўкі кадраў рабочых па-ранейшаму з'яўляліся школы фабрычна-заводскага навучання, а таксама вытворча-тэхнічнае навучанне на заводах і фабрыках без адрыву ад вытворчасці (у школах, гуртках, вучэбных групах і на курсах). Усяго за гады другой пяцігодкі школы ФЗН падрыхтавалі каля 25 тыс. кваліфікаваных рабочых.

На 1 студзеня 1939 г. у Беларускай ССР працавалі толькі 28 школ ФЗН, у якіх вучылася больш за 4 тыс. чалавек. Ні гэтыя навучальныя ўстановы, ні сістэма падрыхтоўкі кадраў на прадпрыемствах не маглі поўнасцю забяспечыць прамысловасць, будаўніцтва, транспарт і сувязь кваліфікаванымі рабочымі. Патрэбна была перабудова ўсёй сістэмы прафесійна-тэхнічнай адукацыі. Яна пачалася ў Беларусі ў 1940 г. у сувязі са стварэннем сістэмы Дзяржаўных працоўных рэзерваў СССР.

Кадры масавых прафесій для сельскай гаспадаркі ў пачатку 20-х гадоў рыхтавалі сельскагаспадарчыя школы (у канцы 1921 г. у БССР працавала 5 такіх школ) і вучэбна-практычныя майстэрні (на 1 студзеня 1926 г. іх у БССР было 6 з 453 вучнямі). З 1924 г. у Беларусі па прыкладу прамысловасці пачалося стварэнне школ сельска-



*Супрацоўнікі Інстытута беларускай культуры (злева направа): А.Гурло, Б.І.Эпімах-Шыпіла, К.М.Міцкевіч (Я.Колас), І.І.Замоцін, С.М.Некрашэвіч; стаяць: М.Я.Байкоў, І.П.Плашчынскі (Я.Пушча), В.Ф.Мачульскі. Мінск. 1927 г.*

гаспадарчага навучання, якія давалі спецыяльныя веды па паляводству, жывёлагадоўлі і садаводству. Аднак шырокага распаўсюджання ў Беларусі гэтыя школы не атрымалі. Працавалі таксама сельскагаспадарчыя гурткі і сельскагаспадарчыя курсы, на якіх рыхтавалі кадры масавых прафесій.

У гады калектывізацыі сельскай гаспадаркі ў Беларусі былі арганізаваны школы саўгаснага і трактарнага навучання, якія рыхтавалі токараў, слесараў, фрэзероўшчыкаў, трактарыстаў, меліяратараў і іншых спецыялістаў сельскай гаспадаркі. У 1932 г. у сістэме Наркамзема БССР працавала 48 школ саўгаснага і 3 школы трактарнага навучання, у якіх налічвалася 5360 чалавек. Пры МТС ствараліся курсы па вывучэнні сельскагаспадарчых машын. Дзейнічалі таксама калгасна-саўгасныя курсы механізатараў, аналагічныя курсы пры прадпрыемствах, воінскіх часцях, некаторых школах калгаснай моладзі. Усяго за гады першай пяцігодкі спецыяльнасць трактарыста атрымалі 22 тыс. чалавек, старшага трактарыста – 1300, механіка – 264 чалавекі, больш за 13 тыс. чалавек авалодалі навыкамі работы на складаных машынах. Акрамя таго, ажыццяўлялася падрыхтоўка шафёраў, электрыкаў і іншых тэхнічных кадраў для вёскі.

У другой пяцігодцы пры кожнай МТС ствараліся пастаянна дзеючыя курсы трактарыстаў, а падрыхтоўка механікаў і брыгадзіраў трактарных брыгад перадавалася ў сістэму стацыянарных школ. Працавалі таксама раённыя калгасныя школы, калгасныя і саўгасныя курсы па падрыхтоўцы старшынь калгасаў, брыгадзіраў-паляводаў, механізатараў, жывёлаводаў, садаводаў, пчалаводаў і г.д. У 1937 г. у 60 раёнах БССР у раённых школах вучылася 7930 чалавек. У перадваенныя гады ў Беларусі ствараліся і працавалі школы механізацыі сельскай гаспадаркі. У 1938 г. у школах механізацыі, раённых калгасных школах і на курсах было падрыхтавана больш за 10 тыс. механізатараў, у іх ліку 6300 трактарыстаў, 720 камбайнераў і іншых спецыялістаў.







*Галоўны корпус Дзяржаўнай бібліятэкі Беларускай ССР імя У.І.Леніна. Пабудаваны ў 1932 г.*

Такая сістэма падрыхтоўкі кадраў масавых прафесій існавала ў Беларусі ў 20–30-я гады.

20-я гады сталі часам нараджэння беларускай савецкай навукі. 30 студзеня 1922 г. на базе Навукова-тэрміналагічнай камісіі, якая дзейнічала з лютага 1921 г. і распрацоўвала беларускую навуковую тэрміналогію, заснаваны Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт). Яго задачай з'яўлялася вывучэнне мовы, літаратуры, гісторыі, этнаграфіі, эканомікі, прыродных багаццяў Беларусі. Важную ролю ў навуковым жыцці рэспублікі адыграла адкрыццё ў 1921 г. бібліятэкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта (пазней – Дзяржаўная бібліятэка БССР).

1 студзеня 1929 г. Інстытут беларускай культуры быў рэарганізаваны ў Беларускую акадэмію навук (з 1936 г.– АН БССР). У 1932 г. у яе складзе налічвалася 14 навукова-даследчых інстытутаў, дзе працавалі 22 сапраўдныя члены акадэміі і 150 навуковых

21. Зак. 5565

супрацоўнікаў. Усяго ў рэспубліцы было 40 навукова-даследчых устаноў, у якіх налічвалася каля 1,5 тыс. навуковых супрацоўнікаў, у аспірантуры навучалася 432 чалавекі.

Вучоныя займаліся даследаваннем рэсурсаў, праблемамі прыкладнога характару. Геолагі М. Ф. Бліадухо, А.М. Жырмунскі, Г.Ф. Мірчынк, П.А. Туткоўскі вывучалі гідраэнергетычныя рэсурсы, геалагічную структуру глеб, геамарфалогію рэспублікі, яе падземныя воды, чацвярцічныя і дэвонскія геалагічныя пласты. Былі адкрыты новыя паклады карысных выкапняў для прамысловасці будаўнічых матэрыялаў. Супрацоўнікі Інстытута торфу АН БССР і Горацкага сельскагаспадарчага інстытута вывучалі сапрапелі, праблемы гідролізу торфу. У Мінску быў пабудаваны першы эксперыментальны торфагідролізны завод.

Плённа працавалі вучоныя Інстытута хіміі АН БССР і кафедры хіміі Белдзяржуніверсітэта. Вядомы вучоны-хімік М. А. Прыляжаеў распрацаваў новы метад акіслення насычаных злучэнняў арганічнымі гідраперакісамі бензолу, вядомы пад назвай “рэакцыя Прыляжаева”. Акадэмік АН БССР У.В. Шкатэлаў з’явіўся заснавальнікам лесахіміі ў рэспубліцы. Яго навуковыя даследаванні і даследаванні яго лабараторыі знайшлі практычнае прымяненне: у 1929–1930 гг. пабудаваны першыя айчынныя каніфольна-шкіпінарныя заводы ў Барысаве і Бабруйску.

Значныя поспехі мелі беларускія вучоныя ў галіне даследавання праблем сельскай гаспадаркі, лесаводства, флоры і фауны. Акадэмік АН БССР А.К. Кедраў-Зіхман стварыў навуковыя працы па вапнаванні кіслых глеб, вывучаў ролю магнію ў вапнавых угнаеннях, уплыў вапны на біялагічную якасць насення, ужыванне мікраэлементаў у сувязі з вапнаваннем глебы. Ён з’явіўся арганізатарам першага ў СССР гамаполя. Акадэмік АН БССР Ц.М. Годнеў стварыў школу даследчыкаў біясінтэзу хларафілу, даказаў, што папярэднік хларафілу – пратахларафілід, упершыню ператварыў яго ў цемры ў хларафіл.

Доктар батанікі, з 1924 г. загадчык кафедры батанікі Белдзяржуніверсітэта М.М. Гайдукоў стварыў працы па фізіялогіі, экалогіі, марфалогіі і сістэматызацыі водарасцей. Ён стаў пачынальнікам навуковых даследаванняў у БССР па цыталогіі гэтых раслін. Упершыню скарыстаў ультрамікраскоп для вывучэння будовы раслінных абалонак і пратаплазмы. Прафесар, загадчык кафедры заалогіі Белдзяржуніверсітэта А.У. Фядзюшын стварыў працы па арніталогіі, пытаннях зберажэння і памнажэння рэсурсаў паляўнічай фауны. Паводле праекта А.У.Фядзюшына, у 1925 г. быў створаны першы ў СССР дзяржаўны бабровы запаведнік на р. Бярэзіне.

Працы акадэміка АН БССР Я.М. Афанасьева “Глебавыя раёны БССР” (1931), “Як павысіць ураджайнасць на глебах БССР” (1933) і іншыя атрымалі высокую ацэнку навуковых супрацоўнікаў і беларускіх земляробаў. Пад яго кіраўніцтвам была складзена першая





глебавая карта рэспублікі. Акадэмік АН БССР М.А.Дарожкін выявіў новы цыкл развіцця фітафторы і раку бульбы, распрацаваў агратэхнічны метад барацьбы з гэтай хваробай, праводзіў работу ў галіне імунітэту бульбы і памідораў да фітафторы.

Праводзіліся даследаванні і ў галіне гуманітарных навук. Археолагі А. М. Ляўданскі, С. А. Дубінскі, К. М. Палікарповіч і іншыя вывучалі археалагічныя помнікі ў басейне Дняпра, Сожа, Заходняй Дзвіны. Іх работы прывялі да адкрыцця ў Беларусі стаянак верхняга палеаліту, пашырылі веды аб яе насельніцтве ў эпоху жалеза. Гісторыкі У. І. Пічэта, Д. А. Дудкоў, К. І. Кернажыцкі, В. К. Шчарбакоў апублікавалі работы па гісторыі эпохі феадалізму, капіталізму, Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі. Паспяхова працавалі ў галіне гісторыі Старажытнага Усходу М. М. Нікольскі, усеагульнай гісторыі – У. М. Перцаў.

Поспехі беларускай навукі, яе матэрыяльная база і кадры супрацоўнікаў закладвалі асновы для далейшага развіцця навуковых даследаванняў у рэспубліцы.

## § 2. Беларуская літаратура, тэатральнае і музычнае мастацтва: асноўныя напрамкі развіцця

У перыяд аднаўлення народнай гаспадаркі літаратура і мастацтва развіваліся ў складаных умовах. Гэта быў час узнікнення і ідэйнай барацьбы розных плыняў і груповак, абумоўленай сацыяльнай неаднароднасцю грамадства і абвастрэннем супярэчнасцей паміж сіламі новага і старога свету.

Адной з асаблівасцей развіцця беларускай літаратуры ў гэтыя гады з’яўлялася тое, што ў асяроддзе пісьменнікаў улілася вялікая група маладых талентаў з вёскі. У большасці сваёй маладыя літаратары з’яўляліся прыхільнікамі сацыялістычнай рэвалюцыі і выступалі, хоць і не заўсёды паслядоўна, вешчунамі новага жыцця.

У 20-я гады ў Беларусі дзейнічалі некалькі літаратурных аб’яднанняў, найбольш вядомыя з іх – “Маладняк”, “Узвышша”, “Полымя”.

Літаратурнае аб’яднанне “Маладняк” (узнікла ў канцы 1923 г.) у асноўным з’яўлялася арганізацыяй маладых пралетарскіх пісьменнікаў, якія віталі Кастрычніцкую рэвалюцыю і прызнавалі актыўную ролю літаратуры ў барацьбе за новае жыццё. За кароткі перыяд сваёй дзейнасці аб’яднанне пераўтварылася ў буйную літаратурную арганізацыю. Філіялы “Маладняку” былі створаны ў Мінску, Віцебску, Гомелі, Бабруйску, Мазыры, Магілёве, Полацку, Оршы, Слуцку, Барысаве, Клімавічах, а таксама ў Маскве, Ленінградзе, Смаленску і нават у Празе пры Саюзе студэнтаў-беларусаў. У 1925–1926 гг. “Маладняк” аб’ядноўваў 500 чалавек. Сярод іх былі А. Александровіч, П. Галавач, А. Звонак, М. Лынькоў, П. Трус, У. Хадыка, М. Чарот і інш.

У 1921–1925 гг. на ўсю моц загучалі галасы пісьменнікаў старэйшага пакалення. У 1922 г. выйшаў зборнік вершаў Я. Купалы "Спадчына", а ў 1925 г. – паэма "Безназоўнае". У 1923–1925 гг. Я. Колас апублікаваў паэмы "Новая зямля" і "Сымон-музыка". Вершы Ц. Гартнага ўвайшлі ў зборнікі "Песні працы і змагання" (1922) і "Урачыстасць"(1925). Былі выдадзены зборнікі "Пад родным небам" З. Бядулі, "Барвёнак" і "Спатканне" А. Гурло, "Завіруха" М. Чарота, "Па беларускім бруку" А. Александровіча, "Сонечнымі сцежкамі" А. Дудара, "Заранкі" Я. Журбы, "Асцё" і "Крапіва" К. Крапівы і інш.

Беларуская паэзія вітала рэвалюцыю і натхнёна апявала нараджэнне новага грамадства. Для яе характэрныя былі аптымізм, дух змагання за новае жыццё. Для пісьменнікаў, як і для ўсяго беларускага народа, гэта быў час агульнага духоўнага ўздыму, час надзей, веры і мар. Гэта быў час рэвалюцыйнага абнаўлення. Уражвае тагачасны, можна сказаць унікальны, энтузіязм народа. У беларусаў жа былі і свае, асаблівыя прычыны радавацца: яны нарэшце атрымалі сваю дзяржаўнасць, беларуская мова і культура цяпер былі прызнаны афіцыйна.

Біяграфіі пісьменнікаў, якія абавязаны сваім духоўным нараджэннем сацыялістычнай рэвалюцыі, асабліва яскрава сведчаць, як хутка, як паскорана адбываўся іх творчы рост. Кузьма Чорны, які ў 1923 г. апублікаваў свае першыя апавяданні, праз чатыры гады ўжо стаў аўтарам двух раманаў – "Сястра" і "Зямля". Кандрат Крапіва за тыя ж гады набыў небывалую папулярнасць ва ўсіх кутках беларускай зямлі як смелы вастраслоў і дасціпны байкапісец. Адам Бабарэйка, "начштаба" літаратурнага аб'яднання "Узвышша", які толькі сцвердзіўся як праніклівы крытык, ужо тады складаў стратэгічныя планы далейшага ўзвышэння беларускай літаратуры.

Адметнае месца ў беларускай літаратуры занялі паэмы Я. Коласа "Новая зямля" і "Сымон-музыка". Гэта глыбока народныя творы, у якіх з велізарнай сілай паэтычнага абагульнення адлюстраваны жыццё, праца і духоўны свет простых людзей дарэвалюцыйнай Беларусі. У паэме "Сымон-музыка" Я. Колас узняў тэму грамадскай ролі мастацтва. Ён сцвярджаў высокае прызначэнне мастацтва служыць народу. Да лепшых твораў таго часу адносіцца таксама паэма Я.Купалы "Безназоўнае". Яна з'явілася адным з першых твораў беларускай літаратуры, у якім апявалася веліч Кастрычніцкай рэвалюцыі. У чэрвені 1925 г. урад Беларускай ССР прысвоіў Я. Купалу ганаровае званне народнага паэта. Праз год званне народнага паэта было прысвоена і Я. Коласу.

Гістарычным падзеям Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны прысвечаны паэмы "Босыя на вогнішчы", "Марына" М.Чарота; "З сказаў буры і віхораў" З. Бядулі; "Юны змаганец", "Астрожнік" П.Труса і інш. Гэтыя творы не толькі перадавалі пафас і драматызм рэвалюцыі, але і адлюстроўвалі падзеі паслярэвалюцыйных гадоў, думы народа і яго імкненне да новага жыцця.





Паспяхова развівалася беларуская проза. Найбольш буйнымі творамі былі аповесць "У палескай глушы" Я. Коласа, раман "Сцежкі-дарожкі" М. Зарэцкага. З кнігамі апавяданняў выступілі А. Александровіч, М. Зарэцкі, К. Чорны, М. Чарот. Асноўная тэма беларускай прозы тых гадоў – падзеі грамадзянскай вайны, новае жыццё і лёс людзей у паслякастрычніцкі перыяд.

У другой палове 20-х гадоў развіццё беларускай савецкай літаратуры адбывалася ў вострай барацьбе ідэйна-эстэтычных тэндэнцый, розных літаратурных груповак. Найбольш масавай арганізацыяй па-ранейшаму быў "Маладняк". Аднак якраз у гэты перыяд асабліва выразна выявілася слабасць яго ідэйна-эстэтычнай і арганізацыйнай платформы. Большасць таленавітых і творча актыўных пісьменнікаў (К. Чорны, К. Крапіва, У. Дубоўка, Я. Пушча, А. Бабарэка, М. Лужанін, П. Глебка), выказаўшы сваю нязгоду са зняважлівымі адносінамі членаў "Маладняку" да культурнай спадчыны, да павышэння адукацыйнага і прафесійнага ўзроўню, у 1926 г. выйшлі з гэтай арганізацыі і ўтварылі літаратурнае аб'яднанне "Узвышша". Гэта аб'яднанне імкнулася ўзняць ідэйна-мастацкі ўзровень літаратуры, зрабіць яе дзейсным фактарам жыцця рэспублікі, крытыкавала пісьменнікаў-маладнякоўцаў за нігілістычныя адносіны да культурнай спадчыны і нацыянальных традыцый.

У канцы 1927 г. аформілася літаратурнае аб'яднанне "Полымя". У яго арганізацыйную групу ўвайшлі Я. Колас, Я. Купала, Ц. Гартны, А. Гурло, М. Чарот, М. Зарэцкі, А. Дудар, А. Александровіч, А. Вольны і інш. Галоўнымі сваімі задачамі аб'яднанне лічыла развіццё беларускай мастацкай літаратуры ў непасрэднай сувязі з патрэбамі сацыялістычнага будаўніцтва.

У лістападзе 1928 г. Усебеларускі з'езд "Маладняку" вырашыў утварыць Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП). З гэтага часу "Маладняк" спыніў сваё існаванне.

Па-ранейшаму актыўна працавалі пісьменнікі старэйшага пакалення. Я. Купала стварыў шэраг паэтычных твораў, у якіх галоўнай праходзіла тэма сацыялістычнага будаўніцтва ў рэспубліцы. У 1927 г. выйшла другая частка трылогіі Я. Коласа "На ростанях" – аповесць "У глыбі Палесся". Ц. Гартны завяршыў шматгадовую працу над раманам "Сокі цаліны" (1914–1929). З'явіліся ў друку новыя апавяданні М. Гарэцкага. З. Бядуля стварыў аповесць "Салавей" (1928), працаваў над раманам "Язэп Крушынскі" (1929–1933). У сваёй творчасці дамагліся значных поспехаў такія пісьменнікі, як К. Чорны, М. Зарэцкі, П. Трус. На 20–30-я гады прыпадае пачатак творчай дзейнасці А. Куляшова, М. Лынькова, У. Хадыкі, Р. Мурашкі, В. Каваля, Я. Скрыгана, П. Броўкі, П. Глебкі, Б. Мікуліча, С. Баранавых, М. Лужаніна.

Адной з найбольш характэрных якасцей літаратуры 20 – пачатку 30-х гадоў з'явілася паглыбленне гістарызму. Пісьменнікі імкнуліся не толькі праўдзіва адлюстроўваць рэчаіснасць, эстэтычна сцвердзіць

яе, але і даць яе ў гістарычным разрэзе, г. зн. паказаць гістарычныя вытокі сучасных ім падзей, з вышыні сучаснасці падысці да маштабнага асэнсавання падзей мінулага. Менавіта ў гэтыя гады шмат цікавых твораў прысвечаны рэвалюцыйнаму мінуламу народа. Ц. Гартны ў рамане "Сокі цаліны", шырока паказваючы складаны шлях пераўтварэння простага сялянскага хлопца-бедняка ў рабочага-рэвалюцыянера, кіраўніка мас, сцвярджаў рабочы клас як рашаючую сацыяльную і маральную сілу грамадства. У паэме Я. Коласа "Новая зямля" выказвалася вера ў чалавека працы, у яго таленавітасць, падкрэслівалася неабходнасць барацьбы не толькі за дасягненне асабістага шчасця і асабістай свабоды, але і свабоды агульнай, выкрывалася ілюзія вызвалення ад усіх бед з дапамогай набыцця кавалка ўласнай зямлі, уласцівая сялянам Беларусі ў дакастрычніцкі час.

20–30-я гады з'явіліся перыядам далейшага ўмацавання сувязей беларускай літаратуры з літаратурамі іншых народаў нашай краіны, усталявання больш цесных кантактаў пісьменнікаў Беларусі з пісьменнікамі братніх рэспублік. Беларускія пісьменнікі часта наведвалі культурныя цэнтры Расійскай Федэрацыі, Украіны, Грузіі. У сваю чаргу прадстаўнікі братніх народаў былі жаданымі гасцямі на беларускай зямлі. На старонках беларускіх газет і часопісаў, а таксама асобнымі выданнямі друкаваліся творы У. Маякоўскага, М. Святлова, Дз. Беднага, А. Безыменскага і інш. Кнігі беларускіх пісьменнікаў сталі перакладаць і выдаваць на мовах народаў Савецкага Саюза. Пачатак шырокаму знаёмству чытачоў краіны з беларускай літаратурай быў пакладзены выданнем у 1919 г. у Маскве выбраных твораў Я. Купалы. Летам 1940 г. праходзіла першая дэкада беларускай літаратуры і мастацтва ў Маскве, якая знаёміла з дасягненнямі беларускага народа ў самых разнастайных галінах творчасці.

У 30-я гады завяршыўся працэс стварэння адзінай пісьменніцкай арганізацыі Беларусі. У сувязі з ростам колькасці пісьменнікаў і няздольнасцю шматлікіх пісьменніцкіх арганізацый да аб'яднання, а таксама для ўзмацнення партыйнага ўплыву на літаратурны працэс ЦК ВКП(б) вырашыў ліквідаваць шматлікія пісьменніцкія арганізацыі і аб'яднаць усіх пісьменнікаў, якія падтрымліваюць платформу савецкай улады і імкнуцца ўдзельнічаць у сацыялістычным будаўніцтве, у адзіны саюз савецкіх пісьменнікаў. 23 красавіка 1932 г. была прынята пастанова ЦК ВКП(б) "Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый". Аналагічную пастанову неўзабаве прыняў ЦК КП(б) Беларусі.

У чэрвені 1934 г. у Мінску адбыўся І з'езд пісьменнікаў Беларусі, на якім прысутнічала больш за 100 дэлегатаў. З'езд арганізацыйна аформіў стварэнне Саюза пісьменнікаў БССР. Былыя маладнякоўцы, узвышэнцы, палымянцы ў сваіх дэкларацыях назвалі сябе дзецьмі рэвалюцыі, сынамі Кастрычніка. Такімі яны сапраўды былі ў жыцці. Такімі яны заставаліся да апошніх дзён, азмрочаных арыштамі,





высылкамі, здзекамі, гвалтоўнай смерцю, падазрэннямі, недаверам, страхам. Паводле няпоўных звестак, у 30-я гады арыштавана каля 90 пісьменнікаў. Большасць з іх загінула ў лагерах. Не стала такіх выдатных майстроў слова, як Максім Гарэцкі, Уладзіслаў Галубок, Міхась Чарот, Міхась Зарэцкі, Алесь Дудар, Платон Галавач...

У змрочную пару рэпрэсій канца 30-х гадоў злавесны цень расправы зноў навіс над Янкам Купалам і Якубам Коласам, як і над іншымі дзеячамі нашай культуры. І толькі дзякуючы смеласці і настойлівасці П. К. Панамарэнкі, які быў тады першым сакратарам ЦК КП(б)Б, гэту бяду ўдалося адвесці. Больш таго, вядучыя беларускія пісьменнікі і паэты атрымалі вышэйшыя ўзнагароды Радзімы: у 1939 г. ордэнам Леніна былі ўзнагароджаны Я. Купала, Я. Колас, М. Лынькоў, Э. Самуйлёнак, З. Бядуля, П. Броўка, П. Глебка; у 1940 г. ордэн Леніна атрымаў К. Крапіва.

Праблема палітычных рэпрэсій у адносінах да многіх дзеячаў культуры – вельмі складаная навуковая праблема. Яе поўнасцю не скора вырашаць гісторыкі. Складанасць перш-наперш у тым, што да цяперашняга часу не выяўлены сапраўдныя прычыны рэпрэсій, што амаль нічога не гаворыцца (ці гаворыцца мала) аб даносах, паклёпах, бесчалавечнасці, кар'ерызме вельмі многіх дзеячаў культуры, у тым ліку і пісьменнікаў, аб іх сапраўды амаральных паводзінах (некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што ў 30-я гады амаль усе творчыя работнікі пісалі ганебныя даносы адзін на аднаго). У сённяшніх публікацыях, большасць з якіх носіць палітыка-эмацыянальны характар і напісана не прафесіяналамі-гісторыкамі, а літаратарамі, публіцыстамі, журналістамі і г.д., без дастатковых канкрэтна-гістарычных матэрыялаў, фактаў і аргументаў ва ўсіх грахах, якія сапраўды былі, абвінавачваюцца толькі кіруючая партыя, улады, іх карныя органы. Па-іншаму думаць абавязваюць матэрыялы, якія змясціў у "Звяздзе" вядомы беларускі вучоны, доктар філасофскіх навук У.М.Конан. Ён паведаміў наступнае:

" У 30-я гады ў "ЛіМе" друкаваліся пратаколы партсходаў. Вось даклад са сходу 25 сакавіка 1937 г., які рабіў намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Александровіч... Цытую: "Жылуновіч – Цішка Гартны – гэта закончаны, закляты вораг беларускага народа; Зарэцкі працягваў тыя ж самыя ідэі, што і Жылуновіч. Сымон Баранавых – кулак, юродзівы бандыт..." і гэтак далей... Дацэнт В. Барысенка ў акадэмічных артыкулах 1936 года называў М. Гарэцкага "нацыянал-фашыстам", а Я. Коласа – прапагандыстам "містыкі і буржуазнага нацыяналізму". Што было рабіць пасля гэтага адпаведнаму органу?

*Рэпліка:* Публічны данос!

*У. Конан:* Так. А потым – сход у пачатку чэрвеня. "Тав. Куляшоў падрабязна спыняецца на двурушніцтве і антыпартыйнай дзейнасці Александровіча, які да апошняга часу патураў дзейнасці нацдэмаў. Крытык Кучар пытаецца: "Як Александровіч трапіў у пралетарскія

паэты? Ён ім ніколі не быў!" Яшчэ адна фраза з яго ж артыкула "Як дзейнічае вораг": "Адным з агіднейшых бандытаў пяра з'яўляецца шпіён Чарот". К. Чорны падрабязна спыняецца на дзейнасці "Маладняку" і "Узвышша", прыводзіць факты, якія выкрываюць іх контррэвалюцыйную сутнасць ("У іх шэрагах былі фашысцкія шпіёны Ігнатоўскі, Дыла..."). І яшчэ цытата: "Прыпёрты на сходзе да сцяны крытыкай, Александровіч прызнаўся, што пісаў контррэвалюцыйныя творы свядома, а не памыляўся, як сцвярджаў раней" (Звязда. 1987. 22 снеж.). Пасля такіх мярзотных абвінавачванняў з боку "таварышаў па пяру", самапрызнанняў у варожай дзейнасці на сходах і ў друку (а прызнанне ў той час з'яўлялася "царыцай" доказу вінаватасці) вельмі цяжка ўявіць, як павінны былі сябе паводзіць партыйныя і дзяржаўныя кіраўнікі, работнікі следчага апарату, пракуратуры і суда.

У час пабудовы новага грамадства важная роля належала жывому мастацкаму слову, якое гучала са сцэны, з тэатральных падмосткаў. Асаблівасць сцэнічнага мастацтва заключаецца ў тым, што яно мае магчымасць непасрэдна і вельмі эмацыянальна ўздзейнічаць на шырокія народныя масы.

Тэатральнаму мастацтву Беларусі давялося прайсці даволі складаны шлях творчага станаўлення. У пачатку нашага стагоддзя славуты дзеяч сцэны І. Буйніцкі зрабіў спробу стварыць беларускі нацыянальны прафесійны тэатр на аснове Першай беларускай трупы, якой ён кіраваў у 1907–1912 гг. Другая спроба зноў жа была звязана з дзейнасцю І. Буйніцкага, а таксама Ф. Ждановіча і У. Фальскага, якія пасля лютага 1917 г. арганізавалі Першае таварыства драмы і камедыі – тэатр у поўным сэнсе гэтага слова прафесійны. Творчы калектыў з пераменным поспехам працаваў да 1920 г. Неўзабаве пасля выгнання з тэрыторыі Беларусі войск Польшчы ў верасні 1920 г. быў адкрыты Першы Беларускі дзяржаўны тэатр (БДТ-1) (цяпер Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы ў Мінску). За першыя два сезоны (1921–1922) тэатр паставіў каля 30 п'ес. Сярод іх – "Рысь" (паводле аповесці Э. Ажэшкі "У зімовы вечар"), "Паўлінка", "Раскіданае гняздо", "Сон на кургане", "Прымакі" Я. Купалы, "На дне" М. Горкага і інш. Аднак асобныя пастаноўкі ажыццяўляліся на нізкім мастацкім узроўні, што тлумачылася перш за ўсё недастатковым прафесійным майстэрствам многіх акцёраў, адсутнасцю кваліфікаванай рэжысуры, а таксама працай ва ўмовах, калі ў памяшканні БДТ-1 адначасова суіснавалі тры трупы: беларуская, руская і яўрэйская, прычым напачатку перавага аддавалася дзвюм апошнім, і толькі ў канцы 1922 г. будынак тэатра афіцыйна быў замацаваны за беларускай трупай.

У паляпшэнні работы Першага Беларускага дзяржаўнага тэатра вялікая заслуга належыць Е. Міровічу, які ў верасні 1921 г. стаў яго мастацкім кіраўніком. У канцы 1921 г. Е. Міровіч паставіў п'есы М. Чарота "На купалле", В. Гарбацэвіча "Вяселле". У наступныя гады ставіліся п'есы Е. Міровіча "Машэка", "Кастусь Каліноўскі", "Каваль-ваявода", "Кар'ера таварыша Брызгаліна", "Перамога" і іншыя спектаклі. Вялікая частка пастановак тэатра завастрала ўвагу гледача на сацыяльных пытаннях і рэвалюцыйнай барацьбе мас, расказвала аб мінулым і сучасным жыцці беларускага народа.

У 1923 г. Першы Беларускі дзяржаўны тэатр упершыню дэманстраваў сваё майстэрства ў Маскве. Ён выступаў у рабочых клубах, Зялёным тэатры і ў Крамлі. ЦВК СССР, адзначаючы поспехі маладога беларускага тэатра, узнагародзіў яго Ганаровай граматай.

Побач з Першым Беларускім дзяржаўным тэатрам у Мінску пачала працаваць тэатральная трупа У. Галубка. Да 1924 г. трупа У. Галубка вырасла, мацнела яе мастацкае майстэрства. Па сутнасці, яна стала прафесійным тэатрам. У сувязі з гэтым у верасні 1924 г. яна атрымала назву Беларускай тэатральнай трупы, а ў 1926 г. была пераўтворана ў Беларускі вандроўны тэатр. У 1926 г. у Віцебску адкрыўся Другі Беларускі дзяржаўны тэатр (БДТ-2), ядро якога склалі маладыя артысты, выпускнікі Беларускай драматычнай студыі, што распачала сваю работу ў Маскве ў лістападзе 1921 г. (дзеля падрыхтоўкі высокакваліфікаваных акцёраў).

Вялікую дапамогу ў падрыхтоўцы творчых работнікаў аказваў Беларусі рускі народ. Неаднаразовыя паездкі ў Маскву, вучоба ў лепшых маскоўскіх майстроў сцэны садзейнічалі хуткаму творчаму росту калектываў тэатраў. У 1923 г. на Усерасійскай сельскагаспадарчай і саматужна-прамысловай выстаўцы ў Маскве дасягненні сцэнічнага мастацтва рэспублікі прадэманстраваны паказамі лепшых спектакляў БДТ-1.

Без нацыянальнага рэпертуару беларускі тэатр, безумоўна, не мог нармальна працаваць і развівацца. Гэта добра разумелі многія беларускія пісьменнікі, яны звярнуліся да напісання драматычных твораў, каб дапамагчы ліквідаваць той вялікі сцэнічны "голад", што тады адчуваўся. Стваральнікамі першых беларускіх п'ес савецкага часу сталі У. Галубок, М. Зарэцкі, В. Гарбацэвіч, Р. Кобец, М. Грамыка, Я. Рамановіч і інш.

Вядучай тэмай новай драматургіі Беларусі стала сацыялістычная рэканструкцыя народнай гаспадаркі, паказ асобы будаўніка новага грамадства. На сцэне БДТ-1 ставіліся п'есы беларускіх, рускіх і ўкраінскіх драматургаў, творы рускай і зарубежнай класікі. Да ліку лепшых пастановак тэатра адносяцца спектаклі "Заспяваюць верацёны" Е. Міровіча, "Гута" Р. Кобеца, "Браняпоезд 14-69" Ус. Іванава, "Гібель ваўка" Э. Самуйлёнка, "Партызаны" К. Крапівы, "Мост" Я. Рамановіча, "У стэпах Украіны" А. Карнейчука, "Скупы" Ж.-Б. Мальера, "Ваўкі і авечкі" А. Астроўскага і інш. У 1930 г. Першы Беларускі дзяржаўны тэатр быў запрошаны ў Маскву для ўдзелу ва Усесаюзнай тэатральнай алімпіядзе. 3–9 студзеня 1931 г. у Маскве праходзіў тыдзень Савецкай Беларусі, дзе сваё тэатральнае мастацтва дэманстраваў Першы Беларускі дзяржаўны тэатр. Вялікі поспех выпаў

на долю п'есы М. Горкага "Апошнія", якая была паказана ў час гастроляў БДТ-1 у Маскве ў 1937 г. Крытыка назвала спектакль адным з самых выдатных дасягненняў савецкага тэатральнага мастацтва. Здабыткам калектыву тэатра з'явіўся спектакль па п'есе К. Крапівы "Хто смяецца апошнім", які быў пастаўлены ў 1939 г. і ў якім бязлітасна высмейваліся авантурызм, хлуслівасць, ілжэвучонасць. БДТ-1 у 30-я гады дасягнуў узроўню лепшых тэатраў краіны.

Расло сцэнічнае майстэрства калектыву Другога Беларускага дзяржаўнага тэатра ў Віцебску, які з поспехам адлюстроўваў жыццё рабочага класа. Да лепшых спектакляў тэатра адносіліся "Рэйкі гудуць" У. Кіршона, "Разлом" Б. Лаўранёва, "Першая конная" Ус. Вішнеўскага, "Гібель эскадры" А. Карнейчука, "Вайна вайне" і "У пушчах Палесся" Я. Коласа, "Беспасажніца" А. Астроўскага, "Чалавек з ружжом" М. Пагодзіна і інш.

Вялікую работу па абслугоўванні сельскага гледача праводзіў Беларускі дзяржаўны вандроўны тэатр. У 1920–1928 гг. тэатр паказаў каля 2 тыс. спектакляў, даў 300 канцэртаў. У 1928 г. рэжысёру тэатра У. Галубку першаму ў рэспубліцы было прысвоена званне народнага артыста БССР. У 1932 г. Беларускі вандроўны тэатр быў рэарганізаваны ў Трэці Беларускі дзяржаўны тэатр (з базай у Гомелі). У 30-я гады былі створаны таксама Рускі драматычны тэатр і Тэатр юнага гледача ў Мінску, тэатры рабочай моладзі ў Мінску, Гомелі і Віцебску, калгасна-саўгасныя тэатры ў Барысаве, Мазыры, Слуцку, Бабруйску, Рэчыцы і Дзяржынску. Усяго ў БССР працавала 14 тэатраў.

У тэатрах рэспублікі склаліся свае творчыя калектывы. З іх асяроддзя вылучыўся цэлы шэраг таленавітых артыстаў: у Першым Беларускім дзяржаўным тэатры – У. Крыловіч, У. Уладамірскі, Г. Глебаў, Б. Платонаў, Л. Ржэцкая, Ф. Ждановіч, Г. Грыгоніс, М. Зораў, Л. Рахленка, В. Галіна, В. Пола; у Другім Беларускім дзяржаўным тэатры – П. Малчанаў, А. Ільінскі, Р. Кашэльнікава, М. Звездачотаў, Ц. Сяргейчык, А. Радзялоўская, П. Іваноў; у Рускім драматычным тэатры – Дз. Арлоў і інш.

У сярэдзіне 20-х гадоў першыя поспехі былі дасягнуты ў развіцці беларускага музычнага мастацтва, у якім усё яшчэ пераважала самадзейная творчасць музычных, харавых і танцавальных калектываў. Менавіта ў гэты час складваліся ўмовы і рабіліся першыя крокі для стварэння прафесійнага тэатра, нацыянальнай оперы і балета, нараджаліся першыя творы прафесійных кампазітараў. Пры Першым Беларускім дзяржаўным тэатры і тэатры пад кіраўніцтвам У. Галубка ў 1922–1925 гг. працавалі харэаграфічныя трупы, аркестры, харавыя калектывы. Гэтыя трупы выступалі таксама з самастойнымі канцэртамі, выконвалі розныя інтэрмедыі на беларускім матэрыяле, прапагандавалі беларускія песні і танцы.

У пачатку 20-х гадоў у Мінску, Віцебску, Гомелі былі створаны музычныя тэхнікумы, якія сталі цэнтрамі музычнага жыцця і







*Будынак Беларускага тэатра оперы і балета. Пабудаваны ў 1935–1937 гг.*

падрыхтавалі шмат выканаўцаў. У 1924 г. у Гомелі, а затым у Магілёве былі арганізаваны невялікія сімфанічныя аркестры, якія давалі канцэрты з творамі Бетховена, Шуберта, Шапэна, Шумана, Ліста, Глінкі, Чайкоўскага ў рэпертуары. У Гомелі ставіліся канцэрты з твораў маладых кампазітараў Беларусі А. Туранкова, Р. Пукста. Пачыналі свой творчы шлях кампазітары М. Аладаў і М. Мацісон.

У 1924 г. у Магілёве была пастаўлена першая беларуская савецкая опера М. Чуркіна "Вызваленне працы", лібрэта і музыка якой прысвечаны рабочаму класу і яго барацьбе за сваё вызваленне. Падзеяй у жыцці беларускага мастацтва з'явілася выступленне беларускіх дудароў на мастацкай выстаўцы ў Парыжы ў 1925 г., а таксама спявачкі Л. Александроўскай і цымбаліста С. Навіцкага на Міжнароднай выстаўцы ў Франкфурце-на-Майне ў 1927 г.

Развіццё музычнага мастацтва ў 30-я гады зрабіла значны крок. Гэтаму спрыяла адкрыццё ў 1932 г. Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, у 1933 г.– Беларускага тэатра оперы і балета, які быў створаны на базе дзяржаўнай опернай студыі. У 1937 г. у Мінску пачала працаваць Беларуская дзяржаўная філармонія, якая адыграла важную ролю ў развіцці музычнага мастацтва. У яе склад увайшлі сімфанічны аркестр і аркестр народных інструментаў, ансамбль народнай песні і танца, харавая капэла.

Адкрыццё ў рэспубліцы кансерваторыі, тэатра оперы і балета і філармоніі, павышэнне цікавасці да музыкі сярод насельніцтва, аб чым сведчыла папулярнасць музычных выступленняў, больш востра

ставілі пытанне аб стварэнні твораў з жыцця беларускага народа, у тым ліку нацыянальнай оперы і балета. Да сярэдзіны 30-х гадоў кампазітары Беларусі настолькі выраслі ў творчых адносінах, што змаглі ўзяцца за стварэнне вялікіх музычных твораў. У 1936–1938 гг. былі напісаны оперы "Кветка шчасця" А. Туранкова, " У пушчах Палесся" А. Багатырова, "Міхась Падгорны" Я. Цікоцкага. У іх паказаны народ, які ўзнімаецца на барацьбу за сваё сацыяльнае вызваленне, адлюстраваны пачатак станаўлення новага чалавека, раскрыты вобразы барацьбітоў за савецкую ўладу. У 1938–1940 гг. Беларускі тэатр оперы і балета ажыццявіў пастаноўку беларускіх савецкіх опер. У гэтыя ж гады быў пастаўлены першы беларускі балет "Салавей" М.Крошнера.

Кампазітары рэспублікі стварaлі новыя песні. Некаторыя з іх: "Бывайце здаровы" І. Любана, "Ой, шумі ты, радуйся, беларускі бор" М. Аладава, "Вечарынка ў калгасе" С. Палонскага на словы Я. Купалы – сталі шырока вядомы. Кампазітары Н. Сакалоўскі, І. Любан, С. Палонскі, М. Чуркін, А. Багатыроў, В. Залатароў, А. Клумаў, М. Зінчук збіралі і апрацоўвалі народныя песні. Многія з іх: "Ой, рэчанька, рэчанька", "Кума мая, кумачка", "Ох, і сеяла Ульяніца лянок" – трывала замацаваліся ў рэпертуары народных хораў.

Павышалася роля кіно, развіццё якога ў 30-я гады адбывалася шляхам стварэння дакументальных фільмаў і кінахронікі, а таксама мастацкіх фільмаў. Да канца першай пяцігодкі ў рэспубліцы налічвалася 947 кінаўстановак. Пэўныя цяжкасці былі звязаны з пераходам да гукавога кіно. Работнікам гэтай галіны мастацтва не ставала прафесійнага вопыту і ведаў, таму некаторыя фільмы ў 30-я гады былі выпушчаны са значнымі мастацкімі недахопамі. І тым не менш кінематаграфісты Беларусі ў гэты перыяд стварылі нямала сюжэтаў, якія былі добра сустрэты гледачамі. У іх ліку фільм "Першы ўзвод" У. Корш-Сабліна (1933) пра пераход салдат старой арміі пад уплывам праўды жыцця на бок сацыялістычнай рэвалюцыі. Ён характарызаваўся праўдзівасцю паказу жыцця і людзей. Гэта быў паварот у развіцці беларускай кінематаграфіі да больш паглыбленага рэалістычнага паказу жыцця. У карціне "Залатыя агні", пастаўленай У. Корш-Сабліным у 1935 г., героі – новыя людзі індустрыяльнай Беларусі, прадстаўнікі яе рабочага класа – вядуць барацьбу з усім, што аджыло свой век і перашкаджае будаўніцтву сацыялізму. Гераічным байцам грамадзянскай вайны быў прысвечаны фільм "Балтыйцы" рэжысёра А. Файнцымера, выпушчаны ў 1937 г. Да ліку лепшых фільмаў належалі таксама фільмы І. Бахара і Л. Малчанава "Палескія рабінзоны" (1935) і "Канцэрт Бетховена" (1937).

Такія асноўныя напрамкі развіцця беларускай літаратуры, тэатральнага і музычнага мастацтва, кінамастацтва.





## § 3. Жывапіс, скульптура і архітэктура

Пасля завяршэння грамадзянскай вайны творчая інтэлігенцыя Мінска і іншых гарадоў Беларусі паступова пачала ўключацца ў мастацкае жыццё. У Мінску былі адкрыты мастацка-вытворчыя майстэрні "Выяўленчае мастацтва". Асноўнае ядро гэтых майстэрняў складала моладзь: М. Філіповіч, П. Гуткоўскі, М. Станюта, В. Дваракоўскі, Г. Філіпоўскі, А. Тычына, У. Кудрэвіч, М. Русецкі.

Важным асяродкам культурна-асветнай работы павінны былі стаць музеі. Адкрыты Гістарычны музей у Мінску з аддзеламі старажытнага і сучаснага мастацтва.

У 1925 г. пры Інбелкульце была створана мастацкая секцыя, якая мела тры падсекцыі: тэатра, выяўленчага мастацтва, музыкі. Старшынёй секцыі быў абраны Я. Дыла, намеснікам – Н. Красінскі, сакратаром – М. Шчакаціхін.

Важную ролю ў кансалідацыі мастацкіх сіл рэспублікі адыгрывалі мастацкія выстаўкі. Яны стваралі яркае ўражанне аб творчых імкненнях мастакоў, выяўлялі накіраванасць іх творчых пошукаў.

Першая пасля вайны выстаўка адбылася ў Мінску ў верасні 1921 г. Арганізатарам яе стаў пададдзел выяўленчага мастацтва мастацкага аддзела Галоўпалітасветы. Першую Усебеларускую мастацкую выстаўку падрыхтавала мастацкая секцыя Інбелкульта ў 1925 г. Выстаўкі паказалі, што мастацкія сімпатыі творчай моладзі ў той час былі вельмі шырокімі – ад рэалізму да абстракцыянізму і супрэматызму.

Асобую старонку ў гісторыі станаўлення жывапісу Савецкай Беларусі ўнесла дзейнасць Віцебскага мастацкага тэхнікума, які з'явіўся не толькі галоўным цэнтрам падрыхтоўкі мастацкіх кадраў, але і галоўным асяродкам кансалідацыі мастацкіх сіл рэспублікі. Яшчэ ў 1898 г. Ю. Пэн адкрыў пры сваёй майстэрні школу малявання і жывапісу. Фактычна яна стала першай мастацкай навучальнай установай у Беларусі. У 1918 г. на базе майстэрні Ю. Пэна была арганізавана народная мастацкая школа, у якой займаліся таленавітыя вучні. За час існавання гэтай школы (1918–1920) сістэма навучання ў ёй даволі часта мянялася. Спачатку тут выкладалі мастакі-рэалісты Ю. Пэн, М. Дабужынскі, А. Бразер, С. Юдовін, Я. Тылберг, Я. Мінін, экспрэсіяніст М. Шагал, супрэматыст К. Малевіч, канструктывісты У. Пуні і Л. Лісіцкі, сезаніст Р. Фальк, кубіст Д. Якерсон, імпрэсіяніст Л. Купрын, футурыст В. Ермалаева і інш. Зразумела, пры такім стракатым складзе выкладчыкаў цяжка было чакаць зладжанай сістэмы і мэтанакіраванасці ў рабоце.

У знак пратэсту і нязгоды з новай педагагічнай сістэмай М. Дабужынскі ў 1919 г. пакінуў Віцебск, а дырэктарам вучылішча зноў стаў М. Шагал, "таварышам" дырэктара – В. Ермалаева ( Шагал афіцыйна лічыўся дырэктарам з 14 верасня 1918 г.). Педагагічная сістэма М. Шагала мела хутчэй за ўсё стыхійны, а не прадуманы і мэтанакіраваны

характар. Асноўны прынцып гэтай сістэмы ён запазычыў ў свайго першага настаўніка Ю. Пэна: поўны дэмакратызм і акцэнт на індывідуальныя схільнасці вучня. Але, зыходзячы са сваіх канцэпцый, Шагал арыентаваў выхаванцаў на вывучэнне навейшага жывапісу, у прыватнасці работ Анры Мацiса.

Акрамя традыцыйных майстэрняў (аддзяленняў) жывапісу і графікі, у вучылішчы існавалі майстэрні прыкладных мастацтваў – рукадзелля, цацак, пераплётная. Пры іх жа працавалі "Другая свабодная майстэрня" (люты 1920 г., кіраўнік М. Шагал) і "Першая раённая школа" (сакавік 1920 г., кіраўнікі Н. Коган і С. Юдовін), у якіх бясплатна вучыліся малюнку і жывапісу ўсе жадаючыя незалежна ад узросту і характару заняткаў.

Пасля заканчэння грамадзянскай вайны многія мастакі-педагогі выехалі за межы Беларусі. У 1921 г. пакінуў Віцебск М. Шагал. Спачатку ён жыў у Маскве, а потым, з 1922 г., за мяжой. У 1922–1923 гг. пакінулі Віцебск К. Малевіч, Р. Фальк, Л. Лісіцкі, Д. Якерсон, У. Пуні, В. Ермалаева, С. Юдовін, Л. Тылберг, К. Багуслаўская.

У 1920 г. народная мастацкая школа была пераўтворана ў віцебскія дзяржаўныя мастацкія майстэрні. У 1921 г. гэтыя майстэрні па жаданні мастакоў-фармалістаў пачалі называцца Віцебскім мастацка-практычным інстытутам, а ў 1923 г. рашэннем Віцебскага губернскага аддзела народнай асветы (які потым і ажыццяўляў кіраўніцтва) інстытут быў пераўтвораны ў мастацкі тэхнікум. Асноўны кантынгент выкладчыкаў складалі мастакі-рэалісты М. Керзін, В. Волкаў, М. Эндэ, Ю. Пэн, М. Лебедзева, Д. Камар, Н. Міхалап. Праз некаторы час у яго ўліліся П. і Х. Даркевічы, У. Хрусталёў, І. Ахрэмчык, У. Руцай, Ф. Фогт.

Пра характар жывапісу першых гадоў савецкай улады можна меркаваць па тых творах, якія экспанаваліся на першых рэспубліканскіх мастацкіх выстаўках (1925, 1927, 1929) . Яны ўвасаблялі пафас стваральнай працы савецкага народа. Пачынаўся новы, якасна адрозны ад дарэвалюцыйнага этап развіцця нацыянальнага беларускага мастацтва. Героем твораў стаў савецкі чалавек з яго справамі, марамі. Дамінуючае месца ў жывапісе 20-х гадоў займалі ў асноўным дзве тэмы – рэвалюцыі і грамадзянскай вайны і будаўніцтва сацыялістычнага грамадства.

Пачынальнікам беларускага гістарычнага жывапісу стаў *Валянцін Віктаравіч Волкаў* (1881–1964). Палымяным правадыром-рэвалюцыянерам паказаў ён Кастуся Каліноўскага. З рэвалюцыйным пафасам уваскрэсіў мастак бліскучую старонку гісторыі паўстанцкага руху на Беларусі. Рэвалюцыйная тэматыка ў творчасці В. Волкава знайшла яркую форму выяўлення і ў карціне "Барыкады" (1923). Яна напісана на матэрыяле асабістых успамінаў мастака – сведкі вулічных баёў маскоўскага пралетарыяту. Наступнае шматфігурнае палатно В.Волкава – "Партызаны" (1928), прысвечанае партызанскай барацьбе на Беларусі ў гады грамадзянскай вайны. Мастак паказаў востры





псіхалагічны момант – рэакцыю партызан, якія размясціліся вакол вогнішча ў начным заснежаным лесе, на трывожнае паведамленне разведчыка. Аптымістычным гучаннем вылучаецца палатно В.Волкава "Плытагоны" (1927). Сонечнае святло, шырокая прастора, магутная фігура старога плытагона, які апавядае пра свае шляхі-дарогі, падкрэсліваюць узлёт разняволеных сіл савецкага чалавека.

Новыя з'явы ў жыцці беларускай вёскі выразна адлюстраваў у карціне "Старое і новае" (1927) *Гаўрыла Сямёнавіч Віер* (1890–1964). Тут бачна супрацьпастаўленне двух укладаў духоўнага жыцця сялянства – кансерватыўнага мінулага і савецкай рэчаіснасці. У карціне "Малады мастак" (1923) перададзена цяга юнацтва да авалодання таямніцамі мастацтва. Адначасова з сучаснай бытавой тэматыкай ("Жыццё ў бараках", "За лозунгам", "Суботнік" (1932), "Уборка бульбы"(1935) і інш.) ён распрацоўваў тэму рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Цяжар барацьбы савецкіх людзей на захопленай ворагам зямлі мастак паказаў на невялікім палатне "Партызаны" (1927). У карціне "Курлоўскі расстрэл" (1924) адлюстраваны трагічны момант рэвалюцыі 1905–1907 гг.

Творчасць *Міхаіла Мацвеевіча Філіповіча* (1896–1947), надзвычай прадукцыйная ва ўсіх жанрах выяўленчага мастацтва, займае асобнае месца ў мастацкай культуры Беларусі 20-х гадоў і складае вяху яе гістарычнага станаўлення. М. Філіповіч адным з першых сярод жывапісцаў рэспублікі звярнуўся да вытокаў народнага жыцця, нераскрытых скарбаў беларускай народнай творчасці. "На казачны матыў", "Вясна", "Скокі праз вогнішча" – гэта карціны, у якіх народныя абрады, легенды давалі матэрыял для выразнага паказу новага светаадчування, народжанага жыццём савецкай вёскі. Аналагічныя тэмы свят, карагодаў, радасці працягвае развіваць мастак і ў сваіх наступных работах ("Веснавое свята", "Карагод", 1922), а таксама ў абагульненых вобразах, створаных на аснове збірання ва ўсіх кутках Беларусі індывідуальна-непаўторнага тыпажу. У карціне "Апрацоўка лёну" (1928) увагу мастака прыцягнула праца жанчын. У творах "Піянеры ў вёсцы" (1927), "Новы быт" (1927), "Гульня ў гарадкі" (1929) ён пяе песню новым з'явам сялянскага жыцця. У 20-я гады мастак стварыў таксама шэраг работ, прысвечаных гісторыі дарэвалюцыйнага мінулага беларускага народа – палотны "Бітва на Нямізе" (1922), "Ад веку мы спалі", "З часоў прыгнёту", "Барыкада" (1928–1929) і інш.

Творы *Міхаіла Пятровіча Станюты* (1881–1974) 20-х гадоў прысвечаны працоўнаму жыццю рабочага класа г. Мінска. Ён не здраджваў гэтай тэме ўсё сваё доўгае жыццё. "Шклозавод" (1924), "Бетоншчыкі" (1927), "Будаўніцтва Універсітэцкага гарадка" (1928), "На будоўлі" (1929), "Ліцейны цэх" (1931) – творы, народжаныя ў выніку непасрэднага назірання мастаком жыцця і працы мінчан.

Побач з сюжэтна-тэматычным жывапісам мастакі Беларусі актыўна развівалі партрэтны жанр. На першых усебеларускіх мастацкіх

выстаўках можна было вылучыць партрэты, аўтары якіх прадаўжалі традыцыі папярэднікаў: партрэт Я. Коласа Я. Кругера (1923), партрэт Я. Купалы Дз. Полазава, партрэт мастака У. Кудрэвіча работы Г. Віера, "Дудар" Ю. Пэна, "Стары беларус з люлькай" (1925) і "Жанчына ў намітцы" (1928) М. Філіповіча і інш. У кампазіцыю ўводзіліся дэталі, якія сведчылі пра новае жыццё. Гэта асабліва ярка выявілася ў кампазіцыйным партрэце "Шавец-камсамолец" Ю. Пэна (1925). Мастак паказаў маладога шаўца ў невялічкай саматужнай майстэрні сярод прадметаў яго рамяства. Юнак трымае віцебскую газету "Заря Запада". Гэта дэталь, некалькі прамалінейная і наіўная, падрыхтоўвала гледача да ўспрыняцця новага ў вобразе маладога чалавека.

Крыху слабей развіваўся жанр пейзажу. У ім вылучаліся работы *Уладзіміра Мікалаевіча Кудрэвіча* (1884–1957). Ужо з саміх назваў работ – "Раніца вясны", "Вечар", "Акорд" – відаць, што жывапісец імкнуўся стварыць эмацыянальны вобраз роднай прыроды, прыкмеціць такія яе пераходныя станы, калі фарбы ў пейзажы гучаць на поўную сілу.

Цікавыя рэалістычныя пейзажы экспанаваў В. Волкаў. У карцінах "Ад Віцебска" (1920), "Дзвіна" (1925) і іншых мастак дае панарамнае адлюстраванне прыроды.

Такім чынам, 20-я гады ў гісторыі беларускага жывапісу былі часам збірання творчых сіл, першых спроб засваення новай тэматыкі, актыўнага ўкаранення мастацтва ў жыццё шырокіх пластоў народа.

У 30-я гады мастацтва Беларусі ўзбагачалася новымі тэмамі і вобразамі. Героіка грамадзянскай вайны, сацыялістычныя пераўтварэнні ў краіне, духоўнае ўзвышэнне новага чалавека, услаўленне стваральнай працы – вось кола тэм, якое вызначала далейшае развіццё мастацтва. У гэтыя гады закладваліся трывалыя асновы станковага жывапісу.

У 1932 г. праходзіла 5-я Усебеларуская мастацкая выстаўка. На ёй былі прадстаўлены карціны І.В.Ахрэмчыка, А.М.Шаўчэнкі, Ф.А. Фогта, М.І.Гусева, М.І. Манасзона, Х.М. Ліўшыца і інш.

*Іван Восіпавіч Ахрэмчык* (1903–1971) – пастаянны ўдзельнік беларускіх выставак. На 3-й Усебеларускай выстаўцы прадставіў карціну "Падпісанне маніфеста аб утварэнні БССР" (1929), за якую атрымаў першую прэмію. У 1934 г. І.В.Ахрэмчык паказаў цікавы і складаны па кампазіцыі эскіз "II з'езд РСДРП". Шматфігурнай кампазіцыяй "Уступленне Чырвонай Арміі ў Мінск" (1935) раскрывалася непарыўная сувязь народа і Чырвонай Арміі, радасць жыхароў горада ў хвіліну вызвалення ад інтэрвентаў.

*Акім Міхайлавіч Шаўчэнка* (1902–1980) у творах праяўляў цікавасць да працоўнага жыцця людзей свайго краю. Паэтычнае ўспрыманне рэчаіснасці, свежасць палітры характэрны для яго творчасці 30-х гадоў. Гэтыя якасці ўласцівы карціне "Уборка сена" (1937).





Завершанае ва ўсіх дэталях тэматычнае палатно "Перадача вопыту" (1937) старэйшага мастака В.Волкава нібы падагульніла дасягненні мастакоў рэспублікі ў адлюстраванні вытворчай тэматыкі.

*Фёдар Адольфавіч Фогт* (1889–1939) як мастак звяртаўся да самых разнастайных сфер жыццядзейнасці чалавека, важнейшых падзей у палітычным і мастацкім жыцці замежных краін – ад маляўнічых святочна-дэкаратыўных палотнаў ("Карнавал", 1930) да суровых, драматычна-трагедыйных бакоў жыцця працоўнага чалавека ў краінах капіталу ("Галоўны паход", "Інквізіцыя" і інш.). У прадстаўленай на выстаўцы 1937 г. карціне "Пакаранне смерцю венгерскага рэвалюцыянера Коламана Валіша" ("Смерць Валіша") выказана ўсеагульная трывога чалавецтва перад пагрозай фашызму.

Найбольш вобразную распрацоўку атрымала ў выяўленчым мастацтве тэма грамадзянскай вайны і замежнай інтэрвенцыі. Дасягненнем у распрацоўцы гэтай тэмы з'явілася манументальнае палатно "Уступленне Чырвонай Арміі ў Мінск у 1920 годзе" *Яўгена Аляксеевіча Зайцава* (нар. 3.01.1908). Ужо ў дыпломнай рабоце "Чапаеў" (1937) мастак зарэкамендаваў сябе майстрам кампазіцыі, псіхолагам, жывапісцам-рамантыкам. У названых дзвюх карцінах паказаны процілеглыя бакі героікі грамадзянскай вайны: трагічнасць паражэння ("Чапаеў") і перамога над ворагам ("Уступленне Чырвонай Арміі ў Мінск у 1920 годзе").

*Мікалай Іванавіч Гусеў* (1899–1965) стварыў шматфігурнае палатно "М.І.Калінін праводзіць войскі на польскі фронт. Мінск. 1919 год" (1940).

Карціна "Сустрэча савецкіх танкістаў у Заходняй Беларусі. 1939 год" (1939) зрабіла папулярным імя яе аўтара – *Монаса Ісакавіча Манасзона* (1907–1980). У гэтым творы, які пазней атрымаў назву "Вызваленне Заходняй Беларусі", мы бачым адну з плошчаў Беластока, дзе члены экіпажа савецкага танка вядуць усхваляваную размову з жыхарамі горада. Мастак стварыў тэматычныя палотны "Уступленне Чырвонай Арміі ў Мінск 11 ліпеня 1920 г." (1937), "Выступленне М.І.Калініна перад працоўнымі Мінска ў 1919 г." (1939). У сваёй наступнай карціне – "Знянацку" (1940) – М.Манасзон паказаў барацьбу беларускіх партызан супраць белапольскіх акупантаў.

Пачуццём гістарызму вылучаецца творчасць *Хаіма Майсеевіча Ліўшыца* (нар. 23.10.1912), у прыватнасці яго палатно "Выступленне Я.М. Свярдлова на I Усебеларускім з'ездзе Саветаў" (1940).

Беларуская прырода ў творах майстроў пейзажнага жывапісу паўставала нібы ў новым абліччы. У пейзажах У.Кудрэвіча побач з лірычнымі матывамі беларускіх палёў і лясоў з'явілася новая тэма, звязаная з працай чалавека. На аснове ўбачанага ім на р. Арэсе, дзе тады вяліся вялікія работы, ён напісаў твор "Паглыбленне ракі Арэсы" (1932). Гомельскага мастака А. Шаўчэнку хвалявала тэма беларускіх рэк. У адной з лепшых яго карцін "Плытагоны" (1932) прырода і чалавек паказаны ў непарыўным адзінстве.

Буйной падзеяй у культурным жыцці стаў Першы з'езд мастакоў Беларусі, які адбыўся 6 снежня 1938 г. у Мінску. На з'ездзе абмяркоўваліся праблемы мастацкага жыцця рэспублікі, росту прафесійнага майстэрства. З'езд арганізацыйна аформіў стварэнне Саюза мастакоў БССР, прыняў статут саюза і намеціў шляхі развіцця гэтай творчай арганізацыі.

Багатыя і цікавыя традыцыі мае беларуская графіка. Толькі пры савецкай уладзе графіка стала мастацтвам па-сапраўднаму масавым, перадавым, даступным самай шырокай аўдыторыі. У грамадзянскую вайну найбольшае распаўсюджванне атрымалі публіцыстычныя віды графікі: плакат і карыкатура. У многіх гарадах Беларусі (Мінск, Гомель, Віцебск і інш.) існавалі мясцовыя бюро РОСТА.

Пасля выгнання акупантаў цэнтрам развіцця графікі, як і іншых відаў мастацтва, стала сталіца Беларусі Мінск. Да стварэння Беларускага дзяржаўнага выдавецтва (1924) беларуская графіка з'яўлялася пераважна станковай. Ужо на вераснёўскай выстаўцы 1921 г. (Мінск) былі амаль усе віды графічнага мастацтва: малюнак, акварэль, лінагравюра, ксілаграфія, афорт, літаграфія.

У развіцці тагачаснага беларускага эстампа акрамя Мінска вялікую ролю адыграў Віцебск. У 1921 г. пачаў гравіраваць на дрэве С.Юдовін, які адразу знайшоў свой стыль, уласны почырк. Цудоўным майстрам ксілаграфіі быў Я. Мінін, якому належаць некалькі тонкіх па выкананні краявідаў Віцебска, гравюрных партрэтаў, экслібрысаў.

Як і ў іншых відах мастацтва, у беларускай графіцы 20-х гадоў адбываўся працэс станаўлення нацыянальнай мастацкай школы. Вялікае месца заняла станковая графіка на 1-й (1925), 2-й (1927), 3-й (1929) і наступных усебеларускіх мастацкіх выстаўках.

Важнейшай падзеяй у гісторыі беларускай графікі 30-х гадоў з'явілася арганізацыя графічнага аддзялення ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме. На аддзяленні выкладаў графіку Ф.Фогт, а пазней — Я. Мінін. Пасля заканчэння аддзялення ў розных жанрах і тэхніках графікі працавалі В. і Я.Ціхановічы, У.Басаў, У.Сакалоў, А.Волкаў, Л.Ран, Д.Генін, У.Галубок, Л.Лейтман і інш.

Беларуская графіка 30-х гадоў эвалюцыяніравала па шляху большай змястоўнасці ў адлюстраванні савецкай рэчаіснасці. Важным быў удзел беларускіх мастакоў у "Выстаўцы новых твораў савецкай графікі" ў 1941 г. у Маскве.

У 20–30-я гады шэраг манументальных помнікаў стварылі беларускія скульптары. Глыбокі след у беларускай скульптуры пакінулі А. Грубэ, А. Бразер, З.Азгур, А.Бембель, А.Глебаў, А.Арлоў.

Адным з першых мастакоў, чыя творчасць была накіравана на вырашэнне новых задач беларускага мастацтва, быў А.Грубэ. Да лепшых яго работ 20-х гадоў належаць скульптура "Лірнік" (1926), партрэт Максіма Багдановіча (1927), а таксама "Раб", "Тачачнік" (абедзве 1928 г.). Грубэ працаваў ярка і самабытна, спалучаючы глыбокае пранікненне ў народныя традыцыі з вельмі ўважлівым вывучэннем





дасягненняў сучаснай скульптуры, у 30-я гады імкнуўся даць сканцэнтраваны вобраз новага героя — чалавека працы, паказаць рамантыку працоўных будняў, гераізм Кастрычніка. Гэтаму прысвечаны яго работы "Пяцігодку за чатыры гады"(1931), "Будаўніцтва" і інш.

У другой палове 20-х гадоў пачаў творчы шлях З. Азгур. Раннія яго работы — "Галава рабочага", "Галава шляхціца", "Галава ліцейшчыка" (усе 1927 г.). Да гэтага перыяду належыць і партрэт пісьменніка З. Бядулі (1927). Шматлікія творчыя ўдачы мастака адносяцца да пачатку 30-х гадоў.

Афармленне Дома ўрада ў Мінску (выканана ў 1933–1937 гг.), у якім прынялі ўдзел амаль усе беларускія скульптары (М.Керзін, А.Бембель, З.Азгур, А.Глебаў, І.Ізмайлаў пад кіраўніцтвам М.Манізера), з'явілася значным творчым дасягненнем, якое справядліва называюць "экзаменам на сталасць" усёй беларускай скульптуры. Адсюль пачыналася яе новая старонка. Аблічча грандыёзнага збудавання задумана архітэктарам І. Лангбардам як адзіны архітэктурна-скульптурны комплекс, які павінен быў уключаць у сябе самыя разнастайныя формы скульптуры, закліканыя ўпрыгожыць не толькі плошчу ля Дома ўрада, але і інтэр'ер са шматлікімі холамі, лесвіцамі, заламі пасяджэнняў. Напрыклад, зала з'езда і прылягаючыя да яе кабінеты ўпрыгожаны шматлікімі гарэльефамі, прысвечанымі рэвалюцыйнай барацьбе мінулага і сучаснага, а таксама кампазіцыямі на тэму будаўніцтва сацыялізму ў СССР. Іх аўтарам быў скульптар А.Бембель. На лесвічных маршах цэнтральнага ўвахода ўстаноўлены манументальныя бюсты К.Маркса і Ф. Энгельса (аўтар М.Керзін), К.Лібкнехта (І.Ізмайлаў), М.Г.Чарнышэўскага (А.Арлоў), Г. Бабёфа, Ф.Э. Дзяржынскага, А.Ф.Мяснікова (З. Азгур), М.В. Фрунзе (А.Глебаў).

Да значных твораў гэтых гадоў належыць помнік У.І.Леніну ў Мінску (1933, М.Манізер), помнік Ф.Э.Дзяржынскаму ў г. Дзяржынску (1933, А.Грубэ).

З. Азгур стварыў серыю бюстаў выдатных рэвалюцыянераў, а таксама вобразы прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі 30-х гадоў (настаўнікаў, пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў, урачоў). Лепшыя работы — "Скульптар А.М.Бразер" (1935), "Народны артыст БССР М.Ф. Рафальскі" (1935), "Пісьменнік З. Бядуля" (1940) і інш.

Неад'емнай часткай нацыянальнай беларускай культуры з'яўляецца архітэктура — своеасаблівы "мураваны летапіс" гісторыі і культуры нашай краіны. Сярод іншых відаў мастацтваў яна вызначаецца тым, што арганічна спалучае эстэтычныя ідэалы і дасягненні тэхнічнага прагрэсу ў будаўнічай справе канкрэтнай эпохі.

Пасля завяршэння грамадзянскай вайны, у аднаўленчы перыяд (1921–1925), усе сілы былі накіраваны на адраджэнне эканомікі рэспублікі, узвядзенне вытворчых аб'ектаў. Першачарговая ўвага надавалася развіццю чыгуначнага транспарту, энергетычнай базы,

вытворчасці прадуктаў харчавання. Першымі ўзорамі прамысловай архітэктуры былі карпусы папяровай фабрыкі "Папірус" і хрусталёвага завода ў Барысаве, металаапрацоўчага завода "Энергія" ў Мінску і іншых прадпрыемстваў. Яшчэ ў большых маштабах рэарганізацыя народнай гаспадаркі Беларускай ССР праводзілася з 1926 г., калі ў краіне быў узяты курс на індустрыялізацыю. У рэспубліцы будаваліся новыя прадпрыемствы: завод сельскагаспадарчага машынабудавання ў Гомелі, запалкавая фабрыка "Чырвоная Бярэзіна" ў Нова-Барысаве, фабрыка штучнага шоўку ў Магілёве, дрэваапрацоўчыя камбінаты ў Гомелі і Бабруйску, шэраг цагельных заводаў і торфапрадпрыемстваў.

У цэлым для прамысловай архітэктуры 20-х гадоў характэрна выкарыстанне жалезабетонных і металічных канструкцый. Фасады будынкаў не ўпрыгожвалі дэкаратыўнай муроўкай, пілястрамі, складанымі карнізамі. Уладкаванне металічных пераплётаў у светлавых праёмах і ліхтарах дало магчымасць значна павялічыць асветленасць вытворчых памяшканняў. Архітэктурнае аблічча прамысловых будынкаў з кожным годам станавілася ўсё больш выразным і лаканічным.

З сярэдзіны 20-х гадоў у рэспубліцы прыняты меры да рэгулявання забудовы гарадоў. У 1925 г. па даручэнні ўрада БССР вядомы савецкі горадабудаўнік У.Сямёнаў прапанаваў праект развіцця Мінска і Оршы. Сярод невялікіх па плошчы ансамбляў забудовы гарадоў (1,5–2 га) прадугледжваліся зялёныя ўчасткі, скверы ці бульвары. Прыкладамі могуць служыць пасёлкі Чырвоны аршанец у Оршы, Новы быт у Віцебску, Дрэваапрацоўшчык у Мазыры, кварталы на вул. Брылёўскай у Мінску і інш.

У гады першай пяцігодкі ў Беларусі пачыналася будаўніцтва шматкватэрных мураваных дамоў за кошт дзяржаўнага бюджэту. Жылыя дамы за дзяржаўны кошт будаваліся ў цэнтральных раёнах гарадоў. Як правіла, яны мелі вялікую працягласць і займалі адзін з bakoў квартала. Для архітэктурна-мастацкага аблічча жылых дамоў таго часу характэрна лаканічнасць вырашэння аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. У пластыцы фасадаў пераважалі спрошчаныя формы з перавагай гарызантальных чляненняў. Карнізы і міжпавярховыя цягі спрошчанага профілю ствараліся выступам цэглы з плоскасці сцяны без дадатковай дэталіроўкі. Аконныя праёмы мелі прамавугольную, блізкую да квадрата форму.

У канцы 20-х гадоў рабіліся спробы распрацаваць тып дома з агульнымі бытавымі элементамі. Такія будынкі атрымалі назву дамоў-камун. Першы такі дом, разлічаны на 300 жыхароў, пабудаваны на вул. Горкага ў Віцебску (1927–1929, архітэктар А.Вышалескі).

Адной з першачарговых задач было пашырэнне школьнай сеткі, будаўніцтва школ. Узводзіліся ў асноўным невялікія па аб'ёму, разлічаныя на 240–280 вучняў двухпавярховыя будынкі, прамавугольныя ў плане, з размяшчэннем па абодва бакі калідора вучэбных памяшканняў.





Развіццё навукі і вышэйшай адукацыі прадвызначыла будаўніцтва ў рэспубліцы шэрага ВНУ і комплексаў навуковых устаноў. У 1926 г. на аснове ўсесаюзнага конкурсу быў ухвалены праект маскоўскага архітэктара У.Запарожца як найбольш эканамічны і найбольш адпаведны ўмовам будаўнічай базы рэспублікі. Узвядзенне комплексу Універсітэцкага гарадка па гэтаму праекту было ажыццёўлена ў 1928–1931 гг. пад кіраўніцтвам архітэктара Г. Лаўрова. У аснову кампазіцыі Універсітэцкага гарадка ў Мінску лягла распаўсюджаная ў тыя гады павільённая сістэма, пры якой асобныя карпусы прызначаліся для падрыхтоўкі спецыялістаў па адпаведных прафесіях.

У другой палове 20-х гадоў рэканструяваліся і расшыраліся гарадскія бальніцы ў Гомелі, Віцебску, Оршы. Значныя работы ў гэтым напрамку былі праведзены ў клініцы нервовых захворванняў па вул. Валадарскага ў Мінску. У гады першай пяцігодкі ў буйных гарадах Беларусі разгарнулася будаўніцтва бальнічных комплексаў на 600–1000 ложкаў. Сярод іх найбольш значнай была 1-я клінічная бальніца ў Мінску (1928–1931, архітэктар Г. Лаўроў).

У першыя гады савецкай улады значнае пашырэнне атрымала арганізацыя культурна-асветных устаноў, рабочых клубаў, дамоў культуры, хат-чытальняў, чырвоных куткоў, бібліятэк. З сярэдзіны 20-х гадоў пачалося будаўніцтва клубаў пры буйных прамысловых прадпрыемствах, прафесійных саюзах, а ў малых гарадах і раённых цэнтрах яны прызначаліся для абслугоўвання ўсіх жыхароў. У большасці сваёй гэта былі невялікія па ўмяшчальнасці будынкі, дзе галоўнае месца адводзілася відовішчнай групе памяшканняў. Характэрны прыклад такіх збудаванняў – Дом культуры (цяпер Дом народнай творчасці) у Мазыры. Па такому ж прынцыпу пабудаваны ў 1917–1929 гг. клубы металістаў па Набярэжнай Заходняй Дзвіны ў Віцебску і вул. Кірава ў Мінску.

У 1929 г. у Бабруйску па праекту вядомага ленінградскага архітэктара А.Оля пачалося будаўніцтва гарадскога Дома культуры. Прадугледжвалася, акрамя глядзельнай залы на 1200 месц з развітой сцэнічнай каробкай, узвесці карпусы бібліятэкі з кнігасховішчам і памяшканні для клубнай работы. Аднак з-за недахопу сродкаў была ўзведзена толькі глядзельная зала, якая выкарыстоўвалася як гарадскі тэатр.

Значнай падзеяй у жыцці рэспублікі было стварэнне ў 1934 г. Саюза архітэктараў БССР. На з'ездах саюза (1935, 1937, 1941) абмяркоўваліся пытанні накіраванасці архітэктурнай творчасці, рэканструкцыі і развіцця гарадоў.

Галоўнымі задачамі архітэктуры Беларусі ў перадваенныя пяцігодкі (1933–1941) сталі рэканструкцыя і развіццё гарадоў, абумоўленыя шэрагам аб'ектыўных прычын. *Па-першае,* гарады ў існуючым тады стане стрымлівалі развіццё народнай гаспадаркі і культуры. *Па-другое,* эканамічна ўзмацнелая дзяржава атрымала з пачатку 30-х гадоў магчымасць прыступіць да пераўладкавання гарадоў, карэннага паляпшэння камунальнай гаспадаркі.

25. Зак. 5565



*Будынак Беларускага тэатра юнага гледача і рэспубліканскага Палаца піянераў і школьнікаў*

У сувязі з вырашэннем гэтых задач пачалася распрацоўка генеральных планаў беларускіх гарадоў. Генеральны план г. Мінска распрацоўваўся ў Ленінградзе архітэктарам Ю. Кілеватавым пад кіраўніцтвам прафесара У.Вітмана; Гомеля – у Маскве архітэктарам І.Сяргеевым; Віцебска – у Харкаве архітэктарам А. Касьянавым.

У перадваенныя гады былі выкананы генеральныя планы Магілёва (архітэктары М. Андросаў і Н. Трахтэнберг), Оршы і Мазыра (архітэктар П. Кірыенка), Полацка (архітэктар І. Рапапорт), Слуцка і Рэчыцы (архітэктар Г. Парсаданаў).

Работы па складанні генеральнага плана г. Мінска былі завершаны ў Белдзяржпраекце да 1940 г. У генеральным плане г. Мінска прапаноўвалася захаваць гістарычную квартальную структуру з прамавугольнай сеткай вуліц Цэнтральнага раёна і паступовым пераходам да радыяльна-кальцавой структуры шляхам стварэння кальцавых магістралей. Галоўнай магістраллю была вызначана Савецкая вуліца (цяпер праспект Ф. Скарыны). Была запраектавана Цэнтральная плошча ля Дома ўрада, звязаная з новымі гарадскімі плошчамі магістраллю Савецкай вуліцы і яе працягам. У горадзе вяліся вялікія работы па рэканструкцыі цэнтральнай магістралі і прылягаючых да яе вуліц.

Расшыраліся і рэканструяваліся ў гарадах старыя гасцініцы, пераабсталёўваліся пад гасцініцы памяшканні іншага прызначэння, узводзіліся і гасцінічныя будынкі: “Беларусь” (1934–1938, архітэктар А. Воінаў) у Мінску і “Днепр” (архітэктары А.Воінаў, А.Брэгман) у Магілёве.







*Дом Чырвонай Арміі ў Мінску. Пабудаваны ў 1934–1939 гг.*

Узровень народнагаспадарчага развіцця рэспублікі, дасягнуты на пачатку 30-х гадоў, дазволіў перайсці да больш маштабнага ўзвядзення грамадскіх будынкаў. У стварэнні значнай колькасці такіх будынкаў актыўны ўдзел прымаў архітэктар Г. Лаўроў, які з 1928 да 1934 г. працаваў галоўным архітэктарам Наркамасветы БССР. Па яго праектах пабудаваны два вучэбныя карпусы і інтэрнаты Будаўнічага інстытута (цяпер Беларуская політэхнічная акадэмія).

У канцы 20 – пачатку 30-х гадоў у краіне былі праведзены конкурсы і распачата будаўніцтва шэрага буйных адміністрацыйных будынкаў. Сярод іх – Дом урада ў Мінску (1929–1933, архітэктар І. Лангбард). Гэта і на сённяшні дзень буйнейшае грамадскае збудаванне ў рэспубліцы, па сваіх мастацкіх і горадабудаўнічых якасцях адзін з лепшых узораў савецкай архітэктуры, адзін з першых вопытаў стварэння адміністрацыйнага збудавання.

Будаўніцтва дзіцячых садкоў і ясляў ішло па двух напрамках. Яны размяшчаліся на першых паверхах жылых дамоў або ў асобных будынках, узведзеных па тыпавых праектах. У Мінску ў 1936 г. на базе незавершанага на той час клуба будаўнікоў быў створаны рэспубліканскі Палац піянераў (архітэктары А.Воінаў, У.Вараксін).

Развіццё вышэйшай адукацыі і навукі абумовіла ўзвядзенне значнай колькасці разнастайных будынкаў навучальных і навуковых устаноў. Створаны галоўны корпус АН БССР (1934–1939, архітэктар І. Лангбард), будынак партыйных курсаў (1933–1938, архітэктар А. Воінаў). Такія ж прынцыпы былі пакладзены ў аснову кампазіцыі

будынка Інстытута фізкультуры, які праектаваўся як Дом палітасветы (архітэктары А.Воінаў, А.Брэгман).

У даваенныя гады былі пабудаваны дамы Чырвонай Арміі ў гарадах Мінску, Бабруйску, Слуцку, Полацку. Дом Чырвонай Арміі ў Мінску (цяпер Дом афіцэраў) пабудаваны ў 1934–1939 гг. архітэктарам І. Лангбардам, якому ўдалося стварыць выразную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Разам з клубна-відовішчнымі ўзводзіліся будынкі чыста відовішчнага прызначэння – тэатры, кінатэатры. У 1934–1938 гг. узведзены Дзяржаўны тэатр оперы і балета ў Мінску (архітэктар І.Лангбард), кінатэатр "Радзіма" ў Магілёве (архітэктар У.Вараксін), "Чырвоная зорка" ў Мінску і інш. Блізкі па архітэктуры да Дома ўрада ў Мінску Дом Саветаў у Магілёве (архітэктар І.Лангбард). Адным з удалых і агульна прызнаных твораў беларускай савецкай архітэктуры лічыцца будынак ЦК КПБ (закладзены ў 1939 г. і завершаны ў 1947 г.; архітэктары А.Воінаў і У.Вараксін.).

Кожны твор архітэктуры ўяўляе сабой спалучэнне трох прынцыпаў: функцыянальнасці, трываласці і прыгажосці. Многія з помнікаў архітэктуры Беларусі 20–30-х гадоў цалкам адпавядаюць гэтым прынцыпам. Ацалеўшы падчас Вялікай Айчыннай вайны 1941–1945 гг., яны служаць людзям і сёння.

# ГЛАВА 4

# ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ ПАД УЛАДАЙ ПОЛЬШЧЫ

## § 1. Сацыяльна-эканамічнае становішча заходнебеларускіх зямель

У выніку савецка-польскай вайны 1919–1920 гг., паводле Рыжскага мірнага дагавора ад 18 сакавіка 1921 г., больш за 100 тыс. кв.км тэрыторыі Беларусі з насельніцтвам звыш 4 млн чалавек перайшло ва ўладанне польскай дзяржавы. Анексіраваную тэрыторыю Заходняй Беларусі польскія ўлады расчлянілі на чатыры ваяводствы: Палескае, Навагрудскае, Віленскае і Беластоцкае. Была створана польская адміністрацыя, падмацаваная густой сеткай паліцэйскіх устаноў – пастарункаў. Яна падтрымлівала рэжым, спецыяльна распрацаваны для "ўсходніх крэсаў". Так польскія ўлады сталі называць Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну, якая таксама прымусова ўвайшла ў склад Польшчы.

Заходняя Беларусь і яе насельніцтва апынуліся ў вельмі цяжкім становішчы. Разбураная першай імперыялістычнай і затым грамадзянскай вайной гаспадарка амаль не адбудоўвалася, і беларускія землі ператвараліся ў сыравінны прыдатак Польшчы. Да 1935 г. колькасць прамысловых рабочых скарацілася на 40 % у параўнанні з 1913 г. Прамысловасць Заходняй Беларусі ў 1938 г. давала ў 9 разоў менш прадукцыі, чым БССР, хоць да падзелу абедзве часткі мелі аднолькавы ўзровень развіцця і былі амаль роўнымі па тэрыторыі і колькасці насельніцтва. Толькі за 1929–1939 гг. у трох ваяводствах – Палескім, Навагрудскім і Віленскім – было закрыта больш за 200 фабрык і заводаў.





На заводах і фабрыках працоўны дзень працягваўся 10–11 гадзін, а на саматужных прадпрыемствах быў значна большым. За тую ж самую працу ў прамысловасці польскаму рабочаму плацілі больш, чым беларусу. Напрыклад, сярэднегадзінны заработак у варшаўскага рабочага дрэваапрацоўчай прамысловасці складаў 0,78 злотага, а навагрудскага – 0,31 злотага. Асабліва пакутлівай з'явай было беспрацоўе. У сярэднім на аднаго працуючага прыходзілася два беспрацоўныя. Людзі згаджаліся на любую работу і любую аплату.

Вельмі цяжка жылося ў вёсцы (85 % насельніцтва). Больш паловы зямельнага фонду належала памешчыкам ці буйным уладальнікам, якія мелі ў сярэднім па 500 га. Такіх уладальнікаў было каля 1 % ад усіх жыхароў сельскай мясцовасці. На сялянскі двор прыходзілася каля 7 га зямлі, а 55 тыс. гаспадарак мелі надзел меншы за 1 га. Каля 90 тыс. парабкаў зусім не мелі зямлі. У гэтых умовах польскія ўлады раздавалі буйныя ўчасткі зямлі асаднікам – былым афіцэрам і чыноўнікам, якія мелі заслугі ў савецка-польскай вайне 1919–1920 гг. Па сутнасці, гэта былі новыя кулакі ці нават памешчыкі, якія з'яўляліся сацыяльнай апорай уладам. Яны былі добра арганізаваны, узброены і выконвалі паліцэйскія функцыі ў адносінах да мясцовага насельніцтва. Да вызвалення на тэрыторыі Заходняй Беларусі было расселена каля 10 тыс. асаднікаў.

Пад выглядам ліквідацыі цераспалосіцы польскі ўрад шырока праводзіў хутарызацыю ("камасацыю"), у выніку якой сяляне ўзамен раздробленых на вузкія палоскі зямель павінны былі атрымаць такую самую колькасць зямлі, але адзіным участкам. Да 1939 г. на хутары было пераведзена 43 % усіх гаспадарак, якія карысталіся 45 % усёй сялянскай зямлі. Выгаду ад рэформы атрымала невялікая частка сялян, якія яшчэ да перасялення на хутары былі заможнымі. Ва ўмовах агульнай гаспадарчай няўстойлівасці, нізкіх цэн на сельскагаспадарчыя прадукты і вялікіх банкаўскіх працэнтаў на пазыку (больш 12 %) тысячы сялян канчаткова разараліся і траплялі ў яшчэ большую залежнасць ад багатых.

Рэформа ліквідавала сервітуты – агульныя абшчынныя ўчасткі зямлі, у выніку чаго сяляне пазбавіліся пашы для жывёлы, вадаёмаў і сенакосаў. Аграрныя пераўтварэнні вялі да ўзрастання дыферэнцыяцыі сялян, колькасць бедных жыхароў вёскі пачала няўхільна

26. Зак. 5565

павялічвацца. Апалагет хутарской сістэмы цэнтральны орган Беларускай хрысціянскай дэмакратыі газета “Беларуская крыніца” пісала: “Здавалася б, добрая і карысная рэч хутары. Аказваецца, аднак, што ў большасці выпадкаў людзі, якія на іх перайшлі, згалелі і залезлі ў неаплатныя даўгі” (Беларуская крыніца. 1935. 10 сак.). Аб росце галечы сялян сведчыць рэзкае зніжэнне пакупніцкай здольнасці. У параўнанні з 1929 г. яна ў 1936 г. стала ў 2,5–3 разы ніжэйшай.

Сяляне павінны былі пастаянна выконваць дарожныя павіннасці – шарваркі, задарма працаваць на пабудове ці рамонце мастоў, дарог, грэбляў. Медыцынскае абслугоўванне з-за недахопу ўрачоў, дарагавізны медыкаментаў і лячэння было недаступна для большасці насельніцтва. Адзін доктар прыходзіўся на 5–6 тыс. чалавек. Сяляне лячыліся ў знахароў, роды прымалі бабкі-павітухі.

У пошуках заробкаў, даведзеныя голадам і ўціскам да адчаю, сяляне шукалі выйсця ў эміграцыі. У 1925–1938 гг. з трох ваяводстваў Заходняй Беларусі выехалі на пастаяннае жыхарства ў іншыя краіны 78,1 тыс. чалавек.

Кіраўнікі буржуазнай Польшчы на тэрыторыі Заходняй Беларусі праводзілі вялікадзяржаўную, шавіністычную палітыку. Яны не прызнавалі беларусаў за нацыю і мелі на мэце паланізаваць цэлы народ. Беларуская нацыянальная культура праследавалася, закрываліся беларускія газеты, школы, бібліятэкі. У дзяржаўных установах забаранялася ўжываць беларускую мову. Да захопу Польшчай у Заходняй Беларусі працавалі каля 400 беларускіх школ, 2 настаўніцкія семінарыі, 5 гімназій. Да 1939 г. усе беларускія навучальныя ўстановы былі ліквідаваны. Аб палітыцы нацыянальнай дыскрымінацыі можа сведчыць той факт, што колькасць беларусаў у Віленскім універсітэце, адзінай вышэйшай навучальнай установе, якая абслугоўвала насельніцтва Заходняй Беларусі, у 1934 г. склала 1,55 %. У Заходняй Беларусі не было ніводнага беларускага тэатра, ніводнай музычнай установы, адсутнічалі нацыянальныя радыё і кіно, у поўным заняпадзе было выяўленчае мастацтва, архітэктура. Па стану на 1939 г. 35 % насельніцтва краю не ўмела чытаць і пісаць.

Вядучую ролю ў паланізацыі беларускага насельніцтва адыгрывала каталіцкая царква. Даволі было беларусу памяняць веру з праваслаўнай на каталіцкую, як польскія ўлады аўтаматычна адносілі яго да польскай нацыянальнасці. Разам з гэтым у яго павялічвалася магчымасць атрымаць работу на прадпрыемстве або парабкам у памешчыка ці асадніка.

Каб зусім не згас агеньчык нацыянальнай культуры, лепшыя прадстаўнікі заходнебеларускай інтэлігенцыі самаахвярна працавалі ў гэтым напрамку. Яны абаранялі беларускую культуру ад нападкаў беларусафобаў, імкнуліся пашыраць асвету сярод свайго гаротнага, паднявольнага народа. Дзякуючы гэтаму пэўнае





развіццё атрымала беларуская літаратура. Пісьменнікі і паэты ў сваёй творчасці абапіраліся на дасягненні беларускай дарэвалюцыйнай літаратуры, на здабытку працэсу беларусізацыі ў БССР, на прагрэсіўную плынь у польскай культуры. Да такіх літаратараў належаць Максім Танк (Я.Скурко), М.Васілёк, М.Машара, В.Таўлай. У сваіх творах яны праслаўлялі чалавека працы, будзілі чалавечую і нацыянальную годнасць, заклікалі на барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. У гэты час пачыналі сваю літаратурную творчасць Я.Брыль, Я.Місько, С.Новік-Пяюн, Н.Тарас і інш. Сваёй публіцыстычнай і грамадскай дзейнасцю значны ўклад у беларускую культурную справу ўнеслі Б.Тарашкевіч, І. Лагіновіч, А.Луцкевіч, А.Станкевіч. Па падручніках на роднай мове, аўтарамі якіх былі І.Дварчанін, С.Паўловіч, С.Рак-Міхайлоўскі, вучыліся тысячы беларускіх дзетак. Плённую культурна-асветную работу праводзіў Р.Шырма, збіраючы і запісваючы цудоўныя творы беларускага фальклору: песні, танцы, хараводы. Дасягнуў высокага прафесійнага майстэрства беларускі спявак М.Забэйда-Суміцкі, які прапагандаваў беларускія народныя песні.

У дапаўненне да сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту ў Заходняй Беларусі панаваў жорсткі палітычны рэжым і паліцэйскі тэрор. Рэпрэсіравалі ў першую чаргу камуністаў або спачуваючых камуністычнаму руху. Паводле крымінальнага кодэкса ад 11 ліпеня 1932 г., за прыналежнасць да камуністычнай партыі прадугледжвалася пакаранне аж да пажыццёвага турэмнага зняволення. За садзейнічанне камуністам было ўстаноўлена пакаранне да пяці гадоў турмы.

Па ўсёй тэрыторыі “ўсходніх крэсаў” лютавалі карныя экспедыцыі, якія называліся “пацыфікацыяй”. У час пацыфікацый паліцэйскія разбуралі жыллё сялян, знішчалі маёмасць і харч, учынялі масавыя экзекуцыі. Пасля такога разбою жыхарам гэтых вёсак забаранялася запальваць агні вечарамі, збірацца разам некалькім чалавекам, хадзіць у суседнія вёскі. За ўдзел у забастоўцы рабочых лясных промыслаў у 1934 г. былі разгромлены вёскі Залессе, Загор’е, Русакова, Сценявічы, Міронія, Заверша Слонімскага павета. У 1935 г. санацыйныя ўлады “пацыфікавалі” амаль усю Брэсцкую акругу. Толькі ў Пружанскім павеце пацярпелі 70 вёсак. Вядучая роля ў правядзенні тэрору належала тайнай палітычнай паліцыі – дэфензіве. Яна шырока карысталася метадамі правакацый, паклёпу, запужвання і фізічных катаванняў.

Такім чынам, сацыяльнае, нацыянальнае і палітычнае становішча працоўных мас на тэрыторыі Заходняй Беларусі штурхала іх на актыўныя антыўрадавыя дзеянні. На працягу 20 гадоў тут прайшлі 4 хвалі рэвалюцыйнага руху – у 1923 г., у 1926 – пачатку 1927 г., у 1931–1933 гг., у 1936–1937 гг., г. зн. праз кожныя 2–3 гады.

## § 2. Нацыянальна-вызваленчая барацьба насельніцтва Заходняй Беларусі. Роля і значэнне дзейнасці палітычных партый і арганізацый камуністычнага і нацыянальна-дэмакратычнага напрамку

У пачатку і сярэдзіне 20-х гадоў сацыяльная і нацыянальная барацьба характарызавалася не толькі эканамічнымі забастоўкамі і антыўрадавымі дэманстрацыямі, але і праявамі ўзброеных выступленняў у форме партызанскага руху. У барацьбе прымалі ўдзел працоўныя гарадоў і вёсак, сельская інтэлігенцыя. Гэта былі людзі розных палітычных поглядаў – ад камуністаў да нацыянал-дэмакратаў. Там, дзе кіравалі партызанскімі атрадамі камуністы, рух насіў ярка акрэслены антыпамешчыцкі, класавы характар. А там, дзе задавалі тон людзі з нацыяналістычнымі настроямі, партызанская барацьба насіла антыпольскі напрамак. Такое назіралася на Гродзеншчыне і Беласточчыне. На Віленшчыне, Палессі, Навагрудчыне дзякуючы кіраўніцтву такіх камуністаў, як К.П.Арлоўскі, С.А.Ваўпшасаў, В.З.Корж і іншыя, партызанская барацьба набыла шырокі размах. Агульная колькасць партызан налічвала 5–6 тыс. У 1924–1925 гг. было праведзена каля 300 баявых аперацый. Польскія ўлады вымушаны былі ўвесці надзвычайнае становішча ў краі, каб рэпрэсіямі і тэрорам ліквідаваць гэты рух.

Ва ўмацненні сацыяльнага і нацыянальна-вызваленчага руху значную ролю адыгралі партыі і арганізацыі камуністычнага і нацыянальна-дэмакратычнага напрамку. Сярод іх галоўнае месца займала *Камуністычная партыя Заходняй Беларусі (КПЗБ)*. Яна была створана ў кастрычніку 1923 г. Арганізатарамі і кіраўнікамі КПЗБ у розныя гады яе дзейнасці былі І.К.Лагіновіч, А.А.Альшэўскі, С.А.Дубовік, М.С.Арэхва, Л.Н.Аранштам, А.С.Славінскі (сапр. Качароўскі), Л.І.Родзевіч, А.У.Канчэўскі і інш. Нягледзячы на нелегальны характар работы, рады партыі пашыраліся. У 1923 г. яна налічвала 523 камуністы, у 1928 г.– 3 тыс., у 1934 г.– 4 тыс. Акрамя таго, каля 3 тыс. членаў партыі знаходзілася пастаянна ў турмах. Друкаванымі органамі ЦК КПЗБ былі газета “Чырвоны сцяг” і часопіс “Бальшавік”. У розныя гады ЦК КПЗБ выдаваў на беларускай, польскай, рускай і яўрэйскай мовах газеты “Партработнік”, “Да барацьбы” , “Весткі з СССР”, “Куйце зброю”, “Голас салдата”, “Чырвоны сцяг” і інш.

КПЗБ была часткай Кампартыі Польшчы на правах тэрытарыяльнай нацыянальнай арганізацыі, таму яна не мела сваёй праграмы і статута, а кіравалася дакументамі КПП. Такая ж сітуацыя была і ў *Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі (КСМЗБ)*, які з'яўляўся аўтаномнай арганізацыяй камсамола Польшчы. Створаны КСМЗБ у студзені 1924 г. і ўвесь час заставаўся верным і надзейным





памочнікам КПЗБ, яе рэзервам. Да 4 тыс. чалавек аб'ядноўваў камсамол Заходняй Беларусі, пераважна сялянскую моладзь. Яго кіраўнікамі былі А.І.Андраюк, С.Р.Анісаў, М.М.Дворнікаў, М.С.Майскі, М.П.Маслоўскі, В.З.Харужая.

КПЗБ і КСМЗБ аказвалі моцны ўплыў на розныя масавыя арганізацыі дэмакратычнага і нацыянальна-вызваленчага напрамку. Асабліва значным поспехам было кіраўніцтва масавай легальнай рэвалюцыйна-дэмакратычнай арганізацыяй *Беларуская сялянска-рабочая грамада (БСРГ)*, створанай у 1925 г. былымі дзеячамі левага крыла партыі беларускіх сацыял-дэмакратаў, дэпутатамі польскага сейма Б.А.Тарашкевічам, С.А.Рак-Міхайлоўскім, П.В.Мятлой, П.П.Валошыным. У шэрагах Грамады актыўную ролю выконвалі камуністы, што садзейнічала распрацоўцы баявой рэвалюцыйнай праграмы арганізацыі. Гэта праграма мела наступныя патрабаванні: самавызначэнне Заходняй Беларусі, аб'яднанне яе з БССР, стварэнне сялянска-рабочага ўрада, канфіскацыя памешчыцкіх і царкоўных зямель, пераход іх ва ўласнасць дзяржавы, падзел зямель без выкупу паміж малазямельнымі сялянамі і парабкамі, ліквідацыя асадніцтва, 8-гадзінны працоўны дзень, нацыянальная роўнасць і навучанне на роднай мове, свабода сумлення, аддзяленне царквы ад дзяржавы і іншыя патрабаванні. Галоўным сродкам вызвалення працоўных была абвешчана адкрытая барацьба з эксплуататарамі на аснове саюзу рабочых і сялян. БСРГ праводзіла мітынгі, дэманстрацыі, выступленні сялян супраць абшарнікаў, кулакоў і асаднікаў, падатковага ўціску і аграрнай палітыкі польскіх улад, за вызваленне палітычных вязняў, за стварэнне беларускіх школ і інш.

Дзейнасць Грамады ўзначальваў ЦК: старшыня ЦК Б.А.Тарашкевіч, намеснік старшыні С.А.Рак-Міхайлоўскі, члены ЦК П.П.Валошын, П.В.Мятла, кіраўнік Цэнтральнага сакратарыята М.Т.Бурсевіч, палітрэдактар газет Я.С.Бабровіч. ЦК Грамады выдаваў газеты, якія па прычыне праследавання ўладамі часта закрываліся, таму выходзілі пад новымі назвамі: “Жыццё беларуса”, “Беларуская ніва”, “Беларуская справа”, “Народная справа”, “Наша справа”, “Наш голас”, “Наша воля”, “Народны звон”. Выходзіў таксама сатырычны часопіс “Маланка”.

У студзені 1927 г. Грамада аб'ядноўвала больш за 2 тыс. суполак, у якіх налічвалася каля 120 тыс. чалавек, дзейнічала 18 павятовых камітэтаў БСРГ: Баранавіцкі, Беластоцкі, Валожынскі, Ваўкавыскі, Віленскі, Гродзенскі, Лідскі, Маладзечанскі, Навагрудскі і інш. Бурны рост Грамады, яе поспехі ў кіраўніцтве барацьбой працоўных супраць эканамічнага, нацыянальнага і палітычнага прыгнёту непакоілі памешчыкаў, асаднікаў і акупацыйныя ўлады. Паліцыя і дэфензіва нават дазволеныя вышэйшымі ўладамі з'езды, мітынгі і нарады разганяла, а іх удзельнікаў збівала і арыштоўвала. Асабліва жорстка паліцыя расправілася з членамі Грамады 5 снежня 1926 г. у Стара-Бярозаве

27. Зак. 5565



*Беларускі пасольскі клуб "Змаганне за інтарэсы сялян і рабочых". 1-ы рад: А.Аўсянік, Ф.Ярэміч, П.Валошын; 2-і рад: В.Багдановіч, М.Кахановіч, Б.Тарашкевіч, А.Назарэўскі, А.Уласаў; 3-і рад: В.Рагуля, С.Якавюк, А.Станкевіч, С.Рак-Міхайлоўскі, П.Мятла*

(Беласточчына). У час работы дазволенага ўладамі з'езда конная і пешая паліцыя акружыла вёску, уварвалася ў памяшканне, дзе адбывалася пасяджэнне. У выніку пагрому каля 100 дэлегатаў атрымалі цяжкія і лёгкія раненні. Вельмі моцна былі збіты дэпутаты сейма П.П.Валошын і П.В.Мятла. Гэты эпізод барацьбы ў Заходняй Беларусі стаў вядомы далёка за межамі Польшчы, асабліва калі дэпутаты-грамадоўцы ў сейме даказалі прамое дачыненне польскіх улад да крывавай расправы над рабочымі і сялянамі, паказалі іх ганебныя метады падаўлення дэмакратычнага руху.

У студзені 1927 г. улады пачалі ліквідацыю гурткоў і камітэтаў БСРГ. Па ўсім краі прайшлі масавыя арышты яе актывістаў. Грамада была забаронена афіцыйна, больш за 400 яе кіраўнікоў і актывістаў прыцягнуты да судовай адказнасці. У 1927–1929 гг. адбываліся судовыя працэсы над членамі БСРГ. У лютым – маі 1928 г. Віленскім акруговым судом былі асуджаны 4 кіраўнікі БСРГ да 12 гадоў турмы, 33 падсудныя – да 3–8 гадоў катаргі (т. зв. "Працэс 56-ці"). Яны ўспрынялі прыгавор спевам гімна Грамады "Ад веку мы спалі". У абарону БСРГ выступілі працоўныя Савецкай Беларусі. У сакавіку 1928 г. быў створаны Камітэт абароны Грамады на чале з Я.Купалам. Мітынгі ў абарону Грамады прайшлі не толькі ў СССР, але і ў Германіі,





Чэхаславакіі, Англіі, Аўстрыі, Францыі, Італіі, ЗША, Канадзе, Бразіліі. Польскія ўлады мала звярталі на гэта ўвагі. Дэманстрацыі пратэсту падаўлялі сілай, а 5 лютага 1927 г. у мястэчку Косава дэманстрацыя была нават расстраляна. Загінулі 6 чалавек, каля 20 паранена.

Пасля разгрому Грамады яе традыцыі былі прадоўжаны сфарміраванай пры ўдзеле КПЗБ новай арганізацыяй – *"Змаганне за інтарэсы сялян і рабочых"*. Яна ствралася як выбарчы камітэт, Беларуская дэпутацкая фракцыя, напярэдадні выбараў у польскі сейм 4 сакавіка 1928 г. з прадстаўнікоў былога актыву Грамады. У час выбараў за спіс "Змагання" прагаласавала 26 % выбаршчыкаў. Выбраныя дэпутаты І.С.Дварчанін, І.Е.Гаўрылік, А.Стагановіч стварылі ў сейме сваю фракцыю – беларускі пасольскі клуб "Змаганне за інтарэсы сялян і рабочых". Да яго далучыліся Ф.І.Валынец, І.М.Грэцкі, П.С.Крынчык і інш. Старшынёй клуба быў абраны І.Гаўрылік, намеснікам І.Дварчанін. Амаль усе дэпутаты клуба "Змаганне" былі з сялян. Пераадолеўшы велізарныя цяжкасці, яны атрымалі адукацыю. Інтарэсы працоўных, асабліва сялян, ім былі зразумелыя. Усе дэпутаты клуба прымалі ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху. На іх палітычныя погляды станоўчае ўздзеянне аказвалі перамены ў БССР у 20-я гады, асабліва поспехі ў палітыцы беларусізацыі.

Палітычная платформа "Змагання" вылучала ў першую чаргу дэмакратычныя патрабаванні: спыненне нацыянальнага прыгнёту, паланізацыі, палітыкі мілітарызацыі, фашызацыі грамадскага жыцця, палітычнага тэрору, падпісанне Польшчай Дагавора з СССР аб ненападзенні, увядзенне 8-гадзіннага працоўнага дня і інш. Праграмныя мэты ўключалі і рэвалюцыйныя патрабаванні: нацыяналізацыю фабрык і заводаў, аб'яднанне беларускіх зямель у рэспубліку рабочых і сялян, г. зн. уз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР.

Польскія ўлады чынілі розныя перашкоды для стварэння сеткі гурткоў на месцах, а таксама ажыццяўлялі жорсткі ўціск на перыядычныя выданні "Змагання". З красавіка 1927 г. да сярэдзіны 1930 г. газеты "Змагання" 17 разоў мянялі сваю назву ("Наша праўда", "Думка працы", "Воля працы", "Голас працы", "Свет", "Світанне", "На варце" і інш.). 30 студзеня 1930 г. паліцыя правяла масавыя арышты актывістаў "Змагання", ліквідавала цэнтральны і павятовыя сакратарыяты. Гродзенскі акруговы суд восенню 1930 г. асудзіў лідэраў гэтай арганізацыі да 8 гадоў турмы.

Важную ролю ў грамадска-палітычным жыцці Заходняй Беларусі адыграла культурна-асветная арганізацыя – *Таварыства беларускай школы (ТБШ)*, створаная ў 1921 г. з адзінай мэтай: "распаўсюджваць і дапамагаць асвеце сярод беларусаў, пашыраць беларускія школы і беларускую асвету наогул". Так сказана ў статуце ТБШ.

За перыяд свайго існавання (да 1937 г.) ТБШ заваявала вялікую любоў насельніцтва Заходняй Беларусі. Аб гэтым сведчыць тое, што

да пачатку 30-х гадоў яна стала масавай прагрэсіўнай культурна-асветнай арганізацыяй і налічвала каля 500 гурткоў і 30 тыс. актывістаў. ТБШ змагалася за пісьменнасць насельніцтва, за беларускія школы, стварала бібліятэкі, хаты-чытальні, арганізоўвала мастацкую самадзейнасць, выдавала падручнікі, песеннікі. Мясцовыя аддзелы ТБШ стваралі драматычныя гурткі, якія актыўна працавалі сярод насельніцтва. Найбольш папулярнымі ў вясковых жыхароў былі пастаўленыя гэтымі гурткамі п'есы: "Паўлінка" Я.Купалы, "Збянтэжаны Саўка" Л.Родзевіча, "Модны шляхцюк" К.Каганца, "Суд" У.Галубка і інш.

Заслуга ТБШ была не толькі ў асветніцкай ролі, якую яна выконвала амаль 16 гадоў на тэрыторыі Заходняй Беларусі, але і ў тым, што яна падрыхтавала і выхавала ў вельмі цяжкіх умовах нацыянальнага прыгнёту значную колькасць беларускай творчай інтэлігенцыі. Гэта – грамадскі дзеяч Браніслаў Тарашкевіч, музыкант і кіраўнік народнага хору Рыгор Шырма, паэты Яўген Скурко (Максім Танк) і Валянцін Таўлай, пісьменнік Піліп Пестрак і многія іншыя.

У канцы 20 – пачатку 30-х гадоў адбыліся значныя палітычныя і эканамічныя змены на тэрыторыі Заходняй Беларусі. *Па-першае,* набіраў сілу прафашысцкі рэжым "санацыі", альбо санацыйны рэжым (ад лацінскага слова "аздараўленне"), устаноўлены Ю.Пілсудскім у маі 1926 г. пасля дзяржаўнага перавароту. *Па-другое,* слабая эканоміка Польшчы цяжка пераносіла ўсеагульны эканамічны крызіс 1929–1933 гг., вынікі якога ляглі на плечы працоўных. Толькі на тэрыторыі Заходняй Беларусі прадукцыя прамысловасці скарацілася на 30–40 %, што зрабіла часткова ці поўнасцю беспрацоўнымі амаль палову рабочых. *Па-трэцяе,* нямала шкоды нацыянальна-вызваленчаму руху нанесла сектанцкая дагматычная палітыка КПЗБ.

## § 3. Праблема адзінага рабочага і антыфашысцкага народнага фронту ў Заходняй Беларусі. Міжпартыйныя адносіны

Эканамічны крызіс 1929–1933 гг. надзвычай абвастрыў міждзяржаўныя і ўнутрыкласавыя супярэчнасці ў большасці краін свету. Гэта штурхала кіруючыя колы краін да пераходу на антыдэмакратычныя метады і формы дзяржаўнага кіравання. Такое імкненне спрыяла прыходу да ўлады найбольш жорсткіх альбо фашысцкіх рэжымаў. У 1933 г. фашысцкі рэжым усталяваўся ў Германіі, а яшчэ раней – у Італіі. У 1936 г. пачаўся антырэспубліканскі мяцеж Франка ў Іспаніі.

Знешнепалітычная арыентацыя на гітлераўскую Германію выкрышталізавала і ўнутрыпалітычны курс санацыйнага рэжыму





Ю.Пілсудскага ў Польшчы. Пасля заключэння ў студзені 1934 г. германска-польскага дагавора ў краіне хутчэй пайшла фашызацыя грамадскага жыцця. У гэтым жа годзе на тэрыторыі Заходняй Беларусі каля мястэчка Бяроза-Картузская быў створаны канцлагер, куды без суда і следства змяшчалі актывістаў нацыянальна-вызваленчай барацьбы, у першую чаргу камуністаў і камсамольцаў. У красавіку 1935 г. былі прыняты новая канстытуцыя Польшчы і новы выбарчы закон. Яны фактычна ліквідавалі тыя абмежаваныя дэмакратычныя правы, якія існавалі ў краіне ў 20-я гады. Новая канстытуцыя ўзаконіла санацыйны рэжым, і ў руках прэзідэнта сканцэнтравалася "адзіная і непадзельная дзяржаўная ўлада".

Такія перамены дыктавалі неабходнасць мяняць тактыку ўсяго сацыяльнага і нацыянальна-вызваленчага руху. Камуністычная партыя Польшчы і яе састаўная частка – Кампартыя Заходняй Беларусі – аказаліся негатовымі адразу да барацьбы ў новых умовах. Узброеная партызанская барацьба была больш лагічнай і зразумелай для заходнебеларускіх камуністаў, бо гэту школу яны добра прайшлі на франтах грамадзянскай вайны. Нягледзячы на тое, што яшчэ ў 1926 г. КПЗБ адмяніла курс на ўзброенае паўстанне, тэрарыстычныя настроі ў яе шэрагах існавалі доўгі час.

Другой, асабліва небяспечнай палітычнай лініяй было тое, што ў дзейнасці кампартый мэтанакіравана ўсталёўваліся максімалізм патрабаванняў, нецярпімасць да іншай думкі, акрамя камуністычнай, забываліся частковыя дэмакратычныя патрабаванні. На гэтай падставе з года ў год праводзілася палітыка варожасці да сацыял-дэмакратыі. Лічылася, што гэта дэмакратычная плынь, якую камуністычная прапаганда называла "сацыял-фашызмам", нават больш небяспечная для справы рабочага класа, чым сам фашызм. На практыцы адбывалася наадварот: у краінах, дзе камуністы аб'ядноўвалі свае намаганні ў барацьбе з сацыял-дэмакратамі і змагаліся ў адзінстве з дэмакратычнымі партыямі і арганізацыямі, дасягнута была перамога. Напрыклад, у 1935 г. французскія працоўныя не далі магчымасці захапіць фашыстам уладу ў сваёй краіне.

Рашаючую ролю ў перабудове ўсяго рэвалюцыйнага руху адыграў VII кангрэс Камінтэрна (1935), які распрацаваў тактыку барацьбы супраць фашызму і вайны. Пагроза вайны няўмольна выплывала з імкненняў і палітычнай практыкі прыйшоўшых да ўлады фашысцкіх рэжымаў. Кангрэс паставіў перад камуністамі наступныя задачы.

Трэба было стварыць адзіны рабочы фронт, што азначала аб'яднаць усіх рабочых у барацьбе за свае правы. Для гэтага камуністам неабходна было не лічыць сацыял-дэмакратаў ворагамі, а адшукаць тое агульнае, што дало б магчымасць дамовіцца аб сумесных дзеяннях.

Планавалася стварыць адзіны народны антыфашысцкі фронт. На практыцы гэта азначала, што важна аб'яднаць усе пласты грамадства, усіх грамадзян, якія не хочуць фашызму, імкнуцца не дапусціць новай вайны. Зразумела, што камуністам неабходна было адкласці чыста

28. Зак. 5565

камуністычныя лозунгі і заклікі, падтрымліваць тых, хто змагаўся за дэмакратыю, супраць мілітарызацыі, за нацыянальную культуру. Напрыклад, перад камсамолам увогуле была пастаўлена задача стварыць "фронт маладога пакалення" супраць фашызму. Гэта азначала адмову ад ідэалагічных імкненняў, не спыняцца нават перад самароспускам камсамола як арганізацыі, абы адарваць моладзь ад фашызму праз стварэнне свайго руху на аснове чыста юнацкіх інтарэсаў: набыццё прафесіі, адукацыі, заняткі спортам, мастацтвам, арганізацыя адпачынку і г.д.

Працэс рэалізацыі задачы па стварэнні адзінага фронту барацьбы ўсіх дэмакратычных сіл супраць фашысцкага наступу праходзіў вельмі цяжка і з пераменным поспехам. Камуністы не маглі хутка зжыць сектанцкія адносіны да дэмакратычных партый і арганізацый, вельмі вялікі недавер склаўся ў членаў гэтых партый да камуністаў. У выніку агульная справа цярпела няўдачу.

Што ўяўлялі сабой партыі і арганізацыі ў Польшчы і Заходняй Беларусі, якія сумеснымі дзеяннямі маглі стварыць антыфашысцкі фронт і не дапусціць перамогі фашызму?

*Польская сацыялістычная партыя (ППС)* створана ў 1892 г. Змагалася за нацыянальнае вызваленне Польшчы ад Расіі. Пасля 1917 г. стаяла на антысавецкіх і антыкамуністычных пазіцыях, падтрымлівала ўрадавую палітыку паланізацыі насельніцтва "ўсходніх крэсаў". Нязгодныя з такой палітыкай кіраўніцтва партыйцы ППС у 1926 г. адкалоліся і стварылі ППС-лявіцу. У 1931 г. яна была забаронена. У 30-я гады ў правай ППС зноў сталі ўзнікаць левыя плыні, што давала магчымасць для супольнай барацьбы супраць фашызацыі польскага рэжыму.

Значны ўплыў на працоўных гарадоў і мястэчак Заходняй Беларусі мелі яўрэйскія дэмакратычныя арганізацыі. Вядучую ролю адыгрываў Бунд – *Усеагульны яўрэйскі рабочы саюз у Літве, Польшчы і Расіі*. Створаны ў 1897 г., ён выяўляў галоўным чынам інтарэсы яўрэйскай беднаты і паўпралетарскіх элементаў. На тэрыторыі Заходняй Беларусі Бунд супрацоўнічаў з ППС. Выдаваў у Варшаве штодзённую газету "Фольксцайтунг". Пад кіраўніцтвам Бунда працавалі дзіцячая арганізацыя "Скіф" (Сацыялістычны дзіцячы яўрэйскі саюз) і юнацкая Югенд-Бунд "Цукунфт". Бунд стаяў на пазіцыях легальнай парламенцкай дзейнасці, супрацоўнічаў з *партыяй Паалей-Цыён*, якая мела левае і правае крыло. Гэта партыя прапагандавала неабходнасць стварэння асобай яўрэйскай эканомікі і пабудовы ў перспектыве яўрэйскага сацыялістычнага грамадства ў Палесціне.

Значным уплывам на сялянскія масы карысталася партыя "*Стронніцтва людове*", якая ўтварылася ў выніку аб'яднання ў 1931 г. некалькіх партый: "Вызволене", "Стронніцтва хлопске" і "Пяст" (польская сялянская партыя, што існавала ў 1912–1931 гг.). "Стронніцтва людове" знаходзілася ў апазіцыі да рэжыму Пілсудскага.





Асобнае месца ў сацыяльным і нацыянальна-вызваленчым руху ў Заходняй Беларусі займалі беларускія нацыянальныя партыі і арганізацыі, якія раней кваліфікаваліся як нацыяналістычныя. Вядучую ролю сярод іх адыгрывала *Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД)*. Існавала БХД у 1917–1940 гг. У пачатку 30-х гадоў яна стала лідэрам сярод партый названага напрамку, аб'ядноўваючы галоўным чынам беларускіх католікаў. Мела цэнтральны орган – газету "Беларуская крыніца", якая выдавалася на беларускай мове і спачатку друкавалася лацінскім алфавітам, а потым – кірыліцай. У пачатку 1936 г. БХД перайменавана ў *Беларускае нацыянальнае аб'яднанне (БНА)*. Гэта было зроблена з мэтай пашырэння ўплыву на праваслаўную частку насельніцтва.

БХД і БХД–БНА дамагаліся непарушнасці прыватнай уласнасці – асновы буржуазнай дзяржавы. Падкрэслівалася, што "БНА імкнецца да таго, каб у незалежнай Беларусі быў створаны такі грамадскі лад, які, абапіраючыся на працу, грамадскую роўнасць і справядлівасць, не дапускаючы эксплуатацыі адных другімі, забяспечваў бы грамадска-палітычныя, культурныя і эканамічныя патрэбы грамадства. БНА супраць дыктатуры капіталу, фашызму і камунізму". Словы, безумоўна, прыгожыя, але як гэта зрабіць, адказу праграма не давала. Лічылася, што стварэнне хутарской сістэмы будзе асноўнай формай прыватнага землеўладання, а беззямельныя і малазямельныя сяляне атрымаюць зямлю без выкупу. Але чыю зямлю яны возьмуць без выкупу? У каго? І як? Адказу не было. Не было адказу і на пытанне, як здзейсніць праграмную заяву па нацыянальным пытанні: самастойнасць беларускага народа, аб'яднанага ў незалежную дзяржаву ў сваіх этнічных граніцах. На чале партыі стаяў ксёндз А.Станкевіч. У актыве былі В.Гадлеўскі, К.Стаповіч, А.Зязюля (А.С.Астрамовіч) і інш.

Канкурэнтам БХД–БНА ў барацьбе за ўплыў на насельніцтва Заходняй Беларусі выступала палітычная групоўка беларускіх буржуазных суполак *Цэнтральны саюз культурных і гаспадарчых арганізацый (Цэнтрасаюз)*, якая насіла неафіцыйную назву "Беларуская санацыя", бо лічыла магчымым кампраміс з "санацыйным" рэжымам Ю.Пілсудскага. Абапіралася на беларускіх памешчыкаў, частку інтэлігенцыі і найбольш заможных сялян-беларусаў. Кіраўніцтва гэтай партыяй ажыццяўлялі А.Луцкевіч, Р.Астроўскі, Ф.Акінчыц і інш. Выпускала газеты "Беларускі звон", "Наперад", "Родны край".

У барацьбе за адзіны рабочы фронт камуністы не маглі ігнараваць той факт, што прафсаюзы ў Заходняй Беларусі былі вельмі раз'яднаныя і ў поўным сэнсе слова адлюстроўвалі той уплыў на рабочы клас, які мелі розныя партыі, а таксама і дзяржава. Усяго ў краі налічвалася да 14,4 тыс. членаў прафсаюза, у тым ліку пад уплывам польскага ўрада – 4,2 тыс., ППС – 4,2 тыс., КПЗБ – 3 тыс., розных клерыкальных партый і арганізацый – 1,8 тыс., Бунда –1,2 тыс. чалавек.

КПЗБ паступова пачала адыходзіць ад сектанцкай устаноўкі на стварэнне толькі камуністычных прафсаюзаў і вяла работу па аб'яднанні ўсіх рабочых арганізацый на аснове самых дэмакратычных патрабаванняў: 8-гадзіннага працоўнага дня, павышэння зарплаты і інш. Вельмі важна было дамовіцца аб сумесных дзеяннях з ППС, Бундам, "Стронніцтвам людовым" па арганізацыі барацьбы працоўных, асабліва для правядзення забастовак, мітынгаў і дэманстрацый. Пачынаючы з 1935 г. гэта пачало ўдавацца. У кастрычніку 1935 г. дасягнута дамоўленасць у Вільні з кіраўніцтвам ППС, Бунда і Паалей-Цыёна аб стварэнні адзінай акруговай Цэнтральнай камісіі прафсаюзаў, а таксама аб сумеснай барацьбе за школу на роднай мове. У лістападзе 1935 г. такое пагадненне было дасягнута ў Баранавічах, а потым і ў іншых месцах.

Камуністы ўзмацнілі работу сярод членаў нізавых арганізацый "Стронніцтва людовага" з мэтай папулярызацыі ідэі адзінага фронту. Разнастайная работа дала свае вынікі: рэзка ўзрасла колькасць і размах рабочых стачак. Асабліва папулярнымі зрабіліся т. зв. акупацыйныя, альбо "польскія", стачкі. Гэта азначала, што рабочыя не толькі спыняюць працу, але займаюць усё прадпрыемства, знаходзячыся там днём і ўначы, нікога туды не прапускаючы. У Заходняй Беларусі такіх стачак адбылося: у 1935 г.– 23, у 1936 г.– 53, а ў 1937 г.– 62.

Паспяхова праводзіліся адзінафронтавыя кампаніі сумесна з БХД–БНА за школу на беларускай мове, за выданне беларускай граматыкі. У канцы 1935 г. стала выдавацца газета нацыянальна-вызваленчага характару "Наша воля". Выйшла 10 нумароў. Але не ўсё яшчэ было гладка. Імкненне кіруючых колаў БХД–БНА паказаць свой антыкамуністычны твар і тым самым набыць сабе большую палітычную вагу ў вачах санацыйнага рэжыму прывяло да таго, што ЦК гэтай партыі ў верасні 1935 г. апублікаваў т. зв. "Камунікат" з выпадамі супраць КПЗБ, СССР і БССР. У ім адмаўляліся супольныя дзеянні ў народным фронце з КПЗБ, і кіраўніцтва ад імя ўсёй БХД заявіла, што з'яўляецца адзінай беларускай палітычнай арганізацыяй у межах Польшчы. Але пад націскам беларускай грамадскасці, не задаволенай такім палітычным крокам, баючыся страціць падтрымку шырокіх колаў працоўных, кіраўніцтва БХД вымушана было зноў заключыць пагадненне з КПЗБ па школьным пытанні.

Паспяховыя акцыі праводзіліся сумесна ТБШ (з боку КПЗБ) і *Беларускім інстытутам гаспадаркі і культуры (БІГіК)*, які знаходзіўся пад уплывам БХД. У 1936 г. быў створаны легальны цэнтральны сакратарыят па збору подпісаў пад патрабаваннем адкрыць беларускія школы. Сакратарыят разаслаў па ўсім краі каля 50 тыс. дэкларацый для збору подпісаў. Патрабаванні адкрыцця школ на роднай мове вучні падтрымлівалі забастоўкамі, якія сталі праходзіць амаль па ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі. Дзяцей падтрымлівалі бацькі. Тады польскія ўлады забаранілі дзейнасць школьнага сакратарыята, а затым ТБШ і БІГіК. Уціск беларускіх арганізацый стаў





узмацняцца. У жніўні 1937 г. забаронена дзейнасць *Саюза беларускіх настаўнікаў*, у 1939 г. перастала выдавацца газета БХД–БНА "Беларуская крыніца", а лідэр партыі А.Станкевіч быў высланы з Вільні ў Слонім.

Значную ролю ў стварэнні адзінага антыфашысцкага фронту адыгрывала маладая інтэлігенцыя Вільні. Яшчэ ў 1933 г. пачала сваю дзейнасць пад кіраўніцтвам камсамола Заходняй Беларусі легальная антыфашысцкая арганізацыя пад назвай *"Саюз студэнцкай лявіцы "Фронт"* на чале з Г.Дэмбінскім і С.Ендрыхоўскім.

Асабліва бурную антыфашысцкую дзейнасць "Фронт" разгарнуў у другой палове 1935 г. Яго ўплыў на моладзь быў моцны не толькі ва універсітэце, але і на ўсю дэмакратычную інтэлігенцыю Вільні. "Фронт" пачаў выдаваць газету "Папросту", якая хутка набыла вялізную папулярнасць. Яе тыраж за 7 месяцаў вырас з 3 тыс. да 20 тыс. экзэмпляраў. Улады закрылі газету. Тады арганізацыя пачала выдаваць новую – "Карта". Пасля выхаду 3 нумароў закрылі і яе. Кіраўнікоў "Фронту" арыштавалі і ў студзені 1936 г. арганізавалі т. зв. судовы "працэс адзінаццаці". На лаве падсудных сядзелі 6 палякаў, 3 беларусы, 1 літовец, 1 яўрэй. Усе падсудныя не ўтойвалі сваіх антываенных, антыфашысцкіх поглядаў і заявілі аб сваіх сімпатыях да працоўных і да СССР. Польскія суддзі вынеслі "справядлівы прыгавор": усіх палякаў апраўдалі, а ў турму пасадзілі "іншародцаў" – беларусаў, літоўца і яўрэя. Пасля судовага працэсу арганізацыя перайшла на нелегальнае становішча. У 1937 г. улады канчаткова разграмілі арганізацыю "Фронт", а лідэраў Г.Дэмбінскага і С.Ендрыхоўскага прыгаварылі да 4 гадоў турмы.

У пачатку 1937 г. рэвалюцыйная і антыфашысцкая барацьба ў Заходняй Беларусі, безумоўна, мела значны поспех. Нягледзячы на рэпрэсіі польскіх улад, у забастовачнай барацьбе прымала ўдзел каля 30 тыс. чалавек толькі рабочых. Дакладная лічба бастуючых сялян невядомая, але аб маштабах гэтай барацьбы можна меркаваць па тым, што ва ўсёй Польшчы толькі 15 жніўня 1937 г. баставала 10 млн чалавек. Актыўнасць сялян на "крэсах усходніх" звычайна была значна вышэйшай, але ў дадзеным выпадку, баючыся разгортвання шырокага нацыянальна-вызваленчага руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, кіраўніцтва партыі "Стронніцтва людове" спецыяльна забараніла ўдзел ва ўсеагульнай забастоўцы сялян гэтага рэгіёна.

Ва ўмовах нарастання барацьбы працоўных і значных поспехаў па стварэнні адзінага народнага фронту ў Польшчы, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне Кампартыя Польшчы і яе састаўныя часткі – КПЗБ і КПЗУ – у сакавіку 1938 г. былі распушчаны і перасталі існаваць. Роспуску папярэднічалі масавыя рэпрэсіі ў 1937 г. у БССР супраць кіраўніцтва гэтых партый, што фактычна паралізавала ўсю барацьбу. Як польскія шпіёны і дыверсанты былі рэпрэсіраваны А.А.Альшэўскі, Р.Д.Вольф, Э.А.Ідэль, І.К.Лагіновіч, М.С.Майскі,


DO LUD ... RACY

20 ... przed sądem faszystowskim w Wilnie ... Sergiusz Prytycki, który strzelił na sali wileńskiego sądu w podłego prowokatora Strzelczyka ... oprawców ... już z wyroku przewidziane.

Nad głową ... bohatera ... synem klasy pracującej, oddanym bojownikiem sprawy jej uwolnienia, który stanął w pierwszych szeregach ... walczących ... wielkich właścicieli ... swoje oddanie się dla ludu pracującego ... Prytycki ... Należy protestować ... Milczeć nie ...

Лістоўка з фатаграфіяй С.В.Прытыцкага з заклікам да барацьбы за яго выратаванне. 15 кастрычніка 1936 г.

М.П.Маслоўскі, С.А.Мертэнс, В.З.Харужая, Л.М.Янкоўская і многія іншыя. Праз 18 гадоў у газеце "Правда" (21 лютага 1956 г.) была апублікавана заява Цэнтральных Камітэтаў кампартый СССР, Балгарыі, Фінляндыі, Італіі і Польшчы, што абвінавачванне ў 1938 г. Кампартыі Польшчы (а разам з ёю КПЗБ і КПЗУ) было сфабрыкавана правакатарамі, а роспуск яе быў неабгрунтаваны. У заяве дадзена высокая ацэнка дзейнасці КПП.

Нягледзячы на такі ўдар па сацыяльным і нацыянальна-вызваленчым руху ў Польшчы, барацьба працоўных, хоць і не так інтэнсіўна, як раней, усё ж працягвалася аж да 17 верасня 1939 г. Аб гэтым сведчаць як дакументы афіцыйных польскіх улад, так і грамадскія выданні таго часу. Напрыклад, у кастрычніку 1938 г. грамадска-палітычнае ўпраўленне Палескага ваяводства паведамляла: "...нягледзячы на роспуск Камінтэрнам КПП і яе састаўных частак, дзейнасць падрыўных элементаў не толькі не спынілася, а ў апошні час нават узмацнілася. Гэтая дзейнасць развіваецца ў трох напрамках: арганізацыйнага будаўніцтва, агітацыі за дружбу з СССР, "Мопраўскай кампаніі" (МОПР – міжкародная арганізацыя дапамогі рэвалюцыянерам).

Такім чынам, мы толькі ў агульных рысах пазнаёміліся з цяжкім і гераічным перыядам жыцця амаль паловы беларускага народа на працягу 19 гадоў. Уз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР – новая старонка гісторыі беларускага народа.






Удзельнікі рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі – Героі Савецкага Саюза. Злева направа: 1-ы рад – К.П.Арлоўскі, В.З.Корж, С.А.Ваўпшасаў, В.З.Харужая; 2-і рад – Ф.Р.Маркаў, А.М.Рабцэвіч, А.І.Валынец, У.З.Царук

Робячы высновы з вышэйсказанага, можна адзначыць, што падзел тэрыторыі Беларусі стаў цяжкай трагедыяй і чарговым гістарычным выпрабаваннем для беларускага народа. Яго заходняя частка апынулася фактычна ў каланіяльным становішчы, што абумовіла заняпад эканомікі і культуры. Дзяржаўная палітыка Польшчы па апалячванні беларускага насельніцтва пакінула на самасвядомасці народа значны адбітак, які захаваўся да нашага часу і не спрыяе нацыянальнай кансалідацыі беларусаў.

Беларускі народ не мірыўся з прыгнечаным становішчам і змагаўся за сацыяльную і нацыянальную незалежнасць, за ўз'яднанне з усходняй часткай у адзіную дзяржаву. У гэтай справе ён вылучыў такіх выдатных і мужных барацьбітоў, як Кірыла Арлоўскі, Станіслаў Ваўпшасаў, Андрэй Валынец, Васіль Корж, Фёдар Маркаў, Сяргей Прытыцкі, Аляксандр Рабцэвіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Браніслаў Тарашкевіч, Вера Харужая, Уладзімір Царук і іншыя (многія з іх сталі Героямі Савецкага Саюза). Грамадскі і палітычны рух быў многаабліччым і разнастайным, адпаведным складанай класавай і

этнічнай структуры грамадства. Вядучую ролю ў ім ігралі Камуністычная партыя і камсамол Заходняй Беларусі.

На вызваленчы рух у Заходняй Беларусі вельмі супярэчлівае ўздзеянне аказвалі падзеі ў Савецкім Саюзе і Савецкай Беларусі. З аднаго боку, БССР пастаянна і ў значных маштабах аказвала матэрыяльную, кадравую, палітычную і ідэалагічную падтрымку, натхняла на барацьбу поспехамі будаўніцтва новага грамадства. А з другога боку, уціск дэмакратыі і голад у 1932–1933 гг. адштурхоўвалі людзей ад гэтай барацьбы. Палітычныя рэпрэсіі, накіраваныя супраць многіх актыўных дзеячаў рэвалюцыйнага і грамадскага руху, значна аслаблялі ўвесь рух. У выніку стварыць антыфашысцкі фронт не ўдалося.

## ВЫВАДЫ

1. Новая эканамічная палітыка была спробай выкарыстаць вопыт капіталізму ў інтарэсах пабудовы сацыялістычнага грамадства. У выніку ажыццяўлення палітыкі сацыялістычнай індустрыялізацыі ў 20–30-я гады Савецкі Саюз, у тым ліку і Беларуская ССР, ператварыўся з аграрнай дзяржавы ў індустрыяльна-аграрную, з краіны, якая завозіла з-за мяжы машыны і абсталяванне, у краіну, якая іх цяпер выраблядла. Палітыка сацыялістычнай індустрыялізацыі садзейнічала першачарговаму развіццю цяжкай прамысловасці, стварэнню ўмоў для тэхнічнага пераабсталявання ўсіх галін гаспадаркі, умацаванню абараназдольнасці краіны. Нягледзячы на пралікі і памылкі, нізкі ў цэлым узровень жыцця народа, сацыялістычная індустрыялізацыя забяспечыла тэхніка-эканамічную незалежнасць СССР ад капіталістычных краін, стварыла матэрыяльную базу для абароны свайго суверэнітэту ў часы суровых выпрабаванняў.

2. Абапіраючыся на калектывісцкую традыцыю ўсходнеславянскай вёскі (сельская абшчына, талака і г. д.), зыходзячы з навуковых абгрунтаванняў і практычнага вопыту кааперацыі сельскагаспадарчай вытворчасці, Камуністычная партыя і Савецкая дзяржава распрацавалі і ажыццявілі ў 20–30-я гады палітыку калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Нягледзячы на памылкі (фарсіраванне тэмпаў, прымусовасць уступлення ў калгасы, абагуленне свойскай жывёлы і прадметаў хатняга ўжытку і г. д.), калектывізацыя сельскай гаспадаркі садзейнічала стварэнню буйной сельскагаспадарчай вытворчасці, яе механізацыі, выкарыстанню тэхнікі, сучаснай тэхналогіі, дасягненняў навукі. Павышалася прадукцыйнасць працы і эфектыўнасць сельскагаспадарчай вытворчасці. Аднак недастатковыя фінансава-эканамічныя магчымасці дзяржавы, неабходнасць накіроўваць большую частку сродкаў на развіццё цяжкай прамысловасці і ўмацаванне абараназдольнасці краіны прыводзілі да слабага фінансавання сельскай гаспадаркі. Меры дзяржаўнай дапамогі калгаснаму будаўніцтву часта заставаліся на паперы, фінансава-эканамічнае становішча калгасаў і саўгасаў было даволі цяжкім.

3. У 20–30-я гады Савецкая Беларусь ліквідавала ў асноўным масавую непісьменнасць дарослага насельніцтва, мільёны людзей навучыліся лічыць, чытаць і пісаць. Значна павысіўся агульнаадукацыйны і культурны ўзровень беларускага народа. Гэта дасягненне, якое не страціла сваёй значнасці і сёння, калі ўлічваць той вядомы факт, што ў цяперашнім свеце амаль кожны пяты жыхар планеты застаецца непісьменным чалавекам.

4. Беларуская ССР першай з рэспублік Саюза ССР на мяжы 20–30-х гадоў ажыццявіла ўсеагульнае абавязковае пачатковае навучанне і працягвала работу па паступовым увядзенні ўсенавуча на базе сямігадовай школы. Да канца 30-х гадоў быў зроблены значны крок у ажыццяўленні ўсеагульнага сямігадовага навучання і ў развіцці сярэдняй адукацыі. Гэта таксама агульнацывілізаванае дасягненне, якім можа ганарыцца беларускі народ. Нават у краінах, якія сёння называюць цывілізаванымі, не ўсе дзеці школьнага ўзросту маюць магчымасць наведваць школу, атрымліваць веды.

5. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі была створана вышэйшая школа Беларусі, дзверы якой шырока расчыніліся для дзяцей з працоўнага асяроддзя. Былі створаны таксама беларуская навука і новая інтэлігенцыя. У склад беларускай савецкай інтэлігенцыі ўвайшлі выпускнікі вышэйшых і сярэдніх спецыяльных устаноў, дарэвалюцыйныя спецыялісты, якія супрацоўнічалі з савецкай уладай і, нарэшце, вылучэнцы з рабоча-сялянскага асяроддзя ( неабходную кваліфікацыю яны атрымлівалі праз сістэму завочнага і вячэрняга навучання, а таксама праз школы, курсы, семінары і г.д.).

6. Была створана адна з лепшых у свеце сістэма народнай адукацыі з яе прынцыпамі гуманнасці, пераемнасці, агульнадаступнасці, бясплатнасці. Гэта трэба падкрэсліць і таму, што сёння ўсё часцей выносяцца прапановы аб прыпыненні дзяржаўнага фінансавання адукацыі і пераводзе яе на платную аснову, што зрабіла б адукацыю недаступнай для шырокіх колаў насельніцтва.

7. У вострай барацьбе розных літаратурна-мастацкіх школ і плыняў ствараліся беларуская савецкая літаратура, савецкае тэатральнае, музычнае і выяўленчае мастацтва, архітэктура. Да канца 30-х гадоў Савецкая Беларусь дасягнула значных поспехаў у развіцці літаратуры і мастацтва. Чалавек працы, змагар і будаўнік стаў галоўным героем літаратурна-мастацкіх твораў. Шмат месца ў творах пісьменнікаў, паэтаў і мастакоў занялі мінулае і сучаснае Беларусі, барацьба працоўнага люду за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Творы літаратуры і мастацтва ствараліся для чалавека і дзякуючы росту яго агульнаадукацыйнага і культурнага ўзроўню станавіліся даступнымі для народа. Ён з'яўляўся галоўным спажыўцом усёй той прадукцыі, якая стваралася ў сферы духоўнай, куль-

турнай дзейнасці. У Беларускай ССР ажыццяўлялася сапраўдная культурная рэвалюцыя.

8. Грамадска-палітычнае жыццё ў 20–30-я гады характарызавалася тым, што ў працэсе барацьбы за ўладу і накірункі сацыяльна-палітычнага развіцця краіны, якая вялася паміж прыхільнікамі і праціўнікамі Саветаў, пацярпела шмат непавінных людзей з ліку партыйных і дзяржаўных кіраўнікоў, дзеячаў навукі, літаратуры і мастацтва, сціплых працаўнікоў. У той жа час існавалі і дзейнічалі Саветы, прафсаюзныя, грамадскія, камсамольскія арганізацыі. Людзі працавалі, змагаліся, будавалі, стваралі, марылі, клапаціліся аб сваім будучым і лёсе сваіх дзяцей.

9. Частка гісторыкаў і публіцыстаў не згодна са сцвярджэннямі аўтараў тых публікацый, у якіх сілавыя дзеянні дзяржавы ў 20–30-я гады ў адносінах да сваіх палітычных праціўнікаў і крымінальных элементаў называюцца агульным тэрмінам “палітычныя рэпрэсіі супраць народа” і прыводзяцца навукова неабгрунтаваныя, фантастычных памераў лічбы ахвяр гэтых рэпрэсій. На іх думку, у адпаведнасці з тагачасным савецкім заканадаўствам, удзельнікі белагвардзейскай контррэвалюцыі, антысавецкіх мяцяжоў і бандфарміраванняў, шпіёны, дыверсанты, шкоднікі, фашысцкія памагатыя ў гады Вялікай Айчыннай вайны і некаторыя іншыя катэгорыі праціўнікаў савецкай улады здзяйснялі злачынствы, таму рэпрэсіі дзяржавы ў адносінах да іх, праўда, у вельмі жорсткай форме, як і да чыста крымінальных элементаў, былі абгрунтаванымі. Любая дзяржава павінна ўмець сябе абараняць. Неабгрунтаваныя рэпрэсіі былі ўчынены толькі ў адносінах да сумленных і законапаслухмяных людзей, якія пры патуранні дзяржавы сталі ахвярамі паклёпаў і абгавораў з боку палітычных авантурыстаў, жулікаў і прайдзісветаў. На думку гэтай часткі гісторыкаў і публіцыстаў, патрабуецца навуковае высвятленне прычын, механізма і вынікаў барацьбы за ўладу, якая вялася ў 20–30-я гады, і накірункаў сацыяльна-палітычнага развіцця краіны.

10. У 1921–1939 гг. заходнебеларускія землі з’яўляліся аграрна-сыравінным прыдаткам буржуазнай Польшчы. Буйныя прамысловыя прадпрыемствы амаль адсутнічалі. Ажыццяўлялася паланізацыя краю, усё беларускае, нацыянальнае знішчалася. Польскія ўлады памылкова лічылі, што Заходняя Беларусь населена ў пераважнай большасці не беларусамі, а палякамі. У 30-я гады канчаткова зніклі школы, часопісы, газеты, культурна-асветныя ўстановы, якія раней працавалі на беларускай мове. На тэрыторыі краю не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы. Насельніцтва Заходняй Беларусі змагалася за сваё нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне, за ўз’яднанне братоў-беларусаў у адзінай дзяржаве.





# Літаратура

## Глава I


Кооперативно-колхозное строительство в Белорусской ССР (1917–1927 гг.): Сб. документов и материалов. Мн., 1980.

Проведение сплошной коллективизации сельского хозяйства Белорусской ССР (ноябрь 1929 г.–1932 г.): Сб. документов и материалов. Мн.,1973.

*Власенко Н.В.* Борьба Компартии Белоруссии за построение экономического фундамента социализма. 1926–1932 гг. Мн.,1970.

*Герман К.К.* Ведущая роль рабочего класса в создании колхозного строя в Белоруссии (1926–1935 гг.). Мн., 1968.

Гісторыя Беларускай ССР: У 5 т. Мн., 1973. Т.3.

*Данилов В. П.* Советская доколхозная деревня: социальная структура, социальные отношения. М., 1979.

*Завалеев Н.Е.* Рабочий класс Белоруссии в борьбе за социализм. 1917–1932 гг. Мн., 1967.

История рабочего класса Белорусской ССР: В 4 т. Мн., 1985. Т.2.

*Касперович Э.А.* Спецпереселенцы. Мн., 1991.

*Костюк М.П.* Идейно-политическое воспитание крестьянства: Из опыта работы Компартии Белоруссии в период строительства социализма (1926–1937 гг.). Мн., 1979.

*Костюк М.П.* Социалистические ценности тружеников села: история, современность, перспективы. Мн., 1989.

*Костюк М.П.* Трудовой вклад крестьянства в победу и упрочение социализма (1926–1937 гг.). Мн., 1979.

*Костюк М.П.* Трудовой вклад крестьянства в победу и упрочение социализма: На материалах БССР. Мн., 1986.

Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. Мн., 1995. Ч.2.

Очерки истории профсоюзов Белорусской ССР. Мн., 1970.

Победа колхозного строя в Белорусской ССР. Мн., 1981.

*Сорокин А.Н.* Совхозное строительство в Белоруссии в 1928–1932 гг. Мн., 1968.

*Тепцов Н.В.* Аграрная политика: на крутых поворотах 20–30-х годов. М., 1990.

*Филимонов А.А.* Укрепление союза рабочего класса и трудящегося крестьянства в период развернутого строительства социализма (1929–1936 гг.). Мн., 1968.

*Шкляр М.Е.* Борьба Компартии Белоруссии за укрепление союза рабочего класса и трудящегося крестьянства в восстановительный период (1921–1925 гг.). Мн., 1960.

Экономика Советской Белоруссии. 1917–1967. Мн., 1967.


## Глава II


Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі: савецкі перыяд. Мн., 1991.

*Адамушка Ул.* Палітычныя рэпрэсіі 20–50-х гадоў на Беларусі. Мн., 1994.

*Лагун С.Р.* Укрепление Советов Белоруссии и повышение их роли в строительстве социализма. Мн., 1970.

*Лыч Л.М.* Ликвидация экономического и социально-культурного неравенства союзных республик (1917–1941 гг.). Мн., 1987.

*Молочко А.Д.* Белорусская ССР в братской семье народов Советского Союза. Мн., 1972.

Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. Мн., 1995. Ч.2.

Правда истории: Память и боль. Мн., 1991.

*Снапкоўскі Ул.* Эміграцыя // Полымя. 1995. №11.


## Глава III


Перыядычны друк Беларусі 20–30-х гадоў XX ст.

Гісторыя Беларускай ССР: У 5 т. Мн., 1973. Т.3.

Гісторыя беларускага мастацтва: У 6 т. Мн., 1990. Т.4.

Гісторыя беларускай савецкай музыкі. Мн., 1971.

Гісторыя беларускай савецкай драматургіі (1917–1955 гг). Мн., 1989.
Беларуская станковая графіка. Мн., 1978.
*Беспалый А.А.* Белорусская акварель. Мн., 1989.
*Ильюшин И., Умрейко С.* Народное образование в Белорусской ССР. Мн., 1961.
История архитектуры Белоруссии. Мн., 1987.
*Красовский Н.И.* Высшая школа Советской Белоруссии. Мн., 1972.
Літаратура, народжаная Кастрычнікам. Мн., 1983.
Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. Мн., 1968.
*Новик Е.К.* Формирование кадров народного образования Белоруссии (1917–1941 гг.). Мн., 1981.
*Нефёд В.* Становлеиие белорусского советского театра. Мн., 1965.

### Глава IV

Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР: Документы и материалы. Мн., 1962. Т.1; 1972. Т.2.
Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921–1939 гг.). Мн., 1966.
Революционный авангард трудящейся молодёжи Западиой Белоруссии.1921–1939 гг. Документы и материалы. Мн., 1978.
*Зелинский П.И.* Политическая работа КПЗБ в массах. 1923–1938. Мн., 1986.
*Ладысев В.Ф.* В борьбе за демократические права и свободы (из исторического опыта Компартии Западной Белоруссии). 1926–1938 гг. Мн., 1988.
*Мацко А.Н.* Революциониая борьба трудящихся Польши и Западной Белоруссии против гнета буржуазии и помещиков. 1918–1939 гг. Мн., 1972.
*Палуян У.А.* Беларуская сялянска-рабочая грамада. Мн., 1967.
*Полуян И.В.* Западная Белоруссия в период экономического кризиса 1929–1933 гг. Мн., 1991.
*Полуян В.А.* Революционно-демократическое движение в Западной Белоруссии (1927–1939 гг.). Мн., 1978.
*Сорокин А.А.* Освободительное и революционное крестьянское движение в Западной Белоруссии (1921–1939 гг.). Мн., 1972.
*Царюк И.О.* В братском союзе. Мн., 1976.

# РАЗДЗЕЛ VIII

## БЕЛАРУСЬ У ГАДЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ І ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

(верасень 1939 г. – верасень 1945 г.)

У другую сусветную вайну было ўцягнута 4/5 насельніцтва зямнога шара; вайна пазбавіла жыцця звыш 50 млн чалавек, з іх больш за 2,2 млн жыхары Беларусі; у руіны былі ператвораны тысячы гарадоў і вёсак; значны ўрон быў прычынены духоўнай культуры народаў. Жудасна нават уявіць сабе, якім бы стала жыццё на нашай планеце, калі б фашысцкім агрэсарам не перагарадзілі шлях народы Савецкага Саюза, іншых дзяржаў антыгітлераўскай кааліцыі.

У гісторыі другой сусветнай вайны можна ўмоўна вылучыць *5 асноўных перыядаў,* якія адрозніваюцца якаснымі зменамі ў ваенна-палітычнай і стратэгічнай абстаноўцы, суадносінах сіл праціборствуючых бакоў, характарам узброенай барацьбы на франтах:

1) пачатак вайны, уварванне германскіх войск у Польшчу, іншыя краіны Заходняй Еўропы (верасень 1939 г. – чэрвень 1941 г.);
2) нападзенне фашысцкай Германіі на СССР, пашырэнне маштабаў вайны, крах гітлераўскай дактрыны “бліцкрыга” і міфа аб непераможнасці нямецкай арміі (чэрвень 1941 г. – лістапад 1942 г.);
3) карэнны пералом у ходзе вайны, крушэнне наступальнай стратэгіі фашысцкага блока (лістапад 1942 г. – снежань 1943 г.);
4) разгром фашысцкага блока, выгнанне варожых войск за межы СССР, вызваленне ад акупацыі краін Еўропы, поўны крах фашысцкай Германіі і яе безагаворачная капітуляцыя (студзень 1944 г. – май 1945 г.);
5) разгром імперыялістычнай Японіі, вызваленне народаў Азіі ад японскай акупацыі і заканчэнне другой сусветнай вайны (май – верасень 1945 г.).

# ГЛАВА 1

## ПЕРАДВАЕННЫ КРЫЗІС І ПАЧАТАК ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ. УЗ'ЯДНАННЕ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ З БССР. ДАЛУЧЭННЕ ВІЛЕНШЧЫНЫ ДА ЛІТВЫ

Другая сусветная вайна, якая пачалася 1 верасня 1939 г., усё далей адыходзіць у глыбіню гісторыі. Ужо сёння 2/3 насельніцтва зямнога шара складаюць людзі, якія нарадзіліся і выраслі ў пасляваенныя гады. Таму надзвычай важна, каб падрастаючыя пакаленні ведалі праўду аб тым, як і чаму ўзнікла вайна, якія сілы вінаватыя ў яе развязванні. Правільнае разуменне гэтых пытанняў дазволіць глыбей пранікнуць у сутнасць прычын, ходу і вынікаў вайны, убачыць у мінулым урокі для будучага.

Выяўленне сапраўднай карціны другой сусветнай вайны, прычын яе ўзнікнення дыктуецца яшчэ і тым, што за апошнія гады ў свет выйшла шмат кніг, кінафільмаў, у якіх многія пытанні вайны, ролі Савецкага Саюза ў дасягненні перамогі часам падаюцца павярхоўна, тэндэнцыйна альбо нават у скрыўленым люстэрку[1].

Вывучэнне канкрэтных знешніх і ўнутраных умоў передваеннага часу, аналіз міждзяржаўных і сацыяльна-класавых адносін пераконваюць, што другая сусветная вайна ўзнікла невыпадкова, не ў сілу нейкіх непрадбачаных абставін ці памылак асобных дзяржаўных дзеячаў. Яе вытокі – у тых глыбокіх супярэчнасцях, якія існавалі між тагачаснымі вядучымі дзяржавамі. Складанае перапляценне многіх фактараў – палітычных, эканамічных, ідэалагічных – вызначыла прычыны і характар вайны.

Галоўная віна за падрыхтоўку і развязванне вайны ляжыць на дзяржавах фашысцка-мілітарысцкага блока (і перш за ўсё Германіі і Японіі). Прыход фашызму да ўлады ў Германіі і пачатак рэалізацыі яго агрэсіўнай праграмы стварылі небяспечны ачаг вайны ў Цэнтральнай Еўропе і непасрэдную пагрозу развязвання сусветнай вайны. Адводзячы ў сваіх глабальных планах важнейшае месца барацьбе супраць "фарпоста міжнароднага камунізму", г.зн. супраць СССР,

[1] *Гареев М.* Об изучении истории Великой Отечественной войны // Новая и новейшая история. 1992. № 1; *Он же.* Социально-политическое значение и цена победы // Международная жизнь. 1994. № 9; *Мерцалов А., Мерцалова Л.* "Непредсказуемое прошлое", или преднамеренная ложь // Свободная мысль. 1993. № 6; *Они же.* Сталинизм и война: Из непрочитанных страниц истории. М., 1994; *Суворов В.* Ледокол: Кто начал вторую мировую войну? М., 1993; Когда началась вторая мировая война? Не фантастическая повесть – документ. М., 1994. Кн. 2.





фашызм меў на мэце заняволенне і іншых краін, устанаўленне сусветнага панавання.

У такіх умовах паўстала задача арганізацыі сумесных дзеянняў розных палітычных сіл для адпору гэтай агрэсіўнай, гегеманісцкай палітыцы. Здавалася, у сярэдзіне 30-х гадоў такія перадумовы намячаліся: ідэя Савецкага Саюза аб арганізацыі сістэмы калектыўнай бяспекі знайшла падтрымку Францыі, Югаславіі, Румыніі і іншых краін. У 1934 г. СССР уступіў у Лігу Нацый і стаў пастаянным членам яе Савета. У 1935 г. былі падпісаны савецка-французскі і савецка-чэхаславацкі дагаворы.

Аднак далей падзеі пайшлі па іншаму шляху. Перш за ўсё адзначым, што кіруючыя колы Англіі з самага пачатку займалі абыякавую пазіцыю ў адносінах да ідэі калектыўнай бяспекі. Паступова змянілася да горшага і пазіцыя Францыі. Кіруючыя колы заходніх дзяржаў узялі курс на "прымірэнне" з агрэсарам. Галоўны сэнс гэтага курсу заключаўся ў тым, каб цаной уступак аслабіць германскі націск на Захадзе і накіраваць яго экспансію на Усход.

Палітыка "прымірэння" рэалізоўвалася на розных напрамках. Заходнія дзяржавы нічога не зрабілі, калі Германія яшчэ вясной 1935 г. афіцыйна адмовілася ад выканання ўсіх ваенных артыкулаў Версальскага дагавора і ўвяла забароненую ёй усеагульную ваенную павіннасць. У наступным годзе Германія, натхнёная беспакаранасцю, акупіравала Рэйнскую дэмілітарызаваную зону. Ад Германіі старалася не адставаць фашысцкая Італія, якая напала на Эфіопію. У 1936 г. Германія і Японія заключылі між сабой антыкамінтэрнаўскі пакт, да якога ў 1937 г. далучылася Італія.

Чарговай ахвярай агрэсіі стала Аўстрыя, якая ў сакавіку 1938 г. была ўключана ў склад рэйха. Пагроза навісла над Чэхаславакіяй. 30 верасня 1938 г. на канферэнцыі кіраўнікоў урадаў Англіі, Францыі, Германіі і Італіі (Чэмберлен, Даладзье, Гітлер, Мусаліні) у Мюнхене было падпісана пагадненне аб расчляненні Чэхаславакіі і перадачы часткі яе (Судэцкай вобласці) Германіі. У сакавіку 1939 г. Чэхаславакія была акупіравана Германіяй. Такім чынам, да 1939 г. Версальска-Вашынгтонская сістэма дагавораў, створаная пасля першай сусветнай вайны, была канчаткова скасавана.

Становішча ў свеце рабілася выбухованебяспечным. У новых умовах Савецкі Саюз даў згоду на кантакты з Германіяй. Адбыліся эканамічныя перагаворы, якія з асаблівай інтэнсіўнасцю разгарнуліся ў маі – жніўні 1939 г. Затым яны перайшлі ў палітычную сферу.

Кіруючыя колы Англіі і Францыі пасля акупацыі немцамі Чэхаславакіі, баючыся непрадказальнай палітыкі Германіі, зноў пайшлі на кантакты з СССР. Вясной і летам 1939 г. праходзілі траістыя перагаворы СССР, Англіі і Францыі па палітычных, а потым і ваенных пытаннях. Адначасова брытанскія палітычныя колы не пакінулі спроб дамовіцца з Германіяй, вынікам чаго ў гэты перыяд з'явіліся англа-нямецкія перагаворы.

На палітычных і ваенных перагаворах з СССР прадстаўнікі Англіі і Францыі займалі неканструктыўную пазіцыю. Разам з тым аналіз матэрыялаў і дакументаў сведчыць, што ўдзельнікі гэтых перагавораў не праяўлялі гатоўнасці да кампрамісаў перад тварам фашызму.

Гаворачы аб няўдачах са стварэннем сістэмы калектыўнай бяспекі ў 30-я гады, неабходна адзначыць, што і на грамадскім узроўні не ўдалося ўтварыць магутны антыфашысцкі фронт. Заходнееўрапейскія грамадскія сілы характарызаваліся пасіўнасцю і раз'яднанасцю. Негатыўна адбіліся ўстаноўкі Камінтэрна і савецкага ўрада на барацьбу за сусветную рэвалюцыю, а таксама рэпрэсіі ў нашай краіне, якія пасеялі сумненні сярод кіруючых колаў Захаду ў ацэнцы магутнасці СССР і якія адштурхоўвалі ад Савецкага Саюза прагрэсіўныя сілы.

Да 20 жніўня 1939 г. стала відавочна, што перагаворы паміж СССР, Англіяй і Францыяй зайшлі ў тупік. Сітуацыя станавілася крытычнай. Ні для каго не было сакрэтам, што падрыхтоўка Германіі да нападу на Польшчу ідзе поўным ходам. Дакументы сведчаць, што такое рашэнне (план “Вейс”) Гітлер прыняў яшчэ ў красавіку 1939 г. У распараджэнні начальніка штаба вярхоўнага галоўнага камандавання ўзброеных сіл Германіі В.Кейтэля значыцца, што здзяйсненне плана “Вейс” можа пачацца “ў любы час пачынаючы з 1 верасня 1939 г.”.

Ва умовах узрастаючай напружанасці міжнароднага становішча, поўнай палітычнай ізаляцыі і магчымай вайны на два фронты СССР прыняў прапанову Германіі заключыць пакт аб ненападзенні. 20 жніўня 1939 г. Гітлер звярнуўся з асабістым пасланнем да І.В.Сталіна прыняць міністра замежных спраў Германіі “для складання і падпісання пакта аб ненападзенні”. Раніцай 23 жніўня ў Маскву прыляцеў Рыбентроп. Перагаворы паміж ім, Сталіным і Молатавым завяршыліся на працягу аднаго дня. *23 жніўня 1939 г. быў падпісаны савецка-германскі дагавор аб ненападзенні тэрмінам на 10 гадоў.*

Савецка-германскі дагавор, з аднаго боку, з'явіўся вымушаным крокам, лагічным вынікам развіцця міжнародных адносін у 1938–1939 гг. Савецкі Саюз пазбегнуў вайны на два фронты, нанёс рашучы ўдар па планах стварэння адзінага антысавецкага фронту, атрымаў амаль два гады для ўмацавання сваёй абараназдольнасці. З другога ж боку, гэты дагавор нанёс урон міжнароднаму прэстыжу СССР, які ўспрымаўся раней як флагман барацьбы з фашызмам. Быў дэзарыентаваны і савецкі народ, які бачыў у фашызме лютага ворага.

Да дагавора быў прыкладзены “Сакрэтны дадатковы пратакол”, якім размяжоўваліся “сферы інтарэсаў” абодвух бакоў. Германія атрымала Францыю, Брытанію і іх афрыканскія калоніі, СССР – Фінляндыю, Эстонію, Латвію, Бесарабію і “права” пашырацца на поўдзень у бок Персідскага заліва праз Іран, Афганістан і Турцыю.

Згодна з 1-м пунктам пратакола, у выпадку тэрытарыяльных і палітычных пераўтварэнняў у абласцях, якія належалі прыбалтыйскім дзяржавам (Фінляндыя, Эстонія, Латвія, Літва), паўночная граніца





Літвы павінна была стаць мяжой, падзяляючай сферы ўплыву Германіі і СССР. У 2-м пункце пратакола адзначалася: “У абласцях, якія належаць Польскай дзяржаве, сферы ўплыву будуць размежаваны на лініі рэк Нараў, Вісла і Сан”. Гэта значыць, СССР, па сутнасці, атрымліваў акрамя Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны частку Польшчы да Варшавы.

Сам факт размежавання інтарэсаў сацыялістычнай і фашысцкай дзяржаў сакрэтным пратаколам, прынятым у абход законаў СССР і ў парушэнне дагаворных абавязацельстваў перад трэцімі краінамі, адлюстроўваў грэбаванне нормамі права і маралі.

Кульмінацыяй гэтага працэсу стаў *Дагавор аб дружбе і граніцы паміж СССР і Германіяй ад 28 верасня 1939 г.* Быў таксама падпісаны сакрэтны дадатковы пратакол, паводле якога Літва ўключалася ў сферу інтарэсаў СССР, а Германія ўзамен атрымлівала частку Польшчы, якая па ранейшай дамоўленасці ўваходзіла ў сферу інтарэсаў СССР.

Германія лічыла, што пакт ад 23 жніўня 1939 г. развязаў ёй рукі на Усходзе, і *1 верасня яна напала на Польшчу.* Англія і Францыя, звязаныя з Польшчай саюзнымі дагаворамі, 3 верасня 1939 г. аб'явілі вайну Германіі. У той жа дзень у вайну ўступілі Аўстралія, Новая Зеландыя і Індыя. *Пачалася другая сусветная вайна.*

Маючы велізарную эканамічную і ваенную перавагу, фашысцкія войскі імкліва рухаліся па тэрыторыі Польшчы да граніцы СССР. Патрэбна адзначыць, што ўрады Англіі і Францыі, аб'явіўшы вайну Германіі, не пачыналі актыўных ваенных дзеянняў на Захадзе. Як бы працягваючы палітыку “супакойвання агрэсара” і жадаючы скіраваць вастрыё ўдару вермахта супраць СССР, яны не перашкаджалі гітлераўцам распраўляцца з Польшчай. У выніку Германія хутка акупіравала ўсю тэрыторыю Польшчы, яе войскі падступілі да межаў Заходняй Беларусі, занялі некаторыя яе населеныя пункты, у тым ліку Брэст. Больш чым над 4 млн жыхароў Заходняй Беларусі навісла рэальная небяспека фашысцкага зняволення.

17 верасня 1939 г. па распараджэнні савецкага ўрада войскі Чырвонай Арміі перайшлі савецка-польскую граніцу і ўзялі пад абарону жыццё і маёмасць насельніцтва Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Працоўныя Заходняй Беларусі з радасцю і надзеяй сустракалі Чырвоную Армію. Сярод польскага насельніцтва адчувалася варожасць.

Патрэбна адзначыць, што беларускі народ, падзелены ў выніку савецка-польскай вайны 1919–1920 гг., ніколі не спыняў барацьбы за сваё ўз'яднанне. Дзеянні Чырвонай Арміі стваралі перадумовы для рэальнага ажыццяўлення кансалідацыі беларускай нацыі. Яшчэ да прыходу Чырвонай Арміі ў шэрагу гарадоў і паветаў Заходняй Беларусі людзі раззбройвалі паліцыю і асаднікаў, разгортвалі шырокую кампанію ў падтрымку парадку, стваралі рэвалюцыйныя камітэты.

Да 25 верасня 1939 г. Чырвоная Армія цалкам вызваліла Заходнюю Беларусь. Нямецкім войскам давялося адысці на ўзгодненую на

*Фарміраванне тэрыторыі БССР*




УМОЎНЫЯ ЗНАКІ

1 студзеня 1919 г. – утварэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

Тэрыторыя, якая адышла да БССР згодна з пастановай Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта ад 3 сакавіка 1924 г

Тэрыторыя Заходняй Белару... была ўз'яднана з БССР у вер... тападзе 1939 г

Тэрыторыя Беларускай ССР пасля заключэння Рыжскага мірнага дагавора паміж Савецкай Расіяй і Польшчай 18 сакавіка 1921 г.

Тэрыторыя Гомельскага і Рэчыцкага паветаў, якая адышла да БССР згодна з пастановайУЦВК ад 6 снежня 1926 г.

вышэйшым узроўні мяжу, якая і была замацавана адпаведным дагаворам ад 28 верасня 1939 г. паміж СССР і Германіяй. На вызваленай тэрыторыі ва ўсіх гарадах і паветах ствараліся часовыя ўправы, у вёсках і гмінах (валасцях) – сялянскія камітэты. Часовыя ўправы і сялянскія камітэты разгарнулі актыўную работу па выбарах у Народны сход, які павінен быў у заканадаўчым парадку вырашыць пытанне аб уладзе.

28–30 кастрычніка 1939 г. у Беластоку адбыўся Народны сход Заходняй Беларусі. Ён аднагалосна прыняў па дакладу С.В.Прытыцкага Дэкларацыю аб устанаўленні савецкай улады на ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі. Аднадушна дэлегаты выказаліся і за ўваходжанне ў БССР. 2 лістапада 1939 г. Нечарговая V сесія Вярхоўнага Савета СССР і 12 лістапада Нечарговая III сесія Вярхоўнага Савета БССР адпаведна прынялі законы аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад СССР і ўз'яднанні яе з БССР. У выніку тэрыторыя БССР павялічылася са 125,6 тыс. кв. км да 225,6 тыс., насельніцтва рэспублікі – з 5 млн 562 тыс. чалавек да 10 млн 239 тыс. На тэрыторыі былой Заходняй Беларусі было ліквідавана ранейшае адміністрацыйнае дзяленне і створана 5 абласцей (Баранавіцкая, Брэсцкая, Вілейская, Пінская і Беластоцкая).

Улады заходніх абласцей прыступілі да гаспадарчага і сацыяльна-культурнага будаўніцтва. Былі нацыяналізаваны 1700 прадпрыемстваў, пачаліся тэхнічная рэканструкцыя старых і будаўніцтва новых фабрык і заводаў. Паступова ліквідавалася беспрацоўе. Да канца 1940 г. аб'ём валавой прадукцыі прамысловасці ў параўнанні з 1938 г. павялічыўся больш чым у 2 разы.

У вёсцы беззямельным і малазямельным сялянам было раздадзена звыш 1 млн га зямлі, якая належала польскім памешчыкам, асаднікам і членам вартаўнічай аховы. Вялася работа па арганізацыі розных форм кааперацыі, калгасаў і саўгасаў. Да сярэдзіны 1940 г. у заходніх абласцях рэспублікі дзейнічала 430 калгасаў, якія аб'ядноўвалі звыш 23 тыс. сялянскіх гаспадарак.

Істотныя зрухі адбываліся ў духоўна-культурнай сферы. У 1940/41 навучальным годзе тут дзейнічалі 5958 агульнаадукацыйных школ, 12 тэхнікумаў, 5 інстытутаў. Да пачатку 1941 г. было адкрыта 100 кінатэатраў, 92 дамы культуры, 220 бібліятэк.

Пры правядзенні сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў, устанаўленні савецкай сістэмы кіравання грамадствам не абышлося і без парушэнняў закона новымі ўладамі – рэпрэсій і дэпартацый (высяленняў памешчыкаў, капіталістаў, паліцэйскіх, дзяржаўных служачых, гандляроў, кулакоў і інш.). У выніку не ўсе былі задаволены палітыкай савецкай улады. Тым больш, што з пачатку 1940 г. у заходніх абласцях Беларусі пачаліся рэпрэсіі супраць былых членаў польскай каланіяльнай адміністрацыі і ваеннаслужачых польскай арміі.

Аднак, нягледзячы на ўсе цяжкасці і рэпрэсіі, працоўныя Беларусі самааддана працавалі ва ўсіх галінах гаспадаркі і культуры,

умацоўвалі абараназдольнасць краіны. Вялікім было іх натхненне ў сувязі з уз'яднаннем Заходняй Беларусі з БССР, якое аднавіла адзінства беларускага народа і стварыла яго адзіную дзяржаўнасць. Нельга ставіць пад сумненне і працоўны гераізм народа, яго веру ў сацыялістычныя ідэалы, надзею, што савецкі ўрад прывядзе да канчатковай перамогі сацыялізму. Дзякуючы працоўнаму гераізму рабочых, калгаснікаў, інжынерна-тэхнічных работнікаў Беларусь ператварылася ў індустрыяльна-аграрную рэспубліку, у якой да 1940 г. 80 % прадукцыі народнай гаспадаркі прыходзілася на долю прамысловасці, на палях звыш 10 тыс. калгасаў працавалі 10 413 трактароў, 1675 камбайнаў, дзесяткі тысяч іншых сельскагаспадарчых машын.

Адначасова з вызваленнем Заходняй Беларусі і далучэннем яе да БССР была вызвалена Віленшчына, якая, згодна з умовамі Рыжскага міру (1921), знаходзілася пад уладай Польшчы. 19 верасня 1939 г. Чырвоная Армія заняла Вільню. На вызваленых землях наладжвалася новае жыццё. Узмацніліся эканамічныя і культурныя сувязі з БССР, былі адкрыты беларускія школы, аднавіла работу беларуская гімназія, сталі выходзіць на беларускай мове часопісы і газеты, была створана беларуская тэатральная трупа і іншыя культурныя таварыствы.

У пачатку кастрычніка 1939 г. Віленская ўправа прыняла рашэнне ўдзельнічаць у выбарах Народнага схода Заходняй Беларусі. 8 кастрычніка 1939 г. быў абвешчаны парадак выбараў. Аднак насельніцтву Вільні і Віленшчыны ўдзельнічаць у іх не давялося. Справа ў тым, што 3 кастрычніка 1939 г. у Маскве пачаліся перагаворы паміж урадамі СССР і Ковенскай Літвы (сталіцай Літвы ў той час быў г. Коўна) адносна лёсу Віленшчыны, а 10 кастрычніка 1939 г. быў падпісаны Дагавор аб далучэнні Вільні і Віленшчыны да Літвы.

Ва ўступе дагавора было зазначана, што справядлівае вырашэнне пытання дзяржаўнай прыналежнасці Вільні і Віленскай акругі, а таксама забеспячэнне бяспекі адпавядаюць інтарэсам абодвух дагаворных бакоў. У першым артыкуле дагавора гаварылася: “У мэтах замацавання дружбы паміж СССР і Літвой горад Вільня і Віленская вобласць перадаюцца Савецкім Саюзам Літоўскай рэспубліцы”.

Дагавор прадугледжваў пропуск савецкіх войск праз літоўскую тэрыторыю, узбраенне на льготных умовах літоўскага войска, няўдзел у кааліцыях, накіраваных супраць аднаго з бакоў. Літве было паабяцана не перашкаджаць у яе самастойнай унутранай і знешняй палітыцы, захаванні яе суверэнітэту. Згодна з дагаворам, разам з Вільняй Літве перадавалася тэрыторыя агульнай плошчай 6900 кв.км. На тэрыторыі Літвы размяшчаўся кантынгент савецкіх войск колькасцю ў 20 тыс. чалавек. Выклікалася гэта тым, што Літва не магла забяспечыць сваю абараназдольнасць уласнымі сіламі.

15 кастрычніка 1939 г. прадстаўнікі ўрада Літвы выехалі ў Вільню для прыняцця спраў ад савецкага камандавання і адміністрацыі, а 27 кастрычніка літоўскае войска ўступіла на тэрыторыю Віленскай вобласці. Як паведамляла ТАСС, 29 кастрычніка 1939 г. у Вільні адбылася ўрачыстая цырымонія ўзняцця літоўскага флага на гары Гедыміна.





Супраць далучэння Вільні і Віленшчыны да Літвы выступіў урад Польшчы. Не падтрымалі дагавор буйныя еўрапейскія дзяржавы, у тым ліку Англія і Францыя. Што датычыцца Германіі, то яшчэ да ваеннай кампаніі супраць Польшчы германскі ўрад па сакрэтных каналах прапаноўваў Літве далучыць да яе Віленшчыну. Па даручэнні міністра замежных спраў Германіі І.Рыбентропа гэта прапанова была перададзена нямецкім паслом у Літве Э.Цэхлінам. Тыя ж захады рабіліся і вайсковым прадстаўніком, палкоўнікам генштаба Германіі Э.Юстам. Ад імя камандавання вермахта ён абяцаў дапамогу Літве ў паходзе на Вільню, падтрымку ваеннай авіяцыяй, браневікамі, цяжкай артылерыяй. Літоўскі ўрад вагаўся.

Апошняя дыпламатычная спроба ўключыць Літву ў арбіту германскай палітыкі адбылася 21 верасня 1939 г. – праз два дні пасля вызвалення Вільні Чырвонай Арміяй. У гэты дзень літоўскаму паслу ў Германіі К.Шкірпе было заяўлена, што ў Сопат, дзе знаходзіўся штаб вермахта, запрашаецца міністр замежных спраў Літвы Ю.Урбшыс для спаткання з Рыбентропам. Паслу было сказана, што ў Сопат прыедзе і Гітлер. Абяцалі нават прыслаць за літоўскім міністрам самалёт у Коўна. Павінна была адбыцца вельмі важная размова. Але яна не адбылася. Чаму?

У літоўскага кіраўніцтва такі захад Берліна выклікаў падазронасць. У сваім адказе літоўскі ўрад прасіў паведаміць мэту сустрэчы, выказаў пажаданне аб наданні галоснасці гэтай сустрэчы. На ўсялякі выпадак Ю.Урбшыс праінфармаваў аб гэтым прадстаўніка СССР у Коўне Н.Пазнякова. Гэта і вырашыла лёс германа-літоўскай сустрэчы. Гітлер пераканаўся ў тым, што літоўскі ўрад не здольны захоўваць сакрэты. Раніцай 22 верасня Ю.Урбшыс атрымаў з Германіі паведамленне аб тым, што ўжо няма патрэбы ў яго візіце ў Сопат.

Не цяжка здагадацца, аб чым ішла б размова на гэтай сустрэчы, калі б яна адбылася. Германія хацела звузіць сферу ўплыву СССР у Прыбалтыцы. Так яно і было б, калі б літоўцы атрымалі Вільню з гітлераўскай падачы. Але Германіі не ўдалося выканаць свой план, і Рыбентропу прыйшлося ехаць не ў Сопат, а ў Маскву і пагадзіцца з кіраўніцтвам СССР аб тым, што Літва з'яўляецца сферай інтарэсаў не Германіі, а СССР. Гэта было замацавана сакрэтным пратаколам, які быў прыняты ў час новай сустрэчы ў Маскве Рыбентропа з савецкім кіраўніцтвам, калі 28 верасня 1939 г. быў падпісаны савецка-германскі дагавор аб сяброўстве і новай мяжы. У адпаведнасці з ім дзяржаўная мяжа праходзіла ўздоўж т. зв. “лініі Керзана”, якая была прапанавана краінамі Антанты яшчэ ў 1919 г. у якасці ўсходняй мяжы Польшчы. Гэта была этнічная мяжа паміж палякамі, беларусамі і ўкраінцамі.

29. Зак. 5565

Менш чым праз год пасля далучэння Віленшчыны да Літвы адбыліся новыя тэрытарыяльныя змены. 1 жніўня 1940 г. працавала VII сесія Вярхоўнага Савета СССР, на якой вырашалася пытанне аб уваходжанні Прыбалтыйскіх рэспублік у склад СССР. На сесіі выступіў ад імя ўрада і прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР П.Панамарэнка, які ўнёс прапанову “аб далучэнні да Літоўскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Свянцянскага раёна і часткі тэрыторыі з пераважаючым літоўскім насельніцтвам Відзаўскага, Гадуцішскага, Астравецкага, Воранаўскага і Радунскага раёнаў”. Знаходзіліся яны на той час у складзе Вілейскай і Баранавіцкай абласцей Беларусі. Гэта прапанова была зафіксавана ў законе “Аб прыняцці Літоўскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ў склад СССР”. У выніку ад Беларусі на карысць Літвы ў лістападзе 1940 г. былі адлучаны Свянцяны (зараз Швянчоніс), Салечнікі (зараз Шальчынінкай) і курорт са стогадовай гісторыяй Друскенікі (зараз Друскенінкай), якія спрадвеку знаходзіўся ў Гродзенскай губерні. Гэта тэрыторыя складала 2600 кв.км з насельніцтвам 65 тыс. чалавек.

Гісторыкі выказваюць розныя меркаванні адносна тэрытарыяльных змен, праведзеных у 1939–1940 гг. Аднак большасць з іх аднадушны ў тым, што гэтыя змены праводзіліся ў палітычных мэтах. Тое, што Віленшчына была далучана да Літвы без уліку нацыянальнага складу насельніцтва, вымушаны быў прызнаць нават міністр замежных спраў СССР В.Молатаў. У дакладзе аб знешняй палітыцы СССР, з якім ён выступіў на сесіі Вярхоўнага Савета СССР 1 жніўня 1940 г., было сказана: «Савецкі Саюз пайшоў на перадачу Вільні Літоўскай Рэспубліцы не таму, што ў ёй пераважае літоўскае насельніцтва. Не, у Вільні большасць складае нелітоўскае насельніцтва. Але савецкі ўрад лічыўся з тым, што горад Вільня, які Польшчай быў насільна “адлучаны”, павінен належаць Літве, як такі горад, з якім звязана, з аднаго боку, гістарычнае мінулае Літоўскай дзяржавы, а з другога, спадзяванні літоўскага народа» (Бальшавік Беларусі. 1940. № 7-8. С.20). Быццам бы з гісторыяй Беларусі і спадзяваннямі яе жыхароў, асабліва Заходняй Беларусі і самой Віленшчыны, горад Вільня ніяк не быў звязаны.

Наконт нацыянальнага складу насельніцтва іншых раёнаў, далучаных да Літвы, беларускія гісторыкі сцвярджаюць, што “на большай частцы Свянцянскага раёна амаль не было літоўскіх вёсак. Сустракаліся толькі там-сям на поўнач ад Свянцян. У іншых раёнах яны траплялiся, але нідзе не пераважалі колькасна” (*Казлоў Л., Цітоў А.* Беларусь на сямі рубяжах. Мн., 1993. С. 41). Так гэта было, ці інакш, тады не мела прынцыповага значэння. На нацыянальны фактар не звярталася належнай увагі. Галоўнымі ў вызначэнні тэрыторыі савецкіх рэспублік, іх межаў былі палітычныя меркаванні.

А тым часам міжнароднае становішча працягвала ўскладняцца. Фашысцкая Германія, абараніўшы сябе дагаворам з СССР з Усходу, умацоўвала пазіцыі на Захадзе. Вясной 1940 г. яна захапіла Бельгію, Данію, Галандыю, Нарвегію, а летам пачала наступленне на Францыю





і прымусіла яе капітуляваць, паставіла Англію на край нацыянальнай катастрофы, вяла паспяховыя баявыя дзеянні ў Афрыцы.

З лета 1940 г. германскае ваенна-палітычнае кіраўніцтва пачало падрыхтоўку да вайны супраць СССР. 22 чэрвеня 1940 г., у дзень падпісання акта аб капітуляцыі Францыі, Гітлер аддаў загад аб распрацоўцы плана нападзення на СССР. Гэты план “Барбароса” – маланкавай вайны і разгрому за 3–4 месяцы Савецкага Саюза – быў зацверджаны ў снежні 1940 г. У маі 1941 г. быў прыняты план “Ост” – разгорнутая праграма знішчэння і каланізацыі народаў Савецкага Саюза.

Нарастанне ваеннай пагрозы бачыла вышэйшае кіраўніцтва СССР. І хаця з боку Сталіна і яго акружэння быў дапушчаны пралік у вызначэнні тэрміну пачатку вайны, тым не менш шэраг мер па ўмацаванні абараназдольнасці СССР, яго заходніх рубяжоў, у тым ліку Беларусі, быў прыняты. Іншая справа, што некаторыя з гэтых мер былі запозненымі і частковымі.

Фарсіравана развіваліся абаронныя галіны гаспадаркі. Беларускае кіраўніцтва асаблівую ўвагу ўдзяляла ў гады апошняй перадваеннай пацігодкі будаўніцтву ў Мінску і Магілёве авіяцыйных прадпрыемстваў, у Віцебску і Баранавічах – танкарамонтных заводаў. Войскі і тылавыя часці забяспечваліся сродкамі сувязі, павялічвалася прапускная здольнасць магістральных чыгунак, якія ішлі па тэрыторыі Заходняй асобай ваеннай акругі (ЗахАВА) да граніцы. На тэрыторыі Беларусі напярэдадні вайны былі размешчаны часці ЗахАВА і 11-й арміі Прыбалтыйскай асобай ваеннай акругі (ПрыбАВА), якія складаліся з 48 дывізій агульнай колькасцю 715 тыс. чалавек. На ўзбраенні гэтых часцей было 10,8 тыс. гармат і мінамётаў, 3,4 тыс. танкаў, 1,9 тыс. самалётаў. Але будаўніцтва прымежавых умацаванняў палявога тыпу, пераўзбраенне і перабудова ўсіх відаў войск толькі разгортваліся.

Праціўнік жа меў колькасную і якасную перавагу. У паласе ЗахАВА немцы сканцэнтравалі 51 дывізію агульнай колькасцю 1,6 млн чалавек, звыш 14,5 тыс. гармат і мінамётаў, 2 тыс. танкаў, 1,6 тыс. самалётаў.

Такім было сацыяльна-эканамічнае і ваенна-палітычнае становішча Беларусі напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны.

# ГЛАВА 2

# НАПАДЗЕННЕ ФАШЫСЦКАЙ ГЕРМАНІІ НА СССР. АДПОР ВОРАГУ Ў ПАЧАТКОВЫ ПЕРЫЯД ВАЙНЫ

*На досвітку 22 чэрвеня 1941 г. фашысцкая Германія вераломна, без аб'яўлення вайны напала на Савецкі Саюз.* Беларусь у ліку першых савецкіх рэспублік была падвергнута ўдарам ворага. *Пачалася Вялікая Айчынная вайна* савецкага народа супраць фашысцкай Германіі і яе саюзнікаў за свабоду сваёй Радзімы.

Міжнародны імперыялізм разам з прыхільнікамі капіталістычнай рэстаўрацыі ўнутры СССР зрабіў другую спробу (першая была зроблена пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі, у 1917–1920 гг.) знішчыць савецкі дзяржаўны і грамадскі лад і аднавіць буржуазнае грамадства ў краіне.

Германія марыла авалодаць нацыянальнымі багаццямі народаў СССР і выкарыстаць іх у сваіх інтарэсах. Яна ставіла сваёй задачай фізічна знішчыць частку славянства – насельніцтва "ніжэйшай" расы, астатніх славян анямечыць і ператварыць у сваіх рабоў. У адпаведнасці з планам "Ост" 80 % насельніцтва Беларусі меркавалася знішчыць ці выселіць за Урал, 20 % анямечыць і заставіць працаваць на немцаў-каланістаў. У Мінску, напрыклад, планавалася аставіць 100 тыс. чалавек мясцовага насельніцтва і пасяліць 50 тыс. нямецкіх каланістаў, у Гомелі – адпаведна 50 і 30 тыс., Магілёве і Бабруйску – па 50 і 20 тыс., у Барысаве, Лідзе і Навагрудку – па 15 тыс. мясцовага насельніцтва і 5 тыс. нямецкіх каланістаў і г.д.

Гітлер і яго кліка паабяцалі немцам "тысячагадовае квітненне рэйха", "райскае жыццё" пасля перамогі над СССР: кожнаму – аўтамабіль ("фольксваген"), вызваленне ад падаткаў, магчымасць атрымаць на Усходзе зямлю, маёмасць і рабоў-славян.

Вялікая Айчынная вайна была састаўной і рашаючай часткай другой сусветнай вайны. Захапіўшы амаль усю Еўропу, Германія планавала, як потым абгрунтавана будзе запісана ў дакументах Нюрнбергскага працэсу, "знішчыць СССР як палітычную і ваенную дзяржаву для таго, каб расчысціць шлях для экспансіі Германіі на Усход...". (Нюрнбергский процесс над главными военными преступниками: Сб. материалов: В 7 т. М., 1961. Т. 7. С. 358.)

На тэрыторыі Беларусі наступала самая моцная з трох фашысцкіх груповак вермахта – група армій "Цэнтр", меўшая сваёй канчатковай мэтай захоп Масквы. Падтрымліваў яе 2-і паветраны флот, які налічваў 1680 самалётаў (50 % сіл усёй авіяцыі рэйха).

У першыя ж гадзіны вайны варожая авіяцыя нанесла ўдары па ваенных аб'ектах у заходняй прыгранічнай паласе на глыбіню да 400 км. Дыверсійныя групы палка "Брандэнбург", скінутыя на парашутах у момант нападзення, павінны былі вывесці са строю сувязь і ўпраўленне войскамі. Адразу ж была знішчана большая частка савецкіх бамбардыроўшчыкаў і знішчальнікаў, якія базіраваліся на аэрадромах прыгранічных ваенных акругоў. Масавым бамбардыроўкам былі падвергнуты чыгуначныя вузлы, гарады Беласток, Брэст, Гродна, Баранавічы і інш.

У крайне неспрыяльных умовах, несучы цяжкія страты, савецкія пагранічнікі, чырвонаармейцы аказвалі рашучае, самаахвярнае супраціўленне. Гераічна трымаўся гарнізон Брэсцкай крэпасці, у які ўваходзілі прадстаўнікі больш за 30 нацый і народнасцей. Узначальвалі яго маёр П.М.Гаўрылаў і палкавы камісар Я.М.Фамін. Не маючы сувязі, вады, харчу, медыкаментаў, абаронцы крэпасці не здаваліся,







*Абарона Брэсцкай крэпасці ў 1941 г.*

*Карціна Я Зайцава. 1950 г*

пастаянна контратакавалі праціўніка, наносілі яму страты. Апошнія групы змагаліся да канца ліпеня 1941 г., тады як нямецкае камандаванне планавала сіламі 31, 34 і 45-й пяхотных дывізій, 2-й танкавай арміі Гудэрыяна захапіць Брэст "з ходу".

Усімі сіламі войскі Чырвонай Арміі спрабавалі стрымаць наступленне агрэсара. У першы дзень вайны ў небе Беларусі было збіта больш за 100 нямецкіх самалётаў. Пры гэтым лётчыкі Д.В.Кокараў (у раёне Замораў Беластоцкай вобл.), С.М.Гудзімаў (у раёне Пружан), П.С.Рабцаў (над Брэстам), А.С.Данілаў (каля Ліды) і іншыя таранілі варожыя самалёты ў паветры, а некалькі пазней камандзір эскадрыллі М.Ф.Гастэла і члены яго экіпажа А.А.Бурдзянюк, Р.М.Скарабагаты, А.А.Калінін здзейснілі (пад Мінскам, каля Радашковіч) наземны таран, накіраваўшы свой самалёт на скапленне варожых танкаў, аўтамашын і бензацыстэрн.

Нягледзячы на катастрафічнае становішча, савецкія воіны ўпарта супраціўляліся, хаця былі выпадкі, і аб гэтым нельга замоўчваць, панікі, разгубленасці, бязладнага адыходу.

Цяжкія баі вялі палявыя войскі Чырвонай Арміі – пехацінцы і артылерысты ў раёне Беластока, Гродна, Жабінкі, Маларыты, іншых населеных пунктаў рэспублікі, на подступах да яе сталіцы, якую абаранялі воіны двух стралковых карпусоў. Мужна трымалі абарону часці 64, 100 і 108-й стралковых дывізій пад камандаваннем адпа-

30. Зак. 5565

ведна С.І.Іаўлева, І.М.Русіянава і А.І.Маўрычава. Але гераізм воінаў не мог кампенсаваць адсутнасць рэзерваў і прадуманай сістэмы абароны. Сілы былі няроўныя, і 28 чэрвеня нямецкія танкі прарвалі абарону, уварваліся ў Мінск.

На захад ад Мінска апынуліся ў акружэнні некалькі савецкіх дывізій. Такія буйнейшыя злучэнні Заходняй асобай ваеннай акругі, як 3, 4 і 10-я арміі, былі знішчаны і фактычна перасталі існаваць, што пазбавіла магчымасці стрымліваць праціўніка ў Цэнтральнай Беларусі. Частка салдат і афіцэраў, якія засталіся жывымі, трапілі ў палон[1]. Да канца чэрвеня 1941 г. стала відавочна, што Чырвоная Армія ў прыгранічных бітвах аказалася не ў стане стрымаць, а тым больш разграміць атакуючыя групоўкі праціўніка. Стаўка Вярхоўнага Галоўнакамандавання як вышэйшы орган кіраўніцтва ваеннымі дзеяннямі Савецкіх Узброеных Сіл вымушана была перайсці да стратэгічнай абароны.

У гэты час хаця і са спазненнем, але быў прыняты шэраг надзвычайных мер па мабілізацыі ўсіх сіл і сродкаў краіны на адпор ворагу. Толькі 29 чэрвеня 1941 г. была абвешчана дырэктыва СНК СССР і ЦК ВКП(б) з заклікам да партыйных і савецкіх арганізацый, усяго народа перабудаваць жыццё на ваенны лад, падпарадкаваўшы яго інтарэсам фронту. У мэтах цэнтралізацыі кіраўніцтва краінай і каардынацыі намаганняў вышэйшых партыйных, урадавых і ваенных органаў 30 чэрвеня быў утвораны Дзяржаўны Камітэт Абароны (ДКА) на чале з І.В.Сталіным. Важную ролю адыграла выступленне І.В.Сталіна па радыё 3 ліпеня 1941 г.

У адпаведнасці з дырэктывай пачалася дадатковая мабілізацыя ваеннаабавязаных у Чырвоную Армію і перадача ёй матэрыяльных каштоўнасцей. На тэрыторыі Беларусі ў чэрвені–жніўні ў Чырвоную Армію было мабілізавана звыш 500 тыс. чалавек. Акрамя таго, часцям дзеючай арміі на працягу гэтага часу было перададзена 2,5 тыс. аўтамабіляў, 35 тыс. коней, 23 тыс. павозак, 36 тыс. галоў жывёлы, 20 тыс. т харчавання. Для барацьбы з дыверсантамі праціўніка да сярэдзіны ліпеня 1941 г. было створана 78 знішчальных батальёнаў, якія налічвалі больш за 13 тыс. чалавек. У дапамогу Чырвонай Арміі ў Віцебску, Гомелі, Магілёве, іншых гарадах і населеных пунктах

[1] Улічваючы, што праблема ваеннапалонных доўгі час заставалася адной з "белых плям" у нашай гістарыяграфіі, адзначым:

*па-першае*, усяго за гады Вялікай Айчыннай вайны ў палон трапіла каля 4 млн савецкіх воінаў, паводле сучасных удакладненых даных расійскіх даследчыкаў, усяго прапала без звестак і трапіла ў палон 4 млн 559 тыс. чалавек, прычым 3,4 млн з іх – у 1941 г.;

*па-другое*, большасць чырвонаармейцаў апынулася ў палоне, будучы цяжкапараненымі альбо па віне камандзіраў. На службу да гітлераўцаў перайшло каля 100 тыс. чалавек (3–4 % ад трапіўшых у палон);

*па-трэцяе*, 450 тыс. савецкіх воінаў змаглі вырвацца з нямецкага палону і ўліцца ў партызанскія атрады, што дзейнічалі на савецкай акупіраванай тэрыторыі альбо ў іншых заняволеных фашызмам краінах Еўропы.





былі сфарміраваны атрады і палкі народнага апалчэння ў складзе больш за 33 тыс. байцоў. Каля 2 млн чалавек было мабілізавана на будаўніцтва абарончых збудаванняў: процітанкавых равоў, дзотаў, аэрадромаў і г.д.

Важнае значэнне надавалася эвакуацыі ў глыбокі савецкі тыл мірнага насельніцтва і матэрыяльных каштоўнасцей. У першую чаргу эвакуацыі падлягалі дзеці. У чэрвені–жніўні было вывезена 16 435 дзяцей са 191 дзіцячай установы. У тыл адпраўляліся прамысловае абсталяванне, энергетычныя ўстаноўкі, рухомы чыгуначны састаў, сыравінныя рэсурсы, маёмасць многіх устаноў, грашовы фонд. Былі эвакуіраваны 60 навукова-даследчых інстытутаў, 20 вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў. З велізарнымі цяжкасцямі, часта пад абстрэлам, пры варожых атаках удалося перабазіраваць Віцебскі, Гомельскі, Магілёўскі станкабудаўнічыя заводы, Аршанскі льнокамбінат і іншыя прадпрыемствы. Усяго на ўсход краіны было вывезена абсталяванне 224 буйных прадпрыемстваў. Да вясны 1942 г. усе перабазіраваныя на ўсход прадпрыемствы Беларусі ўвайшлі ў строй і пачалі выпускаць прадукцыю для фронту.

У краіне разгарнуўся ўсенародны рух "двухсотнікаў", дэвізам якога было "працаваць за сябе і за таварыша, які пайшоў на фронт". У гэтым руху ўдзельнічалі цэлыя беларускія калектывы, якія працавалі на прадпрыемствах Татарскай і Башкірскай АССР, Урала, Казахстана, Сібіры. Дзякуючы намаганням працоўных ужо да канца 1941 г. было прыпынена падзенне прамысловай вытворчасці, а з пачатку 1942 г. назіраўся агульны яе рост. Нельга замоўчваць працоўны гераізм сялянства, яго ўклад у забеспячэнне фронту сыравінай і прадуктамі харчавання. Так рабочы клас, калгаснае сялянства, інтэлігенцыя рэспублікі разам з усімі працаўнікамі савецкага тылу кавалі зброю будучай перамогі, шлях да якой заставаўся яшчэ вельмі цяжкім і доўгім, а амаль для ўсіх заходніх палітыкаў і аналітыкаў здаваўся тады, летам – восенню 1941 г., і ўвогуле недасягальным.

Сапраўды, у ліпені–жніўні 1941 г. часці Чырвонай Арміі, ведучы цяжкія абарончыя баі, працягвалі адступаць. На пачатку ліпеня савецкае камандаванне паставіла задачу стварыць лінію абароны ўздоўж Заходняй Дзвіны і Дняпра з мэтай не дапусціць прарыву гітлераўцаў на Маскоўскім напрамку і перш за ўсё як мага больш утрымаць праціўніка на р. Бярэзіне.

Тры дні ішлі цяжкія абаронча баі на Бярэзіне, паблізу Барысава і ў самім горадзе на шашы Мінск–Масква, дзе войскі вермахта адчулі ўсю моц нашых танкаў Т-34. Значны ўдар быў нанесены гітлераўцам пад Оршай, дзе 14 ліпеня супраць іх былі прыменены "кацюшы" (рэактыўныя мінамёты батарэі капітана І.А.Флёрава)[1]. Сур'ёзны контрудар

[1] У гонар першага залпа баявых машын рэактыўнай артылерыі ("кацюш") у 1966 г. у Оршы быў створаны мемарыяльны комплекс "Кацюша" (архітэктары Ю.Градаў, В.Занковіч, Л.Левін).



*Мемарыяльны комплекс "Кацюша" ў Оршы*

нанеслі нашы войскі ў адной з буйнейшых танкавых бітваў пад Сянно і Лепелем. Каля тыдня цягнуліся бai за Віцебск.

23 дні (з 4 па 27 ліпеня) савецкія войскі стрымлівалі націск танкавай групы Гудэрыяна на дняпроўскіх рубяжах, у раёне Магілёва. Горад на Дняпры абаранялі 172-я стралковая дывізія генерала М.Ц.Раманава і 12-тысячны атрад народных апалчэнцаў на чале з А.П.Марозавым і І.І.Хаўкіным. Ім дапамагалі жыхары горада і ваколіц. Больш месяца ішлі баі за Гомель. Толькі 19 жніўня цаной вялікіх ахвяр, страціўшы звыш 80 тыс. салдат і афіцэраў, 200 танкаў і каля 100 самалётаў, гітлераўцам удалося захапіць горад на Сожы.

Да пачатку верасня 1941 г. уся тэрыторыя Беларусі, нягледзячы на гераічнае супраціўленне часцей Чырвонай Арміі, была акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

*У чым жа прычыны паражэння савецкіх войск у пачатку вайны, у тым ліку ў Беларусі?* Яны абумоўлены агульным станам Чырвонай Арміі, і ў тым ліку Заходняй асобай ваеннай акругі (у чэрвені 1941 г.ператворана ў Заходні фронт), да пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

*Па-першае,* выявілася перавага эканамічнага патэнцыялу Германіі. У 1940 г. Савецкая краіна мела 18,3 млн т сталі, Германія разам з саюзнікамі і захопленымі краінамі – 46,3 млн т, па чыгуну гэтыя суадносіны складалі адпаведна 15 і 25 млн т, па вугалю 165 і 348 млн т, па электраэнергіі – 49 і 110 млрд кВт·гадз.





*Па-другое,* гітлераўцы выкарысталі такія часовыя перавагі, як мілітарызацыя эканомікі, працяглая падрыхтоўка да захопніцкай вайны, якасць узброенасці войск, загадзя сканцэнтраваных у пагранічнай паласе. Мы мелі большую колькасць танкаў і самалётаў, але яны былі ў сваёй масе ўстарэлыя. Новыя тыпы ваеннай тэхнікі толькі пачалі паступаць на ўзбраенне Чырвонай Арміі, асабовы склад недастаткова іх асвоіў.

*Па-трэцяе,* цяжка адбіліся на баяздольнасці Чырвонай Арміі масавыя парушэнні законнасці ў канцы 30-х гадоў. Толькі з мая 1937 г. па верасень 1938 г. былі рэпрэсіраваны 39 761 камандзір і палітработнік. Арыштавана і пакарана амаль палова персаналу Генштаба, усе камандуючыя ваенных акругоў, 80 % кіруючага складу карпусоў і дывізій, 91 % камандзіраў палкоў, іх намеснікаў і начальнікаў штабоў. Гэту акалічнасць ведалі гітлераўскія вярхі, калі прымалі рашэнне аб паскарэнні пачатку вайны супраць СССР. "Без трыццаць сёмага года, – сцвярджаў маршал А.М.Васілеўскі, – магчыма, і не было б увогуле вайны".

*Па-чацвёртае,* крайне негатыўную ролю адыгралі пралікі Сталіна і яго бліжэйшага акружэння ў ацэнцы ваенна-стратэгічнай абстаноўкі і вызначэнні магчымага тэрміну нападзення Германіі на СССР. Сталін ведаў, што да вялікай вайны мы не гатовы і ўсяляк імкнуўся не даць Гітлеру падставы для нападзення, разлічваў, што Германія не адважыцца на вайну без разгрому Англіі і без захопу запасаў паліва на Блізкім і Далёкім Усходзе. Ён недаацэньваў шматлікія папярэджанні савецкай разведкі аб фашысцкай пагрозе, не даў дазволу на прывядзенне войск прыгранічных акругоў у баявую гатоўнасць.

Нягледзячы на паражэнні Чырвонай Арміі летам 1941 г., фашысцкі стратэгічны план "маланкавай вайны" быў сарваны. Цяжкія, кровапралітныя абарончыя баі савецкіх войск на Беларусі далі магчымасць сканцэнтраваць рэзервы для абароны Масквы і разгрому там гітлераўскіх войск.

# ГЛАВА 3

## АКУПАЦЫЙНЫ РЭЖЫМ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ. ДЗЕЙНАСЦЬ БЕЛАРУСКІХ КАЛАБАРАЦЫЯНІСТАЎ

Што такое фашызм і фашысцкая акупацыя, зведалі ўсе, хто апынуўся пад уладай гітлераўцаў і іх памагатых. Спачатку акупанты ўтойвалі свае сапраўдныя захопніцкія планы, сцвярджаючы, што нямецкая армія прынясе свабоду беларускаму народу. Яны называлі сябе прадстаўнікамі цывілізаванай Еўропы. Аднак паступова гітлераўцы усталёўвалі шляхам крывавага тэрору, татальнага рабавання і гвалту свой "новы парадак" – акупацыйны рэжым. У чым жа мэты і вынікі

31. Зак. 5565




Ваенна-адміністрацыйны падзел акупіраванай тэрыторыі Беларусі (на стану на 1942 г.)



гэтага рэжыму ў Беларусі, тэрыторыя якой знаходзілася пад акупацыяй з чэрвеня 1941 г. да ліпеня 1944 г.?

*Акупацыйны рэжым у Беларусі* – гэта сістэма палітычных, эканамічных, ваенных і ідэалагічных мер, накіраваных на ліквідацыю савецкага грамадска-дзяржаўнага ладу, рабаванне нацыянальных багаццяў і рэсурсаў, заняволенне і знішчэнне беларускага народа. Акупацыйная палітыка была вынікам дзяржаўнага курса фашысцкай Германіі, распрацаванага ў дырэктыўных дакументах[1] і праграмных выступленнях нацысцкіх кіраўнікоў.

Ідэалагічнай асновай акупацыйнай палітыкі былі чалавеканенавісніцкія тэорыі нацыстаў: аб “расавай перавазе” нямецкай нацыі над усімі іншымі; аб “гістарычнай неабходнасці” пашырэння “жыццёвай прасторы” для немцаў і іх “неад’емным праве” на сусветнае панаванне.

У адпаведнасці з планам “Барбароса” акупанты знішчылі дзяржаўную самастойнасць беларускага народа і нават тэрытарыяльную цэласнасць рэспублікі. Беларусь была падзелена на асобныя часткі:

– паўночна-заходнія раёны Брэсцкай і Беластоцкай абласцей з гарадамі Гродна і Ваўкавыск былі перададзены Усходняй Прусіі;

– паўднёвыя раёны Брэсцкай, Пінскай, Палескай і Гомельскай абласцей былі ўключаны ў склад рэйхскамісарыята “Украіна”;

– паўночна-заходнія раёны Вілейскай вобласці былі далучаны да генеральнай акругі Літвы;

– тэрыторыя Віцебскай і Магілёўскай абласцей, большая частка Гомельскай і ўсходнія раёны Мінскай вобласці былі ўключаны ў зону армейскага тылу групы армій “Цэнтр”, дзе ўсе адміністрацыйныя функцыі выконвала ваеннае камандаванне;

– Баранавіцкая, Вілейская (без паўночна-заходніх раёнаў), Мінская (без усходніх раёнаў) вобласці, паўночныя раёны Брэсцкай, Пінскай, Палескай абласцей склалі “генеральбецырк Беларутэнія” – генеральную акругу Беларусі.

Тэрыторыя генеральнай акругі Беларусі, якая складала прыкладна 1/3 тэрыторыі БССР, была ўключана ў рэйхскамісарыят “Остланд” з рэзідэнцыяй у Рызе і падзелена на 10 “гебітаў” (акругоў): Мінскі, Баранавіцкі, Барысаўскі, Вілейскі, Ганцавіцкі, Глыбоцкі, Лідскі, Навагрудскі, Слонімскі, Слуцкі. Для кіраўніцтва генеральнай акру-

[1] План “Барбароса” (вызначаў стратэгію і тактыку нападзення на СССР); Генеральны план “Ост” (вызначаў праграму каланізацыі захопленых тэрыторый, германізацыі, высялення і знішчэння народаў Усходняй Еўропы); Інструкцыя пра асобныя вобласці да дырэктывы № 21 плана “Барбароса” ад 13 сакавіка 1941 г. (прадугледжвала дэцэнтралізацыю і расчляненне тэрыторыі СССР); Дырэктывы па кіраўніцтву эканомікай у акупіраваных усходніх абласцях (устанаўлівалі метады эканамічнага рабавання); дырэктывы вярхоўнага галоўнага камандавання германскай арміі ад 13 мая 1941 г. “Пра ваенную падсуднасць у раёне “Барбароса” і пра асобныя паўнамоцтвы войск” (здымалі ўсякую адказнасць з ваеннаслужачых германскай арміі за любыя злачынствы на акупіраванай тэрыторыі) і інш.

гай, акругамі і раёнамі ствараўся жорстка цэнтралізаваны адміністрацыйны апарат гітлераўцаў.

На чале генеральнай акругі Беларусі стаяў генеральны камісарыят, які ўзначальваў адзін з паплечнікаў Гітлера гаўляйтар Вільгельм фон Кубэ. Ён праводзіў чалавеканенавісніцкую палітыку нацызму. Пасля знішчэння Кубэ мінскімі падпольшчыкамі 22 верасня 1943 г. яго месца заняў групенфюрэр войск СС Курт фон Готберг.

Фашысты зацвердзілі бела-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня" – сімвалы эміграцкага ўрада БНР, які супрацоўнічаў з немцамі. Зрабіў гэта гаўляйтар Беларусі Кубэ: "Колеры бела-чырвона-белы павінны быць у будучым прыкметай Беларутэніі".

Кіраванне акругамі ажыццяўлялі гебітскамісары, гарадамі – штатскамісары, раёнамі – ортскамісары. Для стварэння ўяўнага выгляду самакіравання і ўзмацнення ўплыву на насельніцтва з мясцовых жыхароў арганізоўваліся гарадскія, раённыя і павятовыя ўправы, а ў вёсках прызначаліся старасты, солтысы, войты.

Пры стварэнні фашысцкай акупацыйнай адміністрацыі і паліцэйскіх фарміраванняў немцы выкарыстоўвалі беларускіх нацыяналістаў. З розных краін Еўропы гітлераўцы прывозілі да нас сваіх прыслужнікаў беларускага паходжання, якія пачыналі кар'еру яшчэ ў перыяд Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918–1920 гг. Сярод іх Р.Астроўскі, В.Гадлеўскі, К.Езавітаў, І.Ермачэнка, В.Іваноўскі, У.Казлоўскі, Ф.Кушаль, Я.Станкевіч і інш. Іх дапоўнілі прыхільнікі БНР малодшай генерацыі Ф.Акінчыц, М.Ганько, Ю.Сабалеўскі, В.Тумаш, М.Шкялёнак. Да іх далучыліся мясцовыя прадстаўнікі "пятай калоны"[1] А.Адамовіч, Н.Арсеньева, Ю.Віцьбіч, У.Гуцька, А.Калубовіч, С.Кандыбовіч, Я.Кіпель, А.Лёсік, Б.Рагуля, Ю.Саковіч, С.Станкевіч, Ф.Яроміч і інш.

Уся паўната ўлады належала фашысцкай ваеннай і цывільнай акупацыйнай адміністрацыі. Галоўным сродкам падтрымання "новага парадку" былі войскі і розныя службы: СС (ахоўныя атрады); СА (штурмавыя групы); СД (служба бяспекі, галоўны орган разведкі і контрразведкі); гестапа (палітычная паліцыя); жандармерыя і інш.

Галоўным сродкам ажыццяўлення генеральнага плана "Ост" з'яўлялася палітыка генацыду – планамернага знішчэння цэлых груп насельніцтва па тых ці іншых матывах: з-за прыналежнасці да савецкіх актывістаў, камуністаў, яўрэяў і г.д. Для рэалізацыі гэтага плана гітлераўцы выкарыстоўвалі цэлую сістэму мер: заложніцтва, аблавы, пагромы, турмы, карныя аперацыі, лагеры смерці і інш.

[1] "Пятая калона" – так называлася ў Іспанскай рэспубліцы ў час нацыянальна-рэвалюцыйнай вайны 1936–1939 гг. агентура генерала Франко: дзейнічала ў тыле, у той час як чатыры калоны фашысцкіх мяцежнікаў наступалі на Мадрыд. У гады другой сусветнай вайны "пятай калонай" называлася фашысцкая агентура ў розных краінах, сёння – чужаземная падрыўная агентура ў краінах свету.





У межах рэспублікі было арганізавана 260 лагераў смерці, іх філіялаў і аддзяленняў, з якіх мала хто вярнуўся жывым. Вязняў трымалі пад адкрытым небам, марылі голадам, заражалі інфекцыйнымі хваробамі, катавалі. У Мінску і яго ваколіцах было размешчана 5 такіх лагераў, адзін з якіх – Трасцянецкі – па колькасці знішчаных людзей стаяў на трэцім месцы пасля Асвенціма і Майданака. Напярэдадні наступлення савецкіх войск гітлераўцы практыкавалі стварэнне на пярэднім краі сваёй абароны спецыяльных лагераў смерці, у якіх размяшчалі інфекцыйных хворых з мэтай масавага распаўсюджвання цяжкіх захворванняў сярод насельніцтва і часцей Чырвонай Арміі.

На тэрыторыі Беларусі было больш за 100 гета, у якія гітлераўцы сагналі сотні тысяч яўрэяў, як жыхароў рэспублікі, так і яўрэяў з Польшчы, Чэхаславакіі, Аўстрыі, Францыі, Галандыі, Венгрыі, Германіі і іншых краін. Утрымлівалі іх за калючым дротам, ва ўмовах вялікай скучанасці, антысанітарыі; голаду, здзекаў. 21–23 кастрычніка 1943 г. было здзейснена адно з самых крывавых злачынстваў фашызму – масавае знішчэнне яўрэяў у мінскім гета і ў Трасцянецкім лагеры смерці, дзе загінула амаль што 100 тыс. яўрэяў.

Канцлагеры, турмы, гета дзейнічалі практычна ў кожным раёне Беларусі. Паступова працэс знішчэння сваіх ахвяр гітлераўцы механізавалі: атручвалі ў спецыяльна прыстасаваных для гэтага памяшканнях – "gaswagen" (душагубках). Жорсткай расправе падлягалі ваеннаслужачыя, да якіх гітлераўцы адносілі практычна ўсіх мужчын ва ўзросце 16–55 гадоў, што знаходзіліся ў непасрэднай блізкасці ад раёнаў ваенных дзеянняў.

Нечуваныя зверствы чынілі акупанты над партызанамі і мірным насельніцтвам. Пад выглядам барацьбы з партызанамі яны правялі больш за 140 карных экспедыцый, у ходзе якіх цэлыя раёны Беларусі ператвараліся ў зоны пустыні. 22 сакавіка 1943 г. былі спалены 149 жыхароў, у тым ліку 76 дзяцей, в. Хатынь Лагойскага раёна Мінскай вобласці. На месцы Хатыні ў 1969 г. быў збудаваны мемарыяльны комплекс, на адным з камянёў якога выбіты словы: "Мы згарэлі жывымі ў агні. Наша просьба да ўсіх: няхай жа смутак і журба абернуцца ў магутную сілу, каб здолелі ўвекавечыць вы мір і спакой на Зямлі, каб нідзе, ніколі ў віхуры пажараў жыццё не згарала". У Мінскай вобласці 243 вёскі палілі двойчы, 40 – тройчы, 9 – чатыры, 6 – пяць разоў. У Віцебскай вобласці двойчы палілі 243 вёскі, тройчы – 83, чатыры і больш разы – 22 вёскі. За гады акупацыі ў Беларусі толькі разам з жыхарамі спалена 628 вёсак, 186 з якіх так і не адноўлены пасля вайны.

Палітыка каланізацыі і генацыду ўключала і гвалтоўны вываз савецкіх людзей на катаржныя работы ў Германію. Угон беларускага насельніцтва насіў масавы, планамерны характар і меў пэўныя мэты. На Нюрнбергскім судовым працэсе над нямецкімі ваеннымі злачынцамі

32. Зак. 5565

быў прадстаўлены гітлераўскі сакрэтны мемарандум ад 12 мая 1944 г., у якім прама адзначалася, што намечаная адпраўка з Беларусі ў Германію 40–50 тыс. падлеткаў ва ўзросце ад 10 да 14 гадоў "мае мэту не толькі прадухіліць умацаванне ваеннай сілы ворага, але таксама скараціць яго біялагічны патэнцыял у будучым". Апынуўшыся на катарзе, людзі гінулі ад знясільнай працы, голаду, здзекаў. За час акупацыі з Беларусі было вывезена 380 тыс. чалавек, у тым ліку больш за 24 тыс. дзяцей. Вярнулася ж дамоў пасля перамогі каля 120 тыс. чалавек.

Ахвярамі нямецка-фашысцкай "палітыкі генацыду і выпаленай зямлі" стала чвэрць насельніцтва Беларусі. Усяго ў рэспубліцы, як ужо гаварылася, было знішчана больш за 2 млн 200 тыс. чалавек.

У галіне эканомікі акупацыйны рэжым прынёс працоўным Беларусі страшэнную галечу, звышэксплуатацыю, адкрытае рабаванне матэрыяльных каштоўнасцей. Эканамічная палітыка на захопленай тэрыторыі Беларусі насіла каланіяльны характар. Для грабяжу і падрыву гаспадарчага патэнцыялу рэспублікі быў створаны спецыяльны штаб "Ольдэнбург" з вялікім штатам інспекцый, атрадаў для збору прадукцыі вытворчасці і сыравіны. Гітлераўцы вывозілі ў Германію найбольш каштоўнае абсталяванне фабрык, заводаў, электрастанцый, сельгастэхніку, прадукты харчавання, лясныя і тарфяныя багацці. Сістэматычна яны грабілі і асабістую ўласнасць насельніцтва.

За гады акупацыі Беларусі ў Германію было вывезена 90 % станочнага і тэхнічнага абсталявання, 96 % энергетычных магутнасцей, 18,5 тыс. аўтамашын, больш за 9 тыс. трактароў і цягачоў, 1100 камбайнаў. Па-драпежніцку знішчалася адно з асноўных нацыянальных багаццяў Беларусі – лес і лесаматэрыялы: было высечана звыш 100 тыс. га лесу; у рэйх адпраўлена 500 тыс. куб. м піламатэрыялаў, 7 млн куб. м драўніны.

Разам з тым акупацыйныя ўлады і штаб "Ольдэнбург" у інтарэсах Германіі, вермахта арганізоўвалі работу часткі прадпрыемстваў прамысловасці, транспарту, гандлю. Яны стварылі цэнтральнае гандлёвае таварыства "Усход", металургічныя аб'яднанні "Герман Герынг" і "Усход", шэраг прыватных нямецкіх фірм і акцыянерных таварыстваў. Усяго ж у гады вайны на тэрыторыі нашай рэспублікі дзейнічала каля 60 прадпрыемстваў пераважна металаапрацоўчай, мясцовай, лёгкай і харчовай прамысловасці.

На гэтых прадпрыемствах рабочыя працавалі ў прымусовым парадку, праз абавязковую рэгістрацыю на біржах працы. Працоўны дзень доўжыўся 10–12 гадзін. Адміністрацыя мела права павялічваць яго працягласць, а таксама караць рабочых за розныя правіннасці, а за сабатаж – біць, саджаць у карцэр, адпраўляць у канцлагер. Зарплата ж складала мізэрную суму: кваліфікаваны рабочы ў Мінску атрымліваў за месяц да 60 марак, некваліфікаваны – у 2 разы менш. Кошт сціплага абеду ў чайной складаў 3–5 марак, рацыён харчавання, уведзены генеральным камісарыятам зімой 1941/42 г., на кожнага





працоўнага ўключаў 200 г хлеба на дзень і 10 г солі, "аб выдачы мяса і тлушчу, – як падкрэслівалася ў адным з яго дакументаў, – не магло быць і гутаркі".

Аграрную палітыку акупанты ў Беларусі ажыццяўлялі наступным чынам. Спачатку (чэрвень 1941 г. – люты 1942 г.) яны захоўвалі калгасную сістэму з усімі яе атрыбутамі: не дапускалі падзелу зямлі, афіцыйна не распускалі праўленні і рэвізійныя камісіі калгасаў, пакінулі іх старшынь, брыгадзіраў. Уся маёмасць калгасаў была абвешчана ўласнасцю германскай дзяржавы.

Потым (люты 1942 г. – чэрвень 1943 г.) гітлераўцы пераўтварылі калгасы ў "абшчынныя гаспадаркі", саўгасы – у дзяржаўныя маёнткі. Дапускалася і індывідуальная форма гаспадаркі, але прыватная ўласнасць на зямлю абяцалася ў будучым. У вёсцы ўстанаўлівалася жорсткая кругавая парука, калектыўная адказнасць сялян перад акупацыйнымі ўладамі за выкананне іх распараджэнняў.

І ўрэшце (чэрвень 1943 г. – ліпень 1944 г.) гітлераўцы дазволілі перадачу зямлі ў валоданне сялян. Згодна з "Дэкларацыяй аб сялянскім праве ўласнасці", падпісанай Розенбергам 3 чэрвеня 1943 г., было абвешчана права падзелу зямлі для ўсяго "сялянскага насельніцтва". Але з фактычнай рэалізацыяй гэтага права акупанты не спяшаліся, а тым часам, у верасні 1943 г., савецкія войскі пачалі вызваляць першыя раёны Беларусі.

На ўсім працягу акупацыі гітлераўцы бязлітасна рабавалі беларускае сялянства. Яны разрабавалі 10 тыс. калгасаў, 92 саўгасы, 316 МТС. У Германію было вывезена, паводле няпоўных даных, больш за 1,6 млн т збожжа, 426 тыс. т мукі, 3 млн т бульбы і гародніны. Працаўнікі вёскі, як і жыхары гарадоў, плацілі шматлікія падаткі. Усё насельніцтва ва ўзросце ад 14 да 65 гадоў у абавязковым парадку прыцягвалася да прымусовых работ на будаўніцтва абарончых аб'ектаў, мастоў, дарог і г.д.

Эканамічнае прыгнечанне, якое цярпелі працоўныя Беларусі на акупіраванай тэрыторыі, узмацнялася не менш цяжкім духоўным. Гітлераўцы ставілі сваёй мэтай знішчыць культуру беларускага народа, закрыць яму доступ да навукі, мастацтва і нават да адукацыі. Імкнучыся духоўна заняволіць народ, гітлераўцы разрабавалі ўсе ВНУ, НДІ, АН БССР, Беларускі дзяржаўны гістарычны музей, Дзяржаўную карцінную галерэю, знішчылі тысячы помнікаў старажытнасці, гісторыі, культуры, архітэктуры Беларусі; вывезлі ў Германію значную частку кніжнага фонду, у тым ліку збор старадрукаваных выданняў Ф.Скарыны, першае выданне Статута Вялікага княства Літоўскага, калекцыі стараславянскіх рукапісаў, многія творы беларускіх пісьменнікаў; разбурылі музеі, тэатры, клубы, больш за 7 тыс. школьных будынкаў і г.д.

Захаваліся цікавыя дакументы аб арганізацыі на акупіраванай тэрыторыі школьнай адукацыі, наконт якой сёння часам друкуюцца скажоныя звесткі. Справа падаецца так, быццам акупацыйныя ўлады

не ўмешваліся ў дзейнасць школ, якія, у адрозненне ад даваеннага часу, былі, маўляў, поўнасцю дэідэалагізаваны. Нічога не можа быць больш далёкім ад ісціны. У акупацыйнай "Менскай газэце" за 21 кастрычніка 1941 г. змешчана інфармацыя аб сустрэчы кіраўніка аддзела палітыкі генеральнага камісарыята Беларусі (вышэйшага органа акупацыйных улад) са школьнымі інспектарамі, што былі праінструктаваны аб тым, якую палітыку трэба зараз праводзіць у школах. Генеральны камісар гаўляйтар Беларусі Кубэ прадпісваў кожны ўрок у школе пачынаць з гутаркі аб "новым парадку" ў Еўропе на чале з Гітлерам. "Кожны бальшавіцкі ўплыў, што будзе выходзіць са школы, – папярэджваў ён, – будзе карацца смерцю" (Менская газэта. 1941. 5 кастр.).

З дапамогай спецыяльна створаных школ, газет, часопісаў, радыё, кіно і іншых сродкаў агітацыі і прапаганды гітлераўцы імкнуліся прывіць насельніцтву Беларусі дух пакорнасці, паслушэнства, развіць нацыянальную варожасць, зламаць іх волю да барацьбы за незалежнасць, супраць фашысцкай Германіі.

Каб раскалоць адзінства беларускага народа, знайсці ў яго апору, гітлераўцы спрабавалі ствараць нацыяналістычныя арганізацыі. Так, 22 кастрычніка 1941 г. была створана *Беларуская народная самапомач (БНС)*. Па яе статуту, які быў зацверджаны Кубэ, гэта быццам бы дабрачынная народная арганізацыя, мэтай якой было аднаўленне беларускай культуры, матэрыяльная дапамога той частцы насельніцтва Беларусі, што лаяльна ставілася да акупантаў. Пры гэтым, як сведчаць дакументы, дапамога ішла за кошт прымусовых падаткаў, а таксама рэчаў, адабраных у партызанскіх сем'яў, вязняў гета.

БНС дамагалася прызнання за сабой права на самакіраванне і рабіла спробы стварыць сваё ваенізаванае фарміраванне – *Беларускі корпус самаахові (БКС)*. Летам 1942 г. у Мінску былі адкрыты афіцэрскія курсы (кіраўнік Ф.Кушаль), на якіх прайшлі падрыхтоўку каля 260 чалавек, было арганізавана 20 батальёнаў і некалькі меншых адзінак самаахові.

У сакавіку 1943 г. на з'ездзе Цэнтральнай Рады і акруговых кіраўнікоў БНС быў выпрацаваны мемарандум, які патрабаваў у нямецкіх улад поўнай аўтаноміі Беларусі, стварэння беларускага ўрада і арміі. Пры гэтым у ім падкрэслівалася, што калі будзе створаны ўрад, то ён "абвесціць аддзяленне Беларусі ад СССР і аб'явіць яму вайну, як ворагу беларускага народа".

Аднак гітлераўскае кіраўніцтва спачатку не дапускала нават і думкі аб стварэнні на захопленых тэрыторыях СССР дзяржаўных утварэнняў, таму распараджэннем нямецкай адміністрацыі дзейнасць БНС была ўзята пад яшчэ больш жорсткі кантроль, а яе кіраўнік І.Ермачэнка зняты з пасады і высланы з Беларусі. 4 чэрвеня 1943 г. БНС была рэарганізавана ў *Беларускую самапомач*, дзейнасць якой абмяжоўвалася зборам ахвяраванняў, аказаннем матэрыяльнай дапамогі, вярбоўкай новых членаў. Правалілася і спроба арганізацыі





самаахові з беларусаў-добраахвотнікаў: *па-першае*, добраахвотнікаў было нямнога, *па-другое*, самаахоўцы, як адзначаў начальнік паліцыі парадку палкоўнік Клепш, "пастаянна тэрарызаваліся з боку партызан" і, *па-трэцяе*, гітлераўцы не жадалі мець на Беларусі нацыянальную армію, нават і падначаленую ім.

22 чэрвеня 1943 г. было аб'яўлена аб стварэнні *Саюза беларускай моладзі (СБМ)*, які аб'ядноўваў каля 8 тыс. юнакоў і дзяўчат. Акрамя таго, арганізацыі СБМ ахаплівалі сваім уплывам і частку моладзі ў зоне армейскага тылу групы армій "Цэнтр" і нават у Германіі, дзе сярод выехаўшых ці гвалтоўна вывезеных беларускіх юнакоў і дзяўчат знаходзілася звыш 3 тыс. членаў СБМ.

СБМ стварыўся з дазволу акупантаў. Кіраўнікі Трэцяга рэйха і мясцовыя нямецкія ўлады імкнуліся прыцягнуць на свой бок як мага большую частку насельніцтва, і асабліва моладзь. Архіўныя і дакументальныя матэрыялы сведчаць, што юнакоў імкнуліся рыхтаваць да службы ў вермахце, былі сфарміраваны нават роты СС для барацьбы з партызанамі. Саюз беларускай моладзі ў многім нагадваў нямецкі "Гітлерюгенд". 20 лютага 1944 г. на ўрачыстасцях, прысвечаных выпуску вышэйшых кіраўнікоў СБМ, "фюрэр" гэтай арганізацыі М.Ганько хваліўся, а "Беларуская газета" разнесла яго пахвальбу сваім чытачам, што Саюзу беларускай моладзі ёсць чым ганарыцца – гэта і ўзброеная барацьба супраць партызан, і добраахвотныя роты СС, і служба ў дапаможных часцях Германіі, адданасць кіраўніку "новага парадку" ў Еўропе вялікаму Адольфу Гітлеру.

У снежні 1943 г. была створана *Беларуская цэнтральная рада (БЦР)*, Генеральны камісар Беларусі групэнфюрэр СС Готберг у студзені 1944 г. зацвердзіў яе першы склад. На чале быў пастаўлены Радаслаў Астроўскі, які паспеў ужо да гэтага часу выявіць сваю адданасць гітлераўскаму рэйху на пасадах бургамістра Мінскай акругі, Смаленска, Бранска і Магілёва.

Рада ставіла мэтай мабілізацыю ўсіх сіл беларускага народа для знішчэння бальшавізму і працавала па зацверджанаму Готбергам статуту. "На чале Беларускай цэнтральнай рады, – гаварылася ў ім, – стаіць прэзідэнт, які прызначаецца і звальняецца генеральным камісарам. Астатніх сяброў Рады прызначае генеральны камісар паводле прадстаўлення прэзідэнта. Свае распараджэнні і кіраўнічыя пастановы выдае Беларуская цэнтральная рада паводле згоды генеральнага камісара".

Падпарадкаваныя Радзе ці створаныя ёю мясцовыя арганізацыі і саюзы – Беларуская самапомач, Саюз беларускай моладзі, Беларускае культурнае аб'яднанне, *Беларуская краёвая абарона (БКА)* і іншыя садзейнічалі ажыццяўленню нацысцкай акупацыйнай палітыкі.

У сакавіку 1944 г., калі войскі Германіі апынуліся ў катастрафічным становішчы, акупанты дазволілі стварыць у Беларусі большыя, чым раней, узброеныя нацыянальныя фарміраванні. Было арганізавана

55 батальёнаў Беларускай краёвай абароны пад камандаваннем Ф.Кушаля. Але шырока разгарнуць сваю дзейнасць БЦР, БКА ўжо не ўдалося. Чырвоная Армія пачынала падрыхтоўку аперацыі па вызваленні Беларусі.

У гэтых умовах у акупіраваным Мінску 27 чэрвеня 1944 г., за шэсць дзён да вызвалення горада савецкімі войскамі, быў скліканы *II Усебеларускі кангрэс* (I з'езд (кангрэс) адбыўся ў снежні 1917 г.), у чым былі аднолькава зацікаўлены і Астроўскі, і Готберг. Астроўскі ўжо даўно зразумеў, што настаў час клапаціцца аб уласным лёсе. Чалавек без перакананняў, ён думаў аб новых гаспадарах і хацеў з'явіцца перад імі не ў агідным абліччы, а ў прывабнай якасці прэзідэнта ўрада, хоць і эміgranцкага, але абранага прадстаўнікамі народа.

Што датычылася Готберга, то, бачачы, як т.зв. "Беларутэнія" звужаецца, ён імкнуўся захаваць уладу над беларусамі, што ў час вайны апынуліся ў Германіі. Цяпер туды накіроўваліся тыя, хто палохаўся пакарання за свае дзеянні і ўчынкі ў час акупацыі. Даследчыкі называюць агульную лічбу ў 0,5 млн выхадцаў з Беларусі, якія апынуліся ў Германіі і на акупіраваных ёю тэрыторыях. Бачнасць нейкага "законнага" ўрада, які прадстаўляў бы нацыю, давала шанц на захаванне на гэтых людзей германскага ўплыву, а фігура Астроўскага, па стандартах акупантаў, падыходзіла на ролю яго галавы.

Дэлегатаў кангрэса падбіралі разам – акружэнне Астроўскага і адпаведныя службы Готберга. Пры гэтым яны імкнуліся, каб былі ахоплены ўсе тэрыторыі, якія кіраўнікі БЦР лічылі этнаграфічна беларускімі. Нікольі не бянтэжыла тое, што ад Барысаўскай, Бранскай, Чарнігаўскай, Арлоўскай акруг аказаліся толькі па 1 дэлегату, Аршанскай – 2, Гомельскай – 7 (усе калабарацыяністы), затое ад Баранавіцкай – 155, Глыбоцкай – 105 і г.д. Не забыліся і пра замежныя беларускія згуртаванні ў Варшаве, Рызе, Кёнігсбергу, Берліне і іншых гарадах – 16 чалавек ад іх прыехалі па дазволах, выдадзеных германскімі ўладамі.

У дакладзе мандатнай камісіі, зачытаным на кангрэсе, усе дэлегаты (1039 чалавек, у тым ліку 904 мужчыны і 135 жанчын) былі зарэгістраваны як настаўнікі (276), земляробы (245), рабочыя (142), службоўцы (234), лекары (20), інжынеры (31), юрысты (25), журналісты (14), аграномы (18), розныя (34). Між тым усе яны так ці інакш працавалі ў акупацыйным апараце, паліцыі, СД, краявой абароне, газетах, якія выдаваліся на акупіраванай тэрыторыі.

Галоўнай у парадку дня стаяла справаздача прэзідэнта БЦР Астроўскага. Яна складалася з наступных раздзелаў: мэты кангрэса, утварэнне БЦР і прынцыпы народнага прадстаўніцтва, абарона краю і ўтварэнне беларускай збройнай сілы, дзейнасць БЦР у галінах школьніцтва і адукацыі, сацыяльных мерапрыемстваў, навукі, культуры, права і інш. Асаблівую ўвагу аўтар удзяліў дзвюм ідэям. Першая – прынцып фюрэрства як аснова народнага прадстаўніцтва. Кангрэс аднагалосна падтрымаў унесеную прапанову і абвясціў БЦР на чале з Астроўскім "адзіным правамоцным прадстаўніцтвам беларускага народа". Другая – працяг барацьбы за "пачэсны пасад (Беларусі) сярод вольных народаў Еўропы", супраць бальшавікоў і расійскага імперыялізму, з аднаго боку, і польскай экспансіі – з другога, зразумела, з германскай арміяй як гарантам незалежнасці.





У апошні час у замежным беларускім друку і ў нас у рэспубліцы з'яўляюцца публікацыі аб рабоце II кангрэса, аўтары якіх імкнуцца абысці маўчаннем ці неяк апраўдаць яе прагерманскую накіраванасць. Антыбальшавіцкая антымаскоўская і антыпольская накіраванасць падкрэсліваецца шырока, як само сабой зразумелае, а нямецкая разглядаецца як тактычны ход, выкліканы барацьбой за незалежнасць у спецыфічных абставінах акупацыі. Пры гэтым аўтары спасылаюцца на матэрыялы кангрэса, выдадзеныя асобнай кніжкай у Мюнхене ў 1954 г.

Аднак даволі падрабязныя запісы аб рабоце кангрэса, зробленыя яго ўдзельнікамі, захаваліся і ў архівах Беларусі. Супастаўленне іх з надрукаванымі тэкстамі дазваляе гаварыць аб скажэннях, свядома зробленых складальнікамі і рэдактарамі мюнхенскага выдання. Яны датычацца як "дробязей" (упрыгожванне залы пасяджэнняў як беларускай, так і нямецкай сімволікай, музычнае афармленне, здравіцы ў гонар германскай арміі, ушанаванне яе загінуўшых салдат і г.д.), так і тэкстаў справаздач і прамоў. Апушчана і прывітальная тэлеграма Гітлеру, якой, уласна кажучы, і скончыўся кангрэс.

Такіх тэлеграм за гады акупацыі Беларусі калабарацыяністы паслалі нямала. Першая была з Прагі ад 28 чэрвеня 1941 г. з выпадку нападзення Германіі на СССР. "Белорусская колония протектората Богемии и Моравии, – гаварылася ў ёй, – на своем собрании в Праге 27 июня с.г. решила передать Вам, Ваше превосходительство, как первому истиннейшему освободителю Европы от московских большевиков, а также победоносной немецкой армии, вступившей в Белоруссию для освобождения нашего тяжело страдающего под большевистским игом народа, самые сердечные пожелания. Желаем Вам, Ваше превосходительство, скорой решающей победы над большевистско-жидовским режимом на всех фронтах". Потым пасылка тэлеграм і прывітанняў стала нечым накшталт рытуалу розных сходаў, пасяджэнняў, свят.

У шматлікіх прамовах гаварылася тое ж самае. Спашлёмся толькі на адну з іх, рукапіс якой захаваўся ў архіўных фондах. "Грамадзяне! Сённяшні гістарычны для Беларусі і беларускага народа дзень стаўся магчымым толькі выключна дзякуючы вызваленню нашай Бацькаўшчыны нямецкай арміяй. Дык няхай жыве нямецкая армія на чале з правадыром нямецкага народа Адольфам Гітлерам! Няхай жыве!" Вытрымка ўзята з тэзісаў прамовы Астроўскага 22 чэрвеня 1944 г.

Кангрэс абвясціў сябе "паўнапраўным і найвышэйшым прадстаўніком беларускага народа" і выказаўся за аддзяленне Беларусі ад СССР.

Спроба стварэння беларускай дзяржаўнасці з дапамогай акупантаў не мела рэальнасці. Калі ў час работы кангрэса стала вядома, што Чырвоная Армія зрабіла прарыў нямецкіх войск і імкліва рухаецца на Мінск, СС выдзелілі спецыяльны цягнік для эвакуацыі сваіх памагатых і членаў іх сем'яў.

Такім чынам, у час вайны гітлераўцы імкнуліся шырока выкарыстоўваць у сваіх мэтах мясцовае насельніцтва, прымушаючы яго супрацоўнічаць з імі. Гэта з'ява ў 1953 г. атрымала назву *калабарацыя* (ад французскага ccolloboration – супрацоўніцтва). Дадзены тэрмін характарызаваў рух той часткі французаў, якія ў гады акупацыі супрацоўнічалі з немцамі. Савецкі ваенна-гістарычны слоўнік тлумачыць калабарацыю як здраду сваёй радзіме і пераход на шлях супрацоўніцтва з ворагам.

У склад беларускіх калабарацыяністаў уваходзілі палітычныя сілы, якія знаходзіліся ў апазіцыі да камуністычнай партыі і савецкай улады, а таксама тыя асобы, якія свядома пайшлі на службу да фашыстаў. У склад калабарацыяністаў уваходзілі і тыя, хто абставінамі лёсу, часцей за ўсё метадамі гвалту і запалохвання, былі прымушаны пайсці на службу да акупантаў і такім чынам пазбаўлены іншага выбару. Беларускія калабарацыяністы разлічвалі "тварыць адраджэнне Беларусі", "тварыць самастойную Беларусь" пад эгідай гітлераўскага рэйха.

Для стварэння апоры сярод мясцовага насельніцтва акупанты дазволілі калабарацыяністам арганізоўваць свае ўправы ў Мінску і іншых гарадах, мець агульнанацыянальныя арганізацыі, ужываць "нацыянальную" сімволіку, адкрываць беларускія школы, культурна-асветныя ўстановы, выдаваць газеты і часопісы. Але ўсё гэта кантралявалася гітлераўцамі.

## ГЛАВА 4

## БАРАЦЬБА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА СУПРАЦЬ НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ

З першых дзён вайны асноўная частка насельніцтва Беларусі стала на шлях барацьбы супраць акупантаў. Гэта была барацьба за свабоду і незалежнасць савецкай Радзімы. Жорсткасць акупацыйнага рэжыму толькі ўзмацняла нянавісць да нямецка-фашысцкіх захопнікаў, супраціўленне станавілася ўсё больш упартым і непрымірымым. Арганізатарамі яго ў пачатковы перыяд вайны былі не толькі дзяржаўныя і партыйныя органы, кіруючыя партработнікі, але і радавыя грамадзяне рэспублікі. Партызанскія атрады і групы часта ўзнікалі на базе народнага апалчэння, знішчальных батальёнаў, аснову многіх







*За родную Беларусь.*
*Карціна У.Сухаверхава. 1948 г.*

партызанскіх падраздзяленняў складалі камандзіры і байцы Чырвонай Арміі, якія апынуліся ў тыле гітлераўскіх войск.

У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны быў сфарміраваны і ўступіў у барацьбу з ворагам Пінскі партызанскі атрад, які ўзначаліў В.З.Корж. У гэты ж час пачаў дзейнічаць атрад пад кіраўніцтвам Ц.П.Бумажкова і Ф.І.Паўлоўскага ў Кастрычніцкім раёне Палескай вобласці. У ліпені 1941 г. рабочыя кардоннай фабрыкі ў пасёлку Пудаць Суражскага раёна Віцебскай вобласці стварылі атрад, які ўзначаліў дырэктар фабрыкі М.П.Шмыроў (бацька Мінай).

На захопленай ворагам тэрыторыі стваралася сетка падпольных цэнтраў, арганізацый і груп. Важную ролю ў станаўленні і ўмацаванні падполля і партызанскага руху адыгралі першыя падпольныя партыйныя камітэты: Пінскі, Гомельскі і Мінскі абкомы, Мінскі і Гомельскі гаркомы, Багушэўскі, Барысаўскі, Ельскі, Лоеўскі, Петрыкаўскі, Рагачоўскі, Расонскі, Рудзянскі, Чэрыкаўскі, Чырвонаслабодскі і іншыя райкомы[1].

Яркай гераічнай і трагічнай старонкай у гісторыю барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў увайшло Мінскае падполле, арганізатарамі

[1] Падрабязней гл.: История Великой Отечественной войны. М., 1961. Т.2. С.126; Партизанские формирования в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны. Мн., 1983. С.20, 28–520.

якога былі І.К.Кавалёў, І.П.Казінец, У.С.Амельянюк, І.І.Матусевіч і інш. З першых дзён акупацыі Мінска, які гітлераўцы ахрысцілі "страляючым горадам", падпольшчыкі ажыццяўлялі дыверсіі на чыгуначным вузле, прадпрыемствах і ў фашысцкіх установах, збіралі і перадавалі праз сувязных у партызанскія атрады зброю, медыкаменты, звесткі аб руху нямецкіх ваенных эшалонаў, планы размяшчэння ваенных аб'ектаў у горадзе і г.д. Самаахвярна змагаліся з ворагам падпольшчыкі Магілёва, Віцебска, Оршы, Жлобіна, Брэста, Гродна і іншых гарадоў і пасёлкаў рэспублікі.

Да канца 1941 г. у Беларусі, паводле няпоўных даных, былі арганізаваны і дзейнічалі 247 партызанскіх атрадаў і падпольных груп. Аднак у першыя месяцы вайны партызаны не мелі патрэбнай падрыхтоўкі, матэрыяльнага забеспячэння, узаемадзеяння з вайсковым камандаваннем і г.д.

Вялікі ўплыў на ўздым народнага руху супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў аказала бітва савецкіх войск пад Масквой. Весткі аб перамозе хутка разнесліся па гарадах і вёсках акупіраванай Беларусі, умацоўваючы ўпэўненасць у канчатковым зыходзе вайны, натхняючы падпольшчыкаў, партызан, насельніцтва на больш актыўную барацьбу з акупантамі.

Важна адзначыць пры гэтым, што контрнаступленне савецкіх войск пад Масквой перайшло ў агульнае наступленне па ўсяму фронту і працягвалася да красавіка 1942 г. У канцы 1941 г. – пачатку 1942 г. савецкія войскі выйшлі да граніцы Беларусі, і з імі на Віцебскім напрамку ў непасрэднае ўзаемадзеянне ўступілі партызанскія атрады Я.З.Захарава, Д.Ф.Райцава, М.П.Шмырова і інш. У выніку сумесных дзеянняў часцей Чырвонай Арміі Калінінскага фронту і партызанскіх атрадаў быў вызвалены тракт Усвяты–Сураж і ўтвораны 40-кіламетровы праход у лініі нямецкага фронту ("Суражскія", альбо "Віцебскія", вароты). Праз іх на акупіраваную ворагам тэрыторыю з Вялікай зямлі накіроўваліся арганізатарскія і дыверсійныя групы, узбраенне, боепрыпасы і інш.

Расла колькасць і актыўнасць народных мсціўцаў. Гэта дало магчымасць на базе асобных атрадаў стварыць буйныя партызанскія фарміраванні – брыгады і злучэнні, баявыя дзеянні якіх каардынаваліся з войскамі Чырвонай Арміі. Для кіраўніцтва ўсімі партызанскімі сіламі краіны пастановай Дзяржаўнага Камітэта Абароны ад 30 мая 1942 г. пры Стаўцы Вярхоўнага Галоўнакамандавання быў створаны Цэнтральны штаб партызанскага руху, які ўзначаліў сакратар ЦК КП(б)Б П.К.Панамарэнка. Некалькі пазней былі арганізаваны Беларускі, Украінскі і іншыя штабы партызанскага руху.

Удасканальвалася і аператыўнае кіраўніцтва падпольнымі арганізацыямі і партызанскімі фарміраваннямі. У савецкім тыле была створана спецыяльная школа (Асобы беларускі збор) для падрыхтоўкі падпольшчыкаў і партызан. Важную ролю ва ўмацаванні шэрагаў







*Група партыйных работнікаў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі. Злева направа: сядзяць – В.І.Казлоў, П.К.Панамарэнка, Ф.І.Паўлоўскі, В.З.Корж; стаяць – Р.Н.Мачульскі, І.З.Калінін, П.П.Капуста, І.Л.Сацункевіч, А.Г.Бондар*

партызан адыграла "Партызанская прысяга", тэкст якой быў зацверджаны ЦК КП(б)Б у маі 1942 г.

У рабоце сярод насельніцтва вялікае значэнне надавалася сродкам масавай інфармацыі і распаўсюджванню цэнтральных газет, зводак Саўінфармбюро, выданню падпольных газет і лістовак. У маі 1942 г. мінскія падпольшчыкі выпусцілі першы нумар газеты "Звязда". У пачатку 1943 г. было адноўлена выданне "Звязды" як цэнтральнага органа КП(б)Б. Усяго ў акупіраванай Беларусі выдавалася больш за 170 падпольных часопісаў і газет. Усё гэта садзейнічала ўзмацненню партызанскай барацьбы, надавала ёй больш арганізаваны характар.

Асабліва прыкметна актывізаваўся партызанскі рух у сувязі з умацаваннем дзеючых падпольных камітэтаў і пашырэннем іх сеткі. Узначальвалі барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі на тэрыторыі акупіраванай Беларусі 203 абкомы, міжрайкомы, міжрайпартцэнтры, гаркомы і райкомы Кампартыі Беларусі, больш за 1200 пярвічных партарганізацый. Значны ўклад у барацьбу ўносіла камсамольскае падполле, узначальваемае М.В.Зімянiным, К.Т.Мазуравым, С.В.Прытыцкім. Яно ўключала 224 абласныя, міжраённыя, гарадскія і раённыя камітэты камсамола і больш за 5,5 тыс. пярвічных



*Кіруючыя работнікі ЦК ЛКСМБ у тыле ворага. На пярэднім плане злева направа: М.В.Зімянін, К.Т.Мазураў, М.П.Барашкаў*

камсамольскіх арганізацый, у якіх было аб'яднана звыш 100 тыс. юнакоў і дзяўчат.

У заходніх абласцях Беларусі барацьбу з акупантамі вялі антыфашысцкія камітэты, арганізацыі, групы, якія аб'ядноўвалі больш за 12 тыс. чалавек. Яны распаўсюджвалі лістоўкі, збіралі для партызан зброю, боепрыпасы, прадукты харчавання.

Такім чынам, нарастала ўсенародная барацьба супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, загартоўваўся партызанскі рух, узмацнялася баявая дзейнасць партызан. Калі ў снежні 1941 г. у Беларусі змагаліся 50 партызанскіх атрадаў, то ў лістападзе 1942 г. – 352, а ў час бітвы на Курскай дузе ў ліпені 1943 г. – 658 атрадаў.

*Партызанскі рух на Беларусі з'яўляўся сапраўды ўсенародным: 1255 партызанскіх атрадаў аб'ядноўваліся ў 213 брыгад з колькасцю звыш 370 тыс. чалавек.* У гарадах і вёсках барацьбу з акупантамі вялі патрыёты-падпольшчыкі. У мінскім падполлі змагалася звыш 9 тыс. патрыётаў. Толькі ў другой палове 1943 г. яны правялі больш за 50 дыверсій, у тым ліку дыверсійную акцыю, у выніку якой быў знішчаны генеральны камісар Беларусі В. фон Кубэ.

У апошнія гады ў нашых дзяржаўных выданнях з'явіліся сцвярджэнні зарубежных аўтараў, у прыватнасці Ю.Туронка, што Кубэ быў ледзь не добразычліўцам беларускага народа і што яго "ўстаранілі" фашысцкія спецслужбы (*Туронак Ю.* Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Мн., 1993. С. 133–149). Дакументы неабвержана сведчаць: шматлікія акцыі генацыду на Беларусі былі здзейснены пры Кубэ і прысуд над ім выканалі беларускія патрыёты А.Мазанік і М.Осіпава.







*Партызаны разбураюць чыгуначнае палатно.*
*Віцебская вобласць*

Сярод шматлікіх гераічных спраў падпольшчыкаў варта адзначыць і тую, якую здзейсніў на Асіповіцкім чыгуначным вузле Ф.Крыловіч. У ноч на 30 ліпеня 1943 г. ён узарваў дзвюма магнітнымі мінамі эшалон з гаручым, у выніку чаго ўзнік пажар, які знішчыў 4 эшалоны, у тым ліку 1 з танкамі "Тыгр", 63 вагоны са снарадамі, авіябомбамі, мінамі, 31 цыстэрну з гаручым. Былі таксама пашкоджаны вугальны склад, блокпост, дэпо. Гэта – адна з найбуйнейшых дыверсійных аперацый другой сусветнай вайны.

Яшчэ ў часы вайны стаў шырока вядомым подзвіг К.С.Заслонава – падпольшчыка з Оршы, В.З.Харужай з Віцебска, патрыётаў з Обаля, Скідзеля, іншых населеных пунктаў. Усяго ў Беларусі дзейнічала пад кіраўніцтвам падпольных партыйных і камсамольскіх арганізацый 70 тыс. падпольшчыкаў[1].

Магутны партызанскі рух і гераічная барацьба падпольшчыкаў умацоўвалі веру насельніцтва ў перамогу, падрывалі і разладжвалі тыл гітлераўскай арміі, трымалі акупантаў у страху і напружанні.

[1] Падрабязней гл.: Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941–1944). Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941–1944). Мн., 1976; і інш.

Галоўныя ўдары беларускія партызаны і падпольшчыкі наносілі па варожых камунікацыях. З 1942 г. партызаны ўстанавілі кантроль за рухам на магістралях Брэст–Гомель, Мінск–Орша і інш. У лістападзе 1942 г. сіламі некалькіх партызанскіх брыгад Мінска-Палескага злучэння пад камандаваннем Р.Н.Мачульскага быў узарваны чыгуначны мост на р.Пціч, у выніку чаго рух на магістралі Брэст–Гомель–Харкаў быў паралізаваны больш чым на паўмесяца.

Грандыёзнай па маштабах і эфектыўнай па выніках была "рэйкавая вайна" – масавы падрыў чыгунак з мэтай дэзарганізацыі ваенных перавозак для гітлераўскай арміі. Першы этап яе пачаўся ў час контрнаступлення савецкіх войск пад Курскам і працягваўся з 3 жніўня да сярэдзіны верасня 1943 г. У другой палове верасня – кастрычніку 1943 г., калі Чырвоная Армія ўступіла на тэрыторыю Беларусі, прайшоў другі этап "рэйкавай вайны". У выніку двух этапаў перавозкі для групы армій "Цэнтр" значна скараціліся, да таго ж праціўнік вымушаны быў павялічыць колькасць дывізій для аховы сваіх камунікацый. Трэці этап "рэйкавай вайны", які праводзіўся напярэдадні і ў ходзе вызвалення Беларусі, таксама меў важнае аператыўна-стратэгічнае значэнне.

Партызаны кантралявалі многія шашэйныя і амаль усе грунтавыя дарогі, грамілі штабы, склады і гарнізоны захопнікаў. Ужо ў пачатку 1942 г. былі разгромлены варожыя гарнізоны ў райцэнтры Капаткевічы, мястэчку Азарычы, на станцыі Муляраўка і ў іншых месцах. У 1943 г. было знішчана больш за 300 варожых гарнізонаў, 217 паліцэйскіх участкаў і валасных упраў.

Значны ўрон акупантам наносілі партызанскія рэйды, якія не толькі дэзарганізоўвалі тыл праціўніка, але і садзейнічалі развіццю партызанскага руху. Адзін з першых буйных рэйдаў (па замкнутаму маршруту з вяртаннем на ранейшае месца дыслакацыі) быў здзейснены ў сакавіку 1942 г. на тэрыторыі Любанскага, Старобінскага, Ганцавіцкага, Чырвонаслабодскага, Ленінскага і Жыткавіцкага раёнаў. Ён садзейнічаў папаўненню атрадаў, якія ўдзельнічалі ў рэйдзе, і паскорыў утварэнне вялікай партызанскай зоны на поўдні Мінскай вобласці. 300-кіламетровы рэйд па тэрыторыі Сенненскага, Багушэўскага, Віцебскага, Бешанковіцкага, Чашніцкага, Лепельскага і Халопеніцкага раёнаў ажыццявіла ў канцы студзеня – пачатку красавіка 1943 г. 1-я партызанская брыгада імя Заслонава.

Тактычныя рэйды (з мэтай манеўра ў час баёў з карнікамі) праводзілі і многія іншыя партызанскія фарміраванні – брыгады, палкі, батальёны.

Рэйды партызанскіх фарміраванняў займалі важнае месца ў разгортванні партызанскага руху ў заходніх абласцях Беларусі. 24 чэрвеня 1943 г. з Расонскага раёна Віцебскай вобласці ў Пастаўскі раён Вілейскай вобласці выйшла брыгада імя Ракасоўскага. Партызаны з боем перайшлі чыгунку Полацк–Дрыса, фарсіравалі Заходнюю Дзвіну, штурмавалі варожы гарнізон у Міёрах і ў ліпені выйшлі ў



Партызанскі рух у Беларусі ў 1941–1944 гг.



раён дыслакацыі. Да кастрычніка 1943 г. у Вілейскую вобласць перадыслацыраваліся 3 брыгады і 7 асобных атрадаў агульнай колькасцю 2,2 тыс. партызан. У лістападзе 1943 г. у рэйдах удзельнічала 1800 партызан. Яны прайшлі некалькі тысяч кіламетраў, знішчаючы на сваім шляху гарнізоны акупантаў.

Да зімы 1943/44 г. баявымі рэйдамі выйшлі ў заходнія вобласці рэспублікі 12 брыгад, 14 асобных атрадаў, больш за 7 тыс. партызан. Партызанскія фарміраванні замацаваліся ў Баранавіцкай, Брэсцкай, Вілейскай, Беластоцкай абласцях і разам з мясцовымі партызанамі ўтварылі ўздоўж заходніх граніц Беларусі амаль суцэльны партызанскі фронт.

У ходзе барацьбы з ворагам партызанскія атрады і брыгады вызвалілі тысячы населеных пунктаў, у тым ліку шэраг райцэнтраў. На вызваленай тэрыторыі ўтварыліся партызанскія зоны. Першыя з іх на Беларусі ўзніклі ўвосень 1941 г. У канцы 1943 г. партызаны кантралявалі ўжо каля 58 % тэрыторыі рэспублікі. Існавала больш за 20 партызанскіх зон: Акцябрска-Любанская, Барысаўска-Бягомльская, Клічаўская, Полацка-Лепельская, Расонска-Асвейская, Івянецка-Налібоцкая, Сенненска-Аршанская, Суражская і інш.

Аб'яднанымі сіламі беларускіх, рускіх, украінскіх, латышскіх і літоўскіх партызан былі створаны партызанскія зоны ў раёнах Беларусі, сумежных з суседнімі братнімі рэспублікамі. У выніку аб'яднання некаторых з іх утварыліся партызанскія краі. Адзін з такіх краёў дзейнічаў на стыку БССР, РСФСР і Латвіі і ахопліваў 14 раёнаў на плошчы 10 тыс. кв. км з насельніцтвам больш за 200 тыс. чалавек. Вялікі партызанскі край існаваў таксама ў міжрэччы Дняпра, Прыпяці і Дзясны.

Кіраўніцтва ўсёй дзейнасцю насельніцтва і партызан на тэрыторыі партызанскіх зон ажыццяўлялі падпольныя абкомы і райкомы партыі. Яны абапіраліся на ўзброеныя сілы партызанскіх злучэнняў і насельніцтва, аднаўлялі ў вызваленых раёнах савецкую ўладу. У многіх раёнах былі адноўлены, створаны і дзейнічалі выканкомы Саветаў дэпутатаў працоўных. Ролю і функцыі органаў савецкай улады выконвалі найчасцей партызанскія атрады, спецыяльна створаныя народнымі мсціўцамі камендатуры, якія вырашалі гаспадарчыя і іншыя пытанні.

Партызанскія зоны станавіліся сапраўднымі баявымі фарпостамі ўсенароднага супраціўлення ворагу, базай і своеасаблівым тылам, дзе партызаны прымалі самалёты з Вялікай зямлі, рыхтавалі рэзервы. Партызаны праводзілі сярод насельніцтва масава-палітычную работу, распаўсюджвалі газеты, лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро. Жыхары партызанскіх зон урачыста адзначалі савецкія святы, праводзілі сходы і мітынгі, наладжвалі канцэрты мастацкай самадзейнасці, прагляды кінафільмаў, атрыманых з савецкага тылу. У некаторых партызанскіх зонах працавалі школы, медыцынскія пункты, якія абслугоўвалі партызан і насельніцтва. Сам факт існавання ў глыбокім тыле ворага





партызанскіх зон меў важнае палітычнае значэнне, садзейнічаў росту ўсенароднага супраціўлення гітлераўцам.

Партызаны, падпольшчыкі не здолелі б адны весці пасяховую барацьбу, калі б не дапамога большасці насельніцтва Беларусі, якое ўсімі сродкамі і сіламі супраціўлялася ваенным, эканамічным і палітычным мерапрыемствам акупантаў, падтрымлівала народных мсціўцаў. Мірныя жыхары забяспечвалі партызан харчаваннем, адзеннем, абуткам, збіралі зброю і боепрыпасы, выконвалі абавязкі сувязных і разведчыкаў, а нярэдка прымалі непасрэдны ўдзел у баявых аперацыях супраць акупантаў.

За тры гады гераічнай барацьбы ў тыле ворага, з чэрвеня 1941 г. да ліпеня 1944 г., патрыёты Беларусі нанеслі вялікі ўрон акупантам у тэхніцы і жывой сіле. Яны знішчылі амаль паўмільёна гітлераўцаў і паліцэйскіх. Было пушчана пад адхон 11 128 эшалонаў і 34 бронепаязды, разгромлена 29 чыгуначных станцый, 948 гарнізонаў і штабоў, падарвана і спалена 18 700 аўтамашын, 939 ваенных складоў, 819 чыгуначных і 4710 іншых мастоў, збіта 305 самалётаў, падбіта 1355 танкаў і бронемашын, захоплена вялікая колькасць трафеяў. Нездарма гітлераўскі намеснік у Беларусі В.фон Кубэ дакладваў у Берлін, што ў тыле арміі "Цэнтр" фактычна існуе другі фронт – партызанскі. Значную каштоўнасць для савецкіх войск уяўляла партызанская разведка – збор інфармацыі аб размяшчэнні, перамяшчэнні і планах праціўніка.

За мужнасць і адвагу больш за 140 тыс. беларускіх партызан і падпольшчыкаў узнагароджаны ордэнамі і медалямі, а 88 з іх, у тым ліку Ц.П.Бумажкову, Ф.І.Паўлоўскаму (першым з савецкіх партызан), М.П.Шмырову, І.П.Казінцу, К.С.Заслонаву, В.І.Казлову, У.Е.Лабанку, П.М.Машэраву, Ефрасінні Зяньковай, Марату Казею, прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Аднак беларусы добра ведаюць, што адным ім, без дапамогі і падтрымкі ўсіх народаў Савецкага Саюза і іншых краін, не ўдалося б выжыць у той страшэннай вайне. З савецкага тылу партызаны атрымлівалі сродкі сувязі, медыкаменты, узбраенне і г.д. Толькі з лета 1942 г. па сакавік 1944 г. з-за лініі фронту было перапраўлена 80 тыс. вінтовак, аўтаматаў, кулямётаў, 100 млн патронаў да іх, 400 т узрыўчаткі. Савецкія ваенныя лётчыкі вывезлі з варожага тылу больш за 11 тыс. беларускіх дзяцей і раненых партызан. У злучэннях беларускіх партызан ваявалі 100 тыс. рускіх, дзесяткі тысяч украінцаў, тысячы латышоў, эстонцаў, грузін, армян, азербайджанцаў – прадстаўнікоў амаль усіх нацыянальнасцей Савецкага Саюза.

На тэрыторыі Беларусі змагаліся і прадстаўнікі народаў іншых краін – палякі, чэхі, славакі, венгры, бельгійцы, аўстрыйцы, галандцы, італьянцы, немцы і інш. На Палессі, у партызанскім злучэнні А.М.Сабурава, дзейнічала група славацкіх антыфашыстаў, якой камандаваў Ян Налепка. У атрадзе асобага прызначэння А.М.Рабцэвіча змагаўся немец Карл Лінке, у атрадзе К.П.Арлоўскага –

іспанец Хуста Лопес. Усяго на тэрыторыі Беларусі змагаліся каля 4 тыс. замежных антыфашыстаў.

Аналіз сацыяльнага і нацыянальнага складу партызан Беларусі паказвае, што іх касцяк складалі сяляне і рабочыя – 56,1 %, служачых было 20,5 %, навучэнцаў – 12,2, вайскоўцаў – 11,2 %. Пры гэтым моладзь да 25 гадоў уключна складала 54 %. Беларусаў сярод партызан было 71,1 %.

# ГЛАВА 5

## ДЗЕЙНАСЦЬ ВАЕННЫХ ФАРМІРАВАННЯЎ АРМІІ КРАЁВАЙ І АРГАНІЗАЦЫІ ЎКРАІНСКІХ НАЦЫЯНАЛІСТАЎ. РУСКАЯ ВЫЗВАЛЕНЧАЯ АРМІЯ

У гады Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі 14 тыс. чалавек польскай Арміі Краёвай (АК – акаўцаў) і 12 тыс. чалавек Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў (АУН – аўнаўцаў). *Хто ж такія акаўцы і аўнаўцы?*

У 1939 г. у сувязі з пачаткам другой сусветнай вайны Польшча як дзяржава другі раз у гісторыі перастала існаваць (першы раз – з 1795 да 1918 г.)[1].

[1] *Гістарычная даведка.* У выніку 3 падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) Польшча як дзяржава перастала існаваць. Яе тэрыторыя апынулася пад уладай Прусіі і Аўстрыі. Да Расіі былі далучаны былыя тэрыторыі Рэчы Паспалітай – Беларусь, Літва, Правабярэжная Украіна, частка Латгаліі, Заходняя Валынь, Курляндскае герцагства.

У 1807 г. Напалеон I пасля разгрому Прусіі з частак польскіх зямель, захопленых Прусіяй, стварыў васальнае ад Францыі Варшаўскае герцагства, а ў 1809 г. далучыў да герцагства польскія землі, адабраныя ў Аўстрыі.

Пасля падзення Напалеона ў 1814–1815 гг. на Венскім кангрэсе Польшча зноў была падзелена паміж Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй. З большай часткі Варшаўскага герцагства (разам з Варшавай) было ўтворана Каралеўства (Царства) Польскае і перададзена Расіі. Яшчэ раней, у 1807 г., да Расіі была далучана Беластоцкая акруга. Астатняя тэрыторыя Польшчы зноў апынулася пад уладай Прусіі і Аўстрыі. Кракаў з акругай быў абвешчаны "вольным горадам" (Кракаўская рэспубліка праіснавала да 1846 г., калі яе тэрыторыя была далучана да Аўстрыі).

У 1815 г. Каралеўства Польскае было абвешчана канстытуцыйнай манархіяй са сваім сеймам і войскам. У 1832 г. пасля падаўлення паўстання (1830–1831) царызм адмяніў канстытуцыю 1815 г. у Каралеўстве Польскім.

У 1915 г. Германія і Аўстра-Венгрыя акупіравалі Каралеўства Польскае і ў 1916 г. стварылі иа гэтай тэрыторыі марыянетачную польскую дзяржаву.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 29 жніўня 1918 г. савецкі ўрад прыняў падпісаны У.І.Леніным дэкрэт аб адказе ад дагавораў і актаў, заключаных урадам былой Расійскай імперыі аб падзеле Рэчы Паспалітай. У лістападзе 1918 г. быў створаны польскі ўрад, які падпісаў Версальскі мірны дагавор (1919). Пад уладай Германіі яшчэ заставаліся амаль уся Сілезія і некаторыя іншыя польскія землі. Усходняя мяжа Польшчы з Расіяй была вызначана Вярхоўным Саветам Антанты (снежань 1919 г.). Гэта мяжа ўлічвала этнічны склад иасельніцтва.





У выніку вызваленчага паходу Чырвонай Арміі ў верасні 1939 г. Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна ўз'ядналіся з БССР і УССР. Віленскі край, які належаў Польшчы, увайшоў у склад БССР. Але 10 кастрычніка 1939 г. у Маскве было падпісана пагадненне аб перадачы Літве Вільні і Віленскай вобласці. Пры гэтым тэрыторыі Рымашанскага, Радунскага, Даўгелішскага паветаў і раёна Свянцянаў, дзе сумесна пражывалі літоўцы, беларусы і палякі, былі далучаны да Беларусі. У лістападзе 1940 г., улічваючы факт уваходжання Літвы ў склад СССР, Літве перадалі Свянцянскі раён і часткі тэрыторый Відзаўскага, Гадуцішскага, Астравецкага, Воранаўскага і Радунскага раёнаў, якія раней належалі БССР.

Кіраўніцтва Польшчы ў эміграцыі ў Лондане, а таксама польскія буржуазныя партыі, якія дзейнічалі ў падполлі, афіцэрства і каталіцкае духавенства расцэньвалі дзеянні СССР і Германіі як несправядлівыя і агрэсіўныя. Яны ставілі сваёй мэтай падняць народ на ўсеагульнае паўстанне, аднавіць Польскую дзяржаву і вярнуць ёй тэрыторыі ў межах да 1 верасня 1939 г., у тым ліку тэрыторыі Заходняй Беларусі, Заходняй Украіны і Літвы (Віленскага краю).

Ужо з восені 1939 г. на тэрыторыі заходніх абласцей Беларусі дзейнічалі польскія антысавецкія падпольныя арганізацыі, якія накоплівалі зброю, мелі радыёпрыёмнікі, распаўсюджвалі антысавецкую літаратуру, выступалі за аднаўленне "Другой Рэчы Паспалітай" (1918–1939) і разлічвалі на дапамогу ўрадаў Англіі і ЗША. 13 лістапада

У перыяд савецка-польскай вайны (1919–1920) брытанскі міністр замежных спраў Дж.Керзан у ноце, накіраванай савецкаму ўраду, прапанаваў спыніць наступленне Чырвонай Арміі (ліпень 1920 г.) і вярнуцца да лініі, вызначанай Саветам Антанты (адсюль гэта лінія атрымала назву "лінія Керзана"). Савецкі ўрад пагадзіўся з прапановай Дж.Керзана. Аднак Польшча па Рыжскаму мірнаму дагавору 1921 г. навязала мяжу, якая праходзіла далёка на ўсход ад "лініі Керзана" (аж да Негарэлага каля Мінска).

У верасні 1939 г. у выніку далучэння Заходняй Беларусі да БССР дзяржаўная мяжа СССР на захадзе праходзіла ў асноўным па "лініі Керзана", за выключэннем некалькіх месц, дзе яна была адсунута на захад ад гэтай лініі.

У гады другой сусветнай вайны тэрыторыя Польшчы была цалкам акупіравана войскамі фашысцкай Германіі. 11 студзеня 1944 г. СССР заявіў аб гатоўнасці ўстанавіць мяжу з Польшчай на "лініі Керзана". На Крымскай канферэнцыі (1945) кіраўнікоў СССР, ЗША і Англіі была дасягнута дамоўленасць аб тым, што мяжа Польшчы на ўсходзе павінна ісці ўздоўж "лініі Керзана" з адступленнем ад яе ў некаторых месцах ад 5 да 8 км на карысць Польшчы. На поўначы і захадзе Польшча павінна атрымаць свае землі ўздоўж Одэра (Одры) і Нейсе (Нысы Лужыцкай).

16 жніўня 1945 г. быў заключаны савецка-польскі дагавор, які прадугледжваў адступленне на карысць Польшчы ад "лініі Керзана" не на 5–8 км, а на 30 км у глыбіню Украіны і на 17 км у глыбіню Беларусі. Да Польшчы была далучана Беласточчына.

У кастрычніку 1991 г. была падпісана Дэкларацыя паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Польшча, а ў чэрвені 1992 г. – дагавор, у якім абодва бакі прызналі непарушнасць межаў, устаноўленых 16 жніўня 1945 г.

10 лістапада 1995 г. быў выдадзены ўказ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі "Аб правапераемнасці Рэспублікі Беларусь адносна некаторых дагавораў, заключаных паміж былым Саюзам ССР і Польшчай". Ва ўказе пацвярджаецца "правапераемнасць Рэспублікі Беларусь адносна Дагавора паміж Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і Польскай Рэспублікай аб савецка-польскай дзяржаўнай граніцы, падпісаиага ў г.Маскве 16 жніўня 1945 г.".

1939 г. па загаду генерала У.Сікорскага, які ўзначальваў польскі ўрад у эміграцыі, быў створаны нелегальны "Саюз узброенай барацьбы". Яго дзейнасць распаўсюджвалася і на тэрыторыю былых "усходніх крэсаў". Ачагі супраціўлення савецкай уладзе ўзніклі ў Гродне, Брэсце, Беластоку, Лідзе, Баранавічах, Маладзечне, а таксама ў многіх невялікіх гарадах, мястэчках, вёсках. Найбольшая канцэнтрацыя ўзброеных груп, якія засталіся ад разбітага Войска Польскага, была ў Гродзенскай, Рудніцкай, Белавежскай, Налібоцкай і Ліпічанскай пушчах, у Аўгустоўскіх лясах. У 1939–1941 гг. органы дзяржаўнай бяспекі і ўнутраных спраў БССР нанеслі магутныя ўдары па антысавецкім польскім падполлі і польскіх узброеных групах.

Пасля нападу Германіі на СССР польскі ўрад У.Сікорскага па-ранейшаму разлічваў на вызваленне Польшчы заходнімі саюзнікамі альбо пры іх рашаючым удзеле. "Саюзу ўзброенай барацьбы" прадпісвалася не ўступаць у актыўныя баявыя дзеянні, а засяроджваць намаганні на падрыхтоўцы ўзброенага паўстання, на разведцы, сабатажы і дыверсіях. Разам з тым, улічваючы новыя абставіны, 30 ліпеня 1941 г. у Лондане было падпісана пагадненне аб нармалізацыі адносін паміж урадамі СССР і Польшчы. Пытанне аб межах у ім не закранался. Але польскі ўрад лічыў яго вырашаным, бо калі дагавор аб дружбе і граніцы паміж Савецкім Саюзам і Германіяй ад 28 верасня 1939 г. быў парушаны, то згубіў сілу, на думку палякаў, і пратакол аб межах. Між тым урад СССР не збіраўся адмаўляцца ад сваіх зямель.

У 1941–1942 гг. эміграцыйны польскі ўрад у Лондане пашырае супрацоўніцтва з Савецкім Саюзам. 4 снежня 1941 г. генерал У.Сікорскі падпісаў у Маскве з урадам СССР умовы ваеннай узаемадапамогі ў барацьбе з Германіяй. Крыху раней, летам 1941 г., было падпісана пагадненне аб фарміраванні на тэрыторыі СССР польскай арміі. Створаная ў асноўным з ваеннапалонных польскіх афіцэраў армія генерала В.Андэрса ў сакавіку 1942 г. пачала эвакуацыю з СССР праз Іран у Паўночную Афрыку, каб разам з англійскімі і амерыканскімі войскамі змагацца з фашысцкай Германіяй. У Маскве былі створаны Саюз польскіх патрыётаў і польскія ўзброеныя сілы на чале з З.Берлінгам.

*У лютым 1942 г. на базе "Саюза ўзброенай барацьбы" і іншых сіл па загаду польскага кіраўніцтва ў Лондане была створана Армія Краёва* – падпольнае ваеннае фарміраванне знішчанай Польскай дзяржавы, якое дзейнічала як на тэрыторыі ўласнай Польшчы, так і ў Заходняй Беларусі (у раёне гарадоў Ліда, Навагрудак, Ваўкавыск, Ашмяны, Жалудок, Шчучын, Валожын, Гродна, Брэст і г.д.), Заходняй Украіне і Літве. Галоўнай задачай фарміравання з'яўлялася барацьба за аднаўленне Польскай дзяржавы ў межах 1 верасня 1939 г. з уключэннем у яе склад Заходняй Беларусі, Заходняй Украіны і Віленскага краю Літвы.

Цэнтр камандавання Арміяй Краёвай знаходзіўся ў Варшаве. Праз пункты радыёсувязі і дэлегатаў сувязі ён падпарадкоўваўся ўраду





У.Сікорскага ў Лондане. Варшаўскаму цэнтру падначальваліся акругі на чале з камендантамі, якія ў сваю чаргу кіравалі мясцовымі фарміраваннямі арміі ў раёнах. Работу Арміі Краёвай у заходніх абласцях Беларусі накіроўвалі віленскі, баранавіцкі, брэсцкі, беластоцкі, лідскі, навагрудскі каменданты акруг. Строга захоўвалася канспірацыя. Ксяндзы прымалі ў байцоў прысягу. Галоўнымі камендантамі (камандуючымі) Арміі Краёвай былі генералы С.Равецкі (да 30 чэрвеня 1943 г.), Т.Камароўскі (да падаўлення Варшаўскага паўстання 1944 г.), Л.Акуліцкі (памёр 24 снежня 1946 г. у маскоўскай турме Бутыркі).

Праблемы месца і ролі Арміі Краёвай сёння разглядаюцца ў навуковай літаратуры, на навуковых канферэнцыях. Частка польскіх вучоных бачыць дзейнасць гэтай арміі як вынік падпісання 23 жніўня 1939 г. дагавора Молатавым і Рыбентропам. Яны настойліва даказваюць неправамернасць заключэння гэтага пагаднення і яго рэалізацыі. А калі акаўцы рабілі нешта дрэннае, дык толькі таму, што іх на гэта быццам справакавалі Сталін і беларускія партызаны. Ёсць і айчынныя гісторыкі, публіцысты, палітыкі, якія падзяляюць гэты падыход і выказваюцца за прызнанне ўдзельнікаў Арміі Краёвай ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны.

Такі погляд на гісторыю дазваляе нам запытаць: "А ці была прававая аснова захопу Польшчай у 1919–1920 гг. беларускіх зямель? І ці былі б яны вернуты на падставе права Беларусі? Чаму ў злачынствах акаўцаў вінаватыя не эміграцыйны ўрад Польшчы ў Лондане і самі акаўцы, а савецкае кіраўніцтва і беларускія партызаны?"

Адказваючы на гэтыя пытанні, адзначым, што Рыжскі мірны дагавор 1921 г. паміж Савецкай Расіяй і Польшчай, паводле якога Заходняя Беларусь (да Негарэлага) далучалася да Польшчы, быў для беларусаў несправядлівым, супрацьпраўным, бо ён раз'ядноўваў адзінакроўных братоў-беларусаў. Таму барацьба Арміі Краёвай за далучэнне жыхароў Заходняй Беларусі да Польшчы, яе спробы павярнуць назад кола гісторыі адмоўна ўспрымаліся беларускім насельніцтвам.

Разам з тым "Саюз узброенай барацьбы" і Армія Краёва, нягледзячы на складанасць ваенна-палітычных абставін, змагаліся з нямецкімі акупантамі. На іх рахунку ўзарваныя эшалоны працівніка, знішчаныя фашысцкія салдаты і афіцэры. Толькі ў Навагрудскай акрузе з 1942 па 1944 г. атрады Арміі Краёвай правялі 102 баі з гітлераўцамі. Мясцовае насельніцтва заходніх абласцей Беларусі савецкіх партызан называла "чырвонымі", удзельнікаў Арміі Краёвай – "белымі" альбо легіянерамі, польскіх партызан, якія падпарадкоўваліся камандаванню Войска Польскага і Чырвонай Арміі, – "зялёнымі" партызанамі. Акрамя шматлікіх сутычак, адкрытай барацьбы з савецкімі партызанамі ў 1941 г. – пачатку 1943 г. польскія ваенныя фарміраванні не вялі, іншы раз нават сябравалі з беларускімі партызанамі, ратавалі палонных,

3. Зак. 5565

раненых, бо польскі эміграцыйны ўрад, які кіраваў барацьбой і фінансаваў польскіх вайскоўцаў, знаходзіўся ў Лондане, а СССР і Вялікабрытанія з'яўляліся саюзнікамі па антыгітлераўскай кааліцыі.

Пасля разрыву адносін паміж СССР і Польшчай у сакавіку 1943 г. перагаворы паміж "чырвонымі" і "белымі" партызанамі аб сумесных дзеяннях супраць акупантаў зайшлі ў тупік, бо кожны з бакоў меў на гэты выпадак устаноўку свайго ўрада аб межах, і ўстаноўкі гэтыя былі дыяметральна процілеглыя. Замест ранейшага плана ўсенароднага ўзброенага паўстання кіраўніцтва Арміі Краёвай ажыццяўляе новы план пад кодавай назвай "Навальніца", які ў ваенных адносінах быў накіраваны супраць Германіі, а ў палітычных – супраць СССР: прымусіць СССР прызнаць лонданскі эміграцыйны ўрад адзіным законным прадстаўніком інтарэсаў Польшчы, устанавіць савецка-польскую граніцу па стану на 17 верасня 1939 г.

Армія Краёва прытрымлівалася лозунга "двух ворагаў" і вяла барацьбу на два фронты – супраць немцаў і супраць бальшавікоў. Дзейнічала правіла акаўцаў: "Стаяць са зброяй ля нагі!", г.зн. не выступаць супраць гітлераўцаў, а чакаць: няхай гітлераўцы і бальшавікі знішчаюць адзін аднаго, а мы потым самі змусім іх да пакоры і падначалення. У той час, калі гітлераўцы пачнуць адступаць, а Чырвоная Армія яшчэ не падыдзе, меркавалася разгарнуць узброеныя сілы як веер (план і насіў назву "Веер"), захапіць уладу ў населеных пунктах Заходняй Беларусі і сустрэць савецкія воінскія часці, як сустракаюць гаспадары гасцей.

Армія Краёва адкрыта ставіцца на пазіцыі антысаветызму, антысемітызму, савецкіх партызан называе жыдоўска-бальшавіцкімі бандытамі і грабежнікамі, ваюе з імі. У рапарце галоўнага камендата Тадэвуша Камароўскага гаварылася: "19 лістапада 1943 г. падраздзяленне Наднёманскага батальёна вяло бой у раёне Жалудка з савецкімі партызанамі ў колькасці 1500 чалавек на працягу дня. Савецкі атрад вымушаны быў перайсці праз пераправу на другі бераг Нёмана. Савецкія страты – забітыя, параненыя, патопленыя – каля 200 чалавек, а таксама ўвесь абоз і шмат узбраення".

З восені 1943 г. і да лета 1944 г. толькі ў Навагрудскай акрузе фарміраванні акаўцаў правялі 81 аперацыю супраць беларускіх партызан. Не дасягнуўшы поспехаў у барацьбе з партызанамі, акаўцы жорстка распраўляліся з мірнымі жыхарамі, рабавалі і палілі цэлыя вёскі. У вёсцы Лукашы Заслаўскага раёна яны зажыва спалілі 26 чалавек. Толькі легіянеры стаўбцоўскага злучэння Арміі Краёвай забілі 6000 партызан і мірных жыхароў Беларусі.

Пасля вызвалення Чырвонай Арміяй тэрыторыі Беларусі фарміраванні Арміі Краёвай спрабавалі процістаяць аднаўленню савецкай улады ў яе заходніх абласцях. Вось радкі з дакументаў. "У Іўеўскім раёне з васьмі сельсаветаў бандыты выгналі мясцовыя органы ўлады і нясуць патрульную службу, у вёсках забілі двух старшынь і двух сакратароў сельсаветаў"; "У Юрацішкаўскім раёне забілі 7 чалавек".





З мэтай спынення супраціўлення Арміі Краёвай у верасні 1944 г. паміж урадам Беларусі і Польскім камітэтам нацыянальнага вызвалення было заключана пагадненне аб эвакуацыі беларускага насельніцтва з Польшчы ў Беларусь і польскага насельніцтва з Беларусі ў Польшчу. Да 1 мая 1945 г. з Польшчы ў Беларусь прыбылі 25 123 чалавекі, а з Беларусі ў Польшчу – 35 704.

Аднак гэта акцыя становішча ў заходніх абласцях Беларусі не палепшыла. Барацьба працягвалася. У судовай справаздачы "Працэсу 16-ці" ў Маскве ў чэрвені 1945 г. гаварылася: "Па няпоўных даных, у выніку тэрарыстычнай дзейнасці Арміі Краёвай з 28 ліпеня па 31 снежня 1944 г. было забіта 277 і паранена 94 байцы і афіцэры Чырвонай Арміі, у тым ліку забіта і паранена афіцэраў – 77, сяржантаў – 87, байцоў –207. З 1 студзеня па 30 мая 1945 г. забіта 317 і паранена 125 байцоў і афіцэраў Чырвонай Арміі".

У студзені 1945 г. Армія Краёва была афіцыйна распушчана. З Лондана паступіў загад прыпыніць баявыя дзеянні, захаваць кадры для далейшай барацьбы, што сведчыць аб недальнабачнай і нерэалістычнай палітыцы польскага эміграцыйнага ўрада ў адносінах да "крэсаў усходніх". Многія камандзіры акаўцаў не выканалі гэты загад і стварылі невялікія падпольныя групы і арганізацыі, большасць з якіх стала на шлях бандытызму. Напрыклад, толькі члены арганізацыі пад кіраўніцтвам Букаткі на працягу 1946–1948 гг. ажыццявілі 20 тэрарыстычных актаў, забілі чатырох старшынь сельсаветаў, абрабавалі два магазіны, спалілі два памяшканні сельскіх Саветаў. Бандытызм акаўцаў у Беларусі працягваўся аж да пачатку 50-х гадоў, пакуль яны не былі выкрыты савецкімі сілавымі структурамі і аддадзены пад суд. Над арыштаванымі польскімі легіянерамі праводзілася звычайная следчая і судовая практыка, да вышэйшай меры пакарання прыцягваліся толькі тыя, хто з'яўляўся прамым выканаўцам тэрарыстычных актаў.

Такім чынам, у пасляваенны час адзіным спосабам існавання акаўцаў быў прымітыўны бандытызм, густа афарбаваны нянавісцю да савецкай улады. Армія Краёва была створана кіруючымі коламі Польшчы для абароны палітычных інтарэсаў гэтай дзяржавы.

Некаторыя палітыкі і сёння мараць аб Польшчы ў межах 1772 г. з уключэннем у яе склад амаль усёй Беларусі (да Дняпра) ці аб Польшчы ў межах 1 верасня 1939 г. з уключэннем у яе склад Заходняй Беларусі (да Негарэлага). І нават знаходзяцца "навуковыя" абгрунтаванні да гэтых тэрытарыяльных прэтэнзій. Але трэба разумець, што Рэспубліка Беларусь – суверэнная дзяржава, яе тэрыторыя склалася гістарычна, і ніхто не мае права парушаць яе тэрытарыяльную цэласнасць і суверэнітэт.

На тэрыторыі Беларусі ў Брэсцкай і Пінскай абласцях, частка якіх была ўключана гітлераўцамі ў склад рэйхскамісарыята "Украіна",

дзейнічалі ваенныя фарміраванні Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў – аўнаўцы (1920 г. – пачатак 50-х гадоў). Арганізацыя гэта ўзнікла як палітычная рэакцыя на прыгнёт украінскага насельніцтва Польшчай. Яе стварыў палкоўнік пятлюраўскай арміі[1] Канавалец, пасля забойства якога арганізацыю ўзначаліў палкоўнік Мельнік, а маладое крыло – Бандэра (двойчы прысуджваўся да пакарання смерцю за забойства міністра ўнутраных спраў Польшчы і савецкага консула). Паміж Мельнікам і Бандэрам адбыўся канфлікт у барацьбе за кіраўніцтва АУН.

Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны гітлераўская ваенная разведка (абвер) заключыла з АУН палітычнае пагадненне аб сумесных дзеяннях супраць СССР. З дапамогай гітлераўцаў нацыяналісты і іх кіраўнікі, агенты абвера, Мельнік і Бандэра мелі намер выступіць у якасці той сілы, якая "зваліць панаванне бальшавізму на Украіне, адарве краіну раз і назаўсёды ад усялякай Маскоўшчыны" і створыць самастойную Саборную[2] Украінскую дзяржаву. АУН удалося нават атрымаць ад немцаў адпаведныя пісьмовыя дакументы.

З перадавымі часцямі вермахта 22 чэрвеня 1941 г. дзяржаўную мяжу СССР перайшлі два легіёны аўнаўцаў, якія налічвалі крыху больш за 400 чалавек. Легіён "Роланд" рухаўся ў накірунку Адэсы, а легіён "Нахцігаль" – да Львова. На розныя патрэбы аўнаўцаў гітлераўцы далі 2,5 млн рэйхсмарак, не лічачы зброі, шпіёнскай і ваеннай амуніцыі.

"Наша ўлада павінна быць страшнай", – паўтараў Бандэра. Яна такой і была: на Украіне пачаўся масавы тэрор. Па падліках вучоных, толькі ў першыя дні акупацыі ў заходніх абласцях Украіны аўнаўцы па-зверску замучылі 40 тыс. чалавек.

30 чэрвеня 1941 г. у Львове АУН абвясціў незалежную Саборную Украіну, стварыў яе ўрад на чале з Р.Стацко, паслаў прывітанне Гітлеру. У дакуменце аб абвяшчэнні Украінскай дзяржавы гаварылася: "Адноўленая Украінская дзяржава будзе цесна супрацоўнічаць з нацыянал-сацыялістычнай вялікай Германіяй, якая пад кіраўніцтвам

[1] *С.В.Пятлюра* (1879–1926) – адзін з лідэраў Украінскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі і ўкраінскага нацыянальнага руху. Быў у ліку арганізатараў Цэнтральнай Рады (1917) і Дырэкторыі (1918), якую ўзначаліў з лютага 1919 г. У савецка-польскай вайне выступаў на баку буржуазнай Польшчы. У 1920 г. эмігрыраваў, быў забіты ў Парыжы. Яго імя дало назву нацыянальнаму руху (1918–1920) на Украіне за яе самастойнае развіццё на буржуазнай аснове. Пятлюраўскія ўзброеныя фарміраванні былі знішчаны Чырвонай Арміяй.

[2] *Сабор* – сход свецкіх і духоўных чыноў для парады і вырашэння важнейшых спраў у Расіі XVI–XVII стст. Сярод сабораў вылучаюцца земскія, усяленскія і памесныя. Земскія саборы – вышэйшыя саслоўна-прадстаўнічыя ўстановы ў Расіі XVI–XVII стст., якія ўключалі ў сябе членаў Асвячонага сабора, Баярскай думы, "государева двора", выбарных ад правінцыяльнага дваранства і вярхоў горада. На земскіх саборах разглядаліся важнейшыя агульнадзяржаўныя пытанні. Напрыклад, Земскі сабор 1648–1649 гг. прыняў "Соборное Уложение 1649 г." – звод законаў Рускай дзяржавы, у якім упершыню былі вылучаны дзяржаўныя злачынствы і заканадаўча аформлена прыгоннае права. Гэта быў асноўны закон у Расіі да першай паловы XIX ст.





Адольфа Гітлера стварае новы парадак у Еўропе і свеце і дапамагае ўкраінскаму народу вызваліцца з-пад маскоўскай акупацыі. Украінская нацыянальна-рэвалюцыйная армія, якая будзе стварацца на ўкраінскай зямлі, разам з саюзнай нямецкай арміяй будзе і далей змагацца супраць маскоўскай акупацыі за суверэнную Саборную Украінскую Дзяржаву..." (Правда. 1992. 17 дек.).

Але Гітлер і слухаць не хацеў аб суверэннай Украіне, як і суверэнай Беларусі. Сцвярджаючы, што гэтыя тэрыторыі з'яўляюцца часткай рэйха, Гітлер загадаў распусціць урад Стацко, ініцыятараў палітычнай акцыі арыштаваць і прыцягнуць да адказнасці. У пачатку ліпеня 1941 г. Бандэра, Стацко і іншыя "ствральнікі" самастойнай Украіны былі арыштаваны і пасаджаны ў канцлагер Заксенхаўзен. У ліпені – снежні 1941 г. адбыліся масавыя арышты і расстрэлы аўнаўцаў, многія з якіх уцяклі ў лес і ўзяліся за зброю для барацьбы з гітлераўцамі. Часта здаралася так, што ў адных і тых жа лясах Брэстчыны ці Піншчыны каля аднаго вогнішча сядзелі побач беларускія партызаны, акаўцы і аўнаўцы.

Разам з тым на Украіне мелі даволі моцныя пазіцыі дзеячы памяркоўнай палітычнай арыентацыі, якіх да нядаўняга часу называлі "ідэолагамі ўкраінскага буржуазнага нацыяналізму" і якія ў паняцце "самастойная Украіна" ўкладвалі іншы сэнс, чым бандэраўцы. У 1918 г. першы прэзідэнт Украінскай Народнай Рэспублікі М.Грушэўскі пісаў: "...мы можам тварыць не толькі свабодную і незалежную Украіну, але і Украіну Вялікую. Вялікую не тэрыторыяй ці багаццем, ці панаваннем над іншымі, а вялікую сацыяльна-маральнымі каштоўнасцямі... Гэтай велічы я ёй жадаю і прагну, іншай – імперыялістычнай ці мілітарысцкай не хачу ніяк, лічу яе небяспечнай спакусай". Яго саратнік В.Віннічэнка адзначаў: «Стойце ўсімі сіламі за Украіну працуючых, за Украіну "без халопа і без пана", гэта значыць за Украіну без класаў, без класавай, сацыяльнай, нацыянальнай ці якой бы то ні было эксплуатацыі і панавання адных людзей над другімі» (Правда. 1992. 17 дек.).

У гады Вялікай Айчыннай вайны прапятлюраўскіх барацьбітоў за самастойную Украіну ўзначаліў Баравец, які меў клічку Бульба (адсюль яго прыхільнікаў называлі бульбаўцамі). З'яўляючыся адным з крылаў АУН, бульбаўцы арганізацыйна складалі ўзброенае злучэнне "Палеская Сеч", якое дзейнічала ў рэгіёне Пінск–Мазыр–Корасцень. Бандэраўцы і бульбаўцы знаходзіліся паміж сабой у стане лютай варожасці, бо кожны з іх прэтэндаваў на ролю "першага" барацьбіта за самастойную Украіну.

Да сярэдзіны 1943 г. узброеныя фарміраванні бандэраўцаў і бульбаўцаў актыўных баявых дзеянняў супраць савецкіх партызан не вялі, а ў асобных выпадках дапамагалі ім інфармацыяй, вызвалялі вязняў з нямецкіх турмаў, лагераў ваеннапалонных і г.д. Аднак летам 1943 г. яны змянілі сваю пазіцыю, распрацавалі новую тактыку: у адносінах да гітлераўцаў – пасіўная самаабарона, да партызан – барацьба. Усё

34. Зак. 5565

гэта, а таксама расправа над палякамі, якія пражывалі ў Беларусі, дамоўленасць бандэраўцаў і бульбаўцаў пра сумесную барацьбу супраць Саветаў з беларускімі калабарацыяністамі прывялі да крывавых сутыкненняў паміж беларускімі партызанамі, бандэраўцамі і бульбаўцамі.

Пасля размовы Бандэры з Гімлерам у 1944 г. Бандэру вызвалілі з турмы, ён пераехаў у Кракаў і адтуль пачаў кіраваць барацьбой супраць савецкай улады (у 1956 г. у Мюнхене на кватэры яго знайшлі мёртвым; ёсць версіі: 1) самазабойства; 2) забіты спецслужбамі СССР ці ФРГ).

У 1944 г. па заданні абвера АУН стварыла шэраг новых узброеных фарміраванняў, аб'яднаных ва Украінскую паўстанцкую армію (УПА) для дзеянняў на тэрыторыі Украіны ў тыле Чырвонай Арміі. На пераломе 1944/45 г. колькасць УПА складала да 150 (па іншых ацэнках, да 500) тыс. байцоў і ўдзельнікаў падполля. Яны стралялі ў спіны салдат і афіцэраў Чырвонай Арміі, смяротна паранілі камандуючага 1-м Украінскім фронтам М.Х.Ватуціна, праводзілі тэрарыстычныя акты, забойствы партыйных, савецкіх і гаспадарчых кіраўнікоў, работнікаў праваахоўных органаў, актывістаў. Толькі з лютага 1944 г. да канца 1945 г. на Украіне было здзейснена больш за 6600 тэрарыстычна-дыверсійных акцый. У Цярнопальскай вобласці ў кастрычніку – снежні 1944 г. былі забіты і замучаны 706 чалавек, з іх 436 сялян, 53 ваеннаслужачыя, больш за 200 партыйна-савецкіх актывістаў. У 1944–1947 гг. у Беларусі аўнаўцы і акаўцы забілі 1225 чалавек. Супраць іх было праведзена 4474 аперацыі, ліквідаваны 92 антысавецкія арганізацыі і 670 бандыцкіх фарміраванняў. Канчаткова бандыцкія фарміраванні АУН–УПА былі ліквідаваны ў пачатку 50-х гадоў.

Яшчэ ў 1941 г. гітлераўцы для выканання паліцэйскіх, карных і ахоўных задач робяць спробу стварыць пад сваім камандаваннем на акупіраванай тэрыторыі фарміраванні "ўсходніх войск" (называліся таксама "туземнымі" ці "добраахвотніцкімі" войскамі). Першымі ў склад гэтых войск у ліпені 1941 г. увайшлі некалькі літоўскіх, латышскіх і эстонскіх батальёнаў. У канцы 1941 г. пачалося стварэнне рускіх, украінскіх, казацкіх, каўказскіх, туркестанскіх і іншых батальёнаў і часцей. Усяго за час вайны было створана 90 палявых батальёнаў, у іх ліку каля 20 рускіх, казацкая карная дывізія СС (5 палкоў). На тэрыторыі Беларусі дзейнічалі 1-ы рускі полк СС, батальёны "Днепр", "Бярэзіна", "Прыпяць", якія актыўна дапамагалі немцам у правядзенні карных экспедыцый. Беларусаў у войсках СС служыла каля 10 тыс. чалавек.

Пазней на базе батальёнаў і часцей былі створаны ўкраінская дывізія СС "Галічына", беларуская дывізія СС "Беларутэнія", мусульманская дывізія "Хантар", 29-я і 30-я рускія дывізіі СС, 599-я руская брыгада (2 палкі). У сувязі з нізкай баяздольнасцю "туземныя (добраахвотніцкія) часці" былі зняты з Усходняга фронту і перакінуты



ў якасці паліцэйскіх сіл і будаўнічых падраздзяленняў у акупіраваныя фашыстамі краіны Еўропы.

Няма больш цяжкага злачынства, чым пайсці на службу да ворага і падняць зброю на свой народ. Гэта трэба ведаць і помніць заўсёды.

*У маі 1945 г. закончыла свой шлях руская вызваленчая армія (РВА) на чале з генералам-здраднікам Уласавым.* Настаў час развеяць міфы аб тым, быццам у гады вайны пад сцягамі РВА змагалася супраць СССР каля мільёна савецкіх грамадзян, быццам Уласаў здаў пад Ленінградам 2-ю Ударную армію, быццам ён быў і супраць Сталіна, і супраць Гітлера, "ідэйным барацьбітом супраць іуда-бальшавіцкай улады", выразнікам надзей і інтарэсаў простых рускіх людзей, а таму, маўляў, уласаўцаў можна ставіць у адзін шэраг з вязнямі сталінскіх лагераў.

Хто ж такі Уласаў? Што ж такое РВА?

А.А.Уласаў нарадзіўся ў 1901 г. у с.Ламакіна Ніжнегародскай губерні. Закончыў духоўнае вучылішча, два курсы духоўнай семінарыі, 11-ю Ніжнегародскую адзіную працоўную школу 2-й ступені. У сакавіку 1919 г. добраахвотнікам уступіў у Чырвоную Армію. У 1942 г. генерал-лейтэнант Уласаў камандаваў 2-й Ударнай арміяй Волхаўскага фронту, якая ў маі–чэрвені была разбіта фашыстамі. У ліпені 1942 г. Уласаў здаўся ў палон. Ні армія, ні яе штаб у палон не здаваліся.

Прычынай прадажніцтва, здрады Радзіме былі самыя звычайныя беспрынцыпнасць і кар'ерызм Уласава (рабіў кар'еру ў Сталіна, а як толькі яна сарвалася, стаў рабіць кар'еру ў новага гаспадара – Гітлера), пастаянная мімікрыя (думаць адно, гаварыць другое, а рабіць трэцяе), страх за сваё жыццё, боязь адказнасці за трагічны лёс аперацыі, якую няўдала вяла 2-я Ударная армія. Сам жа Уласаў кляўся фашыстам, што ў ВКП(б) уступіў выключна з-за ваеннай кар'еры, люта ненавідзіць савецкую ўладу, з'яўляецца ўдзельнікам тайнага загавору нейкага "саюза рускіх афіцэраў", што змагаецца за пабудову новай Расіі без бальшавікоў і капіталістаў. Уласаву прапанавалі напісаць інфармацыю аб стане Чырвонай Арміі, аб агульным становішчы СССР і метадах барацьбы з партызанамі. Заданне ён выканаў старанна, і заказчыкі засталіся задаволенымі.

У лагеры здраднікаў апынуліся былы член ваеннага савета 32-й арміі Г.Н.Жылянкоў (да вайны працаваў сакратаром аднаго з райкомаў ВКП(б) г.Масквы); былы начальнік штаба 19-й арміі генерал-маёр В.Ф.Малышкін; былы начальнік аператыўнага аддзела Паўночна-Заходняга фронту генерал-маёр Ф.І.Трухін; былы начальнік штаба 21-га стралковага корпуса Д.Е.Закутны; былы начальнік Ліепайскага вучылішча берагавой абароны І.А.Благавешчанскі і інш. Яны і склалі бліжэйшае акружэнне Уласава.

У снежні 1942 г. гітлераўцы арганізавалі сустрэчу Уласава з ваеннапалоннымі савецкімі генераламі. Былы камандуючы 5-й арміяй М.І.Патапаў, генерал-лейтэнанты Д.М.Карбышаў і М.Ф.Лукін, генерал-маёр Н.К.Кірылаў і іншыя адмовіліся стаць здраднікамі, а былы

камандуючы 12-й арміяй генерал-маёр П.Г.Панядзелін у адказ на прапанову Уласава плюнуў яму ў твар. Вернасць Радзіме і народу, ваеннай прысязе захаваў сын Сталіна Якаў Джугашвілі, які трапіў у палон у 1941 г., прайшоў цераз мноства допытаў, адхіліў усе абяцанні фашыстаў і іх лакеяў і заўсёды паўтараў: "Савецкі Саюз перамагчы нельга!"

Стаўшы на шлях здрады, Уласаў прасіў у гітлераўцаў дазволу на стварэнне рускай арміі, якая б ваявала ад імя "другога рускага ўрада". Фюрэр і слухаць не хацеў аб "рускай вызваленчай арміі". Ён паўтараў: "Мне не патрэбна армія, якую давядзецца трымаць на прывязі. Рускія ніколі не будуць насіць зброі!" За плячамі вышэйшага кіраўніцтва Германіі "рускі аддзел" вермахта і розныя эміграцкія арганізацыі вялі мышыную гульню вакол створаных фашыстамі "ўсходніх часцей", якія меркавалася аб'яднаць і стварыць адзіную РВА. Уласаў знаходзіўся ў стане генерала без войска. Гітлеру яго паслугі былі непатрэбны. "Навошта нам наогул патрэбны гэтыя тубільцы?" — заяўляў фюрэр.

27 снежня 1942 г. створаны гітлераўцамі "рускі камітэт" (старшыня — генерал-лейтэнант Уласаў, сакратар — генерал-маёр Малышкін) надрукаваў у выглядзе лістовак адозву да байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі, да ўсяго рускага народа і іншых народаў Савецкага Саюза. У ёй заяўлялася, што "бальшавізм... уцягнуў рускі народ у крывавую вайну за чужыя інтарэсы", "за звышпрыбытак англа-амерыканскіх капіталістаў". Уласаў уяўляў Гітлера дабрадзеем і вызваліцелем, прызываў ачысціць Расію ад "камуністычнай чумы".

У лістоўках, якія распаўсюджваліся на акупіраванай тэрыторыі і ў тыле Чырвонай Арміі, сцвярджалася, што перад РВА стаяць задачы: "зvяржэнне Сталіна і яго кагала (жыдоў); стварэнне ў садружнасці з германскім і іншымі народамі Еўропы новай, сапраўды свабоднай Расіі без калгасаў і прымусовай працы ў лагерах НКУС; аднаўленне гандлю, рамёстваў, саматужных промыслаў і прадастаўленне магчымасцей прыватнай ініцыятывы ў гаспадарчым жыцці краіны; гарантыя нацыянальнай свабоды; забеспячэнне жыццёвага мінімуму інвалідам вайны і іх сем'ям". З дапамогай антысавецкай нацыяналістычнай прапаганды Уласаў і яго акружэнне разыгрывалі антысеміцкую карту гітлераўцаў і аказвалі націск на пачуцці людзей, незадаволеных савецкай уладай.

Вясной 1943 г. у Дабендорфе і Вульхайдзе пад Берлінам былі створаны школы добраахвотнікаў для РВА. Курсантаў з ліку ваеннапалонных размяшчалі ў казармах, апраналі ў нямецкую форму з нашыўкай "РВА" на правым рукаве, пад якой быў трохкаляровы сцяг у мініяцюры, на шапцы — цэшка царскай арміі.

Пад кіраўніцтвам маёра Зыкава (былы намеснік галоўнага рэдактара "Известий" М.І.Бухарына, які ў 1937–1938 гг. знаходзіўся ў адным з сібірскіх лагераў) двойчы ў тыдзень сталі выходзіць газеты "Доброволец" і "Заря". Уласаў прымаў парады, чытаў лекцыі, віншаваў выпускнікоў, якіх у якасці дыверсантаў закідвалі на акупіраваную тэрыторыю і ў часці Чырвонай Арміі. У 1943 г. ён зрабіў некалькі агітацыйных паездак на акупіраваныя тэрыторыі і выступіў перад шырокімі аўдыторыямі ў Смаленску, Рызе, Магілёве, Пскове, Гатчыне і іншых гарадах, але так і працягваў заставацца генералам без войска.





Толькі ў 1944 г. пасля сустрэчы з рэйхсфюрэрам СС Гімлерам Уласаў атрымаў званне генерал-палкоўніка, права на стварэнне дзвюх дывізій РВА і "Камітэта вызвалення народаў Расіі" (КВНР) — "расійскага ўрада". Свой "маніфест" гэты "ўрад" абвясціў у Празе 14 лістапада 1944 г. І толькі ў канцы снежня 1944 г. у асноўным з ліку добраахвотнікаў і рэшткаў "усходніх часцей" была створана першая дывізія РВА, у студзені 1945 г. — другая дывізія. У склад РВА ўвайшлі таксама батальён аховы, рэзервовая брыгада, афіцэрская школа, "паветраныя сілы". У ёй налічвалася каля 50 тыс. чалавек, а ў канцы вайны за кошт аб'яднання ўсіх "усходніх часцей" — да 100 тыс. чалавек. Таму беспадстаўнымі з'яўляюцца сцвярджэнні аб тым, быццам на баку Гітлера змагалася ад 600 тыс. да 1 млн былых савецкіх грамадзян. Уласаў быў прызначаны галоўнакамандуючым РВА толькі 28 студзеня 1945 г.

Па загаду германскага камандавання 13 красавіка 1945 г. першая дывізія РВА пачала атаку супраць Чырвонай Арміі, але хутка прыпыніла яе і пайшла на поўдзень на сустрэчу з англа-амерыканскімі войскамі. У адпаведнасці з дамоўленасцю "вялікай тройкі" ў Ялце ў лютым 1945 г. англійскія і амерыканскія войскі абяззбройвалі ўласаўцаў, змяшчалі іх у лагеры, а затым перадавалі савецкаму боку. Уласава, Трухіна, Зверава ўзялі ў палон савецкія войскі. Некаторых уласаўцаў за здзейсненыя злачынствы расстрэльвалі на месцы, іншых чакалі турмы і лагеры. Былі сярод уласаўцаў і запалоханыя і падманутыя людзі, якія не змаглі разабрацца ў сутнасці тагачаснай ваеннай і палітычнай барацьбы і якія папаліся на вудачку антысавецкай прапаганды.

2 жніўня 1946 г. ваенная калегія Вярхоўнага Суда СССР прыгаварыла да смяротнай кары праз павешанне Уласава і 11 яго супольнікаў. Такі лагічны фінал прадажніцтва і здрады Радзіме.

# ГЛАВА 6

# ВЫЗВАЛЕННЕ БЕЛАРУСІ. ЗАКАНЧЭННЕ ВАЙНЫ

Восенню 1943 г., пасля разгрому фашысцкіх войск пад Курскам, пачалося выгнанне ворага з акупіраванай тэрыторыі Беларусі. 23 верасня савецкія войскі сіламі 13-й арміі Цэнтральнага фронту[1] вызвалілі першы раённы цэнтр Беларусі — г.Камарын.

[1] Цэнтральны фронт (камандуючы К.К.Ракасоўскі) у кастрычніку 1943 г. быў пераўтвораны ў Беларускі, а ў лютым 1944 г. — у 1-ы Беларускі фронт.

35. Зак. 5565

Развіваючы наступленне, савецкія войскі выбілі гітлераўцаў з Клімавіч, Касцюковіч, Крычава і да канца верасня выйшлі на подступы да Віцебска, Рагачова, Магілёва. Разам з Чырвонай Арміяй у наступальных баях удзельнічала 1-я польская дывізія імя Т.Касцюшкі пад камандаваннем З.Берлінга. Свой гераічны шлях дывізія пачала ў бітве 12 кастрычніка 1943 г. у раёне в.Леніна (недалёка ад Горак Магілёўскай вобл.).

Наступаючым часцям Чырвонай Арміі дапамагалі партызанскія атрады і брыгады. Яны разбуралі чыгуначныя магістралі, шашэйныя і грунтавыя дарогі, завязвалі баі з гітлераўцамі, затрымлівалі іх да падыходу савецкіх войск, а затым сумесна грамілі праціўніка, удзельнічалі ў вызваленні Васілевіч, Калінкавіч, Лельчыц, Мазыра і іншых населеных пунктаў.

У лістападзе 1943 г. часці Чырвонай Арміі пасля фарсіравання р.Сож вызвалілі буйны прамысловы і культурны цэнтр рэспублікі – г.Гомель, які да выгнання немцаў з Мінска стаў месцам знаходжання ўрада БССР. Усяго ў Беларусі ў выніку асенне-зімовага (1943–1944) наступлення савецкіх войск было вызвалена 40 раёнаў Магілёўскай, Віцебскай, Гомельскай і Палескай абласцей.

У 1944 г. пачаўся завяршальны этап Вялікай Айчыннай вайны, які характарызаваўся поўным выгнаннем акупантаў з савецкай зямлі і пачаткам вызвалення народаў Еўропы ад фашысцкай няволі. Адной з буйнейшых падзей гэтага этапа з'явілася Беларуская наступальная аперацыя, якая ўвайшла ў гісторыю пад кодавай назвай "Баграціён".

Да пачатку бітвы, у чэрвені 1944 г., лінія фронту на Беларускім напрамку праходзіла на ўсход ад Віцебска, Оршы, Магілёва, Бабруйска і ўяўляла сабой від выступа альбо дугі – ад Полацка на поўначы да Ковеля на поўдні, звернутай сваёй выпуклай часткай на ўсход. Гітлераўцы сканцэнтравалі тут найбольш буйную групоўку сваіх войск (група армій "Цэнтр" і на флангах часці груп "Поўнач", "Паўночная Украіна") колькасцю 1,3 млн чалавек, 9500 гармат і мінамётаў, 900 танкаў і штурмавых гармат, 1350 самалётаў. Створаную ў Беларусі глыбокаэшаланіраваную сістэму абароны, якая прыкрывала галоўныя стратэгічныя напрамкі (усходне-прускі і варшаўска-берлінскі), гітлераўцы называлі "Фатэрлянд" (Айчына), паказваючы, што тут іх армія адстойвае рубяжы самой Германіі.

Савецкае камандаванне, улічваючы важнасць і складанасць задачы, прыняло ўсе неабходныя меры для забеспячэння поспеху аперацыі па вызваленні Беларусі: на працягу красавіка – мая 1944 г. быў дэталёва распрацаваны план *аперацыі "Баграціён"*; праведзена ўсебаковая падрыхтоўка да наступлення – савецкія войскі былі аб'яднаны ў 4 франты, забяспечаны ў дастатковай ступені тэхнікай, боепрыпасамі, гаручым, медыцынскімі сродкамі, харчаваннем.

Раніцай 23 чэрвеня 1944 г. пачалася бітва за поўнае вызваленне Беларусі. У наступленне перайшлі войскі 1-га Прыбалтыйскага (камандуючы І.Х.Баграмян), 2-га Беларускага (Г.Ф.Захараў) і 3-га Бе-



*Вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943–1944 гг.*








*Наступленне пяхоты ва ўзаемадзеянні з танкамі ў раёне Мінска. 1944 г*

ларускага (І.Д.Чарняхоўскі) франтоў. На другі дзень да іх далучыліся войскі 1-га Беларускага фронту (камандуючы К.К.Ракасоўскі). У наступленні ўдзельнічалі таксама Дняпроўская ваенная флатылія, авіяцыя далёкага дзеяння і процівапаветранай абароны, першы асобны французскі добраахвотніцкі знішчальны авіяполк "Нармандыя–Нёман". Актыўны ўдзел у аперацыі "Баграціён" прымалі партызанскія злучэнні. Каардынавалі дзеянні франтоў маршалы А.М.Васілеўскі і Г.К.Жукаў.

З першых жа дзён наступлення ў Беларусі, як сведчыць маршал Г.К.Жукаў, на ўсіх напрамках разгарэліся бязлітасныя баі на зямлі і ў паветры (*Жуков Г.К.* Воспоминания и размышления: В 3 т. М., 1992. Т.3. С.142–143). 24 чэрвеня лінія абароны праціўніка была прарвана. На трэці дзень баёў войскам 1-га Прыбалтыйскага і 3-га Беларускага франтоў удалося акружыць і знішчыць віцебскую групоўку праціўніка ("Віцебскі кацёл"), вызваліць Віцебск. Войскі 2-га Беларускага фронту, фарсіраваўшы водныя перашкоды, 28 чэрвеня штурмам авалодалі Магілёвам. Тады ж была завершана ліквідацыя варожых войск, акружаных пад Бабруйскам ("Бабруйскі кацёл"). Гітлераўцы, пацярпеўшы паражэнне на галоўнай абароннай паласе, спрабавалі замацавацца на рубяжы Бярэзіны. Аднак іх спроба была сарвана войскамі 3-га Беларускага фронту, якія фарсіравалі Бярэзіну, і 1 ліпеня вызвалілі Барысаў.







*Мінск 3 ліпеня 1944 г.*
*Карціна В.Волкава 1946–1953 гг.*

Разгарнуліся баі за сталіцу Беларусі – Мінск. Гітлераўскае камандаванне рабіла ўсё, каб утрымаць горад. Тут былі сканцэнтраваны 3 пяхотныя і 1 танкавая дывізіі, 3 палкі эсэсаўцаў, тэрмінова перакінутыя з Польшчы. Баі савецкіх войск за вызваленне Мінска пачаліся на досвітку 3 ліпеня і паспяхова завяршыліся да канца таго ж дня. Першым уварваўся ў Мінск танк камандзіра ўзвода Д.Г.Фролікава. У баях за горад вызначыліся многія байцы 2-га Тацынскага гвардзейскага танкавага корпуса генерала А.С.Бурдзейнага, 1-га гвардзейскага танкавага корпуса генерала М.Ф.Панова, 5-й гвардзейскай танкавай арміі маршала бранятанкавых войск П.А.Ротмістрава, 3-й арміі генерала А.В.Гарбатава, 31-й арміі генерала В.В.Глаголева і інш.

На ўсходзе і паўднёвым усходзе ад Мінска ў акружэнні апынулася больш чым 100-тысячная групоўка праціўніка ("Мінскі кацёл"). Гітлер звярнуўся па радыё да камандавання групоўкі з загадам, у якім патрабаваў зрабіць усё, каб выйсці з акружэння. Цэлы тыдзень, да 11 ліпеня, кіпеў "Мінскі кацёл". Нягледзячы на аказанае супраціўленне, фашысцкім войскам не ўдалося вырвацца з гэтага "катла": 70 тыс. было забіта, 30 тыс. узята ў палон.

У той час як частка нашых войск разам з партызанамі (2-я Мінская партызанская брыгада, партызанскія брыгады імя Шчорса, імя Чкалава, імя Суворава, 25-годдзя БССР, "За савецкую Беларусь",

36. Зак. 5565




*Панарама Мінска, разбуранага нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941–1944 гг.*

"Ленінская", "Камсамольская" і інш.) заканчвалі ліквідацыю акружанай групоўкі праціўніка пад Мінскам, галоўныя сілы трох беларускіх франтоў рухаліся на захад. Услед за Мінскам 4 ліпеня былі вызвалены Полацк, 5 – Маладзечна, 16 – Гродна, 28 – Брэст. Такім чынам, да канца ліпеня 1944 г. нямецка-фашысцкія захопнікі былі поўнасцю выгнаны з беларускай зямлі.

Разгром нямецка-фашысцкіх войск у Беларусі ўвайшоў у гісторыю як адна з важнейшых бітваў Вялікай Айчыннай і другой сусветнай вайны. Паражэнне гітлераўцаў на Беларусі ў 1944 г. многія гісторыкі ацэньваюць як катастрофу вермахта, а некаторыя і як канчатковае паражэнне Германіі. Па сведчанні аднаго з вядучых нямецкіх даследчыкаў гісторыі другой сусветнай вайны В.Гёрліца, Рыбентроп астаўляў сваіх дзяцей і жонку ў якасці заложнікаў у Германіі і прасіў Гітлера дазволіць яму вылецець у Маскву, каб асабіста дамовіцца са Сталіным аб заканчэнні вайны і заключэнні міру. Фюрэр на працягу 24 гадзін абдумваў прапанову Рыбентропа і адмовіўся ад такога плана.

Сапраўды, бітва за Беларусь у 1944 г. стала адной з буйнейшых ваенных катастроф Германіі. У ходзе аперацыі "Баграціён" савецкія войскі разбілі 28 дывізій групы "Цэнтр" з 38. Агульныя страты гітлераўцаў у Беларусі летам 1944 г. перавысілі тыя, якія панеслі яны ў бітве на Волзе: было забіта звыш 381 тыс. і ўзята ў палон 158 тыс. салдат, афіцэраў і генералаў.

За месяц наступлення савецкія войскі ачысцілі ад ворага тэрыторыю працягласцю з поўначы на поўдзень больш як на 400 км і з усходу на захад больш як на 500 км. У выніку Беларускай аперацыі была вызвалена не толькі ўся Беларусь, але і большая частка Літвы, частка Латвіі, усходнія раёны Польшчы. Савецкія войскі падышлі да граніц Усходняй Прусіі, што стварыла спрыяльныя ўмовы для вызвалення шэрага краін Еўропы і разгрому фашысцкай Германіі.



Яшчэ дзевяць месяцаў пасля вызвалення Беларусі працягвалася вайна супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і беларускаму народу неабходна было аказваць усямерную дапамогу Чырвонай Арміі і адначасова напружваць сілы на адраджэнне жыцця на амаль цалкам спапялёнай, разбуранай зямлі Беларусі.

Пасля вызвалення рэспублікі 147 тыс. партызан уліліся ў шэрагі Чырвонай Арміі, а ўсяго ў ходзе і пасля вызвалення тэрыторыі Беларусі ў Чырвоную Армію было мабілізавана 755 тыс. яе жыхароў. Поўнае аднаўленне разбуранай народнай гаспадаркі павінна было адбыцца ўжо ў пасляваенныя гады і патрабавала вялікіх сіл і часу. Цяпер жа толькі пачыналася адраджэнне прамысловасці, транспарту, сельскай гаспадаркі, сацыяльнай інфраструктуры.

Важнае значэнне надавалася ўзнаўленню чыгунак, якія павінны былі забяспечыць рэгулярную і своечасовую дастаўку грузаў, у тым ліку для фронту. Да лютага 1945 г. на Беларусі было ўзноўлена больш за 10 тыс. км чыгуначных дарог. У 1944 г. узровень прамысловай вытворчасці рэспублікі быў у 10 разоў ніжэйшы, чым у 1940 г., а да лета 1945 г. ужо дзейнічала звыш 8 тыс. прамысловых прадпрыемстваў, майстэрань і арцеляў, ці 25 % іх даваеннай колькасці.

Пасля вызвалення Беларусі Чырвоная Армія з неаслабнай сілай граміла нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У выніку наступных удараў

вораг быў поўнасцю выгнаны з савецкай зямлі, дзяржаўная граніца СССР адноўлена. Чырвоная Армія, выконваючы вызваленчую місію, дапамагла народам Польшчы, Чэхаславакіі, Венгрыі, Румыніі, Балгарыі і іншым вызваліцца ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.

Савецкія войскі разам з амерыканскімі, англійскімі, французскімі, польскімі, чэхаславацкімі і югаслаўскімі, а таксама з войскамі румынскай і балгарскай армій, якія далучыліся пазней, наносілі гітлераўскім полчышчам знішчальныя ўдары. Супраць фашызму, за свабоду і незалежнасць сваіх краін змагаліся патрыёты Італіі, Грэцыі, Венгрыі, Албаніі, Нарвегіі і іншых краін. У выніку гітлераўская Германія апынулася пад пагрозай немінучага разгрому.

Многія народы і дзяржавы ўнеслі ўклад у перамогу над фашызмам, у тым ліку ЗША, Англія, Францыя і іншыя саюзнікі па антыгітлераўскай кааліцыі. Важнай падзеяй у барацьбе супраць фашызму з'явілася адкрыццё ў чэрвені 1944 г. другога фронту ў Еўропе, дамоўленасць аб чым была дасягнута яшчэ ў пачатку 1942 г.

У канцы студзеня – пачатку лютага 1945 г. савецкія войскі ў ходзе Вісла-Одэрскай аперацыі фарсіравалі Одэр, захапілі шэраг плацдармаў, наблізіліся на 70–80 км да Берліна. У той час, калі Савецкія Узброеныя Сілы ажыццяўлялі наступленне супраць фашысцкай Германіі з усходу, англа-амерыканскія войскі разгарнулі наступальныя дзеянні на захадзе.

Рашаючае значэнне для разгрому фашысцкай тыраніі мела Берлінская аперацыя (16 красавіка – 8 мая), ажыццёўленая войскамі 1-га, 2-га Беларускіх і 1-га Украінскага франтоў з выкарыстаннем сіл Балтыйскага флоту, Дняпроўскай ваеннай флатыліі, авіяцыі дальняга дзеяння, а таксама 1-й і 2-й армій Войска Польскага. 2 мая савецкія войскі завяршылі разгром берлінскай групоўкі нямецка-фашысцкіх войск і поўнасцю авалодалі Берлінам.

*8 мая ў прадмесці Берліна Карлсхорсце ў прысутнасці прадстаўнікоў камандаванняў армій СССР, ЗША, Англіі і Францыі прадстаўнікі паверргнутай Германіі падпісалі акт аб безагаворачнай капітуляцыі сваіх узброеных сіл.* Кровапралітная вайна ў Еўропе закончылася. У азнаменаванне перамаганоснага завяршэння Вялікай Айчыннай вайны супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў *9 мая 1945 г. было абвешчана днём усенародных урачыстасцей – святам Перамогі.*

У Еўропе наступіў мір. Але ў краінах Паўднёва-Усходняй Азіі, на Далёкім Усходзе і ў басейне Ціхага акіяна ўсё яшчэ палыхала полымя вайны, развязанай Японіяй. Верны саюзніцкаму абавязку, СССР далучыўся да дэкларацыі ЗША, Англіі і Кітая ад 26 ліпеня 1945 г., у якой патрабавалася безагаворачная капітуляцыя Японіі, і 8 жніўня аб'явіў вайну мілітарысцкай Японіі.

Баявыя дзеянні Чырвонай Арміі і Флоту супраць Японіі пачаліся 9 жніўня 1945 г. Нягледзячы на моцнае супраціўленне, савецкія войскі хутка зламалі абарону праціўніка. На працягу 11 дзён яны разграмілі





галоўную ўдарную сілу японскіх мілітарыстаў – Квантунскую армію і ачысцілі ад японцаў паўночна-ўсходнія правінцыі Кітая (Маньчжурыю), гарады Дальні і Порт-Артур, Паўднёвы Сахалін, Курыльскія астравы, вызвалілі Паўночную Карэю.

Ужо пасля разгрому савецкімі войскамі Квантунскай арміі ЗША, якія яшчэ 6 і 9 жніўня 1945 г. падвергді атамнай бамбардыроўцы Хірасіму і Нагасакі, 28 жніўня пачалі высадку сваіх акупацыйных сіл на Японскія астравы. Страціўшы лепшую сухапутную армію, а таксама флот, Японія вымушана была капітуляваць.

*2 верасня 1945 г. Японія падпісала акт аб безагаворачнай капітуляцыі.* Ад імя дзяржаў антыгітлераўскай кааліцыі яго падпісалі прадстаўнікі ЗША, Англіі, СССР, Кітая, Францыі, Аўстраліі, Канады, Новай Зеландыі і Нідэрландаў. Так закончылася другая сусветная вайна.

# ГЛАВА 7

# УКЛАД БЕЛАРУСКАГА НАРОДА Ў ВЯЛІКУЮ ПЕРАМОГУ

Разгром фашысцкай Германіі, а затым мілітарысцкай Японіі ў вайне 1939–1945 гг. мае сусветна-гістарычнае значэнне. Вялікая перамога над дзяржавамі агрэсіўнага блока была атрымана ў імя міру і жыцця на Зямлі. Яна аказала велізарнае ўздзеянне на ўвесь ход сусветнага развіцця ўжо тым, што аб'ектыўна з'явілася гістарычным прысудам фашызму і мілітарызму, пераканаўчым пацвярджэннем важнасці аб'яднання самых розных палітычных, сацыяльных, ідэалагічных сіл супраць ваеннай пагрозы, усякага роду рэваншызму, фашызму і неафашызму.

Важнейшым фактарам дасягнення Вялікай Перамогі быў удзел многіх дзяржаў і народаў у агульнай барацьбе супраць фашысцкага блока. Значэнне і роля баявых дзеянняў узброеных сіл ЗША, Англіі, Францыі, Кітая, намаганні і стойкасць народаў іншых краін, якія змагаліся з гітлераўскай Германіяй і мілітарысцкай Японіяй, несумненны і відавочны. Разам з тым да ацэнкі ўкладу розных краін у разгром фашызму неправамерна падыходзіць адназначна, а тым больш замоўчваць ці нават прыніжаць ролю Савецкага Саюза ў дасягненні Вялікай Перамогі, што, на жаль, мае месца, асабліва пасля распаду СССР.

Аб'ектыўныя гістарычныя матэрыялы і факты сведчаць: рашаючы ўклад у вызваленне народаў Еўропы і Азіі ад фашысцкага рабства, у выратаванне сусветнай цывілізацыі ўнеслі народы Савецкага Саюза і Савецкія Узброеныя Сілы. На савецка-германскім фронце з пачатку вайны і да сярэдзіны 1944 г. адначасова дзейнічала ад 190 да 270

нямецка-фашысцкіх дывізій, у той час калі англійскай і амерыканскай арміям супрацьстаялі ў Паўночнай Афрыцы ад 9 да 20, у Італіі – ад 7 да 26 дывізій. І пасля адкрыцця другога фронту (чэрвень 1944 г.) у Еўропе на савецка-нямецкім фронце ў 2–2,5 раза больш знаходзілася гітлераўскага войска, чым на заходнім і італьянскім франтах. Даўжыня савецка-германскага фронту на розных этапах вайны вагалася ад 3 да 6 тыс. км. З 1418 сутак існавання фронту 93 % часу прыпадае на актыўныя баявыя дзеянні. Працягласць жа фронту ў Паўночнай Афрыцы і Італіі не перавышала 300–350 км, а ў Заходняй Еўропе – 800 км.

Разам з усімі народамі Савецкага Саюза з гонарам выканаў свой абавязак перад Радзімай і чалавецтвам беларускі народ. На алтар Вялікай Перамогі Беларусь прынесла мільёны жыццяў сваіх грамадзян. Ні адной сям'і не абышла вайна, таму нашы людзі добра ведаюць цану заваяванага міру.

Крыніцамі перамогі над агрэсарам з'явіліся дзейнасць Камуністычнай партыі і савецкага ўрада, Савецкіх Узброеных Сіл, дружба народаў СССР, савецкі патрыятызм. У свеце не знайшлося такой сілы, якая б змагла спыніць фашысцкіх агрэсараў. Толькі 16 дзён супраціўляўся ім народ Польшчы, за 42 дні была акупіравана Францыя, 1418 дзён змагаліся супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў савецкія людзі і іх узброеныя сілы і дасягнулі перамогі.

Вялікая Айчынная вайна была ўсенароднай. Ужо за першыя 8 дзён у Савецкія Узброеныя Сілы ўлілося больш за 5 млн чалавек. Толькі за чэрвень – жнівень 1941 г. больш за паўмільёна мужчын Беларусі, здольных насіць зброю, уступілі ў шэрагі Чырвонай Арміі. Усяго на франтах Вялікай Айчыннай вайны змагаліся 1 млн 300 тыс. беларусаў і ўраджэнцаў рэспублікі. Яны ўдзельнічалі ў бітвах пад Брэстам, Масквой, Сталінградам, на Курскай дузе, у вызваленні Каўказа, Украіны, Прыбалтыйскіх рэспублік, а таксама ў вызваленні ад фашызму народаў Еўропы і Азіі, былі ў ліку тых, хто аддаваў сваё жыццё пры ўзяцці Берліна і штурме рубяжоў у Маньчжурыі, Карэі, на Паўднёвым Сахаліне і Курылах.

Чырвоная Армія разбіла галоўныя сілы ваеннай машыны агрэсараў. З 13,6 млн чалавек, якіх страціла гітлераўская Германія за час другой сусветнай вайны, 10 млн знайшлі сабе магілу на ўсходнім фронце. Страты нямецка-фашысцкіх войск на савецка-германскім фронце былі ў 4 разы большыя, чым на заходнееўрапейскім і міжземнаморскім тэатрах ваенных дзеянняў.

За час вайны за мужнасць і гераізм ордэнамі і медалямі было ўзнагароджана звыш 7 млн ваеннаслужачых, больш за 11 тыс. чалавек удастоены звання Героя Савецкага Саюза. Звыш 300 тыс. салдат і афіцэраў – ураджэнцаў Беларусі – атрымалі ордэны і медалі, 441 воін удастоены звання Героя Савецкага Саюза, а чацвярым (лётчык П.Я.Галавачоў, камандзіры танкавых злучэнняў І.І.Гусакоўскі, С.Ф.Шутаў, І.І.Якубоўскі) гэта званне прысвоена двойчы, 65 ураджэнцаў Беларусі сталі поўнымі кавалерамі ордэна Славы.





Ураджэнцамі Беларусі былі выдатныя военачальнікі, якія затым сталі маршаламі: В.Д.Сакалоўскі, І.І.Якубоўскі, С.А.Красоўскі; генераламі арміі: А.І.Антонаў, І.І.Гусакоўскі; генерал-палкоўнікамі: А.Р.Бацюня, І.П.Камера, Ф.І.Кузняцоў; віцэ-адміралам В.П.Дрозд; контр-адміралам В.Е.Ананіч – усяго 217 генералаў і адміралаў. У складзе ваенна-паветраных сіл з ворагам змагаліся 5305, у бранятанкавых і механізаваных часцях 2490 афіцэраў з Беларусі.

Свой уклад у разгром фашысцкіх захопнікаў унеслі партызаны і падпольшчыкі Беларусі, якую ў гады акупацыі па праву называлі "Рэспублікай-партызанкай". Крыніцамі шырока распаўсюджанага ў рэспубліцы партызанскага руху былі патрыятызм нашых людзей, адданасць сваёй Айчыне і нянавісць да ворага.

За тры гады гераічнай барацьбы ў тыле ворага патрыёты Беларусі нанеслі акупантам вялікі ўрон у тэхніцы і жывой сіле. Яны знішчылі амаль паўмільёна гітлераўцаў і паліцэйскіх. Усяго, як вядома, партызаны і падпольшчыкі СССР знішчылі, паранілі і ўзялі ў палон больш за 1,6 млн салдат і афіцэраў вермахта, ваенна-будаўнічых арганізацый, нямецкіх чыноўнікаў акупацыйнай адміністрацыі, каланістаў і ваенных чыгуначнікаў. Партызанская барацьба, падпольны рух, а таксама масавае супраціўленне мірнага насельніцтва Беларусі ўсім мерапрыемствам акупантаў ператварыліся ў адзін з рашаючых фактараў разгрому фашысцкага нашэсця.

Нямала беларусаў у ліку савецкіх грамадзян удзельнічала ў еўрапейскім руху Супраціўлення. Агульная колькасць савецкіх партызан, якія дзейнічалі на тэрыторыі Польшчы, складала 12 тыс. чалавек. Важную ролю ва ўстанаўленні баявога супрацоўніцтва паміж савецкімі і польскімі партызанамі адыграў Польскі партызанскі штаб, які ўзначальваў А.Завадскі, а намеснікам яго, потым начальнікам штаба быў С.Прытыцкі.

На тэрыторыі Чэхаславакіі дзейнічалі больш за 17 тыс. савецкіх партызан. Сярод іх ураджэнец Лепельшчыны Вячаслаў Квіцінскі. У жніўні 1944 г. ён узначаліў атрад, потым пераўтвораны ў асобную чэхаславацкую брыгаду, якая ажыццявіла 156 баявых аперацый, удзельнічала ў вядомым Славацкім паўстанні. В.А.Квіцінскі быў узнагароджаны Залатой Зоркай Героя Савецкага Саюза, двума ордэнамі Леніна, чатырма ордэнамі ЧССР.

У французскім руху Супраціўлення вызначыўся ўраджэнец Ашмяншчыны Фадзей Варанішча. Адным з кіраўнікоў антыфашысцкай падпольнай арганізацыі ў Маўтхаўзене быў ураджэнец г.Чавусы Леў Маневіч.

Рух Супраціўлення, які па свайму характару і мэтах быў антыфашысцкім, агульнадэмакратычным, меў важнае гістарычнае значэнне. Сам факт кансалідацыі ў ім людзей розных поглядаў, паходжання сведчыў аб росце свядомасці народных мас, якія адвергл фашызм. Змагары Супраціўлення наносілі адчувальныя ўдары па варожых камунікацыях і гарнізонах, зганялі фашысцкіх акупантаў з населеных пунктаў, а ў некаторых краінах (Югаславія, Грэцыя,

Албанія, Францыя) узброеныя фарміраванні антыфашыстаў вызвалілі ўсю тэрыторыю альбо большую яе частку.

Перамога над фашысцкім блокам была не толькі палітычнай і ваеннай, але і эканамічнай. У дасягненні яе адыгралі сваю ролю эканамічныя рэсурсы СССР, ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі, іншых дзяржаў антыгітлераўскай кааліцыі.

Значны ўклад у забеспячэнне Вялікай Перамогі над ворагам унёс савецкі тыл, у тым ліку эвакуіраваныя з Беларусі на ўсход краіны, галоўным чынам у Паволжа, на Урал і ў Заходнюю Сібір, прадпрыемствы і ўстановы. Да лета 1942 г. на абарону працавалі больш за 60 беларускіх прадпрыемстваў. Усяго ва ўсходніх раёнах СССР працавала прыкладна 1,5 млн эвакуіраваных жыхароў Беларусі. Дзесяткі тысяч беларусаў за працоўныя подзвігі ў савецкім тыле былі адзначаны ўрадавымі ўзнагародамі. Сярод іх беларускія чыгуначнікі Героі Сацыялістычнай Працы А.В.Глебаў, М.А.Макараў, І.П.Першукевіч, А.М.Чухнюк, А.А.Янкоўскі і інш.

Адзінства фронту і тылу ўмацоўвала сілы воінаў Чырвонай Арміі ў барацьбе з ворагам. Ужо ў канцы 1942 г. суадносіны па асноўных відах ваеннай тэхнікі на савецка-германскім фронце змяніліся на карысць Чырвонай Арміі, а з лета 1943 г. яны працягвалі няўхільна павялічвацца. Па сярэднегадавому выпуску гармат палявой артылерыі СССР пераўзыходзіў Германію больш чым у 2 разы, супрацьтанкавых гармат – у 2,6, мінамётаў – у 5 разоў. Калі ў пачатку вайны нашы знішчальнікі і бамбардыроўшчыкі па лётна-тэхнічных даных у цэлым уступалі нямецкім, то ў 1943 г. большасць тыпаў савецкіх самалётаў пераўзыходзіла іх. За час вайны ў серыйную вытворчасць паступіла 25 новых мадэляў самалётаў.

Працаўнікі калгасаў і саўгасаў забяспечвалі армію харчаваннем і фуражом. Толькі за 4 гады (1941–1944), нягледзячы на акупацыю Беларусі, Украіны, іншых раёнаў краіны, было нарыхтавана 4,3 млрд п. хлеба, г.зн. у 3 разы больш, чым было нарыхтавана і закуплена ў Расіі за першую сусветную вайну.

Нельга не адзначыць, што ўвесь цяжар земляробчай працы ў час вайны вынеслі на сваіх плячах жанчыны, а таксама старыя і падлеткі. Ды і ў прамысловай вытворчасці доля працуючых жанчын складала (па стану на 1945 г.) да 56 %.

Дзякуючы намаганням працаўнікоў тылу Савецкія Узброеныя Сілы атрымалі за гады вайны больш за 10 млн т боепрыпасаў, 16 млн т паліва, 40 млн т харчавання і фуражу, а таксама вялікую колькасць іншых матэрыяльных сродкаў[1]. Адзінства фронту і тылу, працоўны гераізм жыхароў горада і вёскі былі магутным фундаментам Вялікай Перамогі.

[1] Падрабязней гл.: Тыл Советских Вооруженных Сил в Великой Отечественной войне 1941–1945 гг. М., 1977. С.5, 492; Война и продовольствие: Снабжение городского населения в Великую Отечественную войну (1941–1945 гг.). М., 1964. С.20.





Неацэнны ўклад у Вялікую Перамогу ўнеслі інтэлігенцыя, работнікі народнай адукацыі і навукі, культуры, літаратуры і мастацтва Беларусі. На ўсход краіны з рэспублікі былі эвакуіраваны 60 навукова-даследчых інстытутаў і лабараторый, 6 тэатраў, больш за 20 вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў. Белдзяржуніверсітэт працягваў сваю работу па скарочаных вучэбных планах пад Масквой на станцыі Сходня, Акадэмія навук БССР – у Казані, тэатр імя Янкі Купалы – у Томску, оперны тэатр – у Горкім і г.д.

Нягледзячы на цяжар ваеннага часу, народ праяўляў клопат аб выхаванні і адукацыі дзяцей. Каб даць магчымасць падлеткам прадоўжыць адукацыю без адрыву ад вытворчасці, з 1943 г., па меры вызвалення тэрыторыі ад акупантаў, арганізоўваліся агульнаадукацыйныя школы, школы рабочай і сельскай моладзі (ШРМ, ШСМ). Яшчэ раней пачалі дзейнічаць т.зв. “лясныя”, альбо партызанскія, школы. У 1942/43 навучальным годзе толькі ў Любанска-Кастрычніцкай партызанскай зоне дзейнічала каля 20 такіх школ.

Вучоныя Белдзяржуніверсітэта і Акадэміі навук БССР вырашалі задачы, якія мелі абароннае і народнагаспадарчае значэнне: удасканальвання тэхналагічных працэсаў у прамысловасці; вывядзення новых гатункаў і павышэння ўраджайнасці сельскагаспадарчых культур; распрацоўкі новых метадаў лячэння салдат і афіцэраў; пошуку новых радовішчаў прыродных выкапняў і г.д.

Вялікую выхаваўчую ролю адыгрывала ў час вайны літаратура. Глыбокі водгук у салдат, партызан, насельніцтва атрымала творчасць Я.Купалы, Я.Коласа, А.Астрэйкі, П.Броўкі, А.Куляшова, М.Лужаніна, П.Панчанкі, М.Танка і інш. Многія творы беларускіх пісьменнікаў былі перакладзены на рускую мову (выбраныя творы Я.Купалы, аднатомнік вершаў Я.Коласа, паэма М.Танка “Янук Сяліба”, зборнік апавяданняў М.Лынькова і інш.).

Цесную сувязь з савецкай арміяй, народам прадэманстравалі работнікі мастацтва. З першых дзён вайны былі створаны творчыя (франтавыя) брыгады Беларускага тэатра оперы і балета. Толькі на працягу месяца Р.В.Млодак, І.М.Балоцін, С.Ю.Друкер і іншыя артысты тэатра далі каля 40 канцэртаў для воінаў дзеючай арміі Калінінскага фронту. У савецкім тыле і на перадавой выступалі калектывы іншых беларускіх тэатраў. Тэатр імя Я.Купалы, знаходзячыся ў Томску, абслугоўваў мясцовае насельніцтва, вайсковыя часці і шпіталі, накіроўваў сваіх лепшых выканаўцаў Г.П.Глебава, Л.Р.Рахленку, Л.І.Ржэцкую, З.Ф.Стому і іншых у часці дзеючай Арміі. За тры гады свайго “сібірскага” перыяду ён паставіў 870 спектакляў, якія прагледзелі каля 750 тыс. чалавек. Калектывы ўсіх беларускіх тэатраў давалі шэфскія канцэрты і спецыяльныя пастаноўкі для стварэння фонду абароны.

Інтарэсы фронту займалі галоўнае месца і ў творчасці беларускіх кампазітараў і мастакоў. Нагадаем оперу “Алеся” Я.Цікоцкага, сімфанічныя і інструментальныя творы “З дзённіка партызана”,



*Ад імя беларускай дэлегацыі К.В.Кісялёў падпісвае Статут Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. 26 чэрвеня 1945 г.*

"Суровыя дні" М.Аладава; скульптурныя партрэты К.Ракасоўскага, М.Яроменкі, В.Талаліхіна, створаныя З.Азгурам; карціны "Беларускія партызаны" М.Філіповіча, "Адпомсцім" Я.Красоўскага і інш.

Беларускія кінааператары на базе Маскоўскай студыі-хронікі штомесячна выпускалі кіначасопіс "Савецкая Беларусь". Спецыяльна для абслугоўвання партызан і насельніцтва акупіраванай рэспублікі пры Усесаюзным радыёкамітэце была створана беларуская рэдакцыя радыёвяшчання, якая штодзённа выпускала радыёперадачы. Не спынялі работы беларускі друк, Дзяржаўнае выдавецтва БССР.

Работнікі народнай адукацыі, навукі, культуры, літаратуры, мастацтва, сродкаў масавай інфармацыі ў гады вайны працавалі для народа, выхоўвалі пачуццё патрыятызму, мужнасці, нянавісці да захопнікаў, натхнялі на непрымірымую барацьбу з ворагам.

Уклад беларускага народа ў Вялікую Перамогу, у справу разгрому фашызму атрымаў прызнанне ва ўсім свеце. Улічваючы гэта, 27 красавіка 1945 г. міжнародная канферэнцыя, скліканая для ўтварэння ААН, прыняла рашэнне аб уключэнні БССР у лік краін-заснавальніц гэтай новай і самай аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі, якая і сёння ахоўвае мір і бяспеку народаў.





## Літаратура


Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне 1941–1945: Энцыклапедыя. Мн., 1990.

Беларусь у гады другой сусветнай вайны: Урокі гісторыі і сучаснасць: Матэрыялы Рэсп. навук. канферэнцыі, прысвечанай 50-годдзю Перамогі (Мінск, 26–27 красавіка 1995 г.). Мн., 1995.

Белорусские остарбайтеры. Мн., 1996.

Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Мн., 1983. Т.1; 1984. Т.2; 1985. Т.3.

Всенародное партизанское движение в Белоруссии: Документы и материалы. Мн., 1967. Т.1; 1973. Т.2, кн.1; 1978. Т.2, кн.2; 1982. Т.3.

Гісторыя Беларускай ССР: У 5 т. Мн., 1975. Т.4.

*Домарад К.И.* Партийное подполье и партизанское движение в Минской области. 1941–1944. Мн., 1992.

*Жуков Г.К.* Воспоминания и размышления: В 3 т. 11-е изд. М., 1992. Т.3.

*Залескі А.І.* Дарогамі партызанскай Беларусі. Мн., 1974.

*Зялінскі П.І., Котаў А.І.* Гераічная Беларусь. Мн., 1994.

История второй мировой войны (1939–1945): В 12 т. М., 1973. Т.4–8.

*Кравченко И.С.* Белоруссия в годы Великой Отечественной войны. Мн., 1968.

*Кузьменко В.И.* Советская интеллигенция в партизанском движении в Белоруссии (1941–1944). Мн., 1993.

*Лемяшонак У.І.* Вызваленне без грыфа "Сакрэтна". Мн., 1996.

Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. Мн., 1995. Ч.2.

Нямецка-фашысцкі генацыд на Беларусі. Мн., 1995.

Памяти павших: Великая Отечественная война (1941–1945). М., 1995.

Памяць: Беларусь: Рэспубліканская кніга. Мн., 1995.

*Пономаренко П.К.* Всенародная борьба в тылу немецко-фашистских захватчиков (1941–1944). М., 1986.

*Соловьев А.К.* Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. Мн., 1995.

*Тимохович И.В.* Битва за Белоруссию (1941–1944). Мн., 1994.

*Туронак Ю.* Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Мн., 1993.

1941 год: Трагічнае і гераічнае: Зб. тэзісаў міжрэсп. навук. канферэнцыі, прысвечанай 50-годдзю Вялікай Айчыннай вайны. Мн., 1991.

РАЗДЗЕЛ IX

# САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ, ПАЛІТЫЧНАЕ І КУЛЬТУРНАЕ РАЗВІЦЦЁ. БЕЛАРУСЬ НА МІЖНАРОДНАЙ АРЭНЕ

(1946–1985)

## ГЛАВА 1

## САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСІ

### § 1. Аднаўленне народнай гаспадаркі рэспублікі пасля Вялікай Айчыннай вайны

Вялікая Айчынная вайна і фашысцкая акупацыя прынеслі беларускаму народу велізарныя бедствы. Захопнікі разбурылі і спалілі 209 гарадоў і райцэнтраў, 9200 сёл і вёсак, 628 з іх – з людзьмі. Загінула, паводле афіцыйных даных, больш за 2 млн 200 тыс. жыхароў.

Былі разбураны амаль усе прамысловыя прадпрыемствы і электрастанцыі, абсталяванне вывезена ў Германію або знішчана. Гітлераўцы разрабавалі маёмасць калгасаў і саўгасаў. Моцна пацярпелі транспартныя магістралі, было разбурана амаль тры чвэрці жылога фонду гарадоў, поўнасцю знішчана матэрыяльная база адукацыі, навукі, культуры. Толькі прамыя страты склалі 75 млрд р. (у цэнах 1941 г.). Па агульнаму ўзроўню развіцця эканомікі рэспубліка была адкінута да 1928 г., а па некаторых галінах – да 1913 г.

Патрабаваліся вялікія намаганні ўсяго народа, каб падняць з руін рэспубліку, наладзіць мірнае жыццё. І галоўнае, што характарызавала гэты перыяд, – узаемадапамога і аб'яднанне рэсурсаў усіх савецкіх рэспублік не толькі ў справе аднаўлення, але і ўсяго наступнага эканамічнага развіцця.





Аднаўленчая праца пачалася яшчэ да заканчэння Вялікай Айчыннай вайны, па меры таго як вызвалялася ад захопнікаў тэрыторыя рэспублікі, і працягвалася да канца 40–пачатку 50-х гадоў.

Для беларусаў, як і іншых народаў СССР, гэта былі цяжкія гады. Аднаўленне разбуранай вайной гаспадаркі патрабавала вялікага напружання сіл. Прыходзілася працаваць не толькі на прадпрыемствах, але і на аднаўленні жылля, аб'ектаў сацкультбыту, пры гэтым ва ўмовах вытворчых цяжкасцей, неўладкаванасці быту, недастатковага харчовага забеспячэння. У рэспубліцы адчуваўся востры недахоп працаздольнага насельніцтва, будаўнічых матэрыялаў, прамысловай сыравіны, паліва, электраэнергіі, харчавання, тавараў першай неабходнасці. Напрыклад, у Віцебску на момант вызвалення было ўсяго 400 жыхароў, таму працу на прадпрыемствах (ільнопрадзільнай, швейнай фабрыках і інш.) пачалі 5–7 рабочых. А "Гродзенская праўда" ў кастрычніку 1944 г. пісала аб аднаўленчай працы: "...Каля руін і пажарышчаў працавалі людзі. Працавалі суткамі. Пакромсаныя, разбітыя, абгарэўшыя станкі беражліва даставаліся з-пад руін, старанна ачышчаліся".

У забеспячэнні аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі Беларусі фінансавымі і крэдытнымі рэсурсамі рашаючую ролю адыгралі агульнасаюзныя фонды. У 1944–1945 гг. сродкі, атрыманыя рэспублікай у даход яе дзяржаўнага бюджэту з саюзных крыніц, склалі 55 % іх агульнай сумы.

У аднаўленні эканомікі рэспублікі назіраюцца два этапы. *Першы этап – гэта 1943–1945 гг., завяршальны перыяд Вялікай Айчыннай вайны, калі яшчэ ішлі баі, але на вызваленай беларускай зямлі адраджалася жыццё.*

Па рашэнні СНК СССР, ЦК ВКП(б) рэспубліцы былі выдзелены сродкі (у 1944–1945 гг. каля 1,7 млрд р.), дзяржава дапамагала кадрамі, матэрыяльнымі рэсурсамі. З саюзных рэспублік ішлі эшалоны з абсталяваннем, інструментамі, машынамі, будаўнічымі матэрыяламі, сельскагаспадарчым інвентаром, насеннем, жывёлай, прадметамі хатняга ўжытку і г.д.

У сваю чаргу працоўныя Беларусі па магчымасці дапамагалі іншым рэспублікам. Напрыклад, крапежны лес пастаўляўся для аднаўлення вугальных шахт Данбаса і прадпрыемстваў горнай металургіі. Шматтысячны атрад моладзі накіравала рэспубліка на аднаўленне Данбаса і Сталінграда, адраджэнне Дняпроўскай электрастанцыі, металургічнага завода "Запарожац" і інш.

Усяго з пачатку вызвалення да канца 1944 г. было ўзнята з руін больш за 3 тыс. прадпрыемстваў, у ліку якіх былі і прадпрыемствы абарончага значэння. Ужо ў 1944 г. на шэрагу прадпрыемстваў былі наладжаны рамонт і зборка ваеннай тэхнікі. Асаблівая ўвага звярта-

лася на аднаўленне энергетычнай базы. Усе асноўныя электрастанцыі акупанты вывелі са строю. Таму па распараджэнні савецкага ўрада на Беларусь па меры вызвалення яе тэрыторыі прыбывалі энергапаязды, якія да ўводу ў эксплуатацыю электрастанцый забяспечвалі электраэнергіяй прадпрыемствы, гарады. Да канца 1944 г. удалося аднавіць Гомельскую, Мінскую, Бабруйскую і Навагрудскую электрастанцыі, а да канца 1945 г. былі адноўлены 46,4 % даваенных магутнасцей рэспублікі.

План аднаўленчых работ на 1944 г. беларускія чыгуначнікі выканалі на 112 %. Было пабудавана больш за 3 тыс. мастоў на шашэйных і грунтавых дарогах (у тым ліку праз Днепр, Бярэзіну, Сож, Нёман).

Становішча сельскай гаспадаркі рэспублікі было цяжкім. І хоць да вясны 1944 г. у вызваленых раёнах было адноўлена 2880 калгасаў з 3162, але гэта было толькі іх арганізацыйнае афармленне. Яскрава характарызаваў сітуацыю старшыня калгаса "Рассвет" Магілёўскай вобласці легендарны К.П.Арлоўскі: "У сваё роднае сяло Мышкавічы я прыбыў 25 чэрвеня 1944 г. Прыехаў у калгас "Рассвет", але ні калгаса, ні якога-небудзь "рассвета" я там не знайшоў, таму што фашысцкія вылюдкі ўсё апусташылі, усё спалілі".

Праграмай комплекснага аднаўлення разбураных акупантамі раёнаў сталі пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б) "Аб неадкладных мерах па аднаўленні гаспадаркі ў раёнах, вызваленых ад нямецкай акупацыі" (21 жніўня 1943 г.), "Аб аказанні дапамогі вызваленым раёнам Віцебскай, Магілёўскай, Гомельскай і Палескай абласцей Беларускай ССР па аднаўленні МТС і калгасаў" (27 снежня 1943 г.) і "Аб бліжэйшых задачах Саўнаркома БССР і ЦК КП(б) Беларусі" (1 студзеня 1944 г.).

У 1944–1945 гг. па распараджэнні СНК СССР у Беларусь было накіравана 2214 трактароў, 3323 грузавыя аўтамашыны, 224 камбайны, 2453 малацілкі, 1122 веялкі і сартыроўкі і г.д. У 1944 г. калгасам было перададзена 13 тыс. коней, 80 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы, 50 тыс. галоў свіней, 150 тыс. штук птушак, 350 тыс. штук яек для інкубатараў і г.д. Усяго за 1944–1945 гг. калгасы рэспублікі атрымалі 157 780 галоў буйной рагатай жывёлы. Калі ўлічыць, што ў калгасах БССР на канец 1945 г. было 233 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы, то становіцца відавочным значэнне гэтай меры.

У складаных умовах прайшлі пасяўныя кампаніі 1944 і 1945 гг. У 1944 г. звыш 1500 калгасаў не мелі насення пад пасеў яравых збожжавых культур. Саюзны ўрад па просьбе СНК БССР і ЦК КПБ(б) выдзеліў калгасам БССР 9 млн п. збожжа, 100 тыс. кг насення канюшыны, 30 тыс. кг цімафееўкі, 62 тыс. т пасяўнога насення лёну. Пад ураджай 1945 г. калгасы атрымалі пазыку насення: 15 тыс. т збожжа, 22 тыс. т бульбы. Пасяўныя работы праводзіліся практычна пры адсутнасці тэхнікі. Так, у 1945 г. калгаснікі ўзаралі ўручную амаль 160 тыс. га зямлі, і, нягледзячы на ўсе цяжкасці, дзяржаўны план





веснавой сяўбы рэспубліка выканала на 100 %. Ужо з ураджаю 1944 г. было здана дзяржаве 3 млн п. збожжа і 28 млн п. бульбы.

Вайна цяжка адбілася на арганізацыі калгаснага жыцця. Кадры кіраўнікоў калгасаў – старшынь, брыгадзіраў – сталі менш кваліфікаванымі, быў нізкі ўзровень адукацыі, іх колькасць паменшылася. Многія загінулі, іншыя перайшлі на працу, якая не была звязана з калгаснай вытворчасцю. У 1945 г. у калгасах рэспублікі налічвалася толькі 11 % колькасці даваенных старшынь. Некалькі палепшыла сітуацыю накіраванне спецыялістаў з іншых рэспублік – навукоўцаў, выкладчыкаў сельскагаспадарчых навучальных устаноў, аграномаў, заатэхнікаў, ветурачоў.

І тым не менш становішча ў сельскай гаспадарцы было складанае. У 1945 г. пасяўныя плошчы ва ўсіх катэгорыях гаспадарак складалі не больш за 74 % ад даваенных. Плошча тэхнічных культур была менш за адну трэць узроўню 1940 г. Ураджайнасць большасці культур не дасягнула даваеннай. Валавы збор збожжа быў на 30 % ніжэй за даваенны, бульбы было сабрана 5,4 млн т супраць 11,9 млн т у 1940 г., ільновалакна – 14,9 тыс. т – у 2,4 раза менш, чым у 1940 г.

У МТС трактароў было крыху больш за адну трэць, камбайнаў – за адну пятую, малацілак, плугоў – менш за адну трэць, культыватараў – у 9, а сеялак – у 17 разоў менш, чым да вайны.

Не было неабходнай кармавой базы для жывёлагадоўлі. І хаця Беларусь атрымала дапамогу з іншых рэспублік, гэта галіна сельскай гаспадаркі значна адставала ад даваеннага ўзроўню. На 1 студзеня 1946 г. буйной рагатай жывёлы было 56,5 %, свіней – 29,4, авечак і коз – 33,9 % да ўзроўню 1941 г. Натуральна, што і паказчыкі вытворчасці прадуктаў харчавання былі значна ніжэйшыя за даваенныя і не задавальнялі патрэбнасці насельніцтва нават у самым неабходным.

Вельмі складаным быў стан прамысловасці рэспублікі. Так, яе валавая прадукцыя ў 1945 г. у параўнанні з 1940 г. складала 20 %, прадукцыйнасць працы – 47 %. Прычым сітуацыя ў БССР была значна горшай, чым наогул па краіне. Аб гэтым сведчаць звесткі па некаторых відах прадукцыі, якія прыведзены ў табл. 1.

*Табліца 1*

**Аб'ём вытворчасці ў 1945 г. (у % да 1940 г.)**

| Вытворчасць | *СССР* | *БССР* |
|---|---|---|
| Агульны аб'ём прамысловай вытворчасці | 82 | 20 |
| У тым ліку: | | |
| Электраэнергія | 67 | 16 |
| Металарэжучыя станкі | 81 | 3 |
| Фанера | 59 | 5 |
| Абутак | 91 | 5 |



*Мінскі трактарны завод. Галоўны канвеер*

Такім чынам, на першым этапе аднаўленчай працы не было магчымасці вывесці эканоміку рэспублікі на даваенны ўзровень.

*Другі этап аднаўлення звязаны з рэалізацыяй чацвёртага пяцігадовага плана.* Яго асноўныя задачы былі выкладзены ў прынятым Вярхоўным Саветам БССР у верасні 1946 г. "Законе аб пяцігадовым плане аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі рэспублікі на 1946–1950 гг.". Ён з'явіўся часткай чацвёртага пяцігадовага плана развіцця СССР.

Аб'ём капіталаўкладанняў на пяцігодку вызначаўся ў суме 742 млн р., што перавышала памер капіталаўкладанняў па рэспубліцы за тры даваенныя пяцігодкі, разам узятыя. Гэта павінна было забяспечыць высокія тэмпы аднаўлення і развіцця ўсіх галін народнай гаспадаркі.

Характэрная рыса чацвёртай пяцігодкі ў галіне прамысловасці – не толькі аднаўленне разбуранага, развіццё старых галін, але – і гэта галоўнае – стварэнне новых працаёмкіх галін, што ў той час аргументавалася неабходнасцю выкарыстання працоўных рэсурсаў і патрэбнасцямі рэспублікі і краіны. Пасляваеннае развіццё вызначыла ў значнай ступені далейшую спецыялізацыю Беларусі ў грамадскім падзеле працы і яе ролю ў стварэнні адзінага народнагаспадарчага комплексу СССР.

Нягледзячы на негатыўную ацэнку каманднa-адміністрацыйных метадаў кіравання эканомікай, нельга не адзначыць відавочнае: дакладнае планаванне аднаўленчай працы, разумнае выкарыстанне







*Мінскі аўтамабільны завод. Галоўны канвеер*

фінансавых і матэрыяльных сродкаў. Так, Савет Міністраў БССР разгледзеў і зацвердзіў наступныя планы: развіцця сельскай гаспадаркі на 1947 г., аднаўлення і развіцця г.Мінска, электрыфікацыі БССР на 1948–1950 гг. і інш.

Шырокае ўкараненне новай, больш дасканалай тэхнікі, механізацыя працаёмкіх і цяжкіх работ, рост кваліфікацыі і творчай ініцыятывы працоўных забяспечылі значнае павелічэнне прадукцыйнасці працы. Да канца пасляваеннай пяцігодкі яна павялічылася ў параўнанні з даваенным узроўнем на 16 %.

Вялікую ролю ў мабілізацыі працоўных на ўздым эканомікі адыграла сацыялістычнае спаборніцтва. Рабочы клас Беларусі горача адгукнуўся на заклік ленінградцаў – выканаць пяцігодку за чатыры гады. Да пачатку 1949 г. 85 % рабочых, занятых у прамысловасці, на транспарце і ў будаўніцтве, удзельнічалі ў сацыялістычным спаборніцтве.

Галоўным напрамкам прамысловага развіцця пасляваеннай Беларусі з'явіўся паскораны рост машынабудавання, металаапрацоўкі, электраэнергетыкі, паліўнай прамысловасці, будаўнічых матэрыялаў. У машынабудаванні адраджаюцца старыя галіны і ствараецца шэраг новых: аўтамабільная, трактарная, дарожных машын і будаўнічых механізмаў. Аўтамабільны і трактарны заводы ў Мінску былі буйнейшымі навабудоўлямі Беларусі. У будаўніцтве гэтых гігантаў прымала ўдзел уся краіна. У 1950 г. яны ўступілі ў строй і выдалі першую прадукцыю.

Машынабудаванне і металаапрацоўка пераўтварыліся ў вядучую галіну эканомікі рэспублікі. Ужо ў 1950 г., апошнім годзе чацвёртай пяцігодкі, яе валавая прадукцыя перавысіла ўзровень 1940 г. у 2,4 раза. Упершыню былі асвоены выпуск аўтамабіляў, аўтапрычэпаў, трактароў, веласіпедаў, цэглавырабляючых прэсаў, ліцейнага абсталявання і шмат іншага.

Вялікія поспехі мелі месца ў стварэнні энергетычнай і паліўнай базы народнай гаспадаркі, былі адноўлены і пабудаваны БелДРЭС, электрастанцыі ў Гомелі, Маладзечне, Гродне, Бабруйску, Брэсце і іншых гарадах і раённых цэнтрах, падрыхтаваны да пуску першая чарга Смілавіцкай ДРЭС і Заводская ТЭЦ у Мінску. К 1950 г. выраб электраэнергіі па БССР перавысіў даваенны ўзровень на 47 %. Прычым 80 % электраэнергіі было выраблена на мясцовым тарфяным паліве, развіваліся і традыцыйныя галіны беларускай эканомікі. Так, за пяцігодку вытворчасць будаўнічых матэрыялаў павялічылася ў 10 разоў і значна перавысіла даваенны ўзровень. Напрыклад, па вытворчасці цэменту – у 1,7, цэглы – у 1,8 раза.

У ходзе аднаўлення і развіцця прамысловасці рэспубліка павінна была вырашыць задачу падрыхтоўкі кадраў для вытворчасці. У 1946–1950 гг. непасрэдна ў вытворчасці шляхам індывідуальнага, брыгаднага навучання, праз курсавую сетку атрымалі масавыя прафесіі 47 тыс. і павысілі кваліфікацыю ў вытворчасці, школах і на курсах 42,5 тыс. чалавек.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў БССР, па сутнасці, нанава сфарміраваўся рабочы клас. Ён складаўся і рос у працэсе аднаўлення прамысловасці і транспарту: за кошт дэмабілізаваных з арміі воінаў і партызан, дапамогі іншых рэспублік высокакваліфікаванымі рабочымі, а галоўным чынам за кошт сельскай моладзі, якая, як правіла, не мела неабходнай кваліфікацыі. Перш-наперш на яе былі разлічаны школы ФЗН і рамесныя вучылішчы.

Аднаўленне і развіццё цяжкай прамысловасці падрыхтавала базу для развіцця вытворчасці прадметаў спажывання. Выкананне гэтай задачы ўскладалася на прадпрыемствы лёгкай, харчовай, мясцовай прамысловасці, прамысловую кааперацыю. Да канца пяцігодкі на іх долю прыпадала больш за 70 % ад усёй вытворчасці тавараў народнага спажывання. Пры гэтым мясцовая прамысловасць у пасляваенныя гады адыграла асабліва важную ролю. Яна працавала на сваёй сыравіне і патрабавала менш сродкаў, чым буйныя фабрыкі і заводы.

Прадпрыемствы мясцовай прамысловасці хутка наладжвалі вытворчасць тавараў народнага спажывання: абутку, адзення, вырабаў са скуры, будаўнічых матэрыялаў і інш. За 1946–1950 гг. мясцовая прамысловасць і прамысловая кааперацыя асвоілі выпуск значнай колькасці новых відаў вырабаў, у тым ліку швейных машын, жалезнага і чыгуннага, эмаліраванага, фаянсавага посуду, бытавых электрапрыбораў, прымусаў, гумавага абутку, прадметаў хатняга ўжытку.







*Мінскі тонкасуконны камбінат. Агульны выгляд прадзільнага цэха. 1975 г.*

Тым самым змяншаўся востры дэфіцыт гэтых тавараў, рэгуляваліся працэсы занятасці рабочай сілы.

Далейшае развіццё атрымала лёгкая прамысловасць: былі пабудаваны Мінскі і Гродзенскі тонкасуконныя камбінаты па вырабу ў рэспубліцы тонкасуконных і шарсцяных тканін, дыванова-плюшавай прадукцыі. Былі рэканструяваны гарбарна-абутковыя прадпрыемствы, ільнозаводы, хутка развіваліся швейная, скураная і іншыя галіны лёгкай прамысловасці. Фактычна зноў была створана магутная на той час трыкатажная прамысловасць. У выніку больш, чым да вайны, пачало вырабляцца шарсцяных і льняных тканін, гумавага абутку.

Вялікая праца вялася ва ўсіх абласцях рэспублікі па аднаўленні харчовых, мяса-малочных і іншых прадпрыемстваў. Была створана нанава цукровая, макаронная, кансервавая прамысловасць. Разам з тым развіццё харчовай прамысловасці стрымлівалася абмежаванымі рэсурсамі сельскагаспадарчай сыравіны, няпоўным выкарыстаннем магчымасці па расшырэнні вытворчасці гародніны і садавіны.

Ва ўсіх галінах у значных маштабах рабілася тэхнічная рэканструкцыя, уводзілася больш дасканалае абсталяванне, выкарыстоўваліся новыя метады вытворчасці, механізацыя, электрыфікацыя і аўтаматызацыя вытворчых працэсаў. Але ў асноўным гэта адбывалася ў галінах цяжкай прамысловасці, у першую чаргу ў машынабудаванні.

Да канца пяцігодкі на аўтамабільным, трактарным, станкабудаўнічым і іншых заводах БССР былі арганізаваны паточныя лініі, абсталяваныя высокапрадукцыйнымі агрэгатамі і спецыяльнымі станкамі.

Укараняўся тэхнічны прагрэс і ў лёгкай, харчовай і іншых галінах. Напрыклад, у прамысловасці першаснай апрацоўкі лёну на тонкасуконным камбінаце ў Гродне было ўстаноўлена першакласнае абсталяванне, поўнасцю механізавана абутковая фабрыка ў Гродне.

Такім чынам, працэс аднаўлення прамысловасці ажыццяўляўся пераважна на новай тэхнічнай аснове. Пры гэтым ён ішоў адначасова з новым будаўніцтвам – узводзіліся карпусы аўтамабільнага, трак-

тарнага, мотавеласіпеднага, інструментальнага, падшыпнікавага, гіпсавага і іншых заводаў. Усяго за пяцігодку было адноўлена, пабудавана і ўведзена ў дзеянне каля 6 тыс. прадпрыемстваў, у тым ліку 180 буйных.

Прааналізаваць вынікі аднаўлення эканомікі Беларусі можна на аснове даных табл. 2.

*Табліца 2*

**Тэмпы росту валавой прадукцыі прамысловасці ў 1945–1950 гг. (у % да 1940 г.)**

| Прамысловасць і яе галіны | 1945 г. | 1950 г. |
|---|---|---|
| Паліўная | 19 | 91 |
| Вытворчасць электраэнергіі і цеплаэнергіі | 20 | 153 |
| Хімічная і гумава-азбеставая | 5 | 198 |
| Машынабудаванне і металаапрацоўка | 45 | 237 |
| Лясная, папяровая і дрэваапрацоўчая | 23 | 89 |
| Лёгкая | 10 | 74 |
| Харчовая | 19 | 85 |
| Усяго: | 20 | 115 |

Табліца дае дакладнае ўяўленне аб прыярытэтах эканомікі пасляваеннага перыяду. Пры гэтым нельга не заўважыць, што ў пасляваенныя гады ішоў працэс змянення структуры прамысловай вытворчасці. Падала ўдзельная вага галін, якія дамінавалі да вайны (лёгкай, харчовай, лясной і дрэваапрацоўчай), і павялічвалася доля электраэнергетыкі, машынабудавання і металаапрацоўкі.

У нашы дні неадназначна ацэньваецца стан і ўзровень эканомікі заходніх раёнаў Беларусі ў момант уваходжання іх у склад БССР. Аднак нельга адмаўляць, што аднаўленне і развіццё прамысловасці ішло тут хуткімі тэмпамі. Былі пабудаваны першая і другая чэргі завода халадзільнікаў і мэблевая фабрыка ў Брэсце, кансервавы завод у Кобрыне, Гродзенскі тонкасуконны камбінат, цукровы завод у Скідзелі, электрастанцыя ў Баранавічах і інш. Высокімі тэмпамі тут развівалася вытворчасць электраэнергіі, будматэрыялаў, аконнага шкла, абутку, швейных вырабаў. Аб'ём прамысловай прадукцыі ў заходніх абласцях рэспублікі ў 1950 г. перасягнуў даваенны ўзровень амаль удвая, а магутнасць электрастанцый – у 2,2 раза. Доля гэтага рэгіёна ў агульным аб'ёме прамысловай вытворчасці ўзрасла з 9 % у 1940 г. да 14,9 % у 1950 г. Брэст і Гродна паступова становяцца буйнымі прамысловымі цэнтрамі рэспублікі.





Характэрная асаблівасць чацвёртай пяцігодкі ў БССР – апераджальныя ў параўнанні з адпаведнымі паказчыкамі па СССР тэмпы індустрыяльнага развіцця.

Складаным было становішча ў сельскай гаспадарцы. Пасяўныя плошчы да пачатку пяцігодкі ў калгасах складалі толькі 59 % даваеннага ўзроўню, у саўгасах – 70 %. Былі прыняты меры па матэрыяльна-тэхнічным умацаванні сельскай гаспадаркі. За тры пасляваенныя гады калгасы БССР атрымалі 160 тыс. т харчовага збожжа і насення, 122 тыс. коней, 113 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы і інш. У 1948 г. Савет Міністраў СССР прыняў рашэнне аб мерах дапамогі сельскай гаспадарцы Беларусі, на падставе якога рэспубліка атрымала 3 тыс. трактароў, 200 збожжакамбайнаў, 2 тыс. трактарных плугоў, 1,2 тыс. трактарных збожжавых сеялак і іншую тэхніку.

У калгасах і саўгасах аднаўляліся пасяўныя плошчы, павялічваліся ўраджайнасць, пагалоўе жывёлы, паляпшалася арганізацыя працы. Сярэднегадавыя тэмпы прыросту вытворчасці збожжа ў чацвёртай пяцігодцы склалі 12 %, бульбы – 15, ільновалакна – 36, малака – 22 %.

Прымаліся і адміністрацыйныя меры. Найбольш значная з іх звязана з рэалізацыяй пастановы Савета Міністраў СССР і ЦК ВКП(б) ад 19 верасня 1946 г. "Аб мерах па ліквідацыі парушэнняў Статута сельскагаспадарчай арцелі ў калгасах". Калгасам было вернута звыш 200 тыс. га зямлі, а таксама жывёла, якая знаходзілася ў карыстанні грамадзян і ўстаноў. Разам з тым гэта пастанова адмоўна адбілася на развіцці прысядзібнай гаспадаркі, таму што ў ёй асуджалася практыка выдзялення сялянам зямельных надзелаў, агародаў для рабочых і служачых. Характэрна, што за парушэнне Статута сельгасарцелі былі прыцягнуты да крымінальнай адказнасці 420 партыйных, савецкіх, гаспадарчых работнікаў, старшынь калгасаў і калгаснікаў.

Пэўныя надзеі ўскладаліся на такую адміністрацыйную меру, як узбуйненне калгасаў. Яно пачалося ў 1950 г., і толькі за адзін гэты год было аб'яднана ў рэспубліцы 11 242 гаспадаркі ў 3852 буйныя калгасы. Сялянства псіхалагічна не было падрыхтавана да гэтай меры. Да таго ж узбуйненне калгасаў нічога не змяніла да лепшага ў арганізацыі вясковага жыцця і сельскагаспадарчай вытворчасці, у метадах кіравання, а таму наўрад ці аказала станоўчы ўплыў на развіццё сельскай гаспадаркі. У калгасаў адсутнічала гаспадарчая самастойнасць, па-ранейшаму сродкі накіроўваліся ў развіццё індустрыі ў асноўным за кошт сельскай гаспадаркі. І, як і раней, сяляне былі абмежаваны ў сацыяльных правах, амаль нічога не атрымлівалі за сваю працу.

Асноўны цяжар пасляваеннага аднаўлення вёскі вынеслі на сваіх плячах жанчыны, старыя і падлеткі. У 1947 г. працаздольнае насельніцтва вёскі складала 46 % (гэта людзі ад 12 да 60 гадоў, у тым ліку жанчыны ад 16 да 50 гадоў – 56 %, падлеткі ад 12 да 16 гадоў – 19 і мужчыны ад 16 да 60 гадоў – 25 %).

37. Зак. 5565

У пасляваенныя гады працягвалася калектывізацыя сельскай гаспадаркі ў заходніх раёнах Беларусі. Да 1945 г. там было 113 калгасаў, якія аб'ядноўвалі 2621 сялянскую гаспадарку. Сацыялістычны сектар складаў толькі 0,43 %. У адпаведнасці з рашэннем ЦК КП(б)Б і СНК БССР (лістапад 1944 г.) была праведзена аграрная рэформа, паводле якой устанаўлівалася абмежаваная норма землекарыстання на адзін сялянскі двор у памеры да 15 га. Лішкі забіраліся ў дзяржаўны фонд, з якога надзяляліся беззямельныя сяляне і батракі.

У 1949 г. пачалася масавая калектывізацыя. У выніку да канца 1950 г. 80,1 % сялянскіх двароў было аб'яднана ў калгасы. Не абышлося і без "ліквідацыі кулацтва як класа", хаця гэта палітыка не дэкларавалася. Тысячы сялянскіх сем'яў былі выселены за межы рэспублікі.

Нягледзячы на цяжкія ўмовы, сялянства рэспублікі змагло дасягнуць пэўных поспехаў. У канцы чацвёртай пяцігодкі агульная пасяўная плошча склала 91,4 % даваеннай, а пасевы збожжавых – 97,1 %. Многія калгасы і саўгасы не толькі дасягнулі, але і перавысілі даваенны ўзровень па колькасці пагалоўя жывёлы і прадукцыйнасці жывёлагадоўлі. Аднак большасць калгасаў былі нерэнтабельнымі і стратнымі.

Стан сельскай гаспадаркі Беларусі ў пасляваенныя гады характарызуюць даныя табл.3.

Хуткае аднаўленне і развіццё прамысловасці, некаторыя поспехі ў сельскагаспадарчай вытворчасці далі магчымасць некалькі палепшыць становішча насельніцтва, асабліва гараджан. Гэтаму спрыялі адмена

*Табліца 3*

**Асноўныя паказчыкі развіцця сельскай гаспадаркі ў 1940–1950 гг.**

| Паказчыкі | 1940 г. | 1945 г. | 1950 г. |
|---|---|---|---|
| Пасяўная плошча, тыс. га | 5212 | 3846 | 4913 |
| Валавы збор, тыс. т: | | | |
| збожжа | 2727 | 1703 | 2684 |
| бульба | 11 879 | 5429 | 9537 |
| ільнowалакно | 36,5 | 14,9 | 42,2 |
| Пагалоўе жывёлы, тыс. галоў: | | | |
| буйная рагатая жывёла | 2843 | 1608 | 2746 |
| свінні | 2520 | 742 | 1623 |
| авечкі і козы | 2578 | 876 | 1409 |
| коні | 1170 | 658 | 721 |
| Жывёлагадоўчая прадукцыя, тыс. т: | | | |
| [illegible] | 275 | 89 | 222 |
| малако | 2005 | 896 | 1643 |
| яйкі, млн шт. | 612 | 189 | 568 |





картачнай сістэмы ў снежні 1947 г., некаторае павелічэнне даходаў працаўнікоў. Ішло будаўніцтва жылля. За гады чацвёртай пяцігодкі ў гарадах і рабочых пасёлках рэспублікі былі ўведзены ў дзеянне 4,2 млн кв.м жылля, а ў сельскай мясцовасці – 290,3 тыс. дамоў. Але жылля вострa не хапала. Так, у Мінску грамадскі жыллёвы фонд у параўнанні з 1945 г. павялічыўся ў 2,6 раза і перавысіў узровень 1940 г. Аднак у сувязі з хуткім ростам насельніцтва сярэдняя забяспечанасць аднаго мінчаніна жылой плошчай у адносінах да 1940 г. значна паменшылася.

Аднаўлялася сістэма аховы здароўя. Паступова наладжвалася медыцынскае абслугоўванне насельніцтва. У першыя пасляваенныя гады былі ліквідаваны эпідэміі інфекцыйных захворванняў, праведзена масавае санітарнае абследаванне насельніцтва. Ужо да 1949 г. поўнасцю аднавілася сетка медыцынскіх устаноў, яны забяспечваліся неабходным медыцынскім абсталяваннем.

Неабходна адзначыць, што ў найбольш цяжкі час Беларусь атрымлівала пэўную дапамогу і з-за межаў СССР. Адміністрацыя дапамогі і аднаўлення Аб'яднаных Нацый (ЮНРРА), існаваўшая ў 1943–1947 гг. для дапамогі ахвярам вайны, выканала заяўку на пастаўку тавараў для Украіны і Беларусі, зацверджаную пастановай Дзяржаўнага Камітэта Абароны ад 2 верасня 1945 г. Беларусь атрымала тавараў на суму 61 млн амерыканскіх долараў. У пастаўкі ўваходзілі прадукты харчавання, насенне, сыравіна для мылаварэння, прамтавары, прамысловае і медыцынскае абсталяванне. Прычым харчовыя тавары склалі амаль палову беларускай праграмы ў вартасным выяўленні і 71 % яе танажу. Была атрымана некаторая дапамога ад міжнароднага Чырвонага Крыжа. Напрыклад, падарункі шведскага Чырвонага Крыжа ў верасні 1946 г. былі адрасаваны дзіцячым установам шэрага савецкіх гарадоў, у тым ліку і Мінска.

Савецкае кіраўніцтва па ідэалагічных меркаваннях не ўхваляла такую дапамогу і нават адмаўлялася ад яе, хаця ў СССР у некаторых рэгіёнах у 1946–1947 гг. быў голад.

Такім чынам, на далейшае развіццё рэспублікі моцны ўплыў аказалі перш за ўсё паскораныя тэмпы індустрыялізацыі, не толькі адраджэнне старых, але і стварэнне новых галін, якія ў будучым вызначылі асноўныя рысы эканомікі рэспублікі. Яны залажылі асновы для стварэння складанага народнагаспадарчага комплексу, забяспечылі дастаткова высокія тэмпы аднаўлення і развіцця прамысловасці ў заходніх абласцях Беларусі, паскорылі працэс фарміравання рабочага класа, прыток кадраў спецыялістаў з іншых рэгіёнаў краіны. Фарміравалася эканоміка, якая дазволіла БССР заняць значнае месца ў сістэме агульнасаюзнага падзелу працы.

Далейшае развіццё народнай гаспадаркі выклікала неабходнасць удасканалення сістэмы кіравання эканомікай рэспублікі. У 1946 г. Савет Народных Камісараў СССР быў пераўтвораны ў Савет Міністраў СССР, адпаведна Саўнаркомы саюзных і аўтаномных рэспублік пе-

раўтвораны ў Саветы Міністраў, наркаматы – у адпаведныя міністэрствы. Аднак у пасляваенныя гады ў асноўных рысах захоўвалася сістэма кіравання народнай гаспадаркай, якая склалася ў 30-я гады. Значна абмяжоўвалася кампетэнцыя саюзных рэспублік у гэтай сферы. Празмерная цэнтралізацыя, недастатковае развіццё таварна-грашовых і гаспадарчаразліковых зносін стрымлівалі рост эканомікі рэспублікі.

## § 2. Сацыяльна-эканамічнае развіццё Беларусі ў 50-я – першай палове 80-х гадоў

*Для сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі гэтага перыяду характэрны дзве асаблівасці: спробы рэфарміравання эканамічнай сістэмы краіны ў 50–60-я гады і паступовае запавольванне тэмпаў сацыяльна-эканамічнага развіцця ў 70–80-я гады.* Належыць падкрэсліць, што прамысловасць Беларусі ў пачатку 50-х гадоў дасягнула значных поспехаў. Было пабудавана каля 150 новых буйных прадпрыемстваў, у тым ліку мінскія падшыпнікавы і гадзіннікавы заводы, завод абагравальнага абсталявання, Аршанскі завод швейных машын, Віцебская шаўкаткацкая фабрыка, Мінскі камвольны камбінат. За пятую пяцігодку прадукцыя машынабудавання павялічылася ў 5,4 раза і склала амаль 1/4 усёй валавой прадукцыі прамысловасці. Вытворчасць электраэнергіі і цеплаэнергіі павялічылася амаль у 3 разы, выпуск хімічнай і гума-азбеставай прамысловасці – у 3,7 раза.

Навейшым тэхналагічным абсталяваннем, у тым ліку агрэгатнымі станкамі, шматшпіндэльнымі свідравальнымі галоўкамі і высокапрадукцыйнымі прыстасаваннямі, папоўніліся гіганты беларускай індустрыі – аўтамабільны, трактарны, матавеласіпедны, падшыпнікавы і іншыя заводы. Да сярэдзіны 50-х гадоў быў дасягнуты высокі ўзровень механізацыі торфаздабычы, што дало магчымасць здабываць торф фрэзерным спосабам. У прамысловасці будаўнічых матэрыялаў быў асвоены выраб сценавых блокаў, зборных жалезабетонных канструкцый і дэталяў, што з'явілася пачаткам пераводу будаўніцтва на індустрыяльны метад. Швейная вытворчасць поўнасцю перайшла на механічны прывод. Механічныя канвееры, паточныя метады ўкараняліся ў лёгкай і харчовай прамысловасці.

Была зроблена першая спроба рэфарміравання эканомікі ў краіне, пачатак якой паклалі пастановы КПСС і ўрада СССР, прынятыя ў 1953–1955 гг. Яны вызначылі пераход да пашырэння тэхнічнага прагрэсу ў вытворчасці. У гэтыя працэсы была ўключана і эканоміка Беларусі.

Прамысловае будаўніцтва ў 50-я гады вялося ва ўмовах паскоранай навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. На падставе пастановы ліпеньскага (1955) Пленума ЦК КПСС у рэспубліцы абнаўляліся і мадэрнізаваліся





*Размяшчэнне прамысловасці БССР*





*Беларускі аўтамабільны завод у Жодзіне. Галоўны канвеер. 1975 г.*

асноўныя вытворчыя фонды, удасканальвалася тэхнічнае аснашчэнне, старая тэхніка замянялася новай. За 1955–1958 гг. на прадпрыемствах рэспублікі было ўстаноўлена каля 200 паточных ліній, больш за 1000 адзінак новага і мадэрнізаванага абсталявання. Да 1961 г. было мадэрнізавана 3544 металарэзныя станкі і кузнечна-прэсавыя агрэгаты, устаноўлена звыш 500 аўтаматычных, паўаўтаматычных, механізаваных паточных канвеерных ліній, тысячы аўтаматаў і паўаўтаматаў.

У выніку ў 1960 г. агульны аб'ём прадукцыі прамысловасці БССР павялічыўся ў адносінах да 1940 г. у 4,2 раза, а машынабудавання і металаапрацоўкі – у 2,2 раза, настолькі ж хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці, электраэнергетыкі – у 10 разоў. Былі ўведзены ў строй новыя буйныя прадпрыемствы: Беларускі аўтазавод у Жодзіне, паліграфічны камбінат і завод аўтаматычных ліній у Мінску, Васілевіцкая ДРЭС, а ўсяго за 1956–1960 гг. – 157 буйных прадпрыемстваў. Удзельная вага прамысловасці ў валавым грамадскім прадукце рэспублікі ў 1960 г. дасягнула 52 % – у 4 разы больш, чым у даваенныя гады. Такім чынам, рэспубліка з аграрна-індустрыяльнай ператварылася ў індустрыяльную.

Быў узяты курс на актыўнае супрацоўніцтва навукі з вытворчасцю. Вучоныя АН БССР, ВНУ і іншых навукова-даследчых устаноў аказвалі прадпрыемствам канкрэтную дапамогу па пытаннях







*Мінскі завод аўтаматычных ліній імя П.М.Машэрава. Участак зборкі. 1983 г.*

укаранення навейшых дасягненняў навукі і тэхнікі. Напрыклад, супрацоўнікі фізіка-тэхнічнага інстытута АН БССР на аўтамабільным заводзе ўкаранялі новую тэхналогію і тэрмахімічны рэжым апрацоўкі дэталяў аўтамабіляў, якія толькі ў 1950–1954 гг. далі эканомію каля 10 млн р.

У сваім развіцці прамысловасць Беларусі абапіралася на індустрыяльную магутнасць усёй краіны. З Масквы, Ленінграда, прамысловых цэнтраў Паволжа, Урала рэспубліка атрымлівала розныя віды прамысловага абсталявання і машын, а таксама сталь, чыгун, вугаль, нафту, рэйкі, трубы, прадукцыю чорнай металургіі і шмат іншага.

Вялікую дапамогу кадрамі, асабліва для новых галін прамысловасці і буйных прадпрыемстваў Беларусі, аказвалі ўсе саюзныя рэспублікі. На будаўніцтва шахт у Салігорску прыехалі спецыялісты і рабочыя-шахцёры з Падмаскоўя, Урала, Данбаса, Казахстана, Сібіры. У разведцы і асваенні прамысловай здабычы нафты на беларускай зямлі вялікую падтрымку аказвалі спецыялісты – нафтавікі Башкірыі і Украіны. На новабудоўлях Наваполацка і Салігорска працавалі прадстаўнікі 20 нацыянальнасцей, Новалукомля – 16, Васілевіцкай ДРЭС – 12. Шматнацыянальны калектыў узводзіў аўтазавод у Жодзіне.

Паспяховае прамысловае будаўніцтва ў 50-я гады дазволіла асвоіць выпуск новых відаў прадукцыі. Мінскі аўтамабільны завод пачаў



*Бярозаўская ДРЭС*

выпуск 25-тонных самазвалаў МАЗ-525, 7-тонных аўтамабіляў МАЗ-200, лесавозаў МАЗ-501 і аўтапрычэпаў. У 1957 г. аўтазаводцы стварылі першы ўзор 40-тоннага самазвала, які на Сусветнай выставе ў Бруселі ў 1958 г. атрымаў вышэйшы прыз. На Магілёўскім металургічным заводзе імя А.Ф.Мяснікова ў 1957 г. быў выпушчаны першы беларускі прак. Новая прадукцыя з'явілася на многіх іншых прадпрыемствах.

Паколькі магчымасці экстэнсіўнага росту прамысловасці рэспублікі на аснове пераважнага паглыблення індустрыялізацыі да пачатку 60-х гадоў не былі вычарпаны, тэмпы яе развіцця на наступным этапе заставаліся дастаткова высокімі. У першай палове 60-х гадоў увайшлі ў строй 300 буйных прамысловых прадпрыемстваў, у тым ліку Светлагорскі баваўняны і Бабруйскі скураны камбінаты, Бярозаўская ДРЭС і інш.

У выніку капітальнага будаўніцтва і тэхнічнага пераўзбраення прамысловасці і транспарту адбыўся колькасны і якасны рост рабочага класа. У 1960 г. у параўнанні з 1950 г. колькасць рабочых і служачых у народнай гаспадарцы рэспублікі павялічылася амаль у 2 разы. Вырасла і канцэнтрацыя рабочай сілы на буйных прадпрыемствах, асабліва ў машынабудаўнічай, энергетычнай, хімічнай і некаторых іншых галінах. Хуткімі тэмпамі павялічвалася насельніцтва Мінска, Брэста, Гомеля, Баранавіч, Маладзечна, на карце рэспублікі з'явіліся новыя гарады – Наваполацк, Салігорск, Светлагорск.

Разам з тым жыццё патрабавала пераводу прамысловасці і іншых галін народнай гаспадаркі на новы тэхнічны ўзровень. Ва ўсіх галінах пераважным заставалася экстэнсіўнае развіццё. У асобных галінах былі заніжаны тэмпы тэхнічнага пераўзбраення, марудна асвойвалася новая тэхніка і перадавая тэхналогія. На шматлікіх прадпрыемствах вялікае месца займала ручная праца.

Больш выразна спробы рэфарміраваць кіраванне эканомікай праявіліся ў 50-я гады ў сельскай гаспадарцы. Тут сітуацыя заставалася складанай, таму што асноўныя сродкі і рэсурсы накіроўваліся на аднаўленне цяжкай прамысловасці, іншых галін народнай гаспадаркі. І зноў гэта рабілася ў значнай ступені за кошт працы людзей, у першую чаргу сялянства. У большасці калгасаў рэспублікі





выключна нізка аплачвалася праца калгаснікаў. На кожны працадзень (за год 150–200) яны атрымлівалі ад 50 да 100 г збожжа, у асобных калгасах выдавалася невялікая колькасць бульбы, часам корм для жывёлы. Галоўнай жыццёвай крыніцай з'яўляўся прысядзібны ўчастак (0,3–0,5 га). Акрамя высокіх абавязковых дзяржаўных паставак калгаснікі плацілі падаткі за пладовыя дрэвы, штогод выплачвалі прымусовую пазыку.

Сур'ёзныя недахопы меліся ў кіраўніцтве калгасамі і саўгасамі. Жнівеньская сесія (1953) Вярхоўнага Савета СССР і верасնёўскі (1953) Пленум ЦК КПСС прынялі рашэнні, накіраваныя на ўздым сельскай гаспадаркі. Упершыню былі вызначаны меры па эканамічным умацаванні сельскагаспадарчай вытворчасці, пашырэнні самастойнасці калгасаў і саўгасаў, матэрыяльнай зацікаўленасці сялян. У выніку значна ўзмацнілася матэрыяльна-тэхнічная база сельскай гаспадаркі, аб чым сведчыць табл. 1.

*Табліца 1*

**Наяўнасць сельскагаспадарчых машын у калгасах і саўгасах БССР**

| Від машын, тыс. | 1953 г. | 1958 г. |
|---|---|---|
| Трактары | 33,6 | 51,3 |
| Камбайны | 7,8 | 11,5 |
| Грузавыя аўтамабілі | 10,2 | 27 |

У канцы 1955 г. у БССР налічвалася 650 сельскіх электрастанцый, узраслі вытворчыя сілы сельскай гаспадаркі. Гэта дазволіла спыніць спад прадукцыйнасці працы і перайсці да паступовага нарошчвання аб'ёмаў вытворчасці. Некалькі павысілася ўраджайнасць сельскагаспадарчых культур. Высокія і ўстойлівыя ўраджаі атрымлівалі калгасы "Рассвет" Кіраўскага, імя М.Гастэлы Мінскага, "Камінтэрн" Магілёўскага, "Шлях да камунізму" і "Бальшавік" Сенненскага, "Перамога" Талачынскага раёнаў і інш. У 1955 г. у параўнанні з 1953 г. нарыхтоўкі мяса ў рэспубліцы павялічыліся на 50 тыс. т, малака – на 123 тыс. т, яек – на 41,3 млн шт.

Не засталася Беларуская ССР у баку ад асваення цалінных і абложных зямель, якое пачалося з 1954 г.: рэспубліка пастаўляла машыны, абсталяванне, будаўнічыя матэрыялы і г.д. Але галоўнае – на заклік пачаць асваенне цаліны адгукнуліся тысячы маладых людзей, якія справядліва лічылі, што дапамагаюць краіне вырашаць вельмі важную збожжавую праблему. Ужо ў 1954–1955 гг. на цаліну прыехалі 20,5 тыс. юнакоў і дзяўчат з Беларусі. Усяго ж за 1954–1960 гг. на ўборку цаліннага ўраджаю выехала 60 тыс. чалавек. Перасяленцы з Беларусі стварылі 24 саўгасы.

Значныя зрухі ў сельскай гаспадарцы адбыліся ў канцы 50-х гадоў. Да 1960 г. вытворчасць мяса і малака ў рэспубліцы ў параўнанні з 1953 г. павялічылася на 70 %, валавы збор збожжа – на 36 %. Але

39. Зак. 5565



*Вытворчае аб'яднанне "Беларуськалій". Агульны выгляд згушчальнікаў абагачальнай фабрыкі трэцяга рудаўпраўлення. 1975 г.*

гэты ўзровень быў ніжэй таго, які вызначаўся, і не забяспечваў патрэб рэспублікі.

Разам з тым з канца 50-х гадоў у практыцы кіравання сельскай гаспадаркай краіны ўсё больш пачалі браць верх адміністрацыйныя меры, да таго ж валявога, суб'ектыўнага характару, што адбівалася, хаця мягчэй, чым у краіне, на развіцці аграрнага сектара рэспублікі.

У 50-я гады ў краіне ўзнікла новая эканамічная сітуацыя. Сутнасць яе ў наступным: значна павялічыліся маштабы эканомікі, змянілася яе структура ў сувязі з навукова-тэхнічнай рэвалюцыяй, якая мела месца ва ўсім свеце, адбыліся пэўныя зрухі ў кадравым патэнцыяле (іх колькасці, расстаноўцы). Гэта прывяло да таго, што стары гаспадарчы механізм усё мацней стрымліваў тэхнічную пераўзброенасць, тэхнічны прагрэс. У выніку склалася сур'ёзная супярэчнасць між дасягнутым узроўнем развіцця вытворчасці і магчымасцямі НТР, з аднаго боку, і формамі і метадамі кіравання, старым гаспадарчым механізмам – з другога. Усё мацней выяўлялася празмерная цэнтралізацыя кіравання, камандна-адміністрацыйныя метады ахапілі ўсе звёны эканомікі, спрыялі бюракратызму, скоўвалі ініцыятыву мас. Усё гэта мела месца і ў БССР.

Акрамя таго, да гэтага часу шлях экстэнсіўнага развіцця нашай эканомікі вычарпаў у асноўным свае магчымасці, усё мацней нарастала неабходнасць інтэнсіфікацыі. Меры, прынятыя ў 50-я гады, не знялі гэтых супярэчнасцей.







*Гродзенскае вытворчае аб'яднанне "Азот". Адзін з участкаў. 1975 г.*

Не апраўдалі сябе і неабгрунтаваныя, неабдуманыя перабудовы ў кіраванні. У 1957 г. была ўведзена, па сутнасці, тэрытарыяльная сістэма кіравання эканомікай – саўнаргасы. У БССР, у прыватнасці, быў утвораны адзін эканамічны раён і ліквідаваны дзевяць міністэрстваў. Для кіравання саюзна-рэспубліканскай прамысловасцю і будаўніцтвам быў утвораны Савет народнай гаспадаркі БССР, падпарадкаваны Савету Міністраў рэспублікі.

Усё гэта рабілася, каб наблізіць кіраўніцтва да вытворчасці. На справе ж адбыўся разрыў гаспадарчых сувязей і адносін, а парадак планавання і матэрыяльнага стымулявання застаўся ранейшым.

У такіх умовах была зроблена другая спроба рэфарміравання кіравання эканомікай. У сакавіку 1965 г. на Пленуме ЦК КПСС было разгледжана пытанне "Аб неадкладных мерах па далейшым развіцці сельскай гаспадаркі СССР", у верасні – "Аб паляпшэнні кіравання прамысловасцю, удасканаленні планавання і ўзмацненні эканамічнага стымулявання прамысловай вытворчасці". Меры, якія ажыццяўляліся на аснове рашэнняў верасnёўскага (1965) Пленума ЦК КПСС, назвалі эканамічай рэформай. Яна забяспечыла несумненны прагрэс, таму што павялічыла значнасць дзяржразліковых стымулаў і некалькі пашырыла правы прадпрыемстваў, іх самастойнасць. Разам з тым прагрэс гэты быў абмежаваны, перш-наперш таму, што не змяняліся эканамічныя адносіны – удасканаленні ішлі галоўным чынам па лініі больш дакладнага складання планаў, больш дакладнай адзнакі іх выканання. Ужо гэтыя абставіны, не кажучы аб менш важных, пусцілі рэформу пад адхон.

Рэформа 1965 г. уключала пераход ад тэрытарыяльных прынцыпаў кіравання да галіновых. Замест ліквідаванага рэспубліканскага Саўнаргаса ў БССР быў створаны шэраг саюзна-рэспубліканскіх міністэрстваў (лёгкай, харчовай, мясной і малочнай, цэлюлозна-папяровай і дрэваапрацоўчай прамысловасці, прамысловасці будаўнічых матэрыялаў).



*Гомельскі хімічны завод. Агульны выгляд прадпрыемства. 1987 г.*

Перавод прадпрыемстваў на новыя ўмовы ў масавым парадку ажыццяўляўся ў другой палове 60-х гадоў. Спачатку дасягненні былі больш значнымі, чым у далейшым. Гэта тлумачыцца тым, што першыя поспехі былі дасягнуты ў асноўным за кошт выкарыстання павярхоўных рэзерваў – больш рацыянальнага спажывання рэсурсаў, памяншэння безгаспадарчасці, павелічэння ўзроўню адзінай тэхнічнай і арганізацыйнай палітыкі ў галінах народнай гаспадаркі.

Некатораму ўздыму сельскай гаспадаркі спрыяла правядзенне ў адпаведнасці з рашэннямі сакавіцкага (1965) Пленума ЦК КПСС такіх мер, як давядзенне цвёрдых планаў дзяржаўных закупак прадуктаў, павелічэння закупачных цэн на іх, спісанне запазычанасці з калгасаў, правядзенне меліярацыі зямлі за кошт дзяржавы, права калгасаў і саўгасаў ствараць падсобныя промыслы, устанаўленне гарантаванай аплаты працы калгаснікаў, увядзенне іх пенсійнага забеспячэння, удакладненне аплаты некаторых найбольш кваліфікаваных катэгорый работнікаў, умацаванне падсобных гаспадарак і інш.

Спробы выкарыстаць эканамічныя стымулы і павялічыць матэрыяльную зацікаўленасць працаўнікоў вёскі, пашырыць эканамічную самастойнасць калгасаў і саўгасаў мелі прагрэсіўны характар. Яны далі дастаткова высокія вынікі. Аб гэтым сведчаць звесткі аб выкананні восьмай пяцігодкі.







*Магілёўскае вытворчае аб'яднанне "Хімвалакно" імя У.І.Леніна. Агульны выгляд новай вытворчасці. 1982 г.*

У БССР рэформа прывяла да некаторага паляпшэння працы прамысловых прадпрыемстваў і ўсёй гаспадарчай дзейнасці. Аб'ём прадукцыі прамысловасці павялічыўся на 79 % замест 70 па плану. На 39 % павялічылася прадукцыйнасць працы. Было пабудавана звыш 50 буйных прадпрыемстваў.

Рост прамысловай вытворчасці суправаджаўся павелічэннем яго тэхнічнага ўзроўню – за пяць гадоў колькасць паточных і аўтаматычных ліній узрасла больш чым у 2 разы, значна павялічылася колькасць комплексна-механізаваных і аўтаматызаваных вытворчасцей.

Між тым рэформа як бы прыпынілася пасярэдзіне, на ўзроўні прадпрыемства: яна не дайшла да кожнага рабочага месца, не закранула верхні эшалон кіравання. Рэформа не суправаджалася рэфарміраваннем палітычнай сістэмы, дэмакратызацыяй, развіццём галоснасці. Гэта звузіла яе рамкі, намечаныя пераўтварэнні не сталі неабарачальнымі. Больш таго, з сярэдзіны 60-х гадоў працэс дэмакратызацыі грамадскага жыцця стаў паступова згортвацца, пачалі ўзмацняцца сілы бюракратычнага кансерватызму.

50–80-я гады з'яўляюцца часам станаўлення і развіцця хімічнай, горнахімічнай і нафтаперапрацоўчай прамысловасці ў Беларусі. На сыравіне Старобінскага радовішча калійных і каменнай солей у Салігорску працавалі Першы калійны камбінат (1-е рудаўпраўлен-

40. Зак. 5565



*Вытворчае аб'яднанне "Палімір" імя 50-годдзя БССР. Агульны выгляд устаноўкі нітрыла-акрылавай кіслаты. 1985 г.*

не), пабудаваны ў 1958–1964 гг., Другі калійны камбінат (2-е рудаўпраўленне), пабудаваны ў 1961–1967 гг. і Трэці калійны камбінат (3-е рудаўпраўленне), пабудаваны ў 1964–1970 гг. У склад кожнага рудаўпраўлення ўваходзілі руднік, сільвінітавая абагачальная фабрыка і цэх грануляцыі. У 1971 г. пачалося будаўніцтва Чацвёртага калійнага камбіната (4-га рудаўпраўлення). На базе дзеючых калійных камбінатаў у 1971 г. быў створаны адзіны Беларускі калійны камбінат імя 50-годдзя СССР (пазней вытворчае аб'яднанне "Беларуськалій").

У 1960 г. пачалося будаўніцтва Гродзенскага азотна-тукавага завода, які праз чатыры гады выдаў першую прадукцыю – грануляваную аміячную салетру. У 1970 г. на базе азотна-тукавага і капралактамавага заводаў быў створаны Гродзенскі хімічны камбінат імя С.В.Прытыцкага (пазней вытворчае аб'яднанне "Азот").

Да будаўніцтва Гомельскага хімічнага завода прыступілі ў 1963 г., а ў 1966 г. была ўжо ўведзена ў эксплуатацыю вытворчасць сернай кіслаты, у 1968 г. – двайнога грануляванага суперфасфату, у 1971 г. – канцэнтраваных складаных і змешаных тукаў.

У 1965 г. будаўнікі прыступілі да стварэння Магілёўскага камбіната сінтэтычнага валакна (пазней вытворчае аб'яднанне "Хімвалакно"). У 1968 г. было атрымана поліэфірнае валакно лаўсан, у 1970 г. уступіла ў строй першая чарга штапельнай вытворчасці, у 1971 г. – другая чарга вытворчасці комплексных нітак тэхнічнага прызначэння. Камбінат выпускаў таксама высокааб'ёмную пражу сярэдняй трываласці і ніткі сярэдняй трываласці тэкстыльнага прызначэння.

Горадам беларускіх хімікаў з'яўляецца Наваполацк. У 1964 г. тут пачалося будаўніцтва Полацкага хімічнага камбіната (пазней вытворчае аб'яднанне "Палімір"). 4 лютага 1968 г. быў атрыманы першы беларускі поліэтылен. У гэтым жа годзе камбінату нададзена імя 50-годдзя Беларускай ССР. У 1972 г. была пушчана 2-я чарга па вытворчасці нітрылу акрылавай кіслаты і на яго аснове пачаўся выраб нітрону. У 1974 г. была асвоена вытворчасць алефінаў – устаноўка ЭП-60 і ўстаноўка "Палімір-50" па вырабу поліэтылену.







*Полацкі нафтаперапрацоўчы завод. Адзін з участкаў. 1969 г.*

У 1958 г. у Наваполацку пачалося будаўніцтва Полацкага нафтаперапрацоўчага завода. У 1963 г. была выдадзена першая прадукцыя – бензін, дызельнае паліва, мазут, у 1965 г. быў прыняты комплекс установак па вырабу змазачных маслаў, у 1968 г. – комплекс параксілолу, у 1974 г. выведзены на рэжым устаноўкі сукцынімідных прысадак. Будаваліся ўстаноўкі сульфанатных прысадак і для атрымання псеўдакумолу. Завод даваў параксілол для вырабу лаўсану Магілёўскаму камбінату сінтэтычнага валакна, бензол для атрымання капралактаму Гродзенскаму хімічнаму камбінату, прамагонны бензін для атрымання поліэтылену Полацкаму хімічнаму камбінату.

1969–1975 гг. – тэрмін пабудовы Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода (яго сыравіна – беларуская нафта і з нафтаправода "Дружба"), у 1972 г. уступіў у строй Беларускі шынны камбінат у Бабруйску. Працавалі таксама Барысаўскі завод пластмасавых вырабаў, Полацкі завод шкловалакна, Лідскі лакафарбавы завод, Брэсцкі завод бытавой хіміі і іншыя прадпрыемствы.

50–80-я гады – час бурнага развіцця радыётэхнічнай і радыёэлектроннай прамысловасці, прадпрыемстваў абароннага комплексу. У 1957 г. на базе першынца радыётэхнічнай прамысловасці Беларусі – Мінскага радыёзавода (у лістападзе 1940 г. выпусціў першыя радыёпрыёмнікі і рэпрадуктары) быў створаны прыборабудаўнічы завод імя У.І.Леніна (з 1972 г. базавае прадпрыемства Мінскага вытворчага аб'яднання



*Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод. Агульны выгляд. 1974 г.*

імя У.І.Леніна). У аб'яднанні выпускаліся такія групы прыбораў, як мульціметры, нанавальтметры, калібратары пераменных напружанняў, электраметры і электраметрычныя ўзмацняльнікі, асцылографы, вальтметры пераменнага напружання, вымяральныя прыёмнікі і антэны, а таксама спецыяльная дазіметрычная апаратура. Для вырабу прыбораў на новай элементнай базе быў створаны вытворча-тэхнічны комплекс мікраэлектронікі.

У 1950 г. у Мінску пачалося будаўніцтва новага радыёзавода, які праз год выдаў першую прадукцыю – радыёлу "Мінск-Р-7", а ў далейшым асвоіў вытворчасць чорна-белых і каляровых тэлевізараў, розных тыпаў радыёпрыёмнікаў і радыёл. У 1968 г. Мінскаму радыёзаводу (пазней вытворчае аб'яднанне "Гарызонт") было прысвоена імя 50-годдзя Кампартыі Беларусі.

Першынцам аптычнага прыборабудавання ў Беларусі з'яўляецца Мінскі механічны завод імя С.І.Вавілава, першы камень у падмурак якога быў пакладзены ў 1957 г. У 1974 г. ствараецца Беларускае оптыка-механічнае аб'яднанне (БелОМА), у склад якога ўваходзілі акрамя базавага прадпрыемства – Мінскага механічнага завода імя С.І.Вавілава – заводы ў Вілейцы, Рагачове і Жлобіне – "Зеніт", "Дыяпраектар", "Свет", а таксама навукова-інжынерны цэнтр, цэнтральная выпрабавальная станцыя і комплекс навукова-даследчых лабараторый. Аб'яднанне выпускала навукаёмістую прадукцыю – касмічную







*Мінскае вытворчае аб'яднанне імя У.І.Леніна. 1979 г.*

і авіяцыйную тапаграфічную і спектразанальную фотаздымачную апаратуру, фотаграмметрычныя комплексы, прыборы навядзення па лазернаму полю, тэлескапічныя прыборы назірання, гірастабілізаваныя прыцэлы для бранятанкавай тэхнікі, прыцэлы для стралковага ўзбраення, прыборы начнога бачання (з інфрачырвонай ці лазернай падсветкай), біноклі з гірастабілізацыяй поля бачання, іншыя прыборы і апараты для касмічнай і абароннай тэхнікі.

Буйнейшым прадпрыемствам Усходняй Еўропы па вытворчасці электронных кампанентаў з'яўлялася навукова-вытворчае аб'яднанне "Інтэграл". У яго склад уваходзілі 6 заводаў (паўправадніковых прыбораў імя Ф.Э.Дзяржынскага, "Транзістар", "Электроніка", электроннага машынабудавання ў Мінску, "Цветатрон" у Брэсце і "Камертон" у Пінску) і 3 спецыялізаваныя канструктарскія бюро. Аб'яднанне выпускала больш за 1500 тыпаў інтэгральных схем, 500 – паўправадніковых прыбораў, 40 – вадкакрышталічных індыкатараў і панеляў, 60 найменаванняў спецыяльнага тэхналагічнага абсталявання. Вырабы аб'яднання знаходзілі прымяненне ў вылічальнай тэхніцы, авіяцыйна-касмічнай і абароннай прамысловасці, сістэмах інфарматыкі, тэле-, радыётэхніцы, кіна-, фотатэхніцы, медыцыне і іншых галінах.

У Мінску ў 1959 г. быў здадзены ў эксплуатацыю вытворчы корпус і выпушчаны першыя электронна-вылічальныя машыны, а праз год пачаўся серыйны выпуск ЭВМ серыі "Мінск" першага пакалення. На базе завода электронна-вылічальных машын і завода па вытворчасці



*Мінскае вытворчае аб'яднанне "Гарызонт". Канвеер зборкі тэлевізараў. 1975 г.*

пячатных плат, які яшчэ будаваўся, у 1974 г. было створана Мінскае вытворчае аб'яднанне вылічальнай тэхнікі. За актыўнае міжнароднае супрацоўніцтва ў галіне вытворчасці сродкаў вылічальнай тэхнікі ў 1980 г. аб'яднанню была прысуджана прэмія "Залаты Меркурый".

У склад ваенна-прамысловага комплексу СССР уваходзілі таксама вытворчыя аб'яднанні "Агат", "Дыямант", КБ "Прамень", мінскія электрамеханічны завод і завод цягачоў і многія іншыя прадпрыемствы Беларусі (усяго каля 120).

У гады восьмай (1966–1970), дзевятай (1971–1975) і дзесятай (1976–1980) пяцігодак былі пабудаваны новыя прадпрыемствы іншых галін прамысловасці. Гэта Брэсцкі электралямпавы завод (1966), Гродзенская бавоўнапрадзільная фабрыка (1967), гомельскі чыгуналіцейны завод "Цэнтраліт" (1968), Салігорская фабрыка бялізнавага трыкатажу (1969), Лукомльская ДРЭС (1969), Магілёўскі ліфтабудаўнічы завод (1970), Маладзечанскі завод сілавых паўправадніковых вентыляў (1972), Магілёўскі камбінат шаўковых тканін (1973), Баранавіцкі завод аўтаматычных ліній (1974), Лунінецкі завод электрарухавікоў для сельскай гаспадаркі (1975) і інш. У 1976–1980 гг. былі ўведзены ў дзеянне Пінскі завод кузнечна-прэсавых аўтаматычных ліній, Брэсцкі завод прэцызійных вузлоў для тэкстыльнага абсталявання, Гродзенскі завод сінтэтычных валокнаў. Пачалі працаваць завод ліцейнага абсталявання







*Беларускае оптыка-механічнае аб'яднанне. Мінскі механічны завод імя С.І.Вавілава*

ў Пінску, камбінат нярудных матэрыялаў "Мікашэвічы", а таксама заводы сельскагаспадарчага машынабудавання ў Бабруйску і Лідзе.

Многія прадпрыемствы рэспублікі пераходзілі на выпуск новай прадукцыі. У 1964–1970 гг. на Магілёўскім аўтамабільным заводзе імя С.М.Кірава (МаАЗ) на базе аднавосевага цягача і скрэпера да яго была распрацавана сям'я колавых землярыйна-транспартных і транспартных машын, а таксама двухвосевы цягач з усімі вядучымі коламі і камплектам навяснога абсталявання (па. рузчык, бульдозер, снегаачышчальнік). У 1971 г. упершыню ў СССР пачалася серыйная вытворчасць самазвальнага аўтапоезда для падземных работ, аснашчанага нейтралізатарам выхлапных газаў. Выпускаліся таксама самаходныя скрэперы і аўтасамазвалы павышанай праходнасці. Магілёўскі завод "Строммашына" імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка выпускаў тэхналагічнае абсталяванне для вытворчасці шыферу, азбестацэментавых труб, мяккіх дахавых матэрыялаў і цэглы, машыны для электракерамічных вырабаў і азбеставай прамысловасці, а таксама пасажырскія ліфты.

Паляпшалі якасць прадукцыі старэйшыя станкабудаўнічыя заводы Беларусі. Віцебскі завод імя С.М.Кірава выпускаў бясцэнтравашліфавальныя станкі высокай і асабліва высокай дакладнасці, шараапрацоўчыя, спецыяльныя, суперфінішныя і прэцызійныя (апошнія адпавядалі сусветным тэхнічным стандартам). На выпуску высокадакладных зубаапрацоўчых станкоў з 1967 г. спецыялізаваўся Віцебскі станкабудаўнічы



*Мінскае вытворчае аб'яднанне вылічальнай тэхнікі. Завод электронных вылічальных машын імя Г.К.Арджанікідзе*

завод імя Камінтэрна. Асноўнай прадукцыяй Віцебскага завода заточных станкоў імя XXII з'езда КПСС з'яўляліся заточныя станкі высокай і асабліва высокай дакладнасці з паўаўтаматычным цыклам работ.

Гомельскі станкабудаўнічы завод імя С.М.Кірава за 1945–1969 гг. асвоіў 28 мадэляў серыйных і больш за 90 мадэляў спецыяльных металарэзных станкоў, у іх ліку фрэзерна-адразныя паўаўтаматы і аўтаматы. Станкі з высокай ступенню дакладнасці выпускалі мінскія станкабудаўнічыя заводы імя Кастрычніцкай рэвалюцыі і імя С.М.Кірава.

У мэтах максімальнага развіцця энтузіязму працоўных выкарыстоўваліся сацыялістычнае спаборніцтва, розныя працоўныя пачыны. І хоць па афіцыйных звестках колькасць удзельнікаў спаборніцтва пастаянна расла (напрыклад, у 1979 г. у рэспубліцы ў асабістых і калектыўных формах спаборніцтва прымалі ўдзел каля 4 млн чалавек, ці 93 % агульнай колькасці працоўных, а больш за 2,3 млн чалавек былі ўдзельнікамі руху за камуністычныя адносіны да працы), яно ўсё больш і больш вызначалася фармалізмам, а часта наогул вялося на паперы. Некаторыя "пачыны" ствараліся штучна і хутка паміралі.







*Віцебскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга завод заточных станкоў імя XXII з'езда КПСС. Механічны цэх. 1976 г.*

Неабходна сказаць, што сярод удзельнікаў спаборніцтва было шмат сапраўдных працаўнікоў – майстроў сваёй справы, якія добрасумленнай і творчай працай стваралі грамадскае багацце. У свой час былі добра вядомы імёны рабочых машынабудаўнічых прадпрыемстваў А.Віташкевіча, Ф.Алексяевіча, У.Прыходчанкі, ткачыхі Мінскага тонкасуконнага камбіната А.Лазарэнкі (60-я гады), ткачыхі Аршанскага льнокамбіната В.Федуковіч, слесара ВА "Інтэграл" А.Камаша, сталявара МТЗ Г.Шышко, снавальніцы Магілёўскага ВА "Хімвалакно" В.Харкевіч, аператара Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода Л.Сцяпанава (70-я гады) і шмат іншых.

Нягледзячы на высокія паказчыкі росту прамысловай вытворчасці, з першай паловы 70-х гадоў паралельна існавалі і ўзмацняліся негатыўныя з'явы – адставанне тэмпаў паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу і ўкаранення ў вытворчасці дасягненняў навукі і тэхнікі. І хаця галоўная ўвага ўдзялялася таму, каб забяспечыць паскораны рост найбольш прагрэсіўных галін, асабліва радыётэхнічнай, электроннай, станкабудаўнічай, у поўнай меры навукова-тэхнічны прагрэс закрануў толькі асобныя галіны вытворчасці, перш-наперш тыя, што былі звязаны з патрэбамі абароны. Павялічвалася спажыванне сыравіны і паліва. Зніжаўся рост прадукцыйнасці працы, захоўва-



*Аршанскі льнокамбінат. Прадзільная вытворчасць трэцяй чаргі. 1973 г.*

лася высокая доля ручной працы, узмацнялася незбалансаванасць у планаванні. У выніку штогод у рэспубліцы 10–15 % прамысловых прадпрыемстваў не выконвалі планаў па вырабу прадукцыі і росту прадукцыйнасці працы.

Павелічэнне дзяржаўных асігнаванняў на патрэбы сельскай гаспадаркі, а таксама выкарыстанне ўласных сродкаў дазволілі калгасам і саўгасам ажыццявіць шырокую праграму будаўніцтва вытворчых памяшканняў, малочнатаварных ферм, жывёлагадоўчых комплексаў. У 70–80-я гады буйныя комплексы па вытворчасці мяса і малака дзейнічалі ў калгасах імя С.М.Кірава і імя Чырвонай Арміі Віцебскага, "Рассвет" Кіраўскага раёнаў, у саўгасах "Днепр" Аршанскага, "Парахонскі" Пінскага, "Новае Палессе" Салігорскага раёнаў і многіх іншых гаспадарках рэспублікі. Па сучасных праектах забудоўваліся вёскі і мястэчкі, ствараліся будынкі новых школ, бальніц, культурна-асветных устаноў.

У 60–80-я гады ў рэспубліцы разгарнуліся шырокія меліярацыйныя работы. У 1985 г. плошча меліяраваных зямель (пераважна на Палессі) была даведзена да 2,8 млн га. Яны давалі амаль 1/3 усёй прадукцыі раслінаводства і 40 % кармоў. Многія гаспадаркі на меліяраваных землях атрымлівалі высокія ўраджаі: калгасы "Аснежыцкі" Пінскага, "40 гадоў Кастрычніка" Столінскага, "Прагрэс" Гродзенскага раёнаў і інш.

Аднак меліярацыя стварыла і вялікія праблемы. Праведзеная без глыбокай навуковай распрацоўкі, без уліку яе магчымых вынікаў, яна прывяла да таго, што на Палессі (і не толькі там) амаль не засталося рэк і вадаёмаў у натуральным стане, з'явілася праблема малых і сярэдніх рэк Беларускага прыазер'я, забруджання вадаёмаў нітратамі і ядахімікатамі. Да таго ж меліяраваныя землі ўвесь час патрабуюць асобнай агратэхнікі.

У маштабах СССР развіццё сельскай гаспадаркі Беларусі выглядала нядрэнна: пры 1,7 % агульнай па СССР плошчы сельскагаспадарчых угоддзяў і 2,7 % ворнай зямлі ў рэспубліцы ў першай







*Жывёлагадоўчыя фермы калгаса імя С.М.Кірава Віцебскага раёна. 1974 г.*

палове 80-х гадоў выраблялася 5,7–5,8 % аб'ёму мяса, 15–16 % бульбы, 1/4 льнопрадукцыі ад аб'ёмаў іх вытворчасці ў СССР. Доля паставак у агульнасаюзны фонд мяса складала 12, малака – 14 %.

У 60–80-я гады адбыліся істотныя змены ў сацыяльнай сферы. Рэальныя даходы насельніцтва ў 1970 г. у параўнанні з 1960 г. павялічыліся ў 1,8 раза. У 70-я гады былі ўстаноўлены новыя стаўкі і аклады: заработная плата рабочых і служачых павысілася на 63 %. За 1960–1985 гг. сярэднямесячная зарплата ў прамысловасці ўзрасла з 63 р. да 173 р., аплата калгаснікаў – больш чым у 2,7 раза і склала 154 р. Неаднаразова павялічваліся пенсіі рабочых і служачых, а ў 1964 г. яны былі ўведзены і для калгаснікаў. Раслі памеры пенсій інвалідам працы, пашыраліся льготы інвалідам Вялікай Айчыннай вайны.

Аднак нельга не адзначыць і негатыўныя з'явы. Упарадкаванне аплаты працы слаба ўвязвалася з яе вынікамі і якасцю, не ў поўнай меры аплачвалася праца высокакваліфікаваных кадраў. Асартымент і якасць многіх тавараў і паслуг не здавальнялі спажыўцоў, да таго ж прамысловасць недастаткова забяспечвала насельніцтва таварамі, многія з якіх станавіліся дэфіцытам.

Вялікая роля ў сацыяльнай палітыцы адводзілася грамадскім фондам спажывання. За 1960–1985 гг. затраты на сацыяльнае забеспячэнне і сацыяльнае страхаванне выраслі ў 8 разоў, на адукацыю і культуру – у 5, на медыцынскае абслугоўванне і фізічную культуру – у




*Жывёлагадоўчы комплекс саўгаса "Днепр" Аршанскага раёна. 1976 г.*

4 разы. У сярэдзіне 80-х гадоў грамадскія фонды спажывання склалі каля 5 млрд р.

Сур'ёзныя змены адбыліся ў сферы бытавога абслугоўвання насельніцтва. З 60-х гадоў яна стала разглядацца як важнейшы напрамак у сацыяльнай палітыцы. Колькасць прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання ўзрасла амаль у 2 разы, камбінаты бытавога абслугоўвання былі створаны ва ўсіх раённых цэнтрах.

Шырока вялося жыллёвае будаўніцтва – яно фактычна прайшло дзве стадыі развіцця. На першай стадыі (40–50-я гады) пры выдзяленні жылля грамадзянам у адпаведных нарматыўных актах адсутнічалі патрабаванні добраўпарадкаванасці жылых дамоў. На наступнай стадыі (з 60-х гадоў) сітуацыя змянілася ў бок паступовага паляпшэння якасці жылля. Пачалі ўкараняцца прамысловыя метады будаўніцтва, што дазволіла значна палепшыць жыллёвыя ўмовы людзей. Так, за 1956–1965 гг. у рэспубліцы было пабудавана 29,1 млн кв.м жылля – новыя кватэры атрымалі 3,1 млн чалавек, ці больш за 36 % насельніцтва (выключаючы тых, хто палепшыў жыллёвыя ўмовы). Людзі сяліліся з баракаў, камуналак у асобныя, дастаткова добраўпарадкаваныя кватэры.

У наступныя гады якасць жылля паляпшалася, расла і яго колькасць. У восьмай пяцігодцы палепшылі жыллёвыя ўмовы 1977 тыс. чалавек, дзявятай – 2088 тыс., дзесятай – 1886 тыс., адзінаццатай – 2027 тыс. Аднак жыллёвая праблема яшчэ заставалася.





*Спецыялізацыя сельскай гаспадаркі БССР*




УМОЎНЫЯ ЗНАКІ

Малочна-мяса-льнаводчая

Мяса-малочна-буракаводчая

Малочна-агародніна-бульбаводчая са значным развіццём птушкагадоўлі

Малочна-мясной жывёлагадоўлі і свінагадоўлі са значным развіццём льнаводства

Мяса-малочная з развітымі пасевамі тэхнічных культур



*Мінскі метрапалітэн. Ад перона станцыі "Плошча У.І.Леніна" адпраўляецца першы падземны экспрэс. 29 чэрвеня 1984 г.*

Істотным пазітыўным фактарам у рэспубліцы з'явіўся рост насельніцтва. За два дзесяцігоддзі (60–70-я гг.) колькасць насельніцтва БССР павялічылася на 1,4 млн чалавек. Да 1974 г. быў дасягнуты даваенны ўзровень насельніцтва – звыш 9 млн чалавек. У сярэдзіне 80-х гадоў насельніцтва Беларусі перавысіла 10 млн чалавек.

У выніку росту гарадоў значна змяніліся суадносіны гарадскога і сельскага насельніцтва, удзельная вага гарадскіх жыхароў у рэспубліцы з 1961 па 1981 г. павялічылася з 33 да 57 %, а сельскіх – паменшылася з 67 да 43 %.

Развіццё эканомікі Беларусі як састаўной часткі гаспадарчага арганізма СССР вызначалася адзінымі народнагаспадарчымі планамі краіны, выкарыстаннем тэрытарыяльнага падзелу працы. Гэта дазволіла аб'яднаць матэрыяльныя рэсурсы і магчымасці народа Беларусі і народаў іншых саюзных рэспублік, забяспечыць рашэнне буйнамаштабных задач гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

Беларусь пастаўляла ў саюзныя рэспублікі магутныя аўтасамазвалы, трактары, ЭВМ, тэлевізары, металарэзныя станкі, магутныя трансфарматары, мінеральныя ўгнаенні, хімічныя валокны, падшыпнікі (цікава, што ў рэспубліцы выраблялася 1/2 агульнасаюзнага аб'ёму калійных угнаенняў, 1/6 трактароў, 1/7 металарэзных





станкоў). Адпаведна сыравіна і камплектуючыя дэталі паступалі ў БССР з усіх рэгіёнаў СССР, што сведчыла аб высокай ступені інтэграванасці эканомікі Беларусі ў эканоміку СССР. Пасля развалу СССР і атрымання рэспублікай суверэнітэту гэтыя фактары адмоўна адбіліся на становішчы яе эканомікі.

У 1981–1985 гг. па-ранейшаму ў вялікіх аб'ёмах вялося капітальнае будаўніцтва – за пяць гадоў былі пабудаваны 37 буйных заводаў: Беларускі металургічны ў Жлобіне (узнікла новая галіна прамысловай вытворчасці – чорная металургія), кавальскі цяжкіх штамповак у Жодзіне, ліцця і нармалей у Гомелі, па вырабу тэхналагічнага абсталявання ў Гродне, па вытворчасці вырабаў з металічных парашкоў у Маладзечне, па вырабу солі і кармавых дражджэй у Мазыры, былі ўведзены ў строй новыя магутнасці на шэрагу дзеючых прадпрыемстваў.

Беларусь мела магутную прамысловасць будаўнічых матэрыялаў, лёгкую і харчовую прамысловасць. Шырокую вядомасць у рэспубліцы і за яе межамі набыла прадукцыя Брэсцкага і Віцебскага дывановых камбінатаў, мінскіх камвольнага і тонкасуконнага камбінатаў, Гродзенскага тонкасуконнага і Баранавіцкага баваўнянага камбінатаў, Пінскага камбіната верхняга трыкатажу і Брэсцкага панчошнага камбіната, Гомельскай і Віцебскай панчошна-трыкатажных фабрык, швейных і абутковых прадпрыемстваў Мінска, Віцебска, Гомеля, Магілёва, Бабруйска, Гродна, Ліды, Кобрына, Навагрудка і іншых гарадоў Беларусі.

У 1984 г. увайшла ў строй першая чарга Мінскага метрапалітэна. Было скончана будаўніцтва 87-кіламетровай веткі газаправода Кобрын–Брэст–Варшава. Будаваліся лініі электраперадач, нарошчваліся магутнасці па вырабу тавараў народнага спажывання.

*Табліца 2*

**Асноўныя паказчыкі эканамічнага развіцця БССР (у % да 1960 г.)**

| Паказчыкі | 1970 г. | 1975 г. | 1986 г. |
|---|---|---|---|
| Валавы грамадскі прадукт | 229 | 341 | 445 |
| Нацыянальны даход | 219 | 326 | 418 |
| Прадукцыя прамысловасці | 295 | 483 | 685 |
| Прадукцыя сельскай гаспадаркі | 140 | 156 | 149 |
| Прадукцыйнасць працы | 209 | 298 | 365 |

Працягваўся працэс канцэнтрацыі вытворчасці, паглыблялася яго спецыялізацыя ў сістэме агульнасаюзнага падзелу працы. Асноўную долю прадукцыі выраблялі буйныя прадпрыемствы, пабудаваныя ў пасляваенныя гады.

Агульная лінія ў дзяржаўным кіраванні эканомікай БССР, як і Саюза ССР, заключалася ў шырокім выкарыстанні адміністрацыйных

метадаў, якія спалучаліся з пашырэннем у цэнтралізаваным парадку матэрыяльнага, асабліва індывідуальнага, стымулявання працаўнікоў. Зразумела, гэтыя меры далі некаторае частковае паляпшэнне становішча эканомікі. Так, сумесная праца рабочых, калгаснікаў і інтэлігенцыі Беларусі дазволіла пераадолець адставанне сярэднегадавых тэмпаў развіцця эканомікі ад планавых заданняў на 1981–1985 гг., якое склалася ў першыя два гады пяцігодкі. Валавы грамадскі прадукт за 1984–1985 гг. павялічыўся на 26,5 %, нацыянальны даход – на 32,5, прадукцыйнасць працы – на 30 %. Пры гэтым аб'ём прамысловай вытворчасці ўзрос на 29,6 %. Некалькі павялічыўся і аграрна-прамысловы комплекс рэспублікі.

Вынікам развіцця эканомікі БССР да сярэдзіны 80-х гадоў з'явілася стварэнне буйнога тэрытарыяльна-галіновага прамысловага комплексу, у якім у 1986 г. налічвалася 1490 прадпрыемстваў, больш паловы з якіх уваходзілі ў склад вытворчых і навукова-вытворчых аб'яднанняў. Індустрыяльны абрыс рэспублікі пачалі вызначаць энергетыка, машынабудаванне і прыборабудаванне, хімія і нафтахімія, электроніка і радыёэлектроніка, вытворчасць мінеральных угнаенняў, сінтэтычных валокнаў і іншыя галіны.

Такім чынам, увесь пасляваенны перыяд, у тым ліку і ў 70-я – першай палове 80-х гадоў, у рэспубліцы вялося інтэнсіўнае капітальнае будаўніцтва, нарошчваліся вытворчыя магутнасці, прамысловасць і сельская гаспадарка ў асноўным працавалі з нядрэннымі вынікамі (асабліва ў параўнанні з агульнасаюзнымі).

Аднак нельга не лічыцца з тым фактам, што ў эканамічным развіцці краіны і нашай рэспублікі ў першай палове 80-х гадоў сталі відавочнымі негатыўныя з'явы. Гэта перш-наперш зніжэнне тэмпаў эканамічнага росту. Не ўдалося забяспечыць у поўнай меры выхад народнай гаспадаркі БССР, як і СССР у цэлым, на якасна новы навукова-тэхнічны і арганізацыйна-эканамічны ўзровень. Рэспубліка не дабілася рашучага зруху ў інтэнсіфікацыі вытворчасці. За кошт навукова-тэхнічных мерапрыемстваў забяспечвалася толькі 50 % прыросту прадукцыйнасці працы. Не адбылося значнага паляпшэння якасці прадукцыі. Сродкі, укладзеныя ў развіццё эканомікі (асабліва сельскай гаспадаркі), часта давалі нізкую аддачу. У выніку гэтага недастаткова рашаліся сацыяльныя задачы, дабрабыт людзей адставаў ад узроўню развітых краін Захаду. Значна ўскладнілася экалагічная сітуацыя ў выніку бурнага індустрыяльнага развіцця і недаацэнкі прыродаахоўных мер, недахопаў у ахове здароўя і г.д. Усё гэта выклікала сур'ёзную заклапочанасць у грамадстве. Мацней і мацней раздаваліся галасы аб неабходнасці перамен.





# ГЛАВА 2

# ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЕ І ДУХОЎНАЕ ЖЫЦЦЁ. КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ

## § 1. Асноўныя рысы грамадска-палітычнага развіцця Беларусі

У пасляваенныя гады ў СССР і БССР захоўвалася палітычная сістэма, якая склалася ў 20–30-я гады і была замацавана ў Канстытуцыі СССР 1936 г. і Канстытуцыі БССР 1937 г. Дэкларуючы на словах дэмакратычныя свабоды, палітычны рэжым па сутнасці сваёй заставаўся таталітарным.

Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што ва ўмовах 40–80-х гадоў ніякага грамадска-палітычнага жыцця не было і, больш таго, не магло быць. Былі толькі ўсе яго атрыбуты. Наўрад ці магчыма пагадзіцца з такой думкай, таму што ў грамадстве назіраліся пэўныя працэсы, людзі праяўлялі сваю палітычную актыўнасць у тых межах, якія ім адводзіла дзяржава.

Першым крокам да мірнага жыцця (да даваеннай палітычнай арганізацыі) былі выбары ў Вярхоўны Савет СССР (1946), Вярхоўны Савет БССР (1947) і мясцовыя Саветы рэспублікі (1948). Яны прайшлі пры высокай актыўнасці выбаршчыкаў, у святочнай атмасферы. Савецкія людзі галасавалі за прадстаўнікоў "непарушнага блока камуністаў і беспартыйных", успрымалі гэтыя выбары як своеасаблівы паказчык вяртання да мірнага жыцця і звязвалі з імі надзеі на будучыню. Пачуццё гонару за сваю зямлю, якая адраджалася з попелу намаганнямі тысяч людзей, павялічвала пачуццё ўласнай годнасці народа, жаданне зрабіць новае пасляваеннае жыццё лепшым, святлейшым.

Але ў пасляваенныя гады на Беларусь прыйшла новая хваля рэпрэсій – чарговыя арышты, дэпартацыі людзей на спецпасяленні і ссылку, абмежаванні на некаторыя віды дзейнасці і г.д. Рэпрэсіі праводзіліся з часу вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў да 1952 г.

Палітыка рэпрэсій на Беларусі ў значнай ступені звязана з дзейнасцю паплечніка Л.Берыя – Л.Цанавы. Ён узначальваў органы дзяржаўнай бяспекі рэспублікі са снежня 1938 г. па кастрычнік 1951 г. Цанава пасылаў у партыйныя органы сваіх паведамляльнікаў, якія кантактавалі асабіста з ім. У канцы 40-х гадоў ён спрабаваў расправіцца з С.В.Прытыцкім, які тады ўзначальваў Гродзенскі абком

партыі. І толькі дзякуючы прынцыповай пазіцыі ЦК КПБ, і перш за ўсё першага сакратара ЦК М.С.Патолічава, С.В.Прытыцкага здолелі адстаяць.

Шырокую агалоску ў 1951 г. атрымала "справа Саевіча". П.В.Саевіч, нарком асветы рэспублікі, быў абвінавачаны ў змове з "югаслаўскімі рэвізіяністамі", у трацкізме, а таксама ў валютных махінацыях. Нягледзячы на абсалютную абсурднасць абвінавачванняў, П.В.Саевіч быў асуджаны да дзесяці гадоў пазбаўлення волі. У пасляваенныя гады былі зноў рэпрэсіраваны пісьменнікі У.М.Дубоўка, А.У.Александровіч, С.І.Грахоўскі, А.Звонак, П.І.Пруднікаў.

Наогул, галоўны ўдар у гэтыя гады быў накіраваны на інтэлігенцыю, таму што менавіта ў яе асяроддзі нараджаліся ідэі абнаўлення і яна магла падвесці грамадства да асэнсавання неабходнасці змен. У аснову кампаніі супраць творчай інтэлігенцыі былі пакладзены пастановы ЦК ВКП(б) «Аб часопісах "Звязда" і "Ленінград"» (1946), «Аб оперы "Вялікая дружба"» (1948) і іншыя, у якіх у рэзкай форме крытыкавалася творчасць некаторых пісьменнікаў, паэтаў, кампазітараў, а таксама дзейнасць тэатраў і літаратурных часопісаў за нізкі ідэйна-мастацкі ўзровень, апалітычнасць, нізкапаклонства перад Захадам і г.д.

Выкананне гэтых пастаноў закранула практычна ўсе напрамкі літаратуры і мастацтва, навуковыя дысцыпліны, пачаўся пошук "недахопаў" і "памылак". У дзейнасці грамадска-палітычных і літаратурных часопісаў "Беларусь", "Полымя" быў выяўлены шэраг "безыдэйных", "ідэалагічна шкодных" твораў. Пад крытыку падпалі часопіс "Бальшавік Беларусі", газеты "Советская Белоруссия", "Звязда" і інш. Нездавальняючым быў прызнаны рэпертуар драматычных тэатраў Беларусі.

Пачалася барацьба з т.зв. касмапалітызмам, нізкапаклонствам перад Захадам. Былі ашальмаваны многія буйныя вучоныя, у тым ліку А.Р.Жэбрак. Выдатны савецкі вучоны-генетык, паслядоўнік М.І.Вавілава, ён у 1947 г. быў абраны прэзідэнтам Беларускай акадэміі навук. У тым жа годзе пачаліся і ганенні. Падставай з'явіўся надрукаваны ім яшчэ ў 1945 г. навуковы артыкул у амерыканскім часопісе. Адбыўся партыйны сход АН БССР, які працягваўся два дні, потым суд гонару вышэйшай школы СССР у Маскве, жнівеньская сесія ВАСХНІЛ, якая нанесла непапраўны ўдар генетыцы і цалкам біялагічнай навуцы. А.Р.Жэбрак быў на доўгія гады адлучаны ад паўнацэннай навуковай працы, але не здрадзіў сваім поглядам.

Рэжым з недаверам адносіўся і да тых, хто не па сваім жаданні пабываў на чужыне. З 380 тыс. грамадзян БССР, якія апынуліся ў Германіі ў гады акупацыі, да канца 1946 г. вярнулася больш за 200 тыс. Асабліва цяжка прыходзілася ваеннапалонным, якія вярнуліся на радзіму. Многія з іх падвергліся рэпрэсіям.

Вострай была палітычная сітуацыя ў заходніх абласцях Беларусі. Тут прадаўжалі ўзброеную барацьбу супраць савецкай улады групы асоб, якія супрацоўнічалі ў час акупацыі з фашыстамі. Становішча





ўскладняла тое, што іх у пэўнай меры падтрымлівалі незадаволеныя сяляне, людзі, якія незаслужана пакутвалі ад рэпрэсій, і проста з цяжкім, неадназначным лёсам. Гэта ставрала ў некаторым сэнсе сацыяльную базу для антысавецкай барацьбы. Ахвярамі яе станавіліся не толькі партыйныя і камсамольскія актывісты, урачы, настаўнікі, ваеннаслужачыя, але і звычайныя сяляне. Так, у лютым 1946 г. бандыты ўчынілі 120 забойстваў, 190 грабяжоў і 18 разбояў. Увосень гэтага ж года яны здзейснілі яшчэ 838 вылазак, у тым ліку 43 дыверсіі, 120 падпалаў. Дзейнасць большасці з гэтых груп і фарміраванняў мела не столькі палітычны, колькі крымінальны характар.

У апошні час з'явіўся шэраг публікацый аб дзейнасці Арміі Краёвай у перыяд вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і ў першыя пасляваенныя гады на тэрыторыі нашай рэспублікі. Апублікаваныя матэрыялы сведчаць аб шматлікіх тэрарыстычных актах акаўцаў на тэрыторыі Гродзенскай, Маладзечанскай, Баранавіцкай, Вілейскай абласцей. Прычым са жніўня 1944 г. на вызваленых беларускіх землях супраць фарміраванняў АК, АУН–УПА (Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў – Украінскай паўстанцкай арміі), звычайных крымінальных банд патрабавалася выкарыстанне рэгулярных воінскіх часцей.

У пэўнай меры з гэтай сітуацыяй былі звязаны судовыя працэсы над ксяндзамі, якія праводзіліся ў Заходняй Беларусі ў пачатку 50-х гадоў. Многія справы былі сфабрыкаваны. Былі рэпрэсіраваны 177 служыцеляў каталіцкай царквы. У 1956–1958 гг. шэраг спраў былых акаўцаў быў перагледжаны ў сувязі з рэабілітацыяй, святары ж былі рэабілітаваны толькі ў 1991 г.

Такім чынам, складаныя абставіны ў Заходняй Беларусі выклікалі недавер улады да многіх мясцовых ураджэнцаў, у тым ліку і былых партызан. Сітуацыя нармалізавалася тут толькі ў сярэдзіне 50-х гадоў.

Аднак складаная сітуацыя была не толькі ў заходніх раёнах. Зладзейска-грабежніцкія банды і групы дзейнічалі на ўсёй тэрыторыі рэспублікі. Яны не ставілі ніякіх палітычных мэт, проста рабавалі і забівалі. Толькі ў 1947 г. у Мінскай вобласці органы міліцыі ліквідавалі 34 такія банды з агульнай колькасцю 155 чалавек. Ліквідацыя крымінальных банд была завершана ў 1948 г.

Пасляваенная палітычная атмасфера адзначана таксама працэсамі над ваеннымі злачынцамі.

Смерць Сталіна (5 сакавіка 1953 г.) падштурхнула даўно наспеўшы працэс абнаўлення грамадства. Ён закрануў усе сферы жыцця – палітычную, эканамічную, сацыяльную, духоўную. "Хрушчоўская адліга", XX з'езд КПСС (1956) з яго выкрываннямі культу асобы выклікалі глыбокія змены ў грамадска-палітычнай свядомасці. Гэта стала спрыяльнай глебай для ажыўлення навукі, літаратуры, мастацтва.

Былі зроблены некаторыя намаганні па ўдасканаленні палітычнай сістэмы. Ужо ў 1953–1956 гг. пачалося правядзенне лініі на пашырэнне правоў саюзных рэспублік у дзяржаўным, эканамічным і куль-

турным будаўніцтве. У 1957 г. да кампетэнцыі саюзных рэспублік было аднесена вырашэнне пытанняў іх краявога, абласнога і раённага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу, прыняцце кодэксаў саюзных рэспублік. Гэта садзейнічала пэўнаму ўмацаванню іх суверэнітэту. Саветам Міністраў рэспублік быў перададзены на вырашэнне шэраг пытанняў, што раней уваходзілі ў кампетэнцыю саюзных органаў, у тым ліку зацвярджэнне планаў вытворчасці і размеркаванне ўсіх відаў прамысловай прадукцыі, якая выраблялася на прадпрыемствах рэспубліканскіх міністэрстваў і ведамстваў.

Пашырэнне аб'ёму паўнамоцтваў органаў БССР (і іншых саюзных рэспублік) суправаджалася перадачай у 1954–1956 гг. шматлікіх прадпрыемстваў з саюзнай падпарадкаванасці ў распараджэнне рэспублікі. Гэта прывяло да ўзнікнення саюзна-рэспубліканскіх міністэрстваў і стварэння адпаведных міністэрстваў у рэспубліках. У выніку аб'ём прадукцыі прадпрыемстваў рэспубліканскай падпарадкаванасці ў Беларусі склаў у 1956 г. 82 % ад агульнага аб'ёму (на 15 % больш, чым у 1953 г.).

У маі 1957 г. старшыні Саветаў Міністраў саюзных рэспублік былі ўключаны ў склад Савета Міністраў СССР (закон "Аб далейшым удасканальванні арганізацыі кіравання прамысловасцю і будаўніцтвам"), што з'явілася ўзмацненнем прадстаўніцтва саюзных рэспублік у вышэйшым органе дзяржаўнага кіравання Саюза ССР. Канстытуцыя СССР 1977 г. і прынятая на яе аснове Канстытуцыя БССР 1978 г. захоўвалі пераемнасць канстытуцыйнага рэгулявання статусу ўрада, замацоўвалі прававое становішча Савета Міністраў БССР, некалькі па-іншаму вырашалі пытанні характару і месца вышэйшых органаў кіравання ў сістэме рэспубліканскіх органаў. Канстытуцыя 1978 г. прадугледжвала пашырэнне заканадаўчых асноў дзейнасці ўрада, прыняцце закона аб Савеце Міністраў БССР. Такі закон быў прыняты Вярхоўным Саветам БССР у чэрвені 1979 г. Аднак самастойнасці рэспубліцы гэта не прыбавіла.

У першай палове 60-х гадоў адбылася перабудова дзяржаўных і грамадскіх арганізацый па вытворчаму прынцыпу (прамысловыя і сельскія), але праз два гады быў адноўлены тэрытарыяльна-вытворчы прынцып іх пабудовы.

Працэс абнаўлення грамадства, які разгарнуўся ў 50-я гады, востра паставіў задачу выпрацоўкі стратэгічнага курсу. Ім стала "разгорнутае будаўніцтва камунізму", абгрунтаванае ў Праграме КПСС, якая была прынята на XXII з'ездзе партыі (1961). Стваральнікі праграмы (як і ўся грамадска-палітычная думка) недастаткова аб'ектыўна ацэньвалі характар перажываемага дзяржавай этапа яе развіцця.

Значныя паказчыкі эканамічнага росту, дасягнутыя да пачатку 60-х гадоў, высокія тэмпы сярэднегадавога прыросту нацыянальнага даходу, вялікія поспехі ў некаторых галінах (напрыклад, у асваенні космасу) прывялі да памылковых вывадаў аб стане эканомікі, грамадства наогул і аб іх магчымасцях у бліжэйшай будучыні. Былі





*Палітыка-адміністрацыйная карта БССР*





К. Т. Мазураў

дапушчаны пралікі ў выяўленні перспектыў як унутранага развіцця краіны (стварэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізму да 1980 г.), так і міжнародных абставін (вывад аб паглыбленні агульнага крызісу капіталізму).

З другой паловы 70-х гадоў канцэпцыя пабудовы камунізму атрымала лагічны працяг у канцэпцыі развітога сацыялістычнага грамадства. Апошняя стала крыніцай дагматызму ў тэарэтычнай думцы.

Нельга не адзначыць, што праграма КПСС з яе ідэяй хуткага дасягнення камунізму з'явілася ў атмасферы чакання і надзей, ажыўлення грамадска-палітычнага жыцця і павышэння актыўнасці людзей. Яна змяшчала лозунгі, якія заварожвалі масавую свядомасць. Аднак хутка стала зразумела, што гэтыя лозунгі нерэальныя і нездзяйсняльныя.

Эканамічныя рэформы 60-х гадоў таксама патрабавалі дэмакратычных змен у жыцці грамадства. Толькі яны не наступілі. Дэмакратычныя працэсы былі заблакіраваны сіламі бюракратычнага кансерватызму. Грамадскі ўздым паступова змяніўся апатыяй і абыякавасцю, і тэзіс аб пабудове развітога сацыялізму не толькі не змяніў грамадска-палітычную атмасферу, настрой людзей, але нават выклікаў іронію.

З сярэдзіны 50-х гадоў неаднаразова рабіліся спробы павысіць ролю Саветаў у кіраванні дзяржавай і грамадствам. У нейкай ступені гэта вяло да пашырэння дзейнасці рэспубліканскіх і мясцовых Саветаў у кіраванні эканомікай і грамадска-палітычным жыццём. Актывізавалася заканадаўчая дзейнасць Вярхоўнага Савета БССР. Рабіліся спробы ператварыць Саветы ў сапраўдныя органы народаўладдзя, аб чым сведчыць вылучэнне рабочых у саветы. Напрыклад, у складзе мясцовых Саветаў БССР у пачатку 70-х гадоў было каля 33 % рабочых, у 1980 г. – ужо 40 %. Для таго каб зрабіць дэпутацкую працу больш выніковай, ствараліся пастаянныя камісіі па розных напрамках дзейнасці. Так, у 1977 г. мясцовыя Саветы рэспублікі стварылі 10 360 пастаянных камісій, у якія ўвайшлі 67 093 дэпутаты – 87 % ад агульнай іх колькасці.

Аднак рэальная ўлада знаходзілася ў руках партыйных камітэтаў. І наогул, грамадска-палітычнае жыццё было строга рэгламентавана і цэнтралізавана.







П. М. Машэраў

Кіруючай сілай беларускага грамадства з'яўлялася Кампартыя Беларусі. Яе колькасць павялічылася з 48,2 тыс. камуністаў у 1946 г. да 688 тыс. у 1985 г.

Важную ролю ў палітычнай структуры і жыцці грамадства адыгралі прафсаюзы (колькасць членаў іх павялічылася з 350 тыс. чалавек у пасляваенны час да 5 млн у сярэдзіне 80-х гадоў), якія ўключалі ў сябе амаль усіх працуючых, і Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі (колькасць яго членаў пасля вайны была ледзь больш за 200 тыс., а да сярэдзіны 80-х гадоў – каля 1,5 млн чалавек), які ахопліваў амаль усю моладзь. Аднак іх дзейнасць была заарганізавана, цэнтралізавана і паступова пачала пакідаць усё менш месца для ініцыятывы асобнага чалавека, актыўнасць іх членаў усё больш фармалізавалася.

Трэба адзначыць, што сярод кіраўнікоў рэспублікі, нягледзячы на вельмі негатыўныя адносіны да былога партыйнага кіраўніцтва ў нашы дні, былі і даволі аўтарытэтныя, кампетэнтныя людзі. І сёння з павагай успамінаюць К.Т.Мазурава – Першага сакратара ЦК КПБ з 1956 па 1965 г., С.В.Прытыцкага – Старшыню Вярхоўнага Савета БССР з 1968 па 1971 г., П.М.Машэрава – Першага сакратара ЦК КПБ з 1965 па 1980 г. і інш. Асабліва яскравай з'яўляецца асоба П.М.Машэрава, а перыяд яго кіраўніцтва – гэта перыяд развіцця эканомікі і культуры высокімі тэмпамі (*Антонович С.* Петр Машеров: Док. повесть. Мн., 1993; *Якутов В.* Петр Миронович Машеров. Мн., 1993).

Усплеск грамадскай актыўнасці быў звязаны з абмеркаваннем і прыняццем Канстытуцыі СССР 1977 г. Яе вартасцю была арыентаванасць на абарону сацыяльных правоў людзей. Канстытуцыя БССР 1978 г. фактычна капіравала палажэнні саюзнай Канстытуцыі.

## § 2. Адукацыя і навука. Установы культуры і выдавецкая дзейнасць

Важнай передумовай развіцця культуры з'яўляецца неабходны адукацыйны ўзровень насельніцтва. У пасляваенны перыяд павялічыліся асігнаванні на патрэбы сістэмы адукацыі. За 1946–



*Беларускі тэхналагічны інстытут імя С. М. Кірава*

1950 гг. на аднаўленне і развіццё агульнаадукацыйнай школы было адпушчана 3598,7 млн р. Гэта дазволіла толькі за кошт дзяржаўных сродкаў пабудаваць 205 школ на 62,4 тыс. вучнёўскіх месц. У канцы 1950 г. у БССР у асноўным была адноўлена даваенная сетка агульнаадукацыйных школ. У 1951—1955 гг. адбылося далейшае пашырэнне сярэдняй адукацыі, якое ішло шляхам арганізацыі новых школ і пераўтварэння сямігодак у сярэднія школы. Іх колькасць за гэтыя гады вырасла амаль у 2 разы. Палепшыўся і склад настаўніцкіх кадраў: калі ў 1944/45 навучальным годзе працавала 19,7 % настаўнікаў з вышэйшай і няпоўнай вышэйшай адукацыяй, то ў 1950/51 – 30,2, а ў 1955/56 – каля 50 %.

У снежні 1958 г. Вярхоўны Савет СССР прыняў закон "Аб умацаванні сувязі школы з жыццём і аб далейшым развіцці сістэмы народнай адукацыі ў СССР". Адпаведны закон быў прыняты ў 1959 г. у БССР. Ён прадугледжваў увядзенне ўсеагульнага 8-гадовага навучання.

З мэтай ажыццяўлення політэхнічнага навучання і працоўнага выхавання была праведзена рэарганізацыя сярэдніх дзесяцігадовых школ у агульнаадукацыйныя адзінаццацігадовыя з вытворчым навучаннем. Пашыралася матэрыяльная база працоўнага навучання. З 1959







*Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут*

па 1967 г. ва ўсіх сярэдніх і большасці васьмігадовых школ БССР былі адкрыты майстэрні больш чым на 100 тыс. месц. У 1964 г. адзінаццацігадовыя школы зноў сталі пераўтварацца ў дзесяцігадовыя, а з 1966 г. — прафесійная падрыхтоўка стала неабавязковай.

У 70-я гады была ўведзена ўсеагульная сярэдняя адукацыя моладзі. Дастаткова дэмакратычная сістэма народнай адукацыі давала рэальную магчымасць моладзі атрымаць сярэднюю адукацыю. Ужо ў 1977 г. 98 % закончыўшых восем класаў працягвалі вучобу ў школе з мэтай атрымання сярэдняй адукацыі. Усё гэта патрабавала адпаведнай перабудовы адукацыі, яе змест (праграмы, вучэбныя планы, падручнікі) прыводзіўся ў адпаведнасць з дасягненнямі навукі і культуры, навукова-тэхнічнага прагрэсу. Увядзенне ўсеагульнай сярэдняй адукацыі з'явілася адным з буйных дасягненняў сацыялістычнага ладу.

Новай спробай рэформы школы было прыняцце ў 1984 г. дакумента "Асноўныя напрамкі рэформы агульнаадукацыйнай і прафесійнай школы". У сярэдзіне 80-х гадоў сістэма адукацыі ў БССР налічвала 6223 агульнаадукацыйныя школы з 1468 тыс. вучняў; 139 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, звыш 160 тыс. навучэнцаў.

Перабудоўвалася сістэма прафесійна-тэхнічнай адукацыі. Шматлікія навучальныя ўстановы сістэмы працоўных рэзерваў у

42. Зак. 5565




*Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту ў Гомелі*

канцы 50-х і пачатку 60-х гадоў былі пераўтвораны ў адзіны тып навучальных устаноў – гарадскія і вясковыя прафесійна-тэхнічныя вучылішчы. Іх колькасць у БССР вырасла са 103 у 1961 г. да 233 у 1985 г. (колькасць навучэнцаў – з 33 тыс. да 161 тыс.). У 70-я гады прафтэхвучылішчы перайшлі на падрыхтоўку кваліфікаваных рабочых з сярэдняй адукацыяй.

Паспяхова развівалася вышэйшая адукацыя. У 1944/45 навучальным годзе працавалі 22 вышэйшыя навучальныя ўстановы (з 25 існаваўшых да вайны). У 1945 г. у Мінску аднавіў работу Беларускі лесатэхнічны інстытут, які з 1930 г. працаваў у Гомелі. У 1961 г. ён быў пераўтвораны ў Беларускі тэхналагічны інстытут. Адкрыліся новыя вышэйшыя навучальныя ўстановы: у 1945 г. – Беларускі тэатральны інстытут (з 1953 г. – тэатральна-мастацкі), у 1948 г. – Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў, у 1950 г. – Брэсцкі педагагічны інстытут (створаны на базе настаўніцкага інстытута).

У 1959 г. было створана Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР.

За пасляваенныя гады колькасць сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў павялічылася з 94 у 1946 г. да 139 у 1985 г.,







*Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі ў Мінску*

вышэйшых навучальных устаноў – з 24 да 33 (колькасць студэнтаў адпаведна з 13 тыс. да 182 тыс.). Былі адкрыты: 1951 г. – Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут; 1952 г. – Мазырскі педагагічны інстытут (створаны на базе настаўніцкага інстытута); 1953 г. – Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту ў Гомелі; 1954 г. – Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі ў Мінску; 1958 г. – Гродзенскі медыцынскі інстытут; 1961 г. – Магілёўскі машынабудаўнічы інстытут; 1964 г. – Мінскі радыётэхнічны інстытут; 1965 г. – Віцебскі тэхналагічны інстытут лёгкай прамысловасці; 1966 г. – Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут; 1975 г. – Мінскі інстытут культуры. У 1969 г. на базе Гомельскага педагагічнага інстытута быў створаны Гомельскі, а ў 1977 г. на базе Гродзенскага педагагічнага інстытута – Гродзенскі дзяржаўныя універсітэты.

Аднак у сферы вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі бесперапынны рост выпуску спецыялістаў не заўсёды суправаджаўся неабходным паляпшэннем якасці іх падрыхтоўкі. ВНУ недастаткова фінансаваліся, развіццё іх матэрыяльнай базы адставала ад патрабаванняў часу.



*Вучэбна-лабараторныя карпусы Мінскага радыётэхнічнага інстытута*

Народная адукацыя на працягу ўсяго перыяду адчувала на сябе ўздзеянне бюракратычнай сістэмы кіравання, і тым не менш вынікі яе развіцця былі станоўчыя (табл.3).

*Табліца 3*

**Колькасць асоб, якія атрымалі сярэднюю (агульную і спецыяльную) адукацыю**

| Гады | Колькасць, тыс. чалавек |
|---|---|
| 1946–1950 | 70 |
| 1951–1955 | 210 |
| 1956–1960 | 347 |
| 1961–1965 | 251 |
| 1966–1970 | 633 |
| 1971–1975 | 779 |
| 1976–1980 | 948 |
| 1981–1985 | 847 |

Аб падрыхтоўцы спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй сведчыць табл. 4.





*Табліца 4*

**Выпуск спецыялістаў вышэйшай адукацыі**

| Гады | Колькасць, тыс. чалавек |
|---|---|
| 1940 | 3,2 |
| 1960 | 10,0 |
| 1970 | 20,6 |
| 1980 | 30,7 |
| 1985 | 31,9 |

За 1946–1986 гг. вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя ўстановы падрыхтавалі 1773 тыс. спецыялістаў.

Нельга не адзначыць, што адукацыя ў рэспубліцы паступова губляла нацыянальныя рысы. Напэўна, вытокі гэтага працэсу трэба шукаць у мінулым – на працягу стагоддзяў беларуская мова на Беларусі не была афіцыйнай і не магла нармальна развівацца; на Беларусі склаўся рускамоўны горад; беларусізацыя 20-х гадоў была дачасна спынена. Ёсць і аб'ектыўная прычына – гістарычная і марфалагічная блізкасць рускай і беларускай моў, што таксама не пайшло на карысць апошняй. Да таго ж у першыя пасляваенныя гады ў сувязі з недахопам кадраў рознай кваліфікацыі ў рэспубліку прыязджалі (у тым ліку і накіроўваліся) спецыялісты з усяго Саюза. Будаўніцтва новых прадпрыемстваў вяло да росту гарадоў, а ў гарадах захоўвалася тэндэнцыя да выкарыстання рускай мовы.

Безумоўна, вялікую ролю ў гэтым пытанні магла адыграць пазіцыя ЦК Кампартыі Беларусі, партыйных і савецкіх органаў. Аднак яны не зрабілі нічога істотнага, каб змяніць сітуацыю. У выніку ў сярэдзіне 80-х гадоў толькі 23,1 % школ і 19,3 % дашкольных дзіцячых устаноў працавалі на беларускай мове.

Высокімі тэмпамі развівалася ў рэспубліцы сетка культурных устаноў – бібліятэк, клубаў, музеяў, тэатраў і інш. Аб гэтай сферы жыцця грамадства можна меркаваць па даных табл. 5.

*Табліца 5*

**Установы культуры Беларускай ССР**

| Культурныя ўстановы | Год | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1940 | 1960 | 1970 | 1975 | 1980 | 1985 |
| Бібліятэкі: | 4173 | 7301 | 7277 | 7154 | 6957 | 6891 |
| кнігі, часопісы, млн экз. | 6,6 | 31,5 | 60,2 | 76,9 | 87,1 | 100,9 |
| Клубы | 3919 | 5333 | 6091 | 6358 | 6311 | 6374 |
| Тэатры | 20 | 11 | 14 | 14 | 16 | 17 |
| Музеі | 26 | 38 | 48 | 56 | 68 | 90 |

У пасляваенныя гады ў рэспубліцы значна павялічылася выданне кніг, брашур, часопісаў, газет, іншых перыядычных выданняў, аб чым сведчыць табл. 6.

43. Зак. 5565

*Табліца 6*

**Выдавецкая дзейнасць у Беларускай ССР**

| Выданні | Год | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1940 | 1960 | 1970 | 1975 | 1980 | 1985 |
| Кнігі і брашуры | 772 | 1602 | 2174 | 2941 | 3009 | 3431 |
| У тым ліку на бел. мове | 375 | 425 | 428 | 475 | 370 | 381 |
| Тыраж, млн экз. | 10,4 | 14,2 | 25,2 | 34,4 | 38,3 | 53,3 |
| У тым ліку на бел. мове | 7,7 | 7,1 | 9,4 | 11,0 | 8,2 | 4,9 |
| Часопісы і іншыя перыядычныя выданні | 27 | 92 | 102 | 88 | 115 | 107 |
| У тым ліку на бел. мове | 9 | 24 | 27 | 30 | 31 | 32 |
| Газеты | 252 | 221 | 175 | 179 | 198 | 212 |
| У тым ліку на бел. мове | 178 | 176 | 132 | 129 | 128 | 130 |

Лічбы ў асноўным унушальныя, калі ўлічыць, з чаго пачыналі наладжваць працу ў 1944–1945 гг. Між тым нельга не звярнуць увагу на некаторыя негатыўныя тэндэнцыі – змяншэнне колькасці тэатраў і тыражу беларускамоўных кніг.

Паспяхова развівалася навука. У 1944 г. у Мінску зноў пачала сваю дзейнасць Акадэмія навук БССР. У першыя пасляваенныя гады яе калектыў працаваў у цяжкіх умовах. Не хапала памяшканняў, лабараторнага абсталявання, кваліфікаваных кадраў.

Аднаўляліся навукова-даследчыя інстытуты меліярацыі, будаўнічых матэрыялаў, харчовай прамысловасці, лясной гаспадаркі. Да канца 1950 г. у БССР дзейнічала 77 навуковых устаноў, а ў 1958 г. гэта лічба ўзрасла да 83.

Цэнтрам навуковай працы ў рэспубліцы з'яўлялася Акадэмія навук БССР. Тут праводзіліся работы па стварэнні новых сплаваў, вывучэнні ферамагнетызму, тэхналогіі апрацоўкі металаў. Паспяхова распрацоўваліся пытанні калоіднай хіміі, рацыянальнага выкарыстання торфу, праводзіліся даследаванні, накіраваныя на павышэнне ўрадлівасці глебы, культуры земляробства, развіццё жывёлагадоўлі ў калгасах і саўгасах рэспублікі.

У 1955 г. у сістэме АН БССР быў створаны Інстытут фізікі і матэматыкі, у якім пачалі развівацца новыя навуковыя напрамкі – спектраскапія, люмінесцэнцыя, тэорыя дыферэнцыяльных ураўненняў і вылічальная матэматыка. У гэтым жа годзе ствараецца Інстытут матэматыкі з Вылічальным цэнтрам, адкрываецца Аддзел фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў, які хутка рэарганізуецца ў інстытут таго ж профілю. На базе энергетычнага сектара ў 1952 г. ствараецца Інстытут энергетыкі, пераўтвораны ў 1963 г. у Інстытут цепла- і масаабмену. Арганізаваны ў 1957 г. Інстытут машыназнаўства і аўтаматызацыі перайменаваны пазней у Інстытут праблем надзейнасці і даўгавечнасці машын.

Вучоныя ВНУ прымалі ўдзел у распрацоўцы актуальных тэарэтычных і прыкладных праблем. Так, значныя навуковыя даследаванні





праводзіліся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, політэхнічным і лесатэхнічным інстытутах, аднаўлялася навуковая дзейнасць сельскагаспадарчых ВНУ. У Беларускім політэхнічным інстытуце ў 1957 г. былі арганізаваны дзве навукова-даследчыя праблемныя лабараторыі – аўтамабіляў, сілікатаў і шкла. Беларускія вучоныя праводзілі таксама даследаванні ў галіне біялогіі, хіміі, генетыкі і інш.

Пашыралася сетка навуковых устаноў, умацоўвалася іх матэрыяльная і даследча-эксперыментальная база. Было завершана будаўніцтва навуковых гарадкоў для Інстытута ядзернай энергетыкі АН БССР (г.п. Сосны), Інстытута анкалогіі і медыцынскай радыялогіі (г.п. Бараўляны), Інстытута пладаводства, агародніцтва і бульбы (г.п. Самахвалавічы), Інстытута земляробства Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР (г.Жодзіна). Пачалося будаўніцтва акадэмічнага гарадка. Акадэмічныя навукова-даследчыя падраздзяленні былі створаны і ў абласных цэнтрах Беларусі. Толькі за гады дзевятай–адзінаццатай пяцігодак у рэспубліцы было створана звыш 30 навуковых устаноў. У 1985 г. навуковыя даследаванні і распрацоўкі праводзілі каля 200 акадэмічных і галіновых інстытутаў, ВНУ і праектна-канструктарскіх арганізацый.

Калі ў 1960 г. у Беларусі было 6840 навуковых работнікаў (уключаючы навукова-педагагічныя кадры ВНУ), у 1970 г. – 21 863, то ў 1985 г. – 42 452.

Вядучым навуковым цэнтрам у рэспубліцы заставалася Акадэмія навук. У 1985 г. тут працавалі 5761 навуковы супрацоўнік, у тым ліку 273 дактары і 2076 кандыдатаў навук. Пачынаючы з 1977 г. АН БССР стала адной з першых у краіне выкарыстоўваць праграмна-мэтавае планаванне фундаментальных даследаванняў (у галіне прыродазнаўчых, тэхнічных і грамадскіх навук).

Значную ролю ў развіцці Акадэміі навук адыгралі выдатныя вучоныя і арганізатары навукі, якія ўзначальвалі яе на пасадзе прэзідэнта АН – біёлаг В.Ф.Купрэвіч (з 1952 па 1969 г.) і фізік М.А.Барысевіч (з 1969 па 1987 г.).

Па шэрагу напрамкаў у БССР узніклі навуковыя школы, вынікі даследаванняў якіх былі прызнаны як у краіне, так і за мяжой. Вядомы беларускія школы акадэміка М.П.Яругіна ў галіне звычайных дыферэнцыяльных ураўненняў; акадэміка У.П.Платонава ў галіне алгебры, алгебраічнай геаметрыі і тэорыі лічбаў; акадэміка Б.І.Сцяпанава ў галіне фізікі. Вялікі аўтарытэт у колах навуковай грамадскасці маюць школы акадэмікаў М.А.Барысевіча, Ф.І.Фёдарава, В.І.Крылова, В.А.Белага, М.С.Казлова, А.С.Махнача, М.А.Дарожкіна. Значны ўклад унеслі беларускія вучоныя ў распрацоўку фізікі элементарных часціц, атамнага ядра, квантавай электронікі, радыёфізікі, фізікі плазмы, паўправаднікоў і дыэлектрыкаў.

Паспяхова распрацоўвалі праблемы хіміі І.Н.Ярмоленка, Н.Ф.Ярмоленка, Б.В.Ерафеева, П.І.Бялькевіч, І.І.Ліштван і іншыя; праблемы спектраскапіі – В.У.Грузінскі і С.Н.Талкачоў. Былі

вырашаны важныя задачы ў матэрыялазнаўстве, прыборабудаванні, фізіялогіі. Высокага ўзроўню дасягнулі геалагічная, біялагічная, сельскагаспадарчая, геаграфічная галіны навукі.

Дасягненні сусветнага ўзроўню навука Беларусі мае ў матэматыцы, оптыцы і спектраскапіі.

Беларускія вучоныя ўдзельнічалі ў навуковых распрацоўках, звязаных з развіццём абароннага комплексу і асваеннем космасу. Гонарам рэспублікі з'яўляюцца касманаўты Пётр Клімук і Уладзімір Кавалёнак, якія неаднаразова пабывалі ў космасе.

Дасягненні беларускіх вучоных высока ацэньваліся ў краіне: 9 вучоных Беларусі сталі лаўрэатамі Ленінскай прэміі; вучоныя рэспублікі атрымалі 26 Дзяржаўных прэмій СССР і 57 Дзяржаўных прэмій БССР.

Па мовазнаўству была падрыхтавана вялікая праца "Граматыка беларускай мовы" у 2 тамах (1962, 1966), выдадзены "Русско-белорусский словарь" (1953) і "Беларуска-рускі слоўнік" (1962). Па літаратуразнаўству былі выдадзены працы: "Гісторыя дакастрычніцкай літаратуры" (Т.1, 1968; Т.2, 1969 ), "Гісторыя беларускай савецкай літаратуры" (Т.1–2, 1965–1966). У гістарычнай навуцы ў 50–60-я гады была падрыхтавана і выдадзена першая абагульняючая праца "История Белорусской ССР" у 2 тамах, потым 5-томная "Гісторыя Беларускай ССР" (1972–1975), "История рабочего класса Белорусской ССР" у 4 тамах (1984–1987), трохтомнік "Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны" (1967–1982).

Былі падрыхтаваны і выдадзены "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя" ў 12 тамах (1969–1975), "Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі" ў 5 тамах (1984–1987) і інш.

Аднак гуманітарныя навукі ў найбольшай ступені залежалі ад грамадска-палітычнага жыцця, былі вельмі палітызаваны і ідэалагізаваны. У 40–50-я гады пад лозунгамі барацьбы супраць "праяўленняў безыдэйнасці і апалітычнасці", "за чысціню марксісцка-ленінскага светапогляду" ўкараняўся дагматызм, падаўляліся праяўленні іншадумства. Звярталася ўвага на памылкі "нацыяналістычнага характару" ў школьных падручніках, хрэстаматыях, даследаваннях па гісторыі беларускага народа.

Пасля XX з'езда КПСС у краіне змянілася грамадска-палітычная атмасфера, што садзейнічала дасягненню істотных зрухаў у даследаванні гісторыі Беларусі, гісторыі грамадска-палітычнай думкі і беларускай культуры. Разам з тым гістарычная і іншыя грамадскія навукі былі пастаўлены ў абмежаваныя рамкі.

## § 3. Літаратура і мастацтва

Духоўны стан грамадства ў значнай ступені знаходзіць адлюстраванне ў літаратуры. Для беларускай пасляваеннай літаратуры характэрны прыкметны рост прозы малых і асабліва буйных жанравых







*Ансамбль плошчы Перамогі ў Мінску*

форм. Гераічная эпапея барацьбы народа з фашызмам прыцягвала пільную ўвагу беларускіх пісьменнікаў. Ідэйна-эстэтычнае асэнсаванне ваенных падзей наша проза пачала па гарачых слядах.

Творы празаікаў пра вайну, створаныя ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе ("Глыбокая плынь" І.Шамякіна, "Векапомныя дні" М.Лынькова, "Мінскі напрамак" І.Мележа і інш.), у цэлым праўдзіва адлюстроўвалі ўсенародную барацьбу з ворагам. Аднак паняцце "маштабнасць" у той час нярэдка ўспрымалася павярхоўна – галоўным чынам як шырыня ахопу падзей. Пазней, калі адбыўся сур'ёзны паварот літаратуры да больш глыбокага паказу вайны, да ўсебаковага раскрыцця характару радавога ўдзельніка суровай барацьбы, названыя творы сталі здавацца некалькі ілюстрацыйнымі.

У пасляваенныя гады напісаны такія значныя творы, як раман П.Пестрака "Сустрэнемся на барыкадах", трэцяя частка трылогіі Я.Коласа "На ростанях". У творах аб мірным жыцці пісьменнікі імкнуліся па магчымасці ярчэй перадаць аптымістычны настрой свайго сучасніка. Гэты жыццесцвярджальны пачатак з'явіўся асноўным пафасам апавяданняў Я.Брыля, І.Мележа, І.Грамовіча, А.Стаховіча, М.Паслядовіча, І.Шамякіна.

Прыкладна з 1953 г. у беларускай літаратуры, як і ва ўсесаюзнай, намеціліся новыя тэндэнцыі, звязаныя з актывізацыяй грамадскага жыцця. Пачаўся працэс пераадолення апісальнасці, паглыблення ва ўнутраны свет герояў, у сутнасць канфліктаў пасляваеннай эпохі. У пісьменніцкім асяроддзі разгарнулася дыскусія аб месцы пісьменніка ў жыцці грамадства, аб неабходнасці перагляду ўсталяваных у

44. Зак. 5565



Помнік Янку Купалу ў Мінску

літаратуры канцэпцый бесканфліктнасці. На першы план паступова вылучаюцца агульначалавечыя маральна-этычныя каштоўнасці, барацьба за маральную чысціню. Яскрава гэта праявілася ў аповесці Я.Брыля "На Быстранцы" і ў рамане І.Шамякіна "Крыніцы".

У першай палове 60-х гадоў у выніку ўнутранага ідэйна-мастацкага ўзбагачэння беларуская проза прыйшла да значных здабыткаў. З'яўляюцца раманы: "Людзі на балоце" І.Мележа, "Птушкі і гнёзды" Я.Брыля, "Сэрца на далоні" І.Шамякіна, "Сасна пры дарозе" І.Навуменкі, "На парозе будучыні" М.Лобана, "Засценак Малінаўка" А.Чарнышэвіча.

Цікавай з'явай у беларускай прозе стаў твор У.Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім" (1965), які адкрывае чытачу паэзію і філасофію гісторыі Беларусі. У творах пра сучаснасць (раманы "Нельга забыць", 1962; "Чорны замак Альшанскі", 1979–1980) У.Караткевіч таксама звяртаўся да гісторыі, каб раскрыць пераемнасць мінулага і сённяшняга.

У 60-я гады ўслед за "Жураўлíным крыкам" адна за адной выходзяць аповесці В.Быкава "Здрада", "Трэцяя ракета", "Альпійская балада", "Пастка". Імя В.Быкава становіцца шырока вядомым у СССР і за яго межамі. Гуманізм і антымілітарызм – аснова яго твораў. Тэму вайны ён працягваў і ў наступныя гады: "Сотнікаў" (1970), "Абеліск" (1971), "Воўчая зграя" (1974), "Пайсці і не вярнуцца" (1978) і іншыя аповесці.

Тэма вайны і лёс людзей у ёй заставаліся галоўнымі для многіх выдатных пісьменнікаў – І.Навуменкі (трылогія "Сасна пры дарозе", "Вецер у соснах", "Сорак трэці", 1962–1973 гг.), І.Чыгрынава ("Плач перапёлкі", 1970; "Апраўданне крыві", 1976), А.Адамовіча, Я.Брыля, У.Калесніка ("Я з вогненнай вёскі", 1975).

Пільная ўвага да маральна-этычных праблем сучаснасці, узаемаадносін навукова-тэхнічнай рэвалюцыі і лёсу чалавека асабліва характэрна для І.Шамякіна – раманы "Атланты і карыятыды" (1974), "Вазьму твой боль" (1978), І.Пташнікава – "Мсціжы" (1972), В.Адамчыка "Чужая бацькаўшчына" (1977), "Год нулявы" (1982).

Даволі паспяхова развівалася беларуская паэзія. У росквіце творчых сіл сустрэлі мірны дзень такія вядомыя майстры, як







Помнік Якубу Коласу ў Мінску

А.Куляшоў, П.Броўка, П.Панчанка, П.Глебка, М.Лужанін. Творчай сталасці дасягнуў талент В.Віткі, С.Дзяргая, А.Бялевіча, А.Зарыцкага. З першымі зборнікамі вершаў выступілі А.Вялюгін, М.Аўрамчык, К.Кірэенка. Бадзёра, з непасрэдным радасным адчуваннем ходу жыцця гучаў у той час голас старэйшай паэтэсы К.Буйло (зборнік "Май", 1965).

У канцы 60-х гадоў заявіла пра сябе новае пакаленне паэтаў: А.Вярцінскі, Р.Барадулін, П.Макаль, Н.Гілевіч, С.Гаўрусёў, Е.Лось, У.Караткевіч, Я.Сіпакоў, Г.Бураўкін, Ю.Свірка, В.Зуёнак, А.Грачанікаў і інш. Яны паспяхова працавалі і ў наступныя гады.

Развіццё беларускай драматургіі ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе было запаволенае, толькі ў жанры гераічнай драмы і сатырычнай камедыі назіраліся пэўныя поспехі. Жывым сведчаннем бесперапыннасці развіцця драматургічных традыцый з'явілася творчасць К.Крапівы. Яго сатырычнай камедыяй "Мілы чалавек" пачынаецца беларуская драматургія пасляваеннага перыяду. Аднак патрыятычная скіраванасць камедыі, яе выкрывальны пафас не былі ў свой час зразуметы. Асобныя недахопы камедыі тлумачыліся як грубыя памылкі ідэалагічнага характару. П'еса была знята з рэпертуару. Аднак яна і сёння не страціла сваёй эстэтычна-мастацкай вартасці.

Да мастацкага асэнсавання ваенных падзей звярнулася большасць беларускіх драматургаў: К.Крапіва – "З народам", А.Маўзон – "Канстанцін Заслонаў", А.Кучар – "Гэта было ў Мінску", К.Губарэвіч – "Брэсцкая крэпасць" і інш.



*Помнік Францішку Скарыне ў Полацку*

У канцы 40-х гадоў у Беларусі пачаў ажыўляцца такі драматургічны жанр, як лірычная камедыя. Адной з найбольш вядомых камедый з'яўляецца п'еса К.Крапівы "Пяюць жаваранкі".

Пачынаючы з 1953 г. у беларускай драматургіі, як і ва ўсім мастацтве, пачынаюць выяўляцца новыя тэндэнцыі ў эстэтычным асэнсаванні падзей сучаснасці. Першым такім творам стала сатырычная камедыя А.Макаёнка "Выбачайце, калі ласка!" (1953). З'явілася некалькі востраканфліктных п'ес, у якіх рэзка крытыкуюцца сацыяльныя недахопы тагачаснай рэчаіснасці. Найбольш прыкметны з гэтых твораў – камедыя К.Губарэвіча "На крутым павароце" (1954).

Значнымі гісторыка-рэвалюцыйнымі п'есамі з'яўляюцца "Святло з Усходу" П.Глебкі, "Дні нараджэння" І.Мележа, "Галоўная стаўка" і "Брэсцкі мір" К.Губарэвіча, "У бітве вялікай" А.Маўзона. На тэму вайны напісаны: "Людзі і д'яблы" К.Крапівы, "Рашэнне" В.Быкава, "Дзеці аднаго дома" І.Шамякіна, "Грэшная любоў" А.Дзялендзіка.

Вельмі цікавыя беларускія драмы аб сучаснасці – "Выклік багам", "Начное дзяжурства", "Аперацыя "мнагажонец" А.Дзялендзіка, п'есы П.Васілеўскага і А.Пінчука.

Канец 60-х – 70-я гады былі вельмі плённымі для беларускай драматургіі. Створаны шэраг п'ес, якім было суджана стаць літаратурнай класікай. Менавіта ў гэты час тэатральная грамадскасць нашай рэспублікі і іншых рэспублік былога СССР пазнаёмілася з арыгінальнымі п'есамі: "Брама неўміручасці" К.Крапівы; "Трыбунал", "Зацюканы апостал", "Таблетку пад язык", "Кашмар" ("Святая прастата") А.Макаёнка; "Вечар", "Парог" А.Дударава; "Соль", "Трывога" А.Петрашкевіча; з новымі творамі М.Матукоўскага, К.Губарэвіча, У.Караткевіча, А.Дзялендзіка і многіх іншых.

Нацыянальная рэжысура працяглы час упарта ігнаравала п'есы А.Макаёнка, а пасля А.Дударава, А.Кудраўцова – іх ставілі тэатры іншых рэспублік. А беларускім тэатрам па-ранейшаму не хапала новых арыгінальных п'ес. Рэпертуарны голад садзейнічаў актыўнаму інсцэніраванню многіх празаічных твораў беларускіх пісьменнікаў: "Людзі





на балоце" І.Мележа, "Плач перапёлкі" І.Чыгрынава – у тэатры імя Янкі Купалы, "Сэрца на далоні" І.Шамякіна – у тэатры імя Якуба Коласа, "Хатынская аповесць" А.Адамовіча – у Рускім драматычным тэатры імя М.Горкага і інш.



*Мемарыяльны комплекс "Хатынь" Няскораны чалавек*

Наогул намаганні тэатраў Беларусі былі накіраваны на ўвасабленне героя са складаным і багатым духоўным светам. З пасляваеннага часу ў рэпертуар уваходзяць творы пра гераізм савецкіх людзей у гады вайны. І гэта тэма застаецца на працягу наступных дзесяцігоддзяў адной з галоўных. З 60-х гадоў пачынаецца захапленне маральна-этычнай праблематыкай. Тэатры ставяць п'есы беларускіх драматургаў, рускай і сусветнай класікі, савецкіх аўтараў.

Вялікі ўклад у развіццё беларускага тэатра зрабілі рэжысёры Б.Луцэнка, В.Мазынскі, В.Раеўскі; акцёры З.Браварская, А.Клімава, Г.Макарава, С.Станюта, З.Стома, В.Тарасаў, Ф.Шмакаў, Г.Глебаў, Л.Ржэцкая, У.Дзядзюшка, Н.Радзялоўская, Р.Янкоўскі, М.Яроменка і інш. Кадры акцёраў, рэжысёраў, сцэнографаў, тэатразнаўцаў рыхтаваў усе гэтыя гады Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут.

З існуючых да 1985 г. 17 тэатраў 9 былі драматычныя, 6 – лялечныя, 2 – музычныя. Велізарную ролю ў культурным жыцці рэспублікі адыгрываў Вялікі тэатр оперы і балета. Тут працавалі таленавітыя артысты Л.Александроўская, З.Бабій, І.Сарокін, Н.Ткачэнка, Т.Ніжнікава, Т.Шымко, В.Чарнабаеў, А.Карзянкова, Н.Давідзенка, Р.Красоўская, Л.Бржазоўская, Ю.Траян, В.Саркісьян і інш.

У музычнай культуры ў пасляваенныя гады інтэнсіўна развіваюцца жанры сімфоніі і інструментальнай музыкі. Аб гэтым сведчыць творчасць М.Аладава, Я.Цікоцкага, А.Багатырова, У.Алоўнікава, П.Падкавырава. Была напісана значная колькасць музычна-сцэнічных твораў пераважна гераічнай і гераічна-легендарнай тэматыкі (оперы "Машэка" і "Марынка" Р.Пукста, "Андрэй Касценя" М.Аладава, "Кастусь Каліноўскі" Дз.Лукаса і іншыя, балет "Князь-возера" В.Залатарова).

З другой паловы 50-х гадоў у развіцці беларускай музыкі пачаўся новы этап, характэрны больш глыбокім засваеннем рэчаіснасці і



*Курган Славы Савецкай Арміі – вызваліцельніцы Беларусі*

адыходам ад ілюстрацыйнасці. У сімфанічным жанры паспяхова працуюць М.Аладаў, Л.Абеліёвіч, Р.Бутвілоўскі, Я.Глебаў, А.Мдзівані, Дз.Смольскі, Г.Вагнер; у творах канцэртнага жанру – С.Картэс, Г.Вагнер, Дз.Смольскі, В.Раінчык. З'явамі культурнага жыцця сталі балеты "Выбранніца", "Курган", "Альпійская балада", "Тыль Уленшпігель", "Маленькі прынц" Я.Глебава (апошні быў пастаўлены ў Вялікім тэатры СССР у 1983 г.), "Пасля балю" Г.Вагнера; оперы "Новая зямля" Ю.Семянякі, "Сцежкаю жыцця" Г.Вагнера, "Сівая легенда" Дз.Смольскага, "Матухна Кураж" С.Картэса.

Цікава, што кампазітары звяртаюцца да лёсу рэальных гістарычных асоб, напрыклад оперы "Францішак Скарына" Дз.Смольскага, "Зорка Венера" (вобраз М.Багдановіча) Ю.Семянякі.

У жанры аперэты актыўна працуюць Ю.Семяняка, А.Мдзівані, Р.Сурус; у песенным жанры – У.Алоўнікаў, Я.Глебаў, Дз.Смольскі, У.Буднік, Э.Зарыцкі, Л.Захлеўны, В.Іваноў, І.Лучанок, Э.Ханок. У іх творчасці прысутнічае і патрыятычная тэматыка, і тэма гераізму, і лірыка. Трэба адзначыць, што большасць кампазітараў працавала ў розных жанрах.

Развівалася выяўленчае мастацтва. У першыя пасляваенныя гады мастакі знаходзіліся пад яркім уражаннем гераічных падзей Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху. Таму ўвага звярталася на асобныя эпізоды, ваенныя ўмовы, цяжкасці, радасці, баявыя справы партызанскіх груп і атрадаў. Так падыходзілі да вырашэння тэмы Я.Ціхановіч ("Партызаны ў разведцы", 1948), І.Давідовіч ("Партызаны на прывале", 1948), П.Гаўрыленка ("Пераправа", 1946; "На партызанскім аэрадроме", 1950), Г.Бржазоўскі ("Партызаны", 1961), А.Шыбнеў ("Палонных вядуць", 1947), У.Хрусталёў ("Вяртанне партызан з аперацыі", 1946). Тэме гераізму савецкіх людзей у гады вайны прысвечаны эпічныя палотны Я.Зайцава, В.Волкава, В.Цвіркі, У.Сухаверхава, Н.Воранава.

У 50-я гады гістарычны жанр як бы зліваўся ў адзіны акорд з тэматыкай Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху. Мастакі працавалі і над беларускай гісторыяй (А.Гугель, Я.Кудрэвіч "Кастусь Каліноўскі", 1958; П.Сергіевіч "Скарына ў друкарні", 1957; А.Кроль







*Архітэктурна-скульптурны комплекс "Мінск – горад-герой"*

"Я.Купала і Цётка ў Пецярбургу ў 1913 годзе", 1954; Я.Ціхановіч, І.Давідовіч "Янка Купала з калгаснікамі", 1961).

У 60-я гады пачала творчую дзейнасць новая плеяда таленавітых беларускіх мастакоў – Л.Шчамялёў, У.Стэльмашонак, А.Кішчанка, М.Данцыг, Г.Вашчанка, М.Савіцкі. Асабліва яскрава беларускае мастацтва заявіла пра сябе ў 1967 г., у час Усесаюзнай выстаўкі ў Маскве.

Сярод тых, чый творчы лёс адбыўся, – выдатны беларускі жывапісец М.Савіцкі. Яго творчасць – шматпланавая. Пачуццём гісторыі, роздумам пра лёс роднай зямлі прасякнута большасць яго палотнаў. Карціны М.Савіцкага пра партызан Беларусі – значная з'ява ў беларускім нацыянальным жывапісе. Гэта "Партызанская мадонна" (1967) – класічны сюжэт, выражаны ў драматычным праціпастаўленні сялянскай жанчыны-маці з рэаліямі вайны, "Партызаны. Блакада" (1967), "Аршанскія партызаны" (1968), "Клятва" (1969) і інш. Бадай, самы буйны твор мастака – "Айчынная вайна. 1944 год" – насценны роспіс для музея Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску (1970–1971).

Франтавік, які сам прайшоў праз фашысцкі лагер (у тым ліку Бухенвальд і Дахау), стварыў карціны антываеннага гучання: цыкл з 13 палотнаў "Лічбы на сэрцы" (1974–1980) і трыпціх "Агрэсія" (1984). Яны прасякнуты антыфашысцкім пафасам і публіцыстычнай завостранасцю. Сярод прац мастака – цыкл палотнаў для музея Я.Купалы ў Мінску ("Янка Купала", "Беларусы", "Камунары", "Партызаны", "Мужыкі", "Жніво", "На пакосе", 1976–1981) і інш.

У жанры пейзажа найбольш плённа працавалі мастакі старэйшага і сярэдняга пакаленняў, чыё майстэрства праявілася яшчэ ў даваенныя гады: В.Бялыніцкі-Біруля, І.Ахрэмчык, У.Кудрэвіч, М.Дучыц, В.Цвірка, М.Максімцоў, М.Чураба.

У канцы 50-х і ў 60-я гады развіваецца гарадскі пейзаж (П.Масленікаў, М.Данцыг, М.Манасзон, П.Гаўрыленка, А.Каржанеўскі, А.Мазалёў, Н.Воранаў).

Цэнтральнай фігурай у беларускай пасляваеннай пластыцы з'яўляецца З.Азгур. Ён працягвае пачатую яшчэ ў гады вайны серыю



*Манумент у гонар маці-патрыёткі ў Жодзіне*

партрэтаў рускіх палкаводцаў, пачынае новыя цыклы: на гісторыка-рэвалюцыйную тэму (партрэты У.Леніна, Ф.Дзяржынскага, Я.Свярдлова, М.Калініна), цыкл партрэтаў Герояў Сацыялістычнай Працы, кіраўнікоў камуністычных і рабочых партый, галерэю партрэтаў вядомых герояў (К.Ракасоўскі, К.Заслонаў і інш.). Ён працуе і над адной з самых вялікіх серый, якая налічвае дзесяткі партрэтаў прадстаўнікоў культуры мінулага і дзеячаў культуры і мастацтва савецкай Беларусі (Ф.Скарына, 1947; А.Пашкевіч, 1947; Я.Колас, 1949) і інш.

Ярка і важка праявілася творчасць А.Бембеля, А.Глебава, С.Селіханава і іншых скульптараў.

У манументальным мастацтве важнейшай тэмай сталі бяспрыкладны гераізм і ўздым народнага духу ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Гэта помнікі і курганы Славы, якія стаяць амаль ва ўсіх населеных пунктах Беларусі. Лепшыя манументы 50-х гадоў – помнікі К.Заслонаву ў Оршы і Марату Казею ў Мінску – выкананы С.Селіханавым. А самым значным дасягненнем беларускіх архітэктараў і скульптараў гэтага перыяду стаў ансамбль плошчы Перамогі ў Мінску з абеліскам-помнікам воінам Савецкай Арміі і партызанам, загінуўшым у баях з фашызмам (1954, скульптары З.Азгур, А.Бембель, А.Глебаў, С.Селіханаў, архітэктары У.Кароль і Г.Заборскі).

Цікава, што ідэя гэтага помніка нарадзілася яшчэ ў час вайны, у 1942 г. Сёння мала хто ведае, што граніт на аздобу помніка прывезены з-пад Днепрапятроўска і Жытоміра, мазаіку для выявы ордэна Перамогі прыслалі з Ленінградскай акадэміі мастацтваў, разьбу па граніту выканалі ўкраінскія каменячосы, а бронзавыя гарэльефы, меч, вянкі адлілі майстры Ленінграда.





Да канца 50-х гадоў у манументальнай скульптуры, як і ў мастацтве ў цэлым, з'явіліся новыя тэндэнцыі. У мастацтва прыйшло новае пакаленне мастакоў са сваімі ўяўленнямі аб сучаснасці і прыгажосці. Паступова манументальнае мастацтва пачынае адыгрываць усё больш важную ролю ў стварэнні горадабудаўнічых структур. Найбольш удалымі прыкладамі кампазіцыйнай сувязі з прасторавым асяроддзем могуць служыць помнік Я.Купалу (1972, скульптары А.Анікейчык, Л.Гуміlеўскі, А.Заспіцкі), комплекс "Мінск – горад-герой" (1985), Курган Славы Савецкай Арміі – вызваліцельніцы Беларусі (1969), помнікі Я.Коласу ў Мінску (1972, скульптар З.Азгур), Ф.Скарыне ў Полацку (1974, скульптары А. і І.Глебавы), мемарыяльныя комплексы "Хатынь" (1969, скульптар С.Селіханаў, архітэктары Ю.Градаў, В.Занковіч, Л.Левін), "Брэсцкая крэпасць-герой" (1969–1971, скульптары А.Кібальнікаў, А.Бембель, У.Бабыль, архітэктары У.Кароль, В.Волчак, В.Занковіч, Ю.Казакоў, А.Стаховіч, Г.Сысоеў), манумент у гонар савецкай маці-патрыёткі ў Жодзіне (1974, скульптары А.Заспіцкі, Г.Міско, М.Рыжанкоў, архітэктар А.Трафімчук) і інш.

Такім чынам, нават невялікі аналіз таго, што было створана ў сферы культуры, дае падставы гаварыць пра рознабаковае духоўнае жыццё беларускага народа.

# ГЛАВА 3

# БЕЛАРУСЬ НА МІЖНАРОДНАЙ АРЭНЕ

## § 1. Удзел БССР у барацьбе міжнароднага супольніцтва за вырашэнне глабальных сацыяльна-палітычных праблем, за мір і бяспеку

Яшчэ ў разгар цяжкіх падзей другой сусветнай вайны з 19 па 30 кастрычніка 1943 г. у Маскве адбылася чарговая канферэнцыя міністраў замежных спраў СССР, ЗША, Англіі. На ёй было прынята рашэнне аб стварэнні пасля вайны на прынцыпах суверэнітэту і роўнасці ўсіх дзяржаў усеагульнай міжнароднай арганізацыі – ААН. Праз месяц гэта рашэнне было зацверджана кіраўнікамі дзяржаў – удзельнікамі Тэгеранскай канферэнцыі.

1 лютага 1944 г. Вярхоўны Савет СССР прыняў закон, па якому ўсе саюзныя рэспублікі атрымалі права ўступаць у непасрэдныя зносіны з замежнымі дзяржавамі, заключаць з імі пагадненні і абменьвацца консульскімі і дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі.

У сакавіку 1944 г. быў створаны Народны камісарыят (з 1946 г. – Міністэрства) замежных спраў Беларусі. Першым міністрам стаў А.Гурыновіч.

У кастрычніку 1944 г. на канферэнцыі міністраў замежных спраў СССР, ЗША, Англіі абмяркоўваўся статут будучай ААН і склад яе ўдзельнікаў. Прадстаўнік СССР А.Грамыка прапанаваў уключыць у лік краін – стваральніц міжнароднай арганізацыі ўсе саюзныя рэспублікі. Гэта абгрунтоўвалася тым, што Англія таксама паставіла пытанне аб прыняцці ў ААН усіх яе калоній і дамініёнаў. Удзельнікі канферэнцыі не пагадзіліся з прапановамі Англіі і СССР.

Канчаткова гэта пытанне разглядалася на канферэнцыі кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў СССР, ЗША і Англіі ў Ялце ў 1945 г. Было дасягнута пагадненне аб правядзенні ўстаноўчай канферэнцыі ААН у Сан-Францыска (ЗША). Першымі ўдзельнікамі яе былі прызначаны СССР, Беларусь, Украіна. Уключэнне БССР у склад краін – стваральніц ААН было абумоўлена прызнаннем вялікага ўкладу яе ў разгром агульнага ворага – фашысцкай Германіі, а таксама вялікіх і цяжкіх людскіх і матэрыяльных страт у час вайны.

27 красавіка 1945 г. канферэнцыя суверэнных дзяржаў у Сан-Францыска прыняла рашэнне аб утварэнні новай міжнароднай арганізацыі – ААН і зацвердзіла Беларусь у ліку краін, яе заснавальніц. Канферэнцыя замацавала міжнародны статус БССР, прызнала яе раўнапраўным членам сусветнага супольніцтва.

Сёння ў перыядычным друку, розных даследаваннях можна сустрэць катэгарычнае сцвярджэнне, што, знаходзячыся ў складзе СССР, Беларусь не праводзіла ніякай самастойнай знешняй палітыкі. Безумоўна, уваходзячы ў адзіную дзяржаву – СССР, беларускім дыпламатычным колам неабходна было каардынаваць сваю знешнепалітычную дзейнасць, прытрымлівацца агульнага палітычнага і эканамічнага напрамку ў міжнародных зносінах. Галоўныя рашэнні па ўсіх кардынальных праблемах прымаліся адзіным дзяржаўным кіраўніцтвам у Маскве, і саюзным рэспублікам неабходна было ім падпарадкоўвацца. Але нельга не пагадзіцца і з тым, што Беларусь з’яўлялася адной з краін – заснавальніц ААН, удзельнічала ў працы звыш 100 міжнародных арганізацый і іх органаў, у тым ліку і выбарных.

Палітычныя, эканамічныя, культурныя адносіны звязвалі Беларусь з краінамі свету. Ужо 9 чэрвеня 1944 г. было заключана першае пагадненне паміж урадам БССР і Польскім камітэтам нацыянальнага вызвалення аб эвакуацыі беларускага насельніцтва з тэрыторыі Польшчы і польскіх грамадзян з тэрыторыі Беларусі. Пазней, 25 лістапада 1945 г., быў падпісаны дадатковы пратакол гэтага пагаднення.





Беларусь прымала ўдзел у стварэнні і дзейнасці такіх міжнародных дэмакратычных арганізацый, як Сусветная арганізацыя прафсаюзаў (1945), Міжнародная дэмакратычная арганізацыя жанчын (1945), Сусветная аранізацыя дэмакратычнай моладзі (1945), Сусветны Савет Міру (1948) і інш.

БССР настойліва і паслядоўна выступала за пакаранне ваенных злачынцаў. Яе прапановы былі вынесены на разгляд першай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН (1946). У выніку 13 лютага 1946 г. ААН прыняла рэзалюцыю “Аб выдачы і пакаранні ваенных злачынцаў”. Усе краіны міжнароднага супольніцтва павінны былі зрабіць захады па затрыманні ваенных злачынцаў і неадкладнай высылцы іх ў тыя месцы, дзе імі былі ўчынены забойствы. Аднак гэта рашэнне ААН не было выканана поўнасцю. Шмат ваенных злачынцаў збеглі з Еўропы і знайшлі надзейны прытулак у ЗША, Канадзе, Лацінскай Амерыцы, Аўстраліі.

У 1945 г. на Парыжскай мірнай канферэнцыі абмяркоўваліся тэрытарыяльныя і рэпарацыйныя пытанні. Беларуская дэлегацыя выступіла за ўстанаўленне такіх адносін у Еўропе, якія выключалі б дыскрымінацыю і знявагу народаў другімі або перагляд узнікшых пасля другой сусветнай вайны граніц. З гэтых пазіцый у лютым 1947 г. БССР падпісала мірныя дагаворы з Балгарыяй, Венгрыяй, Румыніяй, Фінляндыяй. БССР падтрымала прапанову СССР аб адраджэнні адзінай Германіі на дэмакратычнай аснове, з удзелам саміх немцаў, як гэта прадугледжвалася Патсдамскай канферэнцыяй 1945 г. Але гэта пытанне не было вырашана галоўным чынам з-за адсутнасці згоды і ўзаемаразумення кіруючых колаў краін былой антыгітлераўскай кааліцыі.

У 1948 г., нягледзячы на пратэст заходніх краін, СССР, у тым ліку і Беларусь, падтрымалі ідэю стварэння дзяржавы Ізраіль. Тады лічылася, што яўрэйскае насельніцтва Палесціны вядзе барацьбу супраць англійскага каланіяльнага іга, а ўрады суседніх арабскіх краін знаходзяцца пад уплывам Англіі. Калі ў 1948 г. было абвешчана аб стварэнні самастойнай дзяржавы Ізраіль, арабскія краіны, палічыўшы гэту з’яву незаконнай, пачалі ўзброеныя дзеянні супраць яўрэяў. Тады ў Савеце Бяспекі прадстаўнік СССР А.А. Грамыка выступіў у падтрымку Ізраіля. Ён заявіў, што арабы вядуць вайну “ў мэтах знішчэння нацыянальна-вызваленчага руху ў гэтай краіне”.

Кіраўнік беларускай дэлегацыі К.Кісялёў пайшоў яшчэ далей. Ён растлумачваў: “Ізраільская дзяржава нарадзілася ва ўзброенай барацьбе за свабоду і незалежнасць. Арабы болей не вядуць барацьбы за сваю незалежнасць, а за нафтавыя інтарэсы англа-амерыканцаў, якія хочуць захаваць у Палесціне каланіяльную сістэму”.

Калі ж мары Сталіна зрабіць Ізраіль праваднікам сваіх інтарэсаў на Блізкім Усходзе не ажыццявіліся (Ізраіль стаў прыхільнікам палітыкі ЗША), кіруючыя колы СССР, у іх ліку і Беларусі, павялі супрацьлеглую палітыку падтрымкі арабскіх краін, асуджэння Ізраіля, разрыву дыпламатычных адносін з ім.

З 1946 г. пасля антысавецкай прамовы У.Чэрчыля ў Фултане (ЗША) адносіны паміж СССР, ЗША і Англіяй рэзка пагаршаюцца. Заклік заходніх краін да супрацьстаяння з СССР карэнным чынам змяніў міжнародныя адносіны. Пачалася т.зв. "халодная вайна".

У 1949 г. заходнімі краінамі пад уплывам ЗША быў створаны Паўночна-Атлантычны блок (НАТА), у які ўвайшлі ЗША, Канада, Англія, Францыя, Бельгія, Галандыя, Данія, Люксембург, Італія, Партугалія, Нарвегія, Ісландыя, пазней Турцыя, Грэцыя, ФРГ. Гэтыя краіны пад сцягам барацьбы супраць камуністычнай пагрозы выдзялялі велізарныя грашовыя сродкі на ўзбраенне, падтрыманне "халоднай вайны" супраць СССР і краін сацыялістычнага лагера.

У 1954 г. у Паўднёва-Усходняй Азіі быў створаны ваенны блок СЕАТА. У 1956 г. на Арабскім Усходзе ўзнік Багдадскі пакт.

У 1949 г. з акупацыйных зон ЗША, Англіі, Францыі была створана ФРГ, адноўлены яе ўзброеныя сілы – Бундэсвер, пачалася мілітарызацыя Германіі. У адказ на гэта ва ўсходняй частцы Германіі ўзнікла ГДР. У 1955 г. быў заключаны ваенна-палітычны і эканамічны саюз краін сацыялістычнай садружнасці – Варшаўскі Дагавор[1]. Стварэнне ваенных блокаў пагаршала ўзаемаадносіны, павялічвала напружанасць паміж краінамі свету, асабліва ў Еўропе, дзе была сканцэнтравана найбольшая частка войск і ўзбраенняў. Еўропа зноў стала цэнтрам супрацьстаяння і небяспекі.

Супрацьстаянне ЗША і СССР адмоўна ўплывала на дзейнасць ААН, выклікала шматлікія цяжкасці ў міжнародных адносінах. Так, на працягу пяці гадоў – з 1949 па 1953 – на сесіях Генеральнай Асамблеі ААН па ініцыятыве СССР, Беларусі, Украіны выносіліся на абмеркаванне адны і тыя ж прапановы. Сярод іх – асуджэнне падрыхтоўкі вайны ў шэрагу заходніх краін, забарона атамнай зброі, заключэнне пяццю вялікімі дзяржавамі пакта аб умацаванні міру і інш. Дабіваючыся механічнай большасці галасоў у ААН у час абмеркавання, заходнія краіны адхілялі гэтыя прапановы.

Са свайго боку ЗША і іх прыхільнікі з 1948 па 1960 г. пастаянна ўздымалі на пасяджэннях ААН пытанні аб парушэнні правоў чалавека ў Беларусі, Венгрыі, Румыніі ў сувязі з судовымі працэсамі над палітычнымі і царкоўнымі дзеячамі. Супрацьстаянне з аднаго і другога боку перашкаджала прыняццю агульных рашэнняў, не спрыяла сумеснай творчай дзейнасці ў інтарэсах народаў.

У пачатку 50-х гадоў міжнароднае становішча ў свеце заставалася напружаным. Гэта датычыла не толькі Еўропы, дзе былі створаны магутныя ваенныя блокі, але і Азіі. На тэрыторыі Японскіх астравоў пашыралася колькасць амерыканскіх акупацыйных войск, ствараліся новыя ваенныя базы. У 1950 г. ЗША перайшлі да ўзброенай агрэсіі

[1] Варшаўскі Дагавор спыніў сваё існаванне ў 1991 г. пасля распаду сацыялістычнай сістэмы. Зараз шэраг краін былога Варшаўскага Дагавора вырашаюць пытанне аб уваходзе ў склад ваеннага блока НАТА, які прадаўжае сваё існаванне і ўмацоўваецца.





на Далёкім Усходзе, быў захоплены кітайскі востраў Тайвань, пачалася вайна ў Карэі. У гэты ж час прадаўжаліся баявыя дзеянні французскіх каланіяльных войск супраць насельніцтва Індакітая. У разгортванні баявых дзеянняў у Азіі народы свету ўбачылі ўзрастаючую пагрозу новай сусветнай вайны. Праблема захавання міру рабілася першачарговай, усенароднай, агульнанацыянальнай задачай кожнай краіны.

У міжнародным супольніцтве пачаўся агульнадэмакратычны рух прыхільнікаў міру – самы масавы грамадска-палітычны рух у гісторыі. Не стаяла ў баку ад гэтых падзей і Беларусь. На прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах, арганізацыях, навучальных установах праходзілі мітынгі, дзе працоўныя і моладзь рэспублікі выступалі з рашучым пратэстам супраць развязвання вайны. Адначасова ішоў збор подпісаў у абарону міру, падтрымку ахвяр агрэсіі, збіраліся грашовыя сродкі, харчаванне, адзенне і іншыя рэчы для аказання ім дапамогі. Працоўныя калектывы прымалі дадатковыя абавязацельствы аб датэрміновым выкананні планаў сваіх прадпрыемстваў. Зробленыя сродкі пералічвалі ў фонд дапамогі ахвярам агрэсіі.

Пасля смерці Сталіна (сакавік 1953 г.) адбываюцца значныя змены як ва ўнутранай, так і ў знешняй палітыцы СССР. Новае кіраўніцтва, узначаленае М.С.Хрушчовым, у аднабаковым парадку ажыццявіла шэраг мер па змяншэнні міжнароднай напружанасці і супрацьстаяння. Гэта адбілася на міжнародным супрацоўніцтве Беларусі з іншымі краінамі.

У 1954 г. Беларусь стала пастаянным членам ЮНЭСКА і Міжнароднай арганізацыі працы (МАП), а ў 1956 г. уступіла ў камітэт ААН па сельскай гаспадарцы і жыллёваму будаўніцтву. Рэспубліка ўдзельнічала ў вырашэнні align рознабаковых праблем жыцця міжнароднага супольніцтва. З 1951 па 1958 г. яе прадстаўнікі працавалі ў 8 чарговых і 3 надзвычайных Генеральных Асамблеях ААН, больш за 100 міжнародных канферэнцыях і нарадах.

Дзякуючы сумесным паслядоўным намаганням пастаянных членаў ААН, у іх ліку і Беларусі, у гэты перыяд адбывалася часовае аслабленне міжнароднай напружанасці. У 1953 г. спыняецца вайна ў Карэі, у 1954 г. – у Індакітаі. У 1955 г. было канчаткова вырашана пытанне аб пастаянным нейтралітэце Аўстрыі, устаноўлены дыпламатычныя адносіны паміж СССР і ФРГ. У 1955 г. адбылася дамоўленасць Савецкага Саюза з заходнімі краінамі аб скарачэнні ўзброеных сіл ЗША, СССР, Кітая да 1–1,5 млн чалавек, Англіі і Францыі – да 650 тыс. СССР у аднабаковым парадку даў згоду пасля скарачэння агульных узбраенняў пачаць ядзернае раззбраенне.

БССР аднадушна падтрымала гэтыя пагадненні, бо яе тэрыторыя лічылася перадавым фарпостам СССР на заходніх рубяжах. Тут больш, як у іншых саюзных рэспубліках, размяшчалася войск і ўзбраенняў, тактычнай і стратэгічнай ядзернай зброі.

Выконваючы свае абавязацельствы, СССР у 1953–1960 гг. у некалькі разоў, як планавалася, скараціў колькасць сваіх узброеных

сіл. У 1958 г. ён у аднабаковым парадку прыняў рашэнне спыніць выпрабаванне атамнай і вадароднай зброі.

Скарачэнне войск і ўзбраенняў праходзіла і на Беларусі. Аднак гэтыя дзеянні з боку кіраўніцтва СССР, асабіста М.С.Хрушчова, былі непаслядоўнымі, рабіліся паспешліва, па-кампанейску, без дэталёвага аналізу і абгрунтавання. Быў адхілены ад пасады міністр абароны Г.К.Жукаў, звольнена ў запас вялікая колькасць генералаў, вышэйшага і сярэдняга афіцэрскага складу, у іх ліку ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны.

Менавіта гэты крок паклаў пачатак шматлікім негатыўным з'явам ва ўзброеных сілах краіны, прывёў да аслаблення аўтарытэту арміі ў грамадстве. З-за мізэрнага пенсійнага забеспячэння вялікая колькасць ваеннаслужачых апынулася ў вельмі складаных эканамічных умовах і без жылля. У выніку скарачэння рэзка ўпала баяздольнасць арміі. У той жа час ЗША павялічылі колькасць сваіх войск у Еўропе, асабліва на кантрактнай аснове. Таму пазней на тэрыторыі Беларусі былі размешчаны дадатковыя кантынгенты ваеннаслужачых, павялічана колькасць навейшых узбраенняў.

Асабістым рашэннем М.С.Хрушчоў вызваліў ГДР ад далейшай выплаты рэпарацый на карысць СССР. Гэтым самым увесь цяжар утрымання савецкіх войск у краінах Усходняй Еўропы быў пакладзены на плечы савецкага народа, у тым ліку беларускага. Рэспубліка забяспечвала пастаўкі бульбы, мяса-малочных вырабаў, цукру, круп, абутку і г.д.

У сакавіку 1958 г. было адкрыта пастаяннае прадстаўніцтва Беларусі пры ААН, што садзейнічала пашырэнню ўдзелу Беларусі ў вырашэнні складаных праблем. Прадстаўніцтва пачало ажыццяўляць каардынацыю дзейнасці дзяржаўных і грамадскіх арганізацый БССР з асноўнымі органамі ААН, распаўсюджваць сярод насельніцтва краін свету інфармацыю аб палітычным, эканамічным і культурным жыцці беларускага народа.

У 50-х гадах адбываўся далейшы распад каланіяльнай сістэмы. Шэраг краін Азіі, Афрыкі, Бліжняга Усходу вызваліліся ад сваіх старых каланізатараў – Англіі і Францыі. У іх ліку Ірак, Егіпет, Лівія, Судан, Гана, Туніс, Марока і інш.

Беларусь як член ААН аказвала дапамогу гэтым краінам не толькі ў іх нацыянальным вызваленні, але і ў абароне іх дзяржаўнай незалежнасці, развіцці прамысловасці, сельскай гаспадаркі, культуры. Так, у ліпені 1952 г. на XIII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН беларуская дэлегацыя ўнесла прапанову адносна выкарыстання ў развіваючыхся краінах замежнага прыватнага капіталу. Змест яе праследаваў мэту паказаць гэтым краінам тыя негатыўныя з'явы, якія чакаюць іх у будучым з выпадку грабежніцкага выкарыстання багатых прыродных рэсурсаў. Генеральнаму сакратару ААН даручалася забяспечыць вывучэнне ўмоў пагадненняў, якія рэгламентавалі б дзейнасць замежных прыватных кампаній. Аднак прапанова беларускай дэлегацыі не была падтрымана іншымі членамі ААН. Спатрэбіўся час, каб пазней, у 70-х гадах, яна прыняла рашэнні, якія прадугледжвалі атрыманне развіваючыміся краінамі сваёй часткі прыбытку замежнага капіталу ад скарыстання іх прыродных рэсурсаў.





Як вядома, у першыя дзесяцігоддзі пасля вайны, акрамя праблемы захавання і ўмацавання міру, раззбраення, атрымання нацыянальнай незалежнасці шэрагам краін, міравое супольніцтва хвалявала вырашэнне і такіх складаных праблем, як барацьба супраць голаду, хвароб, за захаванне навакольнага асяроддзя і інш. У 50-х гадах побач з такімі цяжкімі захворваннямі, як малярыя, туберкулёз, сардэчна-сасудзістыя, якія забіралі жыцці мільёнаў людзей, вялікую занепакоенасць выклікалі анкалагічныя хваробы. Беларусь першай у 1959 г. на XIX сесіі Генеральнай Асамблеі ААН унесла прапанову аб заахвочванні навуковых пошукаў у галіне барацьбы з ракам. Прапанова атрымала падтрымку з боку ўсіх краін свету. У лістападзе 1959 г. Асамблея прыняла рашэнне, якое прызначала выданне грашовай прэміі агульнай сумай у 100 млн дол. за лепшыя навукова-даследчыя працы па вывучэнні прычын ракавых захворванняў, барацьбы з імі.

У канцы 50 – пачатку 60-х гадоў адбываюцца новыя змены ў міжнародным супольніцтве. Часова скарачаецца доля ЗША ў эканоміцы міравой сістэмы капіталізму. Федэратыўная Рэспубліка Германія ўсё больш вылучаецца на ролю галоўнага праваднікa інтарэсаў ЗША ў Еўропе. Краіны сацыялістычнага лагера асэнсоўвалі вынікі падзей 1956 г. у Венгрыі, аказвалі падтрымку Кубе. У 1960 г. на тэрыторыі СССР быў збіты амерыканскі шпіёнскі самалёт У-2, у 1960–1961 гг. абвастрыўся кангалезскі крызіс, у 1961 г. была ўзведзена Берлінская сцяна, ЗША аб'явілі блакаду Кубы. У 1962 г. узнік карыбскі крызіс. У 1964–1965 гг. ЗША пачалі вайну ва В'етнаме. Гэтыя падзеі яскрава сведчылі аб супрацьстаянні не толькі ЗША і СССР, але і капіталістычнай і сацыялістычнай сістэм. Уцягванне розных краін свету ў баявыя дзеянні пагражала ўзнікненнем трэцяй сусветнай вайны.

Беларусь як член ААН разам з іншымі краінамі рашуча выступіла за спыненне баявых дзеянняў у Індакітаі. Патрабаванні беларускай дэлегацыі на пасяджэннях ААН аб спыненні вайны ў В'етнаме падтрымаў увесь беларускі народ. На прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах, навучальных установах праходзілі шматлікія мітынгі пратэсту супраць вайны, у падтрымку в'етнамскага народа. Рэзалюцыі, пастановы, звароты беларускай грамадскасці да ўрада ЗША змяшчаліся ў перыядычным друку, накіроўваліся ў замежныя пасольствы, ААН.

Беларусь актыўна выступала за поўную ліквідацыю каланіялізму ў свеце. На XV сесіі Генеральнай Асамблеі (1960) яна разам з СССР і Украінай унесла прапанову прыняць Дэкларацыю аб прадастаўленні незалежнасці ўсім каланіяльным краінам і народам. Прапанова была падтрымана большасцю членаў ААН. Дэкларацыя з'явілася асновай для канчатковай ліквідацыі каланіялізму ў свеце.

1960 г. увайшоў у гісторыю як год Афрыкі. На яе тэрыторыі ўзнікла амаль 20 незалежных дзяржаў, у іх ліку Камерун, Конга, Самалі, Чад, Мадагаскар і інш.

У 50–60-х гадах у дзейнасці ААН склалася сітуацыя, калі прадстаўнікі капіталістычных і сацыялістычных краін выступалі са сваімі прапановамі з прапагандысцкімі палітычнымі мэтамі. Паміж вядучымі краінамі свету СССР і ЗША ішло як бы нейкае спаборніцтва: хто больш выступіць з прапановамі па абмеркаванні найбольш вострых і складаных пытанняў. На жаль, гэтыя прапановы рабіліся без дастаткова абгрунтавання, узаемнай згоды.

У той жа час СССР і сацыялістычныя краіны, адчуваючы непамерны цяжар гонкі ўзбраенняў, якую ім навязалі заходнія краіны, усё настойлівей патрабавалі ўсеагульнага і поўнага раззбраення, знішчэння ядзернай і хімічнай зброі. Заходнія краіны, нягледзячы на свой стратэгічны курс гонкай узбраенняў давесці сацыялістычныя краіны да банкруцтва, вымушаны былі ісці на падпісанне некаторых пагадненняў. У 1963 г. у Маскве быў падпісаны Дагавор аб забароне выпрабаванняў ядзернай зброі ў трох сферах: атмасферы, космасе, пад вадой. Беларусь падпісала і ратыфікавала яго ў ліку першых. Да канца 70-х гадоў яго падпісала каля 120 краін свету.

БССР прымала ўдзел у распрацоўцы і прыняцці ў 1968 г. XXII сесіяй ААН Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі. Па ўмовах гэтага дагавора ўсе неядзерныя дзяржавы абавязваліся не вырабляць, не размяшчаць, не выкарыстоўваць ядзернай зброі. Свае абавязацельствы рэспубліка выконвае паслядоўна. У 1991 г. яна абвясціла аб статусе бяз'ядзернай дзяржавы, а ў 1994 г. замацавала яго ў новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Улічваючы пагрозу выкарыстання ядзернай зброі, Беларусь далучылася да шэрага міжнародных дагавораў, у іх ліку: "Аб прынцыпах дзейнасці дзяржаў па вывучэнні і выкарыстанні касмічнай прасторы, уключаючы Луну" (1967), "Аб забароне размяшчэння на дне мораў і акіянаў, у яго нетрах ядзернай зброі і іншых сродкаў масавага знішчэння людзей" (1971), "Канвенцыя аб забароне бактэрыялагічнай (біялагічнай) і таксічнай зброі" (1972), "Канвенцыя аб забароне ваеннага або ўсялякага іншага варожага выкарыстання сродкаў уздзеяння на прыроднае асяроддзе" (1977) і інш.

Карыбскі крызіс 1962 г. паказаў значную перавагу ЗША над СССР у стратэгічных узбраеннях, перш за ўсё ядзерных. Таму кіраўніцтва СССР вымушана было тэрмінова адшукваць меры па забеспячэнні ваенна-стратэгічнага парытэту з ЗША. Быў ажыццёўлены шэраг мерапрыемстваў па ўмацаванні абараназдольнасці СССР, асабліва ў галіне стратэгічных ядзерных і ваенна-марскіх сіл. На тэрыторыі Беларусі і іншых рэгіёнаў была размешчана стратэгічная ядзерная зброя. Запуск ракет мог ажыццяўляцца праз радыётэхнічныя сродкі з любой мясцовасці Савецкага Саюза.





Ліквідаванае ў пачатку 70-х гадоў адставанне СССР у стратэгічных узбраеннях прымусіла ЗША пайсці на заключэнне разнастайных пагадненняў адносна ядзернай зброі, скарачэнне гонкі ўзбраенняў, паляпшэнне адносін паміж Захадам і Усходам. У 1972 г. былі падпісаны савецка-амерыканскія дагаворы аб абмежаванні сістэм супрацьракетнай абароны, пагадненне аб абмежаванні стратэгічных наступальных узбраенняў і інш. Свой уклад у гэту справу ўносіла і Беларусь. Напрыклад, у 1975 г. пры актыўных намаганнях ААН была прынята Дэкларацыя аб выкарыстанні навукова-тэхнічнага прагрэсу ў інтарэсах міру для ўсяго чалавецтва.

У 1974–1975 гг. БССР выбіралася пастаянным членам Савета Бяспекі ААН. Яна з'яўлялася членам міжурадавай арганізацыі ЮНЭСКА – аднаго са спецыялізаваных органаў ААН. Галоўнай мэтай гэтай арганізацыі, акрамя развіцця адукацыі, навукі і культуры, было садзейнічанне ўмацаванню міру і бяспекі.

Прадстаўнікі Беларускага камітэта абароны міру ў 1973, 1979 гг. удзельнічалі ў рэйдах міру па краінах Паўночнай Еўропы. Яны сустракаліся з жыхарамі Даніі, Нарвегіі, Фінляндыі і іншых краін. Асаблівая ўвага на Беларусі ўдзялялася правядзенню мерапрыемстваў, звязаных з трагічнымі падзеямі другой сусветнай вайны, захаваннем міру ў Еўропе. У 1972 г. у рэспубліцы адбылася міжнародная сустрэча прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый Даніі, Італіі, Нарвегіі, ФРГ, Японіі і іншых краін. Яна праходзіла пад дэвізам: "Няхай ніколі не паўторыцца трагедыя Хатыні, Лідзіцы, Арадура, Хірасімы, Сонгмі".

Значным дасягненнем краін – удзельніц ААН, у тым ліку і Беларусі, з'явілася правядзенне ў 1975 г. нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, на якой прысутнічалі кіраўнікі 33 еўрапейскіх дзяржаў, ЗША і Канады. У пагадненні аб мерах па ўмацаванні даверу і некаторых аспектах бяспекі і раззбраення прадугледжвалася прадстаўленне папярэдніх звестак аб правядзенні любых манеўраў вайскоўцаў, ажыццяўленне сістэмы назіранняў за імі, кантролю за ўзбраеннем і г.д. Гэта мела непасрэдныя адносіны да Беларусі, на тэрыторыі якой знаходзіліся шматлікія вайсковыя злучэнні, праводзіліся разнастайныя манеўры войск.

Хельсінкская нарада сведчыла аб уступленні Еўропы ў новы гістарычны перыяд разрадкі міжнароднай напружанасці. Беларусь як член ААН і адна з еўрапейскіх краін садзейнічала гэтаму. У 1979 г. яна падтрымала рашэнне СССР аб аднабаковым скарачэнні яго войск ва Усходняй Еўропе і вывадзе з ГДР 20 тыс. ваеннаслужачых і 1 тыс. танкаў, а ў 1980 г. – мемарандум "За мір і раззбраенне".

На мяжы 70–80-х гадоў разрадка міжнароднай напружанасці змянілася абвастрэннем адносін паміж ЗША і СССР.

У 1979 г. ЗША пачалі размяшчэнне ў краінах Заходняй Еўропы сваіх ядзерных ракет, якія па дальнасці палёту маглі дасягаць Урала. ЗША адмовіліся ратыфікаваць Дагавор аб абмежаванні стратэгічных узбраенняў (АСУ-2), увялі эканамічныя санкцыі супраць СССР і сацыялістычных краін, уступілі на шлях аднаўлення "халоднай вайны".

Са свайго боку СССР прымаў рашэнні, якія супярэчылі інтарэсам міжнароднага супольніцтва. У 1979 г. ён увёў свае войскі ў Афганістан. Па сутнасці, Афганістан, як раней Карэя або В'етнам, быў ператвораны ў ваенны палігон, дзе ажыццяўлялася выпрабаванне новых відаў зброі краін з розным сацыяльна-эканамічным ладам. Дэлегацыя БССР была ў ліку тых, хто не падтрымаў патрабавання ААН аб вывадзе савецкіх войск з гэтай краіны. Прадстаўнікі Беларусі з ліку вайскоўцаў Савецкай Арміі ўдзельнічалі там у баявых дзеяннях. Шматгадовае кровапраліцце яскрава паказала памылковасць гэтага рашэння.

Супрацьстаянне двух лагераў, і перш за ўсё ЗША і СССР, пагражала пашырэннем баявых дзеянняў, узнікненнем новай сусветнай вайны. Таму не выпадкова ў канцы 1981 г. чарговая сесія Генеральнай Асамблеі ААН прыняла прапанаваную дэлегацыямі Беларусі і Украіны Дэкларацыю аб прадухіленні ядзернай вайны. У ёй адзначалася, што тыя дзяржавы і іх кіруючыя колы, якія першымі пачнуць баявыя дзеянні з выкарыстаннем ядзернай зброі, будуць абвешчаны міравым супольніцтвам ваеннымі злачынцамі і панясуць усю адказнасць за свае дзеянні.

Дэлегацыі Беларусі ў ААН даводзілася разам з іншымі весці барацьбу за спыненне выкарыстання касмічнай прасторы ў ваенных мэтах. Гэта было звязана з тым, што з прыходам да ўлады прэзідэнта Р.Рэйгана ЗША пачалі ажыццяўляць праграму “зоркавых войнаў” з выкарыстаннем ядзернай зброі. Таму ў 1981–1985 гг. беларуская дэлегацыя разам з украінскай і іншымі ў розных рэдакцыях выносіла на абмеркаванне ААН амаль адны і тыя ж прапановы аб забароне выкарыстання касмічнай прасторы ў ваенных мэтах. Аднак гэта праблема не вырашалася. Толькі ў 1993 г. ЗША прынялі рашэнне аб спыненні выканання праграмы “зоркавых войнаў”.

У знешнепалітычнай дзейнасці Беларусі гісторыя зафіксавала і такі крок. У 1984 г. БССР сумесна з Украінай унеслі прапанову, па якой Генеральная Асамблея ААН прыняла рэзалюцыю “Аб недапушчальнасці палітыкі дзяржаўнага тэрарызму і іншых дзеянняў дзяржаў, накіраваных на падрыў грамадска-палітычнага ладу ў іншых суверэнных краінах”. Гэта было сімвалічна ў святле далейшых гістарычных падзей: развалу сацыялістычнай сістэмы і СССР.

Такім чынам, з'яўляючыся пастаянным членам ААН, БССР на працягу 1945–1985 гг. прымала актыўны ўдзел у распрацоўцы і ажыццяўленні рашэнняў гэтай арганізацыі па самых разнастайных праблемах жыцця міжнароднага супольніцтва. Уваходзячы ў склад шматлікіх камітэтаў і арганізацый ААН, рэспубліка рабіла ўсё магчымае, каб захаваць мір і бяспеку паміж народамі, зменшыць ваеннае супрацьстаянне, прадухіліць узброеныя канфлікты і войны, спыніць выпрабаванні і распаўсюджванне ядзернай зброі. Асаблівую ўвагу кіруючых колаў і грамадскасці рэспублікі прыцягвалі падзеі на Еўрапейскім кантыненце. Беларускі народ пашыраў і ўмацоўваў свае сувязі з сусветнай грамадскасцю, прыкладаў намаганні ў вырашэнні складаных праблем, што хвалююць чалавецтва.





## § 2. Развіццё гандлёва-эканамічных адносін БССР з замежнымі краінамі

Важнае месца ў міжнароднай дзейнасці БССР займала развіццё эканамічных сувязей з замежнымі краінамі. Гаворачы аб гэтым, неабходна ўлічваць геапалітычнае становішча Беларусі. Праз яе тэрыторыю праходзілі шляхі зносін з Усходу на Захад і з Поўначы на Поўдзень. Шырокая сетка аўтамабільных, чыгуначных, паветраных, водных шляхоў зносін давала магчымасць ёй весці рознабаковае гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва як з былымі рэспублікамі СССР, так і з еўрапейскімі краінамі.

На тэрыторыі рэспублікі размяшчаліся шматлікія прадпрыемствы агульнасаюзнага падпарадкавання, якія займаліся вырабам прадукцыі для патрэб ваенна-прамысловага комплексу. Яны аснашчаліся навейшым айчынным і замежным абсталяваннем, выпускалі прадукцыю сусветнага ўзроўню. Тут канцэнтраваліся найбольш кваліфікаваныя кадры інжынераў, тэхнікаў, рабочых.

У рэспубліцы, асабліва ў Мінску, была створана сетка акадэмічных і галіновых навукова-даследчых інстытутаў, канструктарскіх арганізацый і лабараторый, якія займаліся навукова-даследчай работай, укараненнем вынікаў яе ў вытворчасць. Многія фундаментальныя тэарэтычныя і тэхнічныя распрацоўкі адпавядалі сусветнаму ўзроўню ці пераўзыходзілі яго.

Нельга не ўлічваць і тых абставін, што прадпрыемствы рэспублікі амаль заўсёды выконвалі пяцігадовыя планы развіцця народнай гаспадаркі па ўсіх асноўных паказчыках. Тут была лепшай працоўная і дагаворная дысцыпліна.

У той жа час існавала шырокая кааперацыя. Толькі на патрэбы беларускіх заводаў па выпуску трактароў і самазвалаў працавала звыш 2 тыс. прадпрыемстваў з іншых саюзных рэспублік. Таму канкурэнтаздольнасць беларускіх машын і абсталявання залежала ад тысяч пастаўшчыкоў камплектуючых дэталяў.

Беларусь, як і іншыя саюзныя рэспублікі былога СССР, не мела самастойнага выхаду за мяжу ў эканамічных адносінах. Рэалізацыяй тавараў, выпрабленых на экспарт прадпрыемствамі рэспублікі, займаліся Міністэрства замежнага гандлю СССР і яго знешнегандлёвыя аб'яднанні. Беларусь выступала ў якасці пастаўшчыка тавараў па заказах гэтых ведамстваў.

Уступленне ў ААН, развіццё эканомікі ў пасляваенны перыяд дазволілі Беларусі выйсці на шлях шырокага эканамічнага супрацоўніцтва з сацыялістычнымі, капіталістычнымі і развіваючыміся краінамі.

У жніўні 1945 г. БССР уступіла ў шэрагі ЮНРРА (Адміністрацыі Аб'яднаных Нацый для аказання дапамогі і аднаўлення пацярпеўшых у гады вайны краін). Улічваючы вельмі цяжкае эканамічнае

становішча Беларусі пасля вайны, ААН у снежні 1945 г. прыняла рашэнне аб аказанні ёй дапамогі. Яно прадугледжвала эканамічную падтрымку грашыма ў памеры 61 млн дол. Гэтыя сродкі выдзяляліся на аднаўленне гаспадаркі, забеспячэнне насельніцтва самымі неабходнымі сродкамі існавання: харчаваннем, вопраткай, абуткам, лекамі і г.д.

Памер гэтай дапамогі быў мізэрным. У разліку на душу насельніцтва ён складаў 5,8 дол., у той час як на долю аднаго жыхара Грэцыі прыпадала 46,7 дол. дапамогі. Аднак і такая падтрымка беларускаму народу ў тыя гады была надзвычай неабходнай. Урад рэспублікі выказаў падзяку ў адрас ААН.

У 1946 г. Камітэт дапамогі дзецям-сіротам звярнуўся да ЮНРРА з просьбай аб выдзяленні сродкаў. У адказ ААН накіравала ў якасці гуманітарнай дапамогі дзецям-сіротам 10 млн дол. ЗША са свайго боку выдзелілі на гэтыя мэты 100 тыс. дол.

Другая сусветная вайна адкінула гаспадарчае развіццё Еўропы на дзесяцігоддзі назад. Каб узняцца з руін, неабходна было абаперціся на дапамогу і падтрымку больш эканамічна моцнай дзяржавы. Краіны Усходняй Еўропы атрымлівалі такую дапамогу з боку СССР, які сам быў разбураны вайной. Краіны Заходняй Еўропы, і перш за ўсё Заходняя Германія, абапіраліся на падтрымку ЗША. Была створана адзіная эканамічная сістэма супрацоўніцтва заходніх краін Еўропы (ЕС).

Злучаныя Штаты Амерыкі з'яўляліся самай моцнай дзяржавай. На працягу больш за 200 гадоў яна не мела на сваёй тэрыторыі войнаў. У час другой сусветнай вайны прыбытак яе манаполій склаў 117 млрд дол., у той час як за пяць перадваенных гадоў – 17,5 млрд дол. ЗША падпарадкавалі сабе шматлікія сусветныя шляхі гандлёва-гаспадарчых зносін, месцы здабычы сыравіны, энергетычна-паліўныя, грашовыя і іншыя сродкі, больш за 3/4 залатога запасу краін свету. Таму галоўную мэту кіруючыя колы ЗША ў пасляваенны перыяд бачылі ва ўстанаўленні не толькі геапалітычнага, але і геаэканамічнага гаспадарання ў свеце. У 1945 г. у Мексіцы на канферэнцыі краін Лацінскай Амерыкі была прынята "Эканамічная хартыя", якая здымала ўсе перашкоды і абмежаванні для пранікнення амерыканскага капіталу ў краіны Лацінскай Амерыкі.

З 1947 г. ЗША пачалі ажыццяўляць "План Маршала" – план эканамічнай дапамогі і пераўтварэнняў у краінах Еўропы і Японіі. Пасля пачатку "халоднай вайны" ЗША сталі рэзка адыходзіць ад палітыкі супрацоўніцтва з СССР. Яны запатрабавалі ад яго вярнуць даўгі па ленд-лізу, прыпынілі ўсялякую эканамічную падтрымку і гандаль. У 1951 г. кангрэс ЗША законам забараніў краінам, якія атрымлівалі іх дапамогу, весці любыя гандлёва-эканамічныя сувязі з СССР. Гэта прывяло да скарачэння тавараабароту паміж СССР і капіталістычнымі дзяржавамі з 1948 па 1955 г. на 35 %.

У студзені 1949 г. былі створаны Савет Эканамічнай Узаемадапамогі (СЭУ). У яго ўвайшлі СССР, Польшча, Балгарыя, Венгрыя і іншыя краіны Усходняй Еўропы. Пазней далучыліся ГДР, Куба, В'етнам. Галоўнай мэтай дзейнасці СЭУ з'яўлялася развіццё эканамічнага супрацоўніцтва, абмен вытворчым вопытам, перадача навукова-тэхнічнай інфармацыі, прамысловая кааперацыя, пашырэнне эканамічнай інтэграцыі ў розных галінах вытворчасці і г.д.





З гэтага моманту пачынаецца новы перыяд знешнеэканамічных адносін Беларусі з замежнымі краінамі. Эканоміка рэспублікі як састаўная частка адзінага гаспадарчага комплексу СССР была ўключана ў знешнеэканамічныя сувязі з рознымі краінамі свету.

У 40-х гадах эканамічнае супрацоўніцтва было абмежаваным. Гаспадарка рэспублікі была поўнасцю разбурана. Эканамічная дапамога ёй ішла галоўным чынам з тых саюзных рэспублік, якія не падвергліся нямецка-фашысцкай акупацыі. У той жа час сельскагаспадарчая прадукцыя, сыравіна, вырабы мясцовай прамысловасці Беларусі накіроўваліся ў сацыялістычныя краіны, перш за ўсё ў тыя, дзе знаходзіліся савецкія войскі. Больш значныя змены ў развіцці эканамічнага супрацоўніцтва з сацыялістычнымі краінамі Усходняй Еўропы пачынаюцца з сярэдзіны 50-х гадоў. У 1952 г. у Мінску было створана аддзяленне Усесаюзнай гандлёвай палаты, праз якое ажыццяўлялася мэтанакіраваная палітыка ў галіне знешнеэканамічных адносін.

Павялічыліся пастаўкі машын і прамысловага абсталявання з рэспублікі перш за ўсё сацыялістычным краінам Еўропы. Вялікім попытам карысталася прадукцыя такіх прадпрыемстваў, як МАЗ, МТЗ, Гомсельмаш, станкабудаўнічых заводаў Мінска, Віцебска і інш. На долю краін СЭУ прыпадала звыш 2/3 экспартных паставак з БССР.

У другой палове 50-х гадоў прадукцыя больш за 120 прадпрыемстваў рэспублікі пастаўлялася на экспарт. Значна пашыраліся пастаўкі аўтамабіляў, самазвалаў, трактароў, металарэзных станкоў, снегаачышчальнікаў, падшыпнікаў, электраабсталявання, радыётэхнікі, швейных вырабаў. Галоўнае месца ў структуры экспарту займалі вырабы машынабудавання і металаапрацоўкі, якія павялічыліся амаль у 3 разы.

У 1957 г. беларускія трактары экспартаваліся ў 20, аўтамабілі ў 21 краіну свету. Станкі набывалі амаль усе сацыялістычныя краіны, а таксама Аўстрыя, Індыя, Фінляндыя. Поруч з аўтамабільнай, трактарнай, станкабудаўнічай прадукцыяй, значна большае значэнне набывае выпуск на экспарт радыёпрыёмнікаў, электравымяральных і магнітна-электрычных прыбораў, генератараў, амперметраў, вальтметраў і інш.

Электратэхнічным абсталяваннем з Беларусі аснашчаліся новыя прадпрыемствы, якія будаваліся з дапамогай СССР у розных краінах свету. У іх ліку Бхілайскі металургічны камбінат у Індыі, Асуанская ГЭС у Егіпце і інш.

Развіццю эканамічных сувязей спрыяў удзел прадпрыемстваў у міжнародных кірмашах, гандлёва-прамысловых выстаўках, якія

45. Зак. 5565

адбываліся штогод у розных краінах. У 1956 г. беларускія тавары дэманстраваліся на 14 міжнародных выстаўках. На Брусельскай выстаўцы 1958 г. прэміі "Гран-пры" і Залатыя медалі атрымалі самазвал МАЗ-530, трактар МТЗ-70, самаходны сельскагаспадарчы камбайн і іншыя вырабы беларускіх прадпрыемстваў.

Беларусь не толькі пастаўляла вырабы на экспарт, але і атрымлівала імпартную прадукцыю. Перш за ўсё гэта былі сельскагаспадарчая тэхніка, сродкі транспарту і сувязі, медыцынскае абсталяванне, прамысловыя і харчовыя тавары, сыравіна для лёгкай і харчовай прамысловасці. У 50-х гадах Беларусь атрымлівала з Егіпта, Сірыі, Ірана, Афганістана, Пакістана баваўняную сыравіну, з Індыі, Марока, Аргенціны, Уругвая – воўну і шарсцяное прадзіва, з Інданезіі і Малайзіі – натуральны каўчук, з Ганы, Нігерыі, Бразіліі, Эквадора – сыравіну для кандытарскай прамысловасці і г.д.

З сярэдзіны 50-х гадоў пачалі аднаўляцца і пашырацца эканамічныя сувязі з капіталістычнымі краінамі. Заключаліся новыя пагадненні аб пастаўках тавараў паміж СССР і Францыяй, Італіяй, Аўстрыяй, Канадай, Швецыяй, іншымі краінамі. У ажыццяўленні экспартных паставак тавараў у гэтыя краіны значную ролю адыгрывала Беларусь са сваімі традыцыйнымі вырабамі – аўтамабілямі, трактарамі і г.д.

Аднак эканамічныя адносіны з капіталістычнымі краінамі ў гэты час былі складанымі. З аднаго боку, гэта тлумачылася супрацьстаяннем дзвюх сацыяльна-палітычных сістэм, нежаданнем капіталістычных краін страчваць свае традыцыйныя рынкі збыту. З другога – нізкім тэхнічным узроўнем часткі вырабаў сацыялістычных краін. Не заўсёды прадбачлівую палітыку праводзілі кіруючыя колы СССР, аддаючы перавагу экспарту сыравіны, энергетычна-паліўных сродкаў замест паляпшэння якасці тавараў.

У другой палове 60-х гадоў павялічваецца аб'ём гандлёвых паставак беларускіх тавараў у капіталістычныя краіны, асабліва па доўгатэрміновых пагадненнях. Значным попытам карысталіся металаапрацоўчыя станкі, якія набывалі фірмы 14 капіталістычных краін, у тым ліку Англіі, ФРГ, Аўстрыі, Японіі, Даніі і інш. Экспарт трактароў павялічыўся больш чым утрая. Яны пастаўляліся ў 11 капіталістычных краін. Сярод іх былі Канада, Фінляндыя, Швецыя і інш.

Шырокім попытам сярод замежных пакупнікоў карысталіся беларускія веласіпеды, гадзіннікі, фотаапараты, шкло, іншыя вырабы. Добра ішла на экспарт прадукцыя швейных прадпрыемстваў: ільняныя і баваўняныя тканіны, ручнікі, абрусы, бялізна. Напрыклад, аршанскія абрусы з ільновалакна экспартаваліся ў дзесяткі замежных краін.

У развіваючыяся краіны пастаўляліся трактары, аўтамабілі, металаапрацоўчыя станкі, вырабы электратэхнічнай, лёгкай прамысловасці. Значнае месца займалі камплектныя пастаўкі абсталявання для прадпрыемстваў, якія будаваліся з дапамогай СССР. У 1968 г.





прадукцыю беларускай прамысловасці куплялі каля 60 развіваючыхся краін Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі. Рэспубліка аказвала дапамогу ў будаўніцтве заводаў: металургічных у Егіпце, Індыі, Іране, машынабудаўнічага ў Алжыры, цэментнага ў Йемене і інш. Пачынаючы з 1965 г. развіваючыяся краіны атрымалі права ўвозіць свае тавары ў СССР без пошліны, у тым ліку і ў Беларусь.

Удзел у міжнародным гандлі дазваляў рэспубліцы павялічваць імпарт неабходнай сыравіны, машын, прамысловага абсталявання для патрэб сваіх прадпрыемстваў. Толькі з 1959 па 1965 г. імпарт машын і абсталявання ў Беларусь павялічыўся больш чым утрая. Ім было аснашчана каля 100 прадпрыемстваў розных галін прамысловасці.

У 70-я гады эканоміка Беларусі ўсё больш і больш інтэгравалася не толькі ў агульнасаюзную, але і ў эканоміку сацыялістычных еўрапейскіх краін. Рэспубліка з'яўлялася актыўным удзельнікам стварэння адзінай энергетычнай сістэмы "Мір", будаўніцтва нафтаправода "Дружба", газаправода ў Заходнюю Еўропу. З Беларусі ў сацыялістычныя краіны пастаўляліся навейшае абсталяванне для будаўніцтва энергетычных аб'ектаў, прадпрыемстваў металургічнай і металаапрацоўчай галін прамысловасці, мінеральныя ўгнаенні, тавары народнага спажывання і г.д.

Вучоныя, канструктары, інжынеры і тэхнікі рэспублікі разам са спецыялістамі шэрага сацыялістычных краін прынялі ўдзел у распрацоўцы і асваенні адзінай еўрапейскай сістэмы сродкаў вылічальнай тэхнікі. Асноўнымі ўдзельнікамі гэтай працы з'яўляліся калектывы Мінскага завода вылічальнай тэхнікі імя С.Арджанікідзе, інстытутаў электронна-вылічальнай тэхнікі і матэматыкі АН БССР, Мінскага радыётэхнічнага інстытута. Вынікам сумеснай працы з'явілася цэлае пакаленне электронна-вылічальных машын сямейства ЕС.

У пачатку 70-х гадоў на долю беларускага экспарту ў сацыялістычныя краіны прыпадала: электронна-вылічальных машын – 91 %, матацыклаў – 88, металарэжучых станкоў – 70, грузавых аўтамабіляў – 56, трактароў – 54 %. Усяго больш за 300 прадпрыемстваў Беларусі пастаўлялі сваю прадукцыю прыкладна ў 100 краін свету.

У сваю чаргу, з сацыялістычных краін рэспубліка імпартавала разнастайнае прамысловае, гандлёвае, медыцынскае абсталяванне, сродкі транспарту і сувязі, сельскагаспадарчую тэхніку, харчовыя тавары, сыравіну, медыкаменты. Пашырэнню міжнародных гандлёвых адносін спрыяла і тое, што ў 1972 г. Мінскае аддзяленне Усесаюзнай гандлёвай палаты было пераўтворана ў Гандлёва-прамысловую палату БССР. З канца 70-х гадоў палата падтрымлівала дзелавыя сувязі амаль з 500 замежнымі фірмамі і аб'яднаннямі 23 краін свету. За асабісты ўклад у развіццё міжнароднага супрацоўніцтва ў 1985 г. яна была адзначана міжнароднай прэміяй "Залаты Меркурый".

У 70-х гадах было наладжана шырокае гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва Беларусі з развіваючыміся краінамі Азіі, Афрыкі,

Лацінскай Амерыкі, на долю якіх прыпадала каля 10 % экспартных паставак з БССР, у тым ліку 1/5 вырабленых на экспарт металарэзных станкоў і аўтамабіляў высокай грузападымальнасці, 1/4 трактароў, 100 % бульдозераў і будаўнічага абсталявання. На экспарт адпраўляліся станкі ў 14, трактары – у 10, аўтамабілі – у 8 развіваючыхся краін Азіі. У прыватнасці, вырабы Магілёўскага ліфтабудаўнічага завода накіроўваліся ў Іран, Пакістан, Турцыю. Сваю прадукцыю ў краіны Азіі адпраўлялі таксама Мінскі завод шасцярон, Бярозаўскі металаканструкцый, Мінскі гадзіннікавы заводы, Гомсельмаш і інш.

Прадукцыю беларускіх прадпрыемстваў набывалі і краіны Афрыканскага кантынента. У першую чаргу гэта былі трактары, аўтамабілі, металарэзныя станкі, будаўнічая тэхніка, радыётэхнічная апаратура, тавары народнага ўжытку і інш. Беларускія аўтамабілі паступалі ў 10, трактары – у 7 афрыканскіх краін. Спажыўцамі беларускіх тавараў з'яўляліся Алжыр, Ангола, Эфіопія, Мазамбік, Мадагаскар, Замбія, Кенія, Нігерыя і інш. Так, Маладзечанскі станкабудаўнічы завод экспартаваў сваю прадукцыю ў Лівію, Алжыр, Эфіопію, Маўрытанію і іншыя краіны.

У лацінаамерыканскія краіны Беларусь пастаўляла прамысловыя вырабы. Станкі набывалі Аргенціна, Бразілія, Калумбія, Мексіка, Уругвай, трактары – Калумбія і інш. Акрамя машын і абсталявання ў краіны Лацінскай Амерыкі экспартаваліся інструменты, гадзіннікі, радыёпрыёмнікі, тэлевізары, халадзільнікі і іншыя вырабы.

Больш за 80 % экспарту ў развіваючыяся краіны прыпадала на стварэнне і развіццё іх нацыянальнай прамысловасці і звязаных з ёй галін вытворчасці. Таму ў беларускім экспарце значнае месца займалі пастаўкі тэхналагічнага абсталявання, прыбораў, вузлоў для будаўніцтва і аснашчэння новых прадпрыемстваў.

Беларусь з'яўлялася надзейным рынкам збыту тавараў з развіваючыхся краін. Толькі ў 1978 г. імпарт з краін Азіі і Афрыкі склаў больш за 9 % ад агульнага імпартнага аб'ёму. У рэспубліку паступалі тавары з 23 развіваючыхся краін.

У 70-я гады для ўсіх развітых капіталістычных краін працавала сістэма абмежавання на экспарт іх прадукцыі ў СССР і іншыя сацыялістычныя дзяржавы. Праз фірмы шэрага развіваючыхся краін набываліся навейшыя станкі і абсталяванне з развітых капіталістычных дзяржаў, якія потым паступалі ў значнай колькасці на прадпрыемствы абароннай прамысловасці рэспублікі.

У 80-х гадах эканамічныя адносіны з развіваючыміся краінамі не толькі пашыраліся, але і набывалі новыя формы. Сярод іх значнае месца займала вытворчая кааперацыя. У Эфіопіі сумеснымі намаганнямі быў пабудаваны трактаразборачны завод, разлічаны на выпуск у год тысячы трактароў МТЗ-80 і МТЗ-82. Беларускія трактарабудаўнікі перадалі эфіопскім спецыялістам тэхналагічную дакументацыю, неабходнае абсталяванне, механізмы, аказалі практычную дапамогу ў





зборцы першых трактароў. У верасні 1984 г. завод выпусціў першую прадукцыю.

Акрамя паставак машын і абсталявання спецыялісты з Беларусі забяспечвалі абслугоўванне тэхнікі, арганізоўвалі навучанне маладых мясцовых кадраў. Напрыклад, Мінскі трактарны завод арганізаваў у Анголе, Мазамбіку, Эфіопіі перасоўчыя вучэбныя класы, у якіх рыхтаваліся мясцовыя кадры вясковых механізатараў. Першы цэнтр па абслугоўванні трактароў "Беларусь" быў створаны ў 1978 г. у Мазамбіку. Сетка такіх цэнтраў была адкрыта ў Нікарагуа.

Беларускія спецыялісты разам з прадстаўнікамі іншых саюзных рэспублік аказвалі дапамогу ў пошуку прыродных рэсурсаў і правядзенні геолага-разведачных работ у Афганістане, Іране, Мазамбіку, Сірыі, Малі, Эфіопіі і іншых краінах. На месцы разведаных запасаў ртуці ў Алжыры быў пабудаваны горна-металургічны камбінат, які дазваляў краіне выйсці ў лік буйнейшых выпрацоўшчыкаў гэтай сыравіны на кантыненце.

Беларусь паслядоўна выступала супраць дыскрымінацыі развіваючыхся краін з боку развітых капіталістычных дзяржаў. Пры гэтым яна кіравалася тым, што міжнародныя эканамічныя адносіны павінны быць раўнапраўнымі, развівацца на прынцыпах справядлівасці, узаемнай карысці, без палітычнага ўздзеяння, дыктату. Гэтыя праблемы Беларусь уздымала на трэцяй Канферэнцыі ААН па гандлі і развіцці (ЮНКТАД) у 1972 г. у Чылі. Канферэнцыя пад-трымала прапанову Беларусі і іншых сацыялістычных краін аб недапушчэнні дыскрымінацыі ў гандлі. Прадугледжвалася абмежаваць дзейнасць карпарацый прамыслова развітых краін і павялічыць іх капіталаўкладанні ў эканоміку краін "трэцяга свету".

Беларуская дэлегацыя падтрымала прапанову аб разглядзе на VII спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН (1975) праблем развіцця міжнароднага эканамічнага супрацоўніцтва. Канферэнцыя прыняла адпаведныя рашэнні па пытаннях міжнароднага гандлю, развіцця навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва, аказання дапамогі развіваючымся краінам ва ўсталяванні іх сельскай гаспадаркі, забеспячэнні насельніцтва прадуктамі харчавання.

Для паскарэння тэхнічнага прагрэсу ў прамысловасці, іншых галінах гаспадаркі важнае значэнне мелі знешнегандлёвыя і тэхнікаэканамічныя сувязі з развітымі капіталістычнымі краінамі. У 1970–1980 гг. на іх долю прыпадала 22,5 % усіх экспартных паставак рэспублікі. Пашырэнню такога супрацоўніцтва спрыяў даволі высокі ўзровень эканамічнага развіцця рэспублікі. Сярод іншых рэспублік былога Саюза ССР Беларусь займала 1-е месца па вытворчасці сіласаўборачных камбайнаў і калійных угнаенняў, 2-е – грузавых аўтамабіляў, хімічных валокнаў, матацыклаў, наручных гадзіннікаў, 3-е – мінеральных угнаенняў, металарэзных станкоў, трактароў, шкла, панчошна-трыкатажных вырабаў, тэлевізараў, мэблі і іншых тавараў. Таму невыпадкова, што прадметамі экспарту ў капіталістычныя

46. Зак. 5565

краіны, у тым ліку і развітыя, з'яўляліся перш за ўсё трактары, аўтамабілі, бульдозеры, скрэперы, халадзільнікі, станкі-паўаўтаматы, гадзіннікі, азотныя і калійныя ўгнаенні і г.д. Каля паловы экспарту прыпадала на долю машынабудавання – вядучай галіны прамысловасці рэспублікі.

У сваю чаргу, на Беларусі шырока выкарыстоўваліся тэхнічныя вырабы з развітых капіталістычных краін. Абсталяваннем, якое пастаўлялася з Англіі, Францыі, ФРГ, Італіі, іншых краін, забяспечваліся прадпрыемствы хімічнай, радыётэхнічнай, лёгкай, харчовай прамысловасці. Сярод іх былі Полацкі і Мазырскі нафтаперапрацоўчыя заводы; Гомельскі, Гродзенскі хімічныя камбінаты; Магілёўскі завод сінтэтычнага валакна, Мінскі завод халадзільнікаў, шэраг мясакамбінатаў і малочных заводаў. Увозіліся і тавары шырокага ўжытку.

Развіццю эканамічных адносін Беларусі з рознымі краінамі свету спрыяла і тое, што яна актыўна ўдзельнічала ў рабоце шматлікіх міжнародных арганізацый – Міжнароднай арганізацыі працы (МАП), Эканамічнай камісіі для Еўропы (ЭКЕ), яе камітэтаў па сельскай гаспадарцы, лесаматэрыялах, электраэнергіі, жыллёвым будаўніцтве, Міжнароднага саюза электрасувязі (МСЭ), Міжнароднага агенцтва па атамнай энергіі (МАГАТЭ) і інш.

У 1960 г. Беларусь далучылася да канвенцыі 1928 г. аб міжнародных выстаўках. З гэтага моманту яна прымала актыўны ўдзел у рабоце Міжнароднага бюро выставак, адказвала за арганізацыю іх на Беларусі. Толькі ў 60-х гадах у Мінску было праведзена звыш 30 самых разнастайных выставак. Сярод іх: венгерская – сродкаў сувязі, ГДР – тавараў шырокага ўжытку, фінская і шведская – машын і механізмаў для лесапрацовак, польская і венгерская – аўтамабіляў, электроннага абсталявання і інш. У час іх правядзення заключаліся камерцыйныя кантракты на пастаўкі лепшых узораў тэхнікі і абсталявання.

Пачынаючы з 1967 г. (Лейпцыгскага кірмашу) Беларусь на ўсіх міжнародных нацыянальных выстаўках прадстаўляла свае вырабы самастойным раздзелам у экспазіцыі СССР. Гэта не толькі адкрывала магчымасць пашыраць паказ сваіх тавараў, але і накладвала вялікую адказнасць за іх якасць.

У 70–80-х гадах Беларусь з'яўлялася месцам правядзення спецыялізаваных міжнародных выставак, што сведчыла аб прызнанні яе ўкладу ў тую або іншую галіну навукі і тэхнікі. У Мінску праходзілі выстаўкі: "Бульба-76", "Парашковая металургія-73, 77", "Холад-78", "Мяспраммаш-79" і інш. У гэты ж тэрмін з дапамогай гандлёва-прамысловай палаты праводзіліся сімпозіумы, канферэнцыі, семінары, лекцыі на тэмы эканамічнага супрацоўніцтва Беларусі з іншымі краінамі.

Такім чынам, Беларуская ССР з 1946 па 1985 г. ажыццяўляла living рознабаковыя гандлёва-эканамічныя сувязі з сацыялістычнымі, развіваючыміся і капіталістычнымі краінамі.





## § 3. Культурныя, навуковыя, спартыўныя і турысцкія сувязі БССР

Важнае месца ў супрацоўніцтве з замежнымі краінамі займалі навуковыя, культурныя, спартыўныя і турысцкія сувязі. Іх няспыннае пашырэнне з'яўлялася неад'емнай часткай жыцця рэспублікі, неабходным сродкам умацавання і паглыблення дружалюбных адносін паміж беларускім і іншымі народамі свету. Яны садзейнічалі ўмацаванню даверу, паглыбленню навукова-тэхнічнага і гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва і ў канчатковым выніку захаванню міру і бяспекі паміж народамі.

БССР падтрымлівала рознабаковыя адносіны з сацыялістычнымі, капіталістычнымі, развіваючыміся краінамі. Галоўным чынам гэта ажыццяўлялася праз дзяржаўныя і грамадскія структуры, партыйныя, прафсаюзныя, камсамольскія арганізацыі, творчыя саюзы, працоўныя, навуковыя, маладзёжныя калектывы, бібліятэкі і г.д. Адначасова з гэтым Беларусь удзельнічала ў працы шматлікіх міжнародных арганізацый, камітэтаў, таварыстваў па супрацоўніцтву.

З 1958 г. пачало дзейнічаць Беларускае таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі (БелТД). Галоўнай мэтай яго з'яўлялася пашырэнне міжнародных сувязей, распаўсюджванне за мяжой праўдзівай інфармацыі аб сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці беларускага народа.

У 70-х гадах на Беларусі дзейнічала каля 100 таварыстваў дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі. Яны мелі адносіны з 400 арганізацыямі амаль 70 краін свету.

З Беларускім таварыствам дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі цесна супрацоўнічалі: Мексіканскі культурны цэнтр "Аўрора", Калумбійска-савецкі інстытут культурнага абмену, Індыйскае, Мексіканскае і іншыя таварыствы дружбы. Акрамя абмену дэлегацыямі, з Беларусі ў гэтыя краіны накіроўвалася грамадска-палітычная, даведачна-інфармацыйная, медыцынская, тэхнічная, мастацкая літаратура. Праводзіліся сумесныя кінафестывалі, выстаўкі жывапісу, прыкладнога мастацтва, фотаздымкаў, графікі і інш. Адначасова праходзілі культурна-масавыя мерапрыемствы, прысвечаныя падзеям, звязаным з атрыманнем незалежнасці развіваючыміся краінамі, з іх гісторыяй.

Станоўчую ролю ў развіцці адносін Беларусі з іншымі дзяржавамі адыгрываў створаны ў 1958 г. Камітэт маладзёжных арганізацый рэспублікі (КМА БССР). Ён каардынаваў сувязі беларускай моладзі са сваімі паплечнікамі за мяжой. Сумеснае супрацоўніцтва ажыццяўлялася па такіх напрамках дзейнасці, як барацьба за мір, скарачэнне ўзбраенняў, нераспаўсюджванне ядзернай зброі, сацыяльныя і дэмакратычныя правы працоўных, падтрымка народаў у барацьбе за нацыянальную незалежнасць і інш. Наладжваўся рэгулярны абмен маладзёжнымі дэлегацыямі.

Эфектыўнай формай супрацоўніцтва моладзі з'яўляліся сумесныя дзелавыя сустрэчы, семінары, інтэрнацыянальныя лагеры працы і адпачынку. Значную ролю ў гэтым адыграў адкрыты ў 1966 г. Беларускі маладзёжны лагер "Юнацтва" каля Заслаўскага вадасховішча пад Мінскам. Сумесна з замежнай моладдзю праводзіліся разнастайныя мерапрыемствы, прысвечаныя важным гістарычным падзеям як рэспублікі, так і краін міжнароднага супольніцтва. Так, у 1974 г. адбылася сустрэча з моладдзю Францыі, прысвечаная 30-годдзю вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Яна праходзіла пад дэвізам: "Моладзь у барацьбе за мір і дружбу паміж народамі, супраць агрэсіі". У 1979 г. на Беларусі прайшлі сустрэчы з прадстаўнікамі 110 студэнцкіх арганізацый з 80 краін Еўропы, Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі. Беларускія юнакі і дзяўчаты прымалі ўдзел у сусветных фестывалях моладзі і студэнтаў, якія праходзілі ў Маскве і іншых гарадах.

Разнастайныя сувязі беларускай грамадскасці з замежнай ажыццяўляліся праз дзейнасць прафсаюзных арганізацый, якія з'яўляліся неад'емнай часткай міжнароднага прафсаюзнага руху. Беларускія прафсаюзы прымалі актыўны ўдзел у працы Сусветнай федэрацыі прафсаюзаў, Міжнароднай арганізацыі працы і іншых аб'яднанняў. Галоўным накірункам іх дзейнасці было ўзаемнае вывучэнне вопыту работы, адстойванне эканамічных правоў працоўных, паляпшэнне іх дабрабыту. Штогод праходзіў абмен дэлегацыямі. У 1971–1980 гг. Беларусь наведала каля 100 прафсаюзных дэлегацый амаль з 20 краін Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі. Прадстаўнікі працоўных калектываў замежных краін знаёміліся з умовамі жыцця і працы розных катэгорый насельніцтва рэспублікі, формамі і метадамі дзейнасці прафсаюзных арганізацый, наведвалі музеі, тэатры, мясціны, звязаныя з гістарычнымі падзеямі беларускага народа.

Развіццё навукова-тэхнічнай рэвалюцыі выклікала неабходнасць пашырэння і паглыблення навуковых сувязей паміж краінамі, асабліва сацыялістычнымі, у рамках СЭУ. Галоўнае месца ў гэтым працэсе займала Акадэмія навук БССР. Яе даследчыя інстытуты, лабараторыі каардынавалі і праводзілі навуковыя пошукі з вучонымі розных устаноў Польшчы, Венгрыі, Чэхаславакіі і іншых краін. У канцы 70-х гадоў яны ажыццяўлялі сумесныя распрацоўкі больш як з 40 навуковымі цэнтрамі розных краін, у тым ліку Заходняй Еўропы, Амерыкі і Азіі.

Дзейснай формай развіцця міжнародных культурных адносін з'яўлялася супрацоўніцтва ў галіне літаратуры. Лепшыя творы вядомых беларускіх пісьменнікаў Я.Купалы, Я.Коласа, К.Крапівы, А.Куляшова, І.Шамякіна, В.Быкава, Н.Гілевіча, П.Панчанкі, А.Макаёнка і іншых перакладаліся на польскую, чэшскую, венгерскую, румынскую і іншыя мовы народаў свету. У 1978 г. у Індыі выйшаў зборнік апавяданняў беларускіх пісьменнікаў пад назвай "Лясная песня". У яго ўвайшлі творы К.Чорнага, І.Навуменкі, В.Быкава і іншых пісьменнікаў.





Творы беларускіх пісьменнікаў на замежнай мове выходзілі ў Англіі, Аўстрыі, Канадзе, Францыі і іншых краінах. У сваю чаргу, творы пісьменнікаў замежных краін перакладаліся на беларускую мову і выходзілі як асобнымі, так і юбілейнымі выданнямі. З 1946 па 1975 г. колькасць перакладзеных кніг замежнай літаратуры склала каля 500 выданняў агульным тыражом звыш 4 млн экзэмпляраў.

Адным з важных накірункаў пашырэння культурных сувязей рэспублікі з замежнымі краінамі з'яўлялася супрацоўніцтва ў галіне адукацыі. Яно ажыццяўлялася ў самых розных формах: узаемадзеяння паміж кіруючымі органамі адукацыі, абмену дэлегацыямі, падрыхтоўкі студэнтаў, вывучэння вопыту працы, перадачы падручнікаў, навуковай, грамадска-палітычнай, мастацкай літаратуры, абсталявання і г.д. Вядучае месца ў падрыхтоўцы высокакваліфікаваных спецыялістаў для замежных краін займалі Беларускі дзяржаўны універсітэт, Беларускі політэхнічны інстытут, Беларускі інстытут механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі, Мінскі медыцынскі інстытут, Беларускі інстытут народнай гаспадаркі.

У 1970/71 навучальным годзе ў рэспубліцы налічвалася каля 700 замежных студэнтаў амаль з 50 краін свету. З 1967 па 1970 г. больш за 3 тыс. беларускіх студэнтаў праходзілі практыку на прадпрыемствах сацыялістычных краін. Прыкладна столькі ж студэнтаў з 36 вышэйшых навучальных устаноў сацыялістычных краін прайшлі практыку на Беларусі.

Замежныя студэнты, якія скончылі ВНУ рэспублікі і выявілі навуковыя здольнасці, мелі магчымасць займацца ў аспірантуры, абараняць дысертацыі альбо праходзіць стажыроўку. У 1976–1984 гг. скончылі аспірантуру 50, прайшлі стажыроўку каля 100 спецыялістаў з развіваючыхся краін.

Станоўчую ролю ў падрыхтоўцы замежных спецыялістаў адыгралі сярэднія навучальныя ўстановы рэспублікі. З 1976 па 1984 г. іх скончылі каля 300 навучэнцаў амаль з 40 краін Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі. З другой паловы 70-х гадоў пашыраецца падрыхтоўка навучэнцаў з развіваючыхся краін у прафесійна-тэхнічных вучылішчах рэспублікі. З 1976 па 1984 г. іх скончыла каля 500 чалавек амаль з 20 краін свету.

Беларусь аказвала дапамогу шэрагу развіваючыхся краін у стварэнні і развіцці сваіх нацыянальных сістэм адукацыі. З рэспублікі накіроўваліся абсталяванне, падручнікі, навукова-тэхнічная і мастацкая літаратура і г.д. З вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў выязджалі ў развіваючыяся краіны кваліфікаваныя выкладчыкі для аказання практычнай дапамогі ў арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу. Толькі ў 1961–1983 гг. для выкладання рускай мовы і спецыяльных дысцыплін было накіравана больш за 200 чалавек.

47. Зак. 5565

Беларускія вучоныя і выкладчыкі працавалі ў вышэйшых і сярэдніх навучальных установах Афганістана, Кубы, Індыі і іншых краін. З дапамогай беларускіх спецыялістаў на пачатак 80-х гадоў у развіваючыхся краінах было створана больш за 100 вучэбных цэнтраў і прафесійна-тэхнічных вучылішч.

Пашырэнню культурных сувязей Беларусі з замежнымі краінамі садзейнічаў узаемны абмен перыядычнымі выданнямі. Асабліва добра было наладжана гэта супрацоўніцтва з сацыялістычнымі краінамі. Праз сістэму "Саюздруку" штодзённа паступалі насельніцтву Беларусі перыядычныя выданні і часопісы сацыялістычных краін. У сваю чаргу, беларускія газеты і часопісы высылаліся за мяжу. У Мінску выходзіла газета "Голас Радзімы", якая інфармавала сваіх суайчыннікаў за мяжой аб жыцці беларускага народа.

У міжнародным культурным супрацоўніцтве добрую справу рабілі Дзяржаўная бібліятэка імя У.І.Леніна, бібліятэка імя М.Горкага, Цэнтральная навуковая бібліятэка АН БССР імя Я.Коласа, Мінская навукова-тэхнічная бібліятэка. Яны арганізоўвалі абмен кнігамі, падтрымлівалі цесныя сувязі са шматлікімі замежнымі бібліятэкамі, выдавецтвамі, архівамі, дзяржаўнымі ўстановамі і г.д.

У 1970 г. бібліятэка АН БССР ажыццяўляла творчыя сувязі з 430 бібліятэкамі 39 замежных краін, у тым ліку з Фінскай, Італьянскай, Шведскай акадэмічнымі бібліятэкамі, з бібліятэкай кангрэса ЗША. Бібліятэкі Парыжскага, Каліфарнійскага, Оксфардскага, Бамбейскага і іншых замежных універсітэтаў ажыццяўлялі кнігаабмен не толькі з АН БССР, але і з рознымі навуковымі ўстановамі рэспублікі. Калі ў 1962 г. Беларусь гандлявала сваімі кнігамі з 51, то ў 1970 г. – з 73 краінамі свету.

На Беларусі існавала добрая традыцыя адзначаць знамянальныя святы, прысвечаныя жыццю і дзейнасці выдатных прадстаўнікоў сусветнай культуры. Такія святкаванні былі арганізаваны ў гонар заснавальнікаў славянскай пісьменнасці Кірыла і Мяфодзія, французскага пісьменніка і асветніка Жан-Жака Русо, іспанскага драматурга Лопэ дэ Вега, вынаходніка Галілео Галілея і інш. У гэтыя дні праводзіліся ўрачыстыя пасяджэнні, тэматычныя вечары, навуковыя канферэнцыі, юбілейныя чытанні, выстаўкі і г.д.

Пашыралася такая форма культурнага супрацоўніцтва, як правядзенне дзён нацыянальнай культуры. У 70–80-х гадах Дні культуры БССР адбыліся ў Індыі, Іраку, Калумбіі, Мексіцы, Сірыі і іншых краінах. У сваю чаргу на Беларусі праходзілі Дні культуры Польшчы, Балгарыі, Чэхаславакіі, Венгрыі, Фінляндыі і іншых краін. У гэтыя дні праводзіліся тэматычныя кінафестывалі, выстаўкі кніг, фотаздымкаў, творчыя вечары, сустрэчы з вучонымі, пісьменнікамі, мастакамі і іншымі дзеячамі навукі і культуры. Прыязджалі шматлікія дэлегацыі з прадстаўнікоў парламенцкіх і ўрадавых колаў, палітычных і грамадскіх арганізацый, навуковых і культурна-асветных устаноў. Праводзіліся экскурсіі ў музеі, па гістарычных мясцінах, на прадпрыемствы, у навучальныя ўстановы.





У сістэме міжнародных культурных сувязей рэспублікі значнае месца займала правядзенне рэспубліканскіх і замежных выставак прыкладнога і выяўленчага мастацтва, графікі, фатаграфіі, прац народных умельцаў і г.д. У 50–60-х гадах на Беларусі з поспехам дэманстраваліся вырабы румынскага, венгерскага, польскага прыкладнога мастацтва, балгарскага і мангольскага жывапісу, бельгійскай графікі і інш. Беларускія мастакі А.Красоўскі, М.Тарасікаў, В.Цвірка экспанавалі свае работы на персанальных выстаўках у Польшчы.

У 1978 г. праходзіла выстаўка беларускай графікі ўАнголе. Праз год у Мінскім палацы жывапісу дэманстравалася выстаўка "Графіка Анголы". У 1979 г. у Алжырскім нацыянальным музеі выяўленчага мастацтва паспяхова прайшла выстаўка работ беларускіх мастакоў. Дэманстраваліся партрэты, пейзажы, графічныя малюнкі. У 1984 г. жыхары Рэспублікі Мазамбік знаёміліся з вышыўкай і ўзорамі нацыянальных тканін, з разнастайнымі металічнымі, драўлянымі, глінянымі, саламянымі вырабамі беларускіх народных умельцаў.

Цікавай формай культурных сувязей БССР з замежнымі краінамі з'яўляўся абмен выступленнямі калектываў тэатраў, філармоній, мастацкай самадзейнасці, канцэртных брыгад, асобных выканаўцаў. Перад насельніцтвам рэспублікі ў розныя гады выступалі артысты Сафійскай оперы, дзяржаўнай філармоніі Венгрыі, Дрэздэнскага джазавага аркестра, Славацкага народнага аркестра, зорак польскай эстрады, а таксама ансамблі венгерскай народнай музыкі і танца "Дунай" і "Чардаш", ансамблі "Рытмы Кубы", народнай песні і танца Манголіі, танца Гвінейскай Рэспублікі, калектывы з Аргенціны, Бразіліі, Мексікі, Канады, Японіі і іншых краін.

У той жа час прадстаўнікі музычнага і тэатральнага мастацтва Беларусі выступалі ў Польшчы, Бельгіі, Англіі, Турцыі, Швецыі, Фінляндыі, Канадзе і многіх іншых краінах свету. З творчымі справаздачамі неаднаразова выязджалі за мяжу артысты Беларускага тэатра оперы і балета, Дзяржаўнага ансамбля песні і танца пад кіраўніцтвам Г.І.Цітовіча, Дзяржаўнай харавой акадэмічнай капэлы БССР пад кіраўніцтвам Р.Р.Шырмы, гродзенскага народнага ансамбля "Нёман" і шмат іншых.

Важным сродкам сувязей паміж народамі з'яўляўся турызм. Колькасць турыстаў штогод павялічвалася. Калі ў 1960 г. ад прафсаюзных арганізацый выязджала за мяжу 535 чалавек, то ў 70-я гады ў сярэднім за год больш за 7 тыс. чалавек. Турысты сустракаліся з працоўнымі калектывамі, расказвалі аб эканамічным і культурным жыцці рэспублікі, наведвалі грамадскія арганізацыі, гістарычныя мясціны, помнікі культуры, культурна-асветныя ўстановы. Групы замежных турыстаў у нашай рэспубліцы сустракаліся з працоўнымі, студэнтамі, школьнікамі, наведвалі гістарычныя мясціны: мемарыял "Хатынь", Брэсцкую крэпасць, Курган Славы, Музей Вялікай Айчыннай вайны, Мастацкі музей і інш.

Значнае месца адводзіла рэспубліка супрацоўніцтву з замежнымі краінамі ў галіне спорту. З 1948 г. сістэмны характар набывае ўдзел беларускіх спартсменаў у разнастайных міжнародных спаборніцтвах. З 1952 па 1980 г. на XV–XXII Алімпійскіх гульнях у складзе зборных каманд СССР удзельнічалі 150 беларускіх спартсменаў, якія выступалі ў 16 відах спорту. Беларускія алімпійцы заваявалі каля 100 медалёў, у тым ліку 50 залатых. Усяму свету добра вядомы імёны пераможцаў Алімпійскіх гульняў А.Раманькова, А.Мядзведзя, В.Корбут і многіх іншых. Па прапанове мэра горада Чыкага дзень 26 сакавіка 1974 г. быў абвешчаны ў ЗША днём Вольгі Корбут. У гэтай краіне было створана больш за 500 спартыўных клубаў В.Корбут па гімнастыцы. ЮНЭСКА прысвоіла ёй ганаровае званне "Пасол міру".

На тэрыторыі Беларусі праводзіліся шматлікія міжнародныя спартыўныя гульні (турніры фехтавальшчыкаў (1966), па сучаснаму пяцібор'ю (1972), скачках у ваду "Вясеннія ластаўкі" (1972–1980), па біятлону, стральбе з лука і інш.).

У пачатку 80-х гадоў на тэрыторыі рэспублікі дзейнічалі 126 стадыёнаў, 2940 спартыўных залаў, 78 плавальных басейнаў, каля 40 тыс. спартыўных пляцовак. Гэта адкрывала шырокія магчымасці для правядзення на Беларусі розных спаборніцтваў міжнароднага ўзроўню. У 1980 г. у час XXII летніх Алімпійскіх гульняў на мінскім стадыёне "Дынама" праходзіў адборачны футбольны турнір. На спартыўных пляцоўках рэспублікі адбываліся спаборніцтвы па вольнай і класічнай барацьбе, гімнастыцы, зімовых відах спорту і г.д.

У пасляваенны перыяд атрымала распаўсюджванне такая форма міжнародных адносін, як супрацоўніцтва гарадоў-пабрацімаў. Пачатак гэтаму быў пакладзены яшчэ ў час другой сусветнай вайны, калі ў 1944 г. былі створаны камітэты па супрацоўніцтву двух гарадоў: Сталінграда і Ковентры (Англія).

Больш шырокія сувязі паміж беларускімі і замежнымі гарадамі пачалі развівацца з 1957 г., калі была створана Сусветная федэрацыя параднёных гарадоў (СФПГ). З гэтага часу штогод у апошнюю нядзелю красавіка беларускі народ з грамадзянамі іншых краін свету адзначаюць сусветны дзень гарадоў-пабрацімаў як свята дружбы, даверу, узаемаразумення.

У гэтыя дні на Беларусі праводзіліся разнастайныя ўрачыстасці: фестывалі, вечары, выстаўкі, сустрэчы з дзяржаўнымі, грамадскімі коламі параднёных гарадоў, прадстаўнікамі працоўных калектываў і г.д. Разнастайныя мерапрыемствы, прысвечаныя адлюстраванню жыцця гарадоў Беларусі, праводзіліся і за мяжой. У 80-х гадах Мінск падтрымліваў сувязі з Ноттынгемам (Англія), Сэндаем (Японія), Бангалорам (Індыя), Луандай (Ангола), Ліёнам (Францыя), Мерыдаў (Мексіка), Дэтройтам (ЗША). Супрацоўнічалі з замежнымі гарадамі Гомель, Гродна, Магілёў, Орша, Баранавічы і іншыя беларускія гарады.

Такім чынам, беларускі народ ажыццяўляў разнастайныя сувязі з народамі краін свету. Пісьменнікі, мастакі, дзеячы навукі і культуры наладжвалі супрацоўніцтва, вялі сумесныя даследаванні, абменьваліся вопытам работы. Тысячы студэнтаў з Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі атрымалі вышэйшую, сярэднюю і прафесійна-тэхнічную адукацыю ў навучальных установах Беларусі. Рэгулярна праводзіліся тут дні культуры краін свету. Адначасова з гэтым і беларускія дзеячы культуры, калектывы мастацкай самадзейнасці выязджалі за мяжу, дзе знаёмілі гледачоў з дасягненнямі нацыянальнай беларускай культуры. Няспынна пашыраліся сувязі гарадоў-пабрацімаў. Значнае месца займалі спорт і турызм.





## ВЫВАДЫ

1. У 1946–1950 гг. беларускі народ аднавіў прамысловасць і сельскую гаспадарку, прадпрыемствы і ўстановы сацыяльна-культурнай сферы, гарады і вёскі. Былі створаны ўмовы для далейшага развіцця рэспублікі. Пасляваеннае адраджэнне роднай зямлі з'яўлялася працягам подзвігу, здзейсненага ўсім савецкім, у тым ліку і беларускім, народам у гады Вялікай Айчыннай вайны. Удзень і ўночы, не шкадуючы сябе, без разліку на ўзнагароды, матэрыяльнае і маральнае заахвочванне працавалі людзі, каб адрадзіць краіну, зрабіць яе квітнеючай.

2. З сярэдзіны 50-х гадоў у свеце пачалася эпоха навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, пабудовы постіндустрыяльнага грамадства. У 1955 г. Пленум ЦК КПСС прыняў курс на паскарэнне навукова-тэхнічнага прагрэсу, развіццё машына- і прыборабудавання, стварэнне сродкаў механізацыі і аўтаматызацыі, новага абсталявання, сучасных тэхналогій і г.д. Беларуская ССР не была ў баку ад працэсаў здзяйснення навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. З аграрна-індустрыяльнай рэспублікі яна канчаткова ператварылася ў 60-я гады ў індустрыяльную з магутным вытворча-эканамічным і навукова-тэхнічным патэнцыялам.

3. У агульнасаюзным падзеле працы БССР належала важная роля ў вытворчасці машын, станкоў, сродкаў механізацыі і аўтаматызацыі (МАЗ, МТЗ, БелАЗ у Жодзіне, мінскія заводы гадзіннікаў, падшыпнікавы, маторны і матавеласіпедны, Мінскі і Баранавіцкі заводы аўтаматычных ліній, станкабудаўнічыя заводы ў Мінску, Віцебску, Гомелі, Гомельскі завод вымяральных прыбораў, Магілёўскі аўтамабільны завод і інш.).

4. У канцы 50-х гадоў на тэрыторыі Беларускага Палесся (каля г.Рэчыцы) былі знойдзены залежы нафты. Пачалося прамысловае асваенне нафтаноснага раёна і будаўніцтва нафтаперапрацоўчых заводаў у Полацку і Мазыры. На тэрыторыі Беларусі здабывалася больш за 2 млн т нафты, а спажывала рэспубліка штогод прыкладна 30 млн т нафты і нафтапрадуктаў.

46. Зак. 5565

5. 50–80-я гады з'яўляюцца часам станаўлення і развіцця буйной хімічнай і горнахімічнай прамысловасці ў Беларусі. Былі пабудаваны і ўступілі ў строй дзеючых калійныя камбінаты ў Салігорску (вытворчае аб'яднанне "Беларуськалій"), Гродзенскі і Полацкі хімічныя камбінаты, Магілёўскі камбінат сінтэтычнага валакна, Гомельскі хімічны завод, Полацкі завод шкловалакна, Лідскі лакафарбавы завод і інш.

6. 50–80-я гады – час бурнага развіцця ў Беларусі радыётэхнічнай і радыёэлектроннай прамысловасці, прадпрыемстваў абароннага комплексу. У строй дзеючых уступілі заводы, на базе якіх потым былі створаны мінскія вытворчыя аб'яднанні імя У.І.Леніна, вылічальнай тэхнікі, "Інтэграл", БелОМА, "Гарызонт" і інш. Для падрыхтоўкі інжынераў у 1964 г. быў адкрыты Мінскі радыётэхнічны інстытут.

7. У сярэдзіне 60-х гадоў былі зроблены спробы правядзення ў СССР эканамічных рэформ. Пленум ЦК КПСС у сакавіку 1965 г. прыняў рашэнне аб неадкладных мерах па далейшым развіцці сельскай гаспадаркі. Былі павышаны закупачныя цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю, устаноўлена 50-працэнтная надбаўка за звышпланавы продаж прадукцыі дзяржаве, а таксама цвёрдыя нязменныя планы продажу прадукцыі дзяржаве. Меліярацыя і вапнаванне кіслых глеб ажыццяўляліся за кошт дзяржавы. Са слабых гаспадарак спісвалася запазычанасць, больш шырока выкарыстоўваліся дасягненні навукі і перадавога вопыту. Узмацненне дзяржаўнай дапамогі аграрнаму сектару эканомікі, павелічэнне фінансавых асігнаванняў, паляпшэнне забеспячэння машынамі і абсталяваннем у спалучэнні з добрасумленнасцю працаўнікоў беларускай вёскі прывялі да таго, што сельская гаспадарка Беларусі ў 70–80-я гады па выпуску прадукцыі на душу насельніцтва знаходзілася на ўзроўні развіцця аналагічнай галіны ў перадавых краінах свету.

У верасні 1965 г. Пленум ЦК КПСС прыняў курс на ажыццяўленне эканамічнай рэформы ў прамысловасці. Намячалася ажыццявіць меры па паляпшэнні кіравання прамысловасцю, удасканаленні планавання і ўмацаванні эканамічнага стымулявання прамысловай вытворчасці. Аднак у 70-я гады гэта рэформа прыпынілася.

8. Вялікія дасягненні былі ў галіне навукі і тэхнікі, у асваенні касмічнай прасторы. У 1954 г. упершыню ў свеце ў Савецкім Саюзе была пабудавана атамная электрастанцыя, у 1957 г. – упершыню запушчаны штучны спадарожнік Зямлі, а ў 1961 г. Савецкі Саюз запусціў першы ў свеце касмічны карабель, які пілатаваў грамадзянін СССР Ю.Гагарын. У гэтыя дасягненні значны ўклад унеслі вучоныя, інжынеры і тэхнікі, усе працоўныя Беларусі. Ураджэнцы Беларусі лётчыкі-касманаўты СССР, Героі Савецкага Саюза П.Клімук і У.Кавалёнак на касмічных караблях здзейснілі палёты ў космас.





9. Да канца 50 – пачатку 60-х гадоў была ў асноўным ліквідавана непісьменнасць і малапісьменнасць дарослага насельніцтва, уведзена ўсеагульнае абавязковае сямігадовае навучанне. У 1956 г. была адменена плата за навучанне ў старэйшых класах сярэдняй школы, а таксама ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах, уведзеная ў 1940 г. У 70–80-я гады ў асноўным было ажыццёўлена ўсеагульнае навучанне моладзі за курс сярэдняй школы. Завяршэнне работы па ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці насельніцтва і ўвядзенне ўсенавуча за курс сярэдняй школы – важнейшыя агульнацывілізаваныя дасягненні беларускага народа.

10. У сувязі з нарастаннем магутнасці СССР, павелічэннем яго матэрыяльных і фінансавых магчымасцей у краіне, у тым ліку і ў Беларусі, пачала ажыццяўляцца вялікая праграма жыллёвага будаўніцтва для народа. У некалькі разоў павялічылася заработная плата і іншы прыбытак насельніцтва пры стабільнасці рознічных цэн на прамысловыя і харчовыя тавары, а таксама паслугі. Большасць тавараў і паслуг былі даступнымі для народа, што нярэдка выклікала іх дэфіцыт у гандлёвай сетцы.

11. У 70–80-я гады ў свеце адбывалася інфармацыйна-тэхналагічная рэвалюцыя. Значныя поспехі ў яе ажыццяўленні былі дасягнуты ў ваенна-прамысловым комплексе і ў асваенні касмічнай прасторы. У мірнай эканоміцы СССР і БССР інфармацыйна-тэхналагічная рэвалюцыя здзяйснялася даволі марудна.

12. Павышалася роля Беларусі ў міжнародным супольніцтве. Яна стала адной з заснавальніц і членаў ААН. Супрацоўнічаючы ў складзе шматлікіх камітэтаў ААН, Беларусь ажыццяўляла разнастайныя мерапрыемствы па пашырэнні і ўмацаванні дружалюбных адносін з народамі ўсіх дзяржаў свету. Асаблівая ўвага надавалася падзеям у Еўропе, дзе пачаліся дзве сусветныя вайны. Беларусь развівала гандлёва-эканамічныя адносіны як з сацыялістычнымі, развіваючыміся, так і з капіталістычнымі краінамі. Яна ўдзельнічала ў прыняцці міжнародных канвенцый па пытаннях працы і сацыяльнай абароны людзей, ажыццяўляла шырокае супрацоўніцтва з замежнымі краінамі ў галіне культуры.

13. У 70–80-я гады адбывалася паступовае зніжэнне тэмпаў сацыяльна-эканамічнага развіцця СССР і саюзных рэспублік. Патрабаваліся перамены, перабудова сацыялізму, наданне яму новага дыхання, вывад яго на вышэйшы ўзровень. Гэта і прадугледжвала палітыка перабудовы, якая пачала праводзіцца з другой паловы 80-х гадоў.

# Літаратура

## Главы I, II

Актуальныя пытанні гісторыі БССР: Савецкі перыяд. Мн., 1991.
Архітэктура Беларусі: Энцыкл. даведнік. Мн., 1993.
Белорусская ССР: Статус, достижения, развитие. Мн., 1989.
Белорусская Советская Социалистическая Республика. Мн., 1978.
Белорусская ССР за годы Советской власти: Стат. сборник. Мн., 1967.
*Белязо Е.П.* Крестьянство Белоруссии на пути к развитому социализму. Мн., 1982.
Гісторыя Беларускай ССР: У 5 т. Мн., 1975. Т. 5.
Гісторыя беларускага мастацтва: У 6 т. Мн., 1992. Т. 5; Мн., 1994. Т. 6.
Гісторыя беларускай савецкай літаратуры: У 2 ч. Мн., 1982. Ч. 2.
*Гиоргидзе З.И., Геращенко Л.Ф.* Белоруссия за десять пятилеток. Мн., 1982.
*Игнатенко А.П., Нестерович Я.Ю.* Социально-экономическое развитие БССР (1944–1960). Мн., 1990.
История БССР (1945–1990): Пособие для учителей и студентов / Под ред. В.М.Фомина. Мн., 1990.
История рабочего класса Белорусской ССР: В 4 т. Мн., 1987. Т. 4.
История государства и права Белорусской ССР: В 2 т. Мн., 1976. Т. 2.
*Качаноўскі У.У.* Гісторыя культуры Беларусі. Мн., 1994.
*Козловская А.Е.* Рост материального благосостояния рабочего класса БССР (1946–1970). Мн., 1987.
*Купреева А.П.* Народы СССР – трудящимся Белоруссии. Мн., 1981.
*Лыч Л., Навіцкі У.* Гісторыя культуры Беларусі. Мн., 1996.
*Марченко И.Е.* Промышленность и рабочий класс Советской Белоруссии в годы восстановления и развития народного хозяйства (1943–1950). Мн., 1968.
*Навіцкі У.* Супярэчлівасць культурнага жыцця Беларусі ў сярэдзіне 50-х – сярэдзіне 80-х гг. // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 2.
Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. Мн., 1995. Ч. 2.
Народное хозяйство Белорусской ССР за 40 лет. Мн., 1957.
Народное хозяйство Белорусской ССР в 1985 г.: Стат. ежегодник. Мн., 1986.
Народное хозяйство Белорусской ССР в 1986 г.: Стат. ежегодник. Мн., 1987.
Наука и техника Советской Белоруссии в 1917–1990 гг.: Хроника важнейших событий. Мн., 1991.
Очерки истории милиции Белорусской ССР (1917–1987). Мн., 1987.
*Павлович Л.А.* География промышленности БССР. Мн., 1986.
Старонкі гісторыі Беларусі. Мн., 1992.
Эканамічная гісторыя Беларусі: Курс лекцый / Пад агул. рэд. В.І.Галубовіча. Мн., 1993.
Экономическая история БССР. Мн., 1967.
Экономика Белоруссии в период послевоенного возрождения /Под ред. В.И.Дрица. Мн., 1988.
Экономика Советской Белоруссии (1917–1967). Мн., 1967.

## Глава III

Беларуская ССР на міжнароднай арэне / Пад рэд. К.Кісялёва. М., 1964.
Белорусская ССР в международных отношениях: Международные договоры, конвенции и соглашения Белорусской ССР с иностранными государствами (1944–1959). М., 1960.
Внешняя политика Советского Союза в период Великой Отечественной войны: Документы и материалы: В 3 т. М., 1947. Т. 2, 3.
Гісторыя Беларускай ССР: У 5 т. Мн., 1975. Т. 5.
Советский Союз и Организация Объединенных Наций (1961–1965). М., 1968.



Советский Союз на международных конференциях периода Великой Отечественной войны 1941–1945 гг.: Сб. документов: В 5 т. М., 1978. Т. 3.
Советский Союз на международных конференциях периода Великой Отечественной войны 1941–1945 гг.: Сб. документов. М., 1980. Т. 4, 5.
*Алексеев В.Г.* Белорусская ССР во внешнеэкономических связях страны. Мн., 1978.
*Власова Л.В.* БССР в международном культурном и научном сотрудничестве (организационно-правовые вопросы). Мн., 1984.
*Воробей Н.С.* Участие Белорусской ССР в отношениях Советского Союза с капиталистическими странами (50–70-е годы). Мн., 1981.
*Войтович С.Д.* БССР в отношениях с развивающимнся странами (1971–1985). Мн., 1985.
*Войтович С.Д.* БССР в экономических отношениях СССР с зарубежными странами (1945–1987). Мн., 1989.
*Гуринович А.Е.* Участие Белорусской ССР в деятельности ООН. Мн., 1982.
*Леднева А.С.* Интернациональные связи рабочего класса БССР (1970–1987). Мн., 1988.
*Непомнящий Т.А., Песляк М.М.* В дружбе с городами мира: О дружбе городов СССР, породненных с городами стран социалистического содружества, развивающихся и капиталистических стран. Мн., 1987.
*Нескромный П.И.* Внешнеторговые связи Белорусской ССР. Мн., 1970.
*Сергеева Г.Г.* Белорусская ССР в научном сотрудничестве Советского Союза и социалистических стран. Мн., 1986.
*Снапковский В.Е.* Путь Белоруссии в ООН (1944–1945). Мн., 1994.
*Языкович Л.В.* Деятельность Белорусской ССР в ЮНЕСКО. Мн., 1986.

# РАЗДЗЕЛ X

## БЕЛАРУСЬ У ПЕРЫЯД ПРАВЯДЗЕННЯ РЭФОРМ: САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ, ПАЛІТЫЧНАЕ І КУЛЬТУРНАЕ РАЗВІЦЦЁ. ЗАМЕЖНЫЯ СУВЯЗІ. БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА

(1985–1997)

## ГЛАВА 1

## ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ. ФАРМІРАВАННЕ ШМАТПАРТЫЙНАЙ СІСТЭМЫ

### § 1. Палітыка перабудовы, яе неабходнасць і сутнасць. Узнікненне і дзейнасць палітычнай апазіцыі

У сярэдзіне 80-х гадоў Савецкі Саюз апынуўся перад шэрагам праблем сацыяльна-эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця. Пленум ЦК КПСС у красавіку 1985 г. прааналізаваў становішча спраў у краіне і прыняў курс на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця. Гэты палітычны курс меркавалася ажыццявіць за кошт трох асноўных фактараў: 1) навукова-тэхнічнага прагрэсу, адсюль развіццё машынабудаўнічага комплексу – базы гэтага прагрэсу; 2) структурнай перабудовы эканомікі; 3) актывізацыі чалавечага фактару, павышэння творчай, стваральнай актыўнасці людзей.

Аднак тагачасная нерэфармiраваная эканоміка СССР аказалася недастаткова ўспрымальнай да новых ідэй, дасягненняў навукі і





тэхнікі. На справе адбывалася не паскарэнне, а запавольванне сацыяльна-эканамічнага развіцця. У сувязі з гэтым XXVII з'езд КПСС (25 лютага – 6 сакавіка 1986 г.), XIX Усесаюзная канферэнцыя КПСС (28 чэрвеня – 1 ліпеня 1988 г.), студзеньскі і чэрвеньскі Пленумы ЦК КПСС 1987 г. удакладнілі палітычны курс і вызначылі палітыку перабудовы, абнаўлення ўсіх сфер жыцця савецкага грамадства. Гэта палітыка атрымала развіццё і канкрэтызацыю ў платформе XXVIII з'езда КПСС "Да гуманнага, дэмакратычнага сацыялізму", у матэрыялах і дакументах з'ездаў народных дэпутатаў СССР, сесій Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета БССР, у законах СССР і БССР.

Перабудову прадугледжвалася праводзіць у рамках сацыялістычнага выбару, сацыялістычных ідэалаў і каштоўнасцей пад лозунгам: "Больш дэмакратыі, больш сацыялізму". Яна была неабходнай, бо рэфарміравання грамадска-палітычнай сістэмы, якая склалася ў СССР у 20–30-я гады, не праводзілася, праблемы ў развіцці краіны нарасталі. Мэтай перабудовы было наданне сацыялізму новага дыхання, больш поўнае раскрыццё яго патэнцыяльных магчымасцей, ператварэнне савецкай мадэлі сацыялізму ў мадэль гуманнага, дэмакратычнага сацыялізму пры непарушнасці існаваўшага ў СССР дзяржаўнага і грамадскага ладу. У гэтым сэнсе перабудова была падтрымана большасцю народа, выклікала ўздым яго грамадска-палітычнай актыўнасці. Палітыка перабудовы ўключала ў сябе правядзенне эканамічнай рэформы, рэформы палітычнай сістэмы, сацыяльнай і культурнай сфер жыцця савецкага грамадства, стварэнне прававой дзяржавы.

Для таго каб людзі паверылі ў безальтэрнатыўнасць перабудовы, ініцыятары яе ўпотай ад народа разглядалі яе як шлях капіталістычнай рэстаўрацыі ў краіне, стваралі міфы і праз сродкі масавай інфармацыі ўносілі ў грамадскую свядомасць, у тым ліку міф аб крызісным развіцці, застойных з'явах у савецкай эканоміцы. Для яго абгрунтавання выкарыстоўваліся наступныя лічбы (табл.1) (Эканамічная гісторыя Беларусі. Мн., 1996. С.420).

*Табліца 1*

**Сярэднегадавыя тэмпы прыросту ў СССР і БССР у 1971–1985 гг., %**

| Паказчык | 9-я пяцігодка (1971–1975) | | 10-я пяцігодка (1976–1980) | | 11-я пяцігодка (1981–1985) | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | СССР | БССР | СССР | БССР | СССР | БССР |
| Нацыянальны даход | 5,7 | 8,3 | 4,3 | 5,2 | 3,6 | 5,6 |
| Прадукцыя прамысловасці | 7,4 | 10,4 | 4,4 | 7,2 | 3,7 | 5,4 |
| Прадукцыйнасць працы | 4,5 | 7,4 | 3,2 | 4,2 | 3,1 | 5,3 |

Прыведзеныя лічбы сведчаць аб тэндэнцыі запавольвання тэмпаў эканамічнага развіцця СССР і БССР у 1971–1985 гг. У адзінаццатай пяцігодцы сярэднегадавыя тэмпы росту нацыянальнага даходу складалі ў СССР 3,6 %, у БССР – 5,6 %, прамысловай прадукцыі – адпаведна 3,7 і 5,4 %. Больш таго, у кожнай пяцігодцы ў сувязі з павелічэннем вытворча-эканамічнага патэнцыялу СССР і БССР працэнт прыросту быў больш важкім па сваёй вартасці, зместу, напаўненню, бо ён вызначаўся ад больш высокіх папярэдніх паказчыкаў. Таму сцвярджаць аб такіх з'явах, як крызіс і застой у эканоміцы, у гэты перыяд не было падставы.

Сярод міфаў, створаных ініцыятарамі перабудовы, – міф аб "цывілізаваным Захадзе" і "нецывілізаваным СССР", "райскім жыцці" на Захадзе і "пякельным жыцці" ў нас, "сапраўднай дэмакратыі" ў іх і "тыраніі, таталітарызме" ў нас і г. д. Некаторыя паверылі ў гэтыя міфы і разам з апазіцыяй садзейнічалі развалу Савецкага Саюза, разбурэнню яго дзяржаўнасці, анархіі і нацыянал-сепаратызму, кровапраліццю на глебе справакаваных нацыянальных канфліктаў.

Працэс фарміравання палітычнай апазіцыі пачынаўся з амаль непрыкметнай для кіраўніцтва Беларусі з'явы – значнага павелічэння ліку аматарскіх нефармальных аб'яднанняў і клубаў па інтарэсах. У 1986–1987 гг. у рэспубліцы ўзнікла 7 тыс. такіх аматарскіх аб'яднанняў і клубаў, якія ўключалі каля 1 млн чалавек. У Мінску ў 1987 г. дзейнічала 97 грамадска-палітычных аб'яднанняў і клубаў, 9 – вытворча-тэхнічных, 24 – прыродазнаўча-навуковых, 12 – калекцыянераў, 157– мастацкай накіраванасці, 102 – фізкультурна-аздараўленчых, 51 – маральна-бытавой накіраванасці, 10 – клубаў цвярозасці, 104 – шматпрофільных – усяго 566 аб'яднанняў і клубаў з больш як 46 тыс. удзельнікаў.

У 1987 г. у БССР налічвалася 15 210 помнікаў гісторыі і культуры, з іх каля 8 тыс. патрабавалі рэстаўрацыйных работ. Гэта было выкарыстана сацыяльна актыўнымі людзьмі для стварэння самадзейных нефармальных аб'яднанняў, якія займаліся пытаннямі мовы і літаратуры, помнікаў гісторыі і культуры, навакольнага асяроддзя, развіцця творчых здольнасцей людзей. Такіх аб'яднанняў налічвалася больш за 20.

Актыўна заявілі аб сабе такія аб'яднанні і клубы, як "Талака", "Альтэрнатыва", "Тутэйшыя", "Современник", "Світанак" у Мінску, "Паходня" ў Гродне, "Узгор'е" ў Віцебску, "Талака" ў Гомелі і Магілёве, "Беларуская хатка" ў Маладзечне, "Край" у Брэсце і г. д. Да 1988 г. ва ўсіх абласных цэнтрах было створана па 2–3 аб'яднанні. Ствараліся яны і ў раённых цэнтрах і нават вёсках, дзе былі буйныя сярэднія школы. Першынствавала мінская "Талака".

Спачатку палітычныя пытанні ў праграмы клубаў і аб'яднанняў не ўключаліся. Напрыклад, мінская "Талака" ў сваёй праграме заяўляла, што будзе займацца выключна праблемамі нацыянальнай самабытнасці, захоўваннем помнікаў гісторыі і культуры.





Аднак прыкладна з другой паловы 1987 г. у дзейнасці клубаў і арганізацый усё больш і больш пачынаюць праяўляцца цэнтралізацыя і палітызацыя. У выніку перагавораў з уладамі ў снежні 1987 г. было дазволена правесці пад Мінскам вальны сойм беларускіх суполак. Удзельнікі яго гаварылі аб дэфармацыях сацыялізму, неабходнасці пабудовы сапраўднага сацыялізму, адраджэння беларускай нацыянальнай культуры. Спасылаючыся на У.І.Леніна, яны рабілі спробы крытыкаваць кіраўніцтва Беларусі. Гэта быў ужо, безумоўна, не культурна-асветны, а палітычны рух. Ішла самая звычайная палітычная барацьба пад прыкрыццём лозунга адраджэння нацыянальнай культуры. Пачыналася канфрантацыя маладзёжных суполак з ЦК КПБ, партыйнымі і камсамольскімі органамі.

Палітычную барацьбу моладзі накіроўвала частка навуковай і творчай інтэлігенцыі. 15 снежня 1986 г. 28 прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі накіравалі на імя М.Гарбачова пісьмо, у якім былі пастаўлены пытанні развіцця беларускай мовы і літаратуры, адраджэння нацыянальнай культуры. Рэакцыя кіраўніцтва Беларусі была адмоўнай – пастаўленыя пытанні былі надуманыя і не заслугоўвалі ўвагі. У чэрвені 1987 г. М. Гарбачову было накіравана другое пісьмо, падпісанае 134 прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі. Камісія ЦК КПСС, якая прыбыла ў БССР, не садзейнічала вырашэнню пытанняў, пастаўленых часткай інтэлігенцыі рэспублікі.

Затым апазіцыя робіць спробу абвяржэння тагачаснай канцэпцыі гісторыі Беларусі. На пленуме Саюза пісьменнікаў БССР у маі 1987 г. сцвярджалася, што ў падручніку па гісторыі БССР для вучняў сярэдняй школы дапушчаны памылкі ў трактоўцы пытанняў этнагенезу беларусаў, Полацкага княства, Вялікага княства Літоўскага, узаемаадносін Беларусі і Расіі і г. д. Тагачасная афіцыйная канцэпцыя гісторыі не прымаецца і робіцца спроба стварыць новую. Ідэолагам і кумірам адраджэння становіцца гісторык М.І. Ермаловіч. Пачынаюць друкавацца яго кнігі "Старажытная Беларусь" і "Па слядах аднаго міфа".

Палітызацыі грамадскага жыцця, зблiжэнню маладзёжных суполак з інтэлігенцыяй садзейнічала публікацыя 3 чэрвеня 1988 г. у газеце "Літаратура і мастацтва" артыкула З.Пазняка і Е.Шмыгалева "Курапаты – дарога смерці". Тэма рэпрэсій 20–50-х гадоў, крытыка КПБ і савецкай улады ставіцца апазіцыяй на першы план. Узнікае палітызаваны "Камітэт-58".

У ліпені–верасні 1988 г. у Мінску праходзілі дзве агульнагарадскія дыскусіі: 1) аб будаўніцтве 2-й лініі метро і захаванні Верхняга горада; 2) аб нацыянальнай сімволіцы. У час дыскусій актыўную пазіцыю займала толькі радыкальна настроеная моладзь. Менавіта цяпер робіцца першая спроба апрабавання праз моладзь ідэі арганізаванай палітычнай апазіцыі.

У 1988 г. у авангардзе апазіцыйных сіл ішла мінская "Талака", якая неўзабаве выступіла з ідэяй стварэння народнага фронту. "Та-

лака" падвергла крытыцы тэзісы ЦК КПСС да XIX партканферэнцыі, выказалася за адмену артыкула Канстытуцыі СССР аб партыйным кіраўніцтве, за перадачу ўласнасці ў карыстанне працоўных калектываў і асобных людзей, за прывядзенне механізму рэалізацыі канстытуцыйных свабод у адпаведнасць з сусветнымі дэмакратычнымі нормамі, за суверэнітэт рэспублікі і стварэнне новага саюза па тыпу Савета Эканамічнай Узаемадапамогі. Гэта быў, па сутнасці, першы афіцыйны праграмны дакумент палітычнай апазіцыі, якая нараджалася на Беларусі.

4 кастрычніка 1988 г. на пасяджэнні клуба "Талака" быў раздадзены яго членам "Зварот" ініцыятыўнай групы канфедэрацыі беларускіх суполак да беларускай моладзі. Фактычна гэта быў першы варыянт праграмы Беларускага народнага фронту (БНФ). 15 кастрычніка 1988 г. на пасяджэнні клуба "Современник" была зроблена спроба стварыць арганізацыйны камітэт па ўтварэнні БНФ. Аднак гэта спроба не ўдалася з-за супрацьдзеяння часткі навуковай і творчай інтэлігенцыі. 19 кастрычніка 1988 г. на пасяджэнні "Камітэта-58", пераўтворанага ў "Мартыралог Беларусі", ствараецца арганізацыйны камітэт БНФ у складзе 35 чалавек, з якіх толькі двое рабочыя, а астатнія – прадстаўнікі інтэлігенцыі. "Мартыралог Беларусі" ўзначаліў навуковец З.Пазняк, арганізацыйны камітэт БНФ – пісьменнік В.Якавенка.

Несанкцыяніраваны мітынг, праведзены апазіцыяй у кастрычніку 1988 г. і прысвечаны святкаванню Дзядоў, прымусіў улады задзейнічаць сілавыя структуры. Дзеячы апазіцыі на мітынгах і ў друку разгарнулі кампанію па абвінавачванні праваахоўных органаў і кіраўнікоў Беларусі ў незаконных дзеяннях супраць народа. Ствараліся безвыніковыя афіцыйныя камісіі па даследаванні кастрычніцкіх падзей. Да кіраўніцтва арґкамітэтам па стварэнні БНФ прыйшоў З.Пазняк і яго прыхільнікі.

Як жа рэагавалі на арганізаваную палітычную апазіцыю і яе дзейнасць ЦК КПБ, урадавыя структуры?

*Па-першае*, партыйныя і дзяржаўныя кіраўнікі Беларусі ў цэнтры і на месцах не змаглі глыбока прааналізаваць канкрэтныя з'явы жыцця і своечасова прыняць патрэбныя палітычныя рашэнні. Возьмем да прыкладу матэрыялы перапісу насельніцтва БССР 1979 г. Яны сведчаць аб тым, што ў БССР жыло 7568 тыс. беларусаў (79,1 %), 1134 тыс. рускіх (11,9 %), іншыя нацыянальнасці складалі 8,7 % усяго насельніцтва. Між тым 1248 тыс. беларусаў (16 %) назвалі рускую мову сваёй роднай мовай, 4750 тыс. беларусаў (62,7 %) назвалі рускую мову ў якасці другой роднай мовы. І толькі 1579 тыс. беларусаў (17,6 %) назвалі роднай мовай беларускую.

Прычынамі гэтага з'яўляліся цесныя сувязі з Расіяй і іншымі рэспублікамі краіны, працэсы урбанізацыі насельніцтва, рускамоўнае выкладанне ў навучальных установах. Толькі 30 % вучняў рускамоўных школ Беларусі вывучалі беларускую мову і літаратуру (у





Мінску 10 %). У гарадах, дзе жыло 71,5 % беларусаў, не было ні адной беларускай школы, у сельскай мясцовасці – 70 % беларускіх і 30 % рускіх школ.

Сітуацыя ў Беларусі, звязаная з укараненнем двухмоўя, апазіцыяй была выкарыстана як палітычны фактар. Крытыцы падвергліся партыйныя і дзяржаўныя органы, праз якія быццам бы Масква праводзіла русіфікатарскую палітыку. І хоць большасць насельніцтва Беларусі правільна разумела сутнасць аб'ектыўных працэсаў, усё ж сацыяльная база для незадаволенасці была: гэта прыкладна 1,5 млн беларусаў, якія назвалі роднай мовай толькі беларускую.

*Па-другое*, кіраўнікі ЦК КПБ і ўрада БССР не заўсёды былі самастойнымі ў прыняцці адказных рашэнняў. Так было і цяпер. ЦК КПСС прыняў тры пастановы аб развіцці нефармальных аб'яднанняў. Аднак канкрэтныя дзеянні Масквы не адпавядалі пастановам, словы і справы разыходзіліся карэнным чынам. Таму партыйныя камітэты апынуліся ў цяжкім становішчы. Яны сталі заложнікамі ЦК КПСС, а таксама падзей, звязаных з утварэннем палітычнай апазіцыі.

*Па-трэцяе*, кіраўнікі Кампартыі Беларусі лічылі апазіцыю несур'ёзнай з'явай, наіўна разлічвалі на ідэалагічны і палітычны імунітэт народа, яго адданасць савецкай уладзе, таму работа сярод працоўных калектываў не праводзілася. Закончылася няўдачай і спроба партыйных камітэтаў стварыць новыя структуры – таварыства беларускай мовы, эканамічны саюз, саветы ветэранаў, жанчын, розныя фонды для барацьбы з апазіцыяй. Пераважна інтэлігенцкі склад гэтых новых структур прывёў да фактычнага ўзмацнення апазіцыі і далейшага падзення аўтарытэту КПБ і яе мясцовых камітэтаў.

*Па-чацвёртае*, у другой палове 80-х гадоў большасць насельніцтва Беларусі з натхненнем прыняла палітыку перабудовы і шчыра верыла, што яна праводзіцца для таго, каб зрабіць наша сацыялістычнае грамадства яшчэ лепшым, вывесці яго на вышэйшы сусветны ўзровень. А паколькі, як сцвярджаў М.Гарбачоў, правядзенню новага курсу перашкаджае партыйная і савецкая бюракратыя, частка народа падтрымала апазіцыю, якая вяла ў той час палітычную кампанію супраць партыйных камітэтаў, дзе амаль усе тады лічыліся праціўнікамі, ворагамі перабудовы. Аб намерах апазіцыі капіталізаваць краіну народу стала вядома пазней, а ў той час частка яго актыўна ўдзельнічала ў палітычных акцыях, падтрымлівала апазіцыю, "граміла" партыйных бюракратаў.

На развіццё палітычнага працэсу паўплывала таксама гіпертрафіраваная бытавая псіхалогія часткі насельніцтва. Многія на ўласным вопыце адчулі бяздушша і бюракратызм партыйных і дзяржаўных чыноўнікаў і не без падстаў абвінавачвалі ў гэтым усю партыю і ў цэлым савецкую ўладу. Гэта ж самае пачынала рабіць апазіцыя. Супадзенне поглядаў нефармалаў і часткі насельніцтва садзейнічала падрыву, а потым разбурэнню афіцыйных дзяржаўных і партыйных

структур. Палітычная мімікрыя апазіцыі і дэфармацыя грамадскай свядомасці адыгралі рашаючую ролю ў тагачасным палітычным працэсе.

Канец 1988 г.– першая палова 1989 г. праходзяць пад знакам узмацнення апазіцыі, яе намаганняў стварыць палітычную арганізацыю. 23–24 чэрвеня 1989 г. у Вільнюсе адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускага народнага фронту "Адраджэнне за перабудову", які выбраў сойм БНФ з 55 чалавек і праўленне БНФ з 21 чалавека. У прынятай з'ездам праграме падтрымлівалася пачатая лепшымі сіламі КПСС перабудова грамадства на прынцыпах дэмакратыі і сацыяльнай справядлівасці. У ёй гаварылася пра неабарачальнасць перабудовы, стварэнне прававой дзяржавы, правядзенне радыкальнай эканамічнай рэформы і ўвядзенне поўнага рэспубліканскага гаспадарчага разліку, аднаўленне ленінскіх прынцыпаў нацыянальнай палітыкі і забеспячэнне рэальнага суверэнітэту Беларусі. Праграма не выходзіла за межы афіцыйнай палітыкі перабудовы, якая ў той час праводзілася КПСС. Аднак менш як праз год гэта праграма будзе забыта.

30 чэрвеня – 1 ліпеня 1990 г. у Мінску адбылася прадстаўнічая канферэнцыя БНФ з удзелам 492 чалавек, з іх 283 – дэлегаты. Канферэнцыя адраклася ад ранейшай падтрымкі палітыкі перабудовы і выступіла з яўна антысавецкіх, антыкамуністычных пазіцый, заявіўшы аб тым, што КПБ згубіла падтрымку і давер з боку народа, а таму камуністы павінны пакінуць рады скампраметаванай партыі. Яна паставіла перад членамі БНФ наступныя задачы:

а) ліквідаваць кантроль КПБ над арміяй, Камітэтам дзяржаўнай бяспекі, Міністэрствам унутраных спраў, школай, судом і пракуратурай, знішчыць парткомы на прадпрыемствах і ва ўстановах, а таксама размеркавальныя функцыі КПБ, нацыяналізаваць яе маёмасць, раструмачваць антынародную, антыгуманную сутнасць камунізму;

б) весці барацьбу за ўладу праз стварэнне паралельных структур, такіх як "грамадзянскія камітэты", якія праводзяць выбары ва Усебеларускі ўстаноўчы сойм. Апошні бярэ ўладу ў свае рукі і распускае Вярхоўны Савет БССР;

в) наладзіць супрацоўніцтва з дэмакратычнымі партыямі, якія ў гэты час ствараліся, дзе БНФ быў бы каардынуючым цэнтрам, шукаць выхад на радыё і тэлебачанне, выкарыстоўваць друк, клубы выбаршчыкаў, дэпутацкія групы, надаць антыкамунізму арганізацыйную форму, а інтэлектуальны патэнцыял КПБ выкарыстоўваць у інтарэсах БНФ;

г) выпрацаваць ідэю поўнай незалежнасці Беларусі без уваходжання яе ў склад СССР;

д) стварыць Балтыйска-Чарнаморскі саюз (дзяржаву "ад мора і да мора" па прыкладу Вялікага княства Літоўскага перыяду яго росквіту).

На антыдзяржаўныя заклікі і адкрытыя антыкамуністычныя выпады апазіцыі адэкватнае прававое рэагаванне адсутнічала. Больш таго, узмацнілася яе канфрантацыя з праваахоўнымі органамі,





партыйнымі і дзяржаўнымі структурамі. Не было і адпаведнага палітыка-арганізацыйнага рэагавання на дзеянні некаторых камуністаў і кіраўнікоў розных узроўняў, якія займалі прабэнэзфаўскія пазіцыі.

З-за асабістых амбіцый лідэраў апазіцыі, іх барацьбы за ўладу пачынае праяўляцца тэндэнцыя да выхаду з БНФ тых, хто не падзяляў яго праграму, і стварэння асобных палітычных партый і арганізацый. У 1989–1990 гг. дзейнічалі Дэмакратычная партыя Беларусі, Дэмакратычная партыя (г. Гродна), Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі, Сялянскі саюз Беларусі, Рэспубліканская партыя Беларусі (г. Брэст). Працавалі таксама арганізацыйныя камітэты па стварэнні іншых партый.

23–24 сакавіка 1991 г. у Мінску адбыўся II з'езд БНФ, на якім прысутнічалі 443 дэлегаты. З'езд прыняў новы статут, праграмную заяву "Свабода. Незалежнасць. Адраджэнне", зварот да народа Беларусі ў сувязі з рэферэндумам і іншыя дакументы, якія мелі адкрытую антысавецкую і антыкамуністычную накіраванасць. БНФ лічыў, што галоўнай рэакцыйнай сілай грамадства з'яўляецца партыя камуністаў і таму трэба ліквідаваць манаполію КПСС на ўладу, ажыццявіць дэпалітызацыю дзяржаўнага і грамадскага жыцця рэспублікі, учыніць грамадскі суд над КПСС–КПБ. У сувязі з тым, што палітыка перабудовы "правалілася", што яна абмежавалася спробамі "касметычнага рамонту аджыўшай сістэмы", з назвы арганізацыі былі зняты словы "за перабудову".

II з'езд БНФ выступіў не толькі за адхіленне ад улады КПБ, але і за замену Вярхоўнага Савета соймам, а мясцовых Саветаў – муніцыпальным самакіраваннем, за капіталістычны рынак, першынство прыватнай уласнасці, самастойнае эканамічнае жыццё (беларускі нацыянальны банк, уласная фінансавая палітыка, беларускія грошы – талер і г. д.), стварэнне беларускага войска, аддзяленне Беларусі ад СССР. Гэта быў курс на капіталістычную рэстаўрацыю ў Беларусі.

Акрамя таго, з'езд зрабіў спробу пераўтварыць фронт у партыю: прыём у склад сяброў БНФ праводзіцца з 18 гадоў на аснове пісьмовай заявы, прадугледжана магчымасць выключэння з БНФ, чаго няма ў практыцы рухаў, сябры фронту рэгулярна плацяць узносы, велічыню якіх вызначае самастойна суполка, 10 % узносаў пералічваецца ўправе БНФ, вызначаюцца правы і абавязкі сяброў, уводзяцца членскія білеты і значкі.

З'езд зацвердзіў новыя правілы стварэння сойма БНФ. Калі на I з'ездзе ён выбіраўся цалкам тайным галасаваннем, дык цяпер палова членаў сойма выбіралася на з'ездзе, а другая палова вылучалася партыйным фронтам (партыямі, якія БНФ хацеў сабраць пад сваім кіраўніцтвам) і тэрыторыямі (прадстаўнікамі абласных арганізацый БНФ). Частка палітычных партый Беларусі адмовілася ўступіць у структуры БНФ. Кіруючымі органамі БНФ былі вызначаны з'езд і сойм, выканаўчым органам – управа.

Па прыкладу краін Прыбалтыкі і Усходняй Еўропы апазіцыя робіць стаўку на развіццё мітынговай стыхіі. Шматлікія мітынгі і маніфестацыі пракаціліся па гарадах Беларусі вясной 1991 г. На шматтысячных мітынгах у Мінску лідэры БНФ, палітычных партый і арганізацый не толькі гаварылі пра "жабрацтва і развал, дрымучую адсталасць і неатаваранья талоны, Чарнобыль і каланіяльную залежнасць Беларусі ад цэнтра", але і адкрыта заклікалі пакончыць з "камуністычнай дыктатурай".

Прававога рэагавання на гэтыя заклікі таксама не было. Інертнасць і абыякавасць, баязлівасць і здрадніцтва многіх кіраўнікоў Беларусі, мясцовых партыйных і дзяржаўных органаў, сілавых структур вялі да гібелі савецкай улады, да капіталістычнай рэстаўрацыі. Значная частка палітычна актыўнага насельніцтва падтрымала апазіцыю, другая частка раўнадушна заняла нейтральную пазіцыю. Тыя, хто актыўна падтрымліваў савецкую сістэму і яе абаронцаў, аказаліся ў меншасці. КПБ паступова адхілялася ад кіраўніцтва грамадствам. Набліжалася развязка. Яна наступіла ў жніўні 1991 г.

## § 2. Крызіс аднапартыйнай савецкай сістэмы: прычыны, сутнасць, вынікі. Развал СССР. Абвяшчэнне суверэннай Рэспублікі Беларусь

З сярэдзіны 20-х і да канца 80-х гадоў у СССР дзейнічала аднапартыйная палітычная сістэма, ядром якой з'яўлялася Камуністычная партыя. Аднапартыйная сістэма забяспечвала палітычную, сацыяльна-эканамічную і культурна-маральную ўстойлівасць і стабільнасць грамадства, правы і свабоды грамадзян, дружбу народаў шматнацыянальнай дзяржавы, упэўненасць людзей працы ў заўтрашнім дні.

Не прымаючы палітычную кан'юнктуру і прытрымліваючыся навуковага падыходу, адзначым, што КПСС не была партыяй у тым сэнсе, як гэта разумеюць на Захадзе. КПСС была з'явай у структуры савецкага грамадства, якая раней ніколі і нідзе не сустракалася. Слова "партыя" ў нас захоўвалася па традыцыі. КПСС у той яе частцы, якая складалася з пярвічных арганізацый, была з'явай грамадскай, структурным збудаваннем працоўных калектываў. Радавыя члены партыі ў масе сваёй былі лепшымі членамі грамадства. Яны не рабілі ніякай кар'еры за кошт партыйнасці і не мелі ніякіх прывілеяў. Для іх членства ў партыі неабходным быў удзел у грамадска-палітычным жыцці краіны і сваіх працоўных калектываў. Іх паўсядзённай працай умацоўвалася дзяржава.

КПСС у той яе частцы, якая складалася з партыйных камітэтаў, была асяродкам, асновай сістэмы ўлады і кіравання, г. зн. дзяржавы, але арганізацыйна з ёю не злівалася. Таму КПСС нельга лічыць дзяржаўнай структурай у поўным сэнсе гэтага слова, аб чым сведчаць і тыповы сюжэт літаратуры – канфлікт паміж партыйным сакратаром і дырэктарам завода, і наяўнасць "тэлефоннага права", і падмена дзяржаўных органаў (падмяняць – значыць часова браць на сябе выкананне чужых, неўласцівых сабе абавязкаў, якія ў нармальнай сітуацыі павінен выконваць нехта іншы, вызначаны для гэтых функцый), і дабраахвотнае членства, і яе значная эканамічная аўтаномія ад дзяржавы (поўнай аўтаноміі няма нідзе – цяпер некаторыя дзяржавы на Захадзе аказваюць партыям фінансавую падтрымку), і прызнанне КПСС у якасці партыі яе зарубежнымі аналагамі, і існаванне міжпартыйных сувязей.

Чым больш дэмакратычным з'яўляецца грамадства, тым большую частку функцый органы дзяржавы выконваюць разам з грамадскімі структурамі ці перадаюць ім. А што датычыць кар'ерызму і злоўжыванняў партыйнага апарату, дык гэта з'ява ўсеагульная, а не спецыфічная толькі для КПСС, яна ўласціва партыйнаму і дзяржаўнаму апарату любой заходняй краіны.

Савецкі Саюз быў ідэакратычнай дзяржавай. Носьбітам сацыялістычнай ідэалогіі ў першую чаргу з'яўлялася КПСС. Але ж і краіны Захаду таксама кіруюцца жорсткай ідэяй, ідэалогіяй. У ЗША, напрыклад, ліберальныя да чалавека, пакуль ён прызнае іх ідэалагічныя каштоўнасці, права быць лідэрам у свеце, дэкларуе свой абсалютны патрыятызм. У Германіі існуе забарона на прафесіі па ідэалагічных меркаваннях, што яскрава прадэманстравалі заходнія "цывілізаваныя немцы" ў адносінах да сваіх братоў з былой ГДР. Дзяржаў, свабодных ад ідэалогіі, у свеце не існуе.

Удзел палітычных партый у рабоце органаў улады і кіраўніцтве дзяржавамі – таксама з'ява ўсеагульная, характэрная як для Усходу, так і для Захаду. Толькі ажыццяўляецца гэта кіраўніцтва ў розных краінах па-рознаму, спецыфічнымі метадамі і сродкамі. У гэтым – сутнасць праблемы. На Захадзе першыя кіраўнікі дзяржаў адначасова з'яўляюцца лідэрамі сваіх партый, але іх дзяржаўныя пасады афіцыйна не звязваюцца з партыяй (прэзідэнт, прэм'ер-міністр і г. д.), у СССР першым кіраўніком дзяржавы з'яўляўся партыйны лідэр – Генеральны сакратар ЦК КПСС.

Дзякуючы КПСС краіна выжыла ў складаных гістарычных абставінах, дабілася поспехаў і параўнальна высокага ўзроўню жыцця шырокіх колаў насельніцтва, што сёння асабліва бачна на фоне паніжэння гэтага ўзроўню ў 10–15 разоў. У сувязі з гэтым дыскусія аб нейкай злачыннай сутнасці КПСС носіць палітычны характар і да сапраўднага навуковага высвятлення праблемы не мае ніякага дачынення. Гістарычны вопыт сведчыць пра тое, што ўстойлівасць і стабільнасць грамадства забяспечваюць палітычныя сістэмы, у якіх не шмат, а 2–3 палітычныя партыі адной ідэйна-палітычнай арыентацыі, якія канкуруюць у барацьбе за ўладу (ЗША, Англія і інш.), ці адна партыя (былы СССР, сацыялістычныя і іншыя краіны), якая карыстаецца падтрымкай большасці народа.

У другой палове 80 – пачатку 90-х гадоў у ходзе ажыццяўлення ў СССР палітыкі перабудовы, актывізацыі сіл буржуазнага адраджэння, гіпертрафіраванага разумення дэмакратыі, плюралізму і галоснасці, грубай, бяздоказнай крытыкі КПСС, усяго савецкага, сацыялістычнага, а таксама дзякуючы "дапамозе Захаду" пачалося размыванне ідэі і разбурэнне сістэмы монапартыйнасці, якая ў СССР склалася гістарычна ў працэсе непрымірымай палітычнай барацьбы, нежадання іншых партый супрацоўнічаць з бальшавікамі. У свядомасць народа ўбівалася думка аб тым, што ўсе беды краіны абумоўлены наяўнасцю адной партыі, што толькі шматпартыйнасць забяспечвае сапраўдную дэмакратыю, росквіт дзяржаў і народаў.

Увядзенне ў жніўні 1991 г. надзвычайнага становішча ў шэрагу рэгіёнаў СССР, нерашучасць генсека М.Гарбачова, Палітбюро і Сакратарыята ЦК КПСС, многіх мясцовых кіраўнікоў далі магчымасць сілам капіталістычнай рэстаўрацыі пры палітычнай інертнасці большасці камуністаў і беспартыйных перайсці ў рашучае наступленне супраць КПСС. Прыклад у разбурэнні партыі паказалі некаторыя партыйныя і дзяржаўныя кіраўнікі, якія яшчэ ўчора кляліся ў вернасці марксізму-ленінізму, справе камунізму. Трагедыя і віна КПСС у тым, што яна не толькі без барацьбы аддала краіну на разарванне і разграбленне, але і стала "траянскім канём", дзякуючы якому да ўлады ў цэнтры і на месцах ішлі кар'ерысцкія, антысавецкія яе вярхі.

Прэзідэнт Расіі Б.Ельцын са здрадніцкай згоды М.Гарбачова выдаў указы: 23 жніўня 1991 г. – "Аб прыпыненні дзейнасці Камуністычнай партыі РСФСР", 25 жніўня 1991 г. – "Аб маёмасці КПСС і Камуністычнай партыі РСФСР" і 6 лістапада 1991 г.– "Аб дзейнасці КПСС і КП РСФСР". Указамі забаранялася дзейнасць КПСС і КП РСФСР на тэрыторыі Расіі, а іх маёмасць падвяргалася канфіскацыі. У жніўні 1991 г. Вярхоўны Савет Беларусі часова прыпыніў дзейнасць КПСС–КПБ на тэрыторыі рэспублікі. Крыху пазней яе маёмасць была перададзена ва ўласнасць дзяржавы.

Ва ўмовах палітычнай істэрыі лета – восені 1991 г. КПСС, яе камітэты і радавыя камуністы аказаліся маральна і палітычна не гатовымі для барацьбы за захаванне партыі, дзяржаўнага і грамадскага ладу. Краіна перажывала глыбокі палітычны крызіс, які выяўляўся ў паралізаванні структур дзяржаўнай улады, палітычнай інертнасці і абыякавасці народа.

Чаму летам 1991 г. народ не падтрымаў ні адну палітычную сілу, у тым ліку і КПСС? Чым быў абумоўлены крызіс аднапартыйнай сістэмы, канчатковы зыход КПСС з арэны як палітычнага кіраўніка краіны?

Гэтыя з'явы былі абумоўлены перш-наперш сур'ёзнымі памылкамі і пралікамі КПСС–КПБ, якія былі дапушчаны ў распрацоўцы і правядзенні палітыкі перабудовы. Адсутнічала канкрэтная, навукова абгрунтаваная праграма абнаўлення савецкага грамадства, не былі





вызначаны мэты і задачы, канчатковыя вынікі. Гэта дазволіла на практыцы лозунг "Больш дэмакратыі, больш сацыялізму" незаўважна для народа падмяніць лозунгам "Больш капіталізму, больш разбуральнай дэмакратыі" і ўрэшце скаціцца на шлях пераўтварэння СССР у сыравінны прыдатак, рынак збыту нізкагатункавых тавараў, крыніцу таннай кваліфікаванай рабочай сілы для іншых развітых дзяржаў, значнага пагаршэння ўзроўню жыцця. У грамадстве з'явіліся капіталістычныя тэндэнцыі – узбагачэнне любымі сродкамі. Бачачы гэтыя негатыўныя працэсы, значная частка народа стала абвінавачваць КПСС–КПБ, партыйную эліту і ўсіх тых, па чыёй ініцыятыве пачалася перабудова. Сацыялістычныя ідэалы ў вачах мільёнаў абясцэньваліся, аўтарытэт КПСС–КПБ катастрафічна падаў.

Негатыўныя працэсы і з'явы ў грамадскім жыцці суправаджаліся вельмі моцнай прапагандысцкай кампаніяй па дыскрэдытацыі КПСС, Савецкай дзяржавы, савецкага ладу жыцця, дасягненняў краіны. Гэта кампанія ажыццяўлялася пры патуранні і дапамозе, а іншы раз і пры асабістым удзеле вышэйшых партыйных і дзяржаўных кіраўнікоў краіны – М.Гарбачова, А.Якаўлева, Э.Шэварднадзе, І.Сілаева, В.Бакаціна і інш. Прапагандысцкія намаганні прыкрываліся лозунгамі "новага палітычнага мыслення", "агульначалавечых каштоўнасцей", "палітычнага плюралізму", "дэідэалагізацыі","дэпалітызацыі", "дэпартызацыі".

Шмат папрацавала на карысць распальвання антысавецкай і антыкамуністычнай істэрыі частка навуковай, творчай і тэхнічнай інтэлігенцыі. Ідэолагам "заходнізацыі" і "амерыканізацыі" краіны ўдалося метадам сацыяльнай дэмагогіі раз'яднаць працоўных, выклікаць схільнасць да хістанняў і крайніх дзеянняў, прымусіць паверыць, што толькі яны стаяць на абароне іх інтарэсаў. Людзей прымусілі паверыць, што тыя, хто не здрадзіў сваім поглядам,— гэта рэакцыянеры, кансерватары, якія заслугоўваюць пагарды, а тыя, хто за адзін дзень змяніў погляды, перафарбаваўся,– гэта сапраўдныя героі, новыя барацьбіты за "светлую будучыню народа". Прапагандысцкія намаганні апазіцыі і рэнегатаў-камуністаў давалі ім значныя палітычныя дывідэнды.

Не садзейнічалі павышэнню аўтарытэту і ўзмацненню палітычнага ўплыву адарванасць вярхоў КПСС ад народа і шматмільённай арміі радавых камуністаў, пратэкцыянізм, хабарніцтва, карупцыя, замкнутасць партыйнай іерархіі, шырокае распаўсюджанне бюракратызму ў рабоце, недэмакратычнасць кадравай палітыкі, грубае падаўленне іншадумства. Усё гэта, як і распаленую істэрыю вакол ільгот і прывілеяў, прапаганда апазіцыі выкарыстала для дыскрэдытацыі партыйных кіраўнікоў, для выхавання ў людзей пачуцця нянавісці да іх. Памылкі ў кіраўніцтве выдаваліся за ўсеагульную некампетэнтнасць і бяздарнасць партакратаў, а недахопы ў развіцці сацыяльна-эканамічнай і духоўна-маральнай сфер – за трагедыю і катастрофу краіны. Часткай насельніцтва гэта ўспрымалася за праўду.

І нарэшце, патрэбна адзначыць, што ў час суровых выпрабаванняў генсек, Палітбюро і Сакратарыят ЦК КПСС здрадзілі сваёй партыі. Яны не звярнуліся да КПСС і народа, не зрабілі нават спробы склікаць з'езд партыі ці пленум ЦК КПСС, ніяк не супрацьдзейнічалі антыканстытуцыйным акцыям прэзідэнтаў СССР і Расіі і іх акружэння. Верхам ідэйнай і палітычнай здрады (наўмыснай ці ненаўмыснай), не маючай аналагаў у гісторыі, з'явіліся адказ у той трагічнай для КПСС сітуацыі М.Гарбачовым ад паўнамоцтваў Генеральнага сакратара ЦК КПСС і падпісанне супрацьпраўнага ўказа аб прыпыненні дзейнасці КПСС. Нічога не рабілі мясцовыя партыйныя камітэты і паслухмяныя члены партыі: капітуляцыя была масавай.

З пункту гледжання закона ўказы прэзідэнта Расіі з'яўляліся антыканстытуцыйнымі актамі. Чаму? *Па-першае*, адзіны тады закон СССР "Аб грамадскіх аб'яднаннях" ад 9 кастрычніка 1990 г. рэгуляваў дзейнасць партый, устанаўліваў кампетэнцыю толькі Вярхоўнага суда СССР на рашэнне аб ліквідацыі партыі як грамадскага аб'яднання, прычым толькі пры ўмове парушэння ёю законаў і пры папярэджанні Міністэрства юстыцыі СССР. Канкрэтных абвінавачванняў у адрас КПСС аб парушэнні ёю законаў не было прад'яўлена, папярэджанняў таксама не было, значыць, не існавала прававой асновы нават для пастаноўкі пытання аб забароне дзейнасці партыі камуністаў, тым больш канкрэтных дзеянняў па ліквідацыі яе арганізацыйных структур, захопу маёмасці. Канстытуцыя РСФСР, закон СССР "Аб грамадскіх аб'яднаннях" не дазвалялі прэзідэнту Расіі прыпыняць і забараняць дзейнасць партый, аб'яўляць іх уласнасць дзяржаўнай.

*Па-другое*, магчымасць прыпынення ў той час дзейнасці палітычных партый у звычайных сітуацыях не была прадугледжана дзеючым заканадаўствам на тэрыторыі Расіі. Такая магчымасць звязвалася з увядзеннем надзвычайнага становішча і пры ўмове, што палітычнай партыі вынесена папярэджанне. Класічных умоў на момант прыняцця прэзідэнцкіх указаў не было: надзвычайнае становішча не ўводзілася ў парадку, устаноўленым законам, а КПСС і КП РСФСР не папярэджваліся за парушэнне савецкіх законаў.

*Па-трэцяе*, законам "Аб уласнасці ў РСФСР" дапускалася канфіскацыя маёмасці як па рашэнні суда, так і па рашэнні іншага правамоцнага дзяржаўнага органа ці службовай асобы як пакаранне за здзейсненае злачынства ці правапарушэнне. Але прэзідэнт Расіі не аднесены да ліку асоб, надзеленых правам канфіскацыі.

*Па-чацвёртае*, абвінавачванне партыі ў дзяржаўным перавароце — надуманае і бяздоказнае: ніякіх рашэнняў па гэтым пытанні не прымалася. Калі ў жніўні 1991 г. была змова супраць законнай улады, тады ў судовым парадку трэба было высветліць, хто хацеў здзейсніць ці сапраўды здзейсніў дзяржаўны пераварот, і вінаватых прыцягнуць да крымінальнай адказнасці па закону.

Больш таго, у прэзідэнцкім указе ад 23 жніўня 1991 г. гаварылася аб тым, што прыпыненне дзейнасці партыі працягнецца да ўстанаў-







*Дом урада Рэспублікі Беларусь*

лення ў судовым парадку неканстытуцыйнасці дзеянняў КП РСФСР. Суд не адбыўся, неканстытуцыйнасць дзеянняў не ўстаноўлена і не даказана, але тым не менш 6 лістапада 1991 г. быў выдадзены новы ўказ аб забароне дзейнасці КПСС і КП РСФСР. Атрымалася, што прэзідэнт Расіі груба парушыў свой асабісты ўказ. Усё гэта з'яўляецца яркім прыкладам прававой бязмежнасці ва ўмовах палітычнай барацьбы за ўладу.

Кіраўнікі і народныя дэпутаты Беларусі, большасць з якіх з'яўляліся камуністамі, таксама дапусцілі супрацьпраўныя дзеянні. Яны прынялі пастанову аб прыпыненні дзейнасці кампартыі рэспублікі, хаця гэта адносілася да кампетэнцыі толькі суда, і абвінавацілі КПБ у аказанні падтрымкі ў ажыццяўленні дзяржаўнага перавароту ў Расіі ў жніўні 1991 г.

Праведзеная пракуратурай і Міністэрствам юстыцыі рэспублікі праверка паказала, што віны, за якую Вярхоўны Савет пакараў кампартыю Беларусі, няма, што да дзеянняў дзяржаўнага камітэта па надзвычайнаму становішчу яна не мела ніякага дачынення. Вось чаму ў лютым 1993 г. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прызнаў страціўшай сілу сваю памылковую пастанову аб часовым прыпыненні дзейнасці КПСС–КПБ і дазволіў існаванне ўсіх яе структур і органаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.



*Дзяржаўны герб Беларускай ССР. 1919–1991 гг.*

Крыху раней, 30 лістапада 1992 г., пастановай Канстытуцыйнага суда Расійскай Федэрацыі былі пацверджаны ўказы прэзідэнта, якімі забараняліся партыйныя структуры КПСС і КП РСФСР ад райкома да ЦК, але прызнаваўся не адпавядаючым Канстытуцыі РСФСР пункт аб забароне пярвічных тэрытарыяльных арганізацый. Што датычыць партыйнай маёмасці, дык суд вырашыў дзяржаўную маёмасць, якой карысталіся КПСС і КП РСФСР, пакінуць дзяржаве, а лёс партыйнай маёмасці вырашаць у арбітражных судах.

Кампраміснае, палавінчатае рашэнне Канстытуцыйнага суда Расіі пакінула грамадству канфліктную сітуацыю і прадэманстравала сілу ўлады, а не сілу закона, але ўсё ж дазволіла камуністам Расіі аднавіць дзейнасць сваёй партыі, якая дабілася поспехаў на выбарах у Дзяржаўную думу ў снежні 1993 г.

Чаму летам – восенню 1991 г. улады суверэнных дзяржаў наўмысна пайшлі на грубае парушэнне законаў? Прычыны тут толькі палітычныя. КПСС–КПБ заставалася адзінай рэальнай апазіцыйнай сілай, якая ў сваёй праграме прадугледжвала сацыялістычную, а не капіталістычную перабудову савецкага грамадства. Яна дабівалася рэалізацыі волі народа на захаванне СССР, выражанай на агульнасаюзным рэферэндуме 17 сакавіка 1991 г. КПСС–КПБ супрацьдзейнічала заняпаду грамадскай вытворчасці, перадачы агульнанароднага багацця прадпрымальнікам і бізнесменам, наступленню на інтарэсы і правы грамадзян (права на працу, адукацыю, ахову здароўя, пенсійнае абслугоўванне, жыллё), развіццю "дабрачыннасці" айчынных і замежных мецэнатаў (начлежкі і сталовыя для бедных, т. зв. "гуманітарная дапамога", падачкі дзеячам навукі і культуры і г. д.), што зневажае працоўнага чалавека.

КПСС–КПБ ясна ўсведамляла, што капіталістычная рэстаўрацыя, злом сацыялістычнага дзяржаўнага і грамадскага ладу прывядзе да канфрантацыі, праліцця крыві, грамадзянскай вайны, што і адбылося ў многіх краінах СНД. Зразумела, што новыя ўлады знішчалі палітычную сілу, якая супрацьдзейнічала ім у ажыццяўленні палітыкі капіталістычнай рэстаўрацыі.

Аднак забарона дзейнасці КПСС–КПБ, адхіленне яе ад кіраўніцтва грамадствам не з'яўлялася канчатковай мэтай "дэмакратычнай" апазіцыі, якая цяпер цалкам заваявала ўладу і адкрыта стала на шлях





капіталістычнага адраджэння. У краіне быў здзейснены дзяржаўны пераварот. Паралельна з дзейнасцю па ліквідацыі КПСС–КПБ айчынная "дэмакратыя" разам з яе замежнымі "калегамі і сябрамі" ўзмацняла намаганні па развалу вялікай і магутнай дзяржавы – Саюза ССР.



*Дзяржаўны герб "Пагоня" Рэспублікі Беларусь. 1991–1995 гг.*

А цяпер зробім невялікую экскурсію ў гісторыю. З моманту пераўтварэння партыі камуністаў у кіруючую партыю і стварэння Савецкай Расіі, а затым СССР капіталістычны Захад ні на хвіліну не прыпыняў "вайны" на іх знішчэнне. Гэта "вайна" прымала розныя формы. Калі закончыліся няўдачай спробы ў 1917–1920 і 1941–1945 гг. знішчыць савецкі дзяржаўны і грамадскі лад сілай зброі, палітыкі і ідэолагі Захаду вырашылі ісці іншым шляхам. Гэты шлях вызначыў кіраўнік палітычнай разведкі ЗША ў Еўропе, а потым дырэктар ЦРУ Ален Далес яшчэ ў 1945 г. Яго праграма ўзаемаадносін з СССР, саюзнікам ЗША па антыгітлераўскай кааліцыі, на блізкую і далёкую перспектыву зводзілася да наступнага:

"Окончится война, все кое-как утрясется, устроится. И мы бросим все, что имеем, все золото, всю материальную помощь и ресурсы на оболванивание и одурачивание людей.

Человеческий мозг, сознание людей способны к изменению. Посеяв там хаос, мы незаметно подменим их ценности на фальшивые и заставим их в эти фальшивые ценности верить. Как? Мы найдем своих единомышленников, своих союзников и помощников в самой России.

Эпизод за эпизодом будет разыгрываться грандиозная по своему масштабу трагедия гибели самого непокорного на земле народа, окончательного, необратимого угасания его самосознания. Из литературы и искусства мы, например, постепенно вытравим их социальную сущность, отучим художников, отобьем у них охоту заниматься изображением, исследованием, что ли, тех процессов, которые происходят в глубинах народных масс. Литература, театр, кино – все будет изображать и прославлять самые низменные человеческие чувства. Мы будем всячески поддерживать и поднимать так называемых художников, которые станут насаждать и вдалбливать в человеческое сознание культ секса, насилия, садизма, предательства, словом, всякой безнравственности. В управлении государством мы создадим хаос и неразбериху...

Честность и порядочность будут осмеиваться и никому не станут нужны, превратятся в пережиток прошлого. Хамство и наглость, ложь, обман, пьянство, наркоманию, животный страх друг перед другом и беззастенчивость, предательство, национализм и вражду народов – все это мы будем насаждать ловко и незаметно.

49. Зак. 5565

...Будем вырывать духовные корни большевизма, опошлять и уничтожать основы народной нравственности. Мы будем расшатывать таким образом поколение за поколением, выветривать этот ленинский фанатизм. Мы будем браться за людей с детских, юношеских лет, будем всегда главную ставку делать на молодежь, станем разлагать, развращать, растлевать ее. Мы сделаем из них шпионов, космополитов. Вот так мы это и сделаем" (Правда. 1994. 10 марта).

У перыяд перабудовы ў СССР былі створаны ўсе ўмовы для поўнага ажыццяўлення "праграмы" А.Далеса. У 1989 г. ЗША распрацавалі стратэгічны план стварэння ў СССР "паралельнага цэнтра", з дапамогай якога можна было б поўнасцю паралізаваць сістэму кіравання краінай, звесці на нішто ролю і значэнне саюзных міністэрстваў і ведамстваў (у Беларусі БНФ прапанаваў ідэю стварэння паралельных структур улады ў выглядзе "грамадзянскіх камітэтаў").

У пачатку мая 1990 г. Савет нацыянальнай бяспекі ЗША зацвердзіў чарговы спецыяльны план мерапрыемстваў у адносінах да СССР, падрыхтаваны Цэнтральным разведвальным упраўленнем. Ставілася задача наладжваць кантакты з найбольш буйнымі фігурамі ў навуцы, літаратуры, мастацтве, дзяржаўным апараце, з народнымі дэпутатамі ўсіх узроўняў, атрымліваць ад іх патрэбную інфармацыю і на аснове яе аналізу і выпрацоўкі сваіх падыходаў планаваць выгаднае для Захаду ўздзеянне на палітычнае, эканамічнае, ваеннае і маральнае становішча як у СССР, так і ў саюзных рэспубліках.

Каб пазбегнуць абвінавачвання ва ўмяшанні ва ўнутраныя справы СССР, былі створаны шматлікія "фонды", "цэнтры", "саветы", "асацыяцыі", якія афіцыйна лічыліся прыватнымі, недзяржаўнымі арганізацыямі, а фактычна знаходзіліся пад кантролем спецслужб.

Апазіцыйныя "дэмакратычныя" арганізацыі СССР атрымлівалі матэрыяльную і фінансавую дапамогу: факсы, ксераксы, камп'ютэры, друкарскія станкі, тэлексы, відэакамеры і іншую тэхніку, грошы на фінансаванне навуковых тэм, падрыхтоўку вучэбных дапаможнікаў, слоўнікаў, энцыклапедый, якія ў нас распрацоўваліся па дамоўленасці з зарубежнымі "фондамі", "саветамі" і г. д. Такая работа садзейнічала вырашэнню многіх задач, у тым ліку і ідэалагічнага характару (навука, адукацыя – гэта частка палітыка-ідэалагічнай сістэмы любой краіны).

Пачатак развалу СССР паклалі мэтанакіраваныя і настойлівыя дамаганні народных дэпутатаў СССР ад Літвы, Латвіі і Эстоніі даць прававую ацэнку савецка-германскаму дагавору аб ненападзенні ад 23 жніўня 1939 г. Пытанне аб прававой ацэнцы дагавора ад 23 жніўня 1939 г. было вынесена на з'езд народных дэпутатаў СССР, які заслухаў даклад камісіі на чале з членам Палітбюро ЦК КПСС А.Якаўлевым. Дыскусія аб "незаконным" далучэнні Прыбалтыйскіх рэспублік да СССР у 1940 г. закончылася падпісаннем





М.Гарбачовым указа аб выхадзе Літвы, Латвіі і Эстоніі з СССР, чым груба былі парушаны Канстытуцыя СССР і закон СССР "Аб парадку вырашэння пытанняў, звязаных з выхадам саюзнай рэспублікі з СССР".

У хуткім часе былі прыняты дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Расіі, Украіны і іншых рэспублік. 27 ліпеня 1990 г. Вярхоўны Савет Беларускай ССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі. Развал СССР працягваўся пад прыкрыццём перамоў аб абнаўленні федэрацыі (т. зв. новаагароўскі працэс М.Гарбачова). Расійскія кіраўнікі пачалі дэмантаж саюзных структур. Нацыяналізм і шавінізм, шальмаванне "мігрантаў" і "акупантаў" становяцца амаль дзяржаўнай палітыкай у многіх рэспубліках.

Новы штуршок развалу СССР далі падзеі лета – восені 1991 г. 25–26 жніўня нечарговая сесія Вярхоўнага Савета БССР прыняла закон "Аб наданні статусу канстытуцыйнага закона Дэкларацыі Вярхоўнага Савета БССР аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі", пастанову аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці Беларускай ССР. 19 верасня 1991 г. Вярхоўны Савет прыняў закон аб назве Беларускай ССР, у адпаведнасці з якім яна пачала называцца Рэспублікай Беларусь.

8 снежня 1991 г. у Белавежскай пушчы (у Віскулях Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці) кіраўнікі Расіі, Беларусі і Украіны (Б.Ельцын, С.Шушкевіч, Л.Краўчук), ігнаруючы волю сваіх народаў, якая была выказана на агульнасаюзным рэферэндуме 17 сакавіка 1991 г., дэнансавалі дагавор 1922 г. аб утварэнні СССР і тым самым канчаткова разбурылі вялікую і магутную дзяржаву. І гэты дзяржаўны пераварот быў здзейснены са згоды прэзідэнта СССР М.Гарбачова. На руінах СССР была створана аморфная, нежыццяздольная Садружнасць Незалежных Дзяржаў. Дакументы сустрэчы ў Віскулях былі адобраны Вярхоўнымі Саветамі Расіі, Беларусі і Украіны, большасць дэпутатаў якіх складалі былыя камуністы.

Сцвярджэнне некаторых вучоных і палітыкаў аб тым, быццам бы Савецкі Саюз развальваўся сам, дажываў апошнія дні, а тыя, хто сабраўся ў Белавежскай пушчы, толькі зрабілі надпіс на надмагільнай пліце СССР, як і сцвярджэнне аб тым, быццам бы СССР быў імперыяй, з'яўляюцца міфамі, якія запушчаны ў народ для дыскрэдытацыі шматнацыянальнай краіны і апраўдання дзеянняў тагачасных кіраўнікоў Беларусі, Расіі і Украіны. На рэферэндуме 17 сакавіка 1991 г. народ выказаўся за захаванне СССР, а воля народа – гэта самы важны аргумент за існаванне краіны, у якой былі, безумоўна, праблемы і цяжкасці.

Разгром КПСС–КПБ, развал СССР, спробы прымусовай капіталізацыі грамадства па планах стратэгаў сусветнай геапалітыкі ў мэтах каланізацыі краін СНД прывялі да рэзкага абвастрэння супярэчнасцей паміж дзяржаўна-патрыятычнымі сіламі і айчыннай



*А. Р. Лукашэнка – першы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь*

касмапалітычнай (кампрадорскай) буржуазіяй, да грамадзянскай вайны ў шэрагу рэгіёнаў. Канфрантацыя паміж Вярхоўным Саветам і прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі, трагічныя падзеі ў Маскве ў верасні – кастрычніку 1993 г., прыняцце Канстытуцыі Расіі менш як трэцяй часткай галасоў выбаршчыкаў, вайна паміж Азербайджанам і Арменіяй, вайна ў Грузіі, Таджыкістане, ваенны канфлікт у Малдове, Чачні – гэта і многае іншае з'яўляецца вытворным ад тых падзей, якія адбыліся ў вялікай краіне ў жніўні і снежні 1991 г.

Разгром КПСС і развал СССР адносяцца да ліку самых трагічных падзей сусветнай гісторыі XX ст. Закончылася існаванне біпалярнага свету з раўнавагай палітычных і ваенных сіл паміж СССР і ЗША і наяўнымі ваенна-палітычнымі блокамі. Усё больш і больш выяўляецца роля ЗША як гаранта “новага сусветнага парадку”, як міжнароднага жандара, у якога ёсць інтарэсы ва ўсіх кропках планеты. Расія ж з-за развалу яе эканомікі, сацыяльнай і духоўнай сфер, з-за адкрыта праамерыканскай палітыкі кіраўніцтва, разгрому ваенна-прамысловага комплексу і арміі не можа адыгрываць ролю сусветнай дзяржавы і як роўная з ЗША ўдзельнічаць у вырашэнні міжнародных праблем. Будучыня сусветнай супольнасці стала яшчэ больш непрадказальнай.

15 сакавіка 1994 г. Вярхоўны Савет рэспублікі прыняў новую Канстытуцыю – Асноўны закон Рэспублікі Беларусь. Згодна з ёю, Беларусь з'яўляецца унітарнай дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржавай, якая валодае вяршэнствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі. Канстытуцыяй уведзена ў рэспубліцы прэзідэнцкая форма кіравання. 10 ліпеня 1994 г. першым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь абраны А.Р. Лукашэнка. Для забеспячэння эфектыўнай дзяржаўнай палітыкі было праведзена рэфарміраванне сістэмы выканаўчай улады, створана падпарадкаваная ўсенародна абранаму прэзідэнту скразная вертыкальная структура, якая ўключае выканаўчыя і распарадчыя органы як у цэнтры, так і на месцах.

13 красавіка 1995 г. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь зацвердзіў палажэнні аб званні “Герой Беларусі”, ордэнах Айчыны I, II, III







*Рэзідэнцыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь*

ступені, Воінскай славы, Кастуся Каліноўскага, Францішка Скарыны і ордэне Маці, а таксама аб медалях “За адвагу”, “За працоўныя заслугі”, “За бездакорную службу” і медалі Францішка Скарыны. (23 мая 1996 г. пры выкананні вучэбнага палёту самалёт ваеннага лётчыка 1-га класа падпалкоўніка Уладзіміра Мікалаевіча Карвата з 61-й авіяцыйнай базы, што размешчана ў Баранавічах, з-за ўзнікшага пажару стаў губляць кіруемасць. У час атрымання каманды на катапультаванне самалёт знаходзіўся над населенымі пунктамі Арабаўшчына і Вялікае Гацішча. Цаной уласнага жыцця У.М.Карват адвёў самалёт у бок ад вёскі і выратаваў тым самым жыцці многіх людзей. Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 21 лістапада 1996 г. за мужнасць і гераізм, праяўленыя пры выкананні воінскага абавязку, падпалкоўніку Карвату Уладзіміру Мікалаевічу было прысвоена званне “Герой Беларусі” (пасмяротна). Уладзімір Мікалаевіч Карват з'яўляецца першым грамадзянінам, які ўдастоены самай высокай узнагароды Рэспублікі Беларусь.)

У мэтах вырашэння некаторых спрэчных пытанняў, якія ставіла палітычная апазіцыя і якія мелі прынцыповае значэнне для забеспячэння згоды ў грамадстве, па ініцыятыве прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і ў адпаведнасці з яго перадвыбарнай платформай 14 мая 1995 г. быў праведзены рэспубліканскі рэферэндум, у якім прынялі ўдзел 64,8 % грамадзян, што мелі права ўдзельнічаць. За адабрэнне пытання “Ці згодны Вы з наданнем рускай мове роўнага статусу з беларускай?” прагаласавалі 83,3 % прыняўшых удзел у галасаванні; “Ці




*Дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь. З 1995 г.*

падтрымліваеце Вы прапанову аб устанаўленні новых Дзяржаўнага сцяга і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь?" – 75,1; "Ці падтрымліваеце Вы дзеянні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, накіраваныя на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй?"– 83,3 і за адабрэнне пытання "Ці згодны Вы з неабходнасцю ўнясення змяненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць магчымасць датэрміновага спынення паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у выпадках сістэматычнага або грубага парушэння Канстытуцыі?" прагаласавала 77,7 % прыняўшых удзел у галасаванні (Звязда. 1995. 25 мая). Беларускі народ падтрымаў прэзідэнта, яго ўнутраную і знешнюю палітыку.

На працягу 1995–1996 гг. палітычная апазіцыя, частка дэпутатаў Вярхоўнага Савета і членаў Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь намагаліся навязаць грамадству палітычны курс на безуладдзе, хаос, безадказнасць, дзікую грабежніцкую "прыхватызацыю", узбагачэнне ценявых структур і расцягванне нацыянальнага багацця па прыватных кватэрах, узмацненне канфрантацыі ў грамадстве, арыентацыю знешняй палітыкі на Захад і адказ ад саюза Беларусі з Расіяй і іншымі краінамі СНД, далейшае зніжэнне ўзроўню жыцця народа. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнка і ўрад прапанавалі палітычны курс, накіраваны на стварэнне сацыяльна арыентаванай эканомікі, развіццё дэмакратычных працэсаў, забеспячэнне палітычнай стабільнасці і згоды ў грамадстве, паглыбленне інтэграцыі з Расіяй і іншымі дзяржавамі СНД, шматвектарнасць знешняй палітыкі дзяржавы, развіццё навукі, адукацыі і культуры, павышэнне дабрабыту народа.

Ва ўмовах палітычнай канфрантацыі А.Р.Лукашэнка ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь вынес пытанні, якія вызначаюць лёс дзяржавы, на рэферэндум. Палітычная апазіцыя і некаторыя прадстаўнікі дзяржаўных структур пры падтрымцы Захаду рабілі неаднаразовыя спробы сарваць рэферэндум, не дапусціць правядзення канстытуцыйнай рэформы, адхіліць ад улады ўсенародна абранага прэзідэнта і ўрад рэспублікі, змяніць палітычны курс дзяржавы.

19–20 кастрычніка 1996 г. у Мінску адбыўся Усебеларускі народны сход, на якім з дакладам "Толькі народ мае права рашаць свой лёс"





выступіў А.Р. Лукашэнка. Дэлегаты схода, якія прадстаўлялі народ Беларусі, адобрылі ўнутраную і знешнюю палітыку, што праводзіла кіраўніцтва дзяржавы.



*У. М. Карват*

Ініцыіраваны прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкам рэспубліканскі рэферэндум адбыўся 24 лістапада 1996 г. З 7,4 млн чалавек, якія мелі права ўдзельнічаць у рэферэндуме, у галасаванні прынялі ўдзел каля 6,2 млн чалавек, ці 84,14 %. За прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. са змяненнямі і дапаўненнямі (новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), прапанаванымі прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкам, прагаласавалі каля 5,2 млн чалавек, ці 70,45 % грамадзян, унесеных у спісы для галасавання, у той час як за прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. са змяненнямі і дапаўненнямі, прапанаванымі дэпутатамі фракцый камуністаў і аграрыяў, прагаласавалі толькі 582 тыс. чалавек, ці 7,93 %.

На рэспубліканскім рэферэндуме была падтрымана прапанова А.Р. Лукашэнкі аб перанясенні Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дня рэспублікі) з 27 ліпеня на 3 ліпеня – дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у Вялікай Айчыннай вайне ("за" прагаласавалі амаль 5,5 млн чалавек, ці 88,18 % грамадзян, што прынялі ўдзел у галасаванні). Народ Беларусі выказаўся супраць свабоднай, без абмежаванняў куплі і продажу зямлі (5,2 млн чалавек, ці 82,88 %), супраць адмены смяротнай кары ў Рэспубліцы Беларусь (каля 5 млн чалавек, ці 80,44 %). Палітычная апазіцыя пацярпела сакрушальнае паражэнне.

У адпаведнасці з новай рэдакцыяй Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь замест аднапалатнага Вярхоўнага Савета з 260 дэпутатамі быў сфарміраваны двухпалатны парламент – Нацыянальны сход, які складаецца з Палаты прадстаўнікоў (110 дэпутатаў, выбіраемых народам) і Савета Рэспублікі (па 8 чалавек выбіраюцца ад кожнай вобласці і г. Мінска і 8 чалавек прызначаюцца прэзідэнтам). Прэзідэнт з'яўляецца кіраўніком дзяржавы, гарантам Канстытуцыі, правоў і свабод чалавека і грамадзяніна. Кіраўніком выканаўчай улады з'яўляецца прэм'ер-міністр урада, пашыраны правы і паўнамоцтвы Савета Міністраў, зменены

парадак прызначэння асоб на некаторыя дзяржаўныя пасады і вызвалення гэтых асоб ад пасад у адпаведнасці з канстытуцыяй і заканадаўствам. Пашыраны правы грамадзян, ажыццяўляюцца працэсы далейшай дэмакратызацыі беларускага грамадства. Беларускі народ і яго кіраўніцтва з'яўляюцца рашаючай сілай у палітычнай, эканамічнай і духоўнай сферах жыцця грамадства.

## § 3. Утварэнне і дзейнасць палітычных партый і грамадска-палітычных рухаў. Фарміраванне шматпартыйнай сістэмы

Ва ўмовах пашырэння дэмакратыі і галоснасці адбывалася ўтварэнне палітычных партый і грамадска-палітычных рухаў.

Па становішчу на 10 сакавіка 1993 г. у Рэспубліцы Беларусь дзейнічалі 11 палітычных партый і 6 грамадскіх рухаў. Усяго ж грамадскіх арганізацый, аб'яднанняў і рухаў у рэспубліцы налічвалася больш за 500, сярод іх 4 зямляцтвы, 8 маладзёжных арганізацый, больш за 20 аздараўленчых, каля 90 фізкультурна-спартыўных, амаль 50 дабрачынных і грамадскіх фондаў, каля 60 навукова-тэхнічных аб'яднанняў, больш за 10 арганізацый па ахове помнікаў культуры, гісторыі і г. д.

Першай сярод палітычных партый, зарэгістраваных Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь 19 сакавіка 1991 г., была *Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі (АДПБ)*. Яна створана ў выніку аб'яднання Дэмакратычнай партыі Беларусі, дэмакратычнай платформы ў КПСС, Радыкальна-дэмакратычнай і Ліберальна-дэмакратычнай партыі. Устаноўчы з'езд АДПБ адбыўся ў верасні 1990 г. Пры сваім нараджэнні партыя заявіла аб сабе як аб арганізацыі агульнадэмакратычнай накіраванасці, якая стаіць на пазіцыях лібералізму з яго свабодай чалавека, прыватнай уласнасцю і традыцыйнымі сямейнымі каштоўнасцямі. Інтарэсы сацыяльна-класавых і нацыянальных груп, а таксама дзяржавы, на думку аб'яднаных дэмакратаў, павінны стаяць па сваёй значнасці ніжэй правоў і свабод чалавека. Разам з тым у дэкларацыі праграмных мэт і прынцыпаў АДПБ, прынятай на II з'ездзе ў лістападзе 1991 г., адзначаецца, што неабмежаваная дэмакратыя можа быць такой жа дэспатычнай, як і дыктатура дзяржавы. Таму партыя выступае за тое, каб закон абараняў не толькі грамадзян ад дзяржавы, але і дзяржаўную ўладу ад ахлакратыі — улады натоўпу. Яна лічыць натуральным існаванне і развіццё як беларускамоўнай, так і рускамоўнай беларускай культуры, а таксама культур нацыянальных меншасцей Беларусі.





Аднак на III з'ездзе АДПБ у снежні 1992 г. вызначыўся адыход ад агульнадэмакратычнай платформы і пераход на пазіцыі правага буржуазнага радыкалізму. З'езд заявіў аб намеры пабудаваць у рэспубліцы капіталістычную рыначную эканоміку, усталяваць прыватную ўласнасць, шырока прыцягваць іншаземны капітал, замяніць Саветы сістэмай мясцовага муніцыпальнага самакіравання па заходніх мерках. Партыя рашуча адмовілася ад сацыял-дэмакратычнай мадэлі ў эканоміцы, якая дапускае вяршэнства дзяржаўнага сектара. У выніку аб'яднання АДПБ з Грамадзянскай партыяй была ўтворана Аб'яднаная грамадзянская партыя.

11 красавіка 1991 г. была зарэгістравана *Беларуская сялянская партыя (БСП)*. I з'езд яе адбыўся 23 лютага 1991 г. У праграмнай заяве падкрэсліваецца, што БСП — палітычная арганізацыя парламенцкага тыпу, яна не прымае манаполію любой партыі на ўладу і ўступае ў барацьбу як апазіцыйная сіла. Партыя кіруецца філасофіяй цэнтрызму з яе прызнаннем чалавека вышэйшай каштоўнасцю грамадства, адмаўляе нацыяналізм і стаіць на пазіцыях разумнага кампрамісу. Сваім гістарычным папярэднікам БСП лічыць партыю беларускіх эсэраў.

Першачарговая задача партыі — правядзенне зямельнай рэформы, сутнасць якой зводзіцца да адраджэння сялянства шляхам вяртання яму права ўласнасці на зямлю і іншыя сродкі вытворчасці, права выбару форм гаспадарання і распараджэння прадуктамі сваёй працы. На думку большасці ўдзельнікаў II з'езда БСП (люты 1992 г.), уласнасць на зямлю павінна быць альбо прыватнай, альбо дзяржаўнай, але ні ў якім разе не калектыўнай, а зямельную рэформу трэба праводзіць у двух асноўных напрамках: стварэння фермерскіх гаспадарак і пераўтварэння калгасаў і саўгасаў у асацыяцыі, акцыянерныя таварыствы, народныя прадпрыемствы. Адным словам, палітычная лінія БСП яскрава накіравана на разбурэнне сацыялістычных форм гаспадарання ў вёсцы — калгасаў і саўгасаў і на капіталізацыю (фермерызацыю) сельскай гаспадаркі Беларусі.

22 мая 1991 г. была зарэгістравана *Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада (БСДГ)*, якая лічыць сябе часткай міжнароднага сацыял-дэмакратычнага руху і засноўваецца на традыцыях беларускай сацыял-дэмакратыі пачатку XX ст.: Беларускай сацыялістычнай грамады, Беларускай народнай грамады і Беларускай сялянска-рабочай грамады. Устаноўчы з'езд БСДГ адбыўся ў сакавіку 1991 г. Ён прыняў праграму і статут партыі, выбраў Цэнтральную раду, старшыню партыі і яго намеснікаў. Друкаваным органам БСДГ стала газета "Грамада".

Ідэя стварэння БСДГ належала некаторым дзеячам Беларускага народнага фронту. Чаму гэтыя дзеячы БНФ, па сутнасці, сталі на шлях расколу, аслаблення свайго руху? Ёсць тры версіі. Першая з іх звязана з серыяй няўдалых спроб стварыць сацыял-дэмакратычную партыю Беларусі (СДПБ). Яшчэ ў снежні 1989 г. у самавыдавецкім

51. Зак. 5565

выпуску “Альтэрнатыва” было аб’яўлена аб стварэнні аргкамітэта па арганізацыі СДПБ. На аснове дакументаў Сацінтэрна быў падрыхтаваны праект праграмы партыі, які, згодна з паведамленнем радыёстанцыі “Свабода”, апублікаваны ў самавыдавецкай брашуры “Шлях у Еўропу”. Аднак склікаць устаноўчы з’езд не ўдалося, і справа стварэння партыі заглохла. Другая версія гаворыць аб тым, што дзеячаў, якія ўтварылі БСДГ, не задавальнялі крайні радыкалізм, антысаветызм і антыкамунізм З.Пазняка і яго акружэння. У знак нязгоды яны і ўтварылі БСДГ. І трэцяя версія: утварэнне БСДГ – тактычны ход, палітычны манеўр, спроба звесці ў зман народ, прыцягнуць яго на свой бок з тым, каб ён прагаласаваў за апазіцыю на выбарах ці рэферэндуме, бо прынцыповай розніцы паміж БНФ і БСДГ няма. Кожная з версій заслугоўвае ўвагі.

Асноўнай мэтай дзейнасці Грамады з’яўлялася пабудова сацыяльна-эканамічнай сістэмы, якая забяспечыць кожнаму чалавеку ажыццяўленне прынцыпаў свабоды, роўнасці, салідарнасці, дэмакратыі, прыярытэту права. Для дасягнення сваіх мэт БСДГ дзейнічала дэмакратычным шляхам, цывілізаванымі метадамі, адмаўляючы прымушэнне і насілле, і выступала за паляпшэнне жыцця грамадства шляхам рэформ. Грамада выступала за рыначную эканоміку, але лічыла неабходным дзяржаўнае рэгуляванне ў такіх сферах, як занятасць насельніцтва, адукацыя, ахова навакольнага асяроддзя, здароўе, абарона, дыпламатыя, юстыцыя, тэлебачанне і радыё, фундаментальная навука.

У выніку аб’яднання Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады і Партыі народнай згоды ўтварылася Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (народная грамада). У сацыял-дэмакратычны блок разам з прадстаўнікамі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі ўваходзяць прадстаўнікі Партыі ўсебеларускага адзінства і згоды і Беларускай партыі працы.

У чэрвені 1991 г. Міністэрства юстыцыі рэспублікі зарэгістравала *Нацыянальна-дэмакратычную партыю Беларусі (НДПБ).* Устаноўчая канферэнцыя адбылася ў чэрвені 1990 г. НДПБ лічыць, што палітычных папярэднікаў у яе няма. Членам партыі можа быць любы грамадзянін Беларусі, які валодае беларускай мовай і ўсведамляе сябе беларусам. Вышэйшым органам партыі з’яўляецца кангрэс (канферэнцыя), а ў перыяд паміж кангрэсамі – каардынацыйная рада і ўправа.

Стварэнне партыі, як адзначана ў “Асноўных праграмных прынцыпах НДПБ”, прадыктавана інтарэсамі адраджэння гістарычнай памяці, мовы і культуры, нацыянальнай самасвядомасці, сцвярджэння суверэннага права беларусаў самім вырашаць свой лёс. НДПБ лічыць, што беларуская нацыя можа быць выратавана ад знікнення пры наяўнасці наступных умоў: незалежнасці Беларусі, свабоды асобы і грамадства, нацыянальнага адраджэння. Галоўны напрамак дасягнення незалежнасці – развіццё прадпрымальніцкай дзейнасці, прыватызацыя дзяржаўнай маёмасці і зямлі. Беларуская мова павінна быць заканадаўча замацавана ў якасці рабочай мовы і мовы міжнацыянальных зносін у Беларусі. НДПБ выступае з ініцыятывай правядзення міжнароднага суда па фактах бальшавіцкіх злачынстваў супраць чалавецтва. У верасні 1993 г. партыя раскалолася на радыкальнае і ўмеранае крыло.

У чэрвені 1991 г. адбылася ўстаноўчая канферэнцыя *Беларускага хрысціянска-дэмакратычнага саюза (БХДС),* а ў снежні было атрымана пасведчанне аб рэгістрацыі партыі. БХДС выступае як прадаўжальнік спраў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, якая дзейнічала ў 1917–1940 гг. У саюз прымаюцца толькі тыя, хто падзяляе маральна-этычныя запаведзі Хрыста. Выхад з крызісу БХДС бачыць у адраджэнні таго светапогляду, які закладзены ў бессмяротнай кнізе Божай – Евангеллі Госпада Ісуса Хрыста. Для рэалізацыі палітычных мэт БХДС увайшоў у блок з нацыянальна-дэмакратычнай і сялянскай партыямі.

Структура БХДС двухступеньчатая: цэнтр – сябрына. Паводле праграмных дакументаў партыі, эканоміка павінна грунтавацца на прыватнай уласнасці і хрысціянскай маралі, на асабістай ініцыятыве і сумленных адносінах да вынікаў працы. БХДС лічыць сябе не свецкай партыяй, а свецкім працягам царквы. Кіруючыя органы – рэспубліканская канферэнцыя, каардынацыйная рада, управа і рэвізійная камісія. Пасяджэннямі рады і ўправы кіруе старшыня партыі ці адзін з сустаршынь, які прадстаўляе тую ці іншую рэлігійную канфесію: праваслаўных, грэка-католікаў (уніятаў), пратэстантаў ці рыма-католікаў. У пачатку 1992 г. у БХДС было каля 150 членаў партыі. Хрысціянскія дэмакраты выдаюць штомесячную газету “Беларуская крыніца”.

Хрысціянска-дэмакратычныя партыі Арменіі, Беларусі, Грузіі і Расіі ўтварылі Хрысціянска-дэмакратычны саюз Усходняй Еўропы (ХДС УЕ) са штаб-кватэрай у Санкт-Пецярбургу. ХДС УЕ з’яўляецца часткай Інтэрнацыянальнай хрысціянскай дэмакратыі са штаб-кватэрай у Бруселі (Бельгія).

18 снежня 1993 г. адбылася канферэнцыя БХДС, на якой была прынята перадвыбарная платформа партыі. На канферэнцыі БХДС раскалоўся на дзве часткі – ад партыі адышла фракцыя уніятаў.

26 мая 1992 г. пасля доўгай цяжбы з Міністэрствам юстыцыі па рашэнні Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь была зарэгістравана *Партыя камуністаў Беларусі (ПКБ).* Яна лічыць сябе правапераемніцай КПБ, дзейнасць якой у жніўні 1991 г. была часова прыпынена, але адмяжоўваецца ад аджыўшых прынцыпаў, структур, стылю і метадаў работы, а таксама ад многіх службовых асоб КПСС і КПБ, якія, на думку лідэраў ПКБ, ніколі не былі камуністамі, а толькі разлагалі партыю знутры. Устаноўчы з’езд ПКБ адбыўся 7 снежня 1991 г.

Партыя камуністаў Беларусі аб’ядноўвае прыхільнікаў сацыялістычнай перспектывы развіцця грамадства, поўнага вызвалення работнікаў

наёмнай працы ад эксплуатацыі, пабудовы бяскласавага грамадства сацыяльнай справядлівасці. Асноўная мэта ПКБ – заваяванне палітычнай улады для працоўных. Партыя выступае за моцную ролю дзяржавы і моцны дзяржаўны сектар, падтрымку развіцця вытворчасці, за тое, каб уласнасцю валодалі тыя, хто працуе, каб зямля і яе нетры былі агульнанародным багаццем, не ператвараліся ў прадмет куплі-продажу. ПКБ – партыя дзяржаўнага патрыятызму і сацыяльнай справядлівасці.

XXXII з'езд КПБ адбыўся пасля адмены Вярхоўным Саветам Беларусі сваёй пастановы "Аб часовым прыпыненні дзейнасці КПСС – КПБ на тэрыторыі Беларускай ССР" (ад 25 жніўня 1991 г.) і прыняў рашэнне аб аб'яднанні з Партыяй камуністаў Беларусі. Завяршыў аб'яднанне камуністаў у адну партыю II з'езд ПКБ у маі 1993 г. Былі прыняты праграма і статут, выбрана бюро ПКБ. Ніводны лідэр КПБ у кіраўніцтва не ўвайшоў.

13 чэрвеня 1992 г. у Доме культуры калгаса імя Гастэлы адбыўся ўстаноўчы з'езд *Аб'яднанай аграрна-дэмакратычнай партыі Беларусі (ААДПБ)*. Калгасная вёска, аграрнікі, на думку дэлегатаў з'езда, па сутнасці, не мелі палітычнага абаронцы, а існаваўшыя ў рэспубліцы Савет калгасаў, Саюз аграрнікаў, Сялянская партыя і Сялянскі саюз дзейнічалі разрознена, мелі розныя мэты. Абараняць інтарэсы, правы і свабоды аграрнікаў і заклікана была новая партыя. Яе сацыяльная база – галоўным чынам старшынска-дырэктарскі корпус сельскагаспадарчай вытворчасці, які выступае за калектыўнае гаспадаранне.

15 ліпеня 1992 г. у Міністэрстве юстыцыі прадстаўнікам ААДПБ было ўручана пасведчанне аб рэгістрацыі партыі. У ліку галоўных задач партыі – курс на рэфарміраванне грамадскай сістэмы на прынцыпах дэмакратычнага сацыялізму, павышэнне жыццёвага ўзроўню ўсіх жыхароў рэспублікі, прыняцце дзяржаўнай праграмы перабудовы беларускай вёскі. Партыя выступае за прызнанне прыватнай уласнасці на зямлю па формуле: "Зямля павінна належаць толькі тым, хто хоча і можа яе апрацоўваць".

У студзені 1994 г. адбыўся II з'езд ААДПБ, які даў ёй новую назву – Аграрная партыя Беларусі (АПБ). З'езд пацвердзіў арыентацыю на сацыялістычны шлях развіцця.

*Славянскі сабор "Белая Русь"* – палітычная партыя, створаная на ўстаноўчым з'ездзе 6 чэрвеня 1992 г. і зарэгістраваная 4 верасня 1992 г. Яна змагаецца за адраджэнне славянскай духоўнасці, абарону славянскіх інтарэсаў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, развіццё ў самасвядомасці славянскіх народаў пачуцця належнасці да аднаго славянскага этнасу, стварэнне канстытуцыйным шляхам прававога ладу, заснаванага на саборнасці, народаўладдзі, самакіраванні.

Славянскі сабор "Белая Русь" выступае супраць русафобскіх поглядаў некаторых беларусаў, за аднаўленне СССР на канфедэратыўнай аснове, за цесныя сувязі з дзяржавамі СНД, і перш за ўсё з Расіяй, бо, на яго думку, інтэграцыя Беларусі ў эканоміку Захаду





створыць рэальную перспектыву страты рэспублікай сваёй незалежнасці. Каб процістаяць устанаўленню "новага сусветнага парадку", сабор раіў не выводзіць ядзерную зброю з тэрыторыі Беларусі і Украіны. Ён крытыкаваў рашэнне ААН і НАТА аб прымяненні бамбардзіровак сербаў у Босніі і Герцагавіне.

I з'езд партыі адбыўся ў снежні 1993 г. На ім была прынята праграма Славянскага сабору, рашэнне аб утварэнні маладзёжнай арганізацыі, зацверджаны сцяг (чорна-залаты і белы) і герб (трызубец у васьміканцовай зорцы).

Ад Славянскага сабору "Белая Русь" – палітычнай партыі – трэба адрозніваць Усебеларускі славянскі сабор – грамадскі рух з правам заканадаўчай ініцыятывы, удзелу ў стварэнні органаў улады і кіравання, уключэння ў свой склад калектыўных членаў – палітычных партый, гаспадарчых арганізацый, працоўных калектываў і г. д. Славянскі сабор "Белая Русь" і Усебеларускі славянскі сабор з'яўляюцца калектыўнымі членамі Міжнароднага грамадскага аб'яднання (МГА) "Славянскі сабор", у склад якога ўваходзяць больш за 140 арганізацый з Балгарыі, Сербіі, Чарнагорыі, Славакіі, Польшчы, былых рэспублік СССР і г.д.

*Беларускі навукова-вытворчы кангрэс (БНВК)* – палітычная партыя парламенцкага тыпу, утворана на ўстаноўчым з'ездзе 2 кастрычніка 1992 г., зарэгістравана 22 кастрычніка 1992 г. БНВК лічыць вышэйшай каштоўнасцю грамадства свабоднага чалавека, прафесіянала, які ўмее і жадае добра працаваць на сябе і грамадства. Яе лозунг – "Свабодны чалавек – у свабодным грамадстве". Партыя выступае за прафесіяналізм, нацыянальную згоду, палітычную раўнавагу, рэгулюемую дзяржавай эканоміку разумнага сэнсу, нармальнае жыццё кожнага чалавека. Лідэры БНВК актыўна падтрымліваюць аднаўленне эканамічных сувязей, якія былі парушаны з ліквідацыяй СССР.

*Партыя зялёных Беларусі (ПЗБ)* – парламенцкая партыя, створана 30 снежня 1992 г. і зарэгістравана 1 лютага 1993 г. Яна заклікана вырашаць экалагічныя праблемы палітычнымі метадамі і забяспечваць грамадзянам Беларусі права на здаровае асяроддзе жыцця. Штабкватэра партыі знаходзіцца ў Гомелі.

*Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці (РППС)* створана 26 чэрвеня 1993 г., зарэгістравана 18 жніўня таго ж года. Партыя выступае за пабудову грамадства роўных магчымасцей і высокай сацыяльнай абароненасці, захаванне сістэмы бясплатнай адукацыі і медыцынскага абслугоўвання, увядзенне 6-гадзіннага рабочага дня для жанчын. Яна змагаецца за эканоміку змешанага тыпу, прыватызацыю дзяржаўнай уласнасці пад кантролем і з удзелам працоўных калектываў, ветэранаў вайны і працы, за прыватызацыю знізу, а не пад кантролем чыноўнікаў, за роўнасць усіх перад законам не на словах, а на справе, за навуковае кіраўніцтва працэсам пераходу грамадства да рынчнай эканомікі, за выбары парламента Беларусі

52. Зак. 5565

па змешанай мажарытарна-прапарцыянальнай сістэме ў суадносінах 50 на 50. РППС выступае супраць БНФ, па шэрагу пазіцый разыходзіцца з камуністамі.

Усяго ў 1997 г. у Рэспубліцы Беларусь дзейнічала больш за 30 палітычных партый.

Разам з палітычнымі партыямі ствараюцца і дзейнічаюць грамадска-палітычныя рухі Беларусі. Ад партый яны адрозніваюцца больш рыхлай арганізацыйнай структурай, адсутнасцю строга фіксаванага членства, яскравай іерархічнасці. У рухах могуць удзельнічаць не толькі аднадумцы, а людзі процілеглых поглядаў. Разам з грамадскімі і гаспадарчымі арганізацыямі, аб'яднаннямі, працоўнымі калектывамі палітычныя партыі могуць уваходзіць у склад грамадска-палітычных рухаў у якасці калектыўных членаў.

Адным з даволі шматаблічных і ўплывовых грамадска-палітычных рухаў з'яўляецца *Беларускі народны фронт "Адраджэнне"* (зарэгістраваны 19 чэрвеня 1991 г.). У яго шэрагах прыкладна 15 тыс. чалавек. У маі 1993 г. на III з'ездзе БНФ былі ўнесены змены ў праграму і статут фронту, для ўдзелу ў выбарах створана партыя Беларускага народнага фронту (БНФ) (зарэгістравана 19 жніўня 1993 г.), якая поўнасцю падзяляе праграму, мэты і задачы БНФ "Адраджэнне".

БНФ – моцна ідэалагізаваны і палітызаваны рух, які беларускую нацыянальную ідэю, ідэю суверэннай Беларусі, капіталістычнага прадпрымальніцтва, свабоды межаў, ідэй і людзей лічыць асновай сваёй дзейнасці. Лідэры фронту выступаюць з пазіцыі ваяўнічага антысаветызму і антыкамунізму, нянавісці да ўсяго савецкага, да савецкай гісторыі. Большасць насельніцтва не падзяляе крайне правых, экстрэмісцкіх поглядаў лідэраў фронту.

*Рух за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць (РДСПС)* – грамадска-палітычная арганізацыя працоўных Рэспублікі Беларусь сацыялістычнага накірунку. Рух быў зарэгістраваны 7 лютага 1992 г. На ўстаноўчай канферэнцыі 2 лістапада 1991 г. адбылося прыняцце праграмнай заявы і статута РДСПС. Партыя камуністаў ўваходзіць у яго склад на правах калектыўнага члена. Асноўныя мэты РДСПС – адраджэнне Саветаў як органаў сапраўднай улады працоўных, выбранне дэпутатаў па вытворчых і тэрытарыяльных акругах, развіццё самастойнасці Рэспублікі Беларусь у адноўленым Саюзе, выхаванне ў моладзі павагі да гісторыі Беларусі, пачуцця патрыятызму, дасягненне грамадзянскай згоды і палітычнай стабільнасці. РДСПС абараняе прыярытэт калектыўнай і дзяржаўнай форм уласнасці, прызнае рашэнне пытанняў раздзяржаўлення толькі пры згодзе працоўнага калектыву, выступае за перадачу зямлі тым, хто хоча і можа яе апрацоўваць, у вечнае карыстанне і з правам наследавання, рэалізацыю правоў грамадзян на працу, бясплатную адукацыю, медыцынскую дапамогу, забяспечаную старасць і г.д. Мэты РДСПС маюць яскрава выражаную гуманістычную накіраванасць, утрымліваюць веру ў магчымасць пабудовы грамадства, справядлівага для працоўных.





У 1990 г. было створана *Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"* з мэтай адраджэння беларускіх традыцый, мовы, культуры, абрадаў, усяго, што працуе на станаўленне нацыянальнай свядомасці як жыхароў Беларусі, так і дыяспары. Згуртаванне наладжвае разнастайныя кантакты і супрацоўніцтва з беларусамі замежжа, усталёўвае сувязі з дзелавымі і культурнымі коламі замежных краін, якія згодны дапамагчы нам у нялёгкі час. У снежні 1992 г. яно правяло з'езд беларусаў блізкага замежжа, а ўлетку 1993 г.– з'езд беларусаў свету. Апошні з'езд некаторыя левыя газеты назвалі "эмігранцкім з'ездам з карычневай афарбоўкай" (Правда. 1993. 9 июля). 26–27 ліпеня 1997 г. у Мінску адбыўся II з'езд беларусаў свету. У ім прынялі ўдзел больш за 500 чалавек, у тым ліку каля 160 гасцей з-за мяжы.

*Народна-патрыятычны рух "Айчына" (НПР "Айчына")* створаны на ўстаноўчым з'ездзе 23 мая 1992 г. для развіцця і ўмацавання патрыятычных, рэвалюцыйных, баявых, працоўных, нацыянальных і інтэрнацыянальных традыцый народа Беларусі, а таксама для ваенна-патрыятычнага, інтэрнацыянальнага, працоўнага і маральнага выхавання моладзі, прапаганды свяшчэннага абавязку па абароне Радзімы. Штаб-кватэра руху знаходзіцца ў Гомелі.

*Жаночы хрысціянска-дэмакратычны рух Беларусі (ЖХДРБ)* утвораны на ўстаноўчай канферэнцыі 12 верасня 1992 г. і заснаваны на агульначалавечых каштоўнасцях і ідэалах хрысціянскай дэмакратыі. Рух прызнае выхаванне жанчынамі дзяцей раўназначнай вытворчай дзейнасці, стараецца стварыць сістэмы палітычнай, прававой і эканамічнай адукацыі жанчын, сацыяльна-прававой абароны жанчыны, сям'і і дзіцяці, службы юрыдычнай дапамогі.

Мноства створаных палітычных партый, арганізацый і рухаў сведчаць аб спектры поглядаў, якія існуюць у беларускім грамадстве. Разам з тым нязздзейсненыя абяцанні, дадзеныя народу, нерэалізаваныя праграмы і праекты, здрада былых кіраўнікоў КПСС у цэнтры і на месцах, а таксама народных дэпутатаў розных узроўняў выклікалі недавер да дзейнасці любых палітычных арганізацый. Большасць палітычных партый і грамадска-палітычных рухаў Беларусі малалікія, з імі мала хто звязвае свае надзеі. Яны дзеляць грамадства на часткі, проціпастаўляюць сябе той частцы народа, якая не пайшла за імі.

Ні адно грамадска-палітычнае згуртаванне не мае яснай канцэпцыі палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і духоўнага развіцця. Нягледзячы на тое, што ўсе яны выступаюць за пераход да рынку, за дэмакратыю і прававую дзяржаву, суверэнітэт Беларусі і г.д., аднак у іх праграмах адсутнічае механізм такога пераходу. Усе ведаюць, што трэба рабіць, але амаль ніхто не ведае, як гэта рабіць. Ды і прапановы, якія маюцца ў арсеналах партый і рухаў, патрабуюць аналізу, каб вызначыць іх прыгоднасць з пункту гледжання гістарычнага вопыту. Напрыклад, стварэнне ўрада народнага даверу, кааліцыі палітычных сіл магчыма толькі на перыяд знішчэння старога ладу і утапічна на

этапе кіравання краінай, калі розныя думкі і падыходы прыводзяць да хаосу, разарэння ўсёй сістэмы. Аб гэтым сведчыць вопыт Расіі сакавіка – кастрычніка 1917 г., дзейнасці Часовага буржуазнага ўрада, а таксама вопыт перабудовы, суверэнізацыі і капіталізацыі краін СНД.

Партыі і рухі маюць вузкую сацыяльную базу. Яны, як правіла, абапіраюцца на частку інтэлігенцыі, студэнтаў і навучэнцаў, іх слаба падтрымліваюць рабочыя і сяляне. Гэта тлумачыцца тым, што погляды многіх сучасных палітыкаў разыходзяцца з інтарэсамі і палітычным вопытам шырокіх колаў народа, што многія сённяшнія палітыкі ўжо не адзін раз увялі ў зман, здрадзілі людзям. Сучасным партыям і рухам не хапае арганізаванасці, здольнасці мяняць сваю тактыку ў новых умовах і г.д. Працэс фарміравання шматпартыйнай палітычнай сістэмы беларускага грамадства працягваецца.

# ГЛАВА 2

# ПРАБЛЕМЫ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАГА РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСІ ВА ЎМОВАХ ПРАВЯДЗЕННЯ РЫНАЧНЫХ РЭФОРМ

## § 1. Асноўныя этапы правядзення рынкавых рэформ

Навуковай тэорыі рынку, адзінага агульнапрынятага яго вызначэння ў літаратуры не існуе. Разглядаюцца найпрасцейшыя з'явы рыначнай эканомікі: роўнасць попыту і прапановы, залішняга попыту і недастатковай прапановы і г.д. Мала хто разумее, што нецывілізаваны, грабежніцкі, гангстэрска-мафіёзны рынак – гэта хаос і выпадковасць, вялікі базар, дзе ўсё прадаецца і купляецца (ў гэтым сэнсе рынак заўсёды існаваў). Іншая справа – цывілізаваны, рэгуляваны дзяржавай, сацыяльна арыентаваны рынак. Каб такі рынак усталяваць, дзяржава і манаполіі павінны быць багатымі, мець вялікія таварныя запасы і грошы, што бывае рэдка. Не выпадкова, што найбольш пацярпеўшыя ў другой сусветнай вайне краіны Заходняй Еўропы і Японія для аднаўлення сваіх эканомік ажыццяўлялі цэнтралізаваныя праграмы і толькі пасля дасягнення раўнавагі (залішні попыт нулявы) пераходзілі да ўвядзення рыначных механізмаў.

Рынак павінен быць рэгулятарам і стымулятарам вытворчасці і спажывання, сродкам дасягнення грамадскіх мэт – умацавання магутнасці Айчыны, павышэння ўзроўню жыцця народа. Ёсць іншая, палітыка-эканамічная матывацыя: рынак – сродак капіталізацыі эканомікі, стварэння буржуазіі, аднаўлення капіталізму ў краіне.





Першы падыход да рынку можна лічыць агульнацывілізаваным, другі – класавым. Яны з'яўляюцца асялком для сапраўднага разумення і прызнання рыначнай эканомікі, тут праходзіць водападзел паміж яе прыхільнікамі і праціўнікамі. Супраць агульнацывілізаванага разумення рынку ніхто не выступае, барацьба ідзе вакол капіталізацыі эканомікі і грамадства ў цэлым.

Рынак узнікае як вынік высокай цывілізаванасці, культуры, прадукцыйнасці працы, а не як іх перадумова. Вось чаму краінам Захаду спатрэбіліся стагоддзі, каб сфарміраваць сістэму больш ці менш цывілізаваных рыначных адносін на капіталістычнай аснове, вырасціць сучаснага прадпрымальніка, забяспечыць сацыяльную стабільнасць. Большасць краін Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі, якія адсталі ў сваім развіцці і якія дзейнічаюць ва ўмовах капіталістычнага рынку, так і жывуць у беднасці пры наяўнасці сацыяльных катаклізмаў.

Састаўной часткай палітыкі перабудовы, якая праводзілася ў 1985–1991 гг., з'яўлялася эканамічная рэформа. У ходзе яе ажыццяўлення значна пашырылася самастойнасць прадпрыемстваў і аб'яднанняў у выніку іх пераходу на поўны гаспадарчы разлік і самафінансаванне, павысілася роля працоўных калектываў, развівалася самакіраванне, укараняліся прагрэсіўныя формы арганізацыі працы (арэндныя калектывы, гаспадарчаразліковыя брыгады і г.д.). Была зроблена спроба ўнесці ў сістэму планавання змены: на важнейшыя віды прадукцыі дзяржава давала вытворцам заказ, а ўсё астатняе прадугледжвалася планаваць самастойна прадпрыемствам і мясцовым органам улады. Зроблены першыя і не заўсёды ўдалыя крокі па дэмантажу адміністрацыйна-каманднай сістэмы.

Разам з тым у гады перабудовы кіраўніцтва СССР і саюзных рэспублік, паспешліва дэманціруючы адміністрацыйна-камандныя структуры кіравання, не заўсёды стварала новыя структуры кіравання эканамічнымі метадамі. На практыцы гэта прыводзіла да безуладдзя ці многаўладдзя ва ўмовах "параду суверэнітэтаў". Узнікалі вельмі небяспечныя для дзяржавы і народа арганізаваная мафіёзнасць, злачыннасць, сепаратызм і нацыяналізм. Пад выглядам увядзення рынку пачалося раскраданне агульнанароднага багацця. Органы ўлады праяўлялі маруднасць і нерашучасць. Яны згубілі кантроль над фінансавай сітуацыяй у краіне. Цяжкасці ў развіцці эканомікі нарасталі.

У 1988–1990 гг. у СССР распрацоўваліся канцэпцыя і праграма стабілізацыі гаспадаркі і пераходу да рыначнай эканомікі, заснаваныя на спалучэнні плана і рынку, – важнейшых дасягненняў сусветнай цывілізацыі ў сферы эканомікі. Вынікам работы з'явіліся "Асноўныя напрамкі па стабілізацыі народнай гаспадаркі і пераходу да рыначнай эканомікі", распрацаваныя Саветам Міністраў СССР і зацверджаныя Вярхоўным Саветам СССР. Гэта была праграма стварэння ў СССР планава-рыначнай эканомікі, плаўнага паступовага пераходу

да яе на працягу перыяду, разлічанага на цэлы шэраг гадоў. Прадугледжвалася пераход да рынку рабіць асцярожна, уносіць карэктывы з тым, каб рынак працаваў на народ вялікай краіны, рабіў жыццё людзей лепшым.

Пачатак рынычных рэформ у Беларусі звязаны з адабрэннем Вярхоўным Саветам рэспублікі ў канцы 1990 г. праграмы пераходу да рыначнай эканомікі, якая прадугледжвала шэраг надзвычайных стабілізацыйных мер, стварэнне асноўных рыначных інстытутаў, прыватызацыю, дэманапалізацыю, змену сістэмы дзяржаўнага рэгулявання эканомікі. Паэтапная лібералізацыя цэн павінна была сумяшчацца з выкарыстаннем "сацыяльных амартызатараў", якія дазволілі б не дапусціць рэзкага падзення жыццёвага ўзроўню асноўнай масы насельніцтва.

Рэалізацыя праграмы пераходу да рынку адбывалася ў сітуацыі, якая вызначалася, *па-першае*, адміністрацыйным павышэннем і вызваленнем цэн на шэраг тавараў, інфляцыяй і фінансава-грашовай разбалансаванасцю; *па-другое*, усё большай стратай рычагоў цэнтралізаванага кіравання; *па-трэцяе*, інтэнсіўным фарміраваннем уласнай дзяржаўнасці Беларусі, бурнымі дэзінтэграцыйнымі працэсамі на тэрыторыі СССР і ў той жа час захаваннем вялікай эканамічнай улады ў саюзнага ўрада.

Прыняццем законаў "Аб прадпрымальніцтве", "Аб эканамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве", "Аб прадпрыемствах" і іншых у Беларусі былі закладзены некаторыя нарматыўна-прававыя асновы рыначнай гаспадаркі, пачаты змены ў фінансава-крэдытнай сістэме. Але пры гэтым захоўваўся амаль стопрацэнтны дзяржаўны сектар у прамысловасці, цэнтралізаванае размеркаванне матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў, празмернае бюджэтнае фінансаванне капіталаўкладанняў, панаванне фіксаваных, цэнтралізавана ўстаноўленых цэн.

У 1991 г. была зацверджана Дзяржаўная праграма стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароны насельніцтва, якая разглядалася як канкрэтызацыя праграмы пераходу да рынку ў новых сацыяльна-эканамічных абставінах. Прадугледжвалася паскарэнне тэмпаў рыначных пераўтварэнняў пры адначасовым прадухіленні разбурэння эканомікі, развалу грашовага абароту, далейшага падзення жыццёвага ўзроўню насельніцтва. Прыярытэт быў аддадзены мерам дзяржаўнага рэгулявання, прадухіленню спаду вытворчасці і хаосу ў грамадстве. У пэўным сэнсе гэта задача была дасягнута.

Развалам СССР у снежні 1991 г. і спыненнем дзейнасці першага і апошняга прэзідэнта СССР М.Гарбачова завяршылася перабудова і яе састаўная частка – эканамічная рэформа. З 1 студзеня 1992 г. рыначныя рэформы ўступілі ў новую фазу. Яны сталі праводзіцца па заходніх рэцэптах, у першую чаргу па рэцэптах "шокавай тэрапіі" Міжнароднага валютнага фонду (МВФ) для слабаразвітых краін. Але Беларусь, як і Расія і Украіна, не слабаразвітая, а індустрыяльная





дзяржава з многагаліновай прамысловасцю і магутным навукова-тэхнічным патэнцыялам. Мадэль МВФ, дзе вынікам лібералізацыі цэн з'яўляецца этап банкруцтваў і беспрацоўя, дапусціма для слабаразвітых краін, у якіх рабочыя складаюць 5–10 % насельніцтва. Пры такіх маштабах нават масавыя банкруцтвы прадпрыемстваў грамадства ў цэлым не кранаюць. А калі дзяржаўны сектар складае пераважную большасць эканомікі, а рабочыя – 70 % працоўных?

Больш таго, знешнія паступленні (пазыкі, крэдыты) у некалькі мільёнаў долараў аказвалі моцнае стымулюючае ўздзеянне на эканоміку малых краін. Маштабы ж краін СНД такія, што, каб уздзейнічаць на ход спраў у эканоміцы, патрэбны дзесяткі, а для Расіі – сотні мільярдаў долараў, што не пад сілу ніякаму міжнароднаму банку. Таму надзеі на дапамогу Захаду не мелі пад сабой ніякай асновы. Гэтых абставін не ўлічвалі прыхільнікі "шокавай тэрапіі".

Правядзенне рэформ у 1992–1994 гг. дазволіла стварыць у Беларусі неабходны мінімум асноўных рыначных інстытутаў, нарматыўна-прававых дакументаў, пераўтварыць сістэму дзяржаўнага кіраўніцтва эканомікай у новую сістэму, якая ў пэўнай ступені абапіраецца на рыначныя рэгулятары. Зроблены практычныя крокі па павышэнні адкрытасці эканомікі, лібералізацыі гаспадарчых сувязей, рэфарміраванні адносін уласнасці. Паступова мяняліся сацыяльна-псіхалагічныя ўстаноўкі суб'ектаў гаспадарання, іх эканамічныя паводзіны. Дэфіцыт тавараў на ўнутраным рынку ўступіў месца дэфіцыту грошай у насельніцтва, "жалезная заслона" змянілася не менш лютай "фінансава-грашовай". Свабоднымі сталі эканамічныя сувязі з замежнымі дзяржавамі.

Разам з тым рыначныя пераўтварэнні ў Беларусі адбываліся супярэчліва, хварэлі недахопам комплекснасці. Гэта звязана з навізной і маштабнасцю задач пераходу ад планавай сацыялістычнай эканомікі да капіталістычнай эканомікі рыначнага тыпу, а таксама з інерцыйнасцю эканамічных працэсаў, немагчымасцю стварэння новага эканамічнага базісу за кароткі час метадам "шокавай тэрапіі".

Беларускі рынак цярпеў значна большыя страты, чым меў здабыткаў: разбурэнне раней існаваўшых вытворча-эканамічных сувязей і "абвальны" спад вытворчасці на 50 % і больш у параўнанні з канцом 80-х гадоў, што пагражала дзяржаве стратай сваёй незалежнасці і пераўтварэннем у калонію; раскручванне інфляцыйнай спіралі і катастрафічнае падзенне курсу беларускіх грошай, крытычнае становішча з забеспячэннем гаспадаркі энергарэсурсамі; галапіруючы рост цэн (іх лібералізацыя не прывяла да ўстанаўлення раўнавагавых цэн, што з'яўляецца асаблівасцю рынку, заснаванага на механізме свабоднай канкурэнцыі); рэзкае падзенне жыццёвага ўзроўню большасці насельніцтва, рост беспрацоўя, нарастанне іншых сацыяльных праблем.

Мадэль рыначных рэформ метадам "шокавай тэрапіі", пабудаваная па рэкамендацыях Міжнароднага валютнага фонду, пацярпела правал летам 1994 г. у час выбараў першага прэзідэнта Рэспублікі Бела-

*Асноўныя галіны прамысловасці Рэспублікі Беларусь*




УМОЎНЫЯ ЗНАКІ

- Чорная металургія, машынабудаванне і металаапрацоўка
- Нафтаперапрацоўчая, хімічная, вытворчасць мінеральных угнаенняў, хімічных валокнаў і нітак
- Лясная, дрэваапрацоўчая і цэлюлозна-папяровая
- Прамысловасць будаўнічых матэрыялаў, шкляная
- Лёгкая
- Нафтаправоды
- Газаправоды





*Беларускі металургічны завод у Жлобіне. 1986 г.*

русь. Айчынным разбуральнікам, "шокатэрапеўтам" С.Шушкевічу і В.Кебічу выбаршчыкі рэспублікі выдалі "атэстат" палітычных банкрутаў. Мандат на правядзенне новага варыянта рэформ атрымаў першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка.

29 верасня 1994 г. Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь прапанаваў Вярхоўнаму Савету праграму неадкладных мер па вываду эканомікі з крызісу, якая была распрацавана па заданні прэзідэнта рэспублікі А.Лукашэнкі. Праграму рынычных рэформ дэпутаты адобрылі. Яна ўключала аздараўленне крэдытна-грашовай сістэмы, зніжэнне ўзроўню інфляцыі да канца 1994 г. да 10–11 %, а да канца 1995 г.– да 3–4 %, спыненне падзення вытворчасці і зніжэння жыццёвага ўзроўню народа, пераход ад палітыкі датацый усім без разбору да адрасных, а ў шэрагу выпадкаў заявачных выплат.

У 1994–1995 гг. кіраўніцтва дзяржавы намагалася пераадолець крызісныя з'явы ў эканоміцы. За гэты час адбылося запавольванне тэмпаў эканамічнага спаду, паніжэнне інфляцыі, ажыўленне вытворчасці ў асобных галінах і рэгіёнах, адносная стабілізацыя курсу нацыянальнай валюты. Разам з тым назіраліся паніжэнне жыццёвага ўзроўню большай часткі насельніцтва, паглыбленне падзелу грамадства па даходах, рост скрытага беспрацоўя. Працягваўся інвестыцыйны крызіс, адбывалася зніжэнне рэнтабельнасці прадукцыі, разбурэнне навукова-тэхнічнага патэнцыялу, нарастанне ўзаемных неплацяжоў,

паніжэнне канкурэнтаздольнасці беларускіх тавараў. Выраслі адмоўнае сальда гандлёвага балансу і знешняя запазычанасць дзяржавы.

Для пераадолення крызісных з'яў і недахопаў, а таксама для вызначэння перспектыўных задач у правядзенні рыначных рэформ былі распрацаваны "Асноўныя напрамкі сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996–2000 гады". 20 кастрычніка 1996 г. удзельнікі Усебеларускага народнага схода адобрылі гэты дакумент. Галоўнымі напрамкамі рэфарміравання і развіцця эканомікі вызначаны інстытуцыянальныя пераўтварэнні, рацыянальнае спалучэнне розных форм уласнасці, стварэнне рыначнай інфраструктуры, структурная перабудова эканомікі, павышэнне яе навукова-тэхнічнага патэнцыялу.

Ва ўмовах станаўлення і развіцця рыначных адносін многія прадпрыемствы рэспублікі дабіліся некаторых станоўчых вынікаў у сваёй вытворча-эканамічнай дзейнасці. Сярод іх – вытворчыя аб'яднанні "Беларуськалій", "Азот", Беларускі металургічны завод, мінскія завод халадзільнікаў і маторны завод, гомельскія хімічны і шкляны заводы і інш. Умацоўвалі свае становішча на рынку БелАЗ, Гомсельмаш, мінскія аўтамабільны і трактарны заводы, вытворчыя аб'яднанні вылічальнай тэхнікі і "Гарызонт", віцебскае вытворчае аб'яднанне "Віцязь", станкабудаўнічыя прадпрыемствы Мінска, Віцебска і Гомеля і многія іншыя гіганты беларускай індустрыі. Працягвалася будаўніцтва другой лініі Мінскага метрапалітэна. Палепшалі сваю работу калгасы і саўгасы, а таксама фермерскія гаспадаркі.

У рэспубліцы прыпынена далейшае падзенне вытворчасці і забяспечаны некаторы рост прамысловасці і сельскай гаспадаркі, а таксама жыццёвага ўзроўню народа. Валавы ўнутраны прадукт у 1997 г. павялічыўся ў параўнанні з папярэднім годам на 10 %, аб'ём прамысловай прадукцыі – на 17,6, выпуск тавараў народнага спажывання – на 21,2. У 1997 г. было ўзведзена 3,3 млн кв. м. жылля, 55 тыс. сем'яў справілі наваселле. Колькасць беспрацоўных скарацілася на 1/3, ці на 56,3 тыс. чалавек. Рэальная сярэднямесячная заработная плата за 1997 г. павялічылася на 14,5 %, а памер сярэдняй месячнай пенсіі – на 9 %.

Такіх высокіх паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця за 1997 г. не мела ні адна з краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Гэта сведчанне таго, што палітычная стратэгія, выпрацаваная кіраўніцтвам Рэспублікі Беларусь, метады аздараўлення эканомікі і тэмпы яе рэфарміравання з'яўляюцца правільнымі.

## § 2. Фарміраванне рыначнай эканомікі: напрамкі і праблемы

Стварэнне рыначнай эканомікі звязана з *прыватызацыяй дзяржаўнай маёмасці і ўсталяваннем розных форм уласнасці.*

Па пытанні месца і суадносін розных форм уласнасці існуюць дзве крайнасці: 1) прызнанне неэфектыўнасці дзяржаўнай уласнасці ва ўсіх выпадках і супрацьпастаўленне ёй прыватнай уласнасці, якая быццам бы заўсёды з'яўляецца эфектыўнай; 2) абсалютная перавага дзяржаўнай і агульнанароднай уласнасці. Гэтыя пункты погляду не ўлічваюць сусветны вопыт, ім уласцівы апрыёрнасць, радыкалізм.





У гады перабудовы "барацьбіты за рыначную эканоміку" без навуковых доказаў, абгрунтавання эканоміка-матэматычнымі разлікамі, прагназіравання сацыяльных і эканамічных вынікаў сцвярджалі, што прадпрымальніцтва і самастойнае гаспадарчае дзеянне ёсць функцыя выключна прыватнага ўласніка, што прыватная ўласнасць – важнейшы і адзіны суб'ект рынку, што толькі прыватныя прадпрыемствы садзейнічаюць выхаду краіны з крызісу. А паколькі прыватная ўласнасць мае магічную сілу, то прыватызацыя дзяржаўнай маёмасці не мае альтэрнатывы, яна з'яўляецца сінонімам пераходу ад бязрыначнай сацыялістычнай эканомікі да капіталістычнай эканомікі рыначнага тыпу. Гэта "рыначная рыторыка" галаслоўна дэкларавалася і насаджалася праз сродкі масавай інфармацыі ў грамадскую свядомасць.

Між тым гістарычны вопыт сведчыць, што зусім самастойнымі, канкурыруючымі паміж сабой могуць быць таваравытворцы (прадпрымальнікі), звязаныя з рознымі формамі ўласнасці, у тым ліку грамадскай і прыватнай. Рашаючым фактарам эканамічнага поспеху з'яўляецца не форма ўласнасці, а тое, што зроблены вытворцамі прадукт патрэбны, карыстаецца попытам на рынку, што вытворчы персанал валодае дастатковай кваліфікацыяй і матывацыяй да працы, а кіраўнікі прадпрыемства маюць службовыя арганізатарскія здольнасці, накіраваныя на дасягненне мэты. Без гэтага ні планавая сацыялістычная гаспадарка, ні рыначная капіталістычная гаспадарка не могуць вывесці эканоміку на сапраўды эфектыўны шлях. Патрэбен сінтэз усяго лепшага, што ёсць у розных формах уласнасці (дзяржаўнай, кааператыўнай, акцыянернай, дзяржаўна-капіталістычнай, прыватнай, змешанай і г.д.).

Гістарычны вопыт сведчыць і пра тое, што агульнай рысай усіх капіталістычных краін з развітай рыначнай сістэмай з'яўляецца актыўны ўдзел шырокіх колаў насельніцтва ў кіраўніцтве прадпрыемствамі і фірмамі. У ЗША, напрыклад, уладальнікамі акцый буйных карпарацый з'яўляюцца дзесяткі мільёнаў прадстаўнікоў сярэдняга класа разам са шматлікімі буйнымі ўласнікамі. У Германіі ў кіраўніцтве буйных кампаній амаль палова месц замацавана за прадстаўнікамі працоўных калектываў. У Японіі практыкуюцца цесныя сувязі работнікаў з фірмамі на ўсё жыццё, а ў цэлым Японію называюць адзіным акцыянерным таварыствам на чале з урадам. Фінляндыю можна назваць краінай кааператыўнага капіталу. Аснову эканомікі там складаюць акцыянерныя таварыствы, кантрольныя пакеты якіх належаць буйным кааператывам, а пайшчыкам з'яўляецца практычна ўсё насельніцтва. У Італіі і Аўстрыі, а да нядаўняга

часу ў Англіі і Францыі прыватнакапіталістычны сектар суіснуе з моцным дзяржаўным сектарам.

Пры правядзенні прыватызацыі ні адна капіталістычная краіна не раздае задарма сваіх прадпрыемстваў, бо гэта толькі фармальна мяняе ўласніка і не прыбаўляе новага капіталу, не садзейнічае ўкараненню сучасных тэхналогій і прыцягненню лепшых кіраўніцкіх кадраў. А без гэтага не можа быць мадэрнізацыі вытворчасці, павышэння яе эфектыўнасці і канкурэнтаздольнасці прадукцыі: прадпрыемствы ўпадаюць у блізкі да банкруцтва постпрыватызацыйны стан, а дзяржава губляе вялікія сродкі. Калі дзяржава рашаецца на прыватызацыю, яна прадае прадпрыемствы па рыначнай цане, прычым па той, якая акупіць будучую страту дывідэндаў ці чыстага прыбытку ад прададзенай маёмасці. Калі рыначная цана ніжэй за гэты мінімум, тады прыватызаваць немэтазгодна.

Прыватызацыя па рэцэптах Міжнароднага валютнага фонду ў краінах СНД, былых сацыялістычных краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы не стала працэсам перадачы заводаў і фабрык іх грамадзянам. Дзякуючы празаходняй пазіцыі многіх кіраўнікоў гэтых краін, прадпрыемствы часта прадаюцца за вельмі нізкі кошт (некалькі працэнтаў ад сапраўднага кошту) замежным фірмам з-за быццам бы іх нерэнтабельнасці, запазычанасці, бяздзейнасці, што штучна ствараецца самімі ўладамі пры дапамозе механізма цэн на энергарэсурсы, працэнтаў на крэдыты, завозу вызваленых ад пошлін імпартных тавараў. Многія нацыянальныя прадпрыемствы закрываюцца і тым самым знішчаецца мясцовая канкурэнтаздольная прадукцыя, захопліваюцца новыя рынкі для імпартных тавараў.Частка заходняй вытворчасці пераводзіцца ў краіны, дзе ёсць танная рабочая сіла і дзе замежныя фірмы вызваляюцца ад падаткаў на працягу 3–5 гадоў. Ідзе "ціхі захоп" прамысловасці і рынкаў, "чорны перадзел" уласнасці на карысць айчынных і замежных прадпрыемцаў. Нацыянальнай бяспецы і суверэнітэту гэтых краін наносяцца вялікія страты.

У 1993 г. Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь былі прыняты прававыя акты, якія складалі аснову прыватызацыі. Сярод іх – законы "Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь", "Аб імянных прыватызацыйных чэках". У чэрвені 1993 г. была зацверджана Дзяржаўная праграма прыватызацыі, якой прадугледжана прыватызацыя 2/3 кошту дзяржаўных асноўных фондаў прадпрыемстваў і арганізацый.

Новае кіраўніцтва Беларусі не адмовілася ад рэфарміравання адносін уласнасці і прыватызацыі, але праводзіць гэта без спешкі, без ператварэння прыватызацыі ў "суцэльную" і "паскораную", бо дэнацыяналізацыя і раздзяржаўленне больш складаныя працэсы, чым нацыяналізацыя і адзяржаўленне. На розных узроўнях дзяржаўнага кіраўніцтва распрацоўваецца больш эфектыўны механізм правядзення прыватызацыі, устанаўліваецца належны кантроль за яе ажыццяўленнем. Найбольш актыўна прыватызацыя праходзіць у сферы абслугоўвання і гандлю.





Вярхоўны Савет і ўрад Рэспублікі Беларусь вырашылі правесці прыватызацыю дзяржаўнай маёмасці праз імянныя прыватызацыйныя чэкі "Маёмасць". Пры распрацоўцы ў 1992–1993 гг. дзяржаўнымі структурамі пытанняў рэфарміравання адносін уласнасці ніхто не спытаўся ў беларускага народа, ці хоча ён гэтай "народнай", "прымусовай", "суцэльнай" і "паскоранай" прыватызацыі, не абгрунтаваў яе эканоміка-матэматычнымі разлікамі, не растлумачыў, чаму іменна 2/3 дзяржаўнай маёмасці трэба раздзяржавіць, а чаму не 1/4, 1/10 і г.д.? Ніхто не пазнаёміў людзей з методыкай разлікаў кошту аб'ектаў прыватызацыі (цяжка ўявіць, што гэта можна зрабіць аб'ектыўна і справядліва), долі кожнага жыхара Беларусі ў агульнанацыянальным багацці, не растлумачыў, чаму так мала матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей стварылі за ўсю гісторыю многія пакаленні жыхароў Беларусі – каля 300 тыс. р. на кожнага старэйшага працаўніка.

Аднак, нягледзячы на гэта, машына прыватызацыі пачала працаваць. Большасць жыхароў Беларусі, пераадолеўшы бюракратычныя перашкоды, атрымалі імянныя прыватызацыйныя чэкі. Аднак жадання стаць уласнікамі маёмасці ў многіх жыхароў няма. Так, на пачатак ліпеня 1996 г. з 1 млн уладальнікаў чэкаў толькі 28 % выкарысталі іх для платы за прыватызуемую маёмасць, 13 – абмянялі на акцыі спецыялізаваных інвестыцыйных фондаў, 17 – пераафармілі сваякам, 42 % грамадзян прадалі свае чэкі па вельмі нізкай цане – 2,5 тыс. р. за 1 чэк. Велічыня дывідэндаў у разліку на 1 укладзены чэк таксама сімвалічная – ад 0,6 тыс. р. (АТ "Омель") да 15 тыс. р. (АТ "Камунарка").

На Захадзе акцыяніраванне прымяняецца выключна як метад прыцягнення капіталаў на прадпрыемствы для іх развіцця. У нашай краіне грошы за акцыі ідуць у бюджэт, а дывідэнды акцыянерам прыходзіцца плаціць прадпрыемствам, якія часта не маюць грошай на набыццё энерганосьбітаў, сыравіны, камплектуючых дэталяў, выплату заработнай платы. Больш таго, жыхары забіраюць "сваю долю" ў дзяржавы, становяцца ўласнікамі маёмасці, на акцыі атрымліваюць дывідэнды. У гэтым выпадку дзяржава можа адмовіцца ад выплаты пенсій, бясплатнай адукацыі, аховы здароўя і г.д. Многія людзі, заражаныя вірусам прыватнай уласнасці, наіўна думаюць, што дзякуючы прыватызацыі яны разбагацеюць і будуць адначасова атрымліваць бясплатныя паслугі ад дзяржавы і, як нахлебнікі-акцыянеры,– дывідэнды ад прадпрыемстваў. Тут патрэбна зрабіць выбар.

*Станаўленне рыначных адносін у аграрным сектары* эканомікі вызначылі "Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб зямлі", закон "Аб праве ўласнасці на зямлю" і інш. У сярэдзіне 1993 г. у аграрным сектары Беларусі налічвалася 2700 калгасаў і саўгасаў, 2658 фермерскіх гаспадарак і 1 926 400 сельскіх падвор'яў. Плошча выдзеленых зямель для фермерскіх гаспадарак складала 51 956 га, ці 0,5 % усіх сельгасугоддзяў рэспублікі (у Расіі на долю фермераў прыпадала больш за 3 %, на Украіне – 0,8 % сельгасугоддзяў). Сярэдняя плошча калгасаў і саўга-



*Навукова-вытворчае аб'яднанне "Інтэграл". Завод "Транзістар". Участак зборкі. 1994 г.*

саў складала 1994 га, фермераў – 19,9, падвор'я – 0,42 га. У ЗША сярэдні памер фермерскай гаспадаркі павялічыўся за апошнія гады са 149 да 190 га. Самыя буйныя фермы ЗША складаюць 4,1 % ад агульнай іх колькасці і даюць 48,8 % валавога прыбытку.

У 1993 г. на кожную фермерскую гаспадарку Беларусі прыпадала па 3,5 чалавекі, у тым ліку 2 працаздольныя работнікі. Амаль 35 % фермерскай зямлі выкарыстоўвалася неэфектыўна. У шэрагу месц ствараліся гаспадаркі практычна натуральнага тыпу. Удзельная вага прадукцыі фермерскіх гаспадарак у агульным аб'ёме прадукцыі аграпрамысловага комплексу Беларусі пакуль што нізкая – менш за 1 %, а таварнай прадукцыі – толькі 0,3 %.

На стварэнне адной абсталяванай фермерскай гаспадаркі патрабавалася звыш 10 млн р. капіталаўкладанняў (у цэнах на канец 1992 г.). У сувязі з недахопам сродкаў і па іншых прычынах фермеры мала будавалі жывёлагадоўчых памяшканняў, сховішч, перапрацоўчых аб'ектаў. Кожны фермер трымаў у сярэднім 3–4 галавы буйной рагатай жывёлы і свіней, 5–6 авечак і коз, што адпавядала звычайнай прысядзібнай гаспадарцы калгасніка. Ураджайнасць збожжавых і бульбы ў фермераў была ніжэйшая, чым у калгасах і саўгасах.

Некаторыя фермерскія гаспадаркі Беларусі пераставалі існаваць. Прычынамі таму былі адсутнасць вопыту і дастатковых сельскагаспадарчых ведаў, цяжкасці атрымання крэдыту, неэфектыўнае выкарыстанне зямлі, маральная і фізічная непадрыхтаванасць да цяжкай сельскагаспадарчай працы без водпускаў і выхадных (12–18 гадзін у суткі), сямейныя непаладкі і г.д. Па падліках спецыялістаў, пры самым добрым супадзенні абставін сяляне-аднаасобнікі і фермеры да 2000 г. змогуць даць толькі 7–9 % прадуктаў харчавання. Таму курс на хуткі дэмантаж буйной калгасна-саўгаснай вытворчасці і замену яе сялянскай (фермерскай) – палітычная авантура, вельмі небяспечны эксперымент, які можа прывесці да сур'ёзных негатыўных вынікаў.

**Структурная перабудова эканомікі, канверсія.** Спецыялізаваная і манапалізаваная, з моцным ваенна-прамысловым комплексам эканоміка Беларусі патрабуе ва ўмовах рынку структурнай перабудовы. На рубяжы 80–90-х гадоў урадам рэспублікі былі прыняты меры па стабілізацыі ўнутранага спажывецкага рынку, правядзення канверсіі і рэарганізацыі работы машынабудаўнічага і хімічнага комплексаў. Доля ваеннай прадукцыі ў агульных аб'ёмах вытворчасці абаронных заводаў да сярэдзіны 1993 г. скарацілася з 70 да 12–13 %. Са 120 прадпрыемстваў, якія ў рознай ступені займаліся вытворчасцю прадукцыі абароннага прызначэння, ваеннымі заказамі забяспечана іх нязначная колькасць. У некалькі разоў скараціўся аб'ём навукова-даследчых і вопытна-канструктарскіх работ, якія фінансаваліся па лініі Міністэрства абароны.

Ажыццяўляючы канверсію, былыя абаронныя заводы перайшлі на выпуск абсталявання і тэхнікі для розных галін гаспадаркі, прадпрыемстваў сувязі, для медыцыны, банкаў і гандлю, а таксама тавараў народнага спажывання. Навукова-вытворчае аб'яднанне "Інтэграл" выпускае лічыльнікі банкнот, касавыя апараты, сталы касіраў, сервісныя тэлефонныя станцыі, электронныя сістэмы кантролю для камбайнаў, блокі і прыборы для аўтамабіляў і пагрузчыкаў, мікракардыяаналізатары, электронныя тэрмометры, вымяральнікі ціску крыві, пульсметры, шагаметры, партатыўныя трохканальныя кардыятэстары "Захад", электронныя гадзіннікі, тэлефонныя апараты, электронныя пласцікавыя карты, электронныя ігры і сувеніры, тэлевізійныя антэны, лічыльнікі расходу вады, цяпла, газу, калькулятары, гаспадарчыя тавары і інструмент і шмат іншага. Мінскае вытворчае аб'яднанне вылічальнай тэхнікі з 1992 г. пачало серыйную вытворчасць электронных аўтаматычных тэлефонных станцый "Квант", а з 1995 г.– тэлефонных станцый "Бэта".

Беларускае вытворчае аб'яднанне радыётэхнікі (БелВАР) (з 1997 г. адкрытае акцыянернае таварыства "Мінскі прыборабудаўнічы завод") забяспечвае 60 % рынку радыёвымяральнай апаратуры ў краінах СНД (асцылографы, вальтметры і інш.), 70 % рынку электрабытавых тавараў у Беларусі і 11 % рынку ў Расіі (дазіметры, радыёметры, глюкаметры, міксеры, шынкоўкі, мясарубкі, прасы, кухонныя электрамеханічныя машыны, воданагравальнікі, шкафы-грылі, дрылі, рубанкі,



*Мінскае вытворчае аб'яднанне вылічальнай тэхнікі. Участак наладкі аўтаматычных тэлефонных станцый. 1994 г.*

пілы і інш.). На заводзе асвоены таксама лічбавыя АТС, тэлевізійныя цюнеры, аўтамабільныя акумулятары і многае іншае.

Беларускае оптыка-механічнае аб'яднанне выпускае прадукцыю двайнога (ваеннага і агульнагаспадарчага) прызначэння. Напрыклад, складаная аэракасмічная апаратура і фотаграмметрычныя прыборы дазваляюць праводзіць здымкі зямной паверхні ў розных зонах спектра. На базе атрыманых фотаздымкаў можна ствараць дакладныя карты мясцовасці і зямельны кадастр, вывучаць прыродныя рэсурсы і экалагічную сітуацыю ў любым месцы планеты. Прыборы начнога бачання (з інфрачырвонай ці лазернай падсветкай) выкарыстоўваюцца ў ахоўных сістэмах, аптычныя прыцэлы і лазерныя цэлеўказальнікі – на паляванні, біноклі з гірастабілізацыяй поля бачання – рыбааховай пры назіранні з лодкі, якая рухаецца. Аб'яднанне асвоіла вытворчасць апаратаў для ачысткі крыві і дазіраванай транспарціроўкі медыка-біялагічных і іншых вадкасцей, паравых інгалятараў, электронных вымяральнікаў артэрыяльнага ціску і пульсу, мікраскопаў і іншых медыцынскіх вырабаў. Арганізавана таксама вытворчасць кампрэсараў для прамысловых халадзільных установак, газавых лічыльнікаў, індыкатараў дымнасці, радыёметраў, луп рознай кратнасці, сокавыціскалак, электрапрыводаў для швейных машын, сепаратараў-маслабоек і інш.

Вясной 1993 г. была адобрана праграма структурнай перабудовы прамысловасці на 90-я гады. У якасці галоўнай мэты вызначана рэканструкцыя і мадэрнізацыя вытворчай базы апрацоўчых галін для забеспячэння іх канкурэнтаздольнасці на сусветным рынку. У кола канкрэтных прыярытэтаў прамысловай палітыкі ўключаны навукаёмістыя галіны: станкабудаванне, электроніка, прыборабудаванне, вытворчасць камп'ютэраў і абсталяванне сувязі, фармацэўтычная вытворчасць, прамысловасць палімерных і канструкцыйных матэрыялаў. Найбольш буйнымі праектамі ў галіне машынабудавання з'яўляецца вытворчасць дызельных рухавікоў і аўтобусаў для пасажырскіх перавозак.

Праблемы паліўна-энергетычнага комплексу будуць рашацца ў двух напрамках: 1) павелічэння і стымулявання ўкладанняў сродкаў у развіццё ўласнай паліўнай базы і глыбокую перапрацоўку пярвічных энерганосьбітаў; 2) значнага пашырэння кааперацыі з нафтаздабываючымі і перапрацоўчымі прадпрыемствамі Расіі і іншых краін СНД на базе сумеснага інвесціравання, стварэння сумесных вытворчасцей і прадпрыемстваў. Пачынаючы з 1984 г. здабыча ўласнай нафты стабільна падтрымліваецца на ўзроўні 2,05–2,1 млн т у год. Павышэнне эфектыўнасці выкарыстання нафты (выхад светлых нафтапрадуктаў сёння на ўзроўні 43–44 % ад аб'ёму перапрацоўваемай нафты, тады як у іншых краінах гэты паказчык складае 67–78 %) мяркуецца дасягнуць за кошт будаўніцтва комплексаў па яе глыбокай перапрацоўцы ў ВА "Нафтан" і на Мазырскім нафтаперапрацоўчым заводзе, кожны з якіх дазволіць дадаткова атрымаць да 2 млн т у год светлых нафтапрадуктаў.

Разведаны і падрыхтаваны для прамысловага выкарыстання залежы бурага вугалю на Жыткавіцкім месцараджэнні з агульным запасам 46,7 млн т, што дазваляе праектаваць будаўніцтва разрэзу магутнасцю 2 млн т вугалю ў год. Прадугледжана будаўніцтва Зэльвенскай ГРЭС, увод генерыруючых магутнасцей на працуючых электрастанцыях, а таксама стымуляванне энергазберажэння.

Пры структурнай перабудове эканомікі Беларусі галоўная ўвага звяртаецца на перавод вытворчасці на энерга- і матэрыялазберагаючыя тэхналогіі, развіццё мясцовай сыравіннай базы і імпартазамяняючай вытворчасці, пашырэнне выпуску канкурэнтаздольнай, навукаёмістай прадукцыі з глыбокай тэхналагічнай перапрацоўкай, павышэнне экалагічнай бяспекі.

**Грашова-фінансавая сістэма.** Да пачатку 90-х гадоў грашова-фінансавая сістэма СССР будавалася на базе савецкага рубля. Існавала дакладная градацыя абмену гэтага рубля на валюту: афіцыйны курс – прыкладна 60–65 кап. за 1 дол., курс чорнага рынку – прыкладна 10 руб. за 1 дол. Афіцыйны курс адлюстроўваў суадносіны цэн на ўнутраным і знешнім рынку, будаваўся на сапраўднай цане асноўных паліўна-сыравінных тавараў. Напрыклад, 1 т нафты на ўнутраным рынку каштавала 70 руб., на сусветным –140 дол. Курс чорнага рынку адлюстроўваў ажыятажныя суадносіны цэн на спажывецкія тавары.

Нечакана дзяржава супраць логікі разумнага сэнсу аслабляе кантроль за знешнегандлёвымі аперацыямі і сферай крэдыту, дабравольна адмаўляецца ад кантролю за валютным курсам. Ва ўмовах развалу эканомікі краін СНД, цэнаснай бязмежнасці, гульні біржавых дзялкоў на паніжэнне, разгулу эканамічнай злачыннасці сфарміраваўся спекулятыўны курс долара ў адносінах да рубля, грошы большасці суверэнных дзяржаў, у тым ліку і беларускія рублі, зведзены на нішто.

Ратуючы свае грошы ад абясцэньвання, банкі, прадпрыемствы і насельніцтва пераводзяць іх у валюту іншаземных дзяржаў. Па падліках спецыялістаў навукова-эканамічнага цэнтра "Экон", у 1994 г. у Рэспубліцы Беларусь купля іншаземнай валюты насельніцтвам у афіцыйна зарэгістраваных абменных пунктах павялічылася ў 73 разы ў параўнанні з папярэднім годам, у 1995 г. – у 22,5 раза. За межамі ЗША цяпер знаходзіцца 2/3 яе валютнага звароту, каля 250 млрд дол., з іх на тэрыторыі Беларусі, па розных ацэнках, ад 2 да 4 млрд дол. Гэта беспрацэнтны таварны крэдыт Рэспублікі Беларусь ЗША. Больш таго, у масе зарубежнага валютнага абароту ЗША сума гадавой інфляцыі складае 50–80 млрд дол. у год. Гэта наш уклад, свайго роду "гуманітарная дапамога" ў міжнароднае развіццё ЗША. І нарэшце, з тэрыторыі СНД у зарубежныя банкі штогод накіроўваецца валюта на дзесяткі мільярдаў долараў. Частка яе затым нам выдаецца ў якасці крэдытаў пад працэнты, а з гэтых працэнтаў выплачваюцца дапамога і "прэміі" тым, хто вядзе наша грамадства ў гэтым накірунку (Эканамічная канцэпцыя выхаду рэспублікі з крызісу// Веч. Минск.1995. 25 сент.).

Эканамічны механізм разграблення краін СНД распрацаваны Агенцтвам міжнароднага развіцця ЗША (Сов. Белоруссия. 1994. 5 дек.). Прынцып яго дзеяння нагадвае пыласос, які ўцягвае ўсе матэрыяльныя прадметы ў ЗША ў абмен на папяровыя доларавыя знакі, а сам працэс – гандаль паперкамі ў абмен на золата, каляровыя металы, нафту і г.д. На выпадак, калі дзяржавы СНД стабілізуюць свае нацыянальныя валюты і пажадаюць вярнуць долары ў ЗША ў абмен на рэальныя тавары, у ЗША ўжо падрыхтаваны долары іншага ўзору.

Стабілізацыя і ўмацаванне грашова-фінансавай сістэмы можа адбыцца толькі пры ўдзеле дзяржавы ў гэтых працэсах і пры пад'ёме эканомікі. Адным з крокаў на гэтым шляху магло б стаць часовае прыпыненне чэкавай прыватызацыі і акцыяніравання дзяржаўных прадпрыемстваў з тым, каб пакуль яшчэ не раздадзеную дзяржаўную маёмасць выкарыстаць у якасці "залатога" залогу для хуткай стабілізацыі нацыянальнай валюты. Затым увесці ў рэспубліцы новую нацыянальную валюту, гарантаваную актывамі Нацыянальнага банка, з наміналам грашовай адзінкі, роўнай долару ЗША.

**Рэфарміраванне знешнеэканамічнай дзейнасці.** На знешнеэканамічную дзейнасць уплывала шматгадовая, аднабаковая арыентацыя Беларусі на патрэбы адзінага народнагаспадарчага комплексу былога СССР, а таксама замкнутая адносна сусветнага рынку рэспубліканская эканоміка. У выніку тэхналагічнай арыентацыі на танную сыравіну быў сфарміраваны вельмі нязручны з пункту гледжання выхаду на сусветны рынак рэсурсаёмісты накірунак развіцця прамысловасці Беларусі. У пачатку 90-х гадоў пастаўкі ў рэспубліку нафты, пракату чорных металаў, стальных труб, сінтэтычнага каўчуку паменшыліся ў 1,5–2 разы, натуральнай воўны – у 3, бавоўны – у 1,5, збожжа – у 1,4 раза. Востра́й праблемай з'яўляецца забеспячэнне рэспублікі энерганосьбітамі.

У сувязі з недастатковай канкурэнтаздольнасцю прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў, насычанасцю таварамі сусветнага рынку Беларусь у гады рэформ не толькі не змагла заняць новыя нішы ў сусветнай гаспадарцы, але і згубіла частку сваіх традыцыйных рынкаў. Так, на працягу 1-га квартала 1993 г. у параўнанні з аналагічным перыядам 1992 г. на 13,2 % скараціўся экспарт трактароў, на 37,4– грузавых аўтамабіляў, на 15 – халадзільнікаў, на 56,1 % – тэлевізараў. Павелічэнне экспартнага патэнцыялу рэспублікі пераўтвараецца ў вельмі сур'ёзную і цяжкавырашальную праблему, якая патрабуе часу, структурнай перабудовы эканомікі, вялікіх матэрыяльных і фінансавых рэсурсаў, патэрналісцкай палітыкі з боку дзяржавы.

На першым этапе рыначных рэформ Беларусь павінна ўзаемадзейнічаць з краінамі СНД у новай эканамічнай прасторы, захоўваць максімальную прысутнасць беларускіх прадпрыемстваў на расійскім рынку і ў той жа час праводзіць палітыку, якая б заахвочвала вытворцаў шукаць іншых партнёраў. У сувязі з заніжаным курсам беларускага рубля ў адносінах да амерыканскага долара і неэквівалентным абменам прадпрыемствы, якія залежаць ад імпарту, вымушаны адмаўляцца ад яго, скарачаць тым самым вытворчасць, а пашырэнне экспарту пры гэтым абмежавана недастатковай канкурэнтаздольнасцю гатовай прадукцыі. Выкарыстанне іншаземных інвестыцый ускладняецца нестабільнасцю эканамічнай і палітычнай сітуацыі, недакладнасцямі ў фінансавай, грашова-крэдытнай сістэме, механізмах узаемнай абароны інвестыцый, а таксама поглядам Захаду на крыніцу таннай рабочай сілы і рынак збыту сваёй прадукцыі.

**Сацыяльна арыентаваная рыначная эканоміка і ўзровень жыцця беларускага народа.** Сусветнай практыцы вядомы дзве асноўныя мадэлі рыначнай эканомікі: ліберальная і сацыяльна арыентаваная. Важнейшымі прыкметамі ліберальнай мадэлі з'яўляюцца практычна поўнае панаванне прыватнай уласнасці, а ў сацыяльнай сферы дзяржава бярэ на сябе абарону толькі самых сацыяльна абяздоленых груп насельніцтва па самаму нізкаму пражытачнаму мінімуму. Сацыяльна арыентаваная мадэль рыначнай эканомікі дапускае плюралізм форм уласнасці, большую ступень удзелу дзяржавы ў забеспячэнні эфектыўнасці эканомікі, рэгуляванні прыбыткаў насельніцтва і яго занятасці, задавальненні шэрага найбольш значных сацыяльных запатрабаванняў (адукацыя, ахова здароўя, культура і г.д.). Ліберальнай мадэлі рынку прытрымліваліся ў свой час ЗША і Англія, але пачынаючы з 30-х гадоў XX ст. яны ўсё больш сталі

браць на сябе функцыі па рэгуляванні эканомікі і вырашэнні сацыяльных праблем. Сацыяльна арыентаваная мадэль рынку рэалізавана ў Швецыі, Францыі, Германіі, Японіі і іншых краінах.

У пачатку 90-х гадоў Расія, а за ёю Беларусь і іншыя краіны СНД аддалі перавагу ліберальнай мадэлі рынку. Памылковасць гэтага выбару ў тым, што ён быў зроблены супраць волі большасці насельніцтва, разбураў тыя сацыяльныя гарантыі і матэрыяльныя асновы забеспячэння, якіх народ дабіўся цаной вялікіх ахвяр у папярэднія гады. На думку эканамістаў, Беларусь і Расія па гістарычных умовах, дасягнутаму ўзроўню сацыяльнай абароненасці ў рамках планавай сістэмы, менталітэту грамадства схільны да сацыяльна арыентаванай мадэлі рынку. Гэтай думкі прытрымліваецца значная частка насельніцтва Беларусі.

На змену ўсеагульнай занятасці насельніцтва зноў прыйшло беспрацоўе. Калі ў ліпені 1993 г. было зарэгістравана ў службе занятасці 54,9 тыс. беспрацоўных, то ў канцы снежня 1996 г. іх колькасць павялічылася да 182,5 тыс. чалавек. Узровень беспрацоўя за гэты час вырас з 1,2 да 3,9 %. Прыпыненне спаду вытворчасці, забеспячэнне некаторага эканамічнага росту садзейнічалі таму, што з ліпеня 1996 г. да ліпеня 1997 г. колькасць свабодных рабочых месц у галінах эканомікі павялічылася на 76 % і склала 33,4 тыс. Гэта вызначыла тэндэнцыю да некаторага зніжэння ўзроўню беспрацоўя ў рэспубліцы.

У канцы ліпеня 1997 г. з агульнай колькасці 4,6 млн чалавек эканамічна актыўнага насельніцтва было афіцыйна зарэгістравана ў дзяржаўных службах занятасці ў якасці беспрацоўных 151,1 тыс. чалавек, узровень беспрацоўя знізіўся да 3,3 %. З агульнай колькасці беспрацоўных 26 % складалі асобы, якія звольніліся па асабістым жаданні, 20 – вызваленыя пры ліквідацыі прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый ці па скарачэнні штатаў, 10 % – выпускнікі школ, прафесійна-тэхнічных вучылішч, вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Сярод беспрацоўных 64 % складалі жанчыны, 46 % – моладзь ва ўзросце 16–29 гадоў.

За час правядзення палітыкі "шокавай тэрапіі" ў больш мяккім, беларускім, варыянце рознічныя цэны на тавары народнага спажывання і платныя паслугі насельніцтву, па нашых падліках, павялічыліся прыкладна ў 10–15 тыс. разоў і больш, тады як зарплата павялічылася толькі ў 1–2 тыс. разоў. Гэта значыць, што мы сталі жыць у 5–10 разоў горш, чым жылі раней. Большасці насельніцтву сталі недаступныя халадзільнікі, тэлевізары, пральныя машыны, мэбля і іншыя тавары працяглага карыстання. Сёння яшчэ захоўваецца нейкі мінімальны ўзровень жыцця насельніцтва за кошт таго, што было заroблена ў папярэднія гады. Адначасова мяняецца курс рэформ у напрамку стварэння ў Беларусі сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі з гарантаванымі дзяржавай сацыяльнымі здабыткамі для большасці насельніцтва.





## § 3. Дзяржаўнае рэгуляванне эканомікі і вопыт замежных краін

Сцвярджэнне некаторых вучоных аб тым, быццам рыначнай эканомікай з'яўляецца такая эканоміка, якая самаарганізуецца і самарэгулюецца,— не што іншае, як міф. Стварэнне і функцыяніраванне рыначнай эканомікі магчыма толькі пры ўдзеле дзяржавы. Толькі дзяржава можа выканаць ролю магутнага каардынатара і кіраўніка працэсаў пад'ёму і рэфарміравання эканомікі, дапамагчы ў вырашэнні канфліктаў паміж гаспадарчымі суб'ектамі, не дапусціць парушэння эканамічнага заканадаўства і дзейнасці нелегітымных (латэнтных) структур, якія наносяць шкоду не толькі гаспадарчым адносінам, але і інтарэсам дзяржавы, садзейнічаюць карумпіраванню грамадства.

Дзяржаўнае рэгуляванне можа быць прамым і ўскосным (адміністрацыйным і эканамічным), заканадаўчым, выканаўчым і судовым. Сусветны вопыт сведчыць аб тым, што ў залежнасці ад рэальнай эканамічнай сітуацыі меры дзяржаўнага ўмяшання могуць быць рознымі. Напрыклад, у перыяды крызісаў, пры росце інфляцыі і беспрацоўя мяркуецца актыўнае, прамое, жорсткае ўмяшанне дзяржавы ў эканоміку. Але і пры стабільным развіцці сацыяльна арыентаванай рыначнай гаспадаркі таксама магчыма прамое ўмяшанне дзяржавы ў сферы, якія закранаюць забеспячэнне насельніцтва жыццёва важнымі паслугамі (жыллё, транспарт, энергетыка, крэдытная і страхавая справа, аптовы і рознічны гандаль і г.д.).

Галоўнымі напрамкамі дзяржаўнага рэгулявання эканомікі з'яўляюцца: забеспячэнне прапорцый паміж дзяржаўным і недзяржаўным сектарамі; праблемы нацыяналізацыі і дэнацыяналізацыі; узаемаадносіны паміж рознымі эканамічнымі ўкладамі; падтрымка структурных прапорцый, якія забяспечваюць эканамічную стабільнасць і пад'ём; дзяржаўная палітыка ў галіне працоўных рэсурсаў і рабочай сілы; кантроль за стратэгічнымі відамі рэсурсаў; сацыяльна-эканамічная палітыка ў галіне аплаты працы і даходаў насельніцтва; фінансава-эканамічная і падатковая палітыка; абарона ўнутранага рынку (пратэкцыянізм, мытная палітыка); глабальныя праблемы рэканструкцыі і развіцця, інавацыйная і інвестыцыйная палітыка; цэнаўтварэнне, кантроль за працэсамі, якія адбываюцца ў манаполіях; міжнародны падзел працы.

Гэтыя напрамкі дзяржаўнага рэгулявання эканомікі з'яўляюцца непазбежнымі для любой краіны, але спосабы іх рэалізацыі могуць быць рознымі. Напрыклад, у Германіі, якая афіцыйна прыняла і канстытуцыйна замацавала курс на сацыяльна арыентаваную рыначную гаспадарку, эканоміка знаходзіцца пад актыўным рэгулюючым уздзеяннем дзяржавы. У аснову дзяржаўнага кіравання пакладзены сацыяльныя прынцыпы: забеспячэнне існавання (сацыяльная дапамога, сістэма сацыяльнага страхавання, меры па абароне працы і г.д.); паляп-

53. Зак. 5565

шэнне дабрабыту (удасканаленне інфраструктуры, прафілактыка ў галіне аховы здароўя, ахова навакольнага асяроддзя, стымуляванне ў сферы эканомікі); сацыяльная справядлівасць (пераразмеркаванне фінансавых сродкаў у форме розных дапамог, датацый). У якасці цэнтральнай задачы эканамічнай палітыкі была выбрана барацьба з беспрацоўем, галоўным сродкам пераадолення якога з'яўляюцца інвестыцыі.

У Францыі, якая больш за іншых улічвала ідэалогію сацыялізму ў эканамічнай практыцы, маштабы дзяржаўнага ўмяшання ў эканоміку вельмі значныя: на долю дзяржаўнага сектара прыпадае 70 % вытворчасці энергіі, 59 % паслуг транспарту і сувязі. Дзяржава рэгулюе цэны на ўсе энерганосьбіты, грамадскі транспарт, тэлефон, тарыфы праезду на аўтамабільных дарогах, некаторыя тавары, калі яны вырабляюцца манапольна, а таксама рэгулююцца цэны на прадукты харчавання, жыллё, медыцынскую дапамогу і г.д.

Дзяржаўная ўласнасць існуе ў трох формах: нацыянальных таварыстваў, адміністрацыйных упраўленняў, таварыстваў "змешанай эканомікі". Шырока выкарыстоўваецца стратэгічнае планаванне, якое прайшло этапы ад жорсткага дзяржаўнага рэгулявання да індыкатыўнага планавання, што носіць рэкамендацыйны характар. Французская мадэль зыходзіць з таго, што рынак сам па сабе не вырашае многіх праблем, не забяспечвае, напрыклад, правядзення фундаментальных навуковых даследаванняў. У сувязі з гэтым шырока выкарыстоўваецца кантрактная сістэма дзяржаўных заказаў.

Эканамічная рэформа ў Кітаі, які па дамінаванні дзяржаўнага сектара ў эканоміцы бліжэй да нас, накіравана на павышэнне самастойнасці прадпрыемстваў па формуле: "дзяржава рэгулюе рынак, рынак жа арыентуе прадпрыемствы". Пры гэтым зыходзяць з таго, што планавая эканоміка нятоесная сацыялізму, бо пры капіталізме ёсць план, а рыначная эканоміка нятоесная капіталізму, бо пры сацыялізме ёсць рынак. Эканамічная рэформа ў Кітаі была арыентавана на стварэнне сістэмы сацыялістычнай рыначнай эканомікі, дзе рынак служыць магутным рухавіком развіцця прадукцыйных сіл. Кітай не развіваецца па прынцыпах эканомікі Захаду. Ён не адмовіўся ад сацыялізму, прытрымліваецца сваіх нацыянальных традыцый, звычаяў, маралі, сваіх уяўленняў аб палітычным ладзе краіны, аб дэмакратыі і правах чалавека, будуе "сацыялізм з кітайскай спецыфікай".

Дзяржава ў КНР ажыццяўляе ўскоснае ўздзеянне на вытворцаў, выкарыстоўваючы розныя эканамічныя рычагі. Планавы кантроль захоўваецца ў адносінах да некаторых высокаманапалізаваных галін, якія робяць вялікі ўплыў на ўсю народную гаспадарку. Дзяржава рэгулюе прапорцыі паміж накапленнем і спажываннем, структуру вытворчасці, размеркаванне прадукцыйных сіл і г.д. у інтарэсах збалансаванага развіцця эканомікі. Не выключаецца таксама, што планавае рэгуляванне ахопіць і выпуск востradэфіцытных спажывецкіх





тавараў. Палітыка захавання і выкарыстання вялікага комплексу сродкаў дзяржаўнага рэгулявання дазволіла захаваць у Кітаі стабільнасць, правесці хоць і не глабальныя рэформы, але эфектыўныя і станоўча прынятыя насельніцтвам.

ЗША, Японія і іншыя краіны вельмі актыўна ахоўваюць свае ўнутраныя рынкі ад знешняга ўплыву, г.зн. праводзяць патэрналісцкую палітыку, палітыку пратэкцыянізму ў адносінах да айчынных таваравытворцаў.

Правядзенне палітыкі поўнай адкрытасці нацыянальнага рынку Рэспублікі Беларусь з'яўляецца пакуль што заўчасным, бо будзе садзейнічаць разбурэнню дзяржаўных прадпрыемстваў, пазбаўленых паўнакроўных дзяржаўных датацый, узнікненню стратных прадпрыемстваў і рыначных структур (малых і сярэдніх прадпрыемстваў), якія хочуць існаваць на вытворчай аснове, але іх прадукцыя яшчэ неканкурэнтаздольная. Правядзенне пратэкцыяніцкай палітыкі будзе супрацьдзейнічаць выродлівай накіраванасці рынку (за сыравіну плацім найбольш каштоўнай часткай нацыянальнага багацця), інфляцыі, "праяданню" крэдытаў, развіццю крымінальных і ценявых структур.

З іншых сусветных дасягненняў Рэспубліка Беларусь магла б выкарыстаць стымуляванне развіцця малых і сярэдніх рыначных прадпрыемстваў, заахвочванне канкурэнцыі, рэгуляванне аплаты працы і інш. Ды і ад айчыннага вопыту не трэба адказвацца – планавання, мэтавых дзяржаўных праграм, цэнаўтварэння, усеагульнай занятасці насельніцтва, моцнай сацыяльна-культурнай палітыкі. Усё тое, што сёння называецца "дзяржаўным рэгуляваннем эканомікі", вядома з 20-х гадоў у СССР, а пазней і ў іншых сацыялістычных краінах пад назвай "планавае развіццё эканомікі", толькі гэта агульнацывілізаванае дасягненне ў галіне эканомікі палітыкі і ідэолагі Захаду назвалі "дзяржаўным рэгуляваннем" і прысвоілі сабе. Творчае выкарыстанне савецкага вопыту дазволіла капіталістычным краінам выжыць у складаных абставінах 30–50-х гадоў XX ст. Шкада, што мы не змаглі гэтак жа паспяхова выкарыстаць навукова-тэхнічны, тэхналагічны і арганізацыйны вопыт Захаду.

Зразумела, што за дзяржавай застаецца выбар – захаваць свой удзел у пэўным прадпрыемстве ці не. Яна можа пры гэтым кіравацца як чыста фінансавымі інтарэсамі, так і больш высокімі, стратэгічнымі, агульнанацыянальнымі. Але ёсць такія галіны вытворчасці і прадпрыемствы, дзе дзяржаўны ўдзел і кантроль проста неабходны па чыста эканамічных меркаваннях. Гэта адносіцца да ўсіх выпадкаў манапольных сітуацый. Напрыклад, адсутнасць дзяржаўнага ўдзелу ў натуральных манаполіях (у адрозненне ад штучна ўтвораных) – у электраэнергетыцы, тэлефоннай сувязі, газа- і водазабеспячэнні і ў іншых галінах прывяла б прадпрыемствы (пры свабоднай канкурэнцыі) да банкруцтва, а прыватныя манаполіі – да звышвысокіх цэн, нявыгадных грамадству. Такія галіны вытворчасці і прадпрыемствы

павінны быць альбо ў дзяржаўнай уласнасці, альбо пад дзяржаўным кантролем.

Манаполіі ў здабываючай прамысловасці за кошт валодання багатымі ці выгадна размешчанымі крыніцамі мінеральных рэсурсаў дазваляюць атрымліваць звышпрыбытак. Удзел дзяржавы тут проста неабходны, каб гэты звышпрыбытак быў выкарыстаны ў інтарэсах усяго грамадства, навукова-тэхнічнага прагрэсу, а не групы асоб, якая выпадкова апынулася каля прыроднай крыніцы багаццяў.

Часовыя манаполіі ў цывільнай і ваеннай прамысловасці (напрыклад, прыватызаваны "АўтаВАЗ") могуць даваць добрыя вынікі пры ўдзеле дзяржавы, дапушчэнні канкурыруючых фірм і не суправаджацца дзяржаўным пратэкцыянізмам, які вядзе ў дадзеным выпадку аўтамабільную прамысловасць да пастаяннага адставання ад заходняй прамысловасці.

У ваеннай і касмічнай прамысловасці захаванне дзяржаўнай уласнасці рэкамендуецца не толькі па стратэгічных меркаваннях, але і таму, што ёсць магчымасць выкарыстаць у агульнадзяржаўных інтарэсах прыбытак ад эксплуатацыі высокатэхналагічнай прадукцыі, якой няма за мяжой.

Яшчэ раз падкрэслім, што вышэйшы сэнс рыначных рэформ, у тым ліку і прыватызацыі,— хуткае развіццё прадукцыйных сіл, росквіт Айчыны, павышэнне ўзроўню жыцця беларускага народа. Гэтыя задачы могуць быць вырашаны пры ўдзеле розных форм уласнасці, у тым ліку дзяржаўнай і прыватнай. Калі прыхільнікі рыначных рэформ стараюцца як мага хутчэй "разадраць" на часткі, "падзяліць паміж сваімі" дзяржаўную ўласнасць, яны вырашаюць не агульнацывілізаваныя, не эканамічныя, а палітычна-класавыя задачы буржуазнай рэвалюцыі, робяць вялікі перадзел уласнасці на карысць сваіх прыхільнікаў і ствараюць у іх асобе сацыяльна-класавую апору.

# ГЛАВА 3

# РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Пачатая ў 1985 г. перабудова, правядзенне палітыкі галоснасці і дэмакратызацыі аказалі ўздзеянне на культурнае жыццё грамадства. Палітычны патранат, ідэалагічная забарона адышлі ў мінулае. З'явілася магчымасць больш свабоднага развіцця творчасці асобнага чалавека.

Разам з тым ва ўмовах неабмежаванай "дэмакратыі" назіраюцца адмоўныя з'явы ў культурным жыцці. Галоўная з іх – камерцыялізацыя культуры. У друку, сродках масавай інфармацыі з'явіліся творы т.зв. эрзацкультуры, якія прапагандуюць парнаграфію, насілле, адыход ад жыццёвых праблем. Пазбаўленыя дастатковай фінансавай





падтрымкі, у цяжкім становішчы апынуліся навуковыя, асветныя і культурныя ўстановы. Грамадства пачынае жыць, "каб толькі выжыць". Узмацняецца накіраванасць да больш спрошчаных форм сацыяльнага жыцця, маральных норм, у людзей з'яўляецца пачуццё марнасці асабістага жыцця, няўпэўненасці. Адсюль замест рацыянальнай інтэлектуальнай творчасці ў галіне грамадскіх інтарэсаў – пошук вытокаў нацыянальнага лёсу і глебы, палітычны рэфармізм усеагульнай перабудовы і, у рэшце рэшт, утопія эміграцыі як спробы вырашыць свае ўнутраныя цяжкасці.

Неабходнай умовай росквіту культуры з'яўляецца распрацоўка і правядзенне ў жыццё разумнай, збалансаванай і рэалістычнай дзяржаўнай палітыкі ў галіне культурнага будаўніцтва. Асноўныя накірункі ў гэтай палітыцы выкладзены ў законах, прынятых Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь: "Аб культуры ў Беларускай ССР" (27 ліпеня 1990 г.), "Аб мовах у Беларускай ССР" (26 лютага 1990 г.), "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" (29 кастрычніка 1991 г.), "Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры ў Рэспубліцы Беларусь" (13 лістапада 1992 г.), "Аб святах у Рэспубліцы Беларусь" (19 снежня 1991 г.).

Увагу беларускім дзеячам культуры надае і міжнародная арганізацыя ЮНЕСКА. Так, 1990 г. быў аб'яўлены ў свеце годам Францішка Скарыны, і яго 500-годдзе з дня нараджэння адзначалася сусветным супольніцтвам. На Беларусі і далёка за яе межамі святкаваліся 110-гадовыя юбілеі беларускіх песняроў – Янкі Купалы і Якуба Коласа. Упершыню ў 1990 г. рэспубліка стала месцам правядзення свята славянскай пісьменнасці і культуры.

Вядома, што за гады савецкай улады беларуская культура дасягнула значных поспехаў. Але нават да сённяшняга дня ў рэалізацыі культурнай палітыкі захаваліся спрошчаныя, прымітыўныя падыходы. Камандна-адміністрацыйны, бюракратычны погляд на культуру як на сферу спажывання, ацэнка сацыяльна-культурнай дзейнасці ў рэспубліцы па знешніх, колькасных паказчыках, ведамасны падыход наносяць непапраўныя страты духоўнаму патэнцыялу асобы і грамадства ў цэлым.

У гэтых умовах рэалізацыя дзяржаўнай палітыкі ў галіне культуры праходзіць няпроста. Ёсць некаторыя поспехі, існуюць і вялікія праблемы.

## § 1. Развіццё навукі і асветы – асноўны напрамак дзяржаўнай палітыкі ў галіне культуры

За апошнія дзесяцігоддзі на Беларусі была створана разгалінаваная сетка ўстаноў навукі і навуковага абслугоўвання. У 1996 г. сярод навуковых арганізацый налічвалася 138 самастойных навукова-

54. Зак. 5565

даследчых, 54 канструктарскія і 21 праектна-канструктарская арганізацыі. Склаліся навуковыя школы ў многіх галінах ведаў, добра вядомыя ва ўсім свеце. За апошнія дзесяцігоддзі ў межах былога СССР беларускім вучоным належала каля 60 вышэйшых навукова-тэхнічных дасягненняў.

Беларуская навука мае магутны інтэлектуальны патэнцыял. Трэба адзначыць удзел у міжнародным супрацоўніцтве найбольш аўтарытэтных беларускіх навукоўцаў, вядомых за мяжой, – акадэмікаў М.Барысевіча, Л.Сушчэні, М.Высоцкага, Р.Гарэцкага, А.Ганчарэнкі, А.Мартыненкі, Я.Канаплі і інш.

Цэнтрам беларускай навукі з'яўляецца Нацыянальная акадэмія навук. Па стану на пачатак 1997 г. у 38 навукова-даследчых інстытутах, 5 навуковых і інжынерных цэнтрах і іншых арганізацыях акадэміі працавалі 4533 навуковыя супрацоўнікі, сярод якіх 457 дактароў і 2069 кандыдатаў навук. Толькі за апошнія гады ў акадэміі атрыманы шэраг важных вынікаў, многія з якіх адзначаны Дзяржаўнымі прэміямі Рэспублікі Беларусь. У галіне фізічных навук – гэта цыкл работ вучоных А.П.Вайтовіча, А.А.Кавалёва, В.В.Машко, У.А.Піліповіча, В.М.Северыкава. Прапанаваныя імі метады палярызацыйнай лазернай спектраскапіі шырока выкарыстоўваюцца ў сусветнай навуковай практыцы.

У галіне хімічных навук трэба адзначыць цыкл работ па сінтэзу, даследаванні і прымяненні новага класа гармонаў раслін (аўтары У.А.Хрыпач, У.М.Жабінскі, В.К.Альховік, Р.П.Літвіноўская, М.І.Завадская, Ф.А.Лахвіч). Праведзеныя даследаванні дазваляюць распрацоўваць эфектыўныя метады сінтэзу унікальных прыродных біярэгулятараў, ствараць на іх аснове прынцыпова новыя эканамічныя і бясшкодныя прэпараты, стымулюючыя рост раслін, павялічваць колькасць і якасць ураджаю.

Прынцыпова новыя метады і апаратура для дыягностыкі сардэчна-сасудзістых захворванняў распрацаваны вучонымі В.М.Гурыным, Г.І.Сідарэнкам, Л.З.Паланецкім, А.У.Фраловым, Я.Г.Нікіціным, У.У.Міронучыкам, А.П.Вараб'ёвым. Значным дасягненнем у галіне гуманітарных навук стала 6-томная "Гісторыя беларускага мастацтва", падрыхтаваная вучонымі Нацыянальнай акадэміі навук і Беларускай акадэміі мастацтваў.

Разам з тым беларуская навука знаходзіцца ў цяжкім становішчы. Пасля распаду СССР да незапатрабаванасці навукі з боку цывільнага сектара эканомікі дабавіліся праблемы канверсіі і дэфіцыту дзяржаўнага бюджэту, абыякавасць грамадства да сваёй інтэлектуальнай спадчыны.

Індыкатарам падзення сацыяльнага прэстыжу навукі стала дынаміка выдаткаў на навуку. Навукаёмістасць нацыянальнага даходу толькі за тры гады знізілася больш як у 3 разы (з 3,9 % у 1990 г. да 1,1 % у 1992 г.). У выніку скарачэння попыту на даследаванні і распрацоўкі аб'ём навукова-тэхнічных работ за 1990–1992 гг.





скараціўся на 40 %. Асігнаванняў на навуку хапае толькі ў асноўным на заработную плату і ўтрыманне памяшканняў. Эканамічная сітуацыя прымушае арыентавацца на кароткатэрміновыя праекты, выкарыстоўваць ужо апрабаваныя ідэі, у выніку чаго адбываецца вычэрпванне навуковага задзелу.

Ва ўмовах сацыяльна-эканамічнага крызісу і канверсіі навукова-тэхнічныя кадры трапілі ў лік самых сацыяльна неабароненых прафесійных груп у рэспубліцы, што прывяло да рэзкага скарачэння колькасці работнікаў, занятых асноўнай навукова-тэхнічнай дзейнасцю (са 107 тыс. чалавек у 1990 г. да 39 тыс. у 1995 г.). Асабліва пацярпела галіновая і акадэмічная навука. У рэспубліцы расла армія беспрацоўных вучоных. Па звестках Мінскай гарадской службы занятасці, сярод зарэгістраваных за 9 месяцаў 1993 г. беспрацоўных прадстаўнікі галіны "Навука і навуковае абслугоўванне" склалі каля чвэрці ад агульнай колькасці.

Разумеючы значнасць навукі для забеспячэння прагрэсу дзяржавы, яе кіраўніцтва праводзіць пэўную работу па дзяржаўным рэфармаванні навукова-тэхнічнай сферы. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь у 1993 г. прыняў законы "Аб асновах дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі", "Аб патэнтах на прамысловыя ўзоры", "Аб таварных знаках і знаках абслугоўвання". Створаны Дзяржаўнае патэнтнае ведамства, Вышэйшая атэстацыйная камісія, Камітэт па навуцы і тэхналогіях (зараз Дзяржаўны камітэт па навуцы і тэхналогіях). У кастрычніку 1996 г. уступіў у сілу закон Рэспублікі Беларусь "Аб навуковай дзейнасці".

Для стымулявання развіцця навукі ў галінах прамысловасці дадзены дазвол ствараць ведамасныя фонды фінансавання даследаванняў і распрацовак за кошт адлічэнняў ад сабекошту прадукцыі, работ і паслуг прадпрыемстваў у памеры да 1 % ад таварнай прадукцыі.

Пэўныя меры прымаюцца і для паляпшэння аплаты працы работнікаў навукі і адукацыі, але трэба падкрэсліць, што яны недастатковыя. Узровень заработнай платы ў галіне навукі і адукацыі значна ніжэйшы за сярэдні заработак у рэспубліцы. Такое становішча вядзе да самых крызісных з'яў, т.зв. "унутранай уцечкі розуму", калі вучоныя пераходзяць у іншыя сферы дзейнасці з большай аплатай працы. Ва ўмовах зараджэння рынку навука павінна мець падтрымку перш за ўсё ад дзяржаўных структур. Навуковы патэнцыял трэба аптымізаваць у межах суверэннай дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі.

Адным з асноўных фактараў нацыянальнага развіцця з'яўляецца школа. З сярэдзіны 80-х гадоў у СССР пачалася рэформа агульнаадукацыйнай і прафесійнай школы. У адпаведнасці з ёй была ўведзена наступная структура адукацыі: пачатковая школа – 1–4-я класы, няпоўная сярэдняя школа – 5–9-я класы, сярэдняя агульнаадукацыйная і прафесійная школа – 10–11-я класы, сярэднія прафесійныя вучылішчы, сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы. Навучанне дзяцей пачыналася з 6-гадовага ўзросту.

Рэформа прадугледжвала больш цесныя ўзаемасувязі навучання і вытворчай дзейнасці, уключэнне вучняў у сістэматычную, пасільную для іх здароўя і ўзросту грамадска-карысную працу. У школах уведзены курс асноў інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі. Былі створаны спецыялізаваныя сярэднія навучальныя ўстановы – гімназіі і ліцэі, накіраваныя на больш дасканалую падрыхтоўку вучняў па выбраных галінах ведаў.

З абвяшчэннем суверэнітэту Рэспублікі Беларусь паўстала пытанне аб прыняцці закона аб адукацыі. Такі закон быў прыняты 29 кастрычніка 1991 г. Ён стаў юрыдычным падмуркам для ажыццяўлення нацыянальнай праграмы адукацыі. У канцэпцыі адукацыі закладзена пераемнасць усіх навучальных устаноў, прадугледжаны свабодны доступ да любой ступені адукацыі, шматварыянтнасць зместу і форм навучання. Па прыярытэтных накірунках развіцця адукацыі распрацаваны асобныя праграмы: "Нацыянальная школа", "Родная мова", "Таленавітыя дзеці", "Дашкольнае выхаванне – ахова дзяцінства", "Інфарматызацыя адукацыі", "Сельская школа".

Першай ступенню ў сістэме дзяржаўнай адукацыі з'яўляецца дзіцячае дашкольнае выхаванне. У 1996 г. у рэспубліцы налічвалася больш за 4,5 тыс. дзіцячых дашкольных устаноў, у якіх выхоўвалася 444,3 тыс. дзяцей. З 1987 г. у рэспубліцы пачалі практыкаваць навучанне дзяцей шасцігадовага ўзросту па праграмах 1-га класа сярэдняй школы. Такія дзеці ідуць адразу ў 2-гі клас пачатковай школы. У апошнія гады пачалі стварацца сямейныя дзіцячыя садкі, садкі на кааператыўнай аснове, санаторнага тыпу, вячэрнія і прагулачныя, выхаднога дня, цэнтры развіцця дзіцяці і інш. Але тут існуюць і вялікія цяжкасці, звязаныя з фінансаваннем дзяржаўных садкоў і большасці ведамасных (многія кіраўнікі прадпрыемстваў у сучасных эканамічных умовах адмаўляюцца ад падтрымкі садкоў).

Агульнаадукацыйная школа складзена з трох ступеняў: пачатковая школа (4 гады), асноўная, ці базавая, школа (5 гадоў), старэйшая школа (2 гады). У школах 1-й ступені закладваюцца асновы развіцця дзіцяці. Вучні набываюць тут неабходныя веды і навыкі навучальнай дзейнасці. У школах 2-й ступені ствараецца падмурак агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі, неабходнай для паўнацэннага ўключэння падлеткаў у жыццё. Школа 3-й ступені забяспечвае завяршэнне агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі вучняў з дапамогай дыферэнцыяцыі навучання. Савет школы мае права самастойна выбіраць профіль навучання: агульны, гуманітарны, тэхнічны і г.д. У залежнасці ад выбару ажыццяўляецца пачатковая дапрафесійная падрыхтоўка вучняў.

У пачатку 1997/98 вучэбнага года ў рэспубліцы працавала 4821 дзённая агульнаадукацыйная школа, у іх ліку 71 гімназія, 24 ліцэі, 3 каледжы. Колькасць вучняў у дзённых агульнаадукацыйных школах склала 1579,8 тыс. чалавек, у гімназіях – 67,1 тыс., у ліцэях – 14,4 тыс., у каледжах – 2 тыс. чалавек. Акрамя таго, працавала 14 недзяржаўных агульнаадукацыйных школ, у якіх вучылася 838 вучняў.





Развіваецца ў рэспубліцы сетка школ для таленавітых дзяцей. Існуе сістэма прадметных алімпіяд, пераможцы якіх маюць магчымасць паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы без іспытаў. Практыкуецца таксама сумяшчэнне выпускнога іспыту за сярэднюю школу з уступным у ВНУ.

Прафесійна-тэхнічныя вучылішчы ажыццяўляюць дзве асноўныя формы падрыхтоўкі: на аснове базавага навучання (тут вучні атрымліваюць і сярэднюю адукацыю) і на аснове сярэдняй школы. Існуе шырокая сетка ПТВ рознага профілю. У 238 ПТВ атрымлівалі падрыхтоўку 132,2 тыс. чалавек па 420 прафесіях; 12 ПТВ аб'явілі сябе вышэйшымі прафесійнымі вучылішчамі.

Сярэдняя спецыяльная адукацыя з'яўляецца часткай сістэмы бесперапыннай адукацыі і ажыццяўляецца праз розныя тыпы навучальных устаноў: тэхнікумы, вучылішчы, школы, каледжы. Асноўнымі функцыямі спецыялістаў такой адукацыі з'яўляюцца: кіраўніцтва пачатковымі звёнамі вытворчасці, дапамога спецыялістам вышэйшай адукацыі, самастойная кваліфікаваная праца. Аднаўленне і ўскладненне тэхнікі і тэхналогіі патрабуюць ад сярэдніх спецыяльных устаноў значнага паляпшэння якасці адукацыі.

У 1997/98 вучэбным годзе падрыхтоўку спецыялістаў з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй ажыццяўлялі 149 дзяржаўных тэхнікумаў і іншых сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, у іх ліку 27 каледжаў. Колькасць навучэнцаў склала 128,6 тыс. чалавек. Працавала 7 недзяржаўных тэхнікумаў, у якіх навучалася 3,9 тыс. навучэнцаў. Усяго ж за кошт уласных сродкаў навучалася 15,3 тыс. навучэнцаў, што на 3,6 тыс. (на 30 %) больш, чым у папярэднім годзе.

У 1997 г. у тэхнікумы было прынята 43,9 тыс. чалавек, выпушчана – 35,6 тыс. 40 % выпускнікоў тэхнікумаў не атрымалі накіравання на работу.

У рэспубліцы створана шырокая сетка вышэйшых навучальных устаноў. У пачатку 1997/98 вучэбнага года працавалі 42 дзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы, у іх ліку 16 універсітэтаў і 9 акадэмій. У ВНУ навучалася 190 тыс. студэнтаў. У параўнанні з 1996/97 вучэбным годам колькасць студэнтаў павялічылася на 10 тыс. (на 6 %) за кошт павелічэння колькасці студэнтаў, якія навучаліся за асабістыя сродкі і сродкі арганізацый. У 1997/98 вучэбным годзе працавалі 17 вышэйшых недзяржаўных навучальных устаноў з колькасцю студэнтаў 34,5 тыс.

У 1997 г. ВНУ рэспублікі прынялі 46,7 тыс. чалавек, выпусцілі – 31,5 тыс. Не атрымалі накіравання на работу 23 % выпускнікоў дзённых аддзяленняў вышэйшых навучальных устаноў.

На 1 кастрычніка 1997 г., па даных дзяржаўнай службы занятасці, у якасці беспрацоўных зарэгістравана 3152 выпускнікоў ВНУ і тэхнікумаў, у іх ліку 2374 жанчыны.

У 90-я гады многія дзяржаўныя навучальныя ўстановы, якія называліся інстытутамі, былі пераўтвораны ў акадэміі і універсітэты. Напрыклад, Беларускі політэхнічны інстытут стаў Беларускай дзяр-

жаўнай політэхнічнай акадэміяй, Мінскі радыётэхнічны інстытут – Беларускім дзяржаўным універсітэтам інфарматыкі і радыёэлектронікі, Беларускі дзяржаўны інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі – Беларускім аграрным тэхнічным універсітэтам, а Віцебскі, Брэсцкі і Магілёўскі педагагічныя інстытуты былі пераўтвораны ў дзяржаўныя універсітэты. У 1990 г. быў адкрыты Гомельскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, у 1993 г. Наваполацкі політэхнічны інстытут пераўтвораны ў Полацкі дзяржаўны універсітэт. Дзейнасць вышэйшых навучальных устаноў характарызуецца працэсамі дэмакратызацыі і пашырэннем іх самастойнасці.

ВНУ цесна звязаны з патрабаваннямі народнагаспадарчай інфраструктуры дзяржавы. У апошні час у ВНУ створаны новыя спецыяльнасці па робататэхніцы, электронным прыборабудаванні, новых хімічных тэхналогіях. У 1994 г. у Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі створаны новы факультэт – эканамічны, які рыхтуе спецыялістаў па кіраванні прадпрыемствамі і фірмамі. На факультэце камп'ютэрных сістэм і сетак рыхтуюць спецыялістаў па банкаўскіх камп'ютэрных сістэмах.

Развіваецца інтэграцыя ВНУ з навуковымі ўстановамі і вытворчасцю. Створаны 127 філіялаў кафедр ВНУ, 53 навучальна-навукова-вытворчыя комплексы, 21 навукова-вытворчая лабараторыя ў вытворчых аб'яднаннях і акадэмічных інстытутах.

ВНУ актыўна ажыццяўляюць інтэграцыю з іншымі адукацыйнымі ўстановамі. Рэалізацыі гэтай ідэі служаць ліцэі. Асноўная мэта ліцэя – падрыхтаваць найбольш таленавітую моладзь да далейшага атрымання адукацыі. Першы ліцэй быў створаны пры Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Вышэйшая школа рэспублікі ўяўляе развіты навучальна-навуковы комплекс. Толькі вышэйшымі навучальнымі ўстановамі ў 1991 г. было выканана 1159 навукова-даследчых тэм, выдадзена 436 манаграфій і падручнікаў, зроблена 0,9 тыс. вынаходак. У ВНУ абаронена 326 доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый.

Поспех рэформы школы залежыць ад вырашэння шэрага задач:

– павелічэння памераў фінансавання адукацыі, на першых кроках хаця б да памераў, вызначаных у законе, – 10 % ад нацыянальнага даходу;

– распрацоўкі канцэпцыі і планаў забеспячэння высокай якасці адукацыі ва ўмовах правядзення рыначных рэформ;

– неадкладнага вырашэння праблемы выхавання і навучання дзяцей-сірот;

– стварэння сістэмы экалагічнай адукацыі ў дзяржаве і вырашэння іншых праблем, звязаных з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС;

– распрацоўкі новых арганізацыйна-эканамічных механізмаў узаемадзеяння адукацыі і эканомікі;

– правядзення мер на дзяржаўным узроўні па стварэнні ў грамадстве прыярытэту ведаў.





Важную ролю ў павышэнні ўзроўню адукацыі і культуры грамадства адыгрывае друк. У пачатку 90-х гадоў у Беларусі дзейнічала 11 дзяржаўных выдавецтваў, правы выдавецкай дзейнасці мелі 719 фірм, малых прадпрыемстваў і асобных грамадзян. У 1996 г. выдадзена 3809 кніг і брашур агульным тыражом 59,1 млн экзэмпляраў.

Значна пашырылася выданне твораў класікі сусветнай літаратуры на беларускай мове, убачылі свет выданні з "Бібліятэкі замежнай прозы". У Маскве на міжнародным конкурсе Асацыяцыі кнігавыдаўцоў на лепшую кнігу 1992 г. ганаровы дыплом атрымала выдавецтва "Юнацтва" за выпуск замежнай дзіцячай літаратуры ў перакладзе на беларускую мову.

Беларускамоўныя выданні папоўнены творамі сучасных беларускіх пісьменнікаў. Пашырыўся выпуск даведнікаў па беларускай мове.

Шырокую дзейнасць па выпуску кніжнай прадукцыі разгарнулі і недзяржаўныя выдавецтвы, чые кнігі па назвах і тыражах складаюць больш за палову ўсёй кніжнай прадукцыі.

## § 2. Асаблівасці развіцця літаратуры, выяўленчага мастацтва, музыкі. Ахова гісторыка-культурнай спадчыны

Першымі, хто ўзняў пытанне аб выхаванні нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, былі пісьменнікі. З'явілася шмат публіцыстычных выданняў, літаратары актыўна ўключыліся ў палітычнае жыццё краіны. Выходзяць у свет цікавыя творы, з'яўляюцца новыя імёны, не знізіўся, калі меркаваць па лепшых творах, і філасофскі патэнцыял беларускай літаратуры.

Плённа працуюць старэйшыя беларускія пісьменнікі. Раманам "Вяртанне да віны" народны пісьменнік І.Чыгрынаў завяршыў свой цыкл раманаў аб жыхарах в.Верамейкі, у апошнія гады свайго жыцця ён вынес на суд тэатральнага гледача некалькі п'ес аб мінуўшчыне, якія з поспехам ідуць у тэатрах. Прыклад асэнсавання дня не толькі нядаўняга, але і сённяшняга, у якім мы жывём побач з чарнобыльскай бядой, даюць раман І.Шамякіна "Злая зорка" і аповесці "Ахвяры", "Сатанінскі тур".

На паэтычнай ніве плённа працавалі М.Лужанін, Н.Гілевіч, Р.Барадулін, А.Лойка, Ю.Свірка, Л.Дранько-Майсюк і інш. Паэты Н.Гілевіч і Р.Барадулін атрымалі званне народных.

З поспехам ідуць у тэатрах п'есы вядомых драматургаў А.Дударава, У.Бутрамеева, М.Арахоўскага.

З'явілася і шмат новых імён. Адкрыццём для чытачоў стала выданне паэтычнага зборніка Р.Баравіковай "Люстэрка для самотнай". Можна парадавацца за першыя кнігі А.Наварыча, А.Казлова, А.Федарэнкі, братоў Дэбішаў і інш.

На Беларусі за апошнія гады былі напісаны творы высокага літаратурнага ўзроўню. Але ўсё ж пры іх аналізе нельга не заўважыць, што пісьменнікі ў асноўным звяртаюцца да мінулага, праблемы сённяшняга жыцця пакуль што застаюцца па-за межамі іх твораў.

Самай буйной у рэспубліцы скарбонкай беларускага і рускага выяўленчага мастацтва з'яўляецца Нацыянальны мастацкі музей Беларусі. Мастацкая вартасць і каштоўнасць сабраных у ім твораў ставяць яго ў шэраг лепшых музеяў былога СССР. Зараз у фондах і філіялах музея больш за 19 тыс. твораў, вялікая калекцыя беларускага мастацтва XVI–XX стст.

Шырокую вядомасць мае Бялыніцкі мастацкі музей імя В.К.Бялыніцкага-Бірулі. Унікальныя калекцыі твораў беларускага старажытнага мастацтва аберагаюцца ў Музеі старажытнабеларускай культуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і ў Веткаўскім музеі народнай творчасці. Знаёмства з сучасным выяўленчым мастацтвам Беларусі жыхары і госці нашай рэспублікі могуць ажыццявіць у залах Рэспубліканскай мастацкай галерэі Саюза мастакоў Беларусі (былы Палац мастацтва). У Мінску і іншых гарадах адкрыліся галерэі, дзе людзі маюць магчымасць убачыць узоры выяўленчага мастацтва Беларусі.

Увогуле, сучасны стан выяўленчага мастацтва рэспублікі характарызуецца значнасцю падзей і ажыўленнем мастацкага жыцця. Яно звязана перш за ўсё з дзейнасцю творчых суполак, актывізацыяй выставачнай дзейнасці, пашырэннем мастацкага рынку.

Выставачная дзейнасць у апошнія гады адзначана разнастайнасцю саміх выстаў (рэспубліканскія, абласныя, групавыя, персанальныя, выставы-продажы і г.д.), пошукам новых сродкаў прапаганды і паказу твораў выяўленчага мастацтва. Як і раней, штогод праводзяцца рэспубліканскія выставы графікі, жывапісу, акварэлі і г.д.

Сярод персанальных выстаў апошняга часу трэба адзначыць выставы мастакоў старэйшага пакалення – М. Савіцкага, А. Анікейчыка, П. Дурчына, У. Стэльмашонка, Г. Вашчанкі і іншых, а таксама шматлікія выставы моладзі. Адметнымі і ў добрым сэнсе памятнымі становяцца выставы-абароны дыпломных работ студэнтаў Беларускай акадэміі мастацтваў. Традыцыйна яны сталі праводзіцца ў залах Рэспубліканскай мастацкай галерэі.

Такім чынам, дэмакратычныя працэсы ў грамадстве садзейнічалі актывізацыі творчасці мастакоў. Разам з тым мастакі знаходзяцца ў цяжкім становішчы. Дзяржавай не распрацаваны прынцыпы фінансавання выяўленчага мастацтва, узаемаадносін паміж установамі і мастакамі.

Такое ж неадназначнае становішча склалася ў Беларусі і ў галіне музычнага мастацтва. Больш за 60 гадоў працуе Беларуская дзяржаўная кансерваторыя (Беларуская акадэмія музыкі). Ля вытокаў вышэйшай музычнай адукацыі стаялі кампазітары М. Аладаў і У. Залатароў. Самабытныя выканаўчыя школы ў кансерваторыі стварылі





піяністы В. Сямашка, Г. Пятроў, скрыпачы А. Бяссмертных і А. Вів'ен, выкладчык вакалу А. Баначыч. Многа зрабілі і робяць для падрыхтоўкі музычных кадраў і развіцця музычнай культуры Беларусі У. Алоўнікаў, А. Багатыроў, В. Роўда, Т. Ніжнікава, Я. Глебаў, Дз. Смольскі, С. Картэс і інш. Многія з выхаванцаў музычнай школы Беларусі сталі ўдзельнікамі і пераможцамі міжнародных конкурсаў: віяланчэліст М. Самсонаў, піяністы А. Паначэўскі, Д. Марозаў і інш.

У 1996 г. у рэспубліцы дзейнічала 13 канцэртных арганізацый, у тым ліку 6 філармоній. Арганізаваныя імі канцэрты наведалі 1238 тыс. слухачоў.

У цэнтры канцэртнай дзейнасці стаіць Беларуская дзяржаўная філармонія. Рэспубліка Беларусь мае высокапрафесійныя калектывы: акадэмічны хор Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі пад кіраўніцтвам В.Роўды; Дзяржаўны акадэмічны народны хор імя Г.Цітовіча пад кіраўніцтвам М.Дрынеўскага; Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла імя Р.Шырмы пад кіраўніцтвам Л.Яфімавай; Дзяржаўны акадэмічны народны аркестр імя І.Жыновіча (кіраўнік М.Казінец); Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр (кіраўнік М.Кац); Дзяржаўны камерны аркестр (кіраўнік І.Райль); Дзяржаўны ансамбль танца (кіраўнік В.Дудкевіч); Дзяржаўны харэаграфічны ансамбль "Харошкі" (кіраўнік В.Гаявая); нацыянальнае тэатральна-канцэртнае аб'яднанне "Беларуская капэла" (кіраўнік В.Скарабагатаў); дзяржаўны ансамбль народнай музыкі "Свята" (кіраўнік В.Купрыяненка).

Развіццё музычнай культуры дало магчымасць стварыць новыя высокапрафесійныя калектывы. У 1988 г. створаны Дзяржаўны камерны хор; стаў працаваць мінскі аркестр духавых інструментаў "Няміга". Сінтэз музыкі, пластыкі і дэкору дэманструе створаная ў 1986 г. мінская вакальная група "Камерата". Самую авангардную музыку выконвае ансамбль салістаў "Класікавангард".

Пашырэнне магчымасцей і інтарэсаў музыкантаў садзейнічала развіццю фестывальнага руху на Беларусі.

Традыцыйнымі сталі фестывалі старадаўняй і сучаснай музыкі ў Полацку "Адраджэнне беларускай капэлы", з 1992 г. – новай беларускай музыкі, на якім з поспехам атрымалі першае гучанне сімфанічныя творы беларускіх аўтараў: містэрыя "Францішак" А.Ліцвіноўскага, эскіз для аркестра "Поразава" Я.Паплаўскага, сімфонія "Плач перапёлкі" У.Кандрусевіча, сімфоніі У.Дарохіна, Дз.Смольскага і інш.

Значнае месца ў музычным жыцці займаюць лепшыя ўзоры эстраднай песеннай творчасці. Шырока вядомы песенныя творы кампазітараў Я.Глебава, Ю.Семянякі, І.Лучанка, Э.Ханка, У.Будніка, В.Іванова, Э.Зарыцкага і інш.

Шырока вядомы ў рэспубліцы і па-за яе межамі выканаўцы В.Вуячыч, Т.Раеўская, Я.Паплаўская, А.Ціхановіч, ансамблі "Песняры", "Сябры", "Верасы" і інш.

Набыў папулярнасць у многіх краінах высокапрафесійны Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам М.Фінберга. У значнай ступені дзякуючы яго майстэрству Беларусь займае сёння адметнае месца ў музычным жыцці.

З 1992 г. у Віцебску штогод праходзіць свята славянскай эстрады "Славянскі базар", уздыму ўзроўню выканаўчага майстэрства маладых галасоў садзейнічае фестываль у Маладзечне, які з 1993 г. стаў традыцыйным.

Адной з важных задач палітыкі ў галіне культуры з'яўляецца захаванне мастацкіх твораў, помнікаў айчыннай гісторыі і культуры.

На тэрыторыі Беларусі існуе (на 1992 г.) 16,3 тыс. помнікаў гісторыі і культуры рэспубліканскага значэння, у тым ліку больш за 11 тыс. помнікаў гісторыі, 3048 помнікаў археалогіі, 1613 помнікаў архітэктуры, 247 помнікаў мастацтва. Гэты спіс мог быць і больш значным, але гісторыя Беларусі складвалася так, што значная колькасць створаных нашым народам гістарычных каштоўнасцей альбо загінула, альбо вывезена падчас шматлікіх войн, альбо бяздумна страчана ў апошні час з-за нацыянальнага нігілізму. Па даных Дзяржаўнай камісіі па выяўленні ўрону, учыненага нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1941–1944 гг. з музеяў Беларусі было вывезена больш за 14 тыс. мастацкіх твораў сусветнага значэння. Таму сёння арганічная частка палітыкі ў галіне культуры – вяртанне той спадчыны, якая апынулася па-за межамі нашай краіны.

У Рэспубліцы Беларусь працуе камісія, якая праводзіць пошук звестак пра каштоўнасці, што былі ў розныя часы вывезены за межы рэспублікі законным ці незаконным шляхам. Выдадзены зборнік дакументаў і архіўных матэрыялаў "Вяртанне", які зараз вывучаецца адпаведнымі дзяржаўнымі ўстановамі іншых краін.

Для ажыццяўлення нацыянальнай дзяржаўнай праграмы захавання, вывучэння і прапаганды гісторыка-культурнай спадчыны ў рэспубліцы выдадзены шматтомны "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі", "Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі", "Этнаграфія Беларусі", "Гісторыя беларускага мастацтва", энцыклапедыя "Архітэктура Беларусі". У 1992 г. быў прыняты закон Рэспублікі Беларусь "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны". Беларусь стала першай рэспублікай былога СССР, якая прыняла новы закон у гэтай галіне рэгулявання прававых адносін.

У сакавіку 1991 г. была створана і пачала працаваць Дзяржаўная гісторыка-культурная экспедыцыя па выратаванні помнікаў гісторыі і культуры Беларусі ў раёнах, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Увогуле неабходна адзначыць, што ў рэспубліцы праводзіцца значная па свайму аб'ёму работа. Створаны Галоўнае ўпраўленне па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры Савеце Міністраў і Дзяржаўная інспекцыя па ахове гісторыка-культурнай спадчыны. Штогод на патрэбы рэстаўрацыі з рэспубліканскага бюджэту





выдзяляюцца значныя сродкі. Частка рэстаўрацыйных аб'ектаў стала ў цэнтры ўвагі еўрапейскіх арганізацый, ЮНЕСКА.

Высокі ўзровень рэстаўрацыйнай работы, значныя яе тэмпы характарызуюць, па меркаваннях спецыялістаў, аднаўленчую працу ў Мірскім замку, помніку архітэктуры XV–XVI стст. Праект рэстаўрацыі замкавага комплексу "Мір" узнагароджаны знакам і дыпломам "Еўра Ностра".

Кансервацыйныя работы праводзяцца ў Віцебскай Благавешчанскай царкве. Гэта помнік XII ст., ён на ўліку адпаведнай камісіі ЮНЕСКА. Скарбам у архітэктурнай кароне Гродна з'яўляецца Барысаглебская (Каложская) царква, славуты помнік нашага нацыянальнага дойлідства XII ст. Апошнім часам створаны фонд аднаўлення Каложскай царквы.

Незвычайную, багатую гісторыю мае старажытны Нясвіж. Спецыяльнай пастановай Савета Міністраў Нясвіжу нададзены статус Нацыянальнага запаведніка Рэспублікі Беларусь. Створаны міжнародны фонд "Нясвіж" для адраджэння яго гісторыка-культурнай спадчыны. Ідэя стварэння фонду належыць Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. У ліку асоб, заснавальнікаў фонду, пажадалі быць нашчадкі роду Радзівілаў.

Полацкі гісторыка-культурны запаведнік уключае 18 помнікаў гісторыі, археалогіі і культуры – 44 гектары ахоўнай тэрыторыі, на якой чакаецца адкрыццё адноўленых помнікаў. Сярод рэстаўрыраваных – славуты Сафійскі сабор (XI–XVIII стст.), Богаяўленскі сабор (XVIII ст.), брацкая школа пры Богаяўленскім саборы.

Распрацоўваюцца праекты рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры на Навагрудчыне, Лідскага замка, Старога замка ў Гродне, гістарычнай забудовы ў Мінску, Брэсце і шэрагу іншых старажытных беларускіх гарадоў.

У адпаведнасці з пажаданнямі, выказанымі на Першым з'ездзе беларусаў блізкага замежжа, згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" прыняло рашэнне аб аднаўленні агульнанацыянальнай каштоўнасці – крыжа Ефрасінні Полацкай. Гэту адказную працу выканаў мастак-ювелір з Брэста М.Кузьміч.

## § 3. Дзейнасць тэатраў, музеяў, бібліятэк, клубаў. Развіццё самадзейнай творчасці

Агульнае падзенне ўзроўню жыцця грамадзян краіны ў 90-х гадах прывяло ўстановы культуры ў стан глыбокага крызісу. Аднак і ў такіх складаных умовах удалося не толькі не зменшыць, а, наадварот, павялічыць колькасць, напрыклад, тэатраў (з 17 у 1985 г. да 24 у 1996 г.) ці музеяў (адпаведна з 90 да 144).

На Беларусі працуюць 24 прафесійныя тэатры, у тым ліку 1 – оперы і балета, 15 – драмы і музычнай камедыі, 8 – дзіцячых і юнага

гледача. Плённа працуюць Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я.Купалы, Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Я.Коласа (у Віцебску), Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі (ДАВТ), Дзяржаўны рускі драматычны тэатр Беларусі, Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача, Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі, Дзяржаўны маладзёжны тэатр, Дзяржаўны тэатр-студыя кінаакцёра, Дзяржаўны тэатр лялек, абласныя драматычныя і лялечныя тэатры.

У 1991 г. адкрыў свой першы сезон Дзяржаўны тэатр-лабараторыя нацыянальнай драматургіі "Вольная сцэна" (зараз Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі). Створаны прафесійныя драматычныя тэатры ў Маладзечне, Слоніме, Мазыры. Уласныя сцэнічныя мадэлі, дакладна сфармуляваныя эстэтычныя платформы маюць Малы тэатр Беларускага фонду развіцця культуры (былы Альтэрнатыўны тэатр), тэатр-студыя "Дзе-я?", тэатр сатыры і гумару "Хрыстафор". На творах нацыянальнай літаратуры працуе Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зніч". З'явіліся новыя тыпы тэатраў: у 1994 г.– тэатр эстраднага мастацтва, у 1997 г.– Дзяржаўны маладзёжны тэатр эстрады.

Вялікі ўклад у развіццё беларускага тэатральнага мастацтва ўнеслі рэжысёры В.Раеўскі, Б.Луцэнка, В.Маслюк, М.Пінігін, А.Ляляўскі; харэограф В.Елізар'еў; акцёры С.Станюта, М.Яроменка, В.Тарасаў, Р.Янкоўскі, А.Клімава, М.Захарэвіч, Л.Давідовіч, Ф.Шмакаў; добра вядомы салісты ДАВТа Л.Бржазоўская, Ю.Траян, І.Душкевіч і інш.

У рэпертуары тэатраў рэспублікі – драматургія беларускіх аўтараў, руская і замежная класіка, творы сучасных аўтараў блізкага і далёкага замежжа.

Прэміямі ў апошнія гады адзначаліся такія спектаклі, як "Радавыя" (1985), "Мудрамер"(1988), "Тутэйшыя" (1992) – у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я.Купалы; опера "Дзікае паляванне караля Стаха" (1990) – у ДАВТе; "Клоп" (1990) – у Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі.

Здабыткамі апошніх тэатральных сезонаў з'яўляюцца спектаклі "Тутэйшыя" Я.Купалы, "Страсці па Аўдзею" У.Бутрымеева, "Звон – не малітва" І.Чыгрынава, "Ідылія" В.Дуніна-Марцінкевіча – у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я.Купалы; "Хам" Э.Ажэшкі, "Залёты" В.Дуніна-Марцінкевіча – у Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Я.Коласа; "Дзіця з Віфлеема" – у Дзяржаўным тэатры-студыі кінаакцёра; "Цар Ірад" – у Дзяржаўным лялечным тэатры. Адметнай вяхой на шляху развіцця беларускай оперы з'явіліся пастаноўкі "Дзікае паляванне караля Стаха" У.Солтана, якая атрымала Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь, і "Князь Новагародскі" А.Бандарэнкі. Добрыя водгукі атрымаў балет А.Мдзівані "Страсці (Рагнеда)".

У рэспубліцы праводзяцца фестывалі – "Славянскія тэатральныя сустрэчы", Міжнародны фестываль тэатраў лялек, Міжнародны фестываль монаспектакляў "Я", фестываль-агляд драматычнага мастацтва Беларусі. Тэатры рэспублікі прымалі ўдзел у фестывалях "Прыбалтыйская тэатральная вясна". Паспяхова працуе Беларускі дзяржаўны цырк.





У справе выхавання людзей вялікая роля належыць музеям. Іх колькасць павялічылася са 111 у 1990 г. да 149 у 1996 г. Вядучае месца сярод іх займае Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі (былы Дзяржаўны музей БССР). У музеі налічваецца больш за 250 тыс. адзінак захоўвання. Найбольш поўныя калекцыі датычаць археалогіі, нумізматыкі, этнаграфіі. Значную цікавасць уяўляюць калекцыі зброі і старадрукаў. У музеі захоўваецца больш за 80 скарбаў. Краязнаўчы аддзел былога Дзяржаўнага музея БССР пераўтвораны ў Музей прыроды і экалогіі.

Больш за 50 гадоў працуе Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Фонды музея да гэтага часу папаўняюцца новымі экспанатамі, адкрываюцца новыя выставы. Так, у экспазіцыі з'явіўся стэнд з амуніцыяй амерыканскіх салдат ваенных гадоў. Гэтыя рэчы музею перадаў асабіста пасол ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Суорц. Па-ранейшаму выклікае цікавасць выстава мастака М.Савіцкага "Лічбы на сэрцы".

Аднаўленне і захаванне помнікаў этнаграфіі для нашчадкаў – галоўная мэта дзейнасці дзяржаўнага музея-запаведніка "Менка". Гэты музей пад адкрытым небам ствараецца ў 12 км ад Мінска, у раёне Воўчкавіцкага вадасховішча – у прыгожых мясцінах, якія ўвабралі ў сябе ўсё тое, што так характэрна для пейзажу Беларусі. На яго тэрыторыі знаходзяцца помнік старажытнаславянскай архітэктуры сусветнага значэння – гарадзішча на знакамітай рэчцы Менка і шматлікія курганы-селішчы. У музеі ўжо аформлены тры гісторыка-этнаграфічныя рэгіёны Беларусі: Цэнтральная Беларусь, Паазер'е, Падняпроўе. Створаны тры сектары – тры вёсачкі для наведвання турыстамі і жыхарамі Беларусі.

У маі 1993 г. пасля працяглай рэканструкцыі адкрыўся Музей старажытнай беларускай культуры пры Інстытуце этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі. Ён існуе ўжо 15 гадоў і мае унікальныя экспанаты. У залах музея дзейнічае выстава выратаваных каштоўнасцей з Чарнобыльскай зоны (у фонды музея вывезена на захаванне 350 экспанатаў народнага побыту, творы мастацтва з Брагінскага, Кармянскага, Краснапольскага, Слаўгарадскага раёнаў).

У 1987 г. адчыніў свае дзверы Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры ў Мінску, атрымалі новыя памяшканні літаратурныя музеі М.Багдановіча ў Мінску і А.Міцкевіча ў Навагрудку.

У пачатку 90-х гадоў у рэспубліцы дзейнічала каля 14 тыс. публічных і спецыяльных бібліятэк. Іх сукупны фонд складаў звыш 240 млн экзэмпляраў. Штогод яны абслугоўвалі 6,6 млн чытачоў, якім выдавалася каля 165 млн экзэмпляраў літаратуры.

55. Зак. 5565

Бібліятэчную сістэму ўзначальвае Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Пад яе непасрэдным кіраўніцтвам ажыццяўляецца распрацаваная ў 1990–1991 гг. "Канцэпцыя развіцця бібліятэчнай справы ў Рэспубліцы Беларусь". Яна накіравана на пераўтварэнне масавых бібліятэк, арыентаваных на нейкую агульную масу з аднабаковымі запытамі, у публічныя бібліятэкі, разлічаныя на канкрэтнага чытача з яго індывідуальнымі патрэбамі. У сувязі з цяжкімі ўмовамі матэрыяльна-тэхнічнай базы сельскіх бібліятэк, з-за адсутнасці сродкаў значна памяншаецца іх колькасць. Толькі за 1992 г. яна скарацілася на 265 адзінак.

Паступова мяняецца сутнасць бібліятэкі, намаганні накіраваны на развіццё ў грамадзян пачуцця нацыянальнага гонару за сваю бацькаўшчыну. Пры бібліятэках рэспублікі ствараюцца шматлікія аматарскія аб'яднанні: "Краязнаўца", "Вытокі", "Натхненне" і г.д., у якіх вядзецца мэтанакіраваная праца па вывучэнні гісторыі і культуры Беларусі, яе мовы і спадчыны.

У практыку работы органаў і ўстаноў культуры ўваходзяць канцэптуальна новыя падыходы. Асабліва значная рэарганізацыя адбываецца сярод клубных устаноў. Іх тыпалогія складае зараз каля 40 назваў – ад вузкаспецыялізаваных да шматпрофільных (у 1996 г. у рэспубліцы працавала 4696 устаноў клубнага тыпу). Пакуль што найбольш цікавым застаецца асноўны напрамак дзейнасці культурна-асветніцкіх устаноў – развіццё самадзейнай творчасці.

Самадзейнае мастацтва Беларусі існуе пераважна ў арганізаваных (пры палацах і дамах культуры, палацах і дамах дзяцей і моладзі, навучальных установах і інш.), а таксама ў неарганізаваных (асобныя мастакі, скульптары, фота- і кінааматары) формах.

Сярод музычных калектываў найбольш вядомыя крупіцкі народны фальклорны інструментальны ансамбль "Крупіцкія музыкі", Груздаўскі народны цымбальны аркестр, Мінская народная оперная студыя і інш.

У галіне тэатральнага мастацтва плённа працавалі такія аматарскія калектывы, як Баранавіцкі народны тэатр, Краснапольскі народны тэатр, Слонімскі народны тэатр, мінскі народны тэатр пантамімы "Рух" і многія іншыя.

Самадзейнае харэаграфічнае мастацтва прадстаўлялі мінскі дзіцячы ансамбль танца "Равеснік", брэсцкі народны ансамбль танца "Радасць", гродзенскі народны ансамбль танца "Раніца", мінскі народны эстрадна-харэаграфічны ансамбль "Чараўніцы", пінскі народны ансамбль танца "Палессе" і інш. Вялікі ўклад у развіццё аматарскага харэаграфічнага мастацтва зрабілі К.Алексютовіч, М.Бяльзацкая, М.Кіракозаў, І.Серыкаў, Л.Барадулька, В.Ямінскі і інш.

Шырока вядомыя на Беларусі такія майстры самадзейнага выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, як Л.Трахалёва, В.Кандраценка, П.Гатоўка, Ф.Генкін, А.Пупко, У.Церабун, І.Супрунчык, С.Віха і інш.





Метадычную і практычную дапамогу самадзейнаму мастацтву аказваюць абласныя і раённыя цэнтры народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы. Лепшым самадзейным калектывам прысвойваецца ганаровае званне народных, дзіцячым – узорных. Традыцыйна праводзяцца фестывалі і агляды-конкурсы мастацкай самадзейнасці, выставы народнай творчасці. Вялікая ўвага надаецца захаванню фальклорнай спадчыны. У 1993 г. Рэспубліка Беларусь стала сябрам Міжнароднага савета па арганізацыі фестываляў фальклору і традыцыйных мастацтваў.

У апошнія гады з мэтай захавання народнага мастацтва і вывучэння народнай мастацкай спадчыны створаны Саюз майстроў народнай творчасці, Асацыяцыя фалькларыстаў.

У Рэспубліцы Беларусь распрацавана і ажыццяўляецца праграма развіцця нацыянальнай культуры. Аднак яе канчатковая рэалізацыя залежыць не толькі ад намаганняў дзеячаў культуры, але і ад вырашэння пытанняў у эканамічнай сферы, уздыму жыццёвага ўзроўню грамадзян краіны.

# ГЛАВА 4

# РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ У МІЖНАРОДНЫМ СУПОЛЬНІЦТВЕ. БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА

## § 1. Развіццё знешніх сувязей

У сярэдзіне 80-х гадоў міжнародная дзейнасць БССР развівалася ў рэчышчы знешнепалітычнай лініі СССР, скаардынаванай палітыкі краін — членаў Варшаўскага Дагавора і Савета Эканамічнай Узаемадапамогі. Пры гэтым улічваліся канкрэтныя рэаліі грамадска-палітычнага жыцця сусветнага супольніцтва. Разам з іншымі саюзнымі рэспублікамі Беларуская ССР імкнулася стварыць спрыяльныя знешнепалітычныя ўмовы для правядзення ўнутраных рэформ. Яна аднадушна падтрымала прапановы аб ядзерным раззбраенні, змяншэнні агульных узбраенняў і ваеннага супрацьстаяння, пашырэнні дыялогу і даверу паміж народамі, усталяванні трывалага і працяглага міру ў свеце. У 1986 г. была прынята праграма паэтапнай ліквідацыі ядзернай зброі да 2000 г. Разам з краінамі – удзельніцамі Варшаўскага Дагавора міжнароднаму супольніцтву была прапанавана канцэпцыя стварэння агульнаахопліваючай сістэмы міжнароднай бяспекі, якая прадугледжвала заключэнне дагавора аб поўнай і ўсебаковай забароне атамнай зброі, прыняцце канвенцыі аб

забароне хімічнай зброі і знішчэнні яе, скарачэнні ўзброеных сіл і звычайных узбраенняў у Еўропе.

У 1987 г. сацыялістычныя краіны – удзельніцы Варшаўскага Дагавора вызначылі новыя падыходы ў ваеннай дактрыне. Яны абвясцілі, што не пачнуць ваенных дзеянняў супраць іншай дзяржавы або саюза дзяржаў, калі самі не стануць аб'ектамі іх узброенага нападу; ніколі не прыменяць першымі ядзернай зброі, не будуць мець тэрытарыяльных прэтэнзій ні да адной краіны свету і не будуць лічыць іх сваімі ворагамі.

У другой палове 80-х гадоў пашыраўся палітычны дыялог паміж СССР і ЗША, які ахопліваў праблемы двухбаковых адносін і сусветнай палітыкі. Савецка-амерыканскія перамовы на вышэйшым узроўні адбыліся ў Жэневе (1985), Рэйк'явіку (1986), Вашынгтоне (1987), на востраве Мальта (1989). У выніку гэтых сустрэч былі вызначаны асноўныя стратэгічныя накірункі знешняй палітыкі абедзвюх дзяржаў свету, якія ў далейшым прывялі да кардынальных перамен як на Еўрапейскім кантыненце, так і ва ўсім міжнародным супольніцтве.

У 1989 г. была завершана вайна ў Афганістане. Ажыццяўляўся вывад савецкіх войск з краін Усходняй Еўропы і Манголіі, сярод якіх было шмат ваеннаслужачых-беларусаў. Краіна прызнала прыярытэт міжнароднага права, і перш за ўсё Дэкларацыю правоў чалавека, абавязалася прывесці ўсё ўнутранае заканадаўства ў адпаведнасць з міжнародным правам.

У канцы 80-х гадоў у сацыялістычных краінах Усходняй Еўропы адбыліся карэнныя змяненні ў дзяржаўным кіраўніцтве, унутранай і знешняй палітыцы. Была ліквідавана Берлінская сцяна, адбылося аб'яднанне Германіі, якая па колькасці насельніцтва і эканамічнаму патэнцыялу стала самай магутнай у Еўропе.

Значныя змены адбываліся і ў Савецкім Саюзе. У красавіку 1990 г. было прынята рашэнне аб размежаванні паўнамоцтваў паміж Саюзам ССР і "суб'ектамі федэрацыі", якое давала саюзным рэспублікам права ўступаць паміж сабой у эканамічнае супрацоўніцтва, наладжваць адносіны з замежнымі дзяржавамі, прымаць удзел у міжнародных арганізацыях. 12 чэрвеня 1990 г. Першы з'езд народных дэпутатаў РСФСР абвясціў аб дзяржаўным суверэнітэце Расійскай Федэрацыі, а 16 ліпеня 1990 г. такое ж рашэнне прыняў Вярхоўны Савет Украіны.

27 ліпеня 1990 г. Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. З гэтага моманту пачаў паслядоўна ажыццяўляцца курс на самастойнае развіццё Беларусі. 18 жніўня 1990 г. быў падпісаны Дагавор паміж РСФСР і БССР аб палітычным, эканамічным і культурным супрацоўніцтве. У снежні 1990 г. уступіў у дзеянне Дагавор аб асновах адносін паміж Украінай і Беларуссю. У пачатку 1991 г. Вярхоўны Савет БССР ратыфікаваў Дагавор аб супрацоўніцтве паміж Казахстанам і Беларуссю.





Усе гэтыя працэсы адбываліся ў межах тады яшчэ адзінай дзяржавы – СССР. Аднак абвяшчэнне суверэнітэту былымі саюзнымі рэспублікамі і заключэнне паміж імі міждзяржаўных дагавораў паглыблялі тэндэнцыю да развалу СССР.

17 сакавіка 1991 г. адбыўся Усесаюзны рэферэндум, які павінен быў вырашыць лёс Саюза ССР. На Беларусі за захаванне СССР прагаласавала 82,7 % агульнай колькасці выбаршчыкаў. Аднак, ігнаруючы волю сваіх народаў, кіраўнікі Беларусі, Расіі і Украіны на сустрэчы ў Белавежскай пушчы (у Віскулях) 8 снежня 1991 г. абвясцілі Дагавор 1922 г. аб утварэнні СССР страціўшым сілу і падпісалі пагадненне аб утварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД).

10 снежня 1991 г. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь ратыфікаваў пагадненне аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў і прыняў рашэнне аб дэнансацыі саюзнага дагавора ад 1922 г. Адпаведныя пастановы былі прыняты Вярхоўнымі Саветамі Расіі і Украіны. Працэс выхаду рэспублік са складу СССР і ўтварэння незалежных дзяржаў стаў гістарычным фактам.

У пагадненні абвяшчалася адкрытасць Садружнасці Незалежных Дзяржаў і магчымасць далучэння да яе іншых краін. У 1992–1994 гг. у СНД увайшлі ўсе былыя саюзныя рэспублікі (акрамя краін Прыбалтыкі), быў створаны Савет Бяспекі СНД. Пасля ліквідацыі СССР, утварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў пачалося прызнанне Рэспублікі Беларусь як суверэннай дзяржавы. У сталіцы Беларусі адкрыла свае пасольствы і прадстаўніцтвы 21 дзяржава. Беларускія пасольствы працавалі ў Расіі, на Украіне, ЗША, Германіі, Кітаі, Францыі, Аўстрыі, Швейцарыі, Ізраілі, Польшчы, Літве, консульствы ў Італіі, Англіі, Канадзе і іншых краінах. У 1996 г. на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі 30 пасольстваў, консульстваў і генконсульстваў, а 47 акрэдытаваны па сумяшчальніцтву.

Рэспубліка Беларусь ажыццяўляла працэс дагаворнага зацвярджэння граніц з сумежнымі дзяржавамі. Уступіў у дзеянне Дагавор аб добрасуседстве і супрацоўніцтве з Польшчай. У артыкуле 2 гэтага дагавора запісана: "Дагаворныя бакі пацвярджаюць існуючую паміж імі граніцу, лічаць гэту граніцу непарушнай і заяўляюць аб тым, што не маюць і не будуць мець у будучым адзін да аднаго ніякіх тэрытарыяльных прэтэнзій". Падпісаны і дзейнічаюць дагаворы аб дзяржаўнай граніцы з Латвіяй і Літвой. У Беларусі няма тэрытарыяльных спрэчак з Расіяй і Украінай.

26 лютага 1992 г. Рэспубліка Беларусь падпісала Хельсінкскі Заключны акт. З гэтага моманту яна не толькі стала раўнапраўным удзельнікам хельсінкскага працэсу, але і нясе з іншымі дзяржавамі адказнасць за развіццё супрацоўніцтва паміж краінамі, за захаванне міру і бяспекі ў гэтым рэгіёне.

Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 г. вызначыла асноўныя напрамкі знешняй палітыкі суверэннай дзяржавы. У артыкуле 18 запісана: "Рэспубліка Беларусь у сваёй дзяржаўнай палітыцы

56. Зак. 5565

выходзіць з прынцыпу роўнасці дзяржаў, непрымянення сілы або пагрозы сілай, непарушнасці межаў, мірнага ўрэгулявання спрэчак, неўмяшання ва ўнутраныя справы і іншых агульнапрызнаных прынцыпаў і норм міжнароднага права". Канстытуцыя замацавала галоўныя прынцыпы знешнепалітычнай дзейнасці: захаванне міру і бяспекі паміж народамі, развіццё шырокага супрацоўніцтва паміж імі, стварэнне спрыяльных знешніх умоў для творчай працы беларускага грамадства. На ўсёй тэрыторыі рэспублікі забараняецца прапаганда вайны і насілля.

Ад былога СССР Рэспубліцы Беларусь засталася складаная спадчына: вялікая колькасць войск і ўзбраенняў на яе тэрыторыі. У 1991 г. тут было размешчана прыкладна 200 тыс. чалавек асабовага саставу, каля 3500 танкаў, 4000 баявых машын і г.д. У 1992 г. на 1 тыс. цывільнага насельніцтва прыпадала ў 3 разы больш салдат і афіцэраў, чым у сярэднім на тэрыторыі былога СССР.

Далучэннем да Дагавора аб скарачэнні войск у Еўропе Беларусь абавязвалася тэрмінова зменшыць агульныя ўзбраенні. У 1992 г. Беларусь вывела са сваёй тэрыторыі тактычную ядзерную зброю, нягледзячы на тое, што стратэгічныя і тактычныя ядзерныя ракеты ЗША і блока НАТА заставаліся нацэленымі на яе. Толькі ў чэрвені 1994 г. афіцыйныя колы ЗША інфармавалі аб перанацэленасці іх ракет.

Як бачым, Беларусь першай з былых саюзных рэспублік, на тэрыторыі якіх размяшчалася стратэгічная ядзерная зброя, адмовілася ад прэстыжу ядзернай дзяржавы.

Умацаванню міру і бяспекі ў Еўропе спрыяла прапанова прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі ад 3 ліпеня 1996 г. аб стварэнні ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе бяз'ядзернай прасторы. Мяркуецца, што яе ўдзельнікамі могуць стаць Беларусь, краіны Балтыі, Украіна, Польшча, Славакія, а таксама Югаславія, Харватыя, Аўстрыя.

Адстойваючы справу міру, рэспубліка наладжвае дружалюбныя адносіны з краінамі свету. У сакавіку 1994 г. адбыўся візіт прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі Б.Клінтана ў Беларусь. Рэспубліку Беларусь наведала таксама прадстаўнічая ваенная дэлегацыя ЗША на чале з міністрам абароны У. Перы. Абмяркоўваліся пытанні выканання рэспублікай сваіх абавязкаў па раззбраенні і дапамогі Беларусі ў гэтай справе з боку краін Захаду. Разглядаліся таксама пытанні аб далучэнні Беларусі да праграмы НАТА "Партнёрства ў імя міру" і атрымання часткі грашовых сродкаў за уран, які будзе прадаваць Расія ЗША з ракет, дэманціраваных на Беларусі.

Развіццю і паглыбленню замежных сувязей спрыялі афіцыйныя візіты прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у ЗША, Германію, Кітай, Францыю, Турцыю і іншыя краіны. Падчас перагавораў з кіраўнікамі дзяржаў, урадаў, парламентарыямі, фінансава-дзелавымі коламі абмяркоўваліся актуальныя праблемы супрацоўніцтва ў галіне эканомікі, у барацьбе са злачыннасцю, тэрарызмам, пераадоленні вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і інш. У ходзе візітаў былі





заключаны дагаворы і пагадненні аб дружбе і супрацоўніцтве, інвестыцыях у эканоміку, сумесных прадпрыемствах, рэканструкцыі шэрага радыёэлектронных і нафтаперапрацоўчых заводаў, развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці.

На пачатак 1991 г. (апошняга года існавання СССР) у агульнасаюзнай вытворчасці доля Беларусі складала больш за 20 % трактароў, 34 – кормаўборачных камбайнаў, каля 19 – мінеральных тукаў, 30 – хімічных валокнаў, 10–15 – радыёпрыбораў, халадзільнікаў, веласіпедаў, 6–7 – мяса і малака, больш за 20 – ільновалакна, 15 % – бульбы. Амаль палова выраблёнай прадукцыі вывозілася за межы рэспублікі, у тым ліку 75 % прадукцыі хімічнай і нафтахімічнай, 66 – машынабудавання, 35 — лёгкай, 20 % — харчовай прамысловасці. Адначасова Беларусь увозіла поўнасцю прыродны газ, каменны вугаль, стальныя трубы, пракат чорных металаў, бавоўну, амаль усю нафту, іншыя матэрыялы.

Развал Саюза ССР, ліквідацыя адзінай эканамічнай прасторы, рост сацыяльнай напружанасці, катастрафічнае паглыбленне эканамічнага крызісу, змяншэнне аб'ёмаў вытворчасці і жыццёвага ўзроўню насельніцтва прымусілі Беларусь, як і іншыя былыя саюзныя рэспублікі, шукаць выйсце з цяжкага становішча. Беларусь пачала заключаць двухбаковыя пагадненні перш за ўсё з краінамі СНД – Расіяй, Украінай, Казахстанам і Прыбалтыйскімі дзяржавамі.

Асаблівае значэнне надавала Беларусь усталяванню адносін з Расіяй. У час афіцыйнага візіту прэзідэнта Расіі Б.Ельцына ў Беларусь (люты 1995 г.) быў падпісаны Дагавор аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве. На яго аснове былі заключаны пагадненні аб мытным саюзе, сумесных намаганнях у ахове дзяржаўнай граніцы, стварэнні беларуска-расійскіх фінансава-прамысловых груп, парадку завяршэння будаўніцтва, выкарыстання і ўтрымання вузла Баранавічы (сістэма папярэджання аб ракетным нападзе), выкарыстанні радыёстанцыі Вілейка і інш.

29 сакавіка 1996 г. быў падпісаны дагавор аб паглыбленні эканамічнай інтэграцыі чатырох краін — Беларусі, Расіі, Казахстана і Кіргізіі. 2 красавіка 1996 г. быў падпісаны дагавор аб Супольнасці суверэнных дзяржаў – Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі. Дагавор забяспечыў грамадзянам абедзвюх краін роўныя правы ў атрыманні адукацыі, ахове здароўя, працаўладкаванні, аплаце працы, заканадаўстве і г.д. Быў створаны Вышэйшы савет Супольнасці, яго старшынёй абраны прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка.

Важным крокам на шляху далейшага паглыблення інтэграцыі дзвюх краін стала падпісанне 2 красавіка 1997 г. у Маскве Дагавора аб Саюзе Беларусі і Расіі. Яго неад'емнай часткай стаў распрацаваны і вынесены на ўсенароднае абмеркаванне Статут Саюза Беларусі і Расіі. Больш за 80 % грамадзян падтрымалі курс на далейшую інтэграцыю дзвюх краін.

Дзяржаўныя камісіі, створаныя ў Беларусі і Расіі, абагульнілі заўвагі, прапановы і пажаданні, якія былі выказаны ў ходзе ўсенароднага абмеркавання Статута, і накіравалі іх прэзідэнтам сваіх краін. 23 мая 1997 г. пасля таго як прэзідэнты Беларусі і Расіі на сустрэчы ў Маскве канчаткова ўзгаднілі свае пазіцыі, Статут быў імі падпісаны і ўступіў у дзеянне. Галоўнымі мэтамі Саюза Беларусі і Расіі з'яўляюцца далейшае ўмацаванне дружбы, братэрства і ўсебаковага супрацоўніцтва паміж дзвюма дзяржавамі ў палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай, ваеннай, навуковай, культурнай і іншых галінах. Статутам прадугледжваецца таксама забеспячэнне ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі і Расіі, іх бяспекі, высокай абараназдольнасці, узаемавыгаднага супрацоўніцтва з краінамі Еўропы і свету.

Важнае месца ў пашырэнні знешнеэканамічных адносін мела стварэнне з замежнымі партнёрамі сумесных прадпрыемстваў. У 1992 г. іх налічвалася 716, у 1996 г. — каля 2 тыс. Калі ў 1992 г. агульны аб'ём вытворчасці прадукцыі, работ і паслуг сумесных прадпрыемстваў склаў 14 млрд р., то ў 1995 г. — 2461,8 млрд р.

Побач з сумеснымі прадпрыемствамі на тэрыторыі рэспублікі дзейнічалі фірмы, заснаваныя на сродкі толькі замежных дзяржаў. Агульная колькасць іх складала ў 1992 г. 116, у 1996 г. – каля 1 тыс. фірм. Агульны аб'ём вытворчасці іх прадукцыі і паслуг склаў у 1993 г. 11, 8 млрд р., у 1995 г. — 583,3 млрд р.

Свой уклад у наладжванне эканамічнага супрацоўніцтва з замежнымі фірмамі ўносілі такія новыя для рэспублікі структуры, як Саюз прадпрымальнікаў, Беларускі фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў, асацыяцыя дзелавога супрацоўніцтва "Гранат", акцыянернае таварыства прадпрымальніцтва "Цэнтр XXI стагоддзя" і інш. Яны праводзілі разнастайныя мерапрыемствы, дзелавыя сустрэчы, выстаўкі і г.д.

Адным з перспектыўных накірункаў развіцця міжнароднага супрацоўніцтва з'яўлялася арганізацыя будаўнічых работ на Беларусі. У рэспубліцы працуюць будаўнічыя фірмы Германіі, Турцыі, Швейцарыі, Італіі і іншых краін. З іх удзелам будавалася жыллё для ваеннаслужачых. якія пакінулі Германію, аб'екты прамысловага і медыцынскага прызначэння.

Наладжвалася супрацоўніцтва рэспублікі з міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі. Аднак, ажыццяўляючы міжнародную дзейнасць, Беларусь сутыкнулася са шматлікімі цяжкасцямі. У 1991–1996 гг. яна перажывала глыбокі эканамічны крызіс. З аднаго боку, скараціўся расійскі рынак для беларускай прадукцыі, з другога — скараціліся пастаўкі камплектуючых і сыравіны з краін блізкага замежжа. Так, Узбекістан у 1993 г. выканаў пастаўкі бавоўны толькі на 59,7 %, што прымусіла шэраг прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці рэспублікі спыніць работу.

Асабліва крытычнае становішча склалася ў эканоміцы рэспублікі ў сувязі са скарачэннем паставак і катастрафічна растучымі цэнамі





на энергапаліўныя рэсурсы з Расіі. У 1993 г. на Беларусь было пастаўлена 11,8 млн т нафты, што склала 59,7 % да 1992 г., электраэнергіі – 6,1 млн кВт·гадз., ці 61,9 % да 1992 г.

Узраставў знешні дзяржаўны доўг Рэспублікі Беларусь. На 1 красавіка 1994 г. ён склаў 1288,5 млн дол. Пастановай Вярхоўнага Савета рэспублікі ад 26 лютага 1994 г. устаноўлены ліміт (г.зн. максімальна магчымая сума доўгу) у памеры 2 млрд дол. ЗША. З улікам гэтага знешні доўг рэспублікі склаў 29 % ад валавога нацыянальнага прадукту.

Адсутнасць неабходнага дзяржаўнага кантролю за дзейнасцю мытняў, суб'ектаў гаспадарання, прыватных структур прывяла да таго, што з рэспублікі ў далёкае і блізкае замежжа вывозіліся грашовыя сродкі, паліўна-энергетычная сыравіна, каляровыя металы і іншыя востра неабходныя дзяржаве матэрыялы.

Рэспубліка Беларусь з'яўляецца ўдзельніцай шматлікіх сусветных арганізацый і, паводле міжнародных правіл, павінна ўносіць сродкі ў іх бюджэт. У 1994 г. у зацверджаным урадам бюджэце яны склалі: у міжнародныя фінансавыя органы — 4 млн дол., на ўтрыманне ААН і іншых міжнародных арганізацый — 11,8, на адкрыццё і ўтрыманне пасольстваў, розных замежных устаноў — 10,1 млн дол. Акрамя гэтага, рэспубліка часткова фінансавала арганізацыйнае і тэхнічнае забеспячэнне дзейнасці Міжпарламенцкай Асамблеі дзяржаў – удзельніц СНД.

Скарачаліся экспартныя пастаўкі беларускай прадукцыі, аб чым сведчыць табл. 1.

*Табліца 1*

**Экспарт асноўных тавараў з Рэспублікі Беларусь**

| Вырабы, шт. | 1992 г. | 1995 г. |
|---|---|---|
| Грузавыя аўтамабілі | 24 684 | 10 000 |
| Трактары | 82 000 | 26 000 |
| Металарэзныя станкі | 163 000 | 4 000 |
| Матацыклы | 130 000 | 35 000 |
| Веласіпеды | 459 600 | 163 000 |
| Тэлевізары | 447 100 | 166 000 |
| Халадзільнікі | 498 500 | 505 000 |
| Калійныя ўгнаенні, тыс. т | 1 275 700 | 2 593 |

Скарачэнне экспартных паставак з Беларусі было абумоўлена разрывам эканамічных сувязей з партнёрамі пасля распаду СССР, нежаданнем замежных краін уступаць рынкі збыту сваіх тавараў, іх імкненнем ператварыць нашу краіну ў свой аграрна-сыравінны прыдатак і інш.

У той жа час у 1995 г. рэспубліка купіла прыроднага газу 14 млрд куб. м (100 %), вугалю 1240 тыс. т (100 %), легкавых аўтамабіляў

57. Зак. 5565

37 тыс. (100 %), натуральнага каўчуку 5 тыс. т. (100 %), раслiннага масла 170 тыс. т (96 %), нафты 11 млн т (86,9 %), пракату чорных металаў 562 тыс. т (80, 7%).

У далейшым аб'ём знешняга гандлю Беларусі з замежнымі краінамі пашыраўся. За студзень – ліпень 1997 г. ён склаў у бягучых цэнах 8218,2 млн дол. ЗША. Асноўнымі гандлёвымі партнёрамі рэспублікі з'яўляліся: Расія – 55,7 % ад агульнага аб'ёму таваразвароту, Украіна – 9,8, Германія – 6, Польшча – 3,2, Літва – 2,2, ЗША – 1,6, Італія – 1,5 %.

Беларусь ажыццяўляе навукова-тэхнічныя і культурныя сувязі з замежнымі краінамі. У міжнародным навуковым супрацоўніцтве ўдзельнічаюць вучоныя акадэмічных і галіновых навукова-даследчых, вышэйшых навучальных устаноў. У 1993 г. вучоныя Акадэміі навук Беларусі разам з замежнымі супрацоўнікамі ажыццяўлялі даследаванні больш як па 150 праблемах і асобных тэмах. У іх распрацоўцы прынялі ўдзел 36 акадэмічных інстытутаў і каля 160 навукова-даследчых арганізацый з 24 замежных краін, у тым ліку з ЗША, Германіі, Францыі, Англіі, Польшчы, Італіі, Кітая, Японіі і інш. Вышэйшыя навучальныя ўстановы, навукова-даследчыя інстытуты, прадпрыемствы і фірмы накіроўваюць сваіх спецыялістаў у замежныя камандзіроўкі. Беларускі дзяржаўны універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі ў 1992–1997 гг. меў дзелавыя сувязі з навучальнымі ўстановамі 15 замежных краін свету. За гэты час яго наведалі каля 100 дэлегацый з ЗША, Англіі, Германіі, Францыі, Італіі, Кітая, Паўднёвай Карэі, Галандыі, Нарвегіі, Фінляндыі і інш. Больш за 400 супрацоўнікаў і студэнтаў універсітэта выязджалі ў гэтыя краіны.

Важным накірункам на шляху ўзаемаразумення і збліжэння народаў свету з'яўляюцца кантакты і ўзаемаабмен дасягненнямі ў галіне літаратуры, мастацтва, фізкультуры і спорту. Карыстаюцца папулярнасцю ў замежных краінах творы Я.Купалы, Я.Коласа, М.Танка, І.Шамякіна і іншых беларускіх пісьменнікаў. Замежным гледачам добра знаёмы выступленні Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларусі, Дзяржаўнага ансамбля танца, Беларускага народнага хору, вакальна-інструментальных ансамбляў "Песняры", "Верасы" і іншых калектываў. Сваё майстэрства перад замежнымі гледачамі дэманстравалі ансамблі "Белыя Росы", "Харошкі", "Купалінка", "Свята", "Забава" і інш. Неаднаразова дэманстраваліся на міжнародных выставах выяўленчага мастацтва работы З.Азгура, А.Бембеля, М.Савіцкага і іншых майстроў.

Важную ролю ў павышэнні аўтарытэту рэспублікі на міжнароднай арэне адыграла ратыфікацыя ёю ў 1993 г. пратакола да Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Гэта дае магчымасць кожнаму грамадзяніну прасіць абароны ў міжнароднага супольніцтва праз Камітэт ААН па правах чалавека. Раней такога юрыдычнага права не існавала.





Беларусь ратыфікавала Міжнародную канвенцыю аб правах дзіцяці і на гэтай аснове распрацавала і прыняла закон. У 1994 г. Рэспубліка Беларусь выбрана ў Праўленне дзіцячага фонду ААН (ЮНІСЕФ), які праводзіць рознабаковую дзейнасць у падтрымку дзяцей і маці ва ўсіх краінах свету. Беларусь далучылася да Гаагскіх канвенцый міжнароднага супрацоўніцтва па ўсынаўленні дзяцей і іх абароне ад выкрадання.

Значнай падзеяй у міжнародным жыцці рэспублікі з'явілася святкаванне 50-годдзя з дня вызвалення яе ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (ліпень 1994 г.). Як у рэспубліцы, так і за яе межамі праводзіліся разнастайныя мерапрыемствы, прысвечаныя гэтай падзеі. У пасольствах Рэспублікі Беларусь, у краінах СНД і Прыбалтыкі адбыліся сустрэчы з ветэранамі вайны, партызанамі і падпольшчыкамі – удзельнікамі вызвалення рэспублікі ад нямецкіх захопнікаў. Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел дэлегацыі Расійскай Федэрацыі, Азербайджана, Кыргызстана, Літвы, Арменіі, Грузіі, Казахстана, Малдовы, Таджыкістана, Узбекістана, Туркменістана і Украіны. Удзельнічалі ў святкаванні таксама дэлегацыі замежных гарадоў-пабрацімаў: Бона (ФРГ), Ліёна (Францыя), Лодзі (Рэспубліка Польшча), Ноттынгема (Англія), Чанчуня (КНР), ветэраны 1-й польскай пяхотнай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі, авіяпалка "Нармандыя–Нёман", ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, якія жывуць у Ізраілі і Злучаных Штатах Амерыкі.

Па сумеснай дамоўленасці Германскай і Беларускай дзяржаў у аб'яднанай Германіі створаны фонд "Узаемаразуменне і прымірэнне". З яго рахунку выдзяляліся мізэрныя сродкі адначасовай дапамогі – кампенсацыі ахвярам нацыянал-сацыялісцкіх злачынстваў: былым вязням канцлагераў, гета, турмаў.

Адным з напрамкаў міжнароднай дзейнасці Беларусі з'яўлялася вырашэнне праблемы экалагічнай бяспекі. Яна была выклікана шэрагам прычын: забруджваннем навакольнага асяроддзя прамысловымі адыходамі, дэградацыяй прыроднага асяроддзя ў выніку гаспадарчай дзейнасці чалавека, эрозіяй і затапленнем вадой урадлівых глеб. Асаблівую небяспеку ўяўляла трагедыя, звязаная з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС, якая адбылася 26 красавіка 1986 г. На тэрыторыю Беларусі прыпала 70 % усяго радыеактыўнага забруджвання. У гэтай зоне апынулася адна трэцяя плошчы рэспублікі, на якой пражывала пятая частка насельніцтва — больш за 2 млн 200 тыс. чалавек. У крытычным стане апынулася 20 % лясоў, 73 рэспубліканскія і 162 мясцовыя заказнікі, 336 помнікаў прыроды. Сярод іх Белавежская і Налібоцкая пушчы, Бярэзінскі і Прыпяцкі запаведнікі і інш.

Нягледзячы на занепакоенасць грамадскасці свету, тагачасныя кіраўнікі СССР і БССР больш за два гады ўтойвалі ад насельніцтва рэспублікі і замежных краін усю трагедыю становішча. Толькі сумеснымі намаганнямі сумленных прадстаўнікоў беларускай

грамадскасці, урадаў шэрага замежных дзяржаў кіраўнікі СССР і БССР вымушаны былі адкрыць “жалезную заслону” гэтай трагедыі.

У 1990 г. урад рэспублікі звярнуўся за дапамогай да сусветнага супольніцтва. У гэтым жа годзе тэрыторыя Беларусі была абвешчана зонай экалагічнага бедства і быў створаны Экалагічны саюз рэспублікі. Ён каардынаваў дзейнасць 18 рэгіянальных аддзяленняў і разам з міжнароднымі арганізацыямі ажыццяўляў мерапрыемствы па ахове навакольнага асяроддзя. 13 ліпеня 1990 г. ААН прыняла рашэнне аб дапамозе Беларусі ў сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. З 1994 г. Міжнародная арганізацыя аховы здароўя ажыццяўляе на тэрыторыі рэспублікі міжнародны праект “Шчытападобная залоза”. У ходзе яго рэалізацыі беларускія вучоныя і спецыялісты-медыкі сумесна з даследчыкамі краін СНД, Цэнтра раку шчытападобнай залозы ў г.Нагасакі, універсітэтаў і клінік Францыі, Вялікабрытаніі, Германіі, Італіі, Швецыі і Японіі праводзяць даследаванні ролі радыяцыі і іншых фактараў у развіцці захворванняў шчытападобнай залозы, вывучаюць эфектыўнасць лячэння і прафілактыкі гэтых захворванняў. У красавіку 1994 г. у Мінску праходзіў Другі міжнародны кангрэс “Свет пасля Чарнобыля”, арганізаваны Беларускім дабрачынным фондам “Дзецям Чарнобыля” разам з дабрачыннымі арганізацыямі СНД, краін Еўропы, Азіі, Амерыкі.

Паміж урадамі Беларусі і Японіі быў заключаны Дагавор аб супрацоўніцтве і ліквідацыі вынікаў аварыі ў Чарнобылі. Японія пастаўляла медыкаменты, медыцынскае абсталяванне, аказвала іншую гуманітарную дапамогу. Японскі рух дапамогі Чарнобылю разам з сацыяльна-экалагічным саюзам “Чарнобыль” на базе беларускага алімпійскага спорткомплексу “Стайкі” стварыў маладзёжны аздараўленчы цэнтр “КЮСЮ-на-Свіслачы”. У ім праводзіліся аздараўленне і прафілактычная дыягностыка дзяцей школьнага ўзросту, а таксама асобных падлеткаў, накіраваных лячэбнымі ўстановамі.

Значную дапамогу Беларусі аказвалі грамадскія арганізацыі Германіі. На беразе Вілейскага вадасховішча сумеснымі намаганнямі быў пабудаваны цэнтр сацыяльна-псіхалагічнай і медыцынскай рэабілітацыі чарнобыльскіх дзяцей і падлеткаў. Штогод для аздараўлення ў Германію, Італію, Англію і іншыя краіны выязджаюць дзеці з Беларусі.

Дапамогу Рэспубліцы Беларусь у ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС аказвала ААН. Гэта праблема разглядалася на XLVI–XLVIII сесіях Генеральнай Асамблеі ААН. Апошняя з іх прыняла рэзалюцыю, у адпаведнасці з якой праблема Чарнобыля захоўвалася на парадку дня XLIX–L сесій ААН. Пэўную дапамогу аказваў і Камітэт ААН па прамысловым развіцці, які ажыццяўляў праект “Агляд стану прамысловасці ў раёнах Рэспублікі Беларусь, пацярпеўшых у выніку чарнобыльскай катастрофы”.

У маі 1994 г. пад патранатам ЮНЕСКА ў Іспаніі адбыўся міжнародны семінар-кангрэс “Дзеці Чарнобыля”.





Разам з тым з кожным годам пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС многія дзяржавы страчвалі інтарэс да гэтай праблемы. Беларускі народ атрымліваў галоўным чынам дабрачынную дапамогу ад грамадскіх арганізацый і грамадзян. Кіруючыя колы замежных краін на дзяржаўным узроўні далучацца да гэтай праблемы не спяшаліся. Тлумачылася гэта шэрагам абставін.

*Па-першае*, кіраўніцтва былога СССР утойвала сапраўдныя вынікі трагедыі, запэўнівала заходнія дзяржавы ў тым, што сваімі намаганнямі ў кароткі тэрмін краіна выправіць становішча. *Па-другое*, у кожнай дзяржаве ёсць свае складаныя нявырашаныя сацыяльна-эканамічныя праблемы, якія патрабуюць не малых сродкаў. *Па-трэцяе*, адыграла сваю ролю палітыка міжнароднай арганізацыі МАГАТЭ. Яна прыкладала ўсе намаганні, каб утойваць ад сусветнай грамадскасці маштабы трагедыі на Чарнобыльскай АЭС, адначасова прымала захады па пашырэнні будаўніцтва новых атамных рэактараў.

На сесіях Генеральнай Асамблеі ААН шэраг вядучых краін Захаду, каб пазбавіцца ад чарнобыльскай праблемы, ставілі пытанні аб зняцці яе са статусу міжнароднай і пераводзе ў рэгіянальную. У такім выпадку Беларусь павінна была самастойна вырашаць гэту праблему. Яна пазбаўлялася дапамогі міжнароднага супольніцтва, і ў першую чаргу Японіі, адзінай краіны ў свеце, якая мае вопыт ліквідацыі вынікаў радыеактыўнага забруджвання.

Надзею на дапамогу даў візіт у Беларусь Генеральнага сакратара ААН Бутраса Галі. Яму былі перададзены чатыры праекты ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС. Б.Галі азнаёміўся са становішчам на месцы і абяцаў беларускаму народу ўзяць пад асабісты кантроль ажыццяўленне гэтых праектаў, знайсці пазабюджэтныя крыніцы іх фінансавання. Аднак гэта дапамога была нязначнай.

Знаходзячыся на скрыжаванні шляхоў паміж Усходам і Захадам, Поўначчу і Поўднем, Беларусь надае ўвагу развіццю аўтамабільных, чыгуначных, водных, паветраных шляхоў зносін. У 1994 г. у рэспубліцы працавала пяць авіякампаній: “Белавія”, “Трансавіяэкспарт”, “Белэйр”, “Вінгс”, “Ахмос-1”. Усе яны з’яўляюцца членамі сусветных арганізацый грамадзянскай авіяцыі ІКАО і МАК. Самалёты пад дзяржаўным сцягам Рэспублікі Беларусь лётаюць у паветраных прасторах Еўропы, Азіі, Афрыкі. Заключаны міжурадавыя пагадненні аб паветраных зносінах з Польшчай, Швейцарыяй, Ірландыяй, Аўстрыяй, існуюць пагадненні аб супрацоўніцтве ў галіне паветранага транспарту з Расіяй. Падпісаны таксама пратаколы аб паветраных зносінах з Украінай і Кітаем. Парафіраваны пагадненні з Ізраілем, Кіпрам, Турцыяй, Сірыяй, Даніяй, Швецыяй, Нарвегіяй, Германіяй.

Праз Рэспубліку Беларусь праходзіць прамы чыгуначны шлях з Усходу на Захад, які звязвае краіны СНД з заходнееўрапейскімі дзяржавамі. Урад Рэспублікі Беларусь падпісаў крэдытнае пагаднен-

Зак. 5565

не з Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця аб правядзенні доўгатэрміновай праграмы мадэрнізацыі чыгункі Брэст–Мінск–граніца Расіі. У выніку яе па лініі Масква–Мінск–Брэст–Варшава–Берлін будзе наладжаны скарасны, а затым звышскарасны пасажырскі рух. Плануецца будаўніцтва хуткаснай аўтастрады ў паўднёвай частцы рэспублікі, якая звяжа Брэст і Гомель і будзе ажыццяўляць аўтамабільныя перавозкі грузаў з Заходняй Еўропы ва ўсходнія і азіяцкія краіны свету.

Акрамя раней пракладзеных праз тэрыторыю Беларусі нафта- і газаправодаў у шэраг буйнейшых еўрапейскіх краін будуюцца новыя. У 1993 г. пачалася пракладка сеткі газаправода "Ямал–Заходняя Еўропа". Пуск у дзеянне яе прадугледжваецца да канца двухтысячнага года.

Такім чынам, Рэспубліка Беларусь як член ААН уносіць свой уклад у раззбраенне, змяншэнне міжнароднай напружанасці і захаванне міру. Яна пашырае эканамічныя і культурныя зносіны з іншымі дзяржавамі, аднаўляе і паглыбляе новыя сувязі з краінамі як блізкага, так і далёкага замежжа. Абвясціўшы аб нейтралітэце і бяз'ядзернай зоне, Рэспубліка Беларусь паказвае дзяржавам міжнароднага супольніцтва добрасумленнасць і адказнасць у выкананні сваіх абавязацельстваў. Пераадольваючы крызісныя з'явы ў эканоміцы, яна прыкладае ўсе намаганні ў вырашэнні праблем чарнобыльскай трагедыі, якія хвалююць усё сусветнае грамадства.

## § 2. Беларуская дыяспара

Радыкальныя сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні, працэсы дэмакратызацыі, нацыянальнага і культурнага адраджэння аказалі ўплыў на міграцыйныя працэсы, фарміраванне новай дзяржаўнай палітыкі адносна беларускай дыяспары[1].

[1] Слова "дыяспара" паходзіць ад грэчаскага "diaspora", што азначае рассяленне, пражыванне значнай часткі этнасу па-за межамі этнічнай тэрыторыі. Ва ўсе часы па розных прычынах насельніцтва беларускіх зямель перасялялася ў іншыя краіны. Першая хваля масавай эміграцыі з Беларусі адбылася на мяжы XIX і XX стст. Развіццё капіталізму, расслаенне і абеззямельванне сялянства, аграрная перанаселенасць, збядненне дробных вытворцаў абумовілі масавы выезд сялян за межы Беларусі. Першая сусветная вайна, Лютаўская і Кастрычніцкая рэвалюцыі, нямецкая, а затым польская акупацыя Беларусі ў 1918–1920 гг. абумовілі новую хвалю эміграцыі. У міжваенны перыяд асабліва значнай была эміграцыя насельніцтва з Заходняй Беларусі як вынік цяжкага сацыяльна-эканамічнага становішча працоўных, нацыянальнага і рэлігійнага націску ў складзе Польшчы. Шмат жыхароў Беларусі апынулася па-за межамі рэспублікі ў гады другой сусветнай вайны. Каля 1,5 млн чалавек былі эвакуіраваны на ўсход СССР, і далёка не ўсе яны вярнуліся ў рэспубліку. Амаль 380 тыс. жыхароў Беларусі былі прымусова вывезены на працу ў Германію. Многія тысячы беларусаў аказаліся за мяжой ў ліку савецкіх ваеннапалонных. Пакінулі Радзіму і члены многіх беларускіх палітычных арганізацый, устаноў і ваенных





Па перапісу 1989 г., 2 млн 131 тыс., або кожны пяты беларус, пражывалі ў іншых рэспубліках былога СССР.

Пасля распаду СССР на тэрыторыях былых саюзных рэспублік пачалася хваля ўнутранай міграцыі, якая пераўтварылася ў знешнюю, міжнародную. Згодна з афіцыйнымі звесткамі з 1990 па 1995 г., агульная колькасць грамадзян, якія па розных прычынах пераехалі ў Беларусь з іншых рэгіёнаў былога СССР, склала 482 тыс. чалавек, з іх з Расіі – 277 350, Украіны – 74 682, Казахстана – 26 500, Латвіі – 25 676, Літвы – 17 215 чалавек. Адначасова значная колькасць жыхароў Беларусі выбыла ў былыя саюзныя рэспублікі. Аб гэтым сведчыць табл. 2. (Республика Беларусь в цифрах. 1995: Краткий сборник. Мн., 1996. С. 34–35).

*Табліца 2*

**Колькасць выбыўшых з Беларусі ў краіны блізкага замежжа за перыяд з 1990 па 1995 г.**

| Краіна | Год | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1990 | 1991 | 1992 | 1993 | 1994 | 1995 |
| Азербайджан | 843 | 575 | 313 | 218 | 134 | 73 |
| Арменія | 301 | 245 | 173 | 106 | 68 | 78 |
| Казахстан | 2914 | 2324 | 1414 | 1202 | 626 | 450 |
| Кыргызстан | 292 | 205 | 144 | 96 | 106 | 83 |
| Малдова | 862 | 569 | 607 | 512 | 359 | 230 |
| Расія | 73 149 | 39 987 | 32 920 | 33 624 | 39 268 | 20 610 |
| Таджыкістан | 280 | 292 | 115 | 132 | 88 | 45 |
| Туркменістан | 392 | 319 | 218 | 178 | 136 | 44 |
| Узбекістан | 1511 | 838 | 551 | 485 | 248 | 157 |
| Украіна | 21 762 | 13 367 | 12 700 | 9033 | 5811 | 3766 |
| Грузія | 521 | 413 | 212 | 163 | 124 | 71 |
| Латвія | 1345 | 909 | 543 | 418 | 265 | 137 |
| Літва | 1461 | 1258 | 814 | 634 | 466 | 330 |
| Эстонія | 283 | 219 | 113 | 88 | 47 | 28 |

фарміраванняў, якія былі створаны фашыстамі на акупіраванай тэрыторыі. У пасляваенныя гады сотні тысяч грамадзян Беларусі апынуліся за мяжой бацькаўшчыны пасля далучэння Беласточчыны да Польшчы (1945) і падчас узаемнай рэпатрыяцыі палякаў з Беларусі ў Польшчу і беларусаў з Польшчы ў Беларусь, у выніку прымусовых высяленняў, асабліва з Заходняй Беларусі ў іншыя рэгіёны СССР.

Характэрнай асаблівасцю пасляваеннай беларускай эміграцыі было тое, што яна заявіла аб сабе як самастойнай этнічнай супольнасці ў замежжы, стварыўшы свае нацыянальныя асяродкі, рэлігійныя, культурныя арганізацыі, навуковыя цэнтры, сродкі інфармацыі. У пасляваенны перыяд значна павялічыўся адток насельніцтва Беларусі ў іншыя рэгіёны Саюза. Гэта арганізаваная вярбоўка працоўных рэсурсаў на новабудоўлі, асваенне цалінных зямель у Казахстане і прыродных рэсурсаў Сібіры і Поўначы, планавае размеркаванне выпускнікоў навучальных устаноў, добраахвотныя індывідуальныя перасяленні. У другой палове 80-х гадоў былі зроблены першыя крокі па ўсталяванні цесных сувязей з суайчыннікамі за мяжой, фарміраванні новай дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да беларускага замежжа.

Статыстыка сведчыць, што ўжо з пачатку 80-х гадоў у Беларусь стала прыбываць з былых саюзных рэспублік больш мігрантаў, чым выбываць. Так, у 1995 г. у Беларусь з Азербайджана пераехала на пастаяннае жыхарства на 326 чалавек больш, чым выехала, з Арменіі – на 222, Казахстана – на 1918, Кыргызстана – на 136, Малдовы – на 93, Таджыкістана – на 305, Туркменістана – на 186, Узбекістана – на 731, Украіны – на 1633, Грузіі – на 338, Латвіі – на 1052, Літвы – на 242, Эстоніі – на 282 чалавекі. Выключэнне складае Расія. У 1994 г. у Расію з Беларусі выехала на 10 698 чалавек больш, чым прыбыло, у 1995 г. – на 310 чалавек. Значная колькасць беларусаў працягваюць жыць за межамі сваёй краіны. Па няпоўных звестках, у новых дзяржаўных утварэннях, узнікшых на тэрыторыі былога СССР, жыве каля 2,5 млн беларусаў. Большасць з іх знаходзіцца ў суседніх краінах – Расіі, Украіне, Латвіі і Літве.

Новыя палітычныя і сацыяльна-эканамічныя абставіны, пашырэнне працэсаў нацыянальна-культурнага развіцця стымулявалі ўзнікненне ў былых саюзных рэспубліках розных беларускіх зямляцтваў, таварыстваў, суполак, якія пачалі ажыццяўляць прапагандысцкую і культурна-асветную дзейнасць, накіраваную на захаванне беларускай мовы, традыцый, нацыянальнай культуры, умацаванне сувязей з бацькаўшчынай. Найбольшая колькасць іх у Расіі, дзе пражывае 1 млн 200 тыс. беларусаў. У Маскве створаны і дзейнічаюць Таварыства беларускай мовы і літаратуры імя Ф.Скарыны, аб'яднанне беларусаў-вайскоўцаў, згуртаванне "Бацькаўшчына" і інш.

Беларускія культурна-асветныя таварыствы дзейнічаюць у Санкт-Пецярбургу, Новасібірску, Арэнбургу і іншых гарадах. Добра вядомы суполкі "Крыніца" ў Петразаводску, "Бацькаўшчына" ў Рэспубліцы Комі, "Суродзіч" у Рэспубліцы Саха і інш.

На Украіне пражывае 460 тыс. беларусаў, большасць з іх у буйных гарадах — Кіеве, Харкаве і інш. Дзейнічаюць нацыянальна-культурныя таварыствы: "Беларусь" (Кіеў), "Украіна–Беларусь" (Кіеў), "Белая Русь" (Львоў), "Беларускі дом" (Херсон), Таварыства беларускай мовы імя М.Багдановіча (Запарожжа), Беларуская грамада імя Ф.Скарыны (Чарнаўцы). У Львове выдаецца газета "Беларус Галіччыны".

Каля 120 тыс. беларусаў пражывае ў Латвіі. Тут дзейнічаюць таварыствы: беларускай мовы "Прамень" (Рыга), культуры "Світанак" (Рыга), асветнае "Уздым" (Даўгаўпілс) і інш. Значны ўклад у дзейнасць беларускай дыяспары ў Латвіі ўносяць аб'яднанне мастакоў-беларусаў "Маю гонар", беларуская нядзельная школа, беларускі гандлёвы дом у Рызе, газета "Прамень" і інш.

Глыбокія гістарычныя карані мае беларуская дыяспара ў Літве, дзе пражывае 63 тыс. беларусаў. На пачатку 90-х гадоў прапагандысцкую і культурна-асветную дзейнасць вялі Таварыства беларускай культуры, Таварыства беларускай школы, клуб "Сябрына", Каардынацыйная рада беларускіх згуртаванняў і арганізацый, Віленскае беларускае згуртаванне і інш.





Шмат беларусаў пражывае ў краінах Еўропы, Амерыкі, Азіі, Аўстраліі. Значная колькасць грамадзян Беларусі выехала ў краіны гэтых кантынентаў у апошнія гады, аб чым сведчыць табл. 3. (Республика Беларусь в цифрах. 1995. С. 36).

*Табліца 3*

**Колькасць выбыўшых з Беларусі ў краіны далёкага замежжа за перыяд з 1990 па 1995 г.**

| Краіна | Год | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1990 | 1991 | 1992 | 1993 | 1994 | 1995 |
| Ізраіль | 33 085 | 15 146 | 3157 | 2431 | 2952 | 3705 |
| ЗША | 508 | 6191 | 5590 | 3627 | 2826 | 2169 |
| Германія | 95 | 208 | 370 | 464 | 398 | 552 |
| Аўстралія | 62 | 132 | 213 | 57 | 94 | 61 |
| Польшча | 66 | 116 | 152 | 101 | 99 | 147 |
| Канада | 157 | 89 | 97 | 29 | 76 | 37 |
| Усяго: | 34 094 | 22 017 | 9727 | 6901 | 6950 | 8780 |

Асноўнымі прычынамі выезду за мяжу з'явіліся небяспечныя экалагічныя ўмовы жыцця, звязаныя з вынікамі аварыі на Чарнобыльскай АЭС, жаданне значнай часткі яўрэйскага насельніцтва вярнуцца на зямлю сваіх продкаў у Ізраіль, уз'яднацца з суродзічамі, якія выехалі з Беларусі раней, сямейныя абставіны і інш. Усяго за межамі Рэспублікі Беларусь пражывае прыкладна 3–3,5 млн беларусаў. Толькі ў ЗША, па сцвярджэнні даследчыкаў, у розныя часы асела 600–650 тыс. беларусаў. Цяпер там дзейнічаюць разнастайныя эміграцкія арганізацыі і згуртаванні. Сярод іх беларуска-амерыканскі цэнтр у Саўт-Рыверы, грамадскі цэнтр "Полацак" у Кліўлендзе, Беларускі інстытут навукі і мастацтва, згуртаванне беларускай моладзі, Беларуска-амерыканскае згуртаванне і інш. Карыстаюцца папулярнасцю ў эміграцкім асяроддзі газета "Беларус", часопіс "Полацак" і іншыя выданні.

Прыкладна 70 тыс. беларусаў пражывае ў Канадзе. У гэтай краіне дзейнічаюць Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады, згуртаванні беларусаў у Таронта і Квебеку, Беларускі саюз моладзі, Беларускі інстытут навукі і мастацтва, выдаецца газета "Зважай".

Зараз беларусы ЗША і Канады складаюць адзіную паўночна-амерыканскую групу, дзейнасць якой каардынуецца выбіраемым камітэтам. Раз у два гады праходзяць з'езды беларусаў Паўночнай Амерыкі.

У Вялікабрытаніі згуртаванне беларусаў мае свае аддзяленні ў Бірмінгеме, Брэдфордзе, Манчэсцеры. У Лондане існуе англа-беларускае навуковае таварыства, якое выдае часопіс навуковых даследаванняў, а таксама Беларуская бібліятэка і музей імя Ф.Скарыны – галоўны цэнтр беларусазнаўства на Захадзе.

Беларуская дыяспара ў Аўстраліі ажыццяўляе сваю дзейнасць праз федэральную раду беларусаў, беларускае згуртаванне ў Заходняй Аўстраліі, беларускі цэнтральны камітэт у Вікторыі і інш. У Сіднэі працуе беларускі грамадска-культурны клуб.

Беларускія згуртаванні існуюць таксама ў Аргенціне, Бразіліі, Уругваі, Парагваі і іншых краінах Лацінскай Амерыкі.

Ёсць згуртаванні беларусаў і ў краінах Заходняй Еўропы. Існуе праваслаўны прыход у Парыжы, дзейнічае калонія беларусаў у Мюнхене, дзе працуе Беларускі цэнтр па вывучэнні беларускага пытання і выдаецца часопіс "Факел", утвораны Беларускі інстытут культуры і навукі ў Рыме, беларускае аддзяленне на факультэце славістыкі ва універсітэце ў Капенгагене.

Значная колькасць беларусаў пражывае ў суседняй Польшчы. Па звестках афіцыйных колаў, іх налічваецца каля 300 тыс. чалавек.

Найбольш кампактна яны пражываюць на Беласточчыне. Зараз у гэтай краіне дзейнічаюць Беларускі саюз у Польшчы, Беларускае грамадска-культурнае таварыства, Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне – адзіная ў Польшчы палітычная партыя нацыянальнай меншасці.

У апошні час Беларусь стала значна больш увагі надаваць пашырэнню сувязей з суайчыннікамі ў гэтай суседняй краіне. Ажыццяўляецца яна праз дзейнасць грамадскага таварыства "Хатка", літаратурнага аб'яднання "Белавежа", асацыяцыю беларускіх журналістаў, беларускае гістарычнае таварыства і інш. З 1990 г. пачало дзейнічаць Беларускае аб'яднанне студэнтаў. У жніўні 1995 г. адкрыты першы беларускі дзіцячы сад, маюцца беларускія школы. У Польшчы выдаюцца беларуская газета "Ніва", часопіс "Беларускі каляндар" і іншыя, дзейнічаюць беларускі бізнес-клуб, музей у Гайнаўцах і інш.

Важнае месца ў грамадска-культурным жыцці беларускай эміграцыі займае царква. Цэрквы Жыровіцкай Божай Маці, Ефрасінні Полацкай, Святых апосталаў Пятра і Паўла і іншыя дзейнічаюць у ЗША, Англіі, Канадзе, Аўстраліі, буйных гарадах іншых краін. Гэтыя ўстановы беражліва захоўваюць нацыянальныя культурныя традыцыі, вядуць богаслужэнні на беларускай мове, удзельнічаюць у зборы сродкаў і аказанні гуманітарнай дапамогі насельніцтву Беларусі.

Працэсы дэмакратызацыі, нацыянальна-культурнага адраджэння, палітычныя і эканамічныя рэформы, распачатыя пасля 1985 г., пры ўсёй іх непаслядоўнасці, супярэчлівасці стварылі ўмовы для пераасэнсавання праблем дыяспары, фарміравання новай дзяржаўнай палітыкі ў дачыненні да яе. У канцы 80-х гадоў былі зроблены першыя крокі па ўсталяванні сувязей з суродзічамі далёкага замежжа.

Рашучы паварот на дзяржаўным узроўні ў адносінах да беларускага замежжа пачаўся пасля абвяшчэння 27 ліпеня 1990 г. Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР і надання ёй статусу закона ў жніўні 1991 г. У верасні 1990 г. адбыліся першыя непасрэдныя кантакты замежных суродзічаў з кіраўнікамі рэспублікі, зроблены першыя спробы вызначэння сфер супрацоўніцтва.





Ажыццяўленню ўзаемакантактаў з беларускім замежжам спрые дзейнасць Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны. У 1991 і 1992 гг. адбыліся візіты дэпутатаў Вярхоўнага Савета ў ЗША і Францыю па запрашэнні беларускіх нацыянальных арганізацый гэтых краін.

Актыўную дзейнасць разгарнула беларуская эміграцыя і ў сувязі з чарнобыльскай трагедыяй. Былі праведзены шматлікія дабрачынныя акцыі суродзічаў, якія жывуць у ЗША, Канадзе, Англіі, Аўстраліі, іншых краінах, па прыцягненні ўвагі сусветнай грамадскасці да лёсу ахвяр атамнай катастрофы.

Важным накірункам узаемадзеяння з беларускай дыяспарай стаў яе актыўны ўдзел у нацыянальна-культурным адраджэнні.

У студзені 1990 г. у ЗША быў створаны фонд адраджэння Беларусі, ахвяравальнікамі якога сталі суродзічы з розных краін свету. Актывізавала дзейнасць беларускае таварыства "Радзіма", якое ў кастрычніку 1991 г. на сваёй канферэнцыі прыняло рашэнне аб перайменаванні ў Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за мяжой.

Зроблены першыя спробы па азнаямленні грамадскасці з культурнымі набыткамі замежных суродзічаў. У Беларусі неаднаразова выступаў выканаўца беларускіх песень Данчык (Багдан Андрусішын), танцавальны калектыў амерыканскіх беларусаў "Васілёк". Былі праведзены выставы мастакоў беларускага замежжа, сталі друкавацца творы найбольш вядомых у беларускім замежжы літаратараў.

У адпаведнасці з нормамі міжнароднага права паўстала пытанне аб заканадаўчым вызначэнні і абароне правоў беларускіх грамадзян за мяжой. Артыкул 10 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь гарантуе дзяржаўную абарону правоў і законных інтарэсаў грамадзян не толькі на сваёй тэрыторыі, але і за яе межамі.

Ствараюцца спрыяльныя магчымасці дзейснага ўдзелу дыяспары ў гаспадарчым жыцці Беларусі. Гэтаму садзейнічаюць прынятыя Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь законы, накіраваныя на развіццё рыначнай эканомікі, у першую чаргу законы "Аб асновах знешнеэканамічнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь", "Аб замежных інвестыцыях на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь", "Аб прадпрыемствах у Рэспубліцы Беларусь". Яны дазваляюць беларускім эмігрантам пачаць уласны бізнес на бацькаўшчыне, стварыць сумесныя прадпрыемствы, камерцыйныя банкі і г.д.

Асаблівае значэнне ў фарміраванні новай дзяржаўнай палітыкі ў дачыненні да дыяспары мае Закон аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь (1991). Прынцыпова новым у гэтым законе з'яўляецца тое, што беларусы, якія жывуць за межамі рэспублікі, маюць права на набыццё грамадзянства, што пашырае магчымасць выбіраць месца пражывання.

Дадзенае права распаўсюджваецца на тых беларусаў, якія калісьці пастаянна пражывалі на тэрыторыі рэспублікі, але былі прымусова выселены ці выехалі за яе межы да ўвядзення ў дзеянне гэтага закона, а таксама іх нашчадкаў. Палажэнне закона аб тым, што "пражыванне на тэрыторыі іншай дзяржавы само па сабе не вядзе да страты грамадзянства", абараняе правы і законныя інтарэсы грамадзян Беларусі, якія па розных прычынах пастаянна ці часова жывуць за мяжой.

Важным этапам у кансалідацыі беларускай нацыі з'явіўся першы ўстаноўчы Міжнародны кангрэс беларусістаў, які адбыўся ў Мінску 25–27 мая 1991 г. Па выніках работы гэтага форуму прайшоў "круглы стол" на тэму "Беларуская дыяспара".

У чэрвені 1993 г. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў закон "Аб парадку выезду з Рэспублікі Беларусь і ўезду ў Рэспубліку Беларусь грамадзян Рэспублікі Беларусь". Закон у адпаведнасці з прынцыпамі Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і іншымі агульнапрызнанымі міжнародна-прававымі актамі гарантуе забеспячэнне права грамадзяніна Рэспублікі Беларусь свабодна пакідаць сваю краіну і вяртацца ў яе, рэгулюе парадак афармлення дакументаў для выезду за мяжу і ўезд у Рэспубліку Беларусь.

Пытанні забеспячэння суродзічам у краінах пражывання магчымасцей для свабоднага развіцця іх мовы, культуры, выканання рэлігійных абрадаў знайшлі сваё адлюстраванне і ў міжнародных актах – Дэкларацыі аб добрасуседстве, узаемаразуменні і супрацоўніцтве з Рэспублікай Польшча і Дэкларацыі аб прынцыпах добрасуседскіх адносін з Літоўскай Рэспублікай (1991). У дакументах прызнаецца этнічная, культурная і моўная самабытнасць нацыянальных меншасцей (беларускай у Польшчы і Літве і польскай і літоўскай на Беларусі), а таксама іх права свабодна выяўляць гэту самабытнасць без якой-небудзь дыскрымінацыі і ў поўнай адпаведнасці з законамі гэтых дзяржаў.

У верасні 1993 г. было падпісана пагадненне паміж урадамі Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі "Аб працоўнай дзейнасці і сацыяльнай абароне грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія працуюць на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі, і грамадзян Расійскай Федэрацыі, якія працуюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь".

У красавіку 1994 г. было заключана пагадненне паміж Рэспублікай Беларусь і Літоўскай Рэспублікай "Аб гарантыях правоў грамадзян у галіне пенсіённага забеспячэння".

У кастрычніку 1994 г. і сакавіку 1995 г. былі заключаны дагаворы Рэспублікі Беларусь з Латвійскай Рэспублікай і Рэспублікай Польшча "Аб прававой дапамозе і прававых адносінах па грамадзянскіх, сямейных і крымінальных справах".

У чэрвені 1996 г. на першым пасяджэнні міжпарламенцкага схода Расіі і Беларусі была прынята пастанова "Аб статусе грамадзян дзяржаў – членаў Супольніцтва Расіі і Беларусі". Расія і Беларусь у межах





двухбаковага супольніцтва абавязваліся заканадаўча ажыццяўляць гарантыі свабоды перамяшчэння на тэрыторыі сваіх дзяржаў, роўныя правы пры атрыманні адукацыі, ахове здароўя, працаўладкаванні, аплаце працы, сацыяльнай абароне, набыцці маёмасці, страхаванні і г.д.

Усе прынятыя дагаворы і пагадненні з'яўляюцца юрыдычнай асновай новай дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да беларускага замежжа, накіраванай на ўмацаванне яго цесных сувязей з Радзімай, на пашырэнне супрацоўніцтва паміж Рэспублікай Беларусь і дзяржавамі свету.

# ВЫВАДЫ

1. Перабудова ў СССР пад лозунгам "Больш дэмакратыі, больш сацыялізму" не дасягнула сваёй мэты. Яна прывяла да разбурэння адзінай эканамічнай прасторы, разрыву эканамічных сувязей паміж рэгіёнамі, невыканання дагаворных абавязацельстваў, разбалансаванасці спажывецкага рынку, пашырэння карупцыі, злачыннасці і іншых негатыўных з'яў. У канцы 1991 г. быў ліквідаваны Саюз ССР, былыя рэспублікі абвешчаны суверэннымі дзяржавамі. Не стала садружнасці сацыялістычных краін. У свеце стварылася новае геапалітычнае становішча.

2. Забарона дзейнасці КПСС–КПБ і фарміраванне шматпартыйнай сістэмы, развал СССР і стварэнне аморфнай, нежыццяздольнай Садружнасці Незалежных Дзяржаў, правядзенне палітыкі "шокавай тэрапіі" па рэцэптах кіраўнікоў Міжнароднага валютнага фонду, адкрытая капіталізацыя беларускага грамадства па планах заходніх палітолагаў прывялі да самага глыбокага грамадска-палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і маральнага крызісу, разбурэння гаспадаркі, збяднення большасці насельніцтва і ўзбагачэння кучкі "новых беларусаў". Шырокае распаўсюджанне атрымалі забойствы, крадзяжы, насілле, спекуляцыя, прастытуцыя, наркаманія, іншыя крымінальныя і амаральныя з'явы. Энергічныя дзеянні новага кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь па выхаду краіны з крызісу даюць станоўчыя вынікі.

3. На шляху пераходу ад планавай сацыялістычнай гаспадаркі да капіталістычнай рыначнай эканомікі зроблены крокі па стварэнні нарматыўна-прававой базы, рэфарміраванні адносін уласнасці, перабудове грашова-фінансавай сістэмы, рэарганізацыі дзейнасці суб'ектаў гаспадарання. Аднак няхватка энергетычных рэсурсаў, слабая сыравінная база, няпоўная структурная перабудова эканомікі і недахопы ў правядзенні канверсіі, нізкая якасць часткі айчыннай прадукцыі, яе неканкурэнтаздольнасць на сусветным рынку, неплацяжы, зніжэнне пакупніцкай здольнасці насельніцтва, недахопы ў дзяржаўным рэгуляванні эканомікі, безыніцыятыўнасць гаспадарчых кіраўнікоў, іх няздольнасць працаваць ва ўмовах рынку ўскладняюць і замаруджваюць сацыяльна-эканамічнае развіццё

краіны. Патрабуецца навукова абгрунтаваная, эфектыўная эканамічная канцэпцыя і праграма выхаду краіны з крызісу.

4. У 1985–1997 гг. развіваліся адукацыя, навука, друк, літаратура, мастацтва, архітэктура. Шмат было зроблена для распаўсюджвання беларускай мовы ў дзейнасці органаў дзяржаўнай улады і кіравання, грамадскіх аб'яднанняў, навучальных устаноў. Ствараліся гімназіі, ліцэі, каледжы, камерцыйныя ВНУ, удасканальваліся змест і праграмы навучання. Павышаўся ўзровень самасвядомасці беларусаў, іх цікавасць і павага да гісторыі і культуры Бацькаўшчыны. Разам з тым адсутнасць грашовых сродкаў, змяненне прыярытэтаў і каштоўнасцей у грамадстве, іншыя абставіны перашкаджаюць развіццю беларускай нацыянальнай культуры.

5. З абвяшчэннем суверэнітэту Рэспублікі Беларусь прымаліся меры па ўмацаванні яе дзяржаўнасці, вызначэнні месца ў еўрапейскім і сусветным супольніцтве. Кіраўніцтва дзяржавы імкнулася пашырыць рознабаковыя эканамічныя, палітычныя і культурныя сувязі з краінамі блізкага і далёкага замежжа. Рэспубліка Беларусь добраахвотна адмовілася ад ядзернай зброі на сваёй тэрыторыі, прыступіла да скарачэння звычайных узбраенняў, рэарганізацыі Узброеных Сіл. Яна змагаецца за нераспаўсюджанне ядзернай зброі і поўную забарону яе выпрабаванняў, за мір паміж народамі, ліквідацыю вынікаў чарнобыльскай трагедыі з выкарыстаннем уласных сродкаў і прыцягненнем сіл і сродкаў міжнароднага супольніцтва.

6. У 80–90-я гады XX ст. міжнародны капіталізм і антысацыялістычныя сілы ўнутры СССР зрабілі трэцюю спробу (першая была зроблена ў 1917–1920 гг., другая – у 1941–1944 гг.) адхіліць КПСС ад кіраўніцтва савецкім грамадствам, знішчыць савецкі дзяржаўны і грамадскі лад і аднавіць капіталізм. Адметнай рысай гэтага этапа з'яўляецца тое, што антысацыялістычныя сілы звязваюць дасягненне сваіх мэт не з ваеннай інтэрвенцыяй, як гэта было на першым і другім этапах барацьбы з савецкай уладай, а з разлажэннем сацыялізму знутры, з яго ператварэннем у капіталізм дзякуючы дзеянням т. зв. "пятай калоны", чужаземнай агентуры сярод кіраўніцтва КПСС і Савецкай дзяржавы, саюзных рэспублік, а таксама сярод дзеячаў навукі, літаратуры, мастацтва. Новая спроба ператварэння сацыялістычнага грамадства ў капіталістычнае заходнімі стратэгамі звязваецца ў першую чаргу з разбурэннем сферы матэрыяльнай і духоўнай вытворчасці. Аб'ём прамысловай прадукцыі Беларусі, як і іншых краін СНД, за гады т. зв. рыначных рэформ скараціўся больш чым напалову. Зніжэнне вытворчасці на 50 % і больш пагражае суверэнітэту дзяржавы, вядзе да ператварэння яе ў калонію.

7. Гістарычны вопыт сведчыць аб тым, што павярнуць назад кола гісторыі нікому не ўдавалася: зварот да капіталізму ўзору 1917 г. немагчымы, як і немагчымы зварот да сацыялізму ўзору 1985 г. Але чалавецтва павінна ўзяць усё лепшае, што выпрацавалі капіталізм і сацыялізм, і пабудаваць новае грамадства.





# Літаратура

Беларусістыка: Тэматычны зборнік № 21: Палітычныя партыі і грамадска-палітычныя рухі Беларусі. 2-е выд. Мн., 1993.

Основные направления социально-экономического развития Республики Беларусь на 1996–2000 годы. Мн., 1996.

Октябрь 1917 г. и судьбы политической оппозиции: Хрестоматия по истории общественных движений и политических партий: В 3 ч. Гомель, 1993. Ч.3.

*Терешкович П.* Гражданское движение в Белоруссии: Документы и материалы (1986–1991). Мн., 1991.

Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі: Беларусь ад старажытных часоў да нашых дзён: Зб. арт. Мн., 1992.

З гісторыі палітычных партый: Вучэб. дапам. Мн., 1993.

*Лыч Л., Навіцкі У.* Гісторыя культуры Беларусі. Мн., 1996.

Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. Мн., 1995. Ч.2.

*Новік Я.К., Жданко Л.Ю.* Беларусь у перыяд правядзення рэформ: Сучасныя праблемы сацыяльна-эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця (1985–1995 гг.). Мн., 1995.

*Парфянкоў У.Я.* Беларусь у міжнародным супольніцтве (1945–1995 гг.). Мн., 1995.

*Сачанка Б.* Беларуская эміграцыя. Мн., 1991.

Эканамічная гісторыя Беларусі: Вучэб. дапам. для студэнтаў эканамічных спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў. Мн., 1996.

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Мн., 1993. Т. 1; 1994. Т. 2; 1996. Т. 3.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

## Гісторыя Беларусі – невычарпальная крыніца гістарычнага вопыту і духоўнасці

Рускі гісторык акадэмік В.В.Ключэўскі (1841–1911) лічыў, што не трэба думаць, быццам гісторыя нічому не вучыць. Гісторыя вучыць нават тых, хто ў яе не вучыцца; яна іх правучвае за невуцтва і пагарджанне. Сапраўды, веданне свайго мінулага, далёкай і блізкай гісторыі продкаў, гісторыі Айчыны дазваляе народам, дзяржаўным і палітычным дзеячам, органам улады і кіравання вызначаць навукова абгрунтаваныя праграмы палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця краіны, ажыццяўляць дзяржаўнае будаўніцтва, рабіць вывады з памылак, якія былі непазбежнымі на больш ранніх этапах развіцця грамадства.

Гісторыя Беларусі — калектыўная памяць народа, невычарпальная крыніца гістарычнага вопыту і духоўнасці, шлях да пераадолення гістарычнага невуцтва і нацыянальнага нігілізму. Яна з'яўляецца важным сродкам выхавання ў людзей пачуцця патрыятызму, гонару за прыналежнасць да беларускай нацыі, павагі да людзей усіх нацый і народнасцей, любові да сваёй Айчыны. Яна дапамагае выхоўваць лепшыя маральныя якасці чалавека, павышаць яго адукацыйны і культурны ўзровень.

Калектыўная памяць народа, гістарычны вопыт з'яўляюцца багаццем краіны, састаўной часткай яе інтэлектуальнага патэнцыялу і культурных здабыткаў, асновай нацыянальнай самасвядомасці. Без ведання гісторыі кожны народ у цэлым і кожны чалавек паасобку з'яўляюцца бяднейшымі, іх перспектывы руху наперад становяцца праблематычнымі.

Гістарычны вопыт сведчыць пра тое, што народы, якія не ведаюць сваёй гісторыі, не маюць будучыні. Колькі разоў іншаземцы-заваёўнікі знішчалі іх дзяржавы, рабавалі людзей, грабілі матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці, зводзілі на нішто стваральную працу шматлікіх пакаленняў людзей, нашчадкам якіх прыходзілася пачынаць усё спачатку. Калі мы сочым за падзеямі, якія адбываюцца ў многіх дзяржавах былой сацыялістычнай садружнасці, на Балканскім паўвостраве, на Блізкім Усходзе, у Афрыцы, Амерыцы і іншых частках планеты, хочацца адзначыць, што і сёння гісторыя правучвае народы "за невуцтва і пагарджанне" ёю.

Гісторыя Беларусі – гэта летапіс стваральнай працы людзей, іх дасягненняў у матэрыяльнай і духоўнай вытворчасці. Яна сведчыць пра шлях беларускага народа і яго далёкіх продкаў ад каменнай сякеры





да сучаснай вытворчасці з сістэмай машын і механізмаў, сродкамі механізацыі і аўтаматызацыі, інфарматыкі і радыёэлектронікі, ад амаль суцэльнага непісьменства да адной з самых адукаваных, інтэлектуальна багатых нацый у сусветным супольніцтве.

Гісторыя Беларусі – гэта летапіс барацьбы за свабоду і незалежнасць, супраць заваёўнікаў і рабаўнікоў. Па этнічнай тэрыторыі беларусаў прайшлі шматлікія войны, якія прывялі да разбурэнняў, знішчэння матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, рабавання народа. Цяжкія людскія страты нёс беларускі народ. Гісторыі вядомы факты, калі ў часы ваеннага ліхалецця Беларусь недалічвала каля паловы свайго насельніцтва. Толькі ў XX ст. не менш як два дзесяцігоддзі занялі войны і аднаўленне разбуранай імі гаспадаркі. Нашым продкам прыходзілася адраджаць свой край, уздымаць яго з руін і папялішчаў.

Гісторыя Беларусі – гэта летапіс барацьбы за захаванне беларускага этнасу, яго культуры, мовы, побыту, звычаяў і традыцый, за нацыянальна-культурнае адраджэнне, стварэнне і развіццё беларускай дзяржаўнасці. Спробы стварыць суверэнную буржуазную Беларускую Народную Рэспубліку ў 1918 г., суверэнітэт Беларускай ССР пасля ўваходжання яе ў 1922 г. у склад Саюза ССР і поўны суверэнітэт незалежнай Рэспублікі Беларусь сёння – галоўныя вехі станаўлення і развіцця беларускай дзяржаўнасці ў XX ст.

Гісторыя Беларусі — неад'емная частка гісторыі славянскіх народаў, здабытак еўрапейскай і сусветнай цывілізацый.

Завяршаючы вывучэнне курса гісторыі Беларусі, неабходна вызначыць этапы гістарычнага шляху беларускага народа, замацаваць у памяці галоўныя заканамернасці яго руху наперад, зрабіць спробу, выходзячы з гістарычнага вопыту і сучаснага становішча, вызначыць перспектывы развіцця Рэспублікі Беларусь.

## Этапы гістарычнага шляху беларускага народа

На тэрыторыі сучаснай Беларусі чалавек з'явіўся прыкладна 40 тыс. гг. да н.э., у перыяд каменнага веку. У пачатку другой паловы I тысячагоддзя н.э. пачынае фарміравацца раннякласавае грамадства і адбываецца пераход да дзяржаўных аб'яднанняў. З'яўляюцца сацыяльная няроўнасць і грамадскі падзел працы. Узнікаюць гарадскія паселішчы, якія становяцца цэнтрамі рамёстваў, гандлю, культурнага развіцця.

У IX–XI стст. усходнеславянскія землі знаходзіліся ў складзе Старажытнарускай дзяржавы (Кіеўскай Русі) з цэнтрам у г.Кіеве ("Киев – мать городов русских"). Фарміравалася старажытнаруская народнасць, хоць у гістарычнай літаратуры ёсць неабгрунтаванае меркаванне аб тым, што адзінай дзяржавы і народнасці не існавала, што Кіеўская Русь – выдумка гісторыкаў.

XII–XIII стст. – перыяд феадальнай раздробленасці з яе цяжкімі вынікамі. Адасобленыя ўсходнеславянскія землі станавіліся параў-

нальна лёгкай здабычай заваёўнікаў, якія наступалі з захаду (крыжакі) і ўсходу (татара-манголы), што прывяло да рабавання многіх усходнеславянскіх тэрыторый і ўстанаўлення на Русі татара-мангольскага іга працягам 240 гадоў. Беларускія землі не былі падпарадкаваны ўладзе залатаардынскіх ханаў, хоць татара-манголы і прайшлі па поўдню сучаснай Беларусі і абрабавалі гэтыя тэрыторыі. З крыжакамі беларускія княствы вялі доўгую і ўпартую барацьбу.

На працягу больш за стагоддзе, пачынаючы прыкладна з сярэдзіны XIII ст., ішоў працэс утварэння вялікай і магутнай дзяржавы – Вялікага княства Літоўскага, якое ў час свайго росквіту цягнулася ад Балтыйскага да Чорнага мораў, усходняя мяжа праходзіла праз Мажайск (каля Масквы), а заходняя – праз Падляшша (сучасная Польшча). Усе беларускія землі паступова ўвайшлі ў склад гэтай дзяржавы. Узніклі ўмовы для фарміравання беларускай народнасці. Развіваліся феадальныя адносіны, умацоўвалася права ўласнасці феадалаў на зямлю, адбываўся працэс запрыгоньвання сялянства. Узнікалі і развіваліся новыя гарады. На больш высокі ўзровень узнялася беларуская культура. Вялікае княства Літоўскае з'яўлялася поліэтнічнай дзяржавай чатырох асноўных народаў – беларускага, літоўскага, рускага і ўкраінскага. Славяне ў гэтай дзяржаве займалі большасць тэрыторыі і складалі большасць насельніцтва.

У выніку Люблінскай уніі Вялікае княства Літоўскае і Польшча аб'ядналіся і ўтварылі новую дзяржаву – Рэч Паспалітую, якая існавала з 1569 па 1795 г. Беларускія землі праз Вялікае княства Літоўскае (існавала да канца XVIII ст.) уваходзілі ў гэтую дзяржаву. Войны XVII–XVIII стст. Расіі, Польшчы і Швецыі, якія закранулі тэрыторыю Беларусі, былі для яе вельмі жорсткімі, з вялікімі людскімі стратамі і разбурэннямі. Разам з узмацненнем прыгонніцтва ўзмацняўся ўціск на беларусаў і іх культуру; ішоў працэс апалячвання беларускага насельніцтва.

У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай з 1772 г. Усходняя, з 1793 г. – Цэнтральная, а з 1795 г. і Заходняя Беларусь былі далучаны да Расійскай імперыі. Беларусь, як і Расійская імперыя ў цэлым, стала на шлях капіталістычнага развіцця. Закончылася фарміраванне беларускай нацыі. Буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя 1905–1907 гг. пацярпела паражэнне. Першая сусветная вайна 1914–1918 гг. абвастрыла становішча ў Расійскай імперыі.

Адбылася пераможная рэвалюцыя ў лютым 1917 г., якая звергла царызм і ўсталявала двоеўладдзе. Беларускі этнас канцэнтраваўся пераважна ў сельскай мясцовасці, захоўваючы мову, традыцыі, звычаі, а ў гарадах і мястэчках ён слабеў, тут узмацняўся польскі і рускі элемент, значным быў уплыў яўрэяў.

Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г. карэнным чынам змяніла лёс усіх народаў Расійскай імперыі, у тым ліку і беларускага. Пачаўся новы, савецкі перыяд яго гісторыі. Пытанне, па якому шляху ісці Беларусі, як і ўсёй краіне, – па капіталістычнаму ці сацыялістычнаму, вырашылася на карысць апошняга. Шлях будаўніцтва сацыялізму





аказаўся новым, малавядомым, цяжкім. На гэтым шляху, дзякуючы працоўным намаганням народа, Савецкая Беларусь, як і ўся краіна, стварыла магутны вытворча-эканамічны і навукова-тэхнічны патэнцыял, ажыццявіла важныя сацыяльныя праграмы ў інтарэсах народа. На якасна новы ўзровень узнялася культура грамадства.

Нягледзячы на недахопы і памылкі, якія мелі месца ў гады савецкай улады, СССР, у тым ліку і Беларуская ССР, ішоў наперад па шляху, якога прытрымлівалася міжнародная супольнасць. Індустрыялізацыя краіны і стварэнне індустрыяльнага грамадства, калектывізацыя (кааперыраванне) сельскай гаспадаркі і панаванне буйной сельскагаспадарчай вытворчасці, культурная рэвалюцыя і забеспячэнне высокага ўзроўню інтэлектуальнасці і духоўнасці народа – магістральны шлях у будучыню сусветнай цывілізацыі.

Многія з дасягненняў савецкага перыяду гісторыі маюць агульнацывілізаваны характар: дзяржаўнае планаванне, сацыяльная абарона насельніцтва, бясплатная адукацыя і ахова здароўя, пенсіённае забеспячэнне за кошт дзяржавы, арганізацыя адпачынку працоўных, ліквідацыя непісьменнасці і малапісьменнасці насельніцтва, усеагульнае абавязковае навучанне дзяцей школьнага ўзросту, даступнасць дасягненняў культуры для народа, эфектыўная барацьба дзяржавы са злачыннасцю, амаральнымі праявамі і інш.

Разам з тым у беларускай гісторыі шмат трагічных старонак. Яны звязаны з першай сусветнай вайной і акупацыяй большай часткі тэрыторыі Беларусі войскамі кайзераўскай Германіі ў 1915–1918 гг., грамадзянскай вайной і акупацыяй Беларусі войскамі Польшчы ў 1919–1920 гг., Вялікай Айчыннай вайной і нямецка-фашысцкай акупацыяй Беларусі ў 1941–1944 гг. Большая частка матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей была знішчана, людскі патэнцыял, інтэлектуальны ўзровень беларускага народа значна знізіўся. Трагічныя старонкі гісторыі беларускага народа звязаны таксама з культам асобы Сталіна, жорсткай барацьбой з праціўнікамі савецкай улады і крымінальнымі элементамі, у час якой пацярпела шмат зусім невінаватых людзей. І нарэшце, трагізм беларускай гісторыі звязаны з чарнобыльскай катастрофай, якая будзе даваць знаць аб сабе яшчэ доўгі час.

У гады перабудовы (другая палова 80 – пачатак 90-х гадоў) у выніку адсутнасці выразнага ўяўлення аб паслядоўнасці рэфарміравання савецкага грамадства, неабходнасці яго дзяржаўнага рэгулявання адбываўся разрыў эканамічных сувязей паміж рэгіёнамі, прыпынялася дзейнасць дагаворных абавязацельстваў, разбураўся снажывецкі рынак, пашыраліся карупцыя, злачыннасць і іншыя негатыўныя з'явы. Забарона дзейнасці КПСС, развал СССР і стварэнне аморфнай нежыццяздольнай Садружнасці Незалежных Дзяржаў, абвяшчэнне былых рэспублік Савецкага Саюза суверэннымі дзяржавамі, правядзенне палітыкі "шокавай тэрапіі" па рэцэптах кіраўнікоў Міжнароднага валютнага фонду, адкрытая капіталізацыя савецкага грамадства па планах заходніх саветолагаў прывялі да самага глыбокага грамадска-палітычнага і сацыяльна-эканамічнага крызісу,

скарачэння амаль напалову прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці, кровапраліцця ў шэрагу рэгіёнаў былой вялікай і магутнай дзяржавы, зніжэння жыццёвага ўзроўню большасці працоўных і ўзбагачэння кучкі дзялкоў, крымінальных элементаў. Слабыя энергетычныя рэсурсы, невялікая сыравінная база Беларусі ўскладняюць працэс сацыяльна-эканамічнага развіцця. Нягледзячы на энергічныя намаганні новага кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь, сітуацыя да лепшага змяняецца павольна і амаль непрыкметна для народа.

Якія перспектывы развіцця Рэспублікі Беларусь?

## Грамадска-палітычнае становішча і перспектывы развіцця Рэспублікі Беларусь

У палітычным спектры Рэспублікі Беларусь яскрава выдзяляюцца тры асноўныя накірункі. Першы з іх — *праварадыкальны, буржуазны*. Яго асноўнымі мэтамі з'яўляюцца буржуазная рэстаўрацыя, пераўтварэнне сацыялістычнага ладу ў капіталістычны, адмаўленне ўсіх здабыткаў апошніх дзесяцігоддзяў, спробы павярнуць кола гісторыі назад, у 1917 г. Але слоў "капіталістычная рэстаўрацыя", "буржуазнае адраджэнне" ў праграмах праварадыкальных партый і рухаў няма. Чаму? Таму што капіталізм як грамадска-палітычная сістэма ўжо даўно дыскрэдытаваны падзеямі апошніх стагоддзяў: дзве сусветныя вайны на сумленні капіталізму, каланіялізм, разбой і аграбленне народаў Азіі, Афрыкі, Акіяніі і Лацінскай Амерыкі, эксплуатацыя сваіх уласных народаў і г.д. Таму ідэолагі і палітыкі капіталістычных краін прыкладна з 20–30-х гадоў XX ст. адмовіліся ад тэрміна "капіталізм" і капіталістычнае грамадства сталі называць "грамадствам усеагульнага росквіту", "грамадствам роўных магчымасцей", а сёння яго называюць "дэмакратычным грамадствам", "грамадзянскім грамадствам", "грамадствам заходняй дэмакратыі", "грамадствам з рынычнай эканомікай" і г.д. Прыхільнікі праварадыкальнай палітычнай арыентацыі словамі і выразамі "дэмакратыя", "свабода", "правы чалавека", "прыватная ўласнасць", "прававая дзяржава", "рыначная эканоміка", "інтэграцыя ў сусветную супольнасць", "далучэнне да агульначалавечых каштоўнасцей" і іншымі прыкрываюць сваю адданасць капіталістычнаму выбару, а таксама свае дзеянні капіталістычна-рэстаўрацыйнага характару.

Другі накірунак у палітычным спектры — *левbooрадыкальны, сацыялістычны*. Яго галоўнымі мэтамі з'яўляюцца аднаўленне савецкай улады і сацыялістычнага грамадства, спробы павярнуць кола гісторыі назад, да канца 80 — пачатку 90-х гадоў XX ст. Але сацыялізм як грамадска-палітычная сістэма сёння таксама дыскрэдытаваны памылкамі і злачынствамі, якія былі здзейснены кіраўнікамі КПСС і Савецкай дзяржавы, здрадай М.Гарбачова, Палітбюро і Сакратарыята ЦК КПСС, многіх мясцовых кіраўнікоў, а таксама магутнай антысацыялістычнай прапагандысцкай кампаніяй, якая праводзіцца ў апошняе дзесяцігоддзе не толькі на Захадзе, але і ў дзяржавах СНД і іншых былых сацыялістычных краінах.





На выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за кандыдата камуністаў галасавала толькі каля 5 % выбаршчыкаў.

Такім чынам, і праварадыкальны (буржуазны) і леварадыкальны (сацыялістычны) палітычныя накірункі сёння дыскрэдытаваны. І за правымі і за левымі партыямі і рухамі Беларусі ідзе меншасць насельніцтва.

Трэці накірунак развіцця грамадства, які заключае ў сабе ўсё лепшае, што выпрацавалі капіталізм і сацыялізм, — гэта *рыначны сацыялізм*. Якія лепшыя здабыткі капіталізму можа ўключыць у сябе рыначны сацыялізм? Гэта — элементы самарэгулявання ў рыначнай эканоміцы, высокая арганізацыя вытворчасці з арыентацыяй на канчатковы вынік, дысцыпліна працы, высокая прадукцыйнасць працы, паваротлівасць і мабільнасць у галіне навукова-тэхнічнага прагрэсу, выкананне буйных дзяржаўных праграм сацыяльна-эканамічнага развіцця і г.д.

Здабыткі сацыялізму — элементы сацыяльна-эканамічнай прадказальнасці ў планавай эканоміцы, дзяржаўнае кіраўніцтва выкананнем буйных сацыяльна-эканамічных праграм (гэта запазычана капіталізмам у сацыялістычных краінах і названа там "дзяржаўным рэгуляваннем"), навукова-тэхнічны прагрэс у вядучых галінах (космас, абаронная прамысловасць і г.д.), стабільнасць грамадства і ўпэўненасць людзей у заўтрашнім дні, моцная сацыяльная палітыка ў інтарэсах большасці народа – права і абавязак працаваць (адсутнасць беспрацоўя), адукацыя, ахова здароўя, пенсіённае забеспячэнне, жыллё, камунальныя паслугі і г.д., разумная і адказная культурная палітыка — дзяржаўнае фінансаванне і кіраўніцтва развіццём навукі, літаратуры, музыкі, тэатра, выяўленчага мастацтва і г.д., недапушчальнасць прапаганды культу грошай (нажывы), насілля, садызму, спекуляцыі на чалавечых слабасцях, амаральнасці.

Па шляху рыначнага сацыялізму сёння не ідзе ні адна краіна свету, калі не лічыць спроб, якія ў свой час зрабілі сацыял-дэмакраты Швецыі, Галандыі, Францыі, Германіі і іншых краін. У канцы 80-х гадоў канцэпцыю рыначнага сацыялізму распрацоўваў і абараняў на сесіях Вярхоўнага Савета СССР, у друку і сродках масавай інфармацыі Савет Міністраў СССР на чале з М.І.Рыжковым. Але прыхільнікі капіталістычнай рэстаўрацыі, аднаўлення "дзікага капіталізму" не прынялі гэту канцэпцыю, а таксама ўрад, які яе абараняў.

Ідэя трэцяга шляху развіцця грамадства, пабудовы рыначнага сацыялізму, адсутнічае ў праграмах цэнтрысцкіх партый і рухаў Беларусі. У апошніх ёсць фразеалогія і правых і левых партый і рухаў. Яны хітруюць, лаўчацца, хаваюць свае сапраўдныя палітычныя мэты. Людзі бачаць гэта і не хочуць звязваць з імі свае надзеі на будучыню.

Якім шляхам пойдзе развіццё беларускага грамадства — пакажа будучае, дзень заўтрашні.

# ЗМЕСТ

## РАЗДЗЕЛ X

### БЕЛАРУСЬ У ПЕРЫЯД ПРАВЯДЗЕННЯ РЭФОРМ: САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ, ПАЛІТЫЧНАЕ І КУЛЬТУРНАЕ РАЗВІЦЦЁ. ЗАМЕЖНЫЯ СУВЯЗІ. БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА (1985–1997)



